АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ,
ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

---

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### КНІГА 2



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1987

# МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН




Заскавічы
Маркава
Трапалава
Лебедзева
Насілава
МАЛАДЗЕЧНА
Мясата
Раёўка
Цюрлі
Пекары
Гарадзілава
Хажова
Відзеўшчына
Краснае
Гарнякі
Граніцы
Палачаны
Кліманты
Хоўхлава
Радашковічы
Гарадок
Аляхновічы
Валодзькі
Пятроўшчына
Дубрава

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

**Культавая архітэктура**

**Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні**

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVII. МАЛАДЗЕЧНА

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Уша. За 73 км на паўночны захад ад Мінска. Вузел чыгуначных ліній на Мінск (электрыфікавана), Вільнюс, Полацк, Ліду. Аўтамабільнымі дарогамі звязана з Мінскам, Вільнюсам, Нараччу. Аэрапорт. У 1987 г.— 87,1 тыс. жыхароў.

Упершыню ўпамінаецца 16.12.1388 г. у прысяжным лісце ноўгарад-северскага князя Дзмітрыя Альгердавіча Карыбута Вялікаму князю Літоўскаму. Уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. З 1413 г. у Віленскім ваяводстве. Як прыватнаўласніцкі двор і горад належала Заслаўскім, Мсціслаўскім, Сангушкам, Рагозам, Радзівілам, Агінскім, Тышкевічам і інш. Горад неаднойчы быў спустошаны ў час набегаў іншаземцаў (1511, 1519, 1533 гг.) і ў Лівонскую вайну (1567 г.). У Маладзечне ў 1567 г. адбываліся папярэднія перагаворы прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага і Польшчы аб умовах Люблінскай уніі 1569 г. Да 17 ст. горад меў каля 3 тыс. жыхароў і ўваходзіў у лік 20 буйнейшых гарадоў на Беларусі. У Паўночную вайну 1700—21 гг. захоплены шведскімі войскамі (1708 г.). У 1757 г. атрымаў прывілей на гандаль. З 1793 г. у складзе Расіі, мястэчка, валасны цэнтр Вілейскага павета, да 1840 г. у Мінскай, потым Віленскай губернях. У Айчынную вайну 1812 г. на р. Уша, каля горада, разгромлены ар'ергард французскіх войск маршала Віктора, якія адступалі на захад пасля паражэння на Бярэзіне.

У 1811 г. у палацы Агінскіх было адкрыта шляхецкае пяцікласнае павятовае вучылішча. Пасля Айчыннай вайны 1812 г. вучылішча перавялі ў будынак былога кляштара, на яго аснове ў 1832 г. адкрыта прагімназія, якая дзейнічала да 1857 г. У кастрычніку 1864 г. адкрыта Маладзечанская настаўніцкая семінарыя, у 1915 г. пераведзена ў Смаленск. Жыхары Маладзечна актыўна ўдзельнічалі ў паўстаннях 1830—31 гг. і 1863—64 гг. У 1873 г. праз Маладзечна пракладзена Лібава-Роменская чыгунка. У 1898 г. пачалі працаваць рэктыфікацыйны завод, некалькі дробных прадпрыемстваў па перапрацоўцы мясцовай сыравіны. У пачатку 20 ст. у Маладзечне 2393 жыхары, 6 прадпрыемстваў. Існавала мясцовая арганізацыя РСДРП. Пад яе кіраўніцтвам рабочыя станцыі Маладзечна прымалі ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. была паралізавана работа ўсяго вузла.

У 1-ю сусветную вайну горад аказаўся ў прыфрантавой палосе. Тут дыслацыраваліся часці 10-й арміі, размяшчаўся яе штаб, выдавалася армейская газета «Бюллетень военно-революционного комитета 10-й армии». У сакавіку 1917 г. створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена 7(20).11.1917 г. Працаваў часовы выканаўчы камітэт Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 18.2—18.12.1918 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з ліпеня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— войскамі буржуазна-памешчыцкай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр павета Віленскага ваяводства. Дзейнічалі падпольныя райкомы КПЗБ, КСМЗБ, арганізацыі Беларускай сялянска-рабочай грамады і Таварыства беларускай школы. У 1925, 1935, 1936 гг. адбыліся забастоўкі рабочых.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР з 15.1.1940 г. цэнтр раёна Вілейскай вобл. У 1940 г. адкрыта педагагічнае вучылішча, працавалі 3 бібліятэкі, 2 клубы, бальніца, 2 аптэкі, гарпрамкамбінат.

У Вялікую Айчынную вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія стварылі тут лагер смерці, загубілі больш за 33 тыс. чалавек. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (4.12.1943 г.— 28.6. 1944 г.) і ЛКСМБ (4.12.1943 г.— 5.7. 1944 г.), партызанскія брыгады «За Радзіму», «За Савецкую Беларусь», імя С. М. Будзённага, 2-я імя А. В. Суворава, імя М. В. Фрунзе, «Штурмавая», атрады імя Р. І. Катоўскага, «Мсцівец», партызанская спецгрупа «Знішчальнік». Вызвалена Маладзечна войскамі 3-га Беларускага фронту і партызанамі. 13 вайсковым злучэнням і часцям нададзена ганаровае найменне «Маладзечанскіх».

З 1944 г. цэнтр вобласці, з 1960 г. цэнтр раёна ў Мінскай вобл. У 1947—55 гг. працаваў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут.

Горад узнік на дрыгвяністым беразе Ушы. Гістарычная частка Маладзечна — паўночна-ўсходні раён (цяпер пл. Свабоды). У 15—18 стагоддзях пры зліцці Маладачанкі з Ушой быў пабудаваны замак, абнесены драўля-



**XVII.** *Забудова праспекта Леніна.*



**XVII.** *Будынак улікова-планавага тэхнікума.*

ными сценамі з вуглавымі вежамі. Замчышча было ўмацавана землянымі валамі і ровам. Ва ўсходняй частцы замкавага дзядзінца стаялі мураваны палац, драўляныя гаспадарчыя і жылыя пабудовы. У 17 ст. замак умацаваны бастыёнамі галандскага тыпу, пабудавана уніяцкая царква (не захавалася). Як ваенна-феадальнае ўмацаванне замак праіснаваў да канца 17 ст. Разбураны ў 1886 г. Ад былых умацаванняў захаваліся рэшткі валоў, падмуркаў і сцен падвалаў палаца.

У 1623 г. у горадзе 8 вуліц, якія радыяльна сыходзіліся да цэнтра — гандлёвай плошчы (цяпер пл. Свабоды), забудаванай аднапавярховымі драўлянымі дамамі. У 1867—71 гг. пабудавана мураваная Пакроўская царква. Галоўнымі магістралямі з'яўляліся вуліцы Замкавая (цяпер Горкага), якая вяла ад замка да плошчы, і Віленская (цяпер Савецкая). У 18 ст. пабудаваны касцёл (згарэў у 1823 г.), манастыр антытрынітарыяў. Хуткія тэмпы развіцця набірае Маладзечна пасля будаўніцтва ўчастка Лібава-Роменскай чыгункі. У пачатку 1870-х гадоў тут узведзены драўляны вакзал (не захаваўся; мураваны будынак пастаўлены ў 1907 г.). У канцы 19 — пачатку 20 ст. фарміраваліся жылыя масівы ўздоўж вуліц Вілейскай, Віленскай, Гарадоцкай, Мінскай, Шведскай.

Паводле генпланаў 1949 г. і 1965 г. (інстытут «Белдзяржпраект») і карэкціроўкі іх у 1983 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) фарміруецца прамавугольная сетка вуліц. Асноўнымі планіровачнымі восямі з'яўляюцца пр. Леніна і вул. Савецкая. Праспект гістарычна склаўся як частка аўтамабільнай дарогі на Вільнюс. Яго архітэктурна-прасторавае вырашэнне заснавана на спалучэнні жылой забудовы з будынкамі грамадскага і прамысловага прызначэння. Асноўная жылая забудова склалася ў цэнтральнай частцы горада ўздоўж пр. Леніна, вуліц Прытыцкага, Савецкай, Жданава, Кірава, Маркава, Хмяльніцкага. Тэрыторыя горада планіровачна падзелена на 4 раёны: Паўночны, Усходні, Заходні, Паўднёвы. Сядзібная забудова развіваецца ва ўсходнім напрамку. Кампазіцыйным цэнтрам планіровачнай структуры горада з'яўляецца пл. Леніна, да якой прымыкаюць вуліцы Прытыцкага і Савецкая. Архітэктурны ансамбль плошчы фарміруюць будынкі палітэхнікума, гаркома і райкома КПБ, уліkова-планавага тэхнікума, універмага, помнік У. І. Леніну. На галоўнай магістралі — праспекце Леніна — чатырнаццаціпавярховы будынак гасцініцы «Маладзечна», цэнтральная бібліятэка, паліклініка, школа, магазіны. На вул. Прытыцкага аддзяленне Дзярж-



**XVII.** *Гасцініца «Маладзечна».*

банка, пошта-тэлеграф, кінатэатр, Дом быту і інш. Забудова цэнтральнай часткі горада двух- і дзевяціпавярховая. Прывакзальная плошча сфарміравана будынкамі чыгуначнага і аўтавакзалаў, Дома культуры чыгуначнікаў.

Блізкасць горада да Мінска, добрая транспартная сувязь, наяўнасць свабодных тэрыторый і працоўных рэсурсаў служаць асновай развіцця ў горадзе шматгаліновай прамысловасці. Яна сканцэнтравана пераважна ў заходнім і ўсходнім планіровачных раёнах.

Асноўныя галіны прамысловасці: машынабудаванне (заводы станкабудаўнічы, сілавых паўправаднікoвых вентыляў); металаапрацоўка (заводы лёгкіх металаканструкцый, металавырабаў, парашковай металургіі); лёгкая (фабрыка мастацкіх вырабаў, філіялы мінскіх вытворчых аб'яднанняў абутковага «Прамень» і швейнага «Камсамолка»); харчовая (мясакамбінат, хлебакамбінат, плодакансервавы камбінат, малаказавод, піўзавод, кандытарская фабрыка); будаўнічых матэрыялаў (заводы жалезабетонных вырабаў, жалезабетонных канструкцый); дрэваапрацоўчая (фабрыкі мэблевая Мінскага вытворчага мэблевага аб'яднання і музычных інструментаў). Працуе камбінат надомнай працы, друкарня «Перамога», прадпрыемствы электрасетак. У горадзе аддзяленне Беларускага навукова-даследчага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў Дзяржплана БССР, праектныя майстэрні інстытута «Мінскграмадзянпраект», гарадскі інфармацыйна-вылічальны цэнтр дзяржаўнага статыстычнага ўпраўлення БССР, заходняя экспедыцыя глыбокага бурэння. Працуюць палітэхнікум, уліkова-планавы тэхнікум, музычнае, 3 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 11 сярэдніх, вячэрняя, завочная школы, 2 спецшколы-інтэрнаты, дзіцячыя мастацкая і музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, студыя выяўленчага мастацтва, Дом фізкультуры «Маладосць», Палац піянераў і школьнікаў, станцыя юнага тэхніка, 32 дашкольныя ўстановы, 55 бібліятэк, 3 Дамы культуры, 6 клубаў, 2 кінатэатры, Мінскі абласны краязнаўчы музей, філіял Дзяржаўнага архіва Мінскай вобл., 3 бальніцы, 5 паліклінік. Выдаецца раённая газета «Святло камунізму».

Помнікі: У. І. Леніну; Героям Савецкага Саюза А. І. Валынцу, Ф. Р. Маркаву; мемарыяльны комплекс у гонар вызваліцеляў; у гонар войск 3-га Беларускага фронту; на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан, партыйных і савецкіх работнікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; ахвярам фашызму; у гонар перамогі рускіх войск у Айчыннай вайне 1812 г.

Месца адпачынку — гарадскія паркі, прыгарадная лесапаркавая зона, рака Уша з вадасховішчам.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971; яго ж. Повязь часоў.— Мн., 1985; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Булдов Г. Е. Молодечно: Этапы развития.— Строительство и архитектура Белоруссии. 1982. № 3; Ляшковіч В. А. Найдаражэйшы скарб.— Мн., 1985.

*Г. А. Каханоўскі, А. М. Кулагін.*

**1605. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Пл. Леніна, 1. Цяпер тут палітэхнікум. Пабудаваны ў 1959 г. з цэглы (архіт. А. Воінаў і Я. Печкін).

Асіметрычны ў плане трохпавярховы будынак. Бакавыя крылы яго разыходзяцца пад вуглом. Цэнтральная частка арыентавана на галоўную магістраль горада — пр. Леніна і з'яўляецца дамінантай плошчы. Галоўны фасад вылучаны рызалітам і манументальным стылізаваным дарычным порцікам з 8 папарна згрупаваных калон. Тымпан франтона ўпрыгожваюць ляпны картуш з выявамі дзяржаўнага герба БССР і сцягоў. Рызаліт фланкіраваны 2 парамі трохчвэрцевых калон. Сцены раўнамерна члянёны пілястрамі, апяразаны спрошчаным антабламентам з масіўным парапетам. Планіроўка будынка калідорная. Цэнтральную частку першага паверха па ўсёй шырыні займае вестыбюль.

Будынак — помнік савецкай грамадзянскай архітэктуры. *У. В. Алісейчык.*

**1606. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН, ПАРТЫЙНЫХ І САВЕЦКІХ РАБОТНІКАЎ** (гіст.). Вул. Калініна, у скверы. Пахаваны 383 воіны, партызаны, партый-

ныя і савецкія работнікі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 31-й стралковай дывізіі 11-й гвардзейскай арміі, 25-й танкавай брыгады 5-й гвардзейскай танкавай арміі, 8-й і 9-й гвардзейскіх механізаваных брыгад, 32-й кавалерыйскай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і іншых вайсковых часцей, партызаны брыгады «Народныя мсціўцы», якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях пры вызваленні Маладзечна і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталях. Пахаваны таксама: Іван Данілавіч Тамілін (нарадзіўся ў 1896 г.), член КПСС з 1919 г., першы сакратар Маладзечанскага райкома КП(б)Б, загублены фашыстамі 25.6. 1941 г., Антон Лявонавіч Яўпак — сакратар Маладзечанскага райкома ЛКСМБ, С. В. Марыганаў — супрацоўнік раённага аддзела КДБ, В. А. Бакунова і Н. В. Барзянкова — супрацоўніцы раённага фінаддзела, забітыя ворагамі Савецкай улады ў 1947—49 гг.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1607. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва З а м ч ы ш ч а. На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, на правым беразе р. Уша. Размешчана на штучна насыпанай прамавугольнай пляцоўцы памерам 180×120 м, вышыня над балотам 4 м. Па краях пляцоўка ўмацавана валам вышынёй да 3,5 м, па вуглах захаваліся квадратныя выступы ад бастыёнаў. Уезд на гарадзішча з заходняга боку (да яго ввядзе пракладзеная па балоце грэбля). Вядома з сярэдзіны 19 ст., даследаваў у 1973 г. і 1981 г. М. А. Ткачоў. Знойдзена кераміка 15—17 стагоддзяў, тэракотавая і паліўная паліхромная кафля, дахоўка, жалезныя нажы, шпоры, ключы, акоўка рыдлёўкі і інш., абломкі шкляных пасудзін і аконнага шкла. Ускрыты фундаменты і рэшткі сцен мураванага палаца памерам 16,2×14,8 м, узведзенага ў 16 ст. (перабудаваны ў канцы 17 ст.). На поўдзень ад гарадзішча за р. Уша выяўлены рэшткі драўляных канструкцый, якія, відаць, маюць адносіны да маладзечанскага «двара», вядомага па пісьмовых крыніцах канца 14 ст.



**1606.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан, партыйных і савецкіх работнікаў.*

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; я г о ж. Работы экспедиции Гродненского университета.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Я. Г. Звяруга.*

**1608. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км ад горада, злева ад аўтамабільнай дарогі Маладзечна — Вілейка. Пахаваны 600 мірных грамадзян, у т. л. старыя, жанчыны, дзеці, а таксама дэпутат гарсавета І. Л. Нехвядовіч, савецкія актывісты Ф. Л. Ганецкі, І. Бубен і інш., расстраляныя ў канцы 1941 г. і кастрычніку 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1609. МАГІЛА ВАЛЫНЦА** Андрэя Іванавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Вілейшчыне ў Вялікую Айчынную вайну Герой Савецкага Саюза А. І. Валынец нарадзіўся 6.1.1904 г. у в. Жаўткі Вілейскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1934 г. Распаўсюджваў нелегальную літаратуру, праводзіў сходы і мітынгі, удзельнічаў у сутычках з паліцыяй. У 1935—39 гг. зняволены ў Віленскую турму. Пасля ўз'яднання (1939 г.) Заходняй Беларусі з БССР працаваў дырэктарам торфапрадпрыемства на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну стварыў у Куранецкім, Смаргонскім, Маладзечанскім р-нах сетку антыфашысцкіх падпольных арганізацый, вясной 1942 г.— дыверсійную групу, якая да верасня 1943 г. налічвала каля 300 байцоў. У кастрычніку 1943 г. група была пераўтворана ў партызанскі атрад «За Савецкую Беларусь» (з чэрвеня 1944 г. брыгада; камандзір А. І. Валынец). Асабіста пусціў пад адхон 9 чыгуначных эшалонаў, узарваў 18 аўтамашын ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вайны на партыйнай і савецкай рабоце ў Вілейцы і Маладзечне. Памёр 30.3.1965 г. Яго імем названы вуліцы ў Маладзечне і Вілейцы, у 1977 г. у Маладзечне ўстаноўлены бюст (гл. артыкул № 1623 «Помнік Валынцу Андрэю Іванавічу»).

У 1967 г. устаноўлена надмагілле.

*Літ.:* Люди Нарочанского края.— Мн., 1975; В о т к о в и ч Г. Б., К о р о т к е в и ч В. В. Пусть помнят все.— Мн., 1979. *Г. Б. Ватковіч.*

**1610. МАГІЛА МАРКАВА** Фёдара Рыгоравіча (гіст.). На могілках.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Вілейскай вобл. у Вялікую Айчынную




**1605.** *Адміністрацыйны будынак.*



**1605.** *Адміністрацыйны будынак. План 1-га паверха.*



1608. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

вайну, Герой Савецкага Саюза Ф. Р. Маркаў нарадзіўся 11.12.1913 г. у в. Качанішкі Швянчонскага р-на Літоўскай ССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1934 г. У 1948 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б). У рэвалюцыйны рух уключыўся ў час вучобы ў настаўніцкай семінарыі ў Свянцянах (1927—29 гг.). У 1932 г. уступіў у КСМЗБ. Працаваць настаўнікам не дазволілі як «нядобранадзейнаму». З 1934 г. сакратар падпольных Свянцянскага райкома, з 1936 г.— Свянцянска-Браслаўскага акруговага камітэта КПЗБ. 4 разы быў арыштаваны. У 1936 г. зняволены ў Бяроза-Картузскі канцлагер, у 1937—39 гг.— у віленскую турму. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў верасні 1939 г. Ф. Р. Маркаў член Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу Заходняй Беларусі, старшыня Свянцянскага гарсавета, з канца 1940 г. намеснік старшыні Вілейскага аблвыканкома.

У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на фронце, палітрук роты. У жніўні 1941 г. па рашэнню ЦК КП(б)Б быў адкліканы з арміі і накіраваны ў тыл ворага; з верасня 1941 г. камандзір спецгрупы, з мая 1942 г.— партызанскага атрада імя А. В. Суворава. З лістапада 1942 г. камандзір партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава, з красавіка 1943 г. адначасова начальнік ваенна-аператыўнага аддзела партызанскага злучэння Вілейскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў з 1944 намеснік старшыні Вілейскага, Маладзечанскага аблвыканкомаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1940—58 гг. Памёр Ф. Р. Маркаў 14.1.1958 г. У Маладзечне яго імем названы вуліца і парк, устаноўлены бюст (гл. артыкул № 1627 «Помнік Маркаву Фёдару Рыгоравічу»), яго імя прысвоена саўгасу ў Шаркоўшчынскім р-не Віцебскай вобл.

У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам (скульпт. З. Азгур; чорны лабрадарыт, бронза).

*Літ.:* Люди Нарочанского края.— Мн., 1975; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979.

*Г. Б. Ватковіч.*

**1611. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Горкага, 19, на адміністрацыйным будынку станкабудаўнічага завода. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці ахвяр лагера смерці, які знаходзіўся на тэрыторыі завода ў 1941—44 гг.

**1612. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Горкага, 19, на былым лагерным бараку. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці савецкіх ваеннапалонных, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Маладзечанскім лагеры смерці.

**1613. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1974 г.

З восені 1943 г. і да ліпеня 1944 г. у горадзе дзейнічала дыверсійна-разведвальная група Д. Я. Гярновіча («Марака»), якая трымала сувязь з партызанскай брыгадай імя В. П. Чкалава. Амаль усе падпольшчыкі працавалі ў паравозным дэпо і на станцыі. Яны збіралі звесткі пра колькасць цягнікоў, што ішлі праз Маладзечна, характар іх грузаў, змініравалі 20 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага. 9 з іх падарваліся ў раёне станцыі Маладзечна, астатнія — па дарозе на Мінск і Крулеўшчыну. Былі праведзены дыверсіі ў паравозным дэпо, чыгуначных майстэрнях.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971.

*В. Б. Караткевіч.*

**1614. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАМІЛІНУ** Івану Данілавічу (гіст.). Пл. Леніна, на будынку райкома і гаркома КПБ. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці першага сакратара Маладзечанскага райкома КП(б)Б І. Д. Таміліна (нарадзіўся ў 1896 г.), расстралянага ў чэрвені 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**1615. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАЎЛАЮ** Валянціну Паўлавічу (гіст.). Вул. Рэвалюцыйная, 67, на будынку гасцініцы, дзе ў 1934 г. знаходзіўся пад следствам В. П. Таўлай, арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы.

Беларускі савецкі паэт, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі В. П. Таўлай (літаратурныя псеўданімы Янка Дванаццаты, Паўлюк Сірата, В. Тарскі; партыйныя мянушкі Васіль, Якімчык, Канстанцін і інш.) нарадзіўся 26.1.1914 г. у г. Баранавічы ў сям'і чыгуначніка. Член КПЗБ з 1932 г. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, Віленскай беларускай гімназіі. У 1929 г. арыштаваны. У 1930 г. камуністычным падполлем накіраваны ў БССР, працаваў у газеце «Звязда», вучыўся ў БДУ. У 1932 г. адкліканы ЦК КПЗБ для падпольнай работы ў Заходняй Беларусі. Член цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ у Варшаве, адзін з фактычных рэдактараў легальнага неафіцыйнага органа КПЗБ «Беларуская газета» (Вільня) і яе дадатка «Літаратурная старонка». Адзін з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў — рэвалюцыйнай арганізацыі пісьменнікаў Заходняй Беларусі. У 1934 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы і засуджаны на 8 гадоў. У верасні 1939 г. вызвалены Чырвонай Арміяй з гродзенскай турмы. У 1939—41 гг. супрацоўнік лідскай раённай газеты «Уперад». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. У 1944—45 гг. адказны сакратар навагрудскай раённай газеты «Звязда», у 1945—47 гг. старшы навуковы супрацоўнік і намеснік дырэктара Літаратурнага музея Я. Купалы.

Друкаваўся з 1928 г. У аснове творчасці лёс рэвалюцыянера, партызана, духоўная роднасць з народам. Першы зборнік «Выбранае» (1947 г.). Аўтар публіцыстычных, літаратурна-крытыч-




1610. *Помнік на магіле Ф. Р. Маркава.*

ных артыкулаў, нарысаў, прысвечаных творчасці Я. Купалы, П. Пестрака, Я. Брыля. Перакладаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча, І. Крылова. У 1951 г. і 1958 г. выдадзены «Выбраныя творы», у 1961 г.— «Творы», у 1967 г. [«Выбраныя вершы і паэмы»].

Памёр В. Б. Таўлай 27.4.1947 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Яго імем названы вуліцы ў Баранавічах, Лідзе, Маладзечне, Слоніме (і завулак), у вёсках Ганькі, Жыровічы Слонімскага р-на; яго імя прысвоена бібліятэкам у Баранавічах і Лідзе.

*Літ.:* Валянцін Таўлай: Дакументы, успаміны, артыкулы.— Мн., 1984.

**1616. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВАЕННА-РЭВАЛЮЦЫЙНАГА КАМІТЭТА І САВЕТА ДЭПУТАТАЎ 10-й АРМІІ** (гіст.). Вул. Прытыцкага, 1. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, дзе размяшчаўся ВРК і Савет дэпутатаў 10-й арміі.

У 1-ю сусветную вайну 10-я армія, у якую ўваходзілі 1-ы Сібірскі, 2-і Каўказскі, 3-і і 38-ы армейскія карпусы, займала цэнтральны ўчастак Заходняга фронту. Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. у палкавых, дывізійных, карпусных і армейскіх салдацкіх камітэтах было засілле меншавікоў і эсэраў. 25.10(7.11). 1917 г. згодніцкі армейскі камітэт 10-й арміі паслаў Часоваму ўраду тэлеграму аб падтрымцы. Для абмеркавання становішча, якое склалася ў выніку рэвалюцыі, армейскі камітэт 10-й арміі правёў 27—30 кастрычніка (9—12 лістапада) у Маладзечне нараду прадстаўнікоў палкавых, дывізійных і карпусных камітэтаў. На ёй прысутнічалі 50 бальшавікоў, 100 эсэраў і меншавікоў, апошнія выступілі супраць прызнання Савецкай улады і СНК. Бальшавікі пакінулі нараду, ад імя 35 салдацкіх камітэтаў звярнуліся да ўсіх салдат 10-й арміі з заклікам падтрымаць Савецкую ўладу, садзейнічаць хутчэйшаму скліканню з'езда арміі. Салдаты падтрымалі бальшавікоў — пачалі перавыбары салдацкіх камітэтаў, выбары дэлегатаў на 3-і армейскі з'езд.

7(20).11.1917 г. у Маладзечне адкрыўся 3-і з'езд 10-й арміі. Пры выбранні прэзідыума за спіс бальшавікоў галасавалі 326 чалавек, за меншавікоў і эсэраў — 183. З дакладам пра бягучы момант выступіў 9(22) лістапада старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) А. Ф. Мяснікоў. Дэлегаты патрабавалі распусціць контррэвалюцыйны «камітэт ратавання» і стары згодніцкі армейскі камітэт. Былі абвешчаны салдацкія наказы аб прызнанні Савецкай улады і СНК. Большасцю галасоў з'езд прыняў рэзалюцыю бальшавікоў у падтрымку Савецкай улады і горача вітаў яе першыя дэкрэты, выбраў новы армейскі камітэт пераважна з бальшавікоў, які ўтварыў ВРК 10-й арміі на чале з салдатам-бальшавіком В. І. Яркіным. Пры ВРК была створана спецыяльная камісія для арганізацыі атрадаў Чырвонай гвардыі. 15(28) лістапада ВРК выдаў загад аб умацаванні дысцыпліны і ваеннага парадку ў арміі, 19.11(2.12). 1917 г. звярнуўся з прапановай да 12-й нямецкай арміі пачаць перагаворы аб міры.

20.12.1917 г. (2.1.1918 г.) пры армейскім камітэце 10-й арміі адкрылася 1-я надзвычайная армейская канферэнцыя РСДРП(б), дзе быў выбраны новы камітэт. 5(18).1.1918 г. ВРК 10-й арміі перайменаваў армейскі камітэт у Савет дэпутатаў 10-й арміі і скасаваў ВРК, яго функцыі перайшлі да прэзідыума Савета дэпутатаў 10-й арміі. Савет у сувязі з дэмабілізацыяй старой арміі вёў актыўную работу па стварэнню рэвалюцыйных атрадаў. У лютым 1918 г. звярнуўся да ўсіх салдат і мясцовых сялян з заклікам запісвацца ў добраахвотную сацыялістычную армію.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1957; Гапоненко Л. Солдатские массы Западного фронта в борьбе за власть Советов (1917).— [М.], 1953; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.
*В. Б. Караткевіч.*

**1617. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МАЛАДЗЕЧАНСКАГА САВЕТА САЛДАЦКІХ І СЯЛЯНСКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Плошча Свабоды, 4. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку філіяла абутковага аб'яднання «Прамень», дзе размяшчаўся Савет.

Савецкая ўлада ў Маладзечне ўстаноўлена 7(20).11.1917 г. На сходзе чыгуначнікаў 16(29) лістапада было прынята рашэнне аб падтрымцы Савета Народных Камісараў. Улада ў горадзе перайшла ў рукі раённага камітэта РСДРП(б) на чале з В. Ф. Шаранговічам. Камітэт працаваў у цесным кантакце з ваенна-рэвалюцыйным камітэтам 10-й арміі.

6(19).12.1917 г. агульны сход дэлегатаў часцей Маладзечанскага гарнізона і прадстаўнікоў валаснай земскай управы арганізаваў часовы выканаўчы камітэт Савета салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Старшыня — салдат 10-й арміі П. Лебедзеў, намеснік — М. Шчарбакоў, сакратар — А. Майсееў. Маладзечанскую міліцыю ўзначальваў салдат Сабаткоўскі.

Выканком Савета для аховы рэвалюцыйнага парадку і барацьбы з контррэвалюцыяй пачаў стварэнне атрада Чырвонай гвардыі, выдаў загад аб ахове грамадзян і іх маёмасці, аб забароне самавольнай высечкі лесу. У вёсках, якія знаходзіліся ў прыфрантавой паласе, выканком стварыў Саветы сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў. Маладзечанскі Савет дзейнічаў да акупацыі горада германскімі войскамі 18.2.1918 г.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1957; КахаНоўскі Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971.
*В. Б. Караткевіч.*



1618. *Мемарыяльны знак у гонар 60-годдзя ўтварэння СССР.*

**1618. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК У ГОНАР 60-ГОДДЗЯ ЎТВАРЭННЯ СССР** (гіст.). На пл. Леніна. Камень-валун з 5 дошкамі, на якіх кароткія звесткі з гісторыі горада, устаноўлены ў 1983 г.

**1619. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст., маст.). У парку.

5.7.1944 г. войскі 3-га Беларускага фронту пад камандаваннем генерала арміі І. Д. Чарняхоўскага з удзелам партызан брыгад імя М. В. Фрунзе, «За Савецкую Беларусь» у выніку жорсткіх баёў вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1982 г. у гонар вызваліцеляў узведзены мемарыяльны комплекс (скульпт. А. Засліцкі і І. Глебаў, архіт. Ю. Белановіч, Ю. Казакоў; бронза, медзь, бетон, ракушачнік, граніт; вышыня абеліскаў 25 м, даўжыня сценак 35 м). Архітэктурна-скульптурны комплекс размешчаны па цэнтральнай восі галоўнай алеі парку. Дамінантай з'яўляюцца 2 бетонныя абеліскі, злучаныя ўверсе пяціканцовай зоркай і стужкай з чырвонай медзі. Да абеліскаў, якія ўвасабляюць ідэю перамогі, вядуць своеасаблівыя прапілеі — архітэктурныя сценкі з бронзавымі барэльефамі, што адлюстроўваюць эпізоды баёў за горад; шырокая парадная лесвіца пракладзена да вечнага агню, на мемарыяльных дошках назвы вайсковых часцей і злучэнняў, якім нададзена ганаровае найменне «Маладзечанскіх», і партызанскіх фарміраванняў.

*Г. М. Новікава, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1619.** *Мемарыяльны комплекс у гонар вызваліцеляў.*

**1620. НАСТАЎНІЦКАЯ СЕМІНАРЫЯ** (архіт., гіст.). Вул. Горкага, 21. Пабудавана ў 1762 г. з цэглы для манастыра антытрынітарыяў. У 2-й палове 19 ст. прыбудавана царква са званіцай (не захавалася). Цяпер тут медыцынская ўстанова.

Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, з бакавымі рызалітамі, вуглы якіх раскрапаваны лапаткамі. Аконныя праёмы прамавугольныя з простым плоскім абрамленнем з замковымі камянямі. Памяшканні першага паверха перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. На другім паверсе перакрыцці плоскія, бэлечныя. Планіроўка анфіладная.

Будынак настаўніцкай семінарыі — помнік архітэктуры позняга барока.

Мемарыяльная дошка ў гонар былых навучэнцаў семінарыі. Устаноўлена ў 1984 г.

Настаўніцкая семінарыя заснавана 25.6.1864 г. на базе шляхецкага пяцікласнага павятовага вучылішча. Адкрыта 8.11.1864 г. Рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. Адным з заснавальнікаў семінарыі быў археолаг, педагог, краязнавец М. П. Авенарыус; сярод выкладчыкаў беларускія этнографы, фалькларысты і гісторыкі М. Я. Нікіфароўскі, Ю. Ф. Крачкоўскі, А. В. Ярушэвіч. Тэрмін навучання быў спачатку 2, потым 4 гады. Вывучалі закон божы, гісторыю праваслаўнай царквы, заалогію, батаніку, арыфметыку, геаметрыю, царкоўна-славянскую і рускую мовы, літаратуру, методыку выкладання, дыдактыку, псіхалогію і інш. Пры семінарыі было ўзорнае народнае вучылішча, дзе семінарысты праходзілі практыку.



**1620.** *Будынак былой настаўніцкай семінарыі.*

У верасні 1906 г. у семінарыі адбылася забастоўка, да якой далучыліся навучэнцы яшчэ трох семінарый Віленскай вучэбнай акругі. Семінарыю мусілі пакінуць дырэктар і найбольш ненавісны настаўнік. Пасля гэтых падзей семінарысты арганізавалі ў Маладзечне з'езд прадстаўнікоў Маладзечанскай, Свіслацкай, Полацкай, Нясвіжскай і Панявежыскай настаўніцкіх семінарый, на якім абмяркоўваліся палітычныя і вучэбныя пытанні. Актыўныя ўдзельнікі з'езда былі арыштаваны і аддадзены пад суд. У 1-ю сусветную вайну семінарыя

эвакуіравана ў Смаленск (1915 г.), дзе існавала да 1920 г. Семінарыю скончылі больш як 2 тыс. чалавек. Сярод іх — пісьменнік Міхась Чарот, героі Грамадзянскай вайны І. А. Біч, П. М. Шаранговіч, удзельнік 3 рэвалюцый генерал-маёр Л. С. Калядка, камбрыг А. І. Міхалёнак, нарком фінансаў БССР І. Ф. Кудзелька, дзеячы рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Ф. І. Валынец, А. Р. Капуцкі, П. В. Мятла, С. А. Рак-Міхайлоўскі, герой руска-турэцкай вайны 1877—78 гг. К. В. Хруцкі і інш. Семінарыя мела вялікую бібліятэку, у 1910 г. пры ёй адкрыўся музей. У 1905—11 гг. існаваў тэатр, дзе ставілі п'есы А. Чэхава, А. Астроўскага, М. Гогаля і інш.

*Літ.:* Я р у ш е в и ч А. Молодечно и его учебные заведения. К пятидесятилетию Молодечненской учительской семинарии. 1864—1914.— Вильна, 1914; К а х а н о ў с к і Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971.

*У. В. Алісейчык, В. Б. Караткевіч.*

**1621. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На пл. Свабоды. Пабудавана ў 1867—71 гг. з цэглы.

Храм чатырохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: двух'ярусная шатровая званіца (васьмярык на чацверыку), прамавугольны бабінец, квадратны ў плане асноўны аб'ём і пяцігранная апсіда з бакавымі прыбудовамі. Над асноўным аб'ёмам васьміграины светлавы барабан з шатровым верхам, які, як і шацёр званіцы, завершаны макаўкай. Фасады члянёны арачнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі ў ліштвах. Арачныя праёмы і нішы васьмерыка званіцы і барабана асноўнага аб'ёму завершаны кілепадобнымі абрамленнямі. Плоскасці сцен крапаваны вуглавымі лапаткамі, завершаны прафіляванымі карнізамі. Унутраная прастора падзелена 6 слупамі на 3 нефы.



1621. *Пакроўская царква.*



1623. *Помнік А. І. Валынцу.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1622. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Горкага, каля дома № 19.

У ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі на тэрыторыі сучаснага станкабудаўнічага завода канцэнтрацыйны лагер (шталаг № 342), у якім пастаянна было зняволена каля 33 тыс. савецкіх ваеннапалонных, а на працягу 1943—44 гг. і мірных жыхароў. Тэрыторыя лагера была абнесена калючым дротам. Баракі не ацяпляліся. Вязняў кармілі раз у суткі. Людзі гінулі ад голаду, эпідэмій, здзекаў. Закатаваных вязняў звозілі ў ямы. Да чэрвеня 1944 г. гітлераўцы загубілі ў лагеры 33 150 савецкіх грамадзян.

У 1982 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлена стэла. На адміністрацыйным будынку завода і на былым лагерным бараку ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*В. Б. Караткевіч.*

**1623. ПОМНІК ВАЛЫНЦУ** Андрэю Іванавічу (маст.). На вул. Валынца, пры перасячэнні яе з вул. Б. Хмяльніцкага. Пастаўлены ў 1977 г. (скульпт. І. Глебаў, А. Заспіцкі, архіт. Ю. Казакоў, Ю. Беланові; мармур, сілумін; вышыня бюста 1 м, пастамента 3,3 м).



1621. *Пакроўская царква. План.*

Бюст Героя Савецкага Саюза А. І. Валынца ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным шэрым паліраваным мармурам. У шырока выпрастаных плячах, павароце галавы, дакладных рысах твару — рашучасць і цвёрдасць. Выразнасць і пластычнасць форм падкрэсліваюць унутраную дынаміку вобраза. Светлы тон бюста кантрастуе з колерам пастамента. На франтальнай плоскасці пастамента выява пяціканцовай зоркі і надпіс: «Герой Савецкага Саюза Валынец Андрэй Іванавіч». Перад помнікам пляцоўка, выкладзеная шэрымі бетоннымі плітамі. Гл. таксама артыкул № 1609 «Магіла Валынца Андрэя Іванавіча». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1624. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Леніна, перад будынкам палітэхнікума. Устаноўлены ў 1958 г. (скульпт. З. Азгур, архіт. А. Страчай; бронза, граніт; агульная вышыня 6,25 м, скульптуры — 4,75 м). Вырашаны ў традыцыях савецкай манументальнай скульптуры 1950-х гадоў, вызначаецца выразнасцю сілуэта і стараннай прапрацоўкай дэталей. Беражліва перададзены партрэтныя рысы правадыра. Стрыманыя пластычныя формы надаюць скульптуры велічнасць і ўрачыстасць. Яе кампазіцыйнай будове адпавядае расшыраны ўніз п'едэстал з чорнага граніту. Гарызанталі выцягнутых лесвічных прыступак звязваюць манумент з ун-



1627. *Помнік Ф. Р. Маркаву.*

**1624.** *Помнік У. І. Леніну.*

роўнем плошчы. Абапал высаджаны блакітныя елкі. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1625. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Завулак Я. Коласа, каля будынка сярэдняй школы № 9. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**1626. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Б. Хмяльніцкага, каля будынка сярэдняй школы № 10. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**1627. ПОМНІК МАРКАВУ** Фёдару Рыгоравічу (маст.). На вул. Маркава. Пастаўлены ў 1959 г. (скульпт. З. Азгур; бронза, граніт; вышыня бюста 1,9 м, пастамента 2 м).

Партрэтная паўфігура аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну Ф. Р. Маркава ўстаноўлена на прамавугольным гранітным пастаменце, які нібы вырастае з гранітнай глыбы. На франтальным баку пастамента выява Залатой Зоркі і надпіс: «Герой Савецкага Саюза Ф. Р. Маркаў». Вобразнае вырашэнне скульптуры ўрачыстае і рамантычна-прыўзнятае. Ф. Р. Маркаў паказаны ў накінутым на плячо шынялі, са скрыжаванымі на грудзях рукамі, левая сціскае лаўровую галінку. У ходарлявым твары з высокім ілбом, у засяроджаным позірку, цвёрдай лініі губ перададзены высакародны характар і моцная воля героя. Узбуйненыя формы скульптуры дакладныя і паўнаважкія, лепка выразная. Гл. таксама артыкул № 1610 «Магіла Маркава Фёдара Рыгоравіча». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1628. ПОМНІК У ГОНАР ВОЙСК 3-га БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). На Прывакзальнай пл. У гонар войск 3-га Беларускага фронту, якія 5.7. 1944 г. вызвалілі Маладзечна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**1629. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРАМОГІ РУСКІХ ВОЙСК У АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ 1812 г.** (гіст.). На вул. Горкага.

Пасля катастрофы на Бярэзіне войскі Напалеона працягвалі адступаць да Нёмана. Руская армія праследавала французаў, навязвала ім шматлікія сутычкі. У Маладзечне часова была размешчана галоўная кватэра Напалеона. Тут, у замку князя Ф. К. Агінскага, ён прадыктаваў 29-ы бюлетэнь, дзе спрабаваў растлумачыць няўдачы французаў у Расіі. Атрады А. П. Ярмолава, Чапліца, казакі М. І. Платава падышлі да Маладзечна і 22.11.1812 г. разбілі атрад французскай арміі. Было захоплена ў палон каля 2500 салдат і афіцэраў, 24 гарматы. Напалеон уцёк з Маладзечна, 24 лістапада кінуў у Смаргоні рэшткі войск і тайна падаўся ў Парыж.

У 1977 г. у гонар перамогі рускіх войск у Айчыннай вайне 1812 г. уста-



**1629.** *Помнік у гонар перамогі рускіх войск у Айчыннай вайне 1812 г.*



1630. *Будынак чыгуначнага вакзала.*




1630. *Будынак чыгуначнага вакзала. План.*

ноўлены памятны знак: гранітны валун з дошкай, на якой інфармацыйны надпіс.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**1630. ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ** (архіт.). Вул. Вакзальная, 1. Змураваны ў 1907 г. на месцы драўлянай пабудовы 1873 г.

Будынак аднапавярховы, сіметрычны. Цэнтральная і бакавыя часткі галоўнага фасада вылучаны рызалітамі, члянёны пілястрамі і завершаны крывалінейнымі шчытамі. Высокія арачныя аконныя праёмы ў прафіляваным абрамленні. Прасценкі апрацаваны лапаткамі. Цокальная частка будынка крапавана філёнгамі. У вырашэнні тарцовых фасадаў выкарыстаны тыя ж кампазіцыйныя прыёмы і элементы пластыкі, што і ў франтальных. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка падпарадкавана функцыянальнаму прызначэнню. Цэнтральную частку займае фае з тамбурамі, у бакавых — службовыя памяшканні. У правым крыле знаходзіцца зала чакання, у левым — рэстаран.

Будынак вакзала — помнік архітэктуры стылю «мадэрн» з выкарыстаннем ордэрнай пластыкі. *У. В. Алісейчык.*

**в. Аляхновічы, цэнтр сельсавета**

**1631. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙЦАМ** (гіст.). На будынку чыгуначнай станцыі. Устаноўлена ў 1977 г. У канцы верасня 1917 г. 5-ю батарэю, 6-ы і 7-ы пяхотныя палкі 2-й Сібірскай дывізіі як палітычна ненадзейныя камандаванне царскай арміі зняло з перадавой і перакінула на станцыі Аляхновічы і Заслаўе.

Вестку аб перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі салдаты сустрэлі з захапленнем. На шматлюдным мітынгу салдаты 5-й батарэі аб'явілі сябе чырвонагвардзейцамі і вырашылі прасіць ВРК Заходняга фронту ўключыць іх у атрады Чырвонай гвардыі. Для барацьбы з контррэвалюцыяй у Мінску ў першыя дні лістапада 1917 г. быў сфарміраваны зводны чырвонагвардзейскі атрад з салдат 5-й батарэі, батальёна пяхоты і кулямётнай роты 2-й Сібірскай дывізіі. Начальнікам атрада прызначаны Р. І. Берзін, палітруком артылерыі — старшыня салдацкага камітэта 2-га артылерыйскага дывізіёна В. П. Федасееў. Атрад увайшоў у склад 1-га Мінскага рэвалюцыйнага атрада, удзельнічаў у разбраенні эшалонаў «дзікай» дывізіі на станцыі Крывічы.

*Літ.:* В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957; Ляшковіч В. А. Найдаражэйшы скарб.— Мн., 1985. *В. Б. Караткевіч.*

**1632. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельскага Савета, за чыгункай. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1958 г. пастаўлена стэла.

**в. Асавец, Красненскі сельсавет**

**1633. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На сядзібе дома № 51.

20.10.1943 г. у 6 гадзін раніцы нямецка-фашысцкія карнікі ачапілі вёску, усіх жыхароў сагналі да царквы і па спісе пачалі допыт пра партызан. Але людзі маўчалі. Нічога не далі і катаванні. Раз'юшаныя гітлераўцы мужчын расстралялі, жанчын загналі ў хлеў. Туды ж загадалі звезці трупы забітых і падпалілі. Загінулі 20 чалавек, вёска была спалена.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Белева, Гарадоцкі сельсавет**

**1634. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Злева ад дарогі Гарадок — Маладзечна, насупраць аўтобуснага прыпынку. Пахаваны камандзір Чырвонай Арміі і 2 савецкія лётчыкі, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле ўстаноўлены гранітны валун.

**в. Беніца, Лебедзеўскі сельсавет**

**1635. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ І БРАМА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудаваны ў 1701—04 гг. з цэглы як храм кляштара бернардзінцаў.

Касцёл двухвежавы, крыжападобны ў плане, з пяціграннай апсідай і кароткімі крыламі трансепта. Над сяродкрыжжам купал на васьмігранным светлавым барабане, увенчаны гранёнай шатровай вежай. Галоўны (заходні) фасад фланкіраваны трох'яруснымі квадратнымі ў плане вежамі. Ніжнія ярусы вежаў размешчаны на ўзроўні сцен касцёла і аб'яднаны з імі агульным прафіляваным карнізам. Верхнія ярусы злучаны крывалінейным франтонам. Тарцы трансепта завершаны франтонамі, тымпаны якіх прарэзаны строенымі арачнымі вокнамі і круглымі люкарнамі. Сцены члянёны пілястрамі і лучковымі вокнамі, у прасценках стылізаваныя выявы вінаградных гронак. Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. Алтар, крылы трансепта і бабінец адкрываюцца ў цэнтральную залу арачнымі праёмамі. Над уваходам — хоры на 2 калонах.




1635. *Троіцкі касцёл. План.*

Брама ўваходзіла ў агароджу, якая часткова захавалася з заходняга боку касцёла. Размешчана па восі ўвахода. Уяўляе сабой кампазіцыю з 4 слупоў з закругленымі вугламі. Сярэднія слупы звязаны крывалінейным франтонам, ствараюць цэнтральны праезд. Бакавыя часткі брамы глухія, крапаваны плоскімі арачнымі нішамі крывалінейнага абрысу.

Касцёл і брама — помнікі архітэктуры барока. *У. В. Алісейчык.*

**1636. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1886 г. з бутавага каменю.

Кампактны прамавугольны ў плане будынак пад двухсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай на васьміграпным барабане. Вось сіметрыі галоўнага фасада вылучана прамавугольным уваходным праёмам, паўкруглай і круглай люкарнамі над ім. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна чляпёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Бутавая муроўка стварае маляўнічы фон сцен. Элементы архітэктурнага дэкору (абрамленні праёмаў, вуглавыя лапаткі, карнізы) атынкаваны і пабелены. Ва ўнутранай прасторы тонкімі перагародкамі вылучаны тамбур, алтарнае і бакавыя памяшканні.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**пас. Беразінскі, Гарадзілаўскі сельсавет**

**1637. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Васькаўцы, Гарадоцкі сельсавет**

**1638. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, сярод поля. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 2,5—5 м. Займае ўсходнюю частку марэннай грады, выцягнутай з захаду на ўсход. Пляцоўка амаль круглая, памерам 60×55 м, паніжаецца на 3 м з захаду на ўсход і на 1,5 м ад цэнтра на поўдзень. З заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1 м. Абследаваў у 1974 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



**1636.** *Царква. План.*

**в. Відзеўшчына, Красненскі сельсавет**

**1639. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС НАРОДНАЙ СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з будынкамі канторы саўгаса «Прагрэс». Узведзены ў 1980 г. на ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выкананы мясцовымі мастакамі. Кампазіцыйна складаецца з устаноўленых на ўзвышшы драўляных скульптур: дзяўчынкі, якая прыціскае да грудзей ляльку, устрывожанай маці з дзіцем, старога бацькі, што ўручае зброю сыну-салдату, партызана, юнака і дзяўчыны. На самым высокім месцы — драўляная шматфігурная стэла з імёнамі загінуўшых аднавяскоўцаў. Каля падножжа стэлы дошка з надпісам-прысвячэннем.

**в. Выверы, Мясоцкі сельсавет**

**1640. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Захавалася 7 магіл з пастаўленымі вертыкальна ці пакладзенымі гарызантальна каменнымі плітамі. На адной з іх нерасшыфраваныя надпісы (літары, лічбы), а таксама знакі (страла, падвойная дуга і інш.). Вядомы з канца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**1641. ПОМНІК У ГОНАР КАМУНАРАЎ** (гіст.). Перад будынкам сярэдняй школы.

Выверская камуна была заснавана ў 1918 г. У яе стварэнні прымаў удзел член Маладзечанскага рэўкома П. Е. Гулевіч, які ўваходзіў у праўленне камуны. Сярод камунараў былі браты Дз. Р. і Т. Р. Раманоўскія, А. В. Бярнацкі, П. І. Кісель (першы старшыня), В. І. Акуліцкі і інш. Яны збіралі ўраджай у нацыяналізаваных маёнтках Тучына, Ізабеліна, Лешна, здавалі яго Чырвонай Арміі. Камуна існавала да акупацыі тэрыторыі войскамі буржуазнай Польшчы.

У 1979 г. у гонар выверскіх камунараў пастаўлены мемарыяльны знак — гранітны валун з надпісам-прысвячэннем. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Вязынка, Радашковіцкі сельсавет**

**1642. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1642а.** Гарадзішча-1. Мясцовая назва Замэчак. За 250 м на паўднёвы ўсход ад будынка філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы. Займае пагорак на левым беразе р. Вязынка. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 2,5—3,5 м. Пляцоўка авальная, памерам 60×50 м. Паўночны, усходні і паўднёвы схілы стромкія, заходні — пакаты. У 1952 г. абследаваў К. М. Палікарповіч, правёў раскопкі на плошчы 284 м² А. Р. Мітрафанаў. Даследаваны абарончыя збудаванні. Выяўлены рэшткі доўгіх наземных жытлаў слупавой канструкцыі, знойдзены абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, жалезныя нажы, сярпы, шылы, гліняныя праслiцы, грузікі дзякоўскага тыпу. Датуецца 2—5 ст., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

**1642б.** Гарадзішча-2. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 3,5—8 м. Пляцоўка авальная, памерам 45×35 м. У паўднёва-заходняй частцы яна паніжаецца на 2—15 м. Схілы, за выключэннем паўднёвага, даволі стромкія. З паўночнага і паўночна-заходняга бакоў, за 1,5—2 м ад пляцоўкі тэраса шырынёй 3—4 м. Выявіў у 1954 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камяні. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

Літ.: Митрофанов А. Г. Городище в Вязынке.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Г. Звяруга.*

**1643. КУПАЛАЎСКІ МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗАПАВЕДНІК «ВЯЗЫНКА»** (гіст., маст.). За 38 км ад Мінска, 8 км ад шашы Мінск — Маладзечна, 40 км ад Маладзечна. Створаны паводле пастановы СМ БССР ад 5.4. 1972 г. на радзіме Я. Купалы. Цэнтр — в. Вязынка. Адкрыты 10.7.1972 г. да 90-годдзя з дня нараджэння паэта. Агульная плошча 21 га.

Класік беларускай літаратуры, заснавальнік разам з Я. Коласам новай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы, народны паэт БССР (1925 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.), АН УССР (1929 г.) Янка Купала (літаратурныя псеўданімы: Янук Купала, Марка Бяздольны, Купальскі Я., «Левы», Вайдэлота, Янук з-пад Мінска, Здарэнец, Ня-Гутнік і інш.; сапраўднае Луцэвіч Іван Дамінікавіч) нарадзіўся 25.6. 1882 г. у былым фальварку Вязынка ў сям'і арандатара. Дзяцінства прайшло на розных хутарах Барысаўскага і Мінскага паветаў. Вучыўся ў вандроўных настаўнікаў, Сенненскім народным вучылішчы, Мінскай прыватнай падрыхтоўчай школе. У 1898 г. скончыў Бяларуцкае народнае вучылішча. У 1909—13 гг. вучыўся ў Пецярбургу на агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева, у 1915 г.— у народным універсітэце А. Л. Шаняўскага ў Маскве. З 1902 г. працаваў на гаспадарцы, потым хатнім настаўнікам, пісарам у судовага следчага ў Радашковічах, малодшым прыказчыкам, практыкантам, памочнікам віна-



1643. *Хата, у якой нарадзіўся Я. Купала.*

кура на броварах у памешчыцкіх маёнтках. У 1908 г. працаваў у Вільні бібліятэкарам у бібліятэцы «Веды» Б. Л. Даніловіча, супрацоўнічаў у беларускай газеце «Наша ніва». З 1913 г. супрацоўнік «Беларускага выдавецкага таварыства», рэдактар «Нашай нівы» (1914—15 гг.) у Вільні. У 1916 г. прызваны ў армію. Служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін у Мінску, Полацку, Смаленску. З 1919 г. у Мінску. Вёў актыўную работу па стварэнню БДУ, АН БССР, нацыянальнага тэатра, рэспубліканскіх выдавецтваў. Удзельнічаў у літаратурна-грамадскім і культурна-мастацкім жыцці рэспублікі. У Вялікую Айчынную вайну ў Маскве, з сярэдзіны лістапада 1941 г. да сярэдзіны чэрвеня 1942 г. жыў і працаваў у с. Пячышчы каля Казані (на доме, дзе жыў, у 1950 г. устаноўлена мемарыяльная дошка, у былой кватэры адкрыты музей). Потым пераехаў у Маскву.

Пісаць пачаў на польскай мове. Першы вядомы верш на беларускай мове — «Мая доля» (нап. 1904 г.). 15.5.1905 г. у мінскай газеце «Северо-Западный край» упершыню надрукаваны верш паэта «Мужык». У 1908 г. у Пецярбургу выдадзены першы зборнік «Жалейка». Аўтар зборнікаў «Гусляр» (1910 г.), «Шляхам жыцця» (1913 г.), паэм «Адвечная песня» (1910 г.), «Курган», «Сон на кургане» (абедзве апублікаваны ў 1912 г.), «Бандароўна» (1913 г.), «Яна і я» і «Магіла льва» (апублікаваны ў 1920 г.). Для дакастрычніцкай творчасці паэта характэрны рэвалюцыйны пафас, адлюстраванне жыцця і побыту беларускага селяніна-працаўніка, яго мары і веры ў лепшую будучыню. Творчасць паэта пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — гэта мастацкі летапіс барацьбы беларускага народа за перамогу сацыялізма, услаўленне савецкага ладу жыцця (зборнікі паэзіі «Спадчына», 1922 г., «Безназоўнае», 1925 г.). Аўтар зборнікаў «Апавяданні вершам» (кнігі 1—2, 1926 г.), «Адцвітанне» (1930 г.), «Песня будаўніцтву» (1936 г.), «Беларусі ардэнаноснай» (1937 г.), паэм «Безназоўнае» (1924 г.). Паэма «Над ракой Арэсай» (1933 г.) аб эканамічных і культурных зменах, што адбыліся на Беларусі і аб новым лёсе беларускага Палесся. Памяці Т. Р. Шаўчэнкі прысвечана паэма «Тарасова доля» (1939 г.). Плённым у творчасці Я. Купалы быў «ляўкоўскі перыяд», калі паэт у 1935—40 гг. працаваў у Ляўках (Аршанскі р-н). У 1940 г. выйшаў зборнік «Ад сэрца» (Дзяржаўная прэмія СССР 1941 г.). Творчасць Я. Купалы гадоў Вялікай Айчыннай вайны прасякнута палымяным заклікам да барацьбы з чужынцамі, верай у перамогу над ворагам («Беларускім партызанам», «Зноў будзем шчасце мецъ і волю» і інш.).

Аўтар неўміручай камедыі «Паўлінка» (нап. 1912 г., пастаўлена Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні ў 1913 г., БДТ у 1920 г., БДТ-2 у 1936 г.), у якой высмейваюцца дамастроеўскія асновы жыцця засцянковай шляхты, духоўнае ўбоства прадстаўнікоў старога свету, паказаны носьбіты новых поглядаў, перадавыя людзі дарэвалюцыйнай беларускай вёскі. Цяжкі лёс беларускага беззямельнага сялянства, пошукі ім шляхоў да лепшай будучыні адлюстраваны ў драме «Раскіданае гняздо» (нап. 1913 г., пастаўлена Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі ў Мінску ў 1917 г., БДТ у 1921 г., Беларускім тэатрам імя Я. Коласа ў 1951 г.). Вадэвільнымі элементамі насычаны сцэнічны жарт «Прымакі» (нап. 1913 г., пастаўлены БДТ-2 у 1936 г., Беларускім тэатрам імя Я. Купалы ў 1944 г.).

Вядомы і як публіцыст. Яго артыкулы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» і «Вера і нацыянальнасць» (абодва 1914 г.) і інш. спрыялі абуджэнню нацыянальнага самаўсведамлення народных мас Беларусі. Публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы савецкага часу садзейнічалі ідэйна-мастацкаму росту беларускай савецкай літаратуры («Выконваць ускладзеныя пралетарыятам задачы», 1933 г., «Створым літаратуру, лепшую ў свеце», 1934 г., і інш.). Асабліва актыўная публіцыстыка паэта ў Вялікую Айчынную вайну: «Кліч



1643. *Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка». Сажалка.*

**1643.** *Помнік Янку Купалу.*

да беларускага народа» (1942 г.), «Не будзе беларус рабом нямецкіх баронаў» (1941 г.), «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» (1942 г.) і інш. Пераклаў на бел. мову «Слова аб палку Ігаравым» (празаічны пераклад 1919 г., вершаваны — 1921 г.), «Інтэрнацыянал» (1921 г.), лібрэта оперы С. Манюшкі «Галька», паэму А. Пушкіна «Медны коннік», паасобныя вершы Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, М. Някрасава, І. Крылова. Творы Я. Купалы перакладзены на многія мовы народаў СССР і замежныя мовы, больш за 200 музычных твораў напісана на яго вершы. Выдадзены Зборы твораў у 6 тамах (1925—32 гг., 1952—54 гг., 1961—63 гг.) і ў 7 тамах (1972—76 гг.). Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1927—29 гг., член ЦВК БССР у 1929—31 гг., 1935—38 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г.

Памёр Я. Купала 28.6.1942 г. у Маскве.

Урна з прахам паэта ў 1962 г. перавезена ў Мінск і пахавана на Вайсковых могілках.

У 1959—65 гг. прысуджалася Літаратурная прэмія імя Я. Купалы, з 1966 г.— Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы (за лепшыя творы паэзіі і драматургіі). Імем паэта названы Інстытут літаратуры АН БССР, Беларускі акадэмічны драматычны тэатр у Мінску, школы, калгасы і саўгасы, вуліцы, бібліятэкі, у т. л. вуліца і школа ў Маладзечне, вуліца ў Радашковічах, саўгас у Маладзечанскім р-не. Пастаўлены помнікі ў Мінску, Гродне, Радашковічах, Вязынцы, Ляўках, у Араў-парку ў Нью-Йорку; устаноўлены мемарыяльныя дошкі і знакі на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі. У Мінску працуе Літаратурны музей Янкі Купалы.

На тэрыторыі запаведніка знаходзіцца хата, у якой нарадзіўся паэт, хатка дваровых, гарадзішчы 2—5 стагоддзяў н. э., сажалка, крыніца, валуны з высечанымі на іх радкамі вершаў паэта, частка старога саду былога фальварка, пасадкі дубовага гаю, зробленыя беларускімі пісьменнікамі да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, канцэртная эстрада.

Х а т а, дзе жылі Луцэвічы і нарадзіўся паэт, у 1971—72 гг. рэстаўравана, з 1948 г. тут працуе філіял Літаратурнага музея Я. Купалы. Плошча экспазіцыі 85,25 м², каля 500 экспанатаў. У мемарыяльным пакоі захоўваюцца некаторыя асабістыя рэчы бацькоў паэта, прылады працы, мэбля, посуд і інш. Дэманструюцца таксама копіі архіўных дакументаў, аўтабіяграфічных матэрыялаў, фотаздымкі, якія адлюстроўваюць дзіцячыя і юнацкія гады паэта. У 1946 г. на хаце ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

П о м н і к Я. К у п а л у размешчаны побач з музеем, перапесены сюды ў 1972 г. з Мінска (пастаўлены ў 1949 г.; скульпт. З. Азгур; бронза, лабрадарыт, вышыня пастамента 2,5 м, скульптуры 1,5 м). Уяўляе сабой пагрудны бронзавы бюст паэта на чорным прамавугольным пастаменце. Кампазіцыя бюста франтальная, скульптурныя формы вылучаюцца стрыманасцю. На пастаменце радкі з купалаўскага верша. Пляцоўка каля



**1643.** *Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка». Валуны.*



**1643.** *Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка». Паказальнік дарогі.*

помніка выкладзена шэрымі плітамі, тут жа пасаджана 60 кустоў руж як сімвал шасцідзесяці пражытых паэтам гадоў.

Запаведнік уключаны ў турысцкія маршруты, з 1972 г. тут праводзяцца святы паэзіі, з 1976 — традыцыйныя злёты студэнтаў-філолагаў БДУ, ранішнікі школьнікаў. Вязынцы прысвяцілі вершы многія паэты, яе краявідам — свае работы беларускія мастакі.

*Літ.:* Такі ён быў: Успаміны пра Янку Купалу.— Мн., 1975; Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы.— Мн., 1981; Вязынка: Купалаўскі мемарыяльны запаведнік: [Фотаальбом] / Тэкст і скл. Л. Т. Хадкевіча.— Мн., 1982; Вязынка.— Мн., 1982; Юрэвіч У. Янка Купала: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1983.

**в. Гарадзілава, цэнтр сельсавета**

**1644. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад цэнтра вёскі. Займае мыс прыроднага ўзвышша. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 3—6 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 65×60 м, з паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй да 1 м. Найбольш высокі і стромкі схіл з паўночнага і заходняга бакоў (у напрамку да балота і перасохлага ручая). Паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні схілы часткова пашкоджаны. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,8—1,2 м. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**1645. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПОСАХУ** Андрэю Фёдаравічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1978 г.

Беларускі савецкі педагог, кандыдат фізіка-матэматычных навук А. Ф. Посах нарадзіўся ў в. Лебедзева Маладзечанскага р-на ў 1885 г. у сялянскай сям'і. У 1927 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт БДУ. З 1903 г. да 1914 г. быў загадчыкам Гарадзілаўскага двухкласнага народнага вучылішча. Зімою 1906—07 г. пазнаёміўся з Янкам Купалам, які ў гэты час працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне. Паэт часта заходзіў да яго на кватэру, чытаў свае вершы. У 1940 г. Я. Купала падараваў А. Ф. Посаху 4-ы том Збору твораў 1905—1912 гг. (1940 г.).

У 1910 г. у час паездкі ў Італію А. Ф. Посах наведаў на востраве Капры М. Горкага, пазнаёміў яго з купалаўскімі вершамі «А хто там ідзе?» і «Мужык». Пазней пераслаў яму зборнік паэта «Жалейка». Аўтар успамінаў «Мае сустрэчы з народным паэтам...» (у зборніку «Янка Купала», 1952 г.), «У Максіма Горкага» (у зборніку «Такі ён быў», 1975 г.). Памёр А. Ф. Посах у 1945 г. у Мінску. У філіяле Літаратурнага музея Я. Купалы ў Вязынцы аб ім змешчаны матэрыял.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. На запаветнай зямлі.— Мн., 1974. *В. Б. Караткевіч.*

**1646. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СІНЯЎСКАМУ** Георгію Аляксеевічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1981 г. на ўшанаванне памяці старшыні Гарадзілаўскага сельскага Савета дэпутатаў працоўных Г. А. Сіняўскага, закатаванага 22.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі.

**1647. ПОМНІК ЖДАНАВУ** Андрэю Аляксандравічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. А. Жданава. Скульптура савецкага, партыйнага і дзяржаўнага дзеяча А. А. Жданава ўстаноўлена ў 1958 г.

**1648. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1649. ФЕАДОСЬЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля могілак. Пабудавана ў 1866 г. з цэглы і бутавага каменю.

Аднанефавы храм. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя падоўжна-восевая, уключае двух'ярусную шатровую вежу-званіцу (васьмярык на чацверыку), кароткі бабінец, прамавугольны ў плане асноўны аб'ём, паўкруглую апсіду. З паўночнага боку апсіды невялікая прыбудова. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Багатую фактуру фасадам надае спалучэнне неатынкаванай муроўкі з часанага бутавага каменю і атынкаваных і пабеленых элементаў архітэктурнага дэкору (вуглавыя лапаткі, аркатурныя паясы, карнізы, абрамленне арачных аконных праёмаў). Зала царквы перакрыта плоскай столлю, асвятляецца бакавымі спаранымі вокнамі. Прастора апсіды вылучана шырокім арачным праёмам.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Гарадок, цэнтр сельсавета**

**1650. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе Бярэзіны. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы на фундаменце з бутавага каменю.

Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з бакавой шахтай для турбіны. Паўночны і бакавыя фасады маюць адкрыты цокальны паверх, галоўны фасад члянёны пілястрамі, завершанымі дэкаратыўнымі стылізаванымі машыкулямі. Цэнтральная частка з уваходам вылучана ступеньчатым шчытом. Паверхі падзелены цягай і аддзелены ад атыка зубчастым карнізам. Унутры плоскія бэлечныя перакрыцці на 3 драўляных слупах. На першым паверсе размешчаны 3 паставы з жорнамі для грубага і тонкага памолу збожжа, механізм для тонкага памолу пшаніцы (пытлёўкі), а таксама крупадзёрка, якія прыводзіліся ў рух вадзяной турбінай. Адсюль муку падавалі на гарышча для ачысткі, потым ссыпалі ў мяшкі і адгружалі ў падвал. На другім паверсе быў склад збожжа, адкуль праз кашы яго ссыпалі на жорны.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры з элементамі неаготыкі. *У. В. Алісейчык.*

**1651. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1651а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Замак. У паўночнай частцы вёс-



**1649.** *Феадосьеўская царква. План.*




**1650.** *Вадзяны млын. План.*



1661. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў.*

кі, недалёка ад левага берага р. Бярэзіна. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 4—5 м. Пляцоўка авальная, памерам 60×40 м, абкружана ровам шырынёй 25—30 м. За ровам размяшчаецца тэраса шырынёй да 10—12 м, а за ёй — вал вышынёй да 10 м, які з усходняга боку часткова разбураны. Тут захавалася пляцоўка дыяметрам каля 7 м, дзе, відаць, стаяла абарончая вежа. Мост цераз роў знаходзіўся з паўднёвага боку. Вядома з сярэдзіны 19 ст. Даследаваў у 1966 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена ганчарная кераміка 14—17 стагоддзяў і вялікая колькасць фрагментаў кафлі (зялёная, карычневая, жоўтая, перламутравая). У шурфе па ўнутранай пляцоўцы выяўлена штрыхаваная кераміка. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

**1651б.** С е л і ш ч а. Прымыкае да гарадзішча з паўднёва-заходняга і заходняга бакоў (паміж гарадзішчам і селішчам ёсць паніжаны, часткова забалочаны ўчастак шырынёй 20—40 м). Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена кераміка 14—17 стагоддзяў, кавалкі жалезнага шлаку, абпаленыя камяні. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Б у д ь к о В. Д. Белорусская археологическая экспедиция.— У кн.: Археологические открытия 1966 года. М., 1967; Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978. *Я. Г. Звяруга.*

**1652. МАГІЛА БРЫСЯ** Васіля Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Сакратар Гарадоцкага сельскага Савета дэпутатаў працоўных В. М. Брысь расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў ліпені 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1653. МАГІЛА ДАЙНОЎСКАГА** Вікенція Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Член КПЗБ, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, першы старшыня Гарадоцкага сельскага Савета дэпутатаў працоўных, актыўны змагар за ўмацаванне Савецкай улады В. І. Дайноўскі загублены нямецка-фашысцкімі захопнікамі 21.7.1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1654. МАГІЛА ДЗМІТРОВІЧА** Івана Андрэевіча **І НОВІКА** Івана Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Пахаваны дэпутаты Гарадоцкага сельсавета І. А. Дзмітровіч і І. А. Новік, расстраляныя ў ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1655. МАГІЛА ЗЯНЬКА** Івана Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Дэпутат Радашковіцкага раённага Савета дэпутатаў працоўных І. С. Зянько расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1656. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАЙНОЎСКАМУ** Вікенцію Сцяпанавічу **І БРЫСЮ** Васілю Міхайлавічу (гіст.). На будынку выканкома сельскага Савета народных дэпутатаў. Устаноўлена ў 1981 г. па ўшанаванне памяці першага старшыні Гарадоцкага сельсавета В. С. Дайноўскага і сакратара сельсавета В. М. Брыся, загубленых у ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**1657. МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК У ГОНАР КАМСАМОЛЬСКАЙ РОТЫ** (гіст.). Пры ўездзе ў вёску з боку Маладзечна. 2.7.1919 г. камсамольская рота ў складзе Мінскага каравульнага батальёна выехала на фронт. Каля вёсак Уша і Гарадок байцы роты прыкрывалі адыход батальёна, 4 дні вялі цяжкія баі з войскамі буржуазнай Польшчы, праявілі мужнасць і гераізм. У 1983 г. на месцы бою камсамольскай роты ўстаноўлены памятны знак.

**1658. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Ракаўская, у скверы. У Вялікую Айчынную вайну 33 землякі загінулі ў баях, 47 прапалі без вестак, 33 спалены жывымі, 28 расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1659. ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Будынак чатырохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі; двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку), прамавугольны ў плане бабінец, кубападобны асноўны аб'ём, паўкруглая



1662. *Помнік землякам.*

апсіда. Галоўны і бакавыя ўваходы вырашаны прамавугольнымі праёмамі з арачнымі парталамі. Арачныя аконныя праёмы ў ліштвах з кілепадобнымі завяршэннямі. Унутраная прастора была перакрыта скляпеннямі (не захаваліся).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

### в. Гарнякі, Граніцкі сельсавет

**1660. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

### в. Гранічы, цэнтр сельсавета

**1661. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.).

1.7.1919 г. войскі буржуазнай Польшчы пачалі агульнае наступленне на Заходнім фронце, 3.7.1919 г. захапілі Маладзечна і пачалі прасоўвацца ў бок Радашковіч, што стварыла пагрозу Мінску. Часці Чырвонай Арміі адыходзілі з жорсткімі баямі. Каля в. Гранічы невялікая група чырвонаармейцаў геранчна ўтрымлівала абарончы рубеж. Загінулі 6 байцоў і камісар кулямётнай каманды 145-га палка 17-й стралковай дывізіі К. І. Ванчукевіч, якія змагаліся да апошняга патрона. Сяляне Граніч пахавалі герояў. К. І. Ванчукевіч (нарадзіўся ў в. Малы Жабін Салігорскага р-на) занесены ў Кнігу народнай славы Маладзечанскага р-на.

У 1940 г. на магіле пастаўлены гранітны абеліск.

*Літ.:* К а х а н о ў с к і Г. А. Маладзечна: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1971. *В. В. Караткевіч.*

**1662. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага

Савета. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Каля падножжа дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Груздава, Палачанскі сельсавет**

**1663. МАГІЛА КАСЦЮЧЭНКІ** Антона (гіст.). На могілках. Савецкі воін А. Касцючэнка загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік.

**1664. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1871 г. з драўляных брусоў на месцы разбуранай мураванай. Кампазіцыя трохчасткавая, падоўжнавосевая. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму з трохграннай алтарнай часткай прыбудаваны бабінец і званіца. Асноўны аб'ём накрыты вальмавым дахам, бабінец — двухсхільным, званіцу завяршае гранёны шацёр. Аконныя праёмы лучковыя, сцены вертыкальна ашаляваны. Зала перакрыта несапраўдным цыліндрычным скляпеннем, што апіраецца на кансольныя выступы бакавых сцен. Над уваходам — хоры на калонах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**1665. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Дамашы, Цюрлёўскі сельсавет**

**1666. ПОМНІК ЭКІПАЖУ СЕЛЯЗНЁВА** Фёдара Аляксеевіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, справа ад аўтамабільнай дарогі на Маладзечна.

2.7.1944 г. эшалоны з жывой сілай і ваеннай тэхнікай ворага ў раёне станцыі Маладзечна былі атакаваны штурмавікамі 952-га авіяпалка 311-й штурмавой авіядывізіі. У час бою экіпаж самалёта Іл-2 у складзе памочніка камандзіра палка капітана Ф. А. Селязнёва (нарадзіўся ў 1908 г., с. Мітраполле Бондарскага р-на Тамбоўскай вобл.) і паветранага стралка А. Г. Сцяпанава (нарадзіўся ў 1918 г., г. Карабанава Уладзімірскай вобл.) атрымаў заданне знішчыць бранепоезд. Самалёт, атакаваны знішчальнікамі праціўніка, загарэўся. Ахопленую полымем машыну Ф. А. Селязнёў накіраваў на скопішча варожай тэхнікі.

У 1975 г. на месцы подзвігу пастаўлены гранітны камень, на якім дошка з надпісам. *В. Б. Караткевіч.*



1666. *Помнік экіпажу Ф. А. Селязнёва.*

**1667. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе ручая, ва ўрочышчы «Гай». Цягнецца ўздоўж берага больш як на 1 км, шырынёй да 100 м. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль і Г. А. Каханоўскі, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка розных перыядаў феадальнага часу. З гэтым помнікам звычайна звязваюць знаходку скарбу рымскіх манет у 1915 г. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Дубрава, Аляхновіцкі сельсавет**

**1668. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля развілкі дарог на Аляхновічы і Навасёлкі. Пахаваны 14 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1669. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на ўзгорку вышынёй 35 м. Пляцоўка круглаватая, дыяметрам 60 м. У паўночнай частцы яе захаваліся рэшткі абарончага вала вышынёй 2 м, шырынёй 10 м, даўжынёй 32 м. На паўднёвым схіле прасочаны яшчэ адзін вал вышынёй каля 1,5 м. Тут жа знаходзіцца тэраса — верагодна, рэшткі абарончага збудавання. Пляцоўка пашкоджана траншэямі часоў Вялікай Айчыннай вайны і густа зарасла хваёвым лесам. Абследавалі ў 1967 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1979 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,5—1 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. І. Шадыра.*

**1670. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЫБОЎСКАМУ** Бенядзікту Іванавічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1978 г.

Заолаг, прыродазнавец і ўрач, член-карэспандэнт АН СССР (1928 г.), Польскай акадэміі навук (1884 г.), рэвалюцыянер і грамадскі дзеяч Б. І. Дыбоўскі нарадзіўся 30.4.1833 г. у маёнтку Адамарын (за 4 км на ўсход ад в. Дубрава) у сям'і шляхціца. Бацька быў удзельнікам паўстання 1830—31 гг. У 1853—57 гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Дэрпцкага (Тартускага) універсітэта, у 1857—58 гг.— у Вроцлаве, у 1858—60 гг.— у Берліне. Прыхільнік і прапагандыст эвалюцыйнай тэорыі Ч. Дарвіна. З 1862 г. ад'юнкт-прафесар кафедры заалогіі і параўнальнай анатоміі Галоўнай школы ў Варшаве. Удзельнік патрыятычных арганізацый і антыўрадавых маніфестацый пачатку 1860-х гадоў. У час паўстання 1863—64 гг. актыўны агент Нацыянальнага ўрада, удзельнік стварэння Літоўскага правінцыяльнага камітэта. У лютым 1864 г. арыштаваны і сасланы ў Сібір.




1664. *Петрапаўлаўская царква. План.*




1669. *Гарадзішча. План.*

З 1866 г. на насяленні ў сёлах Дарасун, Култук, Лісцвянка, у Іркуцку. Даследаваў Прыбайкалле і Камчатку. Разам з прыродазнаўцам В. Гадлеўскім апісаў фауну і прыродныя ўмовы воз. Байкал. Геаграфічным таварыствам узнагароджаны малым залатым медалём. У 1877 г. па хадайніцтву таварыства вызвалены з ссылкі. У 1879—83 гг. акруговы ўрач на Камчатцы. 5 разоў аб'ехаў яе, тройчы пабываў на Камандорскіх астравах. Заснаваў бальніцу для хворых пракажай. На ўласныя сродкі завёз аленяў на Камчатку і востраў Берынга. Работу ўрача спалучаў з навуковымі даследаваннямі. У 1883—1906 гг. В. І. Дыбоўскі — загадчык кафедры заалогіі Львоўскага універсітэта. З камчацкіх экспанатаў арганізаваў у Львове музей заалогіі. З 1906 г. даследаваў азёры Любань, Свіцязь, Чорнае, даказаў іх ледавіковае паходжанне. Аўтар кнігі «Пра Сібір і Камчатку» (Кракаў, 1912 г.). 130 навуковых прац. Пад рэдакцыяй Б. І. Дыбоўскага выйшлі слоўнікі камчадальскай, бурацкай і іншых моў. Пакінуў успаміны пра паўстанне 1863—64 гг.

Памёр Б. І. Дыбоўскі 30.1.1930 г. Пахаваны ў Львове на Лычакоўскіх могілках.

*Літ.:* Винкевич Г. Выдающийся географ и путешественник.— Мн., 1965; Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968; Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Domaniewski J. Benedykt Dybowski.— Warszawa, 1954; Brzęk G. Benedykt Dybowski: Życie i dzieło.— Lublin, 1981.
*В. Б. Караткевіч.*

**чыгуначная станцыя Дубровы, Радашковіцкі сельсавет**

**1671. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад чыгуначнай станцыі, у лесе. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ермакі, Хоўхлаўскі сельсавет**

**1672. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 14 жыхароў, расстраляных 26.6.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Загорскае, Мясоцкі сельсавет**

**1673. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 жыхары, расстраляныя і спаленыя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Загорцы, Граніцкі сельсавет**

**1674. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на ўзгорку



1677. *Помнік землякам.*

вышынёй каля 10 м. Пляцоўка авальная, памерам 120×80 м, часткова пашкоджана кар'ерам. Ва ўсходняй частцы гарадзішча, на схіле, захаваліся рэшткі вала даўжынёй 60 м, шырынёй 3 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.

**в. Заскавічы, Лебедзеўскі сельсавет**

**1675. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны брыгады імя С. М. Будзённага А. І. Гарбачэўскі і А. Антановіч, якія загінулі 5.8.1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1676. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у ліпені 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1677. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 49 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. На пастаменце імёны загінуўшых.

**1678. ПОМНІК ЯСКЕВІЧУ** Уладзіміру Аляксандравічу (гіст.). Каля чыгуначнага прыпынку Заскавічы.

У. А. Яскевіч нарадзіўся ў 1919 г. у в. Осава Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС. У 1936—41 гг. працаваў у Мінску на чыгунцы слесарам, аглядчыкам вагонаў, майстрам. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 г. машыніст паравоза, з 1964 г.— цеплавоза Мінскага лакаматыўнага дэпо Беларускай чыгункі.

12.1.1967 г. У. А. Яскевіч вёў пасажырскі поезд «Чайка» з Мінска ў Талін. Поезд ішоў па ўстаноўленым графіку са скорасцю 90 км у гадзіну. На перагоне Пруды — Залессе ўзнікла непрадбачаная перашкода: з-за тэхнічнай няспраўнасці адчапіліся вагоны грузавога поезда, які толькі што прайшоў. Машыніст У. А. Яскевіч і яго памочнік В. Г. Сямёнаў уключылі экстранае тармажэнне, знізілі скорасць поезда, зрабілі ўсё магчымае, каб зменшыць сілу сутыкнення. Усе пасажыры былі ўратаваны. У. А. Яскевіч загінуў, В. Г. Сямёнаў атрымаў цяжкія траўмы.

У 1977 г. у гонар подзвігу машыніста У. А. Яскевіча і на ўшанаванне яго памяці пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Железнодорожная магистраль Белоруссии.— Мн., 1971. *Г. І. Дулеба.*

**в. Канчаны, Красненскі сельсавет**

**1679. РАДЗІМА КОЗЕЛА** Івана Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург І. В. Козел нарадзіўся 21.5.1928 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. У 1955 г. скончыў БДУ, у 1969 г.— Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У 1949—64 гг. працаваў настаўнікам на Маладзечаншчыне, у НДІ педагогікі Міністэрства асветы БССР, у 1964—66 гг. рэдактар Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, у камітэце па друку пры СМ БССР. Першая п'еса «Папараць-кветка» (пастаўлена ў 1957 г.) прысвечана барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. П'еса «Канчане — суседзі мае» пастаўлена пад назвай «Над хвалямі Серабранкі» ў 1961 г. Тэма яе — жыццё беларускай вёскі канца 50-х гадоў, барацьба супраць уласніцтва.

Памёр І. В. Козел 30.1.1970 г. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

*Літ.:* История белорусской советской литературы.— Мн., 1977; Сабалеўскі А. Беларуская савецкая драма. Кн. 2.— Мн., 1972; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Капачы, Хажоўскі сельсавет**

**1680. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіны. 7 насыпаў: 6 дыяметрам 6—8 м, вышынёй 0,6—0,8 м, адзін дыяметрам 12 м, вышынёй 1,4 м. Каля 5 курганоў кругавыя раўкі. Могільнік вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Клочкава, Маркаўскі сельсавет**

**1681. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ**



1682. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і чыгуначнікаў.*

(гіст.). У скверы, каля будынка школы. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. Побач з магілай па ўшанаванне памяці 28 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Краснае, цэнтр сельсавета**

**1682. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ЧЫГУНАЧНІКАЎ** (гіст.). Перад будынкам чыгуначнай станцыі Уша. Пахаваны чыгуначнікі: машыніст Ф. Ф. Смірноў, качагары М. Р. Юшчук, І. І. Ліцераў, якія загінулі 29.7.1944 г. пры дастаўцы войска і ўзбраення фронту, і 10 танкістаў (імёны не ўстаноўлены). У 1976 г. на магіле (паводле праекта П. У. Смалякова — машыніста Віцебскага лакаматыўнага дэпо) пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1683. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, справа ад аўтамабільнай дарогі Мінск-Маладзечна.

Брацкая магіла савецкіх воінаў. Пахаваны 19 воінаў, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Маладзечаншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Пахаваны 48 воінаў і 2 партызаны, якія памерлі ў 1944 г. ад ран. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

Брацкая магіла савецкіх лётчыкаў. Пахаваны экіпаж самалёта 108-га бамбардзіровачнага палка далёкага дзеяння: камандзір — малодшы лейтэнант М. С. Андрыякін, штурман — малодшы лейтэнант М. В. Грыгор'еў, стралок-радыст — старшы сяржант У. М. Русанаў, стралок — сяржант І. Дз. Няміра. 29.6.1944 г., калі эскадрылля вярталася пасля бамбардзіроўкі тылоў ворага, яе атакавалі фашысцкія знішчальнікі. Экіпаж М. С. Андрыякіна мужна вёў няроўны бой. Гітлераўцы падбілі машыну, і яна ўпала ў Чысціпскае балота. У канцы 1968 г. у час работы на балоце знойдзены астанкі лётчыкаў і рэшткі самалёта. 29.1.1969 г. экіпаж пахаваны на брацкіх могілках. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла, на ёй — вінт ад знойдзенага самалёта. На тыльным баку стэлы радкі з вершаў вядомага чэшскага паэта В. Незвалы, прысвечаныя Чырвонай Арміі. За стэлай — макет ракеты.




1683. *Помнікі на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

*Літ.:* Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.
*В. Б. Караткевіч.*

**1684. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля чыгуначнага пераезда, на пагорку. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 3,5—8 м. Пляцоўка прамавугольная, памерам 80×85 м. Паўднёвая частка пашкоджана кар'ерам. З заходняга боку каля падэшвы гарадзішча захаваліся рэшткі рова шырынёй да 15 м (па ім зараз праходзіць дарога). Вядома з кап-




1685. *Гарадзішча. План.*



1686. *Касцёл. Галоўны фасад.*




1686. *Касцёл. План.*




1690. *Пакроўская царква. План.*

ца 19 ст., абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі, абломкі цэглы.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Я. Г. Звяруга.*

**1685. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на мысе карэннага левага берага р. Уша. Вышыня над поймай ракі 7—8 м. Пляцоўка авальнай формы, памерам 45×30 м, здзірванелая, усходняя частка яе пашкоджана ямамі. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі. У 1979 г. абследаваў В. І. Шадыра. У шурфе, які быў закладзены ў цэнтры пляцоўкі, культурны пласт каля 1 м. Знойдзена штрыхаваная кераміка ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.
*В. І. Шадыра.*

**1686. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы.

Трохнефавая аднавежавая базіліка з пяціграннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. У цэнтры галоўнага фасада трох'ярусная чацверыковая званіца, умацаваная вуглавымі ступеньчатымі контрфорсамі з пінаклямі і завершаная шпілем. Галоўны ўваход афармлены стральчатым праёмам, над якім размешчана акно-ружа. Бакавыя фасады рытмічна чляняны здвоенымі вузкімі стральчатымі вокнамі, нішамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Двухсхільны дах над алтарнай часткай з невялікай вежачкай. Перакрыцце ўнутранай прасторы скляпеністае на 4 слупах.

Касцёл — помнік неагатычнай архітэктуры.
*А. М. Кулагін.*

**1687. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Набярэжная, паміж дамамі № 16 і № 18. Пахаваны 2 тыс. мірных грамадзян, расстраляных 5.3. 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1688. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Падлесная. Пахаваны 800 савецкіх ваеннапалонных, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1689. МАГІЛА ЧАРНОВА** Васіля Васілевіча (гіст.). На могілках. Начальнік пашпартнага стала Радашковіцкага раённага аддзела міліцыі В. В. Чарноў забіты ворагамі Савецкай улады 4.6.1949 г. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1690. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. 1 Мая. Пабудавана ў 1889 г. з бутавага каменю.

Крыжова-купальны храм з паўкруглай апсідай, трансептам і кароткім бабінцам. Трох'ярусная званіца (2 васьмерыкі на чацверыку) завершана купальным пакрыццём, сяродкрыжжа — васьміграннным светлавым барабанам, грані якога прарэзаны арачнымі праёмамі, дэкарыраваны нішамі ў абрамленні, паўкалонкамі і прафіляванымі броўкамі. Падобнымі сродкамі вырашаны васьмярык званіцы. Арачны ўваходны праём афармлены парталам з кілепадобным завяршэннем. Бутавая муроўка спалучаецца з атынкаванымі і пабеленымі элементамі дэкору (вуглавыя лапаткі, абрамленне арачных аконных праёмаў, прафіляваныя карнізы і інш.). У інтэр'еры пануе падкупальная прастора сяродкрыжжа, вылучаная з 4 бакоў аркамі.




1691. *Помнік воінам-вызваліцелям.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.
*А. М. Кулагін.*

**1691. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На плошчы.

У ходзе Беларускай аперацыі 1944 г. 3-і гвардзейскі Сталінградскі механізаваны корпус (генерал-лейтэнант танкавых войск В. Ц. Абухаў) атрымаў загад нанесці ўдар у напрамку Краснае і Маладзечна, перарэзаць шляхі адыходу буйных груповак нямецка-фашысцкіх войск. Непасрэдна на Краснае наступала 9-я гвардзейская механізаваная брыгада (палкоўнік П. І. Гарачаў). 2 і 3.7.1944 г. брыгада тройчы вызваляла, а потым пад націскам намнога большых сіл праціўніка пакідала Краснае, трымала абарону на Мінскай шашы. Раніцай 4 ліпеня ў бой за вёску ўступіла 31-я стралковая дывізія (генерал-маёр І. К. Шчарбіна) 16-га гвардзейскага стралковага корпуса. У выніку жорсткіх баёў 4.7.1944 г. Краснае было вызвалена.

У 1978 г. у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк на пастаменце.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.
*В. Б. Караткевіч.*

**1692. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. 1 Мая, перад будынкам выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, побач у 1978 г.— стэла з імёнамі загінуўшых.

**1693. ПОМНІК КАРБЫШАВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст.). Завулак Карбышава.

Савецкі военачальнік, генерал-лейтэнант інжынерных войск (1940 г.), доктар ваенных навук (1941 г.), прафесар, Герой Савецкага Саюза Дз. М. Карбышаў нарадзіўся 14.10.1880 г. у Омску. Член КПСС з 1940 г. У 1898 г. скончыў Омскі кадэцкі корпус, у



1692. *Помнік землякам.*




**1694.** *Помнік савецкім танкістам.*

1900 г.— Нікалаеўскае інжынернае вучылішча, у 1911 г.— Нікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію. Удзельнік руска-японскай 1904—05 гг. і 1-й сусветнай 1914—18 гг. войнаў. У 1911—14 гг. удзельнічаў у рэканструкцыі і будаўніцтве Брэсцкай крэпасці, быў камендантам аднаго з фортаў. З снежня 1917 г. атрадны інжынер Чырвонай гвардыі. З 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1921—23 гг. на адказных пасадах у штабе ўзброеных сіл Украіны і Крыма. Украінскай ваеннай акругі, з 1923 г. старшыня Інжынернага камітэта Галоўнага ваенна-інжынернага ўпраўлення РСЧА. З 1926 г. на выкладчыцкай рабоце ў ваенных акадэміях. Аўтар больш як 100 навуковых прац па ваенна-інжынернай справе і ваеннай гісторыі.

Напярэдадні вайны інспектаваў будаўніцтва ваенных умацаванняў у раёне Гродна. Калі пачаліся ваенныя дзеянні, адхіліў прапанову вярнуцца ў Маскву. Удзельнічаў у абарончых баях. Пры выхадзе з акружэння каля Магілёва цяжка кантужаны трапіў у палон. Прайшоў больш за 10 фашысцкіх канцлагераў і турмаў, вёў антыфашысцкую прапаганду сярод вязняў. 18.2.1945 г. закатаваны ў канцлагеры Маўтгаўзен. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.8.1946 г. Імем Дз. М. Карбышава названы карабель, завод, планета, 2 чыгуначныя станцыі ў Омскай вобл., вуліцы, школы ў Маскве, Омску, Мінску, Брэсце. Гродне, Ваўкавыску, Лідзе, Слоніме і інш. гарадах Савецкага Саюза. Пастаўлены помнікі ў Маскве, Омску, Кіеве, Харкаве, Таліне, Гродне, Брэсце, у Маўтгаўзене (Аўстрыя).

У 1960 г. у гонар Дз. М. Карбышава ўстаноўлены бюст.

**1694. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст., маст.). На вул. 1 Мая, перад Домам культуры.



**1696.** *Помнік у гонар Маладзечанскага падпольнага райкома ЛКСМБ.*

У ходзе Беларускай аперацыі 1944 г. першая ў в. Краснае 2.7.1944 г. уварвалася танкавая рота (старшы лейтэнант Р. Р. Кіяшка) 45-га танкавага палка 9-й гвардзейскай механізаванай брыгады. У жорсткіх баях танкісты знішчылі 3 танкі, 6 гармат, 40 павозак, больш за 200 салдат і афіцэраў праціўніка, узарвалі 2 склады з гаручым і боепрыпасамі. Загінулі ўсе танкісты, жывы застаўся толькі Р. Р. Кіяшка. Тройчы паранены, ён гранатамі пракладаў сабе шлях і выйшаў з акружэння. Званне Героя Савецкага Саюза Р. Р. Кіяшку прысвоена 24.3.1945 г.

У 1974 г. на ўвекавечанне подзвігу танкістаў і на ўшанаванне памяці загінуўшых пастаўлены помнік (скульпт. В. Сотнікаў, архіт. Ю. Ціханаў; бетон з чырвонай гранітнай крошкай; вышыня 3 м, памеры грані 2,5×2,5 м) — стэла ў форме куба на апоры. На гранях куба гарэльефныя выявы жанчыны ў жалобе і эпізодаў бою, выкананыя ў экспрэсіўнай манеры. Ступеньчаты стылабат аб'ядноўвае стэлу з выкладзенымі шэрымі бетоннымі плітамі дарожкамі газона.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Лазавец, Мясоцкі сельсавет**

**1695. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 0,15 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны лейтэнант Легастаеў і невядомы воін Чырвонай Арміі, расстраляныя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1696. ПОМНІК У ГОНАР МАЛАДЗЕЧАНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА ЛКСМБ** (гіст.). У Лазавецкім лесе, справа ад дарогі Маладзечна — Вілейка. Тут з жніўня 1941 г. было месца сустрэч падпольшчыкаў і партызанскіх сувязных, а пасля стварэння Маладзечанскага падпольнага райкома ЛКСМБ праводзіліся яго пасяджэнні.

Да стварэння райкома камсамольскай работай на акупіраванай тэрыторыі Маладзечанскага р-на кіраваў упаўнаважаны Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ У. Г. Доктараў. 4.12.1943 г. Вілейскі падпольны абком КП(б)Б зацвердзіў Маладзечанскі падпольны райком ЛКСМБ, які дзейнічаў да 5.7.1944 г. Сакратары У. Г. Доктараў (4.12.1943 г.— 5.7.1944 г.), А. І. Усаў (4.12.1943 г.— 10.3.1944 г.), М. А. Агееў (10 сакавіка — 5.7.1944 г.). Райком накіроўваў дзейнасць камсамольскіх арганізацый партызанскіх падраздзяленняў. Пад яго кіраўніцтвам з ворагам змагаліся некалькі падпольных груп у Маладзечне. Базіраваўся ў асобным партызанскім атрадзе імя Р. І. Катоўскага (камандзір М. С. Рудэнка, камісар Ю. А. Дзамашвілі).

У 1975 г. на месцы, дзе адбываліся пасяджэнні падпольнага райкома ЛКСМБ, сустрэчы партызанскіх сувязных з падпольшчыкамі, пастаўлены 2 стэлы.



1699. *Крыжаўзвіжанская царква. Бакавы ўваход.*



1699. *Крыжаўзвіжанская царква. Фрагмент бакавога фасада.*

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Лебедзева, цэнтр сельсавета**

**1697. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 савецкіх ваеннапалонных, закатаваных у лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1698. КАПЛІЦА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай алтарнай часткай. Галоўны фасад вырашаны адзінай плоскасцю з двухгранным завяршэннем, вуглы якога дэкарыраваны фіяламі. Галоўны ўваход у выглядзе стральчатага праёма. Сродкамі арнаментальнай цаглянай муроўкі (зубчасты фрыз, рабрыстыя паясы, філёнгі, вуглавыя контрфорсы, паўкалонкі) дасягнута пластычная выразнасць фасадаў. Бакавыя сцены чляняны здвоенымі стральчатымі аконнымі праёмамі ў абрамленні. Унутраная прастора перакрыта скляпеннем на падугах з плафонам у цэнтры. Сцены дэкарыраваны канеліраванымі пілястрамі.

Капліца — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**1699. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1869 г. з цэглы.

Будынак крыжовы ў плане, з паўкруглай апсідай і бакавымі крыламі. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуюць двух'ярусная шатровая званіца (васьмярык на чацверыку) і васьмігранны светлавы барабан з купалам над сяродкрыжжам. У архітэктурным аздабленні выкарыстаны элементы старажытнарускага дойлідства (кілепадобныя і арачныя броўкі, цыбулепадобныя галоўкі, зубчастыя фрызы і паясы). У інтэр'еры пануе купальная прастора сяродкрыжжа, апсіда і бакавыя крылы адкрываюцца ў цэнтральную залу шырокімі аркамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**1700. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Маркава. Пахаваны 949 савецкіх грамадзян, расстраляных у ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1701. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АРГАНІЗАЦЫІ КПЗБ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1979 г. У вёсцы і воласці ў 1929—32 гг. дзейнічала падпольная арганізацыя КПЗБ, якая кіравала барацьбой працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.



1704. *Помнік землякам.*

**1702. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1976.

Лебедзеўская арганізацыя РСДРП створана ў 1905 г. Дзейнічала спачатку ў складзе Паўночна-Заходняга Саюза РСДРП, з чэрвеня 1906 г.— Абласнога Саюза РСДРП Літвы і Беларусі. Мела сувязь з Віленскім камітэтам і Смаргонскай арганізацыяй РСДРП. З вясны 1906 г. работу арганізацыі накіроўвала Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП. Узначальваў арганізацыю цэнтр з 3 чалавек. Летам 1905 г. яна налічвала 22 члены, у 1907 г.— каля 50. Найбольш актыўнымі былі сяляне Л. Мінькоўскі, І. Люлевіч, І. Калачык, А. Сапоцька, М. Зуй, В. Вярбіцкі, У. Вярбіцкі, І. Нехвядовіч, І. Прыгожскі, А. Мядзведскі і інш. Яны наладжвалі сходы, гутаркі з сялянамі, распаўсюджвалі нелегальную літаратуру. У 1905 г. паліцэйскія канфіскавалі ў Лебедзеўскай воласці 219 пракламацый і лістовак, вершы Ф. Багушэвіча. Увосень 1905 г. сяляне секлі памешчыцкі лес, у 1906 г. баставалі касцы і жнеі. Лебедзеўская арганізацыя РСДРП перастала існаваць у 1907 г.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. Повязь часоў.— Мн., 1985. *В. Б. Караткевіч.*

**1703. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ГУРТКА БЕЛАРУСКАЙ РАБОЧА-СЯЛЯНСКАЙ ГРАМАДЫ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1978 г. у памяць аб дзейнасці ў вёсцы ў 1925—26 гг. гуртка Беларускай сялянска-рабочай грамады на чале з паэтам А. Ф. Салагубам.

**1704. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал — 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**1705. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам выканкома сельскага Савета народных дэпутатаў. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Ленкаўшчына, Маркаўскі сельсавет**

**1706. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Сакалі-



1708. *Помнік землякам.*

ная Гара. Пахаваны 8 партызан атрада імя М. І. Кутузава, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — гранітны валун.

**1707. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА імя М. І. КУТУЗАВА** (гіст.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Сакаліная Гара. Тут з мая 1942 г. да ліпеня 1944 г. знаходзілася база партызанскага атрада імя М. І. Кутузава брыгады імя К. Я. Варашылава, якая дзейнічала на тэрыторыі Вілейскай вобл. і Швянчонскага р-на Літоўскай ССР.

Атрад імя М. І. Кутузава створаны 20.7.1943 г. на базе дыверсійнай групы А. Ц. Супрагіна, што дзейнічала ў Ашмянскім р-не. Камандзір атрада В. С. Рылаў, камісары М. І. Зінакоў, А. І. Запявалаў, І. І. Піётух. Партызаны праводзілі баявыя аперацыі супраць акупантаў, рабілі дыверсіі, знішчалі тэлеграфна-тэлефонную сувязь. Толькі ў ліпені — кастрычніку 1943 г. атрад знішчыў 546 варожых салдат і афіцэраў, разграміў 4 гарнізоны, 4 гаспадаркі і 9 прадпрыемстваў ворага. У снежні 1943 г. разам з атрадамі «Знішчальнік» і імя А. Я. Пархоменкі ў цяжкім баі, які працягваўся некалькі гадзін, разграмілі буйны гарнізон у в. Шэметава.

У 1970 г. у гонар партызанскага атрада імя М. І. Кутузава пастаўлены помнік — сцяна Памяці ў выглядзе сімвалічнай зямлянкі.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Літва, Палачанскі сельсавет**

**1708. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 61 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Побач — 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Максімаўка, Граніцкі сельсавет**

**1709. ПОМНІК РАК-МІХАЙЛОЎСКАМУ** Сымону Аляксандравічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст, педагог С. А. Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся 2.4.1885 г. у в. Максімаўка ў сялянскай сям'і. Член КПЗБ з 1926 г. У 1904 г. скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, у 1912 г.— педагагічны інстытут у Феадосіі. Працаваў настаўнікам. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Да 1918 г. член Беларускай сацыялістычнай грамады, потым — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, адзін з стваральнікаў Беларускай партыі незалежных сацыялістаў. З 1918 г. настаўнік беларускіх гімназій у Гродне і Вільні. У 1920 г. стварыў настаўніцкую семінарыю ў мястэчку Баруны Ашмянскага р-на, быў яе дырэктарам. З 1922 г. дэпутат (пасол) сейма Польшчы, дзе абараняў інтарэсы працоўных беларусаў. Адзін з арганізатараў і намеснік старшыні ЦК Беларускай сялянска-рабочай грамады, аўтар праекта яе арганізацыйнага статута, член рэдкалегіі штотыднёвай газеты Грамады «Беларуская ніва» і іншых яе перыядычных выданняў, адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. 15.1. 1927 г. арыштаваны, у маі 1928 г. па працэсу 56-і кіраўнікоў Грамады засуджаны на 12 гадоў турэмнага зняволення. У 1930 г. умоўна вызвалены. Па абмену палітзняволенымі з 1931 г. у БССР. Працаваў у Мінску дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. Член ЦВК БССР у 1931—35 гг. Напісаў школьныя падручнікі «Гутарка аб беларускай мове» (1919 г.), «Арыфметычны задачнік для пачатковых школ» (ч. 2, 1923 г.), «Страшны вораг (Кніжка аб гарэлцы)» (1924 г.) і інш. Збіральнік беларускага фальклору, пісаў вершы, яго лічаць аўтарам музыкі песні «Зорка Венера» на словы М. Багдановіча. Памёр С. А. Рак-Міхайлоўскі ў 1937 г.

У 1982 г. на ўшанаванне памяці С. А. Рак-Міхайлоўскага ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Маліноўшчына, Лебедзеўскі сельсавет**

**1710. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. (да 1891 г.). Сядзібны комплекс уключаў жылы дом, флігель, парк, абеліск, капліцу-пахавальню, бровар.



1712. *Помнік землякам.*

Жылы дом. Спачатку драўляны аднапавярховы будынак з чатырохкалонным порцікам на галоўным фасадзе (не захаваўся). Пазней мураваны, размешчаны ва ўсходняй частцы парку каля абрывістага схілу поймы ручая. Будынак прамавугольны ў плане на высокім бутавым цокалі, накрыты паўвальмавым дахам. Фасады са строенымі стральчатымі вокнамі. Тарцовыя шчыты даху маюць па 3 люкарны.

Флігель. Аднапавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым чарапічным дахам. Галоўны фасад сіметрычна члянёны стральчатымі аконнымі і ўваходнымі праёмамі.

Парк пейзажнага тыпу з пладовым садам. Займае плошчу каля 8 га (з усходу на захад 400 м, з поўначы на поўдзень 200 м). Ручай падзяляе парк на 2 часткі і 2 пратокамі ствapae востраў. З усходу абмежаваны алеяй (шырыня 12 м), абсаджанай каштанам конскім і хвояй веймутава, з поўдня — групай лістоўніцы сібірскай, з захаду — алеяй з лістоўніцы сібірскай, пасаджанай радамі цераз 3 м. Сярод пасадак таполя белая, елка звычайная, піхта сібірская, дугласія шэрая. У цэнтры парку абеліск 19 ст. з чорнага лабрадарыту, у паўднёвай частцы бровар.

Капліца-пахавальня. Размешчана ў паўднёва-заходняй частцы парку. Фамільная пахавальня ўладальнікаў маёнтка. Цагляная чатырохгранная піраміда, накрытая ма-

ленькім чатырохсхільным дахам. Гарызантальнай цягай падзелена на 2 ярусы. У капліцы — жалобная зала са стральчатымі ўваходамі і вокнамі. У склепе капліцы — нішы-пахаванні. У ніжнюю частку сцен умураваны вапнавыя паліраваныя пліты з мемарыяльнымі надпісамі.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва і эклектычнай архітэктуры з выкарыстаннем элементаў архаікі, класікі, неаготыкі.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**в. Маркава, цэнтр сельсавета**

**1711. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАТРЫЯТЫЧНАГА ПІСЬМА-ПРЫВІТАННЯ У. І. ЛЕНІНУ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1977 г.

У 1-й палове лютага 1919 г. войскі буржуазна-памешчыцкай Польшчы пачалі ваенныя дзеянні супраць Савецкай Расіі. Паўночная група войск захапіла Гродзенскую губерню і наступала ў напрамку Вільня і Ліда — Маладзечна. Напад на краіну Саветаў выклікаў гнеў і абурэнне насельніцтва прыгранічных раёнаў. Жыхары в. Маркава ў сакавіку 1919 г. сабраліся на сход, на якім прынялі тэкст пісьма-прывітання У. І. Леніну, у ім гаварылася, што ў цяжкі для Савецкай улады час яны вырашылі ўсяляк падтрымліваць яе і змагацца з лютымі ворагамі Краіны Саветаў, выказалі ўпэўненасць, што няма той сілы, якая б перамагла тых, хто аб'яднаўся ў імя падтрымкі Савецкай улады.

*В. Б. Караткевіч.*



**1713.** *Царква.*



**1713.** *Царква. План.*

**1712. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка сярэдняй школы, у калгасным садзе. На ўшанаванне памяці 58 землякоў — жыхароў вёсак Маркава, Юхавічы, Громавічы, Талуі, Беніца, Рэдзькі, Якавічы, Кавальцы, Кучкі, Скавародкі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1713. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Пабудавана ў 1860 г. з бутавага каменю і цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з трох'яруснай званіцай (васьмярык на 2 чацверыках). Над шатром званіцы і чатырохсхільным пакрыццём асноўнага аб'ёму — цыбулепадобныя галоўкі на барабанах. На фоне бутавай муроўкі вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору — руставаныя вуглавыя лапаткі, аркатурны фрыз, карніз, абрамленні арачных аконных праёмаў і люнет. У інтэр'еры алтарная частка аддзелена іканастасам.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры.

**в. Мясата, цэнтр сельсавета**

**1714. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗАНУ** Тамашу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1976 г.

Польскі паэт-рамантык Т. Зан нарадзіўся ў былым маёнтку Мясота (цяпер в. Мясата) 21.12.1796 г. у сям'і шляхціца. У 1815 г. скончыў Мінскую гімназію. У 1815—20 гг. вучыўся на фізіка-матэматычным і філалагічным факультэтах Віленскага універсітэта. Адзін з арганізатараў тайнага студэнцкага таварыства філаматаў (1817—23 гг.) у Віленскім універсітэце. У 1820 г. узначаліў філіяльную арганізацыю філаматаў — таварыства філарэтаў. У канцы 1823 г. царскія ўлады раскрылі таварыствы, Т. Зан быў арыштаваны, у 1824 г. прыгавораны да зняволення ў крэпасць. У 1824 г. сасланы ў Арэнбург. Вёў навуковыя даследаванні — вывучаў флору і мінералы Урала, заснаваў мінералагічны музей. З 1837 г. жыў у Пецярбургу, працаваў у Горным інстытуце бібліятэкарам. Вярнуўся на Беларусь у 1841 г., набыў фальварак Кахачын каля Оршы.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1817 г. У камедыі «Грэцкія піражкі» (1817 г.) апісаў беларускае вяселле, абрад Купалля. Пад уплывам свайго сябра А. Міцкевіча пісаў вершы і балады. Вядомы яго балады «Твардоўскі», «Бекеш», «Свіцязь-возера», «Цыганка», у якіх шмат беларускай лексікі, прыказак, фразеалагізмаў. Аўтар кніг «Трыялеты і любоўная лірыка» (1922 г.), «З выгнання» (1929 г.).

Памёр Т. Зан 19.7.1855 г. Пахаваны ў в. Смаляны Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

*Літ.:* Dunajówna M. Dzieciństwo i lata szkolne Tomasza Zana.— Wilno, 1932; jeż. Tomasz Zan: Lata uniwersyteckie. 1815—1824.— Wilno, 1933. *В. Б. Караткевіч.*



**1715.** *Помнік Віленскаму шляху.*

**1715. ПОМНІК ВІЛЕНСКАМУ ШЛЯХУ** (гіст.). Справа ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Вільнюс, каля павароту на вёску. Пастаўлены ў 1979 г.

Складаецца з 3 вялікіх валуноў. На самым вялікім, які абрысамі нагадвае карту Беларусі, радкі з верша Я. Купалы «Еду сягоння я ў Вільню...»:

Мінск. Маладзечна. Вільня...
Як жа знаёмы шлях гэты!
Змерыў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах.

На другім валуне пералічаны імёны вядомых людзей, якія ў розны час праходзілі ці праязджалі па гэтым шляху: М. Агінскі, М. Багдановіч, Ф. Багушэвіч, С. Будны, І. Буйніцкі, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, М. Гогаль, Дз. Давыдаў, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Колас, Я. Купала, У. Лугаўской, К. Паустоўскі, Я. Судрабкалн, У. Сыракомля, Б. Тарашкевіч, В. Таўлай, П. Цвірка, Цётка (А. Пашкевіч), М. Чарот, Т. Шаўчэнка, Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі). Унізе словы: «Вобраз нашай зямлі застаўся ў іх памяці і творах, а іх імёны — у сэрцах народных». Да камянёў вядуць выкладзеныя плітамі дарожкі.

*Літ.:* Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978.

**1716. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у парку. На ўшанаванне памяці 136 землякоў — воінаў, партызан, ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — на насыпным кургане скульптурная кампазіцыя: воін трымае на руках забітага таварыша. Справа — сцяна памяці з імёнамі землякоў.



1716. *Помнік землякам.*

**1717. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Выкарыстоўваецца пад жыллё.

Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, пад двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры чатырохкалонным значна вынесеным порцікам з трохвугольным франтонам. Атынкаваныя сцены члянены прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Галоўны ўваход аформлены прамавугольным праёмам у прафіляванай ліштве. Тарцовыя трохвосевыя фасады завершаны трохвугольнымі шчытамі. З-за перападу рэльефу мясцовасці з тарцовага і дваровага фасадаў адкрываецца бутавы падвал, перакрыты цаглянымі скляпеннямі. Планіроўка зменена. Сядзібны ўчастак абмежаваны шпалерамі з таполі, клёну, вязу.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**в. Насілава, Цюрлёўскі сельсавет**

**1718. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на беразе штучнага вадаёма. Вышыня над наваколлем 4—5 м. Пляцоўка памерам 60×70 м, у паўночнай, паўночна-ўсходняй і паўднёва-ўсходняй частках умацавана валам вышынёй 2,5 м, шырынёй 3—5 м, захаваліся рэшткі старых могілак. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, даследавалі ў 1968 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1979 г. В. І. Шадыра. Ускрыта 60 м² плошчы. Знойдзены штрыхаваныя вастрарэберныя і слоікавыя гаршкі з арнаментам у выглядзе зашчыпаў і насечак, абломак нажа, шыла, гліняныя прасліцы, грузік дзякоўскага тыпу. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Датуецца 1—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *В. І. Шадыра.*

**1719. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ, ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка школы, справа ад аўтамабільнай дарогі на Маладзечна. На ўшанаванне памяці воінаў-вызваліцеляў, партызан, якія загінулі ў барацьбе з ворагам на тэрыторыі раёна, а таксама землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік: абеліск з зоркай і барэльефнай выявай салдата са сцягам; справа ад абеліска сцяна Памяці з трыма дошкамі, на якіх ушанаваны воінскія фарміраванні, партызанскія брыгады, што ўдзельнічалі ў вызваленні Маладзечна, а таксама памяць 21 земляка.

**в. Пажарышча, Гарадоцкі сельсавет**

**1720. МАГІЛА МАКСІМАВА** Пятра Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Начальнік штаба асобнага партызанскага атрада імя П. А. Алыбіна. П. Дз. Максімаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Палачаны, цэнтр сельсавета**

**1721. КАМЕННЫ КРЫЖ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Лебедзева (раней стаяў каля в. Зоранька ва ўрочышчы Каліна-вы Роў, абапал раслі 2 старыя дубы). Высечаны з валуна ружовага колеру. Вышыня 1,2 м, шырыня па гарызантальнай папярочцы 1 м. На фасаднай плоскасці ўверсе — літары «Р» «S», далей на папярочцы і ўнізе вертыкальнай часткі — пашкоджаныя надпісы. На крыжы прамавугольнае паглыбленне памерам 4,2×2 см, глыбінёй 7 см. *Я. Г. Звяруга.*




1718. *Гарадзішча. План.*




1719. *Помнік савецкім воінам, партызанам, землякам.*

**1722. КАСЦЁЛ РОХА** (архіт.). У цэнтральнай частцы былой в. Аборак (злілася з в. Палачаны), на скрыжаванні галоўных вуліц. Пабудаваны з дрэва ў канцы 18 ст.

Касцёл аднанефавы, двухвежавы, прамавугольны ў плане, з пяцігранцай апсідай і бакавымі прыбудовамі. Асноўны зруб і алтарная частка пад агульным гонтавым дахам з плаўнымі пераходамі паміж аб'ёмамі. Галоўны (заходні) фасад фланкіраваны вуглавымі трох'яруснымі шатровымі вежамі, якія выступаюць за межы асноўнага аб'ёму. Вокны лучковыя. Сцены вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны сцяжкамі. У асноўным аб'ёме паміж вежамі вылучаны прытвор. Перакрыцце плоскае бэлечнае з падшыўной столлю. Ёсць звесткі, што ў канцы 19 ст. інтэр'ер упрыгожвала паліхромная размалёўка (не захавалася).

Касцёл — помнік народнага драўлянага дойлідства з элементамі барока.

*У. В. Алісейчык.*

**1723. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельскага Савета. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці 12 савецкіх актывістаў: І. С. Бажко, А. С. Гайко, Я. Я. Клімава,




1722. *Касцёл Роха. План.*



1725. *Помнік камсамольцам.*

А. А. Козела, Д. Ф. Зяпькевіча, К. І. Паўлоўскага, М. Я. Рудзіка, А. І. Садоўскага, Г. Я. Садоўскага, В. Я. Садоўскага, М. А. Сівец, Н. І. Фалей, расстраляных у 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**1724. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ГРУПЫ ПРЫХІЛЬНІКАЎ РСДРП** (гіст.). На будынку Дома культуры і праўлення калгаса «50 год Кастрычніка». Устаноўлена ў 1976 г.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. шырокую агітацыйную работу на Маладзечаншчыне праводзіла Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП, якая ў 1906 г. мела ў 4 вёсках Палачанскай воласці 25 прыхільнікаў. Яны вялі сярод сялян палітычную прапаганду, арганізоўвалі мітынгі, распаўсюджвалі пракламацыі. У воласці баставалі 70 парабкаў, 8 з іх былі арыштаваны паліцыяй.

**1725. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ** (гіст.). На вул. Савецкай.

У Вялікую Айчынную вайну камсамольцы І. І. Лягаи і Г. Ф. Паўлоўскі пісалі і распаўсюджвалі ў сваёй і суседніх вёсках лістоўкі, падрыхтавалі чырвоны сцяг, які 7.11.1941 г., у 24-ю гадавіну Кастрычніка, хацелі ўзняць над будынкам выканкома сельсавета. Гітлераўцы схапілі патрыётаў, спрабавалі прымусіць іх адрачыся ад камсамола, але беспаспяхова. 21.11.1941 г. фашысты расстралялі І. І. Лягана і Г. Ф. Паўлоўскага, а таксама настаўніка А. А. Козела.

У 1961 г. на ўшанаванне памяці камсамольцаў пастаўлены помнік: скульптура жанчыны ў жалобе.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978. *В. Б. Караткевіч.*

**1726. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з бутавага каменю.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка чатырохчасткавая: квадратны ў плане асноўны аб'ём, паўкруглая апсіда, нізкі бабінец, трох'ярусная шатровая званіца (васьмярык на 2 чацверыках). Пакаты чатырохсхільны дах асноўнага аб'ёму і шацёр званіцы завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на барабанах. На фоне бутавай муроўкі вылучаюцца атынкаваныя элементы дэкору: руставаныя абрамленні арачных аконных і прамавугольнага ўваходнага праёмаў, вуглавыя лапаткі, аркатурныя фрызы, карнізы. Верхні ярус званіцы атынкаваны, прарэзаны арачнымі праёмамі з кілепадобнымі броўкамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Парадоўшчына, Гарадоцкі сельсавет**

**1727. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўзгорку вышынёй 15 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 52 м, пашкоджана ямамі. У паўднёва-заходняй частцы прасочана агаленне культурнага пласта (0,4 м). Адкрыў і даследаваў у 1969 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, гліняныя прасліцы, трапецападобныя бронзавыя падвеска і трубачка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі (7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.). Асобныя знаходкі даюць падставу меркаваць, што жыццё тут працягвалася і ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.



1726. *Царква.*

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. І. Шадыра.*

**1728. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, у полі. Пахаваны 35 жыхароў вёскі, закатаваных і спаленых 24.12.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Пекары, Гарадзілаўскі сельсавет**

**1729. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 52 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пекары, Хоўхлаўскі сельсавет**

**1730. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Лужаны ва ўрочышчы Капцы. 90 насыпаў дыяметрам 3—5 м, вышынёй 0,5—1,2 м (3—4 курганы дыяметрам 7—8 м, вышынёй 1,5—1,7 м). Найбольшыя насыпы знаходзяцца ў паўночнай і заходняй частках могільніка. Па звестках мясцовых жыхароў, яны раней былі абкладзены камянямі, якія дзе-нідзе захаваліся. Выявіў у 1976 г. Э. М. Зайкоўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Плябань, Красненскі сельсавет**

**1731. КАСЦЕЛ** (гіст., архіт.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі на Мінск. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У час паўстання 1863—64 гг. паўстанцы атрада Ю. Бакшанскага хавалі ў гэтым касцёле зброю.

Будынак прамавугольны ў плане пад высокім двухсхільным дахам. Па фронту галоўнага фасада з заходняга боку дабудавана аднапавярховае крыло. Галоўны фасад двух'ярусны, плоскас-



1727. *Гарадзішча. План.*

ны, раскрапаваны пілястрамі на 3 часткі. Верхні ярус — шчыт з пакатымі бакавымі гранямі і трохвугольным франтонам у завяршэнні. Трохвугольнымі шчытамі завершаны алтарны фасад і тарэц бакавога крыла. Бакавыя сцены рытмічна чляпёны стральчатымі акопнымі праёмамі і магутнымі пілястрамі ў прасценках. Па перыметры будынка праходзіць прафіляваны пояс, які аддзяляе высокую цокальную частку. Зала касцёла перакрыта плоскай драўлянай столлю.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры з выкарыстаннем стылізаваных форм барока і готыкі.

*А. М. Кулагін.*

**1732. МАГІЛА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАННЯ 1863—64 г.** (гіст.). На могілках. Пахаваны Ю. Бакшанскі, Р. Малішэўскі (1823 г.), Л. Ямант (1839 г.) і Л. Банькоўскі (1843 г.), пятнаццацігадовы гімназіст Сулістроўскі — удзельнікі паўстання 1863—64 гг. па Беларусі.

Бакшанскі Юльян нарадзіўся ў 1824 г. у маёнтку Тупальшчына пад Смаргонню ў сям'і шляхціца. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, удзельнічаў у тайных гуртках. За хаванне забароненай літаратуры ў 1841 г. арыштаваны і сасланы ў Разанскую губерню. У пачатку 1846 г. вярнуўся на радзіму. У 1847 г. зрабіў спробу ўзняць паўстанне сялян, звярнуўся з адозвай «Да смаргонскіх сялян»!», у якой заклікаў аб'яднацца з гарадской беднатой і салдатамі, выступіць супраць паноў, чыноўнікаў і афіцэраў. План паўстання не ўдаўся. Ю. Бакшанскага арыштавалі і прыгаварылі да 12 гадоў катаргі, якую ён адбываў у Нерчынску да 1858 г. У 1863 г. арганізаваў у Вілейскім павеце паўстанцкі атрад (25 чалавек). 4.4.1863 г. атрад у сутычцы з урадавымі войскамі быў разбіты.

У 1923 г. на магіле паўстанцаў устаноўлена надмагілле.



**1731.** *Касцёл. Галоўны фасад.*

*Літ.:* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965.— (Восстание 1863 года. Материалы и документы); Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Пранчэйкава, Хоўхлаўскі сельсавет**

**1733. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам васьмігадовай школы. На ўшанаванне памяці 52 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**1734. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ — АРГАНІЗАТАРАМ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА № 620 ІМЯ І. П. КУЗНЯЦОВА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

У снежні 1941 г. палітрук 229-га стралковага палка 8-й стралковай дывізіі М. І. Грыбанаў і работнік Радашковіцкага лясгаса І. Р. Дубанос (кандыдат у члены КПСС, закатаваны фашыстамі ў 1942 г.) стварылі ў вёсцы падпольную групу з воінаў Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне, і мясцовых жыхароў. 12.12.1941 г. адбыўся сход групы (15 чалавек).

Падпольшчыкі збіралі зброю, звесткі аб варожых гарнізонах у Радашковічах, Валожыне, Маладзечне, Ракаве, Пяршаі. Група М. І. Грыбанава ўстанавіла сувязь з падпольнай групай (10 чалавек), створанай камандзірам Чырвонай Арміі І. П. Кузняцовым у в. Белева Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. 13.4.1942 г. на базе абедзвюх груп арганізаваны партызанскі атрад (камандзір І. П. Кузняцоў, начальнік штаба М. І. Грыбанаў). Дзейнічаў на тэрыторыі Валожынскага р-на. За месяц былі ўзброены ўсе партызаны. Пасля разгрому паліцэйскага ўчастка ў Пяршаі акупанты ў маі 1942 г. кінулі на знішчэнне атрада больш за 200 карнікаў. Партызаны перабазіраваліся ў Налібоцкую пушчу. Каля в. Яцкава Валожынскага р-на атрад І. П. Кузняцова аб'яднаўся з атрадам № 620 (камандзір Я. З. Дук, загінуў; камісар І. П. Казак), створаным у красавіку 1942 г. у Заслаўскім р-не.

Аб'яднаны атрад № 620 (з жніўня 1943 г. імя І. П. Кузняцова) да жніўня 1942 г. дзейнічаў самастойна, пасля ў падпарадкаванні асобага злучэння партызанскіх атрадаў. Камандзіры І. П. Кузняцоў (чэрвень — верасень 1942 г., загінуў), С. П. Смірноў (верасень — снежань 1942 г.), В. А. Гаўрыкаў (снежань 1942 г.— студзень 1944 г.), А. В. Шыбін (студзень — ліпень 1944 г.); камісары І. П. Казак (чэрвень — снежань 1942 г.), С. А. Кузняцоў (снежань 1942 г.— студзень 1944 г.), Ф. Р. Сацкі (студзень — ліпень 1944 г.). У ліпені 1942 г. партызаны разграмілі калону нямецкіх войск на дарозе Рудня — Ярцава (Смаленская вобл.), у лістападзе 1942 г.— нямецка-паліцэйскі гарнізон у Вішневе, правялі 5 засад на шашэйных дарогах, больш за 60 дыверсій, знішчылі больш за 30 эшалонаў, узарвалі больш як 20 аўтамашын ворага, 10 мастоў і інш. На базе асобных атрадаў 620-га і 621-га (пазней імя В. П. Чкалава) у лістападзе 1942 г. створана партызанская брыгада імя В. П. Чкалава.

У 1978 г. у гонар падпольшчыкаў, якія стварылі партызанскі атрад 620-ы імя І. П. Кузняцова, і партызан гэтага атрада пастаўлены помнік — 2 гранітныя валуны.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967; За край родной.— Мн., 1978.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Пятроўшчына, Гарадоцкі сельсавет**

**1735. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе левага берага р. Крывец пры ўпадзенні яе ў Бярэзіну, з правага боку ад дарогі ў в. Глінішча. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, моцна парасла лесам. Па ўсім перыметры ўмацавана валам вышынёй 0,5 м, шырынёй 1—2 м (з боку р. Крывец вышыня вала 4 м). Адкрыў і абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,4 м, на ўсходняй ускраіне 1,3 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. І. Шадыра.*

**1736. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам праўлення калгаса «За ўладу Саветаў». На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

## XVIII. РАДАШКОВІЧЫ

Гарадскі пасёлак. Размешчаны на ўскраіне Мінскага ўзвышша пры зліцці рэчак Вязынка і Гуйка з Рыбчанкай, за 32 км на паўднёвы ўсход ад Маладзечна, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Маладзечна, за 10 км ад чыгуначнай станцыі Радашковічы на лініі Мінск — Маладзечна. Тэрыторыя заселена з даўніх часоў. На мысе паміж Вязынкай і Гуйкай знаходзіцца гарадзішча Шведская Гара (5—8 стагоддзі). Упамінаюцца ў пісьмовых крыніцах пад 1447 г. і 1467 г. Належалі Гаштольдам, каралеве Боне, Глябовічам, Агінскім, Радзівілам. Паводле інвентара 1549 г. Радашковічы мелі драўляны замак, пабудаваны на насыпным узгорку. Яго абкружалі ставы, зробленыя на Гуйцы і Вязынцы. Уздоўж замка цягнуўся напоўнены вадою роў, цераз які быў перакінуты пад'ёмны мост. Каля моста знаходзілася галоўная трох'ярусная вежа. У першым ярусе была брама, на дру-

гім — жылыя пакоі, трэці прыстасаваны для абароны. Астатнія 3 вежы, апрача памяшканняў для абароны, мелі каморы і капліцы. Яшчэ адна чатырох'ярусная вежа размяшчалася асобна, на падворку.

З 15 ст. праз Радашковічы праходзіў гандлёвы шлях Мінск — Вільня. У 1569 г. горад атрымаў магдэбургскае права, меў герб, уваходзіў у Мінскі павет Вялікага княства Літоўскага. Жыхары ў канцы 16 — пачатку 17 ст. займаліся рамёствамі, працавала некалькі васкабойняў. Важным прадметам гандлю было збожжа. На 96 дамоў 63 заезныя двары і карчмы.

З 1793 г. Радашковічы ў складзе Расіі, заштатны горад Вілейскага павета, з 1842 г. цэнтр воласці. У час паўстання 1830—31 гг. захоплены паўстанцамі. У 1863—64 гг. тут дзейнічалі паўстанцкія атрады Ю. Бакшанскага і В. Козела-Паклеўскага. З 19 ст. вядомы як цэнтр ганчарнай вытворчасці. У 1897 г. 2615 жыхароў (з іх 44,4 % пісьменных). Працавалі гарадское і рэальнае вучылішчы. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. існаваў гурток РСДРП. У 1913 г. тэатральны гурток паставіў «Паўлінку» Я. Купалы (жыў у Радашковічах у 1903 г.).

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў створаны 1(14).12. 1917 г. З 20 лютага да 14.12.1918 г. акупіраваны германскімі, з ліпеня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. у складзе буржуазнай Польшчы, горад Віленскага ваяводства. У 1920-я гады з Радашковічамі звязана дзейнасць Б. А. Тарашкевіча, С. А. Рак-Міхайлоўскага, Ф. І. Стацкевіча, Я. Е. Гаўрыліка, А. М. Уласава і інш. дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У ліпені 1921 г. тут створана адна з першых у Заходняй Беларусі арганізацыя Таварыства беларускай школы. Некаторы час існавала мастацкая студыя Я. Драздовіча. У 1922—28 гг. працавала беларуская гімназія імя Ф. Скарыны. У 1928 г. адкрыта прыватная беларуская школа.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі і ўз'яднання яе з БССР Радашковічы з снежня 1939 г. у Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г.— гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну атрад воінаў 30-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі на чале з начальнікам штаба палка Захаравым у раёне Радашковіч 24.6.1941 г. знішчыў каля 20 нямецкіх парашутыстаў, а 25 чэрвеня ўступіў у бой з танкамі 20-й дывізіі праціўніка. Фашысты адступілі, страціўшы на полі бою 3 танкі і каля 20 аўтамашын. Толькі ноччу пасля ўпартага бою савецкія воіны адступілі з Радашковіч. 26.6.1941 г. каля пасёлка здзейсніў подзвіг экіпаж капітана М. Ф. Гастэлы, 27.6.1941 г. старшага лейтэнанта І. З. Прэсайзена. Радашковічы 4.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў пасёлку і раёне 6433 чалавекі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (6 студзеня — 1.7.1944 г.) і ЛКСМБ (23.8.1943 г.— 1.7.1944 г.). Вызвалены часцямі 8-га гвардзейскага стралковага корпуса (генерал-лейтэнант М. М. Завадоўскі). З верасня 1944 г. Радашковічы — цэнтр раёна Маладзечанскай вобл., з студзеня 1960 г. у Маладзечанскім р-не, цэнтр саўгаса імя Я. Купалы.



XVIII. *Від на цэнтральную частку г. п. Радашковічы.*

Пасёлак мае акрэсленую лінейную планіровачную структуру. Забудова выцягнута з поўначы на поўдзень уздоўж галоўнай магістралі — вул. Савецкай. Тэрыторыя падзелена на 3 часткі поймамі рэк Вязынка, Гуйка, Рыбчанка. Іх рэчышчы ўключаны ў Вілейска-Мінскую водную сістэму. Дзякуючы прыродна-геаграфічным умовам — маляўнічаму рэльефу, багаццю вады, размяшчэнню ў прыгараднай зоне Мінска, Радашковічы сталі апорным пунктам па абслугоўванню зон адпачынку «Вязынка», «Удра» і «Рыбчанка». Гэтая функцыя пасёлка ўлічана Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва пры распрацоўцы генеральнага плана забудовы 1974 г., які прадугледжвае заніраванне тэрыторыі, арганізацыю разгалінаванай сеткі культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Цэнтр гістарычна сфарміраваны ў паўночна-заходняй частцы пасёлка. На вул. Савецкай знаходзяцца асноўныя аб'екты культурна-бытавога пры-



XVIII. *Дом культуры.*



**1737.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

значэння, на пл. Гастэлы размешчаны будынкі пасялковага Савета народных дэпутатаў, аддзялення сувязі, універмага, сквер. Маляўнічая правабярэжная частка пасёлка раскінулася на ўзгорыстым рэльефе і звязана з далінай р. Гуйка. На месцы, дзе стаяў замак, цяпер размешчаны бальнічны комплекс. На яго тэрыторыі захаваўся драўляны дом з мансардай, дзе ў 1923—31 гг. жыў і працаваў беларускі грамадскі дзеяч, філолаг Б. А. Тарашкевіч. Пасёлак развіваецца ў паўднёва-ўсходнім напрамку. Вядзецца будаўніцтва новага мікраёна з трохпавярховымі жылымі дамамі.

Працуюць: галоўнае прадпрыемства вытворчага аб'яднання «Беларуская мастацкая кераміка», трыкатажны і швейныя цэхі раённага аб'яднання бытавога абслугоўвання, участак Заслаўскага хлебазавода, лясніцтва, гідраметэастанцыя. Новая прамысловая зона ствараецца на паўднёвым усходзе пасёлка. У пасёлку сярэдняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну, М. Ф. Гастэлу, Я. Купалу, экіпажу М. Ф. Гастэлы, Ядвігіну Ш., на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам, на магілах ахвяр фашызму.

У раёне Радашковіч вядзецца будаўніцтва 3 зон адпачынку: «Вязынка» на поўдні, «Рыбчанка» і «Удра» на поўначы. На перасячэнні р. Удры з каналам Вілейска-Мінскай воднай сістэмы створана вадасховішча Удра, закладзены парк.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— Мн., 1974; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— Мн., 1973; Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1.— М., 1897; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978.

*У. В. Алісейчык, В. Б. Караткевіч.*

**1737. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 229 воінаў і 21 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Радашковічах і навакольных вёсках. Сярод пахаваных — воіны 26-й стралковай дывізіі 8-га гвардзейскага стралковага корпуса, 1-й, 11-й, 31-й стралковых дывізій 16-га гвардзейскага стралковага корпуса, 5-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 11-й гвардзейскай арміі, 9-й гвардзейскай механізаванай брыгады 3-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні Радашковіч, а таксама воіны, якія памерлі ад ран у шпіталі.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**1738. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Шведская Гара. На ўскраіне пасёлка, насупраць дома № 14 па вул. Заслаўскай, на мысе правага берага р. Гуйка. Вышыня над поймай ракі 8—10 м. Пляцоўка круглаватая, дыяметрам 55 м, цяпер разворваецца. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1969 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1979 г. В. І. Шадыра. Знойдзены штрыхаваная кераміка, гладкасценны посуд 5—8 стагоддзяў, ганчарная кераміка 12—13 стагоддзяў, абломкі глінянага прасліца і жалезнага ключа. Адносіцца да культур штрыхаванай керамікі, тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і эпохі Кіеўскай Русі.




**1738.** *Гарадзішча. План.*



**1739.** *Дом, дзе жыў Б. А. Тарашкевіч.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. І. Шадыра.*

**1739. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ ТАРАШКЕВІЧ** Браніслаў Адамавіч (гіст.). Вул. Тарашкевіча, 16.

Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, філолаг, літаратар, акадэмік АН БССР (1928 г.) Б. А. Тарашкевіч нарадзіўся 8.1.1892 г. у былым засценку Мацюлішкі (за 25 км ад Вільнюса) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. Вучыўся ў народным вучылішчы, у 2-й Віленскай гімназіі. У 1916 г. скончыў Петраградскі універсітэт. З 1911 г. член Беларускай сацыялістычнай грамады. Падрыхтаваў і выдаў першую «Беларускую граматыку для школ» (1918 г.), якая перавыдавалася 6 разоў. У 1918 г. працаваў загадчыкам культасветаддзела Белнацкома. З 1921 г. дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. У 1918—23 гг. адзін з лідэраў дробнабуржуазнай нацыяналістычнай рэфармісцкай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, узначальваў яе левае крыло. У 1924 г. зблізіўся з камуністамі. Адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы (ТБШ, узнікла ў 1921 г.), якое пад уплывам КПЗБ, пры ўдзеле Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ) вырасла ў масавую арганізацыю, адыграла вялікую ролю ў рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі. У 1922 г. выбраны паслом (дэпутатам) сейма Польшчы, узначаліў у ім беларускую парламенцкую фракцыю, абараняў правы працоўных Заходняй Беларусі. У 1925 г. адзін з стваральнікаў і старшыня ЦК БСРГ, распрацаваў яе праграму. Разам з С. А. Рак-Міхайлоўскім, П. П. Валошыным і П. В. Мятлой стварыў у польскім сейме рабоча-сялянскі пасольскі клуб «Змаганне», які фактычна стаў парламенцкай фракцыяй КПЗБ. У студзені 1927 г. арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, у маі 1928 г. прыгавораны да 12 гадоў турмы. У зняволенні пісаў лістоўкі, брашуры з заклікамі да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Перакладаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, «Іліяду» Гамера і інш.

Каб дыскрэдытаваць Б. А. Тарашкевіча перад шырокімі народнымі масамі, яго спецыяльным распараджэннем прэзідэнта Польшчы ў 1930 г. вызвалілі з турмы. КПЗБ даручыла яму канспіратыўна накіроўваць дзейнасць «Змагання» і ТБШ. 5.2.1931 г. зноў арыштаваны, у лістападзе 1932 г. засуджаны на 8 гадоў катаргі. У выніку абмену палітзняволенымі з верасня 1933 г. у Савецкім Саюзе. З снежня 1933 г. жыў у Маскве, працаваў загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі Міжнароднага аграрнага інстытута, даследаваў аграрную эканоміку капіталістычных краін. Выйшлі працы: «Сялянскае паўстанне ў Галіцыі» («Аграрные проблемы», 1934 г., № 1—2), «Як жывуць сяляне за мяжой» (1935 г.), «Дыферэнцыяцыя сялянства ў Польшчы ў час крызісу. Польская вёска ў час крызісу» (1935 г.) і інш. Памёр 29.11.1938 г. Яго імем названа вуліца ў Радашковічах.

У 1972 г. на доме, дзе жыў Б. А. Тарашкевіч у 1923—31 гг., устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ліс А. Браніслаў Тарашкевіч.— Мн., 1966; Bergman A. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu.— Warszawa, 1977.
*В. Б. Караткевіч.*

**1740. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ ЧАРНЫШЭВІЧ** Аркадзь Дзмітрыевіч (гіст.). Вул. Чарнышэвіча, 4.

Беларускі савецкі пісьменнік А. Дз. Чарнышэвіч нарадзіўся 26.7.1912 г. у в. Кулакі Салігорскага р-на. У 1940 г. скончыў Кудымкарскае педвучылішча. З 1930 г. працаваў на лесанарыхтоўках, настаўнічаў у Пермскай вобл., у 1950—54 гг. дырэктар школы ў Мядзельскім р-не. Друкаваўся з 1940 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Суседзі» (1956 г.), «Марцін Когут» (1958 г.), «Праз зімы і вёсны» (1960 г.), «Новы дом» (1967 г.), рамана-хронікі «Засценак Малінаўка» (кнігі 1—2, 1964—65 гг.), дзе паказаў жыццё беларускай вёскі ў пачатку 20 ст., парасткі класавай свядомасці, нарастанне народнага пратэсту супраць эксплуататарскага ладу напярэдадні Рэвалюцыі 1905—07 гг. Пісаў таксама для дзяцей (аповесці «У адной сям'і», 1951 г., «На сажалках», 1954 г.; зборнік апавяданняў «Зосін лужок», 1952 г., і інш.). У 1979 г. выдадзены «Выбраныя творы» (т. 1—2). Памёр 18.1.1967 г. Яго імем названа вуліца ў Радашковічах.

У 1977 г. на доме, дзе жыў пісьменнік у 1954—61 гг., устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць.— Мн., 1971.

**1741. КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Савецкая, 12. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як вытворчы корпус завода керамікі.

Трохнефавая двухвежавая базіліка з паўцыркульнай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўны, прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам з невялікім ліхтаром, выцягнутая па падоўжнай восі апсіда — больш нізкім двухсхільным дахам. Цэнтр сіметрычнага галоўнага фасада вылучаны глыбокім рызалітам і завершаны двухсхільным шчытом. Квадратныя ў сячэнні чатырох'ярусныя вежы выступаюць з асноўнага аб'ёму, дэкарыраваны скразнымі арачнымі праёмамі, круглымі люкарнамі, завершаны шлемападобнымі купаламі. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна члянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з броўкамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках.

Унутраная прастора (цяпер падзелена на 2 паверхі) члянёна 2 радамі квадратных у сячэнні слупоў на 3 нефы, перакрытыя скляпеннямі (конхавым у цэнтральным і крыжовымі ў бакавых нефах). Сцены крапаваны пілястрамі, буйнымі карнізамі. Скляпенні на падпружных арках. У нартэксе галерэя хораў. Часткова захавалася керамічная арнаментаваная падлога ў апсіднай частцы. Перад касцёлам размешчана трох'арачная брама з лучковым франтонам і паўкалонамі на фасадзе.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1742. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Завулак Чырвонаармейскі. Пахаваны 860 мірных жыхароў, загубленых 11.3.1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1743. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Гастэлы, у двары школы-інтэрната. Пахаваны 340 мірных жыхароў, расстраляных 7.3.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1744. МАГІЛА МАЛЯВІНА** Фёдара Міхайлавіча (гіст.). Вул. Савецкая. На могілках. Старшыня Яршэвіцкага сельскага Савета дэпутатаў працоўных Ф. М. Малявін загублены 9.9.1950 г. ворагамі Савецкай улады. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1745. МАГІЛА ЧАХОВІЧА** Зыгмунта Бярнардавіча (гіст.). На гарадскіх могілках.



1741. *Касцёл. Галоўны фасад.*

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі і ў Літве З. Б. Чаховіч (Чаховіч-Ляхавіцкі) нарадзіўся ў 1831 г. у пас. Сурвілішкіс Кядайнскага р-на Літоўскай ССР у сям'і шляхціца. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. Прыхільнік партыі «чырвоных», член Літоўскага правінцыяльнага камітэта ў 1862—63 гг., паплечнік К. Каліноўскага па падрыхтоўцы і кіраўніцтву паўстаннем. 31.7.1863 г. арыштаваны і засуджаны на 12 гадоў катаргі, якую адбываў у Нерчынскіх рудніках. Пасля жыў у маёнтку Бяседы Вілейскага павета. Тут з ім пазнаёміўся малады Янка Купала.

Памёр З. Б. Чаховіч 15.10.1907 г.

**1746. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АРГАНІЗАЦЫІ КСМЗБ** (гіст.). Вул. 17 Верасня, 13. На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1976 г.

У 1922—28 гг. у Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны дзейнічала падпольная арганізацыя КСМЗБ, пад уплывам якой знаходзілася моладзь гімназіі, школ у мястэчку і за яго межамі. Узначальваў камсамольскую арганізацыю У. І. Таўпека (у 1931 г. прыгавораны да 4 гадоў строгага рэжыму). Актыўным камсамольцам з'яўляўся А. І. Арлоў (арыштаваны ў 1930 г.).

Гімназісты чыталі падпольную камуністычную літаратуру, пратэставалі супраць нацыянальнага прыгнёту, самавольства адміністрацыі, выступалі ў абарону Беларускай сялянска-рабочай грамады, «Змагання», Таварыства беларускай школы і іх кіраўнікоў. У канцы 1928 г.— пачатку 1929 г. урад Пілсудскага пачаў ліквідоўваць беларускія школы. Супраць урадавых рэпрэсій успыхнулі забастоўкі. За ўдзел у іх з Радашковіцкай гімназіі было выключана некалькі навучэнцаў. У хуткім часе ўрад закрыў гімназію.

*Літ.:* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. 2.— Мн., 1972; У суровыя гады падполля.— Мн., 1958. *В. Б. Караткевіч.*

**1747. ПОМНІК ГАСТЭЛУ** Мікалаю Францавічу (гіст., маст.). На пл. Гастэлы, у скверы.

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Гастэла нарадзіўся 23.4.1907 г. у Маскве ў рабочай сям'і (бацька — ураджэнец в. Плужыны Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.). Член КПСС з 1928 г. У 1933 г. скончыў Луганскую школу ваенных лётчыкаў. З 1923 г. працаваў вагранщчыкам у майстэрнях Маскоўска-Казанскай чыгункі, слесарам на заводах у Мураме і Маскве. У Чырвонай Арміі з 1932 г. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандзір эскадрыллі 207-га авіяпалка 42-й бамбардзіровачнай авіядывізіі. З 22.6.1941 г. капітан Гастэла ўдзельнічаў у бамбардзіроўцы танкавых і механі-



1747. *Помнік М. Ф. Гастэлу.*

заваных калон праціўніка. Першы варожы самалёт збіў у 5 гадзін раніцы 24.6.1944 г. з зямлі (з кулямёта свайго бамбардзіроўшчыка), экіпаж быў узяты ў палон. 26.6.1941 г. здзейсніў свой неўміручы подзвіг (гл. артыкул № 1755 «Помнік экіпажу Гастэлы Мікалая Францавіча»). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.7.1941 г. М. Ф. Гастэлу пастаўлены помнікі на тэрыторыі Варашылаўградскага вышэйшага авіяцыйнага вучылішча штурманаў, у г. Мурам, Сухумі, на радзіме бацькі ў Карэліцкім р-не. Яго імем названы калгасы, саўгасы, заводы, фабрыкі, гарадскія пасёлкі, вуліцы, школа-інтэрнат і плошча ў Маладзечне і Радашковічах, цеплаход, акіянскае судна, сухагруз.

Помнік (скульпт. З. Азгур; бронза, граніт; агульная вышыня 5,5 м, вышыня бюста 1,5 м) — пагрудны бюст М. Ф. Гастэлы пастаўлены на прамавугольны ступеньчаты пастамент з чырвонага паліраванага граніту. Партрэт героя выкананы ў выразнай манеры са стараннай прапрацоўкай дэталей. Выпрастаныя плечы, гордая пастава галавы, пільны позірк падкрэсліваюць такія рысы характару, як непахіснасць, энергія, сіла. Форменная скураная куртка, шлем надаюць вобразу жыццёвую верагоднасць. Зеляніна вакол помніка надае яму эстэтычнасць і ўрачыстасць.

*В. М. Барадуліна, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1748. ПОМНІК ГАСТЭЛУ** Мікалаю Францавічу (гіст.). На вул. Гастэлы, каля будынка школы-інтэрната імя М. Ф. Гастэлы. Бюст (скульпт. А. Анікейчык) Героя Савецкага Саюза М. Ф. Гастэлы ўстаноўлены ў 1976 г.

**1749. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Завулак 17 Верасня. У скверы, каля будынка канторы саўгаса імя Я. Купалы. На ўшанаванне памяці 91 воіназемляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**1750. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы на пл. Гастэлы. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1751. ПОМНІК КУПАЛУ** Янку (гіст.). Вул. Савецкая, перад Домам культуры.

Радашковічы і наваколле цесна звязаны з імем Я. Купалы. Тут ён у верасні 1903 г. працаваў пісарам у судовага следчага. Бываў Я. Купала ў Радашковічах і ў 1904—06 гг., калі пазнаёміўся і пасябраваў з Ядвігіным Ш., які жыў па суседству, у фальварку Карпілаўка. У пачатку чэрвеня 1919 г. чытаў яму камедыю «Паўлінка». «Гэта была для мяне вялікая падзея, таму што ўпершыню сутыкнуўся з чалавекам, які не толькі пісьменнік, якога друкуюць, але і піша па-беларуску»,— пісаў пазней народны паэт.

15.8.1913 г. Першае беларускае таварыства драмы і камедыі ў Мінску




1751. *Помнік Янку Купалу.*



1752. *Помнік У. І. Леніну.*

паставіла ў Радашковічах «Паўлінку». На спектаклі прысутнічаў аўтар.

У жніўні 1919 г. паэт наведваў фальварак Калісберг каля Радашковіч, дзе жыла яго сястра Л. Д. Раманоўская. Тут напісаны вершы «На нашым полі...», «З павяўшай славы...» і «Мая навука».

У 1982 г. на ўшанаванне памяці паэта ўстаноўлены бюст.

*В. Б. Караткевіч.*

**1752. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтральным скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1753. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад пасёлка, злева ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Вільнюс.

27.6.1941 г. экіпаж самалёта 128-га бамбардзіровачнага авіяпалка ў складзе пілота старшага лейтэнанта І. З. Прэсайзена, механіка П. Ф. Анікіна і стралка-радыста старшыны А. В. Баранава паспяхова выканаў баявое заданне і вяртаўся на свой аэрадром. Быў заўважаны і пашкоджаны зенітным агнём праціўніка. Ахопленую полымем машыну экіпаж накіраваў на скопішча варожай тэхнікі.

У 1981 г. на месцы подзвігу лётчыкаў пастаўлены мемарыяльны знак: 3 валуны, на адным з іх дошка з імёнамі загінуўшых.

**1754. ПОМНІК ТАРАШКЕВІЧУ** Радаславу Браніслававічу (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пастаўлены ў 1950 г. на ўшанаванне памяці партызана атрада імя Г. К. Жукава брыгады «Штурмавая» Р. Б. Тарашкевіча (сына Б. А. Тарашкевіча).

Р. Б. Тарашкевіч нарадзіўся 9.1. 1925 г. у Вільнюсе. Да Вялікай Айчыннай вайны скончыў 7 класаў Радашковіцкай школы. З 10.9.1943 г. партызан атрада імя Жукава. Загінуў 15.6. 1944 г. у баі з карнікамі ў час прарыву блакады непадалёку ад воз. Палік (Барысаўскі р-н).

**1755. ПОМНІК ЭКІПАЖУ ГАСТЭЛЫ** Мікалая Францавіча (гіст., маст.). На 50-м км шашы Мінск — Вільнюс, за 0,5 км на захад ад Радашковіч.

26.6.1941 г. эскадрылля капітана М. Ф. Гастэлы вылецела на бамбардзіроўку калоны танкаў праціўніка на дарозе Маладзечна — Радашковічы. У час бою варожым снарадам быў пашкоджаны бензабак самалёта, узнік пажар. Камандзір эскадрыллі М. Ф. Гастэла з членамі экіпажа штурманам лейтэнантам А. А. Бурдзянюком, лётчыкам-назіральнікам лейтэнантам Р. М. Скарабагатым і стралком-радыстам старшым сяржантам А. А. Калініным накіравалі ахопленую полымем машыну на скопішча танкаў, бензацыстэрнаў і аўтамашын ворага. Праціўнік панёс вялікія страты. Пасмяротна М. Ф. Гастэлу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, А. А. Бурдзянюк, Р. М. Скарабагаты і А. А. Калінін узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Подзвіг экіпажа М. Ф. Гастэлы ў Вялікую Айчынную вайну паўтарылі больш за 100 экіпажаў савецкіх лётчыкаў. Рэшткі самалёта захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У 1976 г. выпушчаны юбілейныя медалі, прысвечаныя гераічнаму экіпажу.

У 1976 г. на месцы подзвігу экіпажа замест помніка, пастаўленага ў 1964 г., адкрыты новы (скульпт. А. Анікейчык, архіт. Л. Левін, Ю. Градаў; бетон, сілумін; вышыня абеліска 10 м, бюста 5 м). Абеліск нахілены да



1753. *Помнік савецкім лётчыкам.*



1755. *Помнік экіпажу М. Ф. Гастэлы.*

дарогі і завершаны бюстам М. Ф. Гастэлы. Унутраны стан героя, яго нястрымнае жаданне знішчыць ворага перададзены экспрэсіяй пластычных форм, матывамі руху-палёту, накіраванага ўніз, рэзкім нахілам галавы, асіметрыяй зрэзу бюста, нібы расхінутым ветрам адзеннем-крыламі. У грознай суровасці, даведзенай да крайняй мяжы напружання,— упэўненасць і мужнасць. Дарога, якая вядзе на ўзгорак, выкладзена бутам і засыпана graвіем. Каля асновы абеліска яна звужаецца да шырыні яго фасаднай часткі і нібы ўліваецца ў абеліск. На дарозе схематычныя выявы крылаў 4 птушак з імёнамі членаў экіпажа М. Ф. Гастэлы. Каля асновы ўзгорка пастаўлены 2 валуны, паміж якімі сценка-блок, дзе высечаны тэкст: «26 чэрвеня 1941 г. тут здзейсніў подзвіг экіпаж Героя Савецкага Саюза Мікалая Гастэлы».

*Літ.:* Щуцкий С. Герой Советского Союза Николай Гастелло.— Мн., 1952; Навечно в строю. Кн. 1.— М., 1957; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Лысов Г. Нас вел Гастелло.— Неман, 1967, № 1; Гастелло Н. Ф. Рассказ о брате.— М., 1977.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1756. ПОМНІК ЯДВІГІНУ Ш.** (гіст.). На вул. Савецкай, перад будынкам аптэкі.

Беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай прозы Ядвігін Ш. (сапраўднае Лявіцкі Антон Іванавіч) нарадзіўся 13.6.1868 г. у маёнтку Добасна (Кіраўскі р-н Магілёўскай вобл.) у сям'і аканома. Скончыў Мінскую гімназію. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1880 г. арыштаваны і выключаны з Маскоўскага універсітэта. У 1891—97 гг. працаваў у Радашковічах памочнікам аптэкара, загадваў крамай-кааперацыяй. Супрацоўнічаў у польскім, рускім, беларускім друку. Пераклаў на беларускую мову апавяданне У. Гаршына «Сігнал». Напісаў драму «Злодзей» (1892 г., не захавалася). Рабілася спроба паставіць яе на аматарскай сцэне, але мясцовыя ўлады забаранілі спектакль.

Асноўную частку сталага жыцця Ядвігін Ш. правёў у фальварку Карпілаўка каля Радашковіч, дзе займаўся гаспадаркай і напісаў свае асноўныя творы. Першае апавяданне на беларускай мове «Суд» надрукавана ў 1906 г. Літаратурная спадчына пісьменніка: нататкі «Лісты з дарогі» (1910 г.), зборнікі апавяданняў «Бярозка» (1912 г.), «Васількі» (1914 г.), паэма «Дзед Завала» (1910 г.), незакончаны раман «Золата» (1920 г.), фельетоны, нарысы, артыкулы, кніга «Успаміны» (1921 г.). Выдадзены «Выбраныя творы» (1976 г.). Характэрныя асаблівасці творчасці пісьменніка — незвычайная вера ў чалавека, яго розум, непрымірымасць да несправядлівасці і фальшу, глыбокая філасафічнасць. Памёр 24.2.1922 г. у Вільні.

У 1978 г. на ўшанаванне памяці Ядвігіна Ш. пастаўлены помнік — гранітны валун з дошкай, на якой інфармацыйны надпіс.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977.

*В. Б. Караткевіч.*

**1757. ЦАРКВА** (архіт.). Па вул. Савецкай, на ўзвышшы. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з трох частак: двух'яруснай чацверыковай званіцы, прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму пад двухсхільным дахам і гранёнай апсіды. Шацёр званіцы завершаны макаўкай на васьміграннай шыйцы. Сцены вертыкальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1758. ЦЭНТР КЕРАМІЧНАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ** (гіст.).

У 19 — 1-й палове 20 ст. у Радашковічах і навакольных вёсках было развіта традыцыйнае ганчарства. Спосабам ручной лепкі і на ганчарным кру-



1757. *Царква.*



1760. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

зе з наступным гартаваннем тут выраблялі бытавы посуд: гаршкі, гладышы, цёрлы, міскі. У 1974 г. адкрыты завод мастацкай керамікі (з 1979 г.— галаўное прадпрыемства вытворчага аб'яднання «Беларуская мастацкая кераміка»). Асноўная прадукцыя завода — вырабы утылітарнага і дэкаратыўна-мастацкага характару: наборы посуду для вады, піва, квасу, кавы, сталовыя, чайныя сервізы, дэкаратыўныя вазы, збаны, кубкі і інш. Пераважная частка вырабаў ствараецца шляхам адліўкі ў гіпсавых формах ці штампоўкі на паўаўтаматах, адзабляецца рэльефным дэкорам, размалёўкай, глазураваннем. У вырабах прасочваюцца традыцыі мясцовых майстроў. *Я. М. Сахута.*

**в. Радзеўцы, Граніцкі сельсавет**

**1759. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 4.7. 1944 г. Вёска была спалена (41 двор). У 1956 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла.

**в. Раёўка, Красненскі сельсавет**

**1760. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 30 партызан брыгады імя М. Ф. Фрунзе і асобнага атрада імя Р. І. Катоўскага, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942—44 гг. на тэрыторыі былога Ільянскага р-на і пры вызваленні в. Раёўка 28.6.1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1761. КАПЛІЦА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1935 г. з дрэва.

Будынак пад двухсхільным дахам з пяціграннай алтарнай прыбудовай. На галоўным фасадзе выступае трох'ярусная чацверыковая званіца, завершаная чатырохгранным шатром. Сцены гарызантальна ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і дзвярным праёмамі. Унутраная прастора перакрыта драўляным цыліндрычным скляпеннем. У інтэр'ер адкрыта каркасная канструкцыя званіцы.

Капліца — прыклад народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1762. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАБОЧЫМ** (гіст.). На адміністрацыйным будынку кардоннай фабрыкі «Раёўка». Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 12 рабочых прадпрыемства, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**1763. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ РАБОЧЫХ у 1905 г.** (гіст.). На адміністрацыйным будынку кардоннай фабрыкі «Раёўка». Устаноўлена ў 1967 г. у памяць аб выступленні рабочых прадпрыемства ў Рэвалюцыю 1905—07 гг.

26.11.1905 г. рабочыя разам з сялянамі навакольных вёсак разграмілі фабрыку, якая на той час належала мясцоваму памешчыку. Улады прыслалі казакоў, якія жорстка расправіліся з удзельнікамі выступлення.

**1764. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ імя М. Ф. ФРУНЗЕ** (гіст.). Вул. Леніна, перад Домам культуры.

Партызанская брыгада імя М. В. Фрунзе створана ў студзені 1943 г. на



1761. *Капліца.*



1764. *Помнік у гонар партызанскай брыгады імя М. Ф. Фрунзе.*

базе асобных атрадаў «За Радзіму», імя К. Я. Варашылава, «Камсамолец» (дзейнічалі з лета 1942 г.) і дыверсійных груп І. І. Міроненкі і З. С. Трацэўскага. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Радашковіцкага, Ільянскага р-наў Вілейскай і Лагойскага р-на Мінскай абласцей. Камандзіры брыгады М. М. Багатыроў (студзень — май 1943 г.), А. М. Захараў (май — верасень 1943 г., загінуў), Э. Л. Смаленскі (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары І. І. Міроненка (студзень 1943 г.— студзень 1944 г.), П. М. Шалкоўскі (студзень — сакавік 1944 г.), М. В. Чарапанаў (сакавік — ліпень 1944 г.).

Партызаны брыгады вялі баявыя аперацыі на чыгуначных участках Маладзечна — Вілейка, Маладзечна — Мінск, гramілі гарнізоны гітлераўцаў у вёсках Раёўка, Хаценчыцы, Ілья, Вязынь, Паперня, Раманаўцы. У студзені 1944 г. народныя мсціўцы падарвалі электрастанцыю ў Маладзечне, 7 разоў перарэзвалі падземны тэлефонны кабель, які звязваў нямецкі фронт з Берлінам. Карнікі некалькі разоў беспаспяхова блакіравалі брыгаду. 28.6.1944 г. партызаны брыгады разграмілі варожыя гарнізоны ў Раёўцы, Ільі і Вязыні і ўтрымлівалі вёскі да падыходу часцей Чырвонай Арміі. На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй (1.7.1944 г.) брыгада яднала 4 атрады: «За Радзіму», імя К. Я. Варашылава, «За Савецкую Беларусь» і «Чырвоны сцяг» (844 партызаны).

У 1975 г. у гонар партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе ўстаноўлены камень-валун, на якім дошка з памятным надпісам.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975; Шубин Г. А. Из истории всенародной борьбы против немецко-фашистских окку-



1765. *Помнік М. А. Багдановічу.*

пантов в западных областях Белоруссии (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Волгоград, 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Ракуцёўшчына, Красненскі сельсавет**

**1765. ПОМНІК БАГДАНОВІЧУ** Максіму Адамавічу (гіст.). За 1 км ад вёскі, справа ад дарогі Краснае — Чысць.

Беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры М. А. Багдановіч нарадзіўся 27.11.1891 г. у Мінску ў сям'і беларускага этнографа і фалькларыста А. Я. Багдановіча. У 1911 г. скончыў у Яраслаўлі гімназію, у 1916 г.— Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. У ліпені 1911 г. наведаў Вільню, у рэдакцыі газеты «Наша ніва» сустрэўся з беларускімі пісьменнікамі, якія параілі яму на ўсё лета паехаць у фальварак Ракуцёўшчына, каб бліжэй пазнаёміцца з жыццём сялян, пачуць жывую беларускую мову. Фальварак быў побач з вёскай, вакол лес, луг з ручаём. Тут М. Багдановіч пражыў амаль 2 месяцы. На аснове ўражанняў, звязаных з гэтай паездкай, напісаў верш «У вёсцы», пачаў паэму «Веранiка». З кастрычніка 1916 г. працаваў сакратаром Мінскага губернскага харчовага камітэта. У лютым 1917 г. цяжка хворы выехаў на лячэнне ў Ялту.

Першы друкаваны твор — апавяданне «Музыка» (1907 г.), напісанае ў стылі казкі-прытчы. Раннія вершы прасякнуты гуманістычнымі матывамі («Мае песні», «З песняў беларускага мужыка» і інш.). У вершах 1909—10 гг. шырока выкарыстоўваў фальклор, народныя песні. З узмацненнем рамантычных тэндэнцый паглыбілася сацыяльна-філасофская праблематыка яго твораў (цыкл «Згукі бацькаўшчыны», «Перад паводкай», «Мая душа», «Рушымся, брацця, хутчэй»).

Уздым рэвалюцыйна-вызваленчага руху пасля Ленскіх падзей 1912 г., засваенне перадавых творчых прынцыпаў брацкіх славянскіх літаратур зрабілі вялікі ўплыў на далейшую творчасць паэта. Вядучай у яго творах становіцца сацыяльна-патрыятычная праблематыка, услаўленне актыўнай, здольнай на подзвіг асобы («Пан і мужык», «Ліст», «Народ, Беларускі Народ!» і інш.). Разам з З. Бядуляй, М. Гарэцкім і інш. М. Багдановіч становіцца адным з найбольш актыўных прадстаўнікоў беларускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў, паслядоўнікаў і аднадумцаў Я. Купалы і Я. Коласа. Адзіны прыжыццёвы зборнік «Вянок» (1913 г.). Перакладаў на беларускую мову творы антычных аўтараў (Гарацый, Авідзій), вершы Ф. Шылера, Г. Гейнэ, П. Верлена, Э. Верхарна, А. Пушкіна, А. Майкава і інш. Гэта ўзнімала ўзровень творчасці М. Багдановіча, далучала беларускую літаратуру да сусветнага літаратурнага працэсу. У перакладах на рускую мову твораў Т. Шаўчэнкі, І. Франка, Я. Купалы асабліва выявіўся прынцып творчых адносін да арыгінала, захавання яго ідэйных і мастацкіх нацыянальных асаблівасцей стылю. Адзін з першых у беларускай літаратуры пачаў распрацоўку складаных паэтычных форм, імкнуўся сцвердзіць вялікія вобразна-выяўленчыя магчымасці беларускай мовы. Пісаў літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. М. А. Багдановіч памёр 12.5. 1917 г. Пахаваны ў Ялце. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Гродне, у 1981 г. у Мінску заснаваны літаратурны музей паэта, у Мінску і Гродне ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, у Мінску і Місхоры пастаўлены помнікі.

У 1977 г. у в. Ракуцёўшчына на ўспамін аб знаходжанні там паэта ў 1911 г. пастаўлены помнік: 2 гранітныя валуны. На адным з іх радкі з «Санета», прысвечанага прафесару Харкаўскага універсітэта А. Л. Пагодзіну, упершыню апублікаванага ў «Нашай ніве» 1.7.1911 г.:

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

У 1981 г. у вёсцы пасаджаны мемарыяльны «Максімаў сад» (70 дрэў).

*Літ.:* Шлях паэта: Зб. успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча.— Мн., 1975; Бачыла А. Дарогамі Максіма.— Мн., 1971; Ляшковіч В. А. Найдаражэйшы скарб.— Мн., 1985.

**в. Сакаўшчына (не існуе), Мясоцкі сельсавет**

**1766. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сакаўшчына знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Загорскае. 11.11.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі яе. Пасля вайны не адрадзілася. У 1973 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлена стэла.

**в. Схоліна, Палачанскі сельсавет**

**1767. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,3 км злева ад дарогі Мамоны — Літва, ва ўрочышчы Цагельня. 12 насыпаў дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,6—1,0 м. Могільнік вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сычавічы, Граніцкі сельсавет**

**1768. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі сагналі ў хату П. М. Забаронка 86 жыхароў і спалілі іх, а таксама вёску (93 двары). У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Трапалава, Маркаўскі сельсавет**

**1769. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 150 м на паўночны ўсход ад вёскі, на ўзгорку вышынёй каля 15 м. Захавалася ўсходняя частка пляцоўкі памерам 40×20 м і заходняя памерам 20×60 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1770. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Удранка, Радашковіцкі пасялковы Савет**

**1771. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі, абапал дарогі ў г. п. Радашковічы. 96 насыпаў вышынёй 0,5—2,3 м, дыяметрам 3—16 м. Абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Хажова, цэнтр сельсавета**

**1772. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы, каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. На ўшанаванне памя-




1771. *Курганны могільнік. План.*



**1772.** *Помнік землякам.*

ці 74 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 18 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1773. ПОМНІК У ГОНАР МІТЫНГУ СЯЛЯН** (гіст.). На плошчы, перад будынкам гандлёвага цэнтра.

5.2.1919 г. у вёсцы адбыўся мітынг, на якім сяляне выслухалі прамову «Савецкая ўлада ці буржуазная рэспубліка?» і пастанавілі: усімі сіламі падтрымліваць Савецкую ўладу. Пастанова заканчвалася абавязацельствам па першаму патрабаванню са зброяй у руках стаць на абарону Кастрычніка і прывітаннем Уладзіміру Ільічу Леніну.

У 1977 г. у памяць аб мітынгу сялян устаноўлены гранітны валун, на якім змешчаны тэкст пастановы.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Хоўхлава, цэнтр сельсавета**

**1774. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Цэнтральная. На могілках. Пахаваны 11 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 г. і ў ліпені 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1775. КАПЛІЦА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі, каля касцёла Дзевы Марыі. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з цэглы на бутавым фундаменце.

Капліца квадратная ў плане, пад двухсхільным дахам. Галоўны (паўднёвы) фасад вылучаны франтонам з паўкруглым акном. Вуглы і сцены аздоблены пілястрамі, спрошчаным антаблементам. Вокны ў плоскім арачным абрамленні з дэкаратыўным замковым каменем. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

Капліца — помнік архітэктуры малых форм, вырашаны ў стылі позняга класіцызму.

*У. В. Алісейчык.*

**1776. КАСЦЁЛ ДЗЕВЫ МАРЫІ** (архіт.). У заходняй частцы вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з дрэва. Пазней да галоўнага (заходняга) фасада прыбудаваны чатырохкалонны порцік. У 1866 г. будынак прыстасаваны пад царкву. У 1939 г. рэстаўрыраваны.

Храм двухвежавы, з пяцігранным алтарным прырубам і паўночнай сакрысціяй. Асноўны зруб і алтарная прыбудова накрыты высокім гонтавым дахам з плаўным пераходам на стыку аб'ёмаў і вальмай над алтарнай часткай, з боку галоўнага фасада з заломам. Галоўны фасад фланкіраваны невысокімі чацверыковымі вежамі, надбудаванымі па вуглах даху. Паміж вежамі размешчаны франтон. Сцены касцёла прарэзаны здвоенымі вокнамі, вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны па перыметры сцяжкамі. Чатырохкалонны порцік арганічна ўвайшоў у архітэктуру касцёла, узбагаціў яго пластыку.

Інтэр'ер зальны. Асноўны аб'ём і алтарная частка складаюць адзіную ўнутраную прастору, перакрытую несапраўдным люстраным скляпеннем. У асноўным аб'ёме вылучаны прытвор. Над ім зроблены хоры, сярэдняя крывалінейная частка якіх выступае ў асноўнае памяшканне. Інтэр'ер упрыгожвала паліхромная размалёўка (не захавалася).

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока.

*У. В. Алісейчык.*

**1777. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУДНАМУ** Сымону (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1976 г. на ўшанаванне памяці гуманіста, асветніка, філосафа, гісторыка, філолага і рэлігійнага рэфарматара С. Буднага, які ў сярэдзіне 1560-х гадоў жыў у маёнтку магнатаў Кішкаў у Хоўхлаве.

**1778. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Цэнтральная. У Вялікую Айчынную вайну 46 вяскоўцаў загінулі на франтах, 5 савецкіх актывістаў расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г., 8 партыйных і савецкіх работнікаў загінулі ў 1944—49 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады. У 1965 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



**1773.** *Помнік у гонар мітынгу сялян.*



**1774.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1779. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам выканкома сельскага Савета. У 1982 г. пастаўлены камень-валун з дошкай на ўшанаванне памяці сакратара Маладзечанскага райкома ЛКСМБ А. Л. Еўпака, старшыні Хоўхлаўскага сельсавета М. У. Сахандыкава і байцоў добраахвотных знішчальных атрадаў, якія загінулі ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады ў 1947—49 гг.

**в. Цюрлі, цэнтр сельсавета**

**1780. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск з барэльефнымі выявамі юнака і дзяўчыны.

**в. Чырвонаармейская, Хоўхлаўскі сельсавет**

**1781. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі 8.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Чысць, Красненскі сельсавет**

**1782. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Шыпулічы, Гарадзілаўскі сельсавет**

**1783. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 3—5 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Яхімоўшчына, Палачанскі сельсавет**

**1784. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на поўнач ад вёскі. Захавалася 7 насыпаў дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,5—0,7 м. Могільнік вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**1785. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУПАЛУ** Янку (гіст., архіт.). Устаноўлена ў 1959 г. на будынку канторы саўгаса «Яхімоўшчына».

У 1906—07 гг. тут у маёнтку памешчыка Любанскага працаваў на бровары памочнікам вінакура Я. Купала. Пазней паэт успамінаў, што ў час службы на бровары «зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не меў». Тут ён напісаў вершы «З песень нядолі», «А хто там ідзе?», «Дайце мне...», «Што ты спіш?», «Ворагам Беларушчыны», «Поле роднае», «Гэта крык, што жыве Беларусь», «Пакіньма напуста на лёс свой наракаць» і інш. Рыхтаваў да друку свой першы зборнік «Жалейка». Работа Я. Купалы на бровары адлюстравана ў малюнках мастакоў Я. Раманоўскага, В. Ціхановіча, М. Гусева.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. На запаветнай зямлі.— Мн., 1974.

**1786. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУПАЛУ** Янку (гіст.). Устаноўлена ў 1982 г. на хаце, у якой у 1906—07 гг. жыў паэт, калі працаваў на бровары. Работа на бровары ў маёнтку, знаёмства з сялянамі далі шмат тэм для яго твораў. У аснову паэмы «Нікому», напрыклад, лягло пачутае ад жыхара вёскі В. Л. Парфена апавяданне з часоў прыгону.

**1787. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Сфарміравана ў канцы 19 ст. Ансамбль згрупаваны вакол сажалкі. Уключае сядзібны дом, жылыя цагляны і драўляны дамы, парк, бровар і 2 свірны.

Сядзібны дом. Размешчаны з паўднёва-заходняга боку сажалкі, на краі парку. Пабудаваны ў 1900 г. з цэглы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Галоўны (паўднёва-ўсходні) фасад выходзіць на шырокую, афармленую купамі дрэў паляну, вылучаны 3 рызалітамі. Цэнтральны рызаліт дэкарыраваны трохвугольным франто-



1775. *Капліца.*



1775. *Капліца. План.*



1776. *Касцёл Дзевы Марыі. План.*



1776. *Касцёл Дзевы Марыі. Галоўны фасад.*



1779. *Помнік савецкім актывістам.*



1787. *Сядзібны дом. План.*



1787. *Жылы дом цагляны. План 1-га паверха.*




1787. *Жылы дом драўляны. План.*

нам і ступеньчатым атыкам, бакавыя — паўкруглымі франтонамі; рызаліты апрацаваны плоскімі пілястрамі, вуглы руставаныя. Дваровы фасад мае спрошчанае вырашэнне, бакавыя члянёны паўкруглымі арачнымі нішамі. Планіроўка мяшаная, анфіладна-калідорная.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры неакласіцызму з выкарыстаннем у афармленні фасадаў ордэрнай пластыкі.

Бровар. Размешчаны ва ўсходняй частцы сядзібнага ўчастка. Пабудаваны ў 1898 г. з цэглы. Складаецца з прамавугольнага ў плане двухпавярховага асноўнага аб'ёму і кацельні. Галоўным (паўднёва-заходнім) фасадам павернуты да сажалкі, сцены члянёны лапаткамі. Паверхі раздзелены цягай. Вокны лучковыя ў плоскім абрамленні. Перакрыцце асноўнага памяшкання падтрымліваюць 4 слупы.

Бровар — прыклад прамысловай архітэктуры.

Жылы дом цагляны. Пабудаваны ў 1897 г. Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з бакавымі рызалітамі, накрыты вальмавым чарапічным дахам. Вокны лучковыя. Фасады дэкарыраваны замковымі камянямі і антаблементам з аркатурным поясам.

Жылы дом драўляны. Пастаўлены ў 1900 г. на бутавым фундаменце. Кватэры маюць асобныя ўваходы, размешчаныя з розных бакоў дома.

Парк эканамічнага тыпу. Спланаваны па рэгулярнай схеме. У кампазіцыю ўключаны прамавугольная абсаджаная дрэвамі сажалка. Алеі ўзаемна перпендыкулярныя, абсаджаныя бярозай, таполяй, елкай, асінай, трапляюцца ясень, лістоўніца. З паўднёва-ўсходняга боку пладовы сад. Перад сядзібным домам пасадкі бэзу.




1787. *Бровар. План 1-га паверха.*

Свірны. Дзве аднолькавыя пабудовы. Размешчаны з заходняга боку ўчастка. Пабудаваны ў 1851 г. з драўляных брусоў на бутавай аснове. Квадратныя ў плане, з шырокімі вальмавымі дахамі.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры і садова-паркавага мастацтва.

*У. В. Алісейчык.*

# МІНСКІ РАЁН




Шаршуны
Рагава
Новы Двор
Юзуфова
Пятрышкі
Слабада
Астрашыцкі Гарадок
Лашаны
Паперня
Сёмкава
Дзехнаўка
Бальшавік
Лясны
ЗАСЛАЎЕ
Кіршы
Ціна
Ратамка
Гарані
Ждановічы
Калодзішчы
Траскоўшчына
МІНСК *
Чачкава
Хацежына
Стар.Сяло
Азярцо
Сосны
Сеніца
Шчомысліца
Калядзічы
Абчак
Новы Двор
Замасточча
Лугавая Слабада
Чурылавічы
Міханавічы
Самахвалавічы
Крупіца

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

 савецкага перыяду

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні



* Заўвага: *Помнікі і памятныя месцы г. Мінска гл. ў т. VII „Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінск"*

**в. Абчак, Лугаваслабадскі сельсавет**

**1788. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 307 воінаў. Сярод іх — воіны 110-й і 362-й стралковых дывізій, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Азярцо, Шчомысліцкі сельсавет**

**1789. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 64 воіны, сярод іх — воіны 26-й гвардзейскай брыгады 2-га гвардзейскага танкавага корпуса, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1790. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан І. І. Пупко загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Аколіца, Астрашыцка-Гарадоцкі сельсавет**

**1791. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1968 г.

Старшыня ЦВК СССР М. І. Калінін у ліпені 1935 г. наведаў Беларусь у сувязі з 15-годдзем вызвалення ад польскіх інтэрвентаў. На юбілейнай сесіі ЦВК БССР 11.7.1935 г. ён зачытаў пастанову Прэзідыума ЦВК СССР аб узнагароджанні БССР ордэнам Леніна і ўручыў ордэн.

12.7.1935 г. М. І. Калінін прыехаў у калгас «Новы шлях» Астрашыцка-Гарадоцкага сельсавета. Адбыўся мітынг, на які сабраліся сяляне з навакольных вёсак. М. І. Калінін павіншаваў калгаснікаў са святам 15-годдзя вызвалення Беларусі ад інтэрвентаў, з узнагародай рэспублікі ордэнам Леніна і пажадаў добра працаваць, умацоўваць абараназдольнасць Радзімы.

*Літ.:* Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975; М. И. Калинин в Белоруссии.— Мн., 1973.

*В. В. Семянюк.*

**1792. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Анопаль, Крупіцкі сельсавет**

**1793. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст., маст.). Каля могілак. Пахаваны 74 воіны. Сярод іх — воіны 1311-га стралковага палка 173-й Аршанскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. Г. Мурамцаў, Ю. Палякоў; бетон; вышыня абеліска 10 м, скульптуры 6 м). Помнік — архітэктурна-скульптурная кампазіцыя, якая складаецца са скульптуры воіна і абеліска з гарэльефнымі выявамі жураўлёў; усе элементы рытмічна і сэнсава ўзаемазвязаны. Суровай прастатой вылучаецца манументальная фігура смяротна параненага байца, які нібы прыўзняўся апошнім намаганнем волі і праводзіць поглядам чараду жураўлёў. Скульптура ўстаноўлена на нізкай пляцоўцы-стылабаце, выканана ў абагульненых, рубленых формах. Вертыкаль белага абеліска апяразана 2 цёмнымі фрызамі: на ніжнім прозвішчы воінаў, што загінулі, на верхнім выявы жураўлёў. Жураўліная чарада надае кампазіцыі прасторавае развіццё, напаўняе яе паэтычным жыццесцвярджальным зместам. Элементы кампазіцыі аб'ядноўвае пляцоўка, выкладзеная бетоннымі плітамі, прастору яе абмяжоўваюць парапеты з бутавых камянёў.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**1794. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, у пойме р. Пціч. Сфарміравана ў 2-й палове 18—1-й палове 19 ст. Уключала сядзібны дом, гаспадарчыя будынкі, драўляны касцёл (1776 г., не збярогся), парк з сажалкай (захаваўся часткова). Шырокая праезная дарога падзяляе комплекс на 2 часткі: паўднёвую, дзе знаходзяцца сядзібны дом і гаспадарчыя будынкі, і паўночную — парк і сад.

Сядзібны дом (перабудаваны ў пасляваенны час). Мураваны, аднапавярховы, з прыбудаваным у тарцовай частцы двухпавярховым квадратным у плане аб'ёмам (флігелем). Тарцовая частка, завершаная трохвугольным франтонам з карнізным паяском з сухарыкамі, трактуецца як галоўны фасад. Сцены будынка гладкія, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка дома зменена. Выкарыстоўваецца пад жыллё і гандлёвыя ўстановы.

Парк. Захаваліся 3 тэрасы, размешчаныя паслядоўна адна за адной, акаймаваны шырокай паўкруглай ліпавай алеяй, што 2 канцамі выходзяць на дарогу. У цэнтры кожнай тэрасы паляна, абсаджаная купамі дрэў. Найбольш пашыраны ліставыя пароды: ліпа, клён, ясень. Радзей трапляюцца лістоўніца і елка. На захад ад парку знаходзіцца фруктовы сад.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры з элементамі класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*




1794. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — парк; 3 — сад; 4 — гаспадарчая пабудова; 5 — сучасны будынак.*

**в. Анусіна, Пятрышкаўскі сельсавет**

**1795. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,15—0,2 км на захад ад паўночнай ускраіны вёскі. За 0,4 км ад р. Свіслач (правы бераг), на ўзгорку. 50 насыпаў дыяметрам 5—7 м, вышынёй 0,5—1 м, некаторыя пашкоджаны ямамі. Адкрыў і абследаваў у 1983 г. Э. М. Зайкоўскі, даследаваў у 1983 г. Ю. А. Заяц, раскапаны 4 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад у падкурганных ямах глыбінёй 0,3—0,65 м. Пад насыпамі прасочаны рэшткі рытуальных кастроў. У жаночым пахаванні знойдзены пярсцёнкападобныя і з завітком скроневыя кольцы, шкляныя, пазалочаныя пацеркі, ланцужок, пярсцёнак і бразготка з крыжападобнай прораззю. Мужчынскае пахаванне было безінвентарным. У двух іншых раскапаных насыпах пахаванняў не было. Датуецца могільнік 2-й паловай 11 — пачаткам 12 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Заяц Ю. А. Работы в Изяславле.— У кн.: Археологические открытия 1983 года. М., 1985.

*Ю. А. Заяц, Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Арэхаўская, Хацежынскі сельсавет**

**1796. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Астрашыцкі Гарадок, цэнтр сельсавета**

**1797. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На скрыжаванні дарог Мінск — Вільнюс, Мінск —Лагойск. Пахаваны 104 воіны 100-й стралковай дывізіі.

У ноч з 25 на 26.6.1941 г. 100-я дывізія пад камандаваннем генерал-маёра І. М. Русіянава заняла абарону на подступах да Мінска на рубяжы Астрашыцкі Гарадок — Карасі. Сканцэнтраваўшы на гэтым участку буйныя сі-

лы, гітлераўцы спрабавалі прарваць абарону. Савецкія воіны мужна змагаліся з ворагам, выкарыстоўвалі супраць танкаў ворага бутэлькі з бензінам. 27 чэрвеня 100-я дывізія разам з 161-й стралковай дывізіяй (камандзір палкоўнік А. І. Міхайлаў) перайшла ў наступленне і адкінула гітлераўцаў на 13—14 км на паўночны захад. Але сілы былі няроўныя. Вораг меў перавагу ў танках і авіяцыі. З баямі дывізія адышла на ўсход. За няпоўныя трое сутак разграміла 82-і пяхотны полк 31-й пяхотнай дывізіі, 25-ы танкавы полк 7-й танкавай дывізіі, знішчыла 101 танк, 13 бронемашын, 61 матацыкл, 23 процітанкавыя гарматы праціўніка. 18.9.1941 г. 100-й стралковай дывізіі прысвоена ганаровае званне гвардзейскай, яна перайменавана ў 1-ю гвардзейскую стралковую дывізію.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — танк Т-34.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Руссиянов И. Н. В боях рожденная...— М., 1982; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

**1798. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 41 воін 2-й мотастралковай і 19-й танкавай брыгад 3-га гвардзейскага танкавага Кацельнікаўскага корпуса 5-й гвардзейскай танкавай арміі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1799. МАГІЛА БЕГАЛІЕВА** Абдушукура (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі Масква — Вільнюс. Воін 100-й стралковай дывізіі А. Бегаліеў загінуў у чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1800. МАГІЛА КРУЧАНКА** Мішы (гіст.). На могілках. Юны партызан М. Кручанок загінуў летам 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1801. МАГІЛА ПАШЫКА** Васі (гіст.). На могілках. Юны партызан В. Пашык загінуў летам 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1802. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 242 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**1803. ЦАРКВА І КАПЛІЦА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з дрэва.

Царква — аднаэрубны будынак, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны заходні фасад вылучаны двух'яруснай вежай, размешчанай над уваходам. Ярусы вежы васьміграпныя, глухія, завершаны невысокім шатром. Над алтарнай часткай узвышаецца чацверыковая галоўка. Сцены гарызантальна ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны з плоскім бэлечным перакрыццем.

Капліца. Размешчана побач з царквой, невялікая, аднаэрубная, прамавугольная ў плане, з трохграннай апсідай. Шматгранны з вальмамі дах прарэзаны невысокай вежачкай (чацвярык на чацверыку), якую падтрымліваюць 2 калонкі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вуглы ўмацаваны лапаткамі.

Царква і капліца — помнікі народнага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Байдакі, Гаранскі сельсавет**

**1804. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 118 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 390-га асобнага артпалка, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бальшавік, Папярнянскі сельсавет**

**1805. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 8 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1919 г. у баях супраць польскіх інтэрвентаў пры абароне Мінска, і 38 савецкіх воінаў, у т. л. воіны 212-га стралковага палка 49-й стралковай дывізіі, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Рыгор Мікітавіч Зубаў.



1803. *Царква.*



1803. *Капліца.*

Р. М. Зубаў нарадзіўся 25.12. 1910 г. у в. Беланогава Куртамышскага р-на Курганскай вобл. у сялянскай сям'і. У Айчынную вайну з 1941 г. на Ленінградскім, Заходнім, Сталінградскім, 2-м Украінскім і 3-м Беларускім франтах. Механік-вадзіцель танка старшы сяржант Р. М. Зубаў вызначыўся пры вызваленні Украіны і Беларусі ў 1944 г. У баі пад Кіравааградам з экіпажам танка знішчыў 4 танкі праціўніка, у баі за г. Крывы Рог знішчыў 7 процітанкавых гармат, 5 мінамётаў, 30 аўтамашын, 13 агнявых кропак ворага. У час Беларускай аперацыі ў баі 3.7.1944 г. каля в. Пільніца Мінскага р-на Р. М. Зубаў ахопленым агнём танкам тараніў варожы танк «тыгр», загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.9.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. Куртамыш.

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Банцараўшчына, Ждановіцкі сельсавет**

**1806. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, за 10 км на паўночны захад ад Мінска, за 2,5 км на паўночны ўсход ад чыгуначнай станцыі Ждановічы, на левым беразе р. Свіслач (цяпер тут вадасховішча «Дразды»). Вышыня над летнім меканным узроўнем вады ў рацэ 20—22 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з усходу на захад, памерам 55×35 м. З поўначы і паўночнага захаду ўмацавана 2 валамі вышынёй каля 2 м і равамі глыбінёй 1,5—2 м, шырынёй 12—14 м. Уваход на пляцоўку ў выглядзе перамычкі на ўсход-

нім канцы гарадзішча, каля яе прасочаны рэшткі вала, што закрываў уваход на пляцоўку. Схілы гарадзішча зараслі лесам і кустамі. Адкрылі ў 1925 г. М. М. Улашчык і С. С. Шутаў, даследавалі ў 1926—28 гг. С. А. Дубінскі, у 1948—49 гг. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2—1,8 м, мае верхні і ніжні гарызонты. У ніжнім знойдзены жалезныя сярпы, нажы, шылы, наканечнікі коп'яў, бронзавыя і жалезныя пярсцёнкі, падвескі, фібула, шпількі, ляпная штрыхаваная кераміка. Ніжні гарызонт датуецца 3 ст. да н. э.— 4 ст. н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі наземных пабудоў, печаў-каменак, прылады працы, упрыгожанні (у т. л. бронзавы бранзалет, лунніца), 20 гліняных гаршкоў, у якіх захаваліся апаленыя зярняты пшаніцы, гароху і проса. Датуецца 6—8 стагоддзямі н. э. Ад верхняга пласта гарадзішча атрымала назву культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Баравая, Бараўлянскі сельсавет**

**1807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН, ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 0,8 км на захад ад вёскі, у полі. Пахавана больш за 30 тыс. ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў, мірных жыхароў Мінска і навакольных вёсак, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі ў 1941—43 гг. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Бараўляны, Бараўлянскі сельсавет**

**1808. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Школьная, 20. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бардзілаўка, Міханавіцкі сельсавет**

**1809. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля пясчанага кар'ера. Вышыня 1 м, дыяметр 4 м. Адкрыў у 1977 г. і абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль.

**в. Браўкі, Лашанскі сельсавет**

**1810. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка фельчарска-акушэрскага пункта. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Будзённага, Астрашыцка-Гарадоцкі сельсавет**

**1811. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Буды, Юзуфоўскі сельсавет**

**1812. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі, на невялікім, моцна зарослым кустамі і дрэвамі ўзвышшы. 130 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 2—4 м. Асобныя курганы пашкоджаны ямамі. Даследавалі ў 1963 г. Э. М. Загарульскі, у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскапана 5 насыпаў з пахавальным абрадам трупапалажэння. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Васілеўшчына, Самахвалавіцкі сельсавет**

**1813. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**1813а.** Могільнік-1. За 0,3 км на захад ад будынка магазіна, на невялікім узвышшы, у бярозавым гаі. Захаваліся 6 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 9—10 м.

**1813б.** Могільнік-2. За 1,5 км на захад ад вёскі. 2 насыпы вышынёй 2,5 і 3 м, дыяметрам 12 і 10 м.

**1813в.** Курган. На ўскраіне вёскі, у напрамку в. Атоліна, каля пясчанага кар'ера. Вышыня 1 м, дыяметр 6 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Е. Собаль.*

**в. Вішнёўка, Папярнянскі сельсавет**

**1814. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На скрыжаванні дарог Мінск — Радашковічы і Мінск — Вяча. На ўшанаванне памяці 150 воінаў 100-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск з зоркай у завяршэнні. Абапал абеліска — стэлы ў выглядзе прыспушчаных сцягоў, на іх дошкі з імёнамі жыхароў вёскі, што аддалі жыццё за Радзіму на франтах і ў партызанскай барацьбе ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Волкаўшчына, Рагаўскі сельсавет**

**1815. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 21 воін і партызан. Сярод іх — воіны 64-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. пры абароне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1814. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

**в. Воўчкавічы, Шчомысліцкі сельсавет**

**1816. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля чыгуначнага пераезда за 0,1 км на поўнач ад аўтобуснага прыпынку Дачы. 6 насыпаў вышынёй 2 м, дыяметрам 8 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вышкава, Лашанскі сельсавет**

**1817. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 190 жыхароў вёскі, якіх 28.5.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Трасцянец, Навадворскі сельсавет**

**1818. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км на захад ад вёскі. У 1941—44 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі, закатавалі і спалілі больш за 206 тыс. чалавек — вязняў Трасцянецкага лагера смерці. У 1963 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск (гл. таксама артыкул № 1864 «Месца Трасцянецкага лагера смерці»).

**в. Гарадзішча, Шчомысліцкі сельсавет**

**1819. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1819а.** Гарадзішча. У вёсцы, на правым беразе р. Менка, за 2 км ад упадзення яе ў р. Пціч. З боку поля



1818. *Помнік ахвярам фашызму.*

ўмацавана ровам, які цяпер аплыў. Складаецца з 2 частак — малога (80×16 м) і вялікага (110×80 м) гарадзішчаў агульнай плошчай каля 1,3 га. Яны ўмацаваны валамі вышынёй з вонкавага боку 8—10 м, у асобных месцах 12 м, якія абкружаюць 3 пляцоўкі. Першая пляцоўка на малым гарадзішчы вышэй за астатнія. Другая, большая, з'яўляецца асноўнай тэрыторыяй вялікага гарадзішча і мае нахіл у паўночным напрамку. Трэцяя пляцоўка прымыкае да другой з паўночнага боку і знаходзіцца ніжэй за яе на 8—9 м. Гарадзішча мае 3 уваходы: першы каля паўночна-ўсходняга вугла (вядзе з ніжняй пляцоўкі да р. Менка), другі (першапачатковы) знаходзіцца побач; трэці каля паўднёва-заходняга вугла. У малое гарадзішча можна было прайсці толькі з вялікага. Раскопкі і абследаванні праводзілі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1935 г. А. М. Ляўданскі, у 1954 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1963 г. і 1967 г. Э. М. Загарульскі, у 1969 г. і 1970 г. М. А. Ткачоў, у 1976—83 гг. Г. В. Штыхаў. Даследавана 1900 м² плошчы, культурны пласт ад 0,3 да 2 м. Выяўлены 3 этапы развіцця гарадзішча: першы (на малым гарадзішчы) — культура штрыхаванай керамікі (мяжа нашай эры); другі (на тэрыторыі абодвух гарадзішчаў) — 10—11 стагоддзі; трэці — 17—19 стагоддзі. Пры раскопках знойдзены рэчы хатняга ўжытку, узбраення воінаў, мастацкія вырабы: амулет 1 ст. н. э. у выглядзе плоскай пацеркі авальнай формы з егіпецкага фаянсу і рельефнай выявай крылатага бажаства, бронзавы літы абразок з выявамі святога Мікалая і святога Стафана эпохі Кіеўскай Русі. У 1983 г. у ніжняй частцы вала вялікага гарадзішча раскапаны зрубы з дубовых бярвенняў — «гародні» (памер 3,5×4 м), шчыльна запоўненыя суглінкам і супескам. Яны размяшчаліся ў 3 рады ўздоўж вала і стваралі абарончае збудаванне вышынёй 4 м (канец 10 — пачатак 11 ст.). Над «гароднямі» ўзведзены верхні драўляны ярус для прыкрыцця воінаў. Знешнія ўмацаванні знішчаны агнём, пасля чаго вал быў рэканструяваны, стаў удвая вышэй за папярэдні, па грэбені яго пастаўлены частакол. Гарадзішча кантралявала акругу паміж Нёманам і Пціччу, па якіх праходзіў гандлёвы шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае.

**1819б.** Селішча. На калгасным полі, на поўдзень і ўсход ад гарадзішча (даўжыня 500 м, шырыня каля 150 м); на захад ад гарадзішча, на сядзібах уздоўж р. Менка (даўжыня 400 м, шырыня 300 м); уздоўж левага берага р. Менка, на тэрыторыі вёскі (даўжыня 900 м, шырыня 200 м). Агульная плошча каля 30 га. Даследавана 1480 м² плошчы, культурны пласт 0,3—1,4 м. У 1975—83 г. выяўлены жытлы, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—0,5 м, ямы ад гаспадарчых пабудоў, рэшткі майстэрні па вырабу прасліц




1819. *Гарадзішча і селішча. План.*



1819а. *Гарадзішча. Вал.*



1819б. *Упрыгожанні з раскопак селішча.*

з ружовага шыферу, упрыгожанні, гліняны посуд, жалезныя вырабы і інш., касцяныя шахматная фігурка каня і пісала з выявай галавы звера. Селішча датуецца 9—11 стагоддзямі.

**1819в.** Курганны могільнік-1. За 1,5 км на поўнач ад гарадзішча, у хмызняку каля поля. 2 насыпы вышынёй 1,6 м, дыяметрам 11 м. У 1979 г. В. А. Карпека даследаваў адзін курган. У насыпе знойдзены шкілет галавой на захад, побач былі жалезныя цвікі, кавалкі гаршкоў. Датуецца 11 ст.

**1819г.** Курганны могільнік-2. За 0,2 км на поўнач ад могільніка-1. 13 насыпаў вышынёй 0,3—2,5 м, дыяметрам 3—11 м. У 1979 г. В. А. Карпека раскапаў 1 курган. Знойдзены кавалкі ганчарных гаршкоў з лінейным арнаментам, на дне кляймо з канцэнтрычных акружнасцей. Датуецца 11 ст.

Археалагічны комплекс на р. Менка папярэднічаў узнікненню ўмацаванага паселішча (замчышча) на Нямізе (прыток Свіслачы). Не выключана, што тут у 10—11 стагоддзях быў першапачатковы Мінск. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Загорульский Э. М. Возникновение Минска.— Мн., 1982. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Гатава, Навадворскі сельсавет**

**1820. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля могілак. Пахавана 336 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны 110-й і 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на могілках пастаўлены помнік — стэла і мемарыяльныя пліты.

**в. Гатовіна, Юзуфоўскі сельсавет**

**1821. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі.

Пахаваны 237 мірных жыхароў вёсак Булашы, Калаліцы, Саламарэчча, якіх 1.5.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глебкавічы, Каладзішчанскі сельсавет**

1822. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў, партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1823. **МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 2 магілах пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. У 1950 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Грэбенка, Міханавіцкі сельсавет**

1824. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі. 11 насыпаў вышынёй 1—1,8 м, дыяметрам 3—6 м. Курганы здзірванелыя, параслі лесам, асобныя пашкоджаны. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**Дворыцкая Слабада, Шчомысліцкі сельсавет**

1825. **СЕЛІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, за 0,15 км на поўнач ад кальцавой дарогі. Плошча больш за 1 га. Даследаваў у 1986 г. Г. В. Штыхаў. На ўчастку даўжынёй 120 м, шырынёй 6 м у профілях выяўлены 11 ям глыбінёй 0,4—0,8 м. Тры ямы, размешчаныя за 20—30 м адна ад адной, былі жытламі. У яме дыяметрам 4,2 м, глыбінёй 0,5 м прасочаны сляды пажарышча, каля яе знойдзены жалезныя наральнік даўжынёй 232 мм, таўшчынёй 6 мм і разак даўжынёй 415 мм, таўшчынёй 15 мм. Другая яма дыяметрам 3,5 м, глыбінёй 0,7 м запоўнена праслойкамі попелу і абпаленай гліны. У ніжняй праслойцы знойдзена кераміка 11 ст., вышэй — вялікая колькасць керамікі 12 ст., а таксама кавалак жалезнага абруча ад вядра, цвік, рэшткі бронзавых упрыгожанняў, 2 нажы, тачыльны камень. Яма дыяметрам 2,2 м, глыбінёй 0,6 м з вертыкальнымі сценкамі таксама была жытлом. У яме дыяметрам 1,6 м, глыбінёй 0,8 м вытворчага прызначэння выяўлены вугалі, праслойка абпаленай гліны. У ямах знойдзены кераміка, жалезныя нажы, шыферные прасліца, больш за тысячу кавалкаў гаршкоў 11—12 стагоддзяў, на некаторых фрагментах арнамент, клеймы ў выглядзе канцэнтрычных акружнасцей.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*



1825. *Жалезныя наральнік і разак з раскопак селішча.*

**в. Дворышча, Рагаўскі сельсавет**

1826. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, на круглаватай, больш высокай паўднёва-заходняй частцы ўзвышша. Вышыня схілаў 9—10 м. Пляцоўка авальная, памерам 45×40 м, добра здзірванела і зарасла лесам. На паўночным і паўночна-ўсходнім пакатых схілах насыпаны вал вышынёй 0,5—0,6 м, паміж ім і пляцоўкай выкапаны роў глыбінёй 0,4—0,5 м. Адкрыў у 1963 г. мясцовы краязнавец А. Т. Куракевіч, даследаваў у 1964 г. К. П. Шут, раскапана 60 м² плошчы. Культурны пласт змешаны з гравіем не перавышае 0,2—0,3 м, у паўднёва-ўсходняй частцы пляцоўкі 1—1,2 м. Знойдзены штрыхаваная кераміка, жалезны нож для жніва, гліняныя прасліцы, грузік дзякоўскага тыпу, крыжападобны грузік, аналагічны мілаградскаму. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 4 ст. да н. э.— 3—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў музеі сярэдняй школы в. Раўкуцьевічы.

*Літ.:* Шут К. П. Городище Дворище.— У кн.: Вопросы истории и археологии. Мн., 1966. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Дзедаўка, Крупіцкі сельсавет**

1827. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у бярозавым гаі, на ўзвышшы. 7 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—8 м. 3 курганы пашкоджаны ямамі, астатнія добра захаваліся. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дуброва, Лугаваслабадскі сельсавет**

1828. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 7 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 3—6 м. Асобныя курганы пашкоджаны ямамі. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

## XIX. ЗАСЛАЎЕ

Горад на р. Свіслач, за 27 км на паўночны захад ад Мінска, чыгуначная станцыя Беларусь на лініі Мінск — Маладзечна; праз горад праходзіць аўтамабільная дарога Мінск — Маладзечна.



**XIX.** *Забудова вуліцы Савецкай.*

У летапісах упамінаецца пад 1127—28 гг. у сувязі з паходам войска вялікага князя кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча ў Полацкую зямлю. Паводле летапісных паданняў, Заслаўе (Изяславль, Жеславль, Жаславль) пабудавана ў канцы 10 ст. кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам (гісторык 19 ст. М. М. Карамзін лічыў, што горад заснаваны ў 985 г.). Легенды расказваюць, што Уладзімір Святаславіч, калі быў наўгародскім князем, хацеў ажаніцца з Рагнедай, дачкой полацкага князя Рагвалода. Але атрымаў адмову. Тады Уладзімір каля 980 г. захапіў Полацк, забіў Рагвалода і 2 яго сыноў, а Рагнеду ўзяў за жонку, даў ёй імя Гарыслава. Калі Уладзімір стаў вялікім князем кіеўскім, ён пасяліў Рагнеду з сынам Ізяславам каля Кіева. Рагнеда з пачуцця помсты зрабіла няўдалы замах на жыццё Уладзіміра, пасля чаго была выслана з Кіева. Паводле падання 1128 г., Уладзімір Святаславіч для Рагнеды і сына Ізяслава пабудаваў у Полацкай зямлі горад, які назваў Ізяслаўлем. Рагнеда памерла ў 1000 г., а праз год — Ізяслаў.

Пры раскопках на тэрыторыі Заслаўя выяўлены рэшткі горада канца 10 — пачатку 13 ст. Ядром горада было невялікае паселішча ў лукавіне р. Чарніца пры ўпадзенні яе ў р. Свіслач. У 2-й палове — канцы 10 ст. за



**XIX.** *Будынак гарвыканкома.*

1 км на паўднёвы захад ад паселішча пабудаваны ўмацаваны цэнтр старажытнага Заслаўя — гарадзішча Замэчак, якое ў канцы 11 ст. заняпала, побач з пасадам на беразе р. Свіслач узнік замак (мясцовая назва гарадзішча Вал).

У 1-й трэці 12 ст. Ізяслаўль быў цэнтрам удзельнага княства Полацкай зямлі. У 1127 г. ізяслаўскім князем стаў Брачыслаў — унук полацкага князя Усяслава Брачыслававіча. Мяркуецца, што ў Ізяслаўлі было веча і апалчэнне гараджан.

У 1127 г. вялікі князь кіеўскі Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў паход у Полацкую зямлю шматлікага войска з Турава, Уладзіміра-Валынскага, Гродна і Клецка і асадзіў Ізяслаўль. Жыхары горада (нягледзячы на адсутнасць князя Брачыслава, які з дружынай накіраваўся ў Полацк) некалькі дзён абараняліся, але Ізяслаўль быў захоплены і разрабаваны.

У сярэдзіне 12 ст. горад і княства належалі Усеваладу Глебавічу, сыну Мінскага князя Глеба Усяславіча. Супраць Глебавічаў у 1158—59 гг. выступіў полацкі князь Рагвалод Барысавіч. Ён папрасіў на дапамогу сыноў смаленскага князя Расціслава Мсціславіча Рамана і Рурыка з ваяводам Унездам. Вялікае войска з полацкіх, смаленскіх, наўгародскіх і пскоўскіх палкоў па дарозе на Мінск асадзіла Ізяслаўль. Князь Усевалад Глебавіч вымушаны быў здаць горад. Рагвалод пасадзіў на княжанне ў Ізяслаўлі свайго ўнука Брачыслава Васількавіча, але праз год у Ізяслаўскім княстве зноў умацаваліся нашчадкі Глеба Усяславіча.

З 14 ст. Ізяслаўль у складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1345 г. літоўскія князі Альгерд і Кейстут аддалі яго пляменніку Яўнуту Гедымінавічу. Каля 1366 г. княства перайшло да сына Яўнута Міхала, нашчадкі якога Андрэй, Юрый і Іван мелі тытул князёў Заслаўскіх. У 1433 г. войска князя Свідрыгайлы, які выступіў супраць вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча, за адзін дзень авалодала заслаўскім замкам, горад быў спалены, а жыхары ўзяты ў палон.

Апошні князь Заслаўя Фёдар Іванавіч з роду Гедымінавічаў памёр у 1539 г. Горад стаў уласнасцю феадалаў Глябовічаў. Пры іх расшырана тэрыторыя замка, ён быў умацаваны бастыёнамі, пабудавана ўязная брама. Замак ад горада аддзелены ровам, які запаўняўся вадой з р. Свіслач і яе прытока Чарніцы. На замчышчы пабудаваны мураваны кальвінскі збор (пазнейшыя яго назвы — касцёл Міхаіла-архангела, Спаса-Праабражэнская царква) і, як мяркуюць, палац Глябовічаў. З 1569 г. Заслаўе ў Мінскім павеце Мінскага ваяводства. Пры



**XIX.** *Забудова мікрараёна-1.*

Яне Глябовічу ў Заслаўі працавалі кальвінскія школы і друкарня. У 1572 г. тут жыў гуманіст, рэфарматцыйны дзеяч і асветнік Сымон Будны, у 1574 г. выдадзена яго Біблія. У 16 ст. існавала драўляная Спаса-Праабражэнская царква, у бібліятэцы якой было 357 кніг. З 1678 г. Заслаўе — уласнасць Сапегаў (Ружанскай, або Чарэйскай галіны). У 1678 г. Крысціна Сапега заснавала кляштар дамініканцаў (пабудаваны на замчышчы), пры якім былі бальніца, школа і бібліятэка, а таксама перадала ім касцёл Міхаіла-архангела. З 1753 г. горад належаў падканцлеру Вялікага княства Літоўскага А. Пшэздзецкаму, збіральніку старажытнасцей і нумізмату. У 1774 г. у Заслаўі пабудаваны мураваны касцёл Марыі, пры ім былі школа, бібліятэка, шпіталь.

У 15 ст. тэрыторыя горада займала правы бераг р. Свіслач і левы бераг р. Чарніца. У 18 ст. цэнтрам горада стала гандлёвая плошча, да якой ішлі вуліцы Замкавая, Мінская, Лагойская і Віленская. Непадалёку ад цэнтра была вул. Вялікая, каля рова і Свіслачы — 2 вулачкі без назваў. Насельніцтва займалася рамяством, гандлем, агародніцтвам. Паводле прывілея 1772 г. горад атрымаў права на 4 кірмашы штогод. У канцы 17—18 ст. Заслаўе было цэнтрам Заслаўскага графства, якое аб'ядноўвала тэрыторыю 4 войтаўстваў. У 2-й палове 18— пачатку 19 ст. у горадзе быў цагельны завод і суконная фабрыка.

З 1793 г. Заслаўе ў складзе Расіі — мястэчка Мінскага павета Мінскай губерні. У 1850-я гады было маёнткам Прушынскіх, у якіх канфіскавана за ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. У 1873 г. праз мястэчка пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, была адкрыта станцыя Ізяслаў. У 1904 г. больш за 3 тыс. жыхароў, 2 школы, бальніца на 10 ложкаў, аптэка, пошта, 2 царквы, касцёл.

У сакавіку 1917 г. у Заслаўі створаны Савет салдацкіх дэпутатаў, у які ўвайшлі прадстаўнікі ад вайсковых часцей і ад мясцовага насельніцтва. У лістападзе 1917 г. пры садзеянні бальшавіцкіх арганізацый 10-й арміі ў Заслаўі ўстаноўлена Савецкая ўлада, створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У канцы 1919 г. мястэчка захапілі войскі буржуазнай Польшчы. Вызвалена Чырвонай Арміяй у пачатку ліпеня 1920 г.

У 1924—59 гг. Заслаўе — цэнтр раёна, які ў 1924—30 гг. і 1935—38 гг. уваходзіў у склад Мінскай акругі, у 1938—59 гг.— у склад Мінскай вобл., з 1959 г. гарадскі пасёлак у Мінскім р-не, з 14.8.1985 г. горад. У 1921 г. заснавана раённая бібліятэка, у 1938 г.— Заслаўскі калгасна-саўгасны тэатр (дзейнічаў да канца 1939 г.).

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, насельніцтва Заслаўя ўдзельнічала ў будаўніцтве абарончых збудаванняў. 26—27.6.1941 г. жорсткія баі ў раёне Радашковічы — Заслаўе вялі часці 64-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр С. І. Іяўлеў) і 219-ы артылерыйскі полк. Заслаўе некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. 28.6.1941 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (снежань 1942 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (снежань 1942 г.— 2.7.1944 г.), друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Мы отомстим». Райком базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая», якая ў 1942—44 гг. дзейнічала на тэрыторыі раёна. Заслаўе вызвалена 4.7.1944 г. часцямі Чырвонай Арміі.

Сучасны г. Заслаўе размешчаны ў прыгараднай зоне Мінска, развіваецца як апорны пункт масавага адпачынку і турызму. Генеральны план забудовы распрацаваны ў 1968 г. (інстытут «Белдзяржпраект»), скарэкціраваны ў 1974 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва) і 1982 г. (Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва). Горад падзелены чыгункай на ўсходні (цэнтральны) і заходні (залінейны) раёны, якія аб'ядноўвае галоўная гарадская вось — вул.

Савецкая, забудаваная культурнымі і гандлёвымі ўстановамі, 5—9-павярховымі жылымі дамамі. У заходняй частцы вуліцы ствараецца мікрараён з шматпавярховай жылой забудовай. Ва ўсходнім раёне на скрыжаванні вуліц Савецкай і Луначарскага адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада. Тут размешчаны будынкі выканкома гарадскога Савета, школы, гандлёвага комплексу, сквер. На вул. Савецкай знаходзяцца спецыялізаваныя магазіны, сталовая і інш. Да цэнтра прымыкае гарадскі парк. Аднапавярховая жылая забудова сядзібнага тыпу знаходзіцца пераважна ў заходняй, 2—5-павярховая — у паўночна-заходняй (створаны жылыя мікрараёны) і ўсходняй частках горада. Прамысловая зона на паўночным усходзе, паўднёвым і паўночным захадзе горада.

Працуюць 2 заводы жалезабетонных вырабаў, асфальтавы і малочны заводы, хлебазавод, прамкамбінат (шыферны, сталярны цэхі), картонажна-паліграфічная фабрыка, камбінат бытавога абслугоўвання і інш. Ёсць 2 сярэднія і музычная школы, спартыўная школа-інтэрнат, 3 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. У 1967 г. створаны гісторыка-археалагічны запаведнік, перайменаваны ў 1986 г. у гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе», які аб'ядноўвае шматпластавое гарадзішча Вал (10—17 стагоддзі), гарадзішча Замэчак, ці Магіла Рагнеды (10—11 стагоддзі), курганныя могільнікі (канец 10 — пачатак 12 ст.). На гарадзішчы Вал знаходзіцца Спаса-Праабражэнская царква — помнік архітэктуры 16—17 стагоддзяў. У ёй размешчаны музей рамёстваў і народных промыслаў — філіял Дзяржаўнага музея Беларускай ССР. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст. касцёл Марыі. Помнікі У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на магіле беларускага пісьменніка Р. К. Сабаленкі. У 1985 г. з нагоды 1000-годдзя горада ў скверы пастаўлены памятны камень, у які закладзена «Пасланне» жыхарам Заслаўя 2085 г. з наказам прадаўжаць слаўныя традыцыі свайго народа.

Каля Заслаўя ў 1956 г. створаны буйнейшы штучны вадаём на Беларусі — Заслаўскае вадасховішча (уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму), якое з'яўляецца зонай адпачынку працоўных.

*Літ.:* Даўгяла З. І. Заслаўе на Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; Загришев И. П., Милюченков С. А. Заславский историко-археологический заповедник.— Мн., 1982; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Заяц Ю. А. Заславль X—XVIII в.— Мн., 1987.

*Ю. А. Заяц, В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**1829. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада. Выявіў і даследаваў у 1979 г. Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупаспаленне ўбаку. Рэшткі крэмацыі разам з попелам змяшчаліся ў невялікіх ямках дыяметрам 0,3 м, глыбінёй 0,15 м. Пахавальны інвентар: бронзавыя спіральныя пранізкі, гліняныя біканічнае прасліца. У асобных пахаваннях рэшткі крэмацыі былі ў гліняных урнах. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Заяц Ю. А. Гарадзішча Замэчак у Заслаўі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1983, № 3; яго ж. Раскопки в окрестностях Заславля.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980.

*Ю. А. Заяц.*

**1830. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Луначарскага, на могілках. Пахаваны 131 воін. Сярод іх — воіны 64-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. пры абароне пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1831. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Луначарскага, на могілках. Пахаваны 8 воінаў-разведчыкаў (дэсант у тыл ворага), якія загінулі 1—3.1.1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1832. ГАРАДЗІШЧА ВАЛ** (археал., архіт.). Таксама мае назву Замак. На паўночнай ускраіне горада паміж правым берагам р. Свіслач і яе прытокам р. Чарніца. Пляцоўка мае форму няправільнага чатырохвугольніка (даўжыня бакоў 188, 166, 90 і 60 м), плошча каля 15 000 м$^2$. Па вуглах замка размяшчаліся 4 бастыёны, яшчэ адзін бастыён каля паўднёвай курціны. З усходу і поўдня ад горада замак быў аддзелены ровам.



**1832.** *Гарадзішча Вал. Агульны выгляд раскопу.*



**1832.** *Гарадзішча Вал. Раскоп.*



**1832.** *Падмурак малой брамы.*



**1832.** *Кафля з раскопак гарадзішча Вал.*



1832. *Рэшткі пабудовы 2-й паловы 12 ст. З раскопак гарадзішча Вал.*



1832. *Кафля з раскопак гарадзішча Вал.*



1832. *Кафля з раскопак гарадзішча Вал.*

Сістэма стаўкоў на Свіслачы і Чарніцы ператварала замак ва ўмацаванне астраўнога тыпу, якое злучалася з горадам, верагодна, пад'ёмным мостам. Праезд знаходзіўся ў паўднёвай курціне і прыкрываўся з паўднёва-ўсходняга бастыёна, у канцы 16 ст. узведзена двухпавярховая ўязная брама (вонкавыя памеры 24,5×22,8 м, унутраныя 19,9×19,9 м, таўшчыня сцен 1,2 м), пабудаваная з цэглы-пальчаткі (у аснаванні выкарыстана мяшаная муроўка — цэгла і камяні). Другі праезд размяшчаўся з паўночнага боку, там, відаць, была пабудавана малая мураваная брама і побач дадатковы бастыён. Земляны вал вышынёй 8 м (першапачатковая яго вышыня 3 м), перабудоўваўся 5 разоў. Самыя старажытныя ўмацаванні зроблены тут у канцы 11 ст. Абмежаваная ўмацаваннямі плошча была невялікай, пазней яна складала 1,5 га. Уведзены ў навуковы абарот К. П. Тышкевічам у 1856 г., даследавалі ў 1921 г. В. П. Сушчынскі, Н. Г. Маслакавец, І. П. Поляк, у 1927 г. А. М. Ляўданскі, у 1965 г. Э. М. Загарульскі, у 1967—68, 1970—71 гг. Г. В. Штыхаў, у 1969 г. У. А. Гілеп, у 1979 г. А. М. Трусаў, у 1980—83 гг. Ю. А. Заяц. Даследаваная плошча — 1600 м². Культурны пласт на асобных участках 5,5—6 м, у ім знойдзены матэрыялы 10—18 стагоддзяў, а таксама асобныя рэчы 6—8 стагоддзяў. Выяўлены рэшткі драўляных пабудоў канца 12 — канца 17 ст. і мураванай пабудовы 2-й паловы — канца 16 ст. (мусіць, палац уладальнікаў замка), развалы печаў з кафлі 16—17 стагоддзяў. У 2-й палове 16 — пачатку 17 ст. на тэрыторыі замка пабудаваны кальвінскі збор (з 1865 г. Спаса-Праабражэнская царква). Гарадзішча Вал (замак) разам з гарадзішчам Замэчак і курганнымі могільнікамі ўваходзіць у гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе».

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі, Менскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Гилеп В. А. Некоторые сведения о памятниках Заславля.— У кн.: Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.).— Мн., 1978; Заяц Ю. А. Работы Заславльского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Ю. А. Заяц.*

**1833. ГАРАДЗІШЧА ЗАМЭЧАК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, паміж вуліцамі Кірава і Мінскай, на ўзгорку. Вышыня над балоцістай поймай р. Чарніца 24 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 74×70 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 3 м, шырынёй 13 м і ровам глыбінёй да 3,5 м, шырынёй 11 м. Стромкасць вонкавых схілаў да 40°. На схіле вала быў нахілены частакол. На грэбені вала, магчыма, былі драўляныя сцены. Уваход на гарадзішча (шырыня 4,5 м) знаходзіўся з паўночнага ўсходу. У гады Вялікай Айчыннай вайны пляцоўка пашкоджана, у некалькіх месцах у розны час пашкоджаны вал. Выявіў у 1850-я гады К. П. Тышкевіч, даследавалі ў 1926 г. А. М. Ляўданскі, у 1962 г. Э. М. Загарульскі, у 1967, 1971 гг. Г. В. Штыхаў, у 1978—79, 1981 гг. Ю. А. Заяц. Даследавана 1210 м² плошчы, зроблена прарэзка вала і рова. Культурны пласт 0,1—0,5 м. У ім знойдзены матэрыялы 10—11, 16—18 стагоддзяў: вырабы з гліны, чорных і каляровых металаў, шкла, каменю. Прасочана, што ўмацаванні зроблены ў 2-й палове — канцы 10 ст. У старажытнарускі час забудова гарадзішча вялася ўздоўж вала, цэнтр пляцоўкі заставаўся свабодным. Гарадзішча Замэчак з'яўляецца першапачатковым умацаваннем старажытнага Заслаўя.



1833. *Гарадзішча Замэчак.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўе, Менскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Заяц Ю. А. Гарадзішча Замэчак у Заслаўі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1983, № 3. *Ю. А. Заяц.*

**1834. КАСЦЁЛ МАРЫІ** (архіт.). У цэнтры горада, на вул. Луначарскага. Пабудаваны ў 1774 г. з цэглы на месцы драўлянага храма. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з паўцыркульнай апсідай, 2 бакавымі сакрысціямі і 2 вежамі на галоўным фасадзе (не захаваліся). У 1868 г. перабудаваны пад царкву Раства багародзіцы; над асноўным аб'ёмам зроблены купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся), у цэнтры галоўнага фасада пабудавана чацверыковая вежа-званіца (не захавалася).

Галоўны фасад мае крывалінейны абрыс, падзяляецца на 3 часткі: цэнтральную і 2 бакавыя, якія з'яўляюцца асновамі вежаў. Фасады члянёны на 2 узроўнях паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны пілястрамі. Да галоўнага ўвахода вядзе мураваная лесвіца. Інтэр'ер зальны, сцены ўпрыгожаны пілястрамі карынфскага ордэра. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася.

Касцёл — помнік архітэктуры барока. *Т. І. Чарняўская.*

**1835. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАНЫ** (археал.). У ваколіцах го-

рада захаваліся рэшткі 10 курганных могільнікаў і 2 адзінкавыя курганы, усяго 364 насыпы. Тапаграфічна могільнікі 1, 7—10 звязаны з гарадзішчам Замэчак, могільнікі 2—6 — з паселішчам на р. Свіслач. Курганныя могільнікі даследавалі ў 1878 г. Р. Г. Ігнацьеў, у 1880-я гады Н. М. Турбін, у 1921 г. В. П. Сушчынскі і І. П. Поляк, у 1926, 1928 гг. А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі, П. В. Харламповіч і А. Дз. Каваленя, у 1957, 1965 гг. Э. М. Загарульскі, у 1960, 1967, 1971 гг. Г. В. Штыхаў, у 1977—80, 1982 гг. Ю. А. Заяц.

Матэрыялы раскопак 142 курганоў (зброя, прылады рамеснікаў, прадметы быту, упрыгожанні са шкла, каменю і каляровых металаў) даюць уяўленне аб сацыяльным і этнічным складзе старажытнага насельніцтва, аб храналогіі пахавальнага абраду. У розны час значная колькасць курганоў была знішчана ў час будаўнічых работ і самавольнымі раскопкамі.

**1835а.** Курганны могільнік-1. За 250 м на паўднёвы ўсход ад гарадзішча Замэчак, на вяршыні і ўсходнім схіле ўзвышша. Раней было 28 курганоў. Захавалася 12 круглых насыпаў вышынёй да 2 м, дыяметрам 14 м і 1 прадаўгаваты памерам 14×10,5×1,8 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага кастра — галавой на захад. У прадаўгаватым і адным з круглых курганоў прасочаны двайныя пахаванні (у прадаўгаватым насыпе ў драўлянай агароджы). Пахавальны інвентар: жалезныя наканечнік коп'я, сякеры, нажы, крэсіва, бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, ганчарны посуд. Датуецца канцом 10—11 ст. Матэрыялы раскопак 1977 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1835б.** Курганны могільнік-2. У паўднёвай частцы горада паміж паўночна-ўсходнім краем могілак і стадыёнам, у напрамку р. Чарніца. У 1926 г. тут было 122 насыпы (захаваўся 1 курган). Самыя вялікія курганы вышынёй 2 м, дыяметрам 10,5 м, меншыя дыяметрам 5—6 м, вышынёй 0,6—0,8 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, у падкурганных ямах і на гарызонце (часта на месцы рытуальнага кастра), часам пад шкілетам прасочаны рэшткі драўніны. Пахаванні адзінкавыя, трапляюцца двайныя, а ў адным кургане — трайныя. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя, усходняя і мерыдыяльная. У адным насыпе былі пахавальныя абрады трупапалажэнне і трупаспаленне (рэшткі яго змяшчаліся ў глінянай пасудзіне). У мужчынскіх пахаваннях знойдзены жалезныя коп'і, сякеры, у жаночых — каралі з шкляных і сердалікавых пацерак, бронзавыя і жалезныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, скроневыя кольцы (бранзалетападобныя з завязанымі канцамі), сярэбраны дырхем. Могільнік датуецца 10 — 1-й паловай 11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Інстытуце гісторыі АН БССР, БДУ імя У. І. Леніна. Матэрыялы раскопак 1921, 1926, 1928 гг. загінулі ў гады Айчыннай вайны.

**1835в.** Курганны могільнік-3. За 150 м на ўсход ад курганнага могільніка-2, на беразе р. Свіслач. У 1926 г. было 86 курганоў вышынёй 2 м, дыяметрам 12 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (на месцы рытуальнага кастра). У адным з курганоў прасочаны 2 пахаванні: па абраду трупапалажэння і трупаспалення ў неглыбокай ямцы. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя і ўсходняя. У мужчынскіх пахаваннях трапляліся жалезныя коп'і, сякеры, у жаночых — крывіцкія бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі. Могільнік датуецца 10 — 1-й паловай 11 ст. Невялікая адлегласць ад могільніка-2, агульныя рысы пахавальнага абраду, ідэнтычнасць этнавызначальнага інвентару дазваляюць лічыць абодва могільнікі рэшткамі аднаго вялікага курганнага могільніка. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і БДУ імя У. І. Леніна (матэрыялы раскопак 1921, 1926 гг. загінулі ў гады Айчыннай вайны).

**1835г.** Курганны могільнік-4. На паўднёва-заходняй ускраіне горада, злева ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Вільнюс, 19 насыпаў дыяметрам 4—12 м, вышынёй 0,5—2 м. Адзін насып прадаўгаваты, памерам 13,5×6×0,5 м. Большасць курганоў абкружана кальцавымі ці дугападобнымі раўкамі са слядамі агню. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага кастра ці на падсыпцы. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя, у адным выпадку — паўднёвая. Ёсць двайныя і трайныя пахаванні ў адным насыпе. Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў, шкла і каменю, рэшткі драўляных вёдзер, ганчарны посуд. Сярод упрыгожанняў скроневыя кольцы пярсцёнкападобныя, S-канечныя і пярсцёнкападобныя з завітком на канцы; металічныя дрыгавіцкія філігранныя пацеркі. Могільнік датуецца канцом 10—11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

**1835д.** Курганны могільнік-5. Насупраць замка, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай сістэмы. 18 насыпаў вышынёй 0,4—1,7 м, дыяметрам 4—10 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (часта на месцы рытуальнага кастра) ці ў падкурганнай яме. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя, у адным выпадку — усходняя. У 2 курганах былі двайныя пахаванні. Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў (у т. л. пярсцёнкападобныя і S-канечныя скроневыя кольцы) і шкла, прадметы быту з жалеза і косці, ганчарны посуд. Могільнік датуецца 11 (ці канцом 10) — 1-й паловай 12 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Музеі старажытна-беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1835г.** *Упрыгожанні з курганнага могільніка-4.*



**1835д.** *Знаходкі з курганнага могільніка-5.*



**1835ж.** *Пахавальны інвентар з курганнага могільніка-7.*

**1835е.** Курганны могільнік-6. За 1 км на паўночны ўсход ад замка. 6 курганоў дыяметрам 6—17 м, вышынёй 0,5—2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (часта на месцы рытуальнага кастра). Арыентацыя нябожчыкаў заходняя, радзей усходняя. Ёсць выпадак дадатковага пахавання. Пахавальны інвентар: жалезныя сякеры, нажы, крэсіва, упрыгожанні з каляровых металаў, шкла і бурштыну, гліняны посуд, рэшткі драўляных вёдзер. Знойдзены інструменты рамесніка, філігранныя металічныя пацеркі, сярэбраныя дэнарыі Стэфана І (Венгрыя), Атона і Адэльгейды (Германія), сярод знаходак — 2 гліняныя гаршкі з клеймамі ў выглядзе двухзубца (знак Рурыкавічаў). Помнік датуецца 2-й паловай 10 — пачаткам 12 ст. Матэрыялы раскопак 1926 г. загінулі ў Айчынную вайну, рэчы, знойдзеныя ў пасляваенныя часы, захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1835ж.** Курганны могільнік-7. За 1,5 км на паўднёвы захад ад гарадзішча Замэчак, у вярхоўі р. Чарніца, у лесе. 10 насыпаў дыяметрам 5—10 м, вышынёю 0,5—1,7 м. Каля асновы асобных курганоў з трох бакоў прасочаны ямы ў форме паўмесяца, да палавіны запоўненыя попелам ад рытуальнага кастра. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага кастра. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя і паўночная. У адным кургане было двайное пахаванне. Пахавальны інвентар: бронзавае наверша булавы, крук для падвешвання зброі, жалезныя нажы, крэсіва, тачыльны брусок, бронзавы пярсцёнак, касцяны грэбень. Датуецца 10—11 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1835з.** Курганны могільнік-8. За 1 км на ўсход ад гарадзішча Замэчак, у лесе. 7 насыпаў дыяметрам 3,5—8,5 м, вышынёй 0,5—1,2 м. Каля асновы асобных насыпаў прасочаны сляды кальцавых раўкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1835і.** Курганны могільнік-9. За 1,5 км на поўдзень ад гарадзішча Замэчак, у лесе. 7 насыпаў, адзін з іх прадаўгаваты. Круглыя дыяметрам 4—8 м, вышынёй 0,4—1,2 м, памеры прадаўгаватага 9×6,5×1,13 м. Каля аднаго кургана прасочаны ямы ў форме паўмесяца з попелам ад рытуальнага кастра. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага кастра. У адным насыпе было двайное, у прадаўгаватым — упускное пахаванні. Усе пахаванні жаночыя. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя і паўднёвая. Пахавальны інвентар: сярэбраныя і бронзавыя ўпрыгожанні, пацеркі са шкла, сердаліку, хрусталю, ганчарны посуд. Скроневыя кольцы некалькіх тыпаў: пярсцёнкападобныя, спіралеканечнае трохпацеркавае, з крукападобнымі канцамі, пярсцёнкападобныя з завіткам на канцы і спіральнай ці ажурнай аплёткай. Датуецца 2-й паловай 10—11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1835к.** *Курганны могільнік-10.*

**1835к.** Курганны могільнік-10. За 2 км на поўдзень ад гарадзішча Замэчак, у лесе, у вярхоўі р. Чарніца. 3 круглыя і адзін прадаўгаваты курган. Усе насыпы пашкоджаны самавольнымі раскопкамі. Дыяметр круглых насыпаў 6 м, вышыня 0,9—1,2 м, памеры прадаўгаватага 11,65×7,65××1,35 м. Уздоўж яго прасочаны раўкі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага кастра. У прадаўгаватым насыпе асноўнае пахаванне арыентавана па падоўжнай восі кургана, другое, упускное, па папярочнай. Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў (бранзалет, пярсцёнак, розныя падвескі, скроневыя кольцы — пярсцёнкападобныя з завіткамі на канцы і без іх), шкляныя пацеркі, ганчарны посуд, рэшткі драўлянага вядра. Датуецца 2-й паловай 10—1-й паловай 11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1835л.** Курган-1. За 1,6 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча Замэчак, каля правага берага р. Чарніца, злева каля дарогі ад чыгуначнай станцыі Зялёнае да піянерскага лагера «Зялёнае». Памеры 10,5×9,5×1,3 м.

**1835м.** Курган-2. Каля паўднёвага краю могілак. Вышыня 1,1 м, дыяметр 8 м. Пашкоджаны глыбокай ямай.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі, Менскай акругі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Заяц Ю. А. К истории изучения древнего Заславля.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; яго ж: Курганный могильник Изяславля.— У кн.: Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983.
*Ю. А. Заяц.*

**1836. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 мірных жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1837. МАГІЛА САБАЛЕНКІ** Рамана Карпавіча (гіст.). На могілках. Беларускі савецкі пісьменнік Р. К. Сабаленка нарадзіўся 2.10.1907 г. у в. Сабалі Брагінскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. Скончыў Гомельскі педагагічны тэхнікум (1929 г.). У 1929 г. некаторы час працаваў у рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Звязда». Вучыўся на вячэрнім аддзяленні літфака Гомельскага педінстытута (1933—35 гг.). У 1930—41 гг. супрацоўнік гомельскай абласной газеты «Палеская праўда» (з 1938 г. «Гомельская праўда»). У Вялікую Айчынную вайну на Калінінскім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. Пасля вайны загадчык аддзела, намеснік рэдактара баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда» (1945—53 гг.). З 1953 г. у Мінску, працаваў у газеце «Калгасная праўда», часопісе «Маладосць», у 1957—66 гг. намеснік рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва».

Першыя вершы Р. Сабаленкі з'явіліся ў друку ў 1928 г. У 1935 г. у часопісе «Полымя» надрукавана паэма «Брагінь». Выйшлі зборнікі паэзіі «З родных крыніц» (1950 г.), «Мая эстафета» (1954 г.). Паэтычныя творы прысвечаны роднаму краю, яго людзям, іх барацьбе з ворагам ў Вялікую Айчынную вайну, мірнай стваральнай працы ў пасляваенны час. Найбольш ярка праявіўся талент Р. Сабаленкі ў прозе. Ён аўтар зборнікаў апавяданняў «Жменя зярнят» (1957 г.), «Сустрэчы» (1958 г.), «Блакітнае ззянне» (1959 г.), «З пройдзеных дарог» (1962 г.), «Пад дажджом і сонцам» (1966 г.), «Спатканне пасля разлукі» (1971 г.), «Роздум у дарозе» (1973 г.), аповесцей «Каралінцы» (1959 г.), «Незамужняя ўдава» (1964 г.). Аповесці «Юнацтва ў дарозе» (1956—60 гг.), «Выпрабаванне сталасці» («Іду ў жыццё», 1961 г.), «Былое астаецца ў сэрцы» (1963 г.) склалі трылогію «Іду ў жыццё» (1968 г.). Напісаў кнігу нарысаў «Колерамі вясёлкі» (1975 г.) пра дзеячаў беларускай літаратуры і культуры. Выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1967—68 гг.), «Выбранае» (1977 г.). Творы Р. Сабаленкі прасякнуты пачуццём патрыятызму, пафасам услаўлення савецкай рэчаіснасці. Іх героі — актыўныя будаўнікі жыцця, працавітыя, сумленныя, шчырыя людзі. Паасобныя творы перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы.

Памёр Р. К. Сабаленка 13.5.1975 г. Яго імем названа вуліца ў Брагіне.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*В. В. Семянюк.*

**1838. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы, каля будынка выканкома гарадскога Савета. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1924 г. У гады Вялікай Айчыннай

вайны скульптуру зберaглі жыхары. У 1947 г. устаноўлена ў другі раз.

**1839. РАДЗІМА ШЫНКЛЕРА** Хвядоса Сяргеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Х. С. Шынклер (псеўданім Хв. Явар) нарадзіўся 9.9.1903 г. у сям'і чыгуначнага служачага. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. З 1919 г. працаваў тэлеграфістам на чыгунцы, у 1922—26 гг.— бібліятэкарам, загадчыкам клуба. З 1929 г. загадчык сектара рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў рэдакцыі газеты «Камуніст» (Бабруйск). У 1931—35 гг. сакратар рэдакцыі газеты «Ударнік» (г. Жлобін), у 1935—41 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Полымя» (Мінск). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся ў Свярдлоўск, працаваў на тэлеграфе. З 1942 г. у Чырвонай Арміі.

Друкавацца пачаў у 1922 г. у рэспубліканскіх і цэнтральных газетах («Гудок», «Правда») і часопісах. Першае апавяданне «Пас зачапіў» змешчана ў літаратурным дадатку да бабруйскай газеты «Камуніст» — «Вясна» (1928, № 1). Выйшлі з друку зборнік апавяданняў «Стрэлачнік Мігай» (1930 г.), апавяданні «Ічэ» (1929 г.) і «Блок» (1933 г.), аповесці «Сонца пад шпалы» (1933 г.), «Запіскі інструктара Томана» (1934 г.), аповесць для дзяцей «Петрык-завадатар» (1935 г.), п'еса «Пачэсны рэйс» (1939 г.). Адзін з першых у беларускай літаратуры звярнуўся да тэмы рабочага класа, пісаў пераважна аб працы і жыцці чыгуначнікаў, паказваў новыя сацыялістычныя, інтэрнацыянальныя адносіны паміж людзьмі. У 1942 г. у Маскве выйшла аповесць аб рабоце тэлеграфістаў у вайну — «Пульс жыцця». У 1960 г. выдадзены «Выбраныя творы».

Загінуў Х. Шынклер 25.10.1942 г. на фронце пад Сталінградам.

*Літ.:* Арабей Л. Хвядос Шынклер.— Мн., 1959; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966.
*В. Б. Караткевіч.*

**1840. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка, на высокім узгорку (гарадзішча Вал), абкружаным ровам і валам з 4 землянымі бастыёнамі па вуглах (умацаванні былога замка). Пабудавана ў 2-й палове 16 — пачатку 17 ст. Спачатку кальвінскі збор, пазней касцёл Міхаіла-архангела, з 1865 г. Спаса-Праабражэнская царква. Спачатку храму надавалася абарончае значэнне і, верагодна, па ўсім перыметры яго, у верхняй частцы сцен, былі байніцы. У 17 ст. прыбудавана вежа. Храм перабудаваны ў 1678 г. і 1865 г., аб чым сведчыць рознахарактарная апрацоўка асобных частак фасадаў і розная таўшчыня сцен. Часткова разбурана ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968—72 гг. рэстаўрыравана (праект Спецыяльных навукова-даследчых і праектных рэстаўрацыйных майстэрняў Міністэрства культуры БССР). Цяпер тут знаходзіцца музей рамёстваў і народных промыслаў — філіял Дзяржаўнага музея Беларускай ССР.

Царква — мураваны прамавугольны ў плане аднанефавы безапсідны храм, накрыты высокім двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучае 35-метровая пяціярусная шатровая вежа. Першы ярус яе чатырохвугольны, астатнія — васьміграннныя. У вежу вядуць 2 уваходы — паўночны (парадны), які мае руставанае абрамленне, і паўднёвы. Сцены царквы дэкарыраваны пілястрамі, рустам (вуглы-выступы), круглымі нішамі, тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі, члянёны вузкімі лучковымі аконнымі праёмамі, на гранях вежы вокнамі-прадухамі. Па ўсім перыметры сцен, у месцы, дзе, як мяркуюць, былі байніцы, і вежы праходзіць атыкавы пояс. У сукупнасці дэталі дэкору надаюць будынку манументальнасць. Інтэр'ер зальны, перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, якія перахо-



**1840.** *Спаса-Праабражэнская царква.*

дзяць у пілястры. Першы ярус вежы трактуецца як бабінец. Над уваходам драўляныя хоры. Пад царквой двухчасткавая крыпта з цыліндрычнымі скляпеннямі.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі рэнесансу. Уваходзіць у гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе».

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Загришев И. П., Милюченков С. А. Заславский историко-археологический заповедник.— Мн., 1982. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Збаравічы, Рагаўскі сельсавет**

**1841. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Выспа. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на карэнным беразе р. Гуйка, на ўзвышшы вышынёй 34 м. Пляцоўка памерам 50×30 м моцна пашкоджана ў заходняй частцы. З усходняга і паўночнага бакоў прасочаны рэшткі вала вышынёй 0,3—0,4 м. Адкрыў у 1912 г. А. К. Снітка, даследаваў у 1951, 1952, 1958 гг. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 868 м². Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3—0,35 м, уздоўж паўночна-заходняга краю (дзе выяўлены жытлы) 0,85—0,95 м, каля паўднёва-ўсходняга боку 0,65—0,75 м. Усе пабудовы слупавой канструкцыі, складаліся з асобных камер (жылыя з 5, гаспадарчыя з 4). У 4 жытлах выяўлены агнішчы з пласта пяску і абпаленай гліны з умазанымі камянямі. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду рабрыстай і слоікавай формы, гліняныя праслíцы і грузікі дзякоўскага тыпу, жалезныя сярпы, пісахападобная шпілька, шылы, бронзавыя ўпрыгожанні. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Кайкава, Міханавіцкі сельсавет**

**1842. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 8 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 8—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.



**1840.** *Спаса-Праабражэнская царква. Фрагмент скляпенняў.*

**1843. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ РАДЫЁСТАНЦЫІ** (гіст.). На будынку канторы Ленінскага лясніцтва Мінскага лясгаса. Устаноўлена ў 1974 г. У Вялікую Айчынную вайну тут дзейнічала (1942—44 гг.) радыёстанцыя партызанскай брыгады імя Калініна, якая трымала сувязь з Вялікай зямлёй.

**в. Калодзішчы, цэнтр сельсавета**

**1844. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАЛАДЗІШЧАНСКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Каладзішчанскага сельскага Савета дзейнічала камуністычнае падполле пад кіраўніцтвам Мінскага камуністычнага падполля. Складалася з 5 падпольных груп. У ліпені 1941 г. на станцыі Калодзішчы М. М. Афанасьеў і С. Э. Эрдман стварылі падпольную групу «Чыгуначная» (гл. артыкул № 1845 «Мемарыяльная дошка ў гонар падпольнай групы «Чыгуначная»). У жніўні 1941 г. у Калодзішчах узнікла падпольная група «Цэнтральная» пад кіраўніцтвам А. С. Старасцінай і А. Я. Радзюк, у лістападзе 1941 г. створаны падпольныя групы з жыхароў вёсак Старына, Вадапой (кіраўнік Я. І. Міранкоў), у снежні 1941 г. у Каладзішчанскім шпіталі арганізавана падпольная група «Лазарэтная» (кіраўнік Л. М. Сакалова). У 1941 г. член Мінскага камуністычнага падполля М. Ф. Малаковіч аб'яднала гэтыя групы і стала кіраўніком арганізацыі. Вясной 1942 г. арганізацыйна афармілася падпольная група моладзі пад кіраўніцтвам М. І. Каласоўскага і У. Л. Панасюк. Да канца 1942 г. арганізацыя налічвала больш за 70 чалавек. Падпольшчыкі вялі палітычную агітацыю, мелі 2 радыёпрыёмнікі, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, летам 1942 г. падпольную газету «Звязда» — орган Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Устанавілі сувязь з спецыяльнай групай Чырвонай Арміі, партызанскімі брыгадамі «Разгром», «За Савецкую Беларусь», імя М. А. Шчорса, «Дзядзькі Колі» і інш. Партызанам і разведчыкам Чырвонай Арміі перадалі схемы размяшчэння аэрадрома і склада боепрыпасаў у Сцяпянцы, бензасховішчаў і ваенных складоў у в. Сухарукія, планы гарнізонаў у Калодзішчах, Уруччы і радыёцэнтры. Падпольшчыцы М. Ф. Малаковіч, А. С. Старасціна і партызанка Г. Ф. Фінская ў маі 1943 г. схілілі інжынера сувязі афіцэра нямецкіх ваенна-паветраных сіл К. Круга перайсці да партызан (у брыгаду «Дзядзькі Колі»). У выніку савецкае камандаванне атрымала каштоўную інфармацыю аб ваенна-паветраных сілах групы армій «Цэнтр» — размяшчэнні аэрадромаў, колькасці самалётаў, сістэме проціпаветранай абароны праціўніка на цэнтральным участку савецка-германскага фронту і планах германскага камандавання на лета 1943 г. Падпольшчыкі пераправілі партызанам 5 мінамётаў, каля 10 кулямётаў, 15 рэвальвераў, каля 200 вінтовак, сотні мін і гранат, больш за 20 тыс. патронаў, медыкаменты, бланкі нямецкіх дакументаў і пропускаў. Яны збіралі сродкі ў фонд абароны краіны, у 1943 г. перадалі на Вялікую зямлю 70 тыс. рублёў аблігацыямі і грашыма, вывезлі з Мінска да партызан вядомых вучоных акадэміка АН БССР гісторыка М. М. Нікольскага і прафесара ў галіне будаўнічай механікі А. А. Краўцова.

Сумесна з партызанамі падпольшчыкі праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях і ў месцах размяшчэння воінскіх часцей. За час існавання арганізацыі правялі больш за 20 дыверсій. У жніўні 1943 г. фашысты арыштавалі М. Ф. Малаковіч і А. Я. Радзюк і закатавалі іх. Арышты адбыліся і ў красавіку 1944 г. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінулі Л. І. Баршчэўская, З. І. Завістовіч, Г. П. Сасункевіч, Э. І., Ж. І. і Г. Э. Эрдманы. Некаторыя падпольшчыкі пайшлі ў партызанскія атрады. Падполле дзейнічала да вызвалення Міншчыны часцямі Чырвонай Арміі.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Аржаева Л. В., Капіца Ю. А. Каладзішчанскае падполле.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1977, № 3; Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979. *В. В. Семянюк.*

**1845. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАДПОЛЬНАЙ ГРУПЫ «ЧЫГУНАЧНАЯ»** (гіст.). На будынку вакзала. Устаноўлена ў 1975 г.

Адна з першых падпольных груп на тэрыторыі Каладзішчанскага сельсавета — «Чыгуначная» (пазней «Удар») створана ў ліпені 1941 г. Арганізатарамі і кіраўнікамі яе былі камуніст М. М. Афанасьеў і камсамолец С. Э. Эрдман. У групу ўваходзілі: М. А. Афанасьеў, І. С. Бакуновіч, У. К. Глазуноў, І. В. Іпатаў, Н. К. Ермалаева, М. Н. Заплацінскі, Ж. І., Г. Э., Н. Э., Э. І. Эрдманы, А. М. Яцкевіч і інш. У жніўні 1941 г. група «Чыгуначная» ўвайшла ў склад Каладзішчанскага камуністычнага падполля, што дзейнічала пад кіраўніцтвам Мінскага камуністычнага падполля (гл. артыкул № 1844 «Мемарыяльная дошка ў гонар Каладзішчанскага камуністычнага падполля»). Па ініцыятыве М. М. Афанасьева і С. Э. Эрдмана была створана спецыяльная баявая група з мінскіх, каладзішчанскіх і сцяпянскіх чыгуначнікаў, якая дзейнічала на Мін-

скім чыгуначным вузле. Ядро яе склалі М. А. Новік, А. Я. Гуд, А. П. Скорын. Члены групы «Чыгуначная» правадзілі дыверсіі на чыгунцы, спынялі і затрымлівалі забеспячэнне паравозаў вадой, псавалі стрэлкі. На перагоне Седча — Рудзенск было знішчана 6 вагонаў з боепрыпасамі і пашкоджаны чыгуначны пуць даўжынёй 100 метраў. На перагоне Негарэлае — Калодзішчы падпольшчыкі спалілі 5 цыстэрнаў бензіну. Сумесна з партызанамі атрадаў «Камсамол» брыгады «За Савецкую Беларусь» і «Камуніст» брыгады імя М. А. Шчорса прымалі ўдзел у падрыве моста на дарозе Смалявічы — Абчак, у вёсцы Волма падпалілі казарму гітлераўцаў. Падпольшчыкі сабралі і перадалі партызанам 2 мінамёты, 10 кулямётаў, 700—800 гранат, 60 тыс. патронаў і інш. Правадзілі агітацыйную работу сярод насельніцтва. Распаўсюджвалі звесткі Саўінфармбюро.

*Літ.:* Аржаева Л. В., Капіца Ю. А. Каладзішчанскае падполле.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1977, № 3; Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979. *В. В. Семянюк.*

**в. Калядзічы, Сеніцкі сельсавет**

**1846. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад чыгуначнай станцыі Калядзічы. Пахаваны 700 ваеннапалонных, якіх зімой 1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камянец, Рагаўскі сельсавет**

**1847. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі 29.7.1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каралёў Стан,**
**Бараўлянскі сельсавет**

**1848. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква. Пахаваны 90 воінаў. Сярод іх — воіны 4-й гвардзейскай танкавай брыгады 2-га гвардзейскага танкавага корпуса і 32-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каралішчавічы,**
**Навадворскі сельсавет**

**1849. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОЛАСУ ЯКУБУ** (гіст.). На былым будынку Дома творчасці Беларускага аддзялення літаратурнага фонду СССР.

Дом творчасці «Каралішчавічы» знаходзіўся за 3,5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Каралішчавічы. Дзейнічаў у 1949—86 гг. У розны час тут адпачывалі і працавалі Я. Колас, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Лынькоў, Я. Маўр, У. Дубоўка, М. Лобан, А. Пысін, Я. Брыль, К. Крапіва, П. Панчанка, М. Танк, М. Лужанін і іншыя беларускія пісьменнікі. У 1956 г. Дому творчасці прысвоена імя Якуба Коласа, на ўшанаванне памяці пісьменніка ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1850. МАГІЛА ПУШЧЫ** Язэпа (гіст.). На могілках.

Беларускі савецкі паэт Я. Пушча (сапраўднае Плашчынскі Іосіф Паўлавіч) нарадзіўся 7.5.1902 г. у сялянскай сям'і. У 1929 г. скончыў Ленінградскі універсітэт. У 1921—26 гг. працаваў настаўнікам на Беларусі, у Інбелкульце (1926 г.), у 1929—30 гг.— у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Адзін з заснавальнікаў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». З 1931 г. працаваў на Урале, у Анапе (Крым), Уладзімірскай вобл. З 1958 г. жыў у Мінску.

Друкавацца пачаў у 1922 г. (ранні псеўданім Лясун). У 1925 г. выйшаў першы зборнік вершаў паэта — «Раніца рыкае». Аўтар зборнікаў «Vita» (1926 г.), «Дні вясны» (1927 г.), «Песні на руінах» (1929 г.), паэмы «Крывавы плакат» (1930 г.). Для паэзіі Я. Пушчы характэрны глыбокі лірызм, рамантычнае ўслаўленне жыцця маладой Беларускай савецкай рэспублікі, чалавека новай вёскі, выкарыстанне сродкаў песеннага фальклору. У некаторых творах канца 1920-х гг. выявіліся песімістычныя ноты. Пасляваенная творчасць тэматычна пашырылася, паглыбіўся філасофскі змест вершаў. Аўтар паэм «Песня вайны», «Крывавы год», «Бор шуміць», вершаў для дзяцей. Выйшлі кніжкі паэзіі: «Вершы і паэмы» (1960 г.), «Пачатак легенды» (1963 г.), [«Вершы і паэма»] (1968 г.), вершаваная казка «На Бабрыцы» (1960 г.).

Памёр Я. Пушча 14.9.1964 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. В. Семянюк.*

**в. Касынь, Папярнянскі сельсавет**

**1851. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кацягі, Міханавіцкі сельсавет**

**1852. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На поўнач ад вёскі, на могілках. Захавалася 5 насыпаў вышынёй 2,5 м, дыяметрам 12 м. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Качына, Ждановіцкі сельсавет**

**1853. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны падпольшчыкі Тарасава-Ратамскага камуністычнага падполля Ф. А. Траццякоў і С. І. Гатоўка, якіх 3.4.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.




1856. *Помнік землякам.*

**1854. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны падпольшчыкі Тарасава-Ратамскага падполля І. Ф. і Ф. Ф. Бурчакі, якіх 3.4.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Кіршы, Пятрышкаўскі сельсавет**

**1855. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у баі супраць польскіх інтэрвентаў, і 7 воінаў, што аддалі жыццё за Радзіму ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крупіца, цэнтр сельсавета**

**1856. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 428 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — мемарыяльная сцяна з барэльефам воіна і партызан.

**в. Ксаверава,**
**Лугаваслабадскі сельсавет**

**1857. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 жыхары вёскі, якіх 26.5.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лабеншчына, Лашанскі сельсавет**

**1858. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, на стрэлцы мыса, які абмежаваны з заходняга боку поймай ручая Крыніца і р. Свіслач, з астатніх — глыбокімі ярамі. Вышыня стромкіх схілаў гарадзішча 12—14 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, памерам 68×42 м. З усходняга боку ўмацавана 3 валамі і 2 равамі, з поўначы — 2 валамі і 2 равамі. Вышыня валоў 0,5—0,7 м (адзін вал вышынёй 2,2 м). Адкрыў у 1926 г. А. Дз. Каваленя, у 1927 г. А. М. Ляўданскі заклаў

траншэю памерам 1×62 м. У паўднёвай частцы раскопу выяўлена печ-домніца, шмат штрыхаванай керамікі, жалезныя сярпы, нажы, посахападобныя шпількі, шылы. У 1950—52 гг. даследаваў А. Р. Мітрафанаў (на плошчы больш за 900 м²). Устаноўлена, што гарадзішча ў сваім развіцці мела 2 перыяды. У ранні перыяд (4—1 стагоддзі да н. э.) яно было слаба ўмацавана, а пляцоўка выкарыстоўвалася толькі ва ўсходняй і паўднёвай частках. Жытлы мелі слупавую канструкцыю, падзелены на асобныя жылыя камеры. Агнішчы з пласта пяску, абкладзенага ўмазанымі ў гліну камянямі. Паводле раскопак ранні перыяд скончыўся вялікім пажарам. У позні перыяд (2—4 стагоддзі н. э.) гарадзішча было заселена поўнасцю. Край пляцоўкі падсыпаны суглінкам і супескам, што зрабіла схілы больш стромкімі. З паўночнага і ўсходняга бакоў насыпаны валы і выкапаны равы, а па краі пляцоўкі пабудавана драўляная сцяна. Знойдзена вялікая колькасць рэшткаў посуду. Для ранняга перыяду характэрны гаршкі з прамым і адагнутым венчыкам, дакладным плечыкам, выпуклым тулавам і плоскім ці круглым дном, упрыгожаныя ямачнымі адбіткамі на шыйцы, касцяныя сякеры, дзяржанні нажоў і сярпоў, шпількі, вастрыі. У позні перыяд пераважалі гаршкі, арнаментаваныя зашчыпамі, насечкамі, ямкамі ў верхняй частцы, жалезныя сякеры, сярпы, коп'і, посахападобныя шпількі, бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, трапецападобныя і акулярападобныя падвескі, выпуклыя бляшкі. Знойдзены косці каровы, свінні, каня, лася, кабана, аленя і інш. Гаспадарчыя запасы захоўваліся ў ямах-паграбах (некалькі такіх ям было выяўлена ў час раскопак). Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Лускава, Папярнянскі сельсавет**

**1859. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў 25-й гвардзейскай танкавай брыгады, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лясіны, Папярнянскі сельсавет**

**1860. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 183 мірныя жыхары вёскі, якіх 12.5.1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1862. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Ляхаўшчына, Ждановіцкі сельсавет**

**1861. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Раговічы. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі пры абароне вёскі ў 1941 г. і ў 1944 г. пры яе вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 64-й стралковай дывізіі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малы Трасцянец, Навадворскі сельсавет**
(увайшоў у 1987 г. у межы Мінска)

**1862. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 207 воінаў, сярод іх — воіны 26-й танкавай брыгады 2-га гвардзейскага танкавага корпуса, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла і надмагіллі з імёнамі загінуўшых.

**1863. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 101 мірны жыхар, якіх у маі 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1864. МЕСЦА ТРАСЦЯНЕЦКАГА ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). Каля вёскі, ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкоўка. У 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі тут лагер смерці з мэтай сістэматычнага масавага знішчэння савецкіх мірных грамадзян і ваеннапалонных. У лагер прывозілі таксама палітвязняў з Аўстрыі, Германіі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі. Гітлераўцы жорстка распраўляліся з вязнямі, расстрэльвалі і атручвалі іх газам. Трупы загубленых складвалі ў ямы-траншэі, утрамбоўвалі трактарамі, спальвалі. У Благаўшчыне пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў былі выяўлены 34 траншэі-магілы глыбінёй да 4 м, даўжынёй да 50 м, гітлераўцы загубілі тут каля 150 тыс. чалавек. У 1943 г. у Шашкоўцы акупанты пабудавалі крэмацыйную печяму, у якой спалілі больш за 50 тыс. чалавек. Попел з печы выкарыстоўвалі ў якасці ўгнаення палёў размешчанай у раёне лагера дапаможнай гаспадаркі, што належала ўпраўленню паліцыі бяспекі і СД. У чэрвені-ліпені 1944 г. у в. Малы Трасцянец у хляве і на штабелях бярвення гітлераўцы спалілі каля 6,5 тыс. чалавек. Усяго ў Трасцянецкім лагеры смерці нямецка-фашысцкія акупанты загубілі больш за 206 тыс. чалавек. Пасля Асвенціма і Майданака Трасцянецкі лагер найбольшы па колькасці загубленых людзей. У 1963 г. каля в. Вялікі Трасцянец на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск (гл. артыкул № 1818 «Помнік ахвярам фашызму»).

У 1983 г. на месцы загубы вязняў лагера пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984.
*В. В. Семянюк.*

**в. Масюкоўшчына, Ждановіцкі сельсавет**

**1865. МАГІЛА НІКАНАВА** Канстанціна Паўлавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза К. П. Ніканаў нарадзіўся 1.6.1922 г. у в. Увары Камызякскага р-на Астраханскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. Пасля сканчэння ў 1938 г. сямігадовай школы паступіў у Астраханскую суднамеханічную школу. З верасня 1941 г. у Чырвонай Арміі. У 1942 г. скончыў Камышынскае танкавае вучылішча. З лютага 1943 г. на Паўночна-Заходнім, Варонежскім, Украінскім і 1-м Беларускім франтах. Удзельнік баёў на Курскай дузе, у Польшчы, Германіі. Старшы лейтэнант К. П. Ніканаў вызначыўся 17.1.1945 г. на тэрыторыі Польшчы ў баі за г. Ловіч. Узвод танкаў пад яго камандаваннем знішчыў 200 аўтамашын, 4 танкі, 12 гармат, захапіў у палон 100 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.2.1945 г. Да 1975 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр у 1982 г.

У 1985 г. на магіле пастаўлены помнік.

*Літ.:* Гетман А. Л. Танки идут на Берлин.— 2 изд.— М., 1982. *В. В. Семянюк.*

**в. Міханавічы, Міханавіцкі сельсавет**

**1866. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Свіслач. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 10—12 м. Пляцоўка памерам



1867. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

35×40 м моцна пашкоджана пясчаным кар'ерам. У паўднёвай частцы захаваліся вал вышынёй 1,5 м і роў глыбінёй 1 м. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. В. Е. Собаль. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**пас. Міханавічы, цэнтр сельсавета**

**1867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля чыгункі. Пахаваны 109 воінаў. Сярод іх — воіны 49-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1868. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,4 км на паўднёвы захад ад пасёлка. Устаноўлены па ўшанаванне памяці 276 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза Іосіф Васілевіч Матрунчык.

І. В. Матрунчык нарадзіўся 20.1. 1903 г. у в. Кайкава Мінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. Скончыў у 1932 г. Арэнбургскую школу лётчыкаў, у 1934 г. Вышэйшую лётную школу. У Чырвонай Арміі з 1925 г. Вызначыўся ў савецка-фінляндскую вайну 1939—40 гг. Капітан І. В. Матрунчык зрабіў 58 баявых вылетаў, эскадрылля бамбардзіроўшчыкаў пад яго камандаваннем — больш за 560 баявых вылетаў. 5.2.1940 г. эскадрылля паспяхова правяла бамбардзіроўку варожага ваеннага аб'екта і аўтакалоны. 12 лютага ў складаных метэаралагічных умовах экіпаж самалёта І. В. Матрунчыка выканаў важнае баявое заданне па знішчэнню праціўніка ў вызначаным раёне. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.5.1940 г. У Айчынную вайну з жніўня 1941 г. на Заходнім, Волхаўскім, Ленінградскім, 2-м Украінскім, 1-м Прыбалтыйскім і 1-м Беларускім франтах, камандзір авіяпалка, намеснік камандзіра авіядывізіі. Падпалкоўнік І. В. Матрунчык загінуў 9.5.1945 г. у авіяцыйнай катастрофе.

У 1969 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Новы Двор, Шчомысліцкі сельсавет**

**1869. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Захавалася 14—16 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—12 м. Вядомы з 1870 г. Абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Нялідавічы, Папярнянскі сельсавет**

**1870. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 650 м на ўсход ад вёскі. 21 курган вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам 4—8 м. Насыпы падковападобнай формы, асобныя размешчаны на адлегласці 60 м адзін ад аднаго. Вядомы з 1924 г. Даследаваў у 1968 г. Э. М. Загарульскі, які раскапаў 5 насыпаў. Абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў БДУ імя У. І. Леніна. *В. Е. Собаль.*

**в. Падгор'е, Ждановіцкі сельсавет**

**1871. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у полі. Пахаваны 200 воінаў. Сярод іх — воіны 64-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паперня, цэнтр сельсавета**

**1872. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, справа (за 10 м) ад дарогі Мінск — Вяча. Пахаваны 12 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пашкавічы, Навадворскі сельсавет**

**1873. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1873а.** Курганны могільнік. За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, побач з могілкамі. 28 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 3—12 м. Адзін курган вышынёй 3 м, дыяметрам 30 м знаходзіцца на могілках. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1873б.** Курган. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Лешч. Вышыня каля 2 м, дыяметр 25 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль.

**в. Плябанцы, Міханавіцкі сельсавет**

**1874. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 52 жыхароў вёскі, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, а таксама 40 мірных жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты, у 1974 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай галавы жанчыны, надпісам-прысвячэннем і пілон са звонам.

**в. Прылукі, Сеніцкі сельсавет**

**1875. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. і ў ліпені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1876. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1876а.** Могільнік-1. Пры ўездзе ў вёску з боку Мінска, за 0,1 км ад дарогі ў напрамку бярозавага гаю. 11 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 3—12 м. Адкрыты ў 1893 г., абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1933 г. С. А. Дубінскі, у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1876б.** Могільнік-2. Побач з могільнікам-1. 5 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 8—15 м. Пашкоджаны самавольнымі раскопкамі. Адкрыты ў 1893 г., абследавалі ў 1930 г. А.



1874. *Помнік землякам.*



1877. *Палац. Галоўны фасад.*

Рынейскі, у 1933 г. С. А. Дубінскі, у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1877. СЯДЗІБА** (архіт.). Каля вёскі. Пры дарозе з вёскі да Слуцкай шашы. Сфарміравана ў 2-й палове 18 ст. на месцы былога праваслаўнага манастыра (існаваў да 1740 г.). У 1851 г. палац рэканструяваны, у 1868 г. гарэў, адноўлены ў 1872 г. Часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, адбудаваны ў пасляваенны час. Да палаца прыбудавана Г-падобнае ў плане крыло. Цяпер тут размешчаны Беларускі навукова-даследчы інстытут аховы раслін.

Палац. Мураваны двухпавярховы з цокальным паверхам прамавугольны ў плане будынак. Вуглы фланкіруюць 4 шасцігранныя двух'ярусныя дэкаратыўныя вежы. Іх першыя ярусы маюць гарызантальную рустоўку, другія — зубчастае завяршэнне. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам у выглядзе порціка на першым паверсе і лоджыі на другім, завершаны франтонам. На дваровым фасадзе ў цэнтры першага паверха знаходзіцца паўкруглая тэраса з дзвюма лесвіцамі, што звязвалі пакоі палаца з паркам. Да тарцовага фасада прыбудавана вежа, якая нагадвае дазорную. Яе абодва ярусы прарэзаны вузкімі стральчатымі аконнымі праёмамі. Сцены будынка па ўсім перыметры падзелены карнізным паяском. На першым паверсе аконныя праёмы лучковыя, на другім — паўцыркульныя. Цокальны паверх атынкаваны пад руставаны камень. Унутраная планіроўка палаца (спачатку анфіладная) зменена. У цокалі захавалася скляпеністае перакрыцце, столь першага і другога павёрхаў бэлечная.

У архітэктуры палаца выкарыстаны рысы неаготыкі.

Парк рэгулярна-пейзажнага тыпу. Закладзены ў канцы 17 — пачатку 18 ст. па тыпу італьянскага тэраснага саду (захаваўся часткова). Большасць пасадак зроблена ў пасляваенны час. Плошча да 4,5 га. Падзелены палацам на 2 часткі — заходнюю і ўсходнюю. Перад заходнім фасадам палаца партэр. Да цэнтра галоўнага фасада пракладзена ўязная ліпавая алея, абапал яе пейзажны парк, дзе ёсць клён шыракалісты, таполя дэкаратыўная, ясень звычайны, курціны бяроз. У заходняй частцы парку быў сад у італьянскім стылі; засталіся 4 тэрасы, што спускаюцца да поймы р. Пціч. Раней былі таксама плаціна і вадзяны млын (не захаваліся). Цяпер гэтая частка парку густа зарасла дрэвамі і кустамі, сярод якіх бэз, акацыі белая і жоўтая, клён, ясень і інш. Трапляюцца рэдкія пароды дрэў: лістоўніцы Сукачова і еўрапейская, арэх маньчжурскі, конскі каштан звычайны, піхта сібірская і інш.

Сядзіба — помнік архітэктуры з элементамі эклектыкі. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Пціч, Хацежынскі сельсавет**

**1878. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 25 партызан брыгады імя В. П. Чкалава, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1879. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Пціч. 6 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыў у 1925 г. І. А. Сербаў, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пятрышкі, цэнтр сельсавета.**

**1880. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны воіны 64-й стралковай дывізіі, што загінулі ў 1941 г., і воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў; 201 ваеннапалонны, якіх у 1941—44 гг. закатавалі ці расстралялі гітлераўцы.





1877. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — сучасныя пабудовы; 3 — партэр; 4 — парк.*





1877. *Палац. План 1-га паверха.*



1881. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пяцеўшчына, Крупіцкі сельсавет**

**1881. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. Пахаваны 45 воінаў. Сярод іх — воіны 385-й і 110-й стралковых дывізій, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна з вянком і жанчыны, што ўскладае кветкі.

**1882. МАГІЛА ПАСТАРНАЦКАГА** Фёдара Ігнатавіча (гіст.). На тэрыторыі бальніцы.

Рускі тэрапеўт, доктар медыцынскіх навук (1888 г.), прафесар (1891 г.), адзін з заснавальнікаў айчыннай бальнеалогіі і курарталогіі Ф. І. Пастарнацкі нарадзіўся 13.12.1845 г. у в. Пяцеўшчына Мінскага р-на. У 1871 г. скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта, дзе і працаваў да 1878 г. З 1879 г. у Пецярбургу — асістэнт на кафедры дыягностыкі і агульнай тэрапіі, у 1891—1902 гг. узначальваў кафедру шпітальнай тэрапіі Ваенна-медыцынскай акадэміі. Ф. І. Пастарнацкі апісаў сімптом, які характэрны для некаторых хвароб нырак (сімптом Пастарнацкага). Адзін з першых даследчыкаў каўказскіх мінеральных водаў і кліматычных асаблівасцей Чарнаморскага ўзбярэжжа Каўказа з мэтай іх лячэбнага выкарыстання. Стварыў і ўзначаліў кліматабальнеалагічную секцыю Рускага таварыства аховы народнага здароўя. Арганізатар Усерасійскага з'езда дзеячаў кліматалогіі, гідрабіялогіі і бальнеалогіі ў 1898 г. і Усерасійскай гігіенічнай выстаўкі ў 1894 г.

Памёр Ф. І. Пастарнацкі 7.8.1902 г.

У 1982 г. установлена надмагільная пліта.

*Літ.:* Молчанов Н. С., Ф. И. Пастернацкий: (Научная, лечебно-педагогическая и общественная деятельность).— Клиническая медицина, 1954, № 11; Елейникова В. С., Ф. И. Пастернацкий,— Здравоохранение Белоруссии, 1971, № 1. *В. В. Семянюк.*

**1883. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАРЦЭВІЧ** Сабіне Сігізмундаўне (гіст.). На адміністрацыйным будынку бальніцы. Установлена ў 1984 г. на ўшанаванне памяці медсястры С. С. Барцэвіч, якая тут працавала. Загінула ў 1944 г. пры выкананні задання камандавання партызанскай брыгады імя А. В. Суворава.

**в. Рагава, цэнтр сельсавета**

**1884. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 2002 ваеннапалонныя і жыхары навакольных вёсак, якіх у 1941—44 гг. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пас. Ратамка, Ждановіцкі сельсавет**

**1885. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 79 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод іх — воіны 238-й стралковай дывізіі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1886. МАГІЛА ІШУЦІНА** Мікалая Фёдаравіча (гіст.). У парку.

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Ішуцін нарадзіўся 11.11.1905 г. у в. Гаўрылаўка Суздальскага р-на Уладзімірскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Скончыў 2-ю Мінскую паграншколу. З 1923 г. працаваў рабочым на чыгуначнай станцыі Ратамка. У Чырвонай Арміі з 1925 г., у 1927—35 гг. служыў у пагранвойсках. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Цэнтральным, Варонежскім, 1-м Украінскім франтах. Камандзір батальёна капітан М. Ф. Ішуцін вызначыўся 23.9.1943 г. у час фарсіравання Дняпра каля Кіева. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10.1943 г. Пасля вайны працаваў у БДУ. Памёр 5.3.1971 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. В. Семянюк.*

**в. Раўбічы, Астрашыцка-Гарадоцкі сельсавет**

**1887. КАСЦЁЛ** (архіт.). Каля рэспубліканскага спартыўнага комплексу «Раўбічы», на перасячэнні 2 узгорыстых град, сярод ляснога ландшафту. Пабудаваны ў 1858—62 гг. з цэглы на месцы драўлянага касцёла. Цяпер у будынку музей беларускага народнага мастацтва — аддзел Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

Спачатку заснаваны як Халяўшчынскі касцёл (па назве бліжэйшай вёскі). У 1866 г. пераўтвораны ў праваслаўную Успенскую царкву, у якой у



1884. *Помнік на магіле савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў.*

1887. *Касцёл. Бакавы фасад.*

1869 г. быў устаноўлены іканастас (не захаваўся) работы мінскага мастака Ф. І. Ягорава. Каля касцёла былі адасобленыя агароджай жылы дом, стайня, хлеў, гумно і свіран (не захаваліся). У 1880 г. перад храмам пастаўлены драўляныя званіца і капліца (не захаваліся). У 1975—78 гг. будынак касцёла рэстаўрыраваны (архіт. Л. Паўлава) і прыстасаваны пад музейную экспазіцыю.

Касцёл — манументальны аднанефавы з капліцамі каля алтара будынак на магутным бутавым цокалі. Галоўны фасад фланкіраваны трох'яруснымі васьміграннымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Высокі шмат'ярусны атыкавы франтон паміж імі падкрэслівае форму стральчатага ўваходнага партала з ганкам з часанага каменю. У дэкоры галоўнага фасада выкарыстаны накладныя трох'ярусныя пілоны з перакінутымі паміж імі стральчатымі броўкамі. Над парталам круглы аконны праём у выглядзе гатычнай ружы. Рытм бакавых фасадаў ствараецца чаргаваннем магутных контрфорсаў і стральчатых аконных праёмаў з фігурнымі дубовымі пераплётамі і вітражамі. Багацце раскраповак, вітражоў надае фасадам дэкаратыўна-каларыстычную выразнасць. Элементы архітэктурнага дэкору (карнізы, ліштвы, абломы) вырашаны спрошчана. Дах пакрыты чырвонай чарапіцай (да рэстаўрацыі быў бляшаны). Прастора інтэр'ера перакрыта стральчатым скляпеннем на падпружных арках з люнетамі. Распор скляпення ўспрымаюць бакавыя пілоны, што адпавядаюць вонкавым контрфорсам. Пры ўваходзе на 2 квадратных у сячэнні слупах размешчаны хоры, якія звязаны з залай лесвіцай усходняй вуглавой вежы. Алтарная частка інтэр'ера асветлена вялікім стральчатым акном. Склеп-пахавальня замуравана.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии...— Мн., 1878.

*А. М. Кулагін.*

**1888. СПАРТЫЎНЫ КОМПЛЕКС «РАЎБІЧЫ»** (архіт.). На ўскраіне вёскі, за 22 км на паўночны ўсход ад Мінска. Пабудаваны ў 1973 г. (архіт. В. Аладаў, С. Неўмывакін, інжынер-канструктар М. Гордзін). Адкрыты ў 1974 г. як рэспубліканскі спартыўны комплекс. Займае тэрыторыю 36 га. Прызначаны для правядзення рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных



1887. *Касцёл. Інтэр'ер. Від на хоры.*




1887. *Касцёл. План.*

спаборніцтваў, для вучэбна-трэніровачных заняткаў па біятлоне, лыжных гонках, лыжным дваябор'і, скачках на лыжах з трампліна, слаламе, канькабежным спорце, стралковым спорце і стральбе з лука.

У комплекс уваходзяць: спартыўныя збудаванні — асноўнае стрэльбішча (150×140 м) з 160-метровым жалезабетонным бліндажом, трэніровачнае стрэльбішча (150×50 м), лыжныя трасы (3 пятлі агульнай даўжынёй 20 км), 3 лыжныя трампліны з штучным пакрыццём (разліковая даўжыня скачка 20, 40, 60 м), спецыялізаваная лыжаролерная траса з асфальтабетонным пакрыццём, малая слаламная траса, ролікадром (150×60 м); будынкі — універсальная спартыўная зала, медыка-аднаўленчы цэнтр, судзейскі павільён, адміністрацыйна-гаспадарчы корпус з гасцініцай; на штучных земляных валах размешчаны трыбуны для гледачоў, якія пераходнымі мастамі звязаны з трыбунамі каля судзейскага павільёна.

Адміністрацыйна-гаспадарчы будынак. Сямiпавярховы, складаецца з 2 рознавялікіх злучаных паміж сабой аб'ёмаў, вырашаных у выглядзе трохвугольнікаў. Фасады апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай, агароджы балкона з дрэва, дах пакрыты металічнымі пласцінамі. На першым паверсе — вестыбюль, рэстаран, пошта, бібліятэка з чытальнай залай, вузел сувязі, службовыя памяшканні, на астатніх — гасцінічныя нумары. Для апрацоўкі інтэр'ераў выкарыстаны дрэва, дэкаратыўная абліцовачная плітка. Памяшканні ўпрыгожаны творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, станковага жывапісу і графікі.

Будынак універсальнай спартыўнай залы. Уключае памяшканні вялікай (для трэніроўкі гімнастаў, лёгкаатлетаў, а таксама гульнявых відаў спорту) і малой (для трэніроўкі па барацьбе, цяжкай атлетыцы, фехтаванню і інш.) залаў. Кампазіцыю будынка завяршае вежа з зашклёнай назіральнай пляцоўкай.

Судзейскі павільён. Трохпавярховы будынак, размешчаны над месцам старту, мае вынасную кансольную частку, якая выступае на 12 м. У павільёне знаходзяцца памяшканні для судзейскай калегіі, прэсы, каментатараў і інш. Аператыўную інфармацыю перадае электроннае табло.

Будынак медыка-аднаўленчага цэнтра. Трохпавярховы, з высокім двухсхільным дахам. У ім размяшчаюцца кабінеты ўрачэбныя, для водных працэдур, масажу, фізіятэрапіі, 3 сауны і інш.

Усе архітэктурна-спартыўныя збудаванні вырашаны ў буйных дынамічных формах, маюць востраверхія кампазіцыі, упісваюцца ў маляўнічы ландшафт, нібы паўтараюць яго ўзгорысты рэльеф. *В. Б. Ангелаў.*

**в. Русінавічы, Самахвалавіцкі сельсавет**

**1889. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка агароднінна-бульбяной селекцыйнай станцыі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і плодаагародніцтва. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Самахвалавічы, цэнтр сельсавета**

**1890. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС НА БРАЦКІХ МАГІЛАХ СУПРАЦОЎНІКАЎ РЭЎКОМА, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. Калініна, на плошчы. Тут пахаваны старшыня Самахвалавіцкага валаснога рэўкома І. Жэрдаў і загадчык харчаддзела рэўкома В. Лапацік, якія загінулі 11.12.1917 г. у баі супраць контррэвалюцыянераў. Побач — брацкая магіла 150 воінаў, у т. л. воінаў 3-га дывізіёна 890-га палка 330-й стралковай дывізіі, і 3 мірных жыхароў, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Тут таксама пахаваны камандзір артылерыйскага дывізіёна Герой Савецкага Саюза Сцяпан Маркавіч Кавалёў.

С. М. Кавалёў нарадзіўся 11.2. 1920 г. у в. Фролы Смаленскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1941 г. скончыў артылерыйскае вучылішча. З 1940 г. у Чырвонай Арміі, з 1941 г. на фронце. Вызначыўся 8.7.1944 г. у баі каля Самахвалавіч. Артылерыйскі дывізіён, якім камандаваў маёр С. М. Кавалёў, быў атакаваны 2 палкамі пяхоты праціўніка. У рашаючы момант бою С. М. Кавалёў узначаліў контратаку байцоў і прымусіў ворага адступіць. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.11.1944 г. Яго імем названа вуліца ў пас. Самахвалавічы.

У мемарыяльны комплекс уваходзяць: абеліск на магіле супрацоўнікаў рэўкома (пастаўлены ў 1918 г.), стэла на брацкай магіле савецкіх воінаў і мірных жыхароў (1980 г.), а таксама дошкі з імёнамі загінуўшых воінаў і барэльефам Героя Савецкага Саюза С. М. Кавалёва (1985 г.).

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**1891. ПОМНІК АМЕЛЬЯНЮКУ** Уладзіміру Сцяпанавічу (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы.

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза (1965 г.) У. С. Амельянюк нарадзіўся ў 1917 г. у г. Дно Пскоўскай вобл. Кандыдат у члены КПСС. Вучыўся ў Самахвалавіцкай школе. Напярэдадні вайны студэнт Камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску. З жніўня 1941 г. у складзе Камароўскай падпольнай групы. Размнажаў і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, пісаў лістоўкі, падтрымліваў сувязь з Дзяржынскім камуністычным падполлем і партызанскімі атрадамі Мінскай вобл. З мая 1942 г. член Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, загадчык аддзела агітацыі і прапаганды, рэдактар падпольных выданняў, першага нумара падпольнай газеты «Звязда» (май 1942 г.). Удзельнічаў у стварэнні падпольнай друкарні, у вызваленні ваеннапалонных з лагераў смерці. Загінуў у Мінску 26.5. 1942 г. пры выкананні баявога задання. У Мінску яго імем названа вуліца, недалёка ад месца, дзе загінуў У. С. Амельянюк, пастаўлены мемарыяльны знак.

Бюст У. С. Амельянюка ўстаноўлены ў 1974 г.

**в. Сеніца, цэнтр сельсавета**

**1892. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. Пахаваны 59 воінаў. Сярод іх — воіны 1206-га стралковага і 936-га артылерыйскага палкоў 362-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1893. МАГІЛА ТАРАСЕВІЧА** Аляксандра Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы А. М. Тарасевіч нарадзіўся 3.8.1922 г. у Мінску. Член КПСС з 1955 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. працаваў у калгасе імя М. Ф. Гастэлы Мінскага р-на — цясляр, брыгадзір паляводчай, будаўнічай брыгад. У 1960—63 гг. старшыня калгаса імя ЦК КПБ Пухавіцкага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 18.1.1958 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў. Памёр 7.9.1963 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1894. МАГІЛА ШТРОМАВА** Генадзя Уладзіміравіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. Малодшы лейтэнант Чырвонай Арміі Г. У. Штромаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 5.7. 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1895. ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, каля Слуцкай шашы. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Кампазіцыя будынка складаецца з асноўнага квадратнага ў плане двух светлавога нефа, чатырох'яруснай вежы (захаваліся толькі 2 ярусы), бабінца і паўцыркульнай апсіды з 2 ба-

кавымі прыбудовамі. Сцены дэкарыраваны плоскімі пілястрамі, паўцыркульнымі аркамі і арачнымі абрамленнямі аконных праёмаў. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Сёмкава, Папярнянскі сельсавет**

1896. **СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночны захад ад вёскі, на ўзгорыстым перасечаным рэльефе. Сфарміравана ў 2-й палове 18 ст., верагодна, паводле праекта італьянскага архіт. К. Спампані. Створана па прынцыпу сіметрычна-восевай рэгулярнай планіроўкі. Пад'язная ліпавая алея вядзе да вялікага прамавугольнага ў плане параднага двара, абмежаванага сядзібным домам і бакавымі флігелямі. Раней была манументальная агароджа з брамай (не захаваліся). За домам, каля падножжа трох закругленых тэрас, разбіты партэр з паралельнымі радамі ліпавых і дубовых шпалер па баках. Кампазіцыя завяршаецца цэнтральнай алеяй, якая выходзіць на адкрыты навакольны ландшафт. З паўднёвага боку цэнтра сядзібы разбіты пейзажны парк (10 га).

Сядзібны дом — аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак. У пасляваенныя гады рэканструяваны. Цяпер тут школа-інтэрнат. Быў накрыты высокім ламаным дахам з люкарнамі. Цэнтральная ўваходная частка вылучана неглыбокім рызалітам з мансардай. Плоскасці фасадаў упрыгожвае філёнгавая раскрапоўка, якая абрамляе прамавугольныя аконныя праёмы.


1896. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — флігелі; 3 — сучасныя пабудовы; 4 — сад; 5 — парк.*


1896. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*


1896. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



1896. *Сядзібны дом. План.*


1896. *Флігель.*

Архітэктура будынка вылучаецца кантрастамі — нізкі выцягнуты фасад і высокі пілястравы порцік з трохвугольным франтонам. Да тарцоў будынка прымыкаюць двухвосевыя прыбудовы з плоскімі дахамі-тэрасамі. Сядзібны дом як цэнтр кампазіцыі ансамбля падкрэслівалі аднапавярховыя прамавугольныя выцягнутыя ў плане флігелі, накрытыя вальмавымі дахамі і аб'яднаныя з галоўным будынкам адзіным архітэктурным вырашэннем. Раней флігелі сталі асобна (перпендыкулярна дому), цяпер злучаны з ім крытымі пераходамі. Уваходы вылучаны неглыбокімі рызалітамі. У выніку перабудовы выгляд дома змяніўся: мансардавы дах заменены вальмавым. Планіроўка дома калідорная. У цэнтры група парадных памяшканняў: вялікі вестыбюль, зала з бакавымі гасцінымі. Цэнтральная зала з непасрэдным выхадам у парк выступае на дваровым фасадзе паўкруглым эркерам. Дэкор інтэр'ера не захаваўся.

Сядзіба — адзін з нямногіх уцалелых на Беларусі помнікаў, створаных на аснове сіметрычна-восевай рэгулярнай планіроўкі, захавала рысы пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**в. Сёмкаў Гарадок, Папярнянскі сельсавет**

1897. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. і ў ліпені 1944 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1898. **ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На могілках. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны заходні фасад расчлянёны 4 руставанымі лапаткамі, завершаны высокім фігурным шчытом. Сцены бакавых фасадаў гладкія, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце плоскае, бэлечнае. Над уваходам размешчаны хоры. Алтарная частка аддзелена ад залы шырокай аркай. Да алтара далучаюцца 2 сакрысціі. Аздоба інтэр'ера не захавалася.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў неакласіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Скарынічы, Сеніцкі сельсавет**

1899. **КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**1899а.** Могільнік-1. За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі. 44 курганы вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 4—20 м. Большасць насыпаў зарасла лесам і кустамі, каля асноў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1899б.** Могільнік-2. За 1,3 км на поўнач ад вёскі. 13 насыпаў вышынёй 1—1,35 м, дыяметрам 4—10 м. Адкрыў у 1893 г. Г. Х. Татур, абследавалі ў 1932 г. А. Рынейскі, у 1979 г. В. Е. Собаль. У 1964 г. А. Р. Мітрафанаў раскапаў 1 насып, у якім была знойдзена металічная дрыгавіцкая пацерка. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1899в.** Курган. Пры ўездзе ў вёску з боку Мінска. Вышыня 3 м, дыяметр 20 м. Адкрыў у 1893 г. Г. Х. Татур, абследаваў у 1930 г. А. Рынейскі.

*В. Е. Собаль.*

**1900. МАГІЛА ФОКІНА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі І. І. Фокін загінуў у чэрвені 1941 г. у баі пры абароне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Сяло, Хацежынскі сельсавет**

**1901. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Ва ўрочышчы Багінаўка. Пахаваны камісар Патапаў, які загінуў у 1920 г. у баі супраць польскіх інтэрвентаў, камсамолец Белахвосцік, загублены у 1930 г. ворагамі Савецкай улады, і савецкі воін, што загінуў у чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1902. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 119 воінаў. Сярод іх воіны 4-й гвардзейскай танкавай брыгады 2-га гвардзейскага танкавага корпуса і 352-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1903. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 жыхароў вёскі, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1904. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 мірных жыхароў, якіх 24.1.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік.

**в. Стукацічы, Самахвалавіцкі сельсавет**

**1905. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Каля 90 насыпаў вышынёй 1—3,5 м, дыяметрам 5—20 м. Курганы добра захаваліся, параслі лесам, вакол іх прасочаны раўкі. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сухарава, Шчомысліцкі сельсавет**

**1906. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад будынка магазіна, на могілках. 16 насыпаў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 5—18 м. Каля курганоў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1925 г. І. А. Сербаў, абследаваў у 1979 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сярэдняя, Рагаўскі сельсавет**

**1907. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Каля вясковых могілак. Пахаваны 101 партызан брыгады «Штурмавая», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1963 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**1908. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ШТУРМАВАЯ»** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, дзе ў Вялікую Айчынную вайну базіраваўся штаб партызанскай брыгады «Штурмавая».

Брыгада створана ў снежні 1942 г. на базе асобных атрадаў «Штурм», «Грозны», «За Бацькаўшчыну». Камандзіры І. Л. Фогель (май — чэрвень 1944 г.), І. А. Гламаздзін (в. а., чэрвень — ліпень 1944 г.), камісар І. М. Фёдараў (снежань 1942 г.— чэрвень 1944 г.), начальнікі штаба І. Л. Фогель (снежань 1942 — май 1944 г.), А. Ф. Кандыбін (май — ліпень 1944 г.). Дзейнічала на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Мінскага, Заслаўскага, Лагойскага, Радашковіцкага р-наў. Партызаны вялі баявыя дзеянні на чыгуначных і шашэйных дарогах Мінск — Маладзечна, Мінск — Барысаў. У жніўні 1943 г. у час аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. Узарвалі і спалілі 168 мастоў, 21 склад. Разграмілі 2 чыгуначныя станцыі. У маі — чэрвені 1943 г. вялі баі супраць гітлераўцаў, якія праводзілі карную аперацыю «Котбус». Разграмілі варожыя гарнізоны ў красавіку 1942 г. у в. Боўблі Заслаўскага р-на, у снежні 1942 г. у Лагойску. Брыгада (1464 партызаны) 2.7.1944 г. злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала партызанскія атрады «Штурм», «За Бацькаўшчыну», імя М. В. Фрунзе, «Грозны», імя Г. К. Жукава, імя П. К. Панамарэнкі.

У 1963 г. у гонар брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.
*В. В. Семянюк.*

**в. Тарасава, Ждановіцкі сельсавет**

**1909. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. пры абароне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1910. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І КУРГАЕВА** Піліпа Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і адзін з кіраўнікоў Тарасава-Ратамскага камуністычнага падполля П. Ф. Кургаеў, якога 3.4.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1911. МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны адзін з кіраўнікоў Тарасава-Ратамскага камуністычнага падполля В. І. Лошыцкі і яго жонка падпольшчыца Г. Д. Лошыцкая, якіх 3.4.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1912. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БОРТНІКУ** Паўлу Майсеевічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1971 г. на ўшанаванне памяці дырэктара школы П. М. Бортніка — аднаго з кіраўнікоў Тарасава-Ратамскага падполля ў Вялікую Айчынную вайну. Загінуў у засценках гестапа.

**1913. ПОМНІК У ГОНАР ТАРАСАВА-РАТАМСКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.). За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, каля лесу.

У Вялікую Айчынную вайну ў в. Тарасава і пас. Ратамка Мінскага р-на з ліпеня 1941 г. да красавіка 1942 г. дзейнічала камуністычнае падполле, якое аб'ядноўвала 28 чалавек (17 з в. Тарасава і 11 з в. Ратамка). Кіраўнікі — старшыня калгаса «Чырвоны араты» В. І. Лошыцкі, дырэктар Тарасаўскай школы П. М. Бортнік, сакратар Ратамскага сельсавета А. І. Вольскі, ваенурач П. Ф. Кургаеў, ваенфельчар Я. У. Саблер. Падпольшчыкі на кватэры П. М. Бортніка прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх на пішучай машынцы і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. Патрыёты пры ўдзеле жыхароў ратавалі параненых савецкіх воінаў, забяспечвалі іх медыкаментамі, прадуктамі, вопраткай. Было выратавана каля 100 воінаў. Многія з іх перапраўлены ў партызанскія атрады. У снежні 1941 г. падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з Мінскім камуністычным падполлем, атрымалі заданне арганізаваць партызанскі атрад, здабывалі для яго зброю, боепрыпасы. 30.3.1942 г. асобнымі групамі накіраваліся да месца дыслакацыі ў Старасельскі лес, але падыходы да яго перакрылі карнікі. Раніцай 2 красавіка групы вымушаны былі вярнуцца ў вёску — дачакацца зняцця блакады. У ноч з 2 на 3.4.1942 г. былі арыштаваны і пасля катаван-



**1913.** *Помнік у гонар Тарасава-Ратамскага камуністычнага падполля.*



1915. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

няў расстраляны фашыстамі ўсе кіраўнікі падполля, а таксама падпольшчыкі І. А. Бараноўскі, Р. Башкіраў, С. І. Бортнік, І. Ф. і Ф. Ф. Бурчакі, С. І. Гатоўка, А. П., В. Дз. і Г. Жаркоўскія, Дз. А. Жызнеўскі, У. Кісялёў, Г. Д. Лошыцкая, Ф. А. Траццякоў, М. Ушакоў, І. Холадаў і інш.

У 1970 г. у гонар падполля пастаўлена стэла. *В. В. Семянюк.*

**в. Траскоўшчына, Гаранскі сельсавет**

**1914. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 31 партызан брыгады імя М. А. Шчорса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1915. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 63 воіны. Сярод іх — воіны 598-га артылерыйскага палка 175-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызаны брыгады імя М. А. Шчорса, што загінулі ў баях супраць акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1916. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ імя М. А. ШЧОРСА** (гіст.). У скверы. У наваколлі вёскі ў Вялікую Айчынную вайну базіраваўся штаб партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса.

Брыгада створана ў лістападзе 1943 г. на базе асобнага атрада імя М. А. Шчорса. Камандзір С. С. Ключнік, камісар І. Б. Леванкоў. Дзейнічала на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Мінскага, Дзяржынскага, Заслаўскага, Івянецкага і Радашковіцкага р-наў. Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях Мінск — Маладзечна, Мінск — Баранавічы. У лютым — ліпені 1944 г. падарвалі 23 эшалоны. Правялі больш за 60 баёў, знішчылі каля 100 аўтамашын ворага. У пачатку ліпеня 1944 г. у час Беларускай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі адрэзалі шляхі адступлення нямецкім войскам у Івянецкую пушчу.

Брыгада 4.7.1944 г. злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала атрады імя М. А. Шчорса, «Перамога», імя М. І. Калініна, імя А. І. Мікаяна, імя В. І. Чапаева, імя К. К. Ракасоўскага, імя А. С. Шчарбакова, імя Кастуся Каліноўскага (усяго 1020 партызан).

У 1966 г. у гонар брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

**в. Узбор'е, Астрашыцка-Гарадоцкі сельсавет**

**1917. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 4 воіны 100-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Цімошкі, Самахвалавіцкі сельсавет**

**1918. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чаромуха, Гаранскі сельсавет**

**1919. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 43 воіны. Сярод іх — воіны 352-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чачкава, Гаранскі сельсавет**

**1920. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны брыгады імя М. А. Шчорса, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чурылавічы, Міханавіцкі сельсавет**

**1921. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку аддзялення сувязі. Устаноўлена ў 1963 г. у памяць аб знаходжанні тут М. І. Калініна.

20.6.1919 г. Старшыня ВЦВК М. І. Калінін на чале агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» прыбыў у г. Мінск, дзе прыняў удзел у рабоце аб'яднанага пасяджэння ЦВК Літвы і Беларусі, Мінскага гарадскога Савета, Савета прафсаюзаў і праўлення ў галіновых прафсаюзаў, на якім абмяркоўваўся дэкрэт ВЦВК РСФСР «Аб аб'яднанні савецкіх рэспублік: Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі для барацьбы з сусветным імперыялізмам». А. І. Калінін пабываў у Самахвалавіцкай і Сенніцкай валасцях, 21.6.1919 г. наведаў саўгас, створаны на базе канфіскаванага маёнтка «Ігнацічы», дзе азнаёміўся з гаспадаркай і выступіў з дакладам аб міжнародным і ўнутраным становішчы Савецкай Расіі. На мітынгу прысутнічала больш за 200 сялян з навакольных вёсак.

*Літ.:* Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975. *В. В. Семянюк.*

**1922. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 120 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Шабаны, Навадворскі сельсавет**

**1923. РАДЗІМА ШАБАНА** Казіміра Аркадзьевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. А. Шабан нарадзіўся 22.6.1922 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. З 1940 г. у Чырвонай Арміі. У 1941 г. скончыў Тамбоўскую школу ваенных пілотаў. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Варонежскім, 1-м і 2-м Украінскіх франтах. Лётчык-штурмавік старшы лейтэнант К. А. Шабан удзельнічаў у баях на Курскай дузе, у Корсунь-Шаўчэнкаўскай і Львоўска-Сандамірскай аперацыях, у вызваленні Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. Зрабіў 123 баявыя вылеты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.8.1944 г. За-




1927. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

гінуў 9.7.1945 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў Адэсе.
*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Шапялі, Юзуфоўскі сельсавет**
**1924. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 12 воінаў і партызан. Сярод іх — партызаны брыгады імя М. В. Фрунзе, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шаршуны, Рагаўскі сельсавет**
**1925. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка бальніцы. Пахаваны 4 танкісты, якія загінулі 2.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1926. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 200 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



1928. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Шчомысліца, цэнтр сельсавета**
**1927. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 138 воінаў. Сярод іх — воіны 95-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на могілках пастаўлены стэла і абеліскі.

**в. Юзуфова, цэнтр сельсавета**
**1928. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 74 воіны і партызаны. Сярод іх — воіны 352-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1953 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Юхнаўка, Каладзішчанскі сельсавет**
**1929. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі воін загінуў у 1941 г. пры абароне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабняні

Культавая архітэктура

## XX. МЯДЗЕЛ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. За 143 км на паўночны захад ад Мінска, паміж азёрамі Мястра і Баторын, за 31 км ад чыгуначнай станцыі Княгініна на лініі Маладзечна — Полацк, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Нарач.

У гістарычных дакументах вядомы пад назвамі Мядзел, Мядзела, Мядзнол, Мядзюль. Назва Мядзел паходзіць, магчыма, ад літоўскага medinis — лясны, драўляны. На адным з астравоў воз. Мядзел засталіся рэшткі гарадскіх умацаванняў 11 ст.— парубежнай крэпасці Полацкага княства. Гарадзішча з трох бакоў абмывалася вадой, з чацвёртага (заходняга) мела роў шырынёй 20 м. На краі пляцоўкі былі пабудаваны ўмацаванні. Да 20 ст. пасёлак падзяляўся на Стары і Новы Мядзел. Стары Мядзел вядомы з 1454 г. у складзе Віленскага ваяводства. Належаў Радзівілам, Францкевічам, Райскім, Грабкоўскім, Кошчыцам. З 1736 г. мястэчка, дзе былі дазволены кірмашы. З 1762 г. меў магдэбургскае права, адбываліся 4 кірмашы на год. У 1754 г. уладар мястэчка А. Кошчыц пабудаваў мураваны касцёл і кляштар. У канцы 19 ст. у Старым Мядзелі 312 жыхароў, 46 двароў, праваслаўная царква, сінагога, бровар. Новы Мядзел вядомы з 1463 г. У 1519 г. у руска-літоўскую вайну 1512—22 гг. быў разбураны. У сярэдзіне 16 ст. горад, каралеўскае ўладанне, жыхары якога мелі правы мяшчан. На востраве воз. Мястра існаваў Мядзельскі каралеўскі мураваны замак (асталіся руіны), умацаваны равамі. Пляцоўка замчышча мае форму выцягнутага прамавугольніка, была абнесена традыцыйным для Беларусі мурам. Замак доўгі час з'яўляўся месцам надзейнага сховішча мясцовых жыхароў. Разбураны ў Паўночную вайну 1700—21 гг.

З пачатку 17 ст. да 1775 г. у Новым Мядзелі адбываліся земскія суды, з 1661 г.— сеймікі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Стары і Новы Мядзел у складзе Расійскай імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У канцы 19 ст. у Новым Мядзелі 783 жыхары, 99 двароў, праваслаўная царква, касцёл, сінагога, школа, багадзельня, 3 крамы. У 1-ю сусветную вайну непадалёку ад Мядзела рускія войскі правялі (1916 г.) Нарачанскую аперацыю. У лістападзе 1917 г. у Мядзелі ўстаноўлена Савецкая ўлада, у 1918 г. выбраны валасны рэўком, Савет сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў. У сакавіку — лістападзе 1918 г. Мядзел акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у пачатку 1919 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяводства. Тут дзейнічаў падраённы камітэт КПЗБ. З 1939 г. у БССР. З 15.1.1940 г. вёска, цэнтр раёна Вілейскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (17.10. 1943 г.— 4.7.1944 г.) і ЛКСМБ (24.12. 1942 г.— 4.7.1944 г.). З 20.9.1944 г. Мядзел у Маладзечанскай вобл., з 17.11. 1959 г. гарадскі пасёлак, з 20.1.1960 г. у складзе Мінскай вобл.



XX. *Забудова вуліцы 17 Верасня.*

Інтэнсіўна забудоўваецца з 1967 г. як цэнтр курортнай зоны вакол воз. Нарач. Грамадска-адміністрацыйны і культурны цэнтр пасёлка — пл. Свабоды фарміруецца на перакрыжаванні вуліц 17 Верасня і Крупскай. Тут знаходзяцца будынкі выканкома раённага Савета народных дэпутатаў, Дома культуры, 2 бібліятэк, сярэдняй і музычнай школ, музея народнай славы, вузла сувязі, камбіната бытавога абслугоўвання, універмага, гасцініцы і інш. Галоўная кампазіцыйная вось — вул. 17 Верасня перасякае гарадскі пасёлак з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, забудавана 2—5-павярховымі дамамі. Ад яе адыходзяць вуліцы 1 Мая, Камсамольская, Крупскай, Чырвонаармейская і інш. Жылая зона пераважна на ўзбярэжжы воз. Мястра, дзеліцца на паўночна-заходні, паўднёва-ўсходні і ўсходні планіровачныя раёны. Працуюць хлебазавод, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас. У пасёлку сярэдняя і музычная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца. Выдаецца газета «Нарачанская зара». Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— Станіславаўскі касцёл кармелітаў, які з'яўляецца дамінантай старой часткі пасёлка.

Зона адпачынку — азёры Мястра і Баторын, парк, 2 скверы. У непасрэднай блізкасці ад Мядзела размешчаны санаторыі «Нарач», «Баравое», дамы адпачынку «Нарач», «Сосны», турбаза комплексу «Возера Нарач», аўтатурбаза «Нарачанка», піянерскія лагеры, у т. л. «Зубронак».

*Літ.:* Матерналы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии.— Витебск, 1896; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі



XX. *Будынак універмага.*

XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846.
*В. М. Баскова, А. Ю. Пятросава.*

**1930. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. 1 Мая. Пахаваны 169 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні пасёлка і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

3.7.1944 г. партызаны брыгады імя К. Я. Варашылава (камандзір І. Н. Крысаў, камісар А. І. Шаўчэнка) акружылі нямецкі гарнізон і вайсковыя падраздзяленні ворага, якія, адступаючы, размясціліся ў пасёлку. Каменданту гарнізона быў пасланы ультыматум аб здачы, але гітлераўцы маўчалі. Партызаны вырашылі штурмаваць пасёлак. Ім на дапамогу падаспелі 2 самаходна-артылерыйскія ўстаноўкі 850-га стралковага палка (камандзір палкоўнік Л. К. Марозаў) 1-га Прыбалтыйскага фронту. 4.7. 1944 г. у 13 гадзін праціўнік здаўся.

У 1966 г. на брацкай магіле пастаўлена стэла (скульпт. М. Бельскі; бетон; вышыня 3,5 м) на бетоннай пліце. На пярэдняй плоскасці стэлы рэльефная выява маладой жанчыны з ручніком, на якім змешчаны надпіс: «Спыніся перад помнікам герояў, яны прыкрылі сэрцамі сваімі на полі бою Радзіму». На бакавых гранях — прозвішчы загінуўшых.

*Літ.:* Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *В. М. Баскова, Л. Г. Лапцэвіч.*



1930. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1931. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1931а.** Г а р а д з і ш ч а. Мясцовая назва З а м а к. На паўвостраве (раней востраве) воз. Мястра. Займае пагорак памерам 105×120 м, вышыня над узроўнем возера і прылеглай да яго з паўднёвага і ўсходняга бакоў забалочанай нізіны 3,5—4 м. Вядома з канца 19 ст. Даследавалі ў 1971 г. і 1891 г. М. А. Ткачоў, у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт да 0,7 м. Знойдзены ганчарная кераміка, у т. л. белагліняная, паліхромная кафля, жалезныя вырабы, манеты 16—17 стагоддзяў і інш.

У 2-й палове 16 — пачатку 17 ст. на гарадзішчы быў пабудаваны замак прамавугольнай формы. Пляцоўка замчышча была абнесена мурам таўшчынёй 1,5—2 м з паўкруглымі бастыёнамі (таўшчыня сцен 2,5 м). У паўднёва-ўсходнім куце замка размяшчалася вежа дыяметрам 17,5 м пры таўшчыні сцен 3,75 м. З заходняга боку да яе прымыкаў палац шырынёй 10 м. Рэшткі другога будынка памерам 10×20 м захаваліся ў паўночна-заходнім куце. Абодва будынкі былі складзены з камянёў і баразнаватай цэглы, таўшчыня сцен каля 2 м, падвалы глыбінёй 3 м са скляпеністымі перакрыццямі. З поўдня, захаду і поўначы замак быў умацаваны валам з невялікімі землянымі бастыёнамі і шырокім глыбокім ровам, які злучаўся з возерам (вал вышынёй 2 м, шырынёй 12 м і роў глыбінёй 1,5—2 м, шырынёй 10—12 м захаваліся з заходняга боку). Замак з Мядзелам злучаўся драўляным мостам, ад якога асталіся шматлікія палі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Мядзельскім музеі народнай славы і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1931б.** С е л і ш ч а. За 50—150 м на ўсход і паўднёвы ўсход ад гарадзішча (аддзелена ад яго забалочанай нізінай). Плошча больш за 2 га. Выявіў М. М. Чарняўскі, даследавалі ў 1981 г. М. А. Ткачоў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Ускрыты рэшткі печаў-каменак і адкрытых агнішчаў, знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі, кавалкі жалезнага шлаку, жалезныя нажы, косці жывёл. Датуецца 10—13—17 стагоддзямі. Матэрыялы захоўваюцца ў Мядзельскім музеі народнай славы і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; я г о ж. Работы экспедиции Гродненского университета.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Я. Г. Звяруга.*

**1932. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ф р а н ц у з с к і я М а г і л ы. 169 насыпаў дыяметрам 4—12 м, вышынёй 0,5—2,3 м (найбольш буйныя знаходзяцца ў паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй частках могільніка). Каля асновы ў большасці выпадкаў ёсць кругавыя раўкі з перамычкамі. Многія курганы пашкоджаны. Вядомы з канца 19 ст. Даследаваў у 1962—63 гг. Ю. У. Драгун, раскапана 12 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пахавальны інвентар — жалезныя сякеры, падкowападобныя фібулы, пярсцёнкі, бранзалетападобнае скроневае кольца і інш. Абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Належаў мяшанаму славяна-балцкаму насельніцтву. Датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна) і ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга.*

**1933. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад пасёлка. Пахаваны 80 мірных жыхароў, якіх расстралялі ў верасні 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1934. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны сакра-



1931а. *Гарадзішча. План.*




1932. *Курганны могільнік. План.*

тар мясцовай камсамольскай арганізацыі У. І. Несцяровіч, якога ў 1941 г. разам з 2 сваякамі расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1969 г. на магіле ўстаноўлены паплечны бюст У. І. Несцяровіча і надмагілле.

**1935. СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ КАРМЕЛІТАЎ І ПЛЯБАНІЯ** (архіт.). На тэрыторыі былога Старога Мядзела, у парку. Пабудаваны ў 1754 г. з цэглы. Побач з імі размешчана званіца.

Касцёл. Квадратны ў плане купальны храм цэнтрычнай кампазіцыі. Масіўная канструкцыя купала двухчастковая. Ніжняя частка, што апіраецца на вялікі васьмярык, прарэзана люнетамі і лучковымі праёмамі, акаймаванымі калонкамі. Другая частка выканана ў выглядзе васьміграннай вежачкі-ліхтара, завершана сферычным дахам. Фасады аднолькавыя па кампазіцыі і дэкору. Цэнтральныя іх часткі вылучаны выступамі, якія фланкіраваны калонамі карынфскага ордэра (апрача выступа цэнтральнай часткі алтарнага фасада). Паміж калонамі размешчаны глыбокія конхавыя нішы. Сцены завершаны разарванымі дынамічнымі франтонамі, пад карнізам па перыметры касцёла праходзіць пояс сухарыкаў. Вуглы ўмацаваны плоскімі пілястрамі. Вокны і дзверы з паўцыркульнымі і лучковымі арачнымі завяршэннямі. Над парталам цэнтральнага ўвахода пад верхнім аконным праёмам навісае маленькі балкон з мудрагеліста выгнутай агароджай, упрыгожанай пераплеценнямі галінак, кветак (чыгуннае ліццё). Унутраная прастора асветлена, акрамя бакавога, верхнім святлом. Па вуглах размешчаны невялікія капліцкі, якія злучаны з падкупальнай часткай вузкімі паўцыркульнымі праёмамі. Над імі знаходзяцца неглыбокія нішы, упрыгожаныя ляпнымі ракавінамі. Пад купалам праходзіць абходная галерэя (захавалася часткова). Сцены размаляваны фрэскамі (зберагліся фрагменты).

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока з элементамі ракако.

Плябанія. Размешчана побач з касцёлам. Мураваная двухпавярховая пабудова, накрытая высокім двухсхільным дахам. Кампазіцыйнае вырашэнне будынка несіметрычнае. Паверхня сцен мае строгую і лаканічную архітэктурную апрацоўку. Фасады прарэзаны невялікімі прамавугольнымі вокнамі і крапаваны лапаткамі. Тарцы будынка завершаны высокімі трохвугольнымі франтонамі з невялікімі аконнымі праёмамі. 4 невялікія ўнутраныя памяшканні дома злучаны паміж сабой анфіладна. Цяпер унутраная планіроўка зменена.

Плябанія — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*



1935. *Станіславаўскі касцёл кармелітаў.*

### в. Алешкі, Свірскі пасялковы Савет

**1936. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Страча, у лесе. 12 насыпаў з запалымі вяршынямі і часткова з каменнымі абкладкамі на схілах. Дыяметр 6—11 м, вышыня 0,7—1,5 м. Выявіў і даследаваў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, раскапана 8 насыпаў. Пахавальны абрад— трупаспаленне на грунце і ў грунтавых ямах, пахаванні адзіночныя і двайныя. Пахавальны інвентар — жалезныя наканечнікі коп'яў, сякеры, нажы, шпоры, спражкі, бронзавы пінцэт, спіраль, кальцо. Абследаваў у 1979 г. Я. Г. Зверуга. Належаў балтам, датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899. *Я. Г. Зверуга.*

### в. Альжуткі, Будслаўскі сельсавет

**1937. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французы, або Васьковы горкі. За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, за 150 м злева ад дарогі ў в. Няверы, у лесе. Захавалася 5 насыпаў: 4 круглыя дыяметрам 6—11 м, вышынёй 0,5—1,7 м




1935. *Плябанія. План 1-га паверха.*




1936. *Курганны могільнік. План.*




1938. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — парк.*

і авальны памерам 10×12 м, вышынёй 1,8 м. Абследаваў у 1979 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Альшэва, Свірскі пасялковы Савет**

**1938. СЯДЗІБА** (архіт.). На беразе р. Альшэўка, у пейзажным парку. Сфарміравана ў 1887—93 гг. Уключае сядзібны дом і парк.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак з драўляным мансардавым дахам. Мураваныя прыбудовы пачатку 20 ст. надалі плану П-падобную форму. Галоўны ўваход вылучаны двухкалонным порцікам. Сцены звонку гарызантальна ашаляваны, вуглы апрацаваны рустам, аконныя праёмы прамавугольныя ў простых ліштвах з сандрыкамі. З боку дваровага фасада прыбудавана мураваная тэраса з балюстрадай. Планіроўка дома сіметрычна-восевая, з анфіладнай сувяззю памяшканняў. Цэнтральны вестыбюль злучаны з шырокімі бакавымі памяшканнямі арачнымі праёмамі.

Парк пейзажнага тыпу. Галоўнай алеяй падзелены на 2 часткі. У пасадках пераважаюць ліпа, таполя, клён.

Сядзіба — помнік архітэктуры, у якім спалучаны рысы народнага драўлянага дойлідства, стыляў «мадэрн», неакласіцызму і неабарока.



1940а. *Гарадзішча. План.*

*Літ.:* Maliszewski E. Pszewodnik po gubernji Wileńskiej: Zarys statystyczno-opisowy.— Warszawa, 1919. *А. М. Кулагін.*

**в. Андрэйкі, Вузлянскі сельсавет**

**1939. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, справа ад старой дарогі ў в. Вузла, у лесе. Захавалася 20 магіл, перакрытых зверху каменнымі вымасткамі ці выкладзеных камянямі па перыметры. На большасці магіл стаяць вертыкальныя каменныя пліты або плоскія камяні. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Астраўляны, Сырмежскі сельсавет**

**1940. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1940а.** Гарадзішча. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Лыцавічы, каля балота. Займае мыс марэннага ўзвышша, выцягнутага з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 4—6 м. Схілы стромкія, абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Пляцоўка авальная, памерам 45×55 м, мае нахіл на паўночны захад. Выявіў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1975 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,5—1,3 м. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі, кавалкі шлаку, косці жывёл. Датуецца 1-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1940б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з паўночна-заходняга, заходняга і паўднёва-заходняга бакоў. Выявіў у 1975 г. і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены фрагменты ляпных гладкасценных і штрыхаваных пасудзін, косці жывёл, шлак.

Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Баяры, Мядзельскі пасялковы Савет**

**1941. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,2 км на поўдзень ад заходняй ускраіны вёскі. Займае ізаляваны пагорак дыяметрам каля 70 м. Абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Заходняя частка разбурана кар'ерам. Абследаваў у 1979 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка, жалезны шлак і шмат абпаленых камянёў. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1942. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана і стэла з імёнамі загінуўшых.



1942. *Помнік землякам.*

**в. Белаўшчына, Нарацкі сельсавет**

**1943. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3—0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе безназоўнага ручая. Пляцоўка авальная памерам каля 100×40 м. Равы і валы адсутнічаюць. Схілы найбольш стромкія з усходу, вышынёй 7—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Праведзена шурфоўка і сабраны пад'ёмны матэрыял. Культурны пласт каля ўсходняга краю 0,35 м. Знойдзены абломкі ляпной штрыхаванай вастрарэбернай керамікі, каменны брусок з адтулінай для падвешвання, крэмень са слядамі апрацоўкі, венчык ганчарнай пасудзіны 2-й паловы 10 ці пачатку 11 ст., каменная зерняцёрка.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Брусы, Вузлянскі сельсавет**

**1944. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ САЛДАТ** (гіст.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 700 воінаў 2-й рускай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў час Нарачанскай аперацыі 1916 г.

Нарачанская аперацыя рускіх войск праводзілася з мэтай палепшыць цяжкае становішча саюзнай французскай арміі пад Вердэнам, разграміць 8-ю і 10-ю германскія арміі і пры паспяховым развіцці аперацыі адкінуць ворага за межы рускай граніцы. У раёне воз. Нарач дзейнічала 2-я армія Заходняга фронту, якая павінна была нанесці галоўны ўдар на ўчастку Нова-Свянцяны — Міхалішкі. Наступленне планавалася на лета, пачалося 18 сакавіка ў неспрыяльных метэаралагічных умовах пры слабай падтрымцы артылерыі і недастатковай падрыхтоўцы войск. 2-я армія на поўдзень ад воз. Нарач змагла ўклініцца ў абарону 10-й германскай арміі на 2—9 км. На іншых участках не мела значных поспехаў і 28 сакавіка спыніла наступленне. Нягледзячы на няўдачу аперацыі, яна затрымала на ўсходнім фронце 0,5 млн. германскіх войск і на 2 тыдні спыніла атакі на Вердэн. Рускія войскі панеслі вялікія страты.



1945. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

*Літ.:* История первой мировой войны. 1914—1918. Т. 2.— М., 1975. *В. М. Баскова.*

**1945. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 41 жыхар вёсак Брусы, Лужы, Заазер'е, былога хутара Гаць, якіх 27.9.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1981 г. на магіле ўстаноўлена скульптура жанчыны на прадаўгаватым пастаменце, у які ўрэзаны блок з імёнамі загінуўшых.

**1946. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мядзел — Вілейка. Пахаваны 10 жыхароў былога хутара Бароўка, якіх 13.7. 1943 г. расстралялі, а потым спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1948. *Касцёл бернардзінцаў і плябанія.*

**в. Будслаў, цэнтр сельсавета**

**1947. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г., і партызан, што загінуў у красавіку 1943 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1948. КАСЦЁЛ БЕРНАРДЗІНЦАЎ І ПЛЯБАНІЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. У аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю храма як бакавая капліца святой Варвары ўваходзіць касцёл, пабудаваны ў 1643 г.

Касцёл — трохнефавая безапсідная двухвежавая базіліка з трансептам. Сферычны купал размешчаны на перакрыжаванні галоўнага нефа і трансепта, раскрываецца толькі ва ўнутраную прастору. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Яго цэнтральная частка падзелена шматслойным карнізам на 2 ярусы. Першы ярус прарэзаны шырокім лучковым уваходным парталам, акаймаваным пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра. У другім ярусе — паўцыркульнае акно, над якім навісае балкон з агароджай (чыгуннае ліццё). Завяршае цэнтральную частку фасада складаны атыкавы франтон з фігурнай навіссю-грэбнем, які апіраецца на калонкі і пілястры карынфскага ордэра. Фасад дадаткова дэкарыраваны вертыкальнымі і гарызантальнымі раскрапоўкамі, шматлікімі калонамі і пілястрамі з капітэлямі, фланкіраваны высокімі чатырох'яруснымі вежамі. Першы ярус вежаў крапаваны пілястрамі, аддзелены ад другога магутным карнізам, які апіраецца на калоны. Другі і трэці ярусы меншыя ў сячэнні і па вышыні, дэкорам падобныя на першы. Чацвёрты ярус круглы ў сячэнні, прарэзаны круглымі вокнамі і завершаны невялікім купалам. Бакавыя фасады дэкарыраваны стрымана, члянёны паўцыркульнымі вокнамі. Тарцы трансепта ўпрыгожаны атыкавымі франтонамі складанай формы. Аналагічны франтон завяршае сцяну алтарнай часткі. У інтэр'еры цэнтральнага нефа цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, у бакавых — крыжовыя. Сцены крапаваны шматслойнымі пілястрамі і размаляваны. На высокіх хорах знаходзіцца арган, упрыгожаны драўлянай пазалочанай разьбой.

У капліцы святой Варвары размешчаны алтар «Ушэсце Марыі» (17 ст.; дрэва, разьба, пазалота; 6×6,49×1,9 м) — адзін з выдатных помнікаў ранняга барока на тэрыторыі Беларусі. Уключае 20 скульптур. Архітэктурныя канструкцыі алтара выкананы ў традыцыях рэнесансу. Цэнтральная частка двух'ярусная, бакавыя крылы пастаўлены на высокія ўпрыгожаныя накладной разьбой цокалі, якія моцна выступаюць наперад. Сярэдзіну цэнтральнай часткі алтара займае абрамлены валютамі алтарны абраз «Распяцце з перадстаячымі» (17 ст.; палатно, тэмпера; 110×70 см). Верхні ярус — шчыток, што ўзвышаецца над



1948. *Касцёл бернардзінцаў. Фрагмент інтэр'ера.*

карнізам тымпана, завершаны валютамі, паміж імі — гарэльефная выява сэрца ў цярновым вянку, якое падтрымліваюць серафімы. Верхні ярус фланкіраваны скульптурай з рысамі ранняга барока. На ніжніх карнізах выявы анёлаў, вышэй — святых Паўла і Пятра. У цэнтры верхняга яруса выява невядомага святога. Паміж ярусамі арнаментаваны фрыз (галоўкі анёлаў, львоў, завіткі, стылізаваныя драпіроўкі; гратэск). Бакавыя крылы алтара ўяўляюць сабой каланаду кампазітнага ордэра, якая апіраецца на цокаль. У нішах паміж калонамі 8 скульптур святых. Конхі нішаў, дзе знаходзяцца скульптуры, зроблены ў форме ракавін. Завершаны бакавыя крылы антаблементам з раслінным арнаментам па фрызе. На выступах над калонамі размешчаны яшчэ адзін скульптурны рад. Усе фігуры ва ўрачыстых позах, што адпавядае агульнаму строгаму ладу алтара. Алтар таніраваны чорным колерам, капітэлі калон і асобныя разныя дэталі пазалочаны, што стварае асаблівы дэкаратыўны эфект. Справа ад алтара размешчана разная пазалочаная фігура Хрыста, вобразам і тыпажом звязаная з алтарнай скульптурай.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

Плябанія (архіт.). Побач з касцёлам бернардзінцаў. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Аднапавярховы атынкаваны і пабелены будынак прамавугольнай у плане формы, накрыты двухсхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Над цэнтральным уваходам мансардавы паверх, упрыгожаны ступеньчатым атыкам. Пад карнізам праходзіць пояс сухарыкаў. Сцены члянёны плоскімі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў.



1948. *Касцёл бернардзінцаў. Алтар «Ушэсце Марыі».*



1948. *Касцёл бернардзінцаў. Арган.*

Плябанія — помнік грамадзянскага дойлідства з рысамі эклектыкі.

*Літ.:* Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці.— Мн., 1984, с. 66. *Л. Г. Лапцэвіч, А. Ю. Пятросава.*

**1949. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 200 жыхароў вёскі, якіх у верасні 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1950. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Зялёная. У двары аптэкі. Пахаваны 70 жыхароў вёскі, якіх 26.9. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1951. МАГІЛА БАЙЦАРАВА** Міхаіла Васілевіча (гіст.). На могілках. Старшына Чырвонай Арміі М. В. Байцараў загінуў у ліпені 1942 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1952. МАГІЛА МЯДЗЁЛКІ** Паўліны Вікенцьеўны (гіст.). На могілках.

Заслужаны дзеяч культуры БССР (1966 г.) П. В. Мядзёлка нарадзілася 31.8.1893 г. у в. Будслаў Мядзельскага р-на. Скончыла вышэйшыя агульнаадукацыйныя курсы ў Пецярбургу (1914 г.). Удзельніца Віленскага музычна-драматычнага гуртка (1914 г.), Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (1917—18, 1920 гг.). Зрабіла значны ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва ў перыяд яго станаўлення, вяла вялікую грамадскую, культурна-асветніцкую работу. Адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я. Купалы (1913 г., на беларускай вечарынцы ў Пецярбургу). Пазней выканала ролі: Зоські («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), Пронкі («Хам» паводле Э. Ажэшкі). Стварыла харавыя і дра-



1948. *Касцёл бернардзінцаў. Фрагмент алтара «Ушэсце Марыі».*

матычныя гурткі ў Гродне (1919 г.), Дзвінскай беларускай гімназіі (1922—25 гг.), Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі (1927—30 гг.), Будславе (1947—58 гг.). У 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг.— актыўны супрацоўнік Польскага камітэта дапамогі бежанцам, адказны сакратар Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны (1916 г.). Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі працавала настаўніцай у в. Мядзведзічы Слуцкага павета, потым пераехала ў Вільню. Была інструктарам беларускіх школ у Гродне. За грамадска-палітычную дзейнасць у 1919 г. арыштавана польскімі ўладамі і зняволена. З 1922 г. выкладчыца беларускай мовы і літаратуры ў Дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе, настаўніца Першай узорнай школы ў Маскве, школы ў Будславе. У 1974 г. выйшлі ўспаміны пра культурнае жыццё Беларусі дарэвалюцыйнага і савецкага часу «Сцежкамі жыцця». Памерла 13.2.1974 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**1953. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**1954. РАДЗІМА ВАСІЛЕВІЧА** Івана Антонавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР І. А. Васілевіч нарадзіўся ў 1894 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Удзельнік рэвалюцыйных падзей 1917—18 гг. у Віленскай губерні. Старшыня валвыканкома, намеснік камісара, камісар па харчаванню губерні. З лютага 1919 г. намеснік наркома харчавання Літоўска-Беларускай ССР, потым у органах Наркамата харчавання УССР. З 1925 г. нарком унутранага гандлю, з 1926 г. нарком фінансаў БССР. З верасня 1927 г. да кастрычніка 1930 г. другі сакратар, член Бюро ЦК КП(б)Б, потым у органах Наркамзема СССР. З 1934 г. загадчык сельгасаддзела і член Далёкаўсходняга крайкома ВКП(б). Член ЦВК СССР у 1925—30 гг. Памёр 29.12.1938 г.

*В. М. Баскова.*

**в. Буйкі,**
**цэнтр Сырмежскага сельсавета**

**1955. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 19 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вераб'і, Пузырскі сельсавет**

**1956. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



1959. *Помнік землякам.*

**в. Восава, Княгінінскі сельсавет**

**1957. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 49 жыхароў вёсак Вытраскі, Гарадзішча, Кіржына, Восава, Палавікі, Холма, Халмоўка і Янушова, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вузла, цэнтр сельсавета**

**1958. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ САЛДАТ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў час Нарачанскай аперацыі 1916 г.

**1959. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 59 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**1960. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1820-я гады з дрэва. У канцы 19 — пачатку 20 ст. перабудавана.

Спачатку аднаэрубны прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным гонтавым дахам. Пры перабудове з поўдня да алтарнай часткі прыбудавана прамавугольная ў плане рызніца, з захаду да галоўнага фасада — двух'ярусная чацверыковая званіца, завершаная шатром і купалам на глухім васьмерыку. Звонку царква вертыкальна ашалявана дошкамі, вокны прамавугольныя. Алтарны фасад завершаны ўсечаным зверху шчытом, над якім узвышаецца каваны крыж. Інтэр'ер — адзінае зальнае памяшканне з бэлечным плоскім перакрыццем. У паўднёва-заходняй частцы хоры ў выглядзе балкона з балюстрадай, які апіраецца на 2 слупы. Іканастас не захаваўся.

Царква — помнік народнага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Выгалавічы, Княгінінскі сельсавет**

**1961. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 25 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Галубенькі, Нарацкі сельсавет**

**1962. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзішча. За 0,5 км на захад ад вёскі, каля балота. Займае ізаляваны пагорак, вышыня над узроўнем нізіны 6—7 м. Пляцоўка авальная, памерам 15×30 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. Абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Выявіў у 1981 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадзішча, Княгінінскі сельсавет**

**1963. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля паўночнай ускраіны вёскі, на стрэлцы мыса, які цягнецца на 250 м у паўночна-заходнім напрамку. Пляцоўка авальная, памерам 62×36 м, умацавана 2 валамі і ровам. Унутраны вал вышынёй 0,6—0,7 м, шырынёй каля асновы 8—10 м, знаходзіцца на ўсходнім баку і пашкоджаны кар'ерам. Вонкавы вал насыпаны на схіле, ніжэй краю пляцоўкі на 4—5 м (захаваўся толькі з усходняга боку; на паўночным схіле аплыў, набыў выгляд тэрасы). Вядома з канца 19 ст. Даследаваў у 1969—73 гг. А. Р. Мітрафанаў



1960. *Успенская царква.*

на плошчы 946 м². Высветлена, што гарадзішча ўзнікла ў 6 ст. да н. э., функцыяніравала да 3—4 стагоддзяў н. э. У пачатку 6 ст. н. э. расшырана пляцоўка, павялічана стромкасць схілаў, насыпаны валы і выкапаны роў, па краі пляцоўкі пабудавана драўляная абарончая сцяна. Гарадзішча ператворана ў крэпасць-сховішча на выпадак ваеннай небяспекі. Культурны пласт складаецца з 2 гарызонтаў. У ніжнім знойдзены абломкі ляпнога штрыхаванага посуду, жалезная сякера, сярпы, шылы, шпількі, бронзавыя падвескі, спіралькі, дыскападобная фібула, гліняныя грузікі дзякоўскага тыпу, у верхнім — гаспадарчыя ямы, рэшткі слабапрафіляваных гаршкоў, гліняныя прасліцы з вялікай адтулінай у цэнтры, шпоры, сярпы, каменныя зерняцёркі і інш. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6 ст. да н. э.— 3—4 стагоддзямі н. э., 6—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1964. СЕЛІШЧА** (археал.). Каля паўночнай ускраіны вёскі, на пакатых схілах паўночнага і заходняга бакоў гарадзішча. Пляцоўка мае нахіл на поўнач і паўночны ўсход. Адкрыў у 1964 г., даследаваў у 1965—73 гг. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 2612 м². Выяўлены рэшткі 42 жытлаў (7 наземных і 35 паўзямлянкавых) плошчай ад 8—9,5 да 19—20 м², 17 гаспадарчых ям. Унутры 4 жытлаў прасочаны агнішчы каменна-глінабітнай канструкцыі, у астатніх — печы-каменкі. Знойдзены абломкі слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, жалезныя сярпы, нажы, шылы, наканечнік кап'я, абломкі сярэбраных шыйных грыўняў, бронзавыя бранзалеты, лунніца, падвеска, гліняныя прасліцы, льячкі. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі н. э.



1963. *Гарадзішча. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Гатавічы, Мядзельскі пасялковы Савет**

**1965. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе пратокі Скема, якая злучае азёры Нарач і Мястра. Займае пакатае ўзвышша вышынёй 1,5—2 м над поймай. Адкрыў у 1963 г. і даследаваў у 1964 г. М. М. Чарняўскі на плошчы 100 м². Культурны пласт 0,5 м. Выяўлены ямы — верагодна, рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі, знойдзена кераміка культур штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Датуецца 5—7 стагоддзямі да н. э. і 6—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Грыбкі, Пузырскі сельсавет**

**1966. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад цэнтра вёскі, ва ўрочышчы Малатоўкі, сярод поля. Захаваліся 2 курганы дыяметрам 6 і 7 м, вышынёй каля 1 м. У аднаго пашкоджана паўночная частка, у другога — цэнтральная. Выявілі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гулі, Слабадскі сельсавет**

**1967. МЕСЦА ГІБЕЛІ АСІНЕНКА** Надзеі Міхайлаўны (гіст.). За 0,7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі.

Удзельніца камсамольскага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну Н. М. Асіненка нарадзілася ў 1917 г. у в. Ліпнікі Пастаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Перад Вялікай Айчыннай вайной працавала тэлефаністкай у Паставах. З першых дзён вайны ўключылася ў актыўную барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У Ліпніках стварыла падпольную камсамольскую арганізацыю (у 1942 г. налічвала 20 чалавек), была яе кіраўніком. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод жыхароў Ліпнікаў і навакольных вёсак зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, устанавілі сувязь з партызанамі брыгады імя К. Я. Варашылава, збіралі для іх зброю, прадукты, перадавалі звесткі пра ворага. Калі ў пачатку 1943 г. фашысты высачылі арганізацыю, падпольшчыкі ўліліся ў партызанскую брыгаду імя К. Я. Варашылава, Н. М. Асіненка стала разведчыцай атрада «Слава». У сакавіку 1944 г., вяртаючыся з групай партызан з баявога задання, нарвалася на варожую засаду, была цяжка паранена, трапіла ў палон і закатавана гітлераўцамі. Перапахавана ў брацкую магілу (г. п. Мядзел). У в. Ліпнікі, дзе нарадзілася, у 1964 г. пастаўлены помнік, на доме, у якім жыла, у 1975 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.



1967. *Помнік на месцы гібелі Н. М. Асіненка.*

У 1969 г. на месцы гібелі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**в. Гускі, Сырмежскі сельсавет**

**1968. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва «Горкі». За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі і за 0,5 км ад усходняга берага воз. Свір, на ўскраіне лесу. Захавалася 20 круглых дыяметрам 10 м, вышынёй 2 м і авальных (даўжынёй да 15 м, шырынёй 7—8 м, вышынёй да 1,5 м) насыпаў. Многія значна пашкоджаны. Выявіў і даследаваў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі. Раскапаны 3 круглыя, абкладзеныя камянямі, курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне (у 2 курганах — па адным, у адным — два). Знойдзены 2 жалезныя сярпы, наканечнік кап'я, 3 бронзавыя спіральныя пярсцёнкі, некалькі зліткаў бронзы. Абследаваў у 1979 г. Я. Г. Зверуга. Могільнік належаў усходнелітоўскім плямёнам, датуецца 5—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Дзягілі, цэнтр сельсавета**

**1969. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, каля будынка праўлення калгаса імя Суворава. Вышыня над мясцовасцю 9 м з поўдня і 7 м з поўначы. Гарадзішча зарасло дрэвамі. Пляцоўка авальная, памеры па лініі поўнач — поўдзень 26 м, захад — усход 32 м, няроўная, узвышаецца да цэнтра. Слядоў равоў і валаў адсутнічаюць. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,8 м. Пры шурфоўцы знойдзены абломкі ляпной штрыхаванай керамікі і косці жывёл. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Подвинье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Э. М. Зайкоўскі.*

**1970. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Суворава. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзянісава, Крывіцкі пасялковы Савет**

**1971. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1971а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Раманава Гара. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўскраіне лесу. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 3—5 м. Займае мыс марэннага ўзвышша, які абмежаваны ровам шырынёй 8—10 м і валам вышынёй 2—2,5 м, шырынёй 9—10 м. Пляцоўка авальная, памерам 80×50 м, выцягнута з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. З паўднёва-заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1—1,5 м, шырынёй 7—8 м. Выявіў у 1979 г. і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**1971б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з паўночна-заходняга боку. Плошча 0,5 га. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, перапаленыя камяні. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуте гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Дубаносы, Пузырскі сельсавет**

**1972. МАГІЛА ШАРОХІ** Вікенція Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан В. П. Шароха загінуў у 1942 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

**в. Задубенне, Крывіцкі пасялковы Савет**

**1973. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



1975. *Помнік землякам.*

**в. Занарач, цэнтр сельсавета**

**1974. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Калатоўкі. У цэнтры вёскі, на паўднёвай ускраіне сучасных могілак. Захавалася 15 насыпаў дыяметрам 5—9 м, вышынёй 0,7—1,5 м, у большасці пашкоджаных траншэямі часоў 1-й сусветнай вайны. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Ф. В. Пакроўскі ў 1895 г. раскапаў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне (у адным — у насыпе, у двух — на грунце). У першым кургане рэшткі трупаспалення змяшчаліся ў ляпной пасудзіне, якая зверху была накрыта другой такой жа пасудзінай. Трэцяя урна, перавернутая ўверх дном, была таксама напоўнена рэшткамі спалення і апушчана ў грунт. У двух астатніх курганах рэшткі трупаспаленняў знаходзіліся непасрэдна ў зямлі. Могільнік датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. і больш познім часам, належаў славянам.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899. *Я. Г. Звяруга.*

**1975. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета, у скверы. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1976. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. 1 Мая, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 53 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зані, Старагабскі сельсавет**

**1977. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Засвір, Свірскі пасялковы Савет**

**1978. КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ** (архіт.). У паўночна-ўсходняй частцы вёскі, на беразе воз. Свір. Пабудаваны ў пачатку 18 ст. Уключаў касцёл, жылы корпус, вежу-званіцу і браму.

Касцёл. Пабудаваны ў 1713—14 гг. Мураваны аднанефавы двухвежавы базілікальны храм з паўкруглай апсідай накрыты высокім двухсхільным дахам, які над апсідай больш нізкі і пераходзіць у конусападобны. Высокія масіўныя ў ніжняй частцы двух'ярусныя вежы фланкіруюць галоўны фасад, завершаны трохвугольным атыкавым франтонам з люкарнай пасярэдзіне. Уваходная частка вылучана паўкруглай прыбудовай, якая мае рысы абарончага збудавання. Дэкаратыўная аздоба сканцэнтравана на галоўным фасадзе: плоскія прамавугольныя і паўцыркульныя нішы, трохвугольны атыкавы франтон і фігурныя завяршэнні вежаў. Аконныя праёмы лучковыя. У інтэр'еры неф перакрыты драўляным карабавым скляпеннем. Двухслаёвыя пілястры, размешчаныя ў прасценках паміж вокнамі, завершаны стылізаванымі іанічнымі капітэлямі. Над арачным уваходным праёмам навісае драўляная агароджа высокіх хораў, куды вядуць вітыя лесвіцы, размешчаныя ў вежах храма.

Жылы корпус. Прылягае да касцёла з поўначы. Мураваны П-падобны ў плане аднапавярховы будынак (захаваўся часткова) утвараў замкнёны ўнутраны двор. Планіроўка калідорная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

У баку ад касцёла стаіць невялікая мураваная брама і вежа-званіца — квадратны ў плане будынак на бута-



1978. *Кляштар кармелітаў. План.*




**1979а.** *Селішча. План раскопаў.*

вым цокалі, накрыты чатырохсхільным шатром.

Кляштар — помнік архітэктуры барока. *А. Ю. Пятросава.*

**1979. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1979а.** Селішча. За 1,5 км на захад ад цэнтра вёскі, за 0,3 км ад усходняга берага воз. Свір, абапал безназоўнага ручая на працягу 0,3—0,4 км. Выявіў і даследаваў у 1976—79 гг. Я. Г. Зверуга на плошчы 1160 м². Культурны пласт 0,25—1,2 м. Знойдзены рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў, печаў-каменак і печаў-домніц, жалезныя шлакі, крыцы і гліняныя соплы, тачыльныя камяні, гліняныя праслiцы, жалезныя нажы, рыбалоўныя кручкі, шылы, медныя трапецападобныя падвескі, пінцэты з расшыранымі канцамі, спіралепадобныя пярсцёнкі, шпількі з S-падобнымі галоўкамі, кераміка ляпная гладкасценная, з расчосамі, шурпатая і ганчарная. Датуецца 2-й паловай 1 — пачаткам 2-га тысячагоддзяў н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1979б.** Курганны могільнік. За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 69 насыпаў дыяметрам 4—15 м, вышынёй 0,4—1,5 м (пераважаюць дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,6—1 м). Вядомы з канца 19 ст. Ф. В. Пакроўскі ў 1895 г. раскапаў 20 курганоў, К. Салевіч у 1934 г.— 21 курган, Я. Г. Зверуга ў 1976 г. даследаваў 11 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунце, ад аднаго да шасці пахаванняў у адным насыпе. Пахавальны інвентар: прадметы ўзбраення (сякеры, наканечнікі коп'яў, кінжалы, умбоны шчытоў), упрыгожанні (трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, спіралькі, шкляныя пацеркі), прылады працы (нажы, шылы, іголкі, гліняныя праслiцы). Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Могільнік належаў балтам, датуецца 6—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным археалагічным музеі ў Варшаве (ПНР) і Інстытуце гісторыі АН БССР.




**1979б.** *Курганны могільнік. План.*

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899; Зверуго Я. Г. Исследования Верхненеманского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977; яго ж. Работы в Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978; яго ж. Исследования в Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979; яго ж. Исследования в бассейне Вилии.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980. *Я. Г. Зверуга.*

**в. Камарова, Свірскі пасялковы Савет**

**1980. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**1981. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў пачатку 20 ст. Уключае жылы дом, парк, службовыя пабудовы, свіран. Цяпер тут знаходзіцца прафесійна-тэхнічнае вучылішча.

Сядзібны дом. П-падобны ў плане мураваны аднапавярховы будынак з мансардай накрыты двухсхільным дахам. Рызаліт завершаны лучковым франтонам з люнетам і лепкай. Па баках франтона размешчаны парапет з балюстрадай. Фасады расчлянёны руставанымі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія дэкарыраваны ліштвамі і сандрыкамі. Уваходны рызаліт дэкарыраваны пілястрамі і калонамі. Бакавыя і дваровы фасады вырашаны плоскасна, пазбаўлены архітэктурнага дэкору. Дадатковы ўваход у будынак вылуча-



**1978.** *Касцёл. Галоўны фасад.*



1980. *Помнік землякам.*

ны тэрасай з каванай агароджай. У планіроўцы дома выкарыстана двухрадная анфілада рознавялікіх прамавугольных у плане памяшканняў.

Парк пейзажнай планіроўкі разбіты вакол сядзібнага дома. У паўднёвай частцы сажалка. Пераважаюць пасадкі ліпы, таполі, клёна.

Службовыя будынкі аднатыпныя, аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане, накрытыя двухсхільнымі дахамі. Фасады дэкарыраваны вуглавымі рustаванымі лапаткамі, сандрыкамі прамавугольных аконных праёмаў.

Свіран пабудаваны з бутавага каменю. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам.

Сядзіба — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**в. Канстанцінава, Свірскі пасялковы Савет**

**1982. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі на ўзгорку. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з бутавага каменю.




1981. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — службовыя будынкі; 3 — сажалка; 4 — парк.*



1981. *Свіран.*



1981. *Сядзібны дом.*



1981. *Службовыя будынкі.*

Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. З усходняга боку далучаны кубападобны аб'ём апсіды з нізкай бакавой сакрысціяй. Цэнтр галоўнага атынкаванага фасада вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам ў завяршэнні, прамавугольным уваходным парталам і люкарнай над ім. Над дахам з боку галоўнага фасада гранёная вежа-званіца з арачнымі праёмамі і шатровым завяршэннем, з боку алтарнага аб'ёму ліхтар. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца простыя атынкаваныя ліштвы арачных акон і люкарнаў, руставаныя вуглавыя пілястры.

Зала касцёла перакрыта плоскай столлю. У яе прастору выступае галерэя хораў з арганам. Алтарнае памяшканне злучана шырокім арачным парталам з 2 калонамі. У інтэр'еры драўляны амбон. Перад касцёлам бутавая агароджа з арачнай брамай.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1983. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. К. РАКАСОЎСКАГА** (гіст.). У студзені — ліпені 1944 г. у вёсцы размяшчаўся штаб партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага.

Брыгада створана ў ліпені 1942 г. (да сакавіка 1943 г. брыгада «За Савецкую Беларусь») на базе атрадаў

імя І. В. Сталіна, імя К. Я. Варашылава, імя В. І. Чапаева, імя В. П. Чкалава, імя В. М. Молатава і 17-га атрада асобага прызначэння паводле распараджэння штаба Калінінскага фронту. У склад брыгады потым увайшлі асобныя атрады імя Сяргея, імя М. А. Шчорса, імя М. В. Фрунзе, імя С. М. Будзённага. Пазней створаны атрады 2-і імя І. В. Сталіна, імя У. І. Леніна, імя Р. І. Катоўскага, імя С. М. Кірава, імя М. І. Калініна (Расонскі р-н), імя М. В. Фрунзе, імя М. І. Калініна, імя С. М. Кірава, імя А. Неўскага (Дрысенскі р-н), імя А. А. Жданава, імя Р. К. Арджанікідзе, імя А. Я. Пархоменкі (Асвейскі р-н), якія былі злучаны адпаведна раёнам іх дыслакацыі і дзеяння ў групы атрадаў Расонскага, Дрысенскага, Асвейскага р-наў. 26.8.1942 г. паводле распараджэння аператыўнай групы партызанскага руху пры ваенным савеце 4-й ударнай арміі вызначаны самастойнымі брыгадамі: Расонская імя І. В. Сталіна, 1-я Дрысенская, Асвейская імя М. В. Фрунзе. У складзе брыгады «За Савецкую Беларусь» асталіся атрады 17-ы, імя Сяргея, імя М. А. Шчорса, імя Р. І. Катоўскага, імя У. І. Леніна, імя А. Я. Пархоменкі. Паводле ўказання Беларускага штаба партызанскага руху ў чэрвені 1943 г. брыгада імя К. К. Ракасоўскага



1982. *Касцёл, брама і агароджа.*



1982. *Касцёл.*

перадыслацыравалася ў Вілейскую вобл. Дзейнічала таксама на тэрыторыі Расонскага, Асвейскага, Дрысенскага, Полацкага р-наў Віцебскай, Себежскага, Ідрыцкага, Невельскага р-наў Калінінскай, Пастаўскага, Дунілавіцкага, Докшыцкага, Міёрскага, Глыбоцкага, Мядзельскага р-наў Вілейскай абласцей. Камандзіры брыгады А. І. Петракоў (ліпень — верасень 1942 г.), У. Н. Дорменеў (верасень — лістапад 1942 г., в. а.; верасень 1943 г.— студзень 1944 г.), А. В. Раманаў (лістапад 1942 г.— сакавік 1943 г., в. а.; сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары А. В. Раманаў (ліпень 1942 г.— сакавік 1943 г.), Ш. Н. Нігамаеў (снежань 1942 г.— сакавік 1943 г., в. а.; лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.), П. М. Машэраў (сакавік 1943 г.— лістапад 1943 г.). Партызаны брыгады ў жніўні 1942 г. падарвалі 110-метровы чыгуначны мост цераз р. Дрыса і знішчылі ахоўны гарнізон ворага, адначасова напалі на гарнізон у в. Боркавічы Дрысенскага р-на. У верасні 1942 г. разграмілі гарнізон на чыгуначнай станцыі Свольна Дрысенскага р-на. Разам з партызанамі брыгад Дрысенскай і Асвейскай імя М. В. Фрунзе правялі аперацыю па адначасовым разгроме варожых гарнізонаў на чыгуначнай станцыі Боркавічы (кастрычнік 1942 г.), разграмілі гарнізон у в. Вецслабада (Латвійская ССР). У лютым — сакавіку 1943 г. удзельнічалі ў баях у Расонскім, Дрысенскім і Асвейскім р-нах, прычынілі гітлераўцам вялікія страты. У чэрвені 1943 г. брыгада зрабіла рэйд з Расонскага ў Пастаўскі р-н, у час якога вяла баі з ворагам пры пераходзе праз чыгунку Полацк — Дрыса і фарсіраванні Заходняй Дзвіны, напала на гарнізон у Міёрах. У красавіку 1944 г. памагала партызанам Полацка-Лепельскай зоны ў барацьбе супраць карнікаў. У ноч на 20.6.1944 г. на чыгуначных участках Крулеўшчына — Параф'янава, Крулеўшчына-Глыбокае і Глыбокае — Варапаева — Паставы народныя мсціўцы падарвалі і пашкодзілі больш за 1,3 тыс. рэек. Атрады імя М. А. Шчорса і імя Р. І. Катоўскага перакрылі шлях адступлення праціўніку на дарогах Лучай — Дунілавічы, Дунілавічы — Ласіца. У ліпені 1944 г. разам з часцямі Чырвонай Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні г. п. Дунілавічы.

3.7.1944 г. брыгада (915 партызан) у складзе 7 атрадаў (імя Сяргея, імя М. А. Шчорса, імя У. І. Леніна, імя Р. І. Катоўскага, імя Г. К. Жукава, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя А. І. Петракова) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Камісару брыгады П. М. Машэраву і намесніку камандзіра атрада імя М. А. Шчорса па разведцы У. А. Хамчаноўскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1975 г. каля будынка праўлення калгаса імя «1 Мая» ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944).— Мн., 1961; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Партизанские формирования в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Баскова.*

**1984. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя 1 Мая. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Капусцічы, Пузырскі сельсавет**

**1985. МАГІЛА РАЧЫЦКАГА** Эдмунда Сігізмундавіча (гіст.). На могілках. Партызан Э. С. Рачыцкі загінуў 7.3. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Качаны, Старагабскі сельсавет**

**1986. РАДЗІМА ШАРАНГОВІЧА** Васіля Фаміча (гіст.).

Савецкі партыйны дзеяч, удзельнік барацьбы за ўладу Саветаў на Беларусі В. Ф. Шаранговіч нарадзіўся 4.3. 1897 г. у сялянскай сям'і. Чл. КПСС з 1917 г. З 11 гадоў працаваў на будаўніцтве чыгункі, потым слесар і памочнік машыніста. З 1918 г. у Чырвонай Арміі. У час акупацыі Беларусі войскамі буржуазнай Польшчы накіраваны ў снежні 1919 г. ЦК КП(б) Літвы і Беларусі на падпольную партыйную работу ў Мінскую губерню. Адзін з арганізатараў партызанскага руху. У 1920 г. арыштаваны акупацыйнымі ўладамі і зняволены ў мінскую, потым у познанскую турмы. Прыгавораны да 20 гадоў катаржных работ. У 1921 г. у выніку абмену палітвязнямі вярнуўся на Радзіму, быў прызначаны намеснікам наркома юстыцыі БССР, з 1923 г. адказны сакратар Савета прафсаюзаў Беларусі. З 1926 г. на адказнай прафсаюзнай і партыйнай рабоце ў Сібіры. З кастрычніка 1930 г. член Бюро і другі сакратар ЦК КП(б)Б. З 1934 г. член і ўпаўнаважаны Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б) па Казахстану, з сакавіка 1936 г. у Харкаўскай вобл. З сакавіка 1937 г. член Бюро і першы сакратар ЦК КП(б)Б. Член ЦК КП(б)Б у 1925—27, 1932—34, 1937—38 гг. Член ЦВК БССР у 1925—26, 1931—34 гг. і член Прэзідыума ЦВК БССР у 1931—34 гг. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Памёр 18.3.1938 г. Імем В. Ф. Шаранговіча названы вуліцы ў Мінску і Маладзечне.

*В. М. Баскова.*

**1987. РАДЗІМА ШАРАНГОВІЧА** Пятра Міхайлавіча (гіст.).

Удзельнік Грамадзянскай вайны на Беларусі, камдыў П. М. Шаранговіч нарадзіўся ў маі 1893 г. у сялянскай сям'і. Скончыў Ваенныя акадэмічныя

курсы (1924 г.). У Арміі з 1914 г., з 1918 г. у Чырвонай Арміі на Усходнім і Заходнім франтах, начальнік штаба 27-й Омскай стралковай дывізіі. Удзельнік распрацоўкі і ажыццяўлення аперацый па разгрому войск Калчака. У 1920 г. прымаў удзел у вызваленні Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы, вызначыўся пры ліквідацыі прарыву ворага ў раёне Беластока і Ваўкавыска, у разгроме Кранштацкага антысавецкага мяцяжу 1921 г. З 1922 г. у Беларускай ваеннай акрузе — начальнік штаба, камандзір стралковага корпуса, начальнік аддзела штаба акругі. З 1931 г. старшы выкладчык, начальнік кафедры Ваеннапалітычнай акадэміі. Адзін з аўтараў кнігі «Гістарычны нарыс 27 Омскай стралковай дывізіі РСЧА» (1922 г.). Узнагароджаны 2 ордэнамі Чырвонага Сцяга.

Памёр у 1938 г. Імем П. М. Шаранговіча названа вуліца ў г. п. Мядзел.

*Літ.:* Рассказы о наших земляках.— Молодечно, 1959; В боях и походах.— Мн., 1972. *В. М. Баскова.*

**в. Качаргі, Мядзельскі пасялковы Савет**

**1988. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі ва ўрочышчы Бацяніхa, на полі, каля невялікага воз. Скрыбава. Культурны пласт перааралы. Выявіў і абследаваў у 1964 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, пласцінкі, авальная сякера і абломкі пасудзін, арнаментаваных шыраказубым штампам і глыбокімі круглымі ямкамі. Адносіцца да культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі, датуецца 2-й паловай 3-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чернявский М. М. Основные итоги изучения неолита западных областей Белоруссии.— У кн.: Проблемы общественных наук: Экономика, история, культура. Мн., 1973. *М. М. Чарняўскі.*

**1989. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на паўднёвым беразе невялікага возера. Выцягнута з поўначы на поўдзень на 150 м, шырыня 50 м. Выявіў і абследаваў у 1964 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт разворваецца. Сабраныя крамянёвыя авальная сіметрычная сякера, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя адшчэпы, пласцінкі, а таксама абломкі гаршкоў. Адносіцца да культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі, датуецца сярэдзінай 3-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Князінін, цэнтр сельсавета**

**1990. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ САЛДАТ** (гіст.). На могілках. Пахавана каля 2,5 тыс. воінаў, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў час Нарачанскай аперацыі 1916 г.



1991. *Помнік землякам.*

**1991. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**1992. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Агароджана бутавай сцяной з брамай, завершанай фігурным франтонам.

Будынак царквы чатырохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: двух'ярусная шатровая званіца (чацвярык на чацверыку), прамавугольны ў плане бабінец, кубападобны асноўны аб'ём, прамавугольная апсіда з бакавой прыбудовай. Шацёр званіцы і двухсхільны дах апсіды завершаны цыбулепадобнымі макаўкамі. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, яго бакавыя фасады расчлянёны вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі і лучковымі аконнымі праёмамі. Гарызантальна ашаляваныя сцены дэкарыраваны аркатурнымі фрызамі. Пазбаўлены дэкору інтэр'ер мае выразную прасторавую арганізацыю за кошт узаемасувязі рознавялікіх памяшканняў.



1992. *Царква. Агульны выгляд.*

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Коркі, Свірскі пасялковы Савет**

**1993. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1993а.** Селішча. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзвышаным (да 6—7 м) усходнім беразе воз. Свір, ва ўрочышчы Макарышкі або Лысая Гара. Плошча 15×50 м. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,45—0,6 м. Знойдзены косці жывёл, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду (на апошніх трапляецца хвалісты арнамент), шмат жалезнага шлаку. Раскопкі не праводзіліся.

**1993б.** Курганны могільнік. Мясцовая назва Горкі. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 30 насыпаў дыяметрам 6—12 м, вышынёй 0,6—1,2 м, цягнуцца палосай з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Многія курганы пашкоджаны. Выявіў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Красняны, Слабадскі сельсавет**

**1994. СТАЯНКІ** (археал.).

**1994а.** Стаянка-1. За 0,7—1 км на поўнач ад вёскі, уздоўж тарфяніка, вышэй яго на 1—2 м. Памер 300×20 м. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, асколкі, нуклеусы, нажападобныя пласціны з рэтушшу.

**1994б.** Стаянка-2. За 2 км на паўночны захад ад вёскі. Плошча каля 0,4 га. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены крамянёвыя пласціны і адшчэпы.




1993. *Селішча і курганны могільнік. План.*

Стаянкі выявіў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. Адносяцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Подвинье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*Э. М. Зайкоўскі.*

## XXI. КРЫВІЧЫ

Гарадскі пасёлак на р. Сэрвач. За 39 км ад Мядзела, 3 км ад чыгуначнай станцыі Крывічы, на лініі Маладзечна — Полацк.

У сярэдзіне 16 ст. у Ашмянскім павеце Вялікага княства Літоўскага. Належалі магнацкаму роду Кішкаў. З 1793 г. у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр валасці Вілейскага павета. У 1866 г.— 3427 жыхароў, 1 бровар, 2 вадзяныя млыны. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы. З канца 1939 г. у БССР. У 1940—62 гг. цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 28.6.1958 г. гарадскі пасёлак. З 1962 г. у Мядзельскім р-не.

Асноўная планіровачная вось — вул. 17 Верасня, уздоўж якой сфарміраваўся грамадскі і культурны цэнтр. Тут размешчаны адміністрацыйны будынак, школа, Дом культуры, гасцініца, сталовая, магазіны. Сетка вуліц прамавугольная. Жылая забудова пераважна аднапавярховая, сядзібнага тыпу. Вытворчая зона знаходзіцца ў паўднёвай частцы пасёлка. Паводле генплана 1974 г. Мінскага філіяла Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва развіццё пасёлка прадугледжваецца ў паўночным і заходнім напрамках, будуюцца 2—3-павярховыя дамы. Помнікі: на магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, ахвяр фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры — кляштар трынітарыяў (18 ст.), царква (19 ст.).

*С. Ф. Самбук.*



1995. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1995. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. 17 Верасня, у скверы. Пахаваны 127 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім імёны загінуўшых.

**1996. КЛЯШТАР ТРЫНІТАРЫЯЎ** (архіт.). У цэнтральнай частцы пасёлка, на вул. 17 Верасня. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Складаецца з Андрэеўскага касцёла і жылога будынка.

Касцёл — аднанефавы аднавежавы базілікальны храм з прамавугольнай апсідай, накрыты высокім двухсхільным дахам. Высокая вежа мае трох'ярусную кампазіцыю з характэрнымі ў стылявых адносінах заломамі карніза, скосамі вуглоў. Першы ярус крапаваны плоскімі лапаткамі па вуглах граней, прарэзаны лучковымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Другі ярус ідэнтычны першаму па кампазіцыі і дэкору, але меншы ў сячэнні, трэці — прарэзаны круглымі вокнамі, завершаны вялікім купалам з каваным узорыстым крыжам. Аналагічны крыж на даху над апсідай. Архітэктурны дэкор пабудовы стрыманы і лаканічны. Высока размешчаныя ў тоўшчы сцен вокны набліжаюць храм да абарончых збудаванняў. Унутраная прастора зальнага тыпу, перакрыта цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем на падпружных арках. Сцены крапаваны здвоенымі пілястрамі з капітэлямі іанічнага ордэра. Агароджа высокіх хораў мае плаўны залом у



1996. *Кляштар трынітарыяў. Касцёл.*




1996. *Кляштар трынітарыяў. План.*



1996. *Касцёл. Алтар.*

цэнтральнай частцы, падтрымлівасцца 2 слупамі. Амбон аздоблены пазалочанай драўлянай разьбой. Падлога мазаічная, з геаметрычным арнаментам. Алтар храма багата ўпрыгожаны лепкай, скульптурамі святых.

Жылы будынак. Прымыкае да паўднёва-ўсходняй сцяны касцёла. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Сцены ўмацаваны плоскімі лапаткамі, члянёны невялічкімі прамавугольнымі вокнамі.

Кляштар — помнік архітэктуры барока. *А. Ю. Пятросава.*

**1997. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Новая. Пахаваны 470 мірных жыхароў, якіх 28.4.1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1998. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 130 мірных жыхароў, якіх 13.9.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1999. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка, на вул. 17 Верасня. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

У аснове будынка — кубападобны аб'ём, да якога з усходу далучана паўкруглая апсіда, з захаду — трох'ярусная шатровая званіца (васьмярык на 2 чацверыках). Асноўны аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам з васьмігранным барабанам і цыбулепадобным купалам. Галоўны ўваход у выглядзе прафіляванага партала кілепадобнага абрысу. Арачныя аконныя і бакавыя дзвярныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі. Фасады ўпрыгожаны падаконнымі філёнгамі.



1999. *Царква.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Курчына, Будслаўскі сельсавет**

**2000. СЕЛІШЧА** (археал.).

**2000а.** Селішча-1. За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,2 км ад маста цераз р. Зуйка, на левым беразе р. Сэрвач. Займае невысокі (1,5—2 м над узроўнем вады) пагорак авальнай формы ў забалочанай пойме. Памер 90×60 м. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка з расчосамі і гладкасценная.

**2000б.** Селішча-2. За 0,2 км на паўднёвы захад ад селішча-1. Размешчана на невысокім асобным пагорку сярод нізкай поймы ракі Сэрвач. Памер 64×40 м. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзена кераміка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

**2000в.** Селішча-3. За 150 м на захад ад селішча-2, на пагорку, абкружаным забалочанай поймай р. Сэрвач. Знойдзена кераміка 6—8 стагоддзяў.

Селішчы выявіў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Изучение памятников железного века средней и северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1967 года. М., 1968. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Кусеўшчына, Нарацкі сельсавет**

**2001. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на марэнным паўвостраве вышынёй да 0,5 м. Памер 50×30 м. Адкрыў у 1978 г. Ч. А. Каспарэўскі, абследаваў у 1980 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, скрабкі, наканечнікі стрэл, трапецыі. Знаходкі трапляюцца і на паўночны захад ад паўвострава на прытарфянікавым схіле марэннага ўзгорка на працягу 60 м. Стаянка адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 7—6-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Мядзельскім музеі народнай славы. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Лапосі, Латвянскі сельсавет**

**2002. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на краі першай надпоймавай тэрасы, якая ўзвышаецца над воз. Мядзел і вытокам р. Мядзелка на 1 м. Памер 50×20 м. Культурны пласт 0,3 м. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. На паверхні сабраны апрацаваныя крамяні і венчыкі ганчарнай керамікі. Адносіцца да каменнага веку і да эпохі феадалізму.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Подвинье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Ліпава, Сваткаўскі сельсавет**

**2003. ПОМНІК БЫЧКУ** Алегу Сяргеевічу (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

Герой Савецкага Саюза А. С. Бычок нарадзіўся 18.9.1921 г. у г. Бабровіца Чарнігаўскай вобл. у сям'і рабочага. Член ВЛКСМ. У 1941 г. скончыў Буйнакскае пяхотнае вучылішча. У верасні — лістападзе 1941 г. памочнік камандзіра ўзвода атрада «Шпілявы», што выконваў спецыяльнае заданне на акупіраванай тэрыторыі Калінінскай, Смаленскай і Віцебскай абласцей. З сакавіка 1942 г. камісар (партызанскі псеўданім Быстры), з чэрвеня 1943 г. камандзір спецыяльнага атрада НКДБ БССР «Трэція» (з чэрвеня 1943 г. атрад імя Ф. Э. Дзяржынскага), які дзейнічаў на тэрыторыі Вілейскай, Віцебскай, Мінскай абласцей і Літоўскай ССР. Партызаны атрада знішчылі больш за 100 варожых эшалонаў, разбурылі больш як 4 км чыгуначнага палатна, узарвалі 23 масты, 49 аўтамашын і танкаў, 4 электрастанцыі, 11 складоў, самалёт.

7.5.1944 г. пры выкананні баявога задання А. С. Бычок загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. Пахаваны на радзіме ў г. Бабровіца, дзе яго імя прысвоена камсамольскай арганізацыі школы № 1, піянерскай дружыне сярэдняй школы № 2, яго імем названа адна з вуліц горада. На магіле пастаўлены помнік.

На ўшанаванне памяці А. С. Бычка ў 1964 г. устаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969. *В. М. Баскова.*

**в. Лотва, цэнтр сельсавета**

**2004. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лужы, Вузлянскі сельсавет**

**2005. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. У Вялікую Айчынную вайну тут дзейнічаў (1943 г.) спецыяльна падрыхтаваны аэрадром, які абслугоўваў партызанскую брыгаду імя К. Я. Варашылава. У 1965 г. на месцы былога аэрадрома пастаўлена стэла.

**в. Лук'янавічы, Мядзельскі пасялковы Савет**

**2006. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 48 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў



2008. *Помнік В. І. Чапаеву.*

Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лыжычы, Нарацкі сельсавет**

**2007. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Французскі могільнік. За 1 км на поўнач ад вёскі ва ўрочышчы Сялілаўка. Дыяметр 28 м, вышыня 3 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга.

**в. Ляшчынск, Нарачанскі сельсавет**

**2008. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу, **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1969 г. На пастаменце дошка з імёнамі 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



2010а. *Гарадзішча. План.*

**в. Матыкі, Буделаўскі сельсавет**

**2009. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі на Крывічы. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мікольцы, Мядзельскі пасялковы Савет**

**2010. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2010а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Займае ізаляваны ўзгорак. З паўночнага боку да яго прымыкае забалочаная катлавіна, з астатніх трох бакоў — ворнае поле. Пляцоўка амаль круглая, памерам 40×35 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Выявілі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1979 г. Я. Г. Зваруга. Культурны пласт у цэнтры 0,2 м, па краях да 0,4—0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2010б.** Селішча. З захаду, поўдня і ўсходу прымыкае да гарадзішча. Даследаваў у 1981—83 гг. Я. Г. Зваруга на плошчы 392 м². Культурны пласт да 1,9 м. Выяўлены рэшткі наземных (слупавай канструкцыі) і паўзямлянкавых жытлаў, печаў-каменак і печаўдомніц. Знойдзены тыгель для плаўкі каляровых металаў, жалезныя сашнікі, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шлакі, бронзавыя пярсцёнкі, трапецападобныя падвескі, гліняныя біканічныя праслiцы, грузілы для сетак, касцяныя шпількі, сярод рэдкіх на тэрыторыі Беларусі знаходак — бронзавая пальчатая фібула, кераміка банцараўскага тыпу і штрыхаваная. Датуецца 6—9 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Работы на правобережье Вилии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983; яго ж. Работы в бассейне Вилии.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*Я. Г. Зваруга.*

**2011. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на пясчаным узвышэнні (вышыня 1,2 м) левага берага пратокі Скема, якая злучае азёры Мястра і Нарач, за 18 м ад пратокі, за 9 м на захад ад берага в. Мястра. Значная частка паселішча пашкоджана кар'ерам. Адкрыў у 1964 г., даследаваў у 1965 г. і 1971 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 196 м² культурнага пласта. Выяўлена агнішча з неалітычнай керамікай вакол яго і невялікае паглыбленне, магчыма, гаспадарчага характару. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, рэжучыя прылады, трохвугольныя і дзяржанневыя наканечнікі стрэл, порыстая кераміка крывінскага варыянта нарвенскай культуры, тыповая грабеньчата-ямачная кераміка і матэрыялы пераходнага перыяду («гібрыдныя»). Датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э. Выяўлены таксама рэшткі селішча культуры штрыхаванай керамікі, ёсць знаходкі культуры шнуравой керамікі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна) і Мядзельскім музеі народнай славы.

*Літ.:* Чарняўскі М. М. Неалітычнае пасяленне Скема-1 на поўначы Беларусі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1966, № 1.
*М. М. Чарняўскі.*

**2012. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст., маст.). За 0,8 км ад вёскі, каля воз. Нарач. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі былой Вілейскай вобл. дзейнічала партызанскае злучэнне, якое на дзень злучэння з часцямі Чырвонай Арміі (ліпень 1944 г.) яднала 18 брыгад і 5 асобных атрадаў. Кіраўнікі: сакратар Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б І. Ф. Клімаў, начальнік ваенна-аператыўнага аддзе-



2012. *Помнік партызанам.*



2011. *Фрагменты керамікі з раскопу паселішча.*

ла Ф. Р. Маркаў. Партызаны нанеслі значны ўрон жывой сіле і тэхніцы ворага, рабілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, грамілі варожыя гарнізоны, трымалі кантроль над шэрагам населеных пунктаў. У 1944 г. вызвалілі некаторыя з іх і ўтрымлівалі да падыходу Чырвонай Арміі. У снежні 1943 г. блакіравалі нямецка-фашысцкі гарнізон у г. п. Мядзел. 14.3.1944 г. акупанты ў чарговы раз паспрабавалі прарвацца ў Мядзел. Па дарозе вакол воз. Нарач з г. Паставы рушыла 16 гітлераўскіх аўтамашын і 2 танкеткі. Абарону ў раёне в. Пасынкі занялі партызаны атрада імя В. І. Чапаева брыгады імя Г. К. Жукава. Некалькі гадзін працягваўся жорсткі бой, на дапамогу падышлі атрады «Грозны» і імя М. І. Кутузава брыгады імя К. Я. Варашылава. Вораг адступіў.

У 1968 г. на месцы бою і на ўшанаванне подзвігаў народных мсціўцаў Вілейскай вобл. устаноўлены помнік (скульпт. Б. Маркаў і Я. Печкін, архіт. Ю. Шпіт; бетон; агульная вышыня 24 м, вышыня рэльефаў 6 м). Помнік — высокі абеліск на крутым узгорку, яго вертыкаль узбагачана скульптурнымі ўстаўкамі. Унізе абеліска, на стыку 2 граней, у асіметрычных паглыбленнях размешчаны рэльефы, у якіх тэма мужнасці і гераізму спалучаецца з тэмай трагізму. Кампазіцыя аднаго з рэльефаў — воін у плашч-палатцы падтрымлівае паніклае цела параненага таварыша, другога — фігура партызана, у твары і постаці якога гнеў і рашучасць. Фігуры нібы высечаны з каменю, формы мадэліраваны буйнымі аб'ёмамі і плоскасцямі, добра ўпісаны ў межы паглыблення, дынамічныя па кампазіцыі, поўныя гераічнага напружання. Да абеліска вядзе лесвічны каскад, з боку якога рытмічна размешчаны бетонныя блокі з назвамі партызанскіх брыгад і атрадаў злучэння: партызанскія брыгады «К а с т р ы ч н і к» [камандзіры Ф. К. Юрчанка («Ветраў»), І. І. Юкша (в. а.), камісар І. І. Юкша], 4-я Б е л а р у с к а я [камандзіры А. А. Астрэйка, Н. Е. Фалалееў, Я. Х. Сташкевіч (загінуў), В. А. Сазыкін, М. І. Ярмак, Дз. І. Дзюмін, камісары Я. І. Касаткін, Г. С. Пятроў, У. К. Шэндзелеў, Ф. М. Расюк], 1-я і м я А. В. С у в о р а в а (камандзіры П. А. Хомчанка, Т. К. Раеўскі, А. Ц. Кляцоў, камісар М. Я. Усаў), і м я М. І. К а л і н і н а (камандзір Ф. Н. Гаўрыленка, камісар М. А. Клімянок), 2-я і м я А. В. С у в о р а в а (камандзіры А. А. Астрэйка, А. П. Аўсянікаў, камісар В. І. Данаў), і м я ЦК КП(б)Б (камандзіры А. Д. Мядзведзеў, М. Р. Пучкароў, М. І. Фёдараў, камісары Ц. М. Бондараў, Ф. Я. Воранаў, М. Р. Пучкароў, У. П. Шчуцкі), «З а Р а д з і м у» (камандзіры П. М. Шырокаў, М. У. Капдрашчанка, камісар Ф. К. Акулаў), і м я Г. К. Ж у к а в а (камандзір П. Я. Сырамаха, камісары П. Я. Сырамаха, П. П. Булойчык, А. П. Запарожац, М. А. Кароўкін), і м я Л. М. Д а в а т а р а (камандзіры Ф. С. Шляхтуноў, І. А. Іваноў, камісары Д. Я. Кадоўба, П. А. Паўленка, В. Ф. Папок), і м я С. М. Б у д з ё н н а г а (камандзір В. А. Чаркасаў, камісар Ц. Дз. Харын), і м я М. Ф. Г а с т э л ы (камандзір В. А. Манохін, камісары В. Ф. Папок, У. І. Тубеліс), і м я М. В. Ф р у н з е (камандзіры М. М. Багатыроў, А. М. Захараў, Э. Л. Смаленскі, камісары І. І. Міроненка, П. М. Шалкоўскі, М. В. Чарапанаў), і м я К. К. Р а к а с о ў с к а г а (камандзіры А. І. Петракоў, У. Н. Дорменеў, А. В. Раманаў, камісары А. В. Раманаў, Ш. Н. Нігамаеў, П. М. Машэраў), «З а С а в е ц к у ю Б е л а р у с ь» (камандзір А. І. Валыпец, камісар В. Ф. Цалуйка), і м я М. І. К у т у з а в а (камандзір Д. Л. Місуноў, камісары П. Ф. Рудаў, В. І. Бурачэўскі), «С п а р т а к» (камандзір А. М. Папамароў, камісар М. К. Ігнацьеў), і м я К. Я. В а р а ш ы л а в а (камандзіры Ф. Р. Маркаў, Ф. С. Шляхтуноў, І. Н. Крысаў, камісары Ф. Р. Маркаў, І. М. Яўмененка, А. І. Шаўчэнка), асобны партызанскі а т р а д С. Р. С у с л а в а (камандзіры П. Р. Півавараў, У. П. Каўцюх, С. Р. Суслаў, камісары І. П. Кліманскі, Ф. І. Ларыёнаў, Д. І. Мартыненка).

*Літ.:* К л и м о в И. Ф., Г р а к о в Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; В памяти народной.— Мн., 1969.
*В. М. Баскова, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2013. СТАЯНКІ** (археал.).

**2013а.** С т а я н к а - 1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на невялікім пясчаным узвышэнні каля берага пратокі Скема, якая злучае азёры Мястра і Нарач (за 18 м ад пратокі і 9 м ад воз. Мястра), узнімаецца над узроўнем вады на 1,2 м. Значная частка стаянкі пашкоджана кар'ерам, захаваўся ўчастак памерам 60×40 м. Адкрыў у 1964 г. і даследаваў у 1964—65, 1971, 1980—81 гг. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 260 м² плошчы. Культурны пласт месцамі дасягае 0,6 м. Выяўлены рэшткі прамавугольнай і авальнай паўзямлянак, вогнішчы і агнішчы з рэшткамі каменных вымасткаў. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, рэжучыя прылады, трохвугольныя і дзяржанневыя наканечнікі стрэл, порыстая кераміка крывінскага варыянта нарвенскай культуры, тыповая грабеньчата-ямачная і шнуравая кераміка. Выяўлены рэшткі селішча культуры штрыхаванай керамікі і матэрыялы раннесярэдневяковага часу. Большасць знаходак адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку і датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна) і Мядзельскім музеі народнай славы.

**2013б.** С т а я н к а - 2. Каля паўночнага берага пратокі Скема, на невялікім пясчаным узвышшы даўжынёй каля 50 м. Адкрыў у 1964 г. і даследаваў у 1979 г. М. М. Чарняўскі, ускрыта 32 м² плошчы, культурны пласт да 1 м. У ніжняй частцы пласта знойдзена неалітычная порыстая кераміка нарвенскай культуры і крамянёвыя прылады працы, а таксама невялікая колькасць тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі. У верхняй частцы выяўлены рэшткі познасярэдневяковага рыбацкага паселішча — падмурак невялікага будынка з глінянай падлогай і каменнай печчу, шматлікія абломкі ганчарнага посуду, шмат рыбных касцей і лускі. Стаянка датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э., паселішча — 14—17 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Мядзельскім музеі народнай славы.

*Літ.:* Ч а р н я ў с к і М. М. Неалітычнае пасяленне Скема-1 на поўначы Беларусі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1966, № 1.
*М. М. Чарняўскі.*




2014. *Курганны могільнік. План.*

**в. Нагаўкі, Дзягільскі сельсавет**

**2014. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, у лесе. 156 насыпаў дыяметрам 4,5—11 м, вышынёй 0,4—1,8 м (пераважаюць дыяметрам 5—7 м). Найбольш буйныя курганы знаходзяцца ў цэнтральнай і паўднёва-заходняй частках могільніка, найбольш дробныя — у паўночнай. Каля большасці насыпаў ёсць кальцавыя раўкі з перамычкамі. Некалькі курганоў пашкоджаны. Вядомы з 1930-х гадоў. Абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Нарач, цэнтр сельсавета**

**2015. АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ, ЗВАНІЦА, ПЛЯБАНІЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі.

К а с ц ё л. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохнефавы бязвежавы прамавугольны ў плане храм з трохграннай апсідай. Сцяна галоўнага фасада завершана трохвугольным шчытом, па вуглах фланкіравана контр-



**2015.** *Андрэеўскі касцёл.*



**2015.** *Андрэеўскі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*

форсамі са шпілямі. Над высокім стральчатым уваходным парталам размешчана акно-«ружа» з вітражом. Сцены бакавых фасадаў умацаваны контрфорсамі. Над апсідай — атыкавая сцяна. Над двухсхільным дахам узвышаецца невялікая галоўка. Стральчатыя аконныя праёмы бакавых сцен маюць каляровыя вітражы. У інтэр'еры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. Бакавыя сцены дэкарыраваны фрызамі з раслінным арнаментам. Алтар, хоры з арганам багата аздоблены скульптурай, разьбой з пазалотай.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

З в а н і ц а. Знаходзіцца побач з касцёлам. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва. Пры перабудове ў 19 ст. нададзены асобныя рысы класіцызму. Квадратнае ў плане трох'яруснае збудаванне. Першы і другі ярусы зрублены з брусоў і гарызантальна ашаляваны. Аснову канструкцыі трэцяга яруса (ашаляваны) складаюць 8 слупоў-стоек, злучаных паміж сабой крыжавінамі. Ярусы аддзелены адзін ад аднаго прычолкамі. Завершана званіца невысокім чатырохсхільным шатровым дахам з крыжам наверсе. У першым ярусе, умацаваным 4 вертыкальнымі сцяжкамі-лапаткамі, быў праезд да Андрэеўскага касцёла (цяпер закрыты).

Званіца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

П л я б а н і я. Размешчана насупраць Андрэеўскага касцёла. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Аднапавярховы будынак сіметрычнай кампазіцыі накрыты двухсхільным дахам. Сцены неатынкаваныя, цокальны паверх з бутавага каменю, члянёны лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны галоўнага і дваровага фасадаў прамавугольныя без ліштваў, з замковым каменем. Прасценкі ўпрыгожаны дэкаратыўным рустам. Тарцовыя фасады падзелены плоскімі лапаткамі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі без ліштваў.



**2015.** *Андрэеўскі касцёл. Званіца.*



**2015.** *Андрэеўскі касцёл. Выгляд з боку апсіды.*



**2015.** *Андрэеўскі касцёл. Фрагмент галоўнага фасада.*

Плябанія — помнік грамадзянскага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**2016. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 4 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2017. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 80 жыхароў вёскі, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**2018. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2019. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі санаторыя «Нарач». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**2020. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі дома адпачынку «Нарач». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**2021. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з каменю і цэглы.

Будынак чатырохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: трох'ярусная шатровая званіца (васьмярык на 2 чацверыках), прамавугольныя ў плане бабінец і асноўны аб'ём, паўкруглая апсіда. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца пабеленыя атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, ліштвы арачных праёмаў, прафіляваныя карнізы. Шатровыя дахі званіцы і асноўнага аб'ёму завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Наўры, Сваткаўскі сельсавет**

**2022. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі.



**2021.** *Царква.*

Складаецца з 2 груп: адна (10 насыпаў) на ўскрайку лесу і ў полі, другая (67 насыпаў) за 0,2 км на паўднёвы ўсход ад першай, у лесе. Дыяметр 4—12 м (найчасцей 6—8 м), вышыня 0,4—2 м. Выявілі і даследавалі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, даследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга, раскапана 29 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад (у адным — трупаспаленне). Касцякі ляжалі на грунце (часта па вогнішчы), у выцягнутым становішчы. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, нажы, спражкі, у жаночых — шкляныя і пастаўныя пацеркі, сярэбраныя і бронзавыя падвескі, пярсцёнкі, бранзалеты. Гліняныя гаршкі траплялiся як у мужчынскіх, так і жаночых пахаваннях. Сярод рэдкіх знаходак: вітая бронзавая грыўня, сярэбраная бляшка з ціснёным арнаментам. Могільнік належаў крывічам і дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Некасецк, Дзягільскі сельсавет**

**2023. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2023а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Чорная Гара. За 1,5 км на захад ад вёскі, на мысе з стромкімі схіламі (7—9 м ад асновы). Пляцоўка авальная, памерам 47×39 м, нахілена на поўдзень, паўднёвы схіл размыты, у агаленнях, на краях прасочаны культурны пласт. Адкрылі ў 1937 г. Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, даследаваў у 1953 г. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 40 м². Выяўлены 3 культурныя пласты: у ніжнім знойдзены пракалка, абломкі штрыхаваных рабрыстых слоікавых гаршкоў, у сярэднім — абломкі гладкасценных слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, у верхнім — ганчарная кераміка. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 1—4, 6—8, 10—11 стагоддзямі.

**2023б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, уздоўж яго асновы, на працягу 50—70 м. Плошча 1—1,3 га. Адкрыў у 1953 г., даследаваў у 1965 г. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 65 м². Культурны пласт 0,5—0,7 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла (3,4×3,85 м). Знойдзены рэшткі печы-каменкі, абломкі слабапрафіляваных цюльпанападобных гаршкоў, бронзавы пярсцёнак, кіепадобная шпілька, блясна і льячка з рэшткамі свінцу, гліняныя праслiцы, тыглі. Вышэй на схіле знойдзены абломкі ганчарнай керамікі, жалезны гарпун, бронзавая бразготка. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі (9—11 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Ніўкі, Княгінінскі сельсавет**

**2024. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 0,1 км на паўночны захад ад вёскі, каля лесу. Пахаваны 12 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1919 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.




**2022.** *Курганны могільнік. План.*



**2023а.** *Гарадзішча. План.*

**в. Новікі, Сваткаўскі сельсавет**

**2025. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 45 мірных жыхароў, якіх 26.9.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**2026.** *Курганны могільнік. План.*




**2027б.** *Курганны могільнік-2. План.*




**2032а.** *Гарадзішча-1. План.*

**в. Няверы, Сваткаўскі сельсавет**

**2026. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, на правым беразе р. Сэрвач. 11 насыпаў дыяметрам 5—11 м, вышынёй 0,5—1,2 м (2 курганы дыяметрам 20 і 25 м, вышынёй 2,5 і 3,5 м). Каля асновы часам прасочваюцца раўкі і каменная абкладка. Вяршыні 4 насыпаў пашкоджаны. Выявіў у 1978 г. і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Палессе, Будслаўскі сельсавет**

**2027. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2027а.** Курганны могільнік-1. Мясцовая назва Французы. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, у парку «Будслаўскі». Захаваліся 8 курганоў дыяметрам 4—7 м, вышынёй 0,7—1,2 м. 2 насыпы часткова разбураны. Абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**2027б.** Курганны могільнік-2. За 0,2 км ад усходняй ускраіны вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. Захаваліся 10 насыпаў дыяметрам 5—9 м, вышынёй 0,7—1,4 м. Частка насыпаў пашкоджана. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Зваруга.*

**в. Пасынкі, Нарачанскі пасялковы Савет**

**2028. ЗАМЧЫШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2028а.** Замчышча. За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, на заходнім краі вострава воз. Нарач. Значная частка пляцоўкі размыта водамі возера, пашкоджана траншэямі і бліндажом часоў 1-й сусветнай вайны (першапачатковыя памеры пляцоўкі прыкладна 30×20 м). Абарончыя ўмацаванні захаваліся фрагментарна. Выявілі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1980 г. М. М. Чарняўскі, у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Раскопкі не праводзіліся.

**2028б.** Селішча. За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, на ўсходнім краі вострава воз. Нарач. Плошча каля 0,6 га. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зваруга. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і ганчарная кераміка. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Зваруга.*

**2029. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ НАРАЧАНСКІХ РЫБАКОЎ** (гіст.). Тут і ў іншых прынарачанскіх вёсках у 1935 г. праходзіла забастоўка сялян супраць забароны ўрадам буржуазнай Польшчы свабодна лавіць рыбу.

У вёсках каля воз. Нарач жылі пераважна малазямельныя і беззямельныя сяляне, рыбалоўства для якіх было галоўнай крыніцай іспавання. Паводле закону 1932 г. аб нацыяналізацыі рэк і азёр перададзена Дырэкцыі дзяржаўных лясоў і здадзена ў арэнду акцыянернаму таварыству. У 1935 г. на возеры быў забаронены рыбны промысел. Сяляне байкатавалі забарону. Пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў ЦК КПЗБ А. К. Шчаснай, А. І. Багданчука і мясцовай арганізацыі КПЗБ у чэрвені 1935 г. выбраны забастовачны камітэт (К. І. Субач, І. А. Чарняўскі, І. Зарэцкі, В. Талайка, Т. В. Міхайлевіч). Рыбакі вёсак Пасынкі, Купы, Мікольцы, Чараўкі, Занарач і інш. прагналі арандатараў і штрэйкбрэхераў. Забастоўшчыкі патрабавалі павышэння заработнай платы з 1,5—2 да 2,5—3 злотых, свабоднай лоўлі і продажу рыбы па рынкавых цэнах. Тыя, хто працаваў у «Рыбацкім грамадстве», абмяжоўваліся патрабаваннем павышэння заработнай платы, іншыя дамагаліся ліквідацыі самога грамадства. Пасля арыштаў, праведзеных паліцыяй, забастоўка рыбакоў пашырылася на Браслаўскія азёры і азёры Вілейшчыны (усяго каля 5 тыс. чалавек). У падтрымку яе выступілі рыбакі Палесся, рабочыя Ліды. Улады вымушаны былі пайсці на частковыя ўступкі: дазволілі сялянам лавіць рыбу сваімі сеткамі, павысілі закупачную цану на рыбу. Па закліку ЦК КПЗБ выбраны камітэт абароны сялянскіх правоў, створаны прафсаюз. Барацьба за свабодную лоўлю рыбы і адмену закону аб нацыяналізацыі прадаўжалася да верасня 1939 г.

*Літ.:* Полуян В. А. Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг.).— Мн., 1978; Мацко А. Н. Борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против фашизма (1933—1939 гг.).— Мн., 1963; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 2.— Мн., 1972. *В. М. Баскова.*

**в. Прудзінікі, Крывіцкі пасялковы Савет**

**2030. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пузыры, цэнтр сельсавета**

**2031. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пярэградзь, Латвянскі сельсавет**

**2032. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧЫ** (археал.). На астравах воз. Мядзел.

**2032а.** Гарадзішча-1. На востраве Замак. Займае мыс узвышша, вышынёй над узроўнем вады ў возеры 10 м. З паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга бакоў раней таксама была вада (цяпер тут балота). Пляцоўка памерам 70×50 м. З паўночна-заходняга

боку ўмацавана ровам глыбінёй каля 5 м і шырынёй да 20 м. На краі пляцоўкі ёсць вал вышынёй да 3 м (з боку возера вала няма). Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1981 г. М. А. Ткачоў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт да 2,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка 10—15 стагоддзяў, тачыльныя брускі, абломкі жорнаў, жалезныя нажы, шлакі, шыферныя праслiцы, косці жывёл, птушак, рыб.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Мядзельскім музеі народнай славы.

**2032б.** Селішча-1. Каля паднож‍жа гарадзішча-1. Плошча больш за 1,5 га. Абследавалі ў 1981 г. М. А. Ткачоў, у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,6—0,7 м. Знойдзены косці жывёл, бытавыя рэчы і ганчарная кераміка 11—13 стагоддзяў.

**2032в.** Гарадзішча-2. На востраве Гарадок. Пляцоўка авальная, памерам 50×15—20 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Вышыня над узроўнем вады 3—6 м, заходні схіл стромкі, усходні — спадзісты. Земляныя ўмацаванні адсутнічаюць. Выявіў у 1970 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

**2032г.** Селішча-2. За 0,25 км на паўночны ўсход ад вострава Гарадок, на востраве Уклейна (Куклеева). Плошча каля 0,5 га. Выявіў у 1970 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена штрыхаваная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; яго ж. Работы экспедиции Гродненского университета.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983.

*Я. Г. Звяруга.*

### в. Равячка, Будслаўскі сельсавет

**2033. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Будслаў, на




**2034б.** *Селішча-2. План.*




**2034б.** *Вырабы з жалеза і гліняныя праслiцы з раскопу селішча-2.*

ўзвышшы сярод поймы р. Сэрвач. Пляцоўка роўная, памерам 55×38 м, умацавана сістэмай валоў і равоў. Першы вал вышынёй 0,7 м, шырынёй 4 м знаходзіцца з паўночна-ўсходняга боку пляцоўкі, за ім выкапаны роў глыбінёй 2 м і шырынёй каля 6 м. Другі і трэці валы з 2 равамі знаходзяцца з паўднёва-заходняга боку пляцоўкі. Вышыня валоў 1 м, шырыня 5—7 м, глыбіня равоў 0,5—0,6 м, шырыня 6—7 м. Адкрыў у 1967 г. і абследаваў у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3—0,4 м, каля краёў 0,8—0,1 м. Знойдзены абломкі рабрыстых і слоікавых штрыхаваных пасудзін, косці жывёл і шлакі. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**2034. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**2034а.** Селішча-1. За 0,4 км на поўдзень ад заходняй ускраіны вёскі. Займае частку поля і поймы р. Сэрвач. Плошча 0,4—0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,15—0,20 м. У ім знойдзены абломкі ляпнога гладкасценнага посуду. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—7 стагоддзямі н. э.

**2034б.** Селішча-2. За 1 км па паўднёвы захад ад вёскі, на пакатым узвышшы поймы р. Сэрвач. Памер 165×35 м, вышыня над поймай 4—5 м. Адкрыў у 1967 г. і даследаваў у 1973—75 гг. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м ускрыты на плошчы 1292 м². Выяўлены 2 паўзямлянкавыя і 2 наземныя жытлы. У адным прасочаны агнішчы, у другім — печы-каменкі ў выглядзе развалу абпаленых камянёў. Жытлы зрубнай канструкцыі (памеры 3,8×4; 3,8×3; 3,3×4 м). Выяўлена 30 гаспадарчых ям, знойдзены кераміка (ляпная, штрыхаваная, гладкасценная днепрадзвінскай культуры), рэшткі ляпнога посуду тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, жалезныя нажы з выгнутай і прамой спінкай, шылы, праслiцы. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 5—6 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

### в. Расохі, Латвянскі сельсавет

**2035. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5—3 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля перашыйку, што вядзе на паўвостраў Дубовы, на краі першай надпоймавай тэрасы воз. Мядзел (вышыня 1,5 м над узроўнем возера). Адкрыў у 1978 г., раскопкі праводзіў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Ускрыта 120 м² плошчы. Культурны пласт 0,3—0,6 м.




**2035.** *Крамянёвы інвентар з раскопу паселішча.*

Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі на адшчэпах, нож, скобля, свярдзёлкі, нажападобныя пласціны, нуклеусы), шліхтаванае сланцавае цясла, танкасценная слабаштрыхаваная кераміка позняга бронзавага веку, гладкасценная кераміка культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, жалезныя шлакі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980; яго ж. Знаходкі ля возера.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1981, № 2. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Рыбкі, Нарачанскі сельсавет**

**2036. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3—0,5 км на поўдзень ад вёскі, 0,1 км на поўдзень ад могілак, каля краю першай надпоймавай тэрасы воз. Мядзел, на 2—3 м вышэй шырокага забалочанага поплаву. Памер 150×150 м. Адкрыў і даследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі, ускрыта 40 м² плошчы. Культурны пласт моцна разбураны, не перавышае 0,3—0,4 м. Знойдзена невялікая колькасць крамянёвых прылад працы і абломкаў танкасценнай слабаштрыхаванай керамікі. Адносіцца да позняга бронзавага веку, датуецца канцом 2 — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Сваткі, цэнтр сельсавета**

**2037. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Зара». На ўшанаванне памяці 72 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

## XXII. СВІР

Гарадскі пасёлак. На паўночна-заходнім беразе воз. Свір. За 45 км на захад ад Мядзела, 26 км ад чыгуначнай станцыі Лынтупы (на лініі Пабрадзе — Крулеўшчына). Цэнтр саўгаса «Свір».

Паводле падання заснавана ў 13 ст. на месцы капішча Перуна літоўскім князем Доўмантам. У 15—16 стагоддзях належала Свірскім, з 1528 г. да 17 ст.— Радзівілам, потым (да 1820 г.) зноў Свірскім. Уваходзіла ў Ашмянскі павет Віленскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У сярэдзіне мястэчка, на гары, якую, паводле падання, насыпалі воіны Баторыя, князі Свірскія пабудавалі замак, пазней на захад ад мястэчка — палац. У 1452 г. князь Ян Свірскі пабудаваў драўляны касцёл. У 1653 г. на месцы старога касцёла пастаўлены мураваны Міхайлаўскі касцёл. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) Свір у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Завілейскага, потым Свянцянскага паветаў Слонімскай, з 1801 г. Віленскай губерняў. У 1897 г. 1122 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Свянцянскага павета Віленскага ваяводства буржуазнай Польшчы. З 1939 г. у БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр Свірскага р-на Вілейскай вобл. З чэрвеня 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (28.9.1943 г.— 4.7. 1944 г.). З 20.9.1944 г. Свір — цэнтр раёна Маладзечанскай вобл., з 25.4.1958 г. гарадскі пасёлак, з 31.8.1959 г. у Мядзельскім р-не.



XXII. *Забудова вуліцы Савецкай.*

Планіровачная структура сучаснага пасёлка квартальная, пераважае аднапавярховая драўляная забудова. У 1977 г. у Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план забудовы. Асноўныя вуліцы — Савецкая і Гурыновіча, на якіх знаходзяцца будынкі пасялковага Савета, канторы саўгаса «Свір», Дома сувязі, Дома культуры, паліклінікі, універмага, магазінаў, сталовай. Уздоўж воз. Свір праходзіць вул. Набярэжная. У пасёлку працуюць хлебазавод, прамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, дзіцячыя сад і яслі, 2 бібліятэкі, бальніца, санаторый «Свір». Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваліся помнікі архітэктуры канца 19 — пачатку 20 стагоддзя — сядзіба, Міхайлаўскі касцёл, царква.

Зона адпачынку — берагі воз. Свір і р. Свірыца.

*Літ.:* Живописная Россия. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska... T. 3.— Warszawa, 1846. *В. М. Баскова, Т. І. Чарняўская.*

**2038. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 42 воіны і 51 партызан атрада С. Р. Суслава, якія загінулі ў 1944 г. у баях пры вызваленні пасёлка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Наступленне партызан на пасёлак праводзілася адначасова з усіх бакоў. Народныя мсціўцы абышлі дзоты ворага і праніклі ў тыл яго абароны, устанавілі свой кантроль на ўчастку шашы Полацк — Вільнюс, што спрыяла наступленню часцей 1-га Прыбалтыйскага фронту. Партызаны авалодалі пасёлкам і ўтрымлівалі яго да падыходу часцей Чырвонай Арміі, разам з імі ўдзельнічалі ў вызваленні раёна.

У 1954 г. на магіле пастаўлена стэла на пастаменце, на ім дошкі з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**2039. ГАРАДЗІШЧА** (археал.).

**2039а.** Гарадзішча-1. У цэнтры пасёлка, на ізаляваным пагорку. Вышыня над навакольнай мясцовасцю




2038. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



2039а. *Гарадзішча-1. План.*

12—15 м. Усходняя частка пагорка разбурана кар'ерам. Захавалася частка пляцоўкі памерам 12×28 м (раней, відаць, памер пляцоўкі складаў 40×30 м). Паводле падання, тут у 13 ст. літоўскі князь Доўмант заснаваў замак, які пазней належаў князям Свірскім (рэшткі яго ў канцы 16 ст. апісаў польскі храніст М. Стрыйкоўскі). Вядома з канца 19 ст., даследаваў у 1976 г. Я. Г. Зверуга на плошчы 48 м². Культурны пласт да 2,6 м. Выяўлены рэшткі абарончых збудаванняў, знойдзены разнастайныя вырабы з жалеза, бронзы, каменю і гліны, ляпная (штрыхаваная, гладкасценная) і ганчарная кераміка.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2039б.** Гарадзішча-2. На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, злева ад дарогі на Смаргонь, ва ўрочышчы Гарадок. Займае мыс прыроднага ўзвышша, якое ўразаецца ў воз. Свір. З заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 1—1,5 м і ровам шырынёй да 8—10 м. Пляцоўка з паўднёвага боку пашкоджана кар'ерам. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Знойдзена кераміка са штрыхоўкай. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Исследования Верхненеманского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977; Чернявский М. М. Разведки и раскопки в Северо-Западной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Я. Г. Зверуга.*

**2040. МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы на месцы храма (1653 г.). Абнесены бутавай агароджай з убудаванымі ў яе капліцамі, абсаджаны радамі ліп і клёнаў. Дамінуе над прылеглай малапавярховай забудовай.

Касцёл — шасціслуповая трохнефавая базіліка. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуюць прыбудаваныя да тарцоў трансепта вежа-званіца і капліца з ліхтаром. Галоўны фасад двух'ярусны, раскрапаваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі з пінаклямі па баках. У завяршэнні фасада шчыт з бакавымі валютамі і трохвугольным франтонам. Шчытавое завяршэнне і над алтарным кубападобным аб'ёмам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны буйнымі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны стылізаваныя барочныя элементы (валюты, ліштвы паўцыркульных аконных праёмаў, пуцці), матывы архітэктурнай архаікі (пінаклі), ордэрныя формы класікі (карынфскія калоны, кесоны, трыгліфы). Сцены інтэр'ера дэкарыраваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, фрэскавай размалёўкай, лепкай, разеткамі. Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі. Купал над сяродкрыжжам апіраецца на цэнтральныя слупы з дапамогай ветразяў. Алтарнае памяшканне адкрыта ў цэнтральны неф шырокай аркай з арнаментаваным імпастам. Цэнтральны неф асветлены паўкруглымі люкарнамі. Над уваходам размешчаны хоры, над алтаром — крыпта.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў неабарока. *А. М. Кулагін.*

**2041. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Савецкай, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 34 жыхароў пасёлка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.



2040. *Мікалаеўскі касцёл.*



2040. *Мікалаеўскі касцёл. План.*



2043. *Сядзібны дом.*



2043. *Сядзібны дом. Кафляная печ жылога пакоя.*

**2042. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. 17 Верасня, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**2043. СЯДЗІБА** (архіт.). На захад ад пасёлка, звязана з ім 2 алеямі. Захаваліся жылы дом і парк з рэгулярна сплапаваным газонам. Цяпер тут размешчаны санаторый «Свір».

Сядзібны дом. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы будынак мае складаную канфігурацыю плана і маляўнічую асіметрычную кампаноўку аб'ёмаў. Контурныя лініі аб'ёмаў вылучаны фактурным і таніраваным рустам, які кантрастуе з чырвоным фонам цагляных

сцен. Галоўны ўваход у двух'яруснай вежы пад шатром з фігурнымі люкарнамі. Уваходныя парталы аформлены рустам і фігурнымі атыкамі. Тарцовыя фасады завершаны фігурнымі шчытамі ўвагнута-выпуклага абрысу і балконамі з ажурнай металічнай агароджай. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны сандрыкамі, франтонамі, атынкаванымі ліштвамі. У інтэр'еры разнавялікія прамавугольныя ў плане памяшканні згрупаваны па баках калідора, у тарцах якога размешчаны выхады і міжпаверхавыя лесвіцы. Захаваліся кафляныя печы пачатку 20 ст.

Парк рэгулярнай планіроўкі. Невялікі перапад рэльефу мясцовасці аформлены 2 тэрасамі, дзе высаджаны ліпавыя шпалеры.

Сядзіба — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**2044. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з дрэва. Аднанефавы безапсідны храм накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. З боку галоўнага фасада ўзвышаецца вялікі гранёны купал на высокім васьмерыку. Аналагічны, але меншы купал вянчае дах над алтарнай часткай. Бабінец вылучаны прыбудовай, накрытай двухсхільным дахам, які ўтварае трохвугольны франтон. Прамавугольныя аконныя праёмы ўпрыгожаны ліштвамі і сандрыкамі.




**2044.** *Царква. План.*




**2047в.** *Курганны могільнік. План.*

Царква — помнік народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Сідаравічы, Занарачанскі сельсавет**

**2045. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Скары, Нарачанскі сельсавет**

**2046. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі і ўзвышанай тэрыторыі, прылеглай да берага затокі воз. Мядзел. Плошча каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1975 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены фрагменты керамікі эпохі Кіеўскай Русі, кавалкі шкла, косці жывёл. Гэта, відаць, рэшткі славянскага паселішча на волаку з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Нёмана. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Слабада, цэнтр сельсавета**

**2047. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2047а.** Гарадзішча. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі Мядзел — Ваўкалата, ва ўрочышчы Весялуха. Займае ізаляваны пагорак. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 8—12 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з захаду на ўсход, памерам 30×45 м. Земляныя ўмацаванні адсутнічаюць. З паўночна-ўсходняга боку, каля асновы гарадзішча захаваліся рэшткі рова глыбінёй да 2,5 м, шырынёй да 10 м. За ровам з паўночнага і заходняга бакоў ёсць тэраса шырынёй 6—12 м. Выявіў у 1967 г. Г. А. Каханоўскі, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**2047б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з паўночна-ўсходняга і ўсходняга бакоў. Памер 70×120 м. З усходу і поўдня абмежавана забалочанай нізінай. З поўначы ёсць павышэнне накшталт вала. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка, кавалкі шлаку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

**2047в.** Курганны могільнік. Мясцовая назва Французскія магілы. За 1,7 км на поўнач ад вёскі, на ўскрайку хваёвага лесу ва ўрочышчы Старына. 58 насыпаў дыяметрам 5—11 м, вышынёй 0,6—1,8 м. Каля большасці з іх ёсць кальцавыя раўкі. Зрэдку на схілах і каля падэшвы трапляюцца камяні. Амаль трэцяя частка курганоў пашкоджана ямамі. Вядомы з канца 19 ст., абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Каханоўскі Г. Айчыніся, таямніца часу.— Мн., 1984. *Я. Г. Звяруга.*

**2048. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «17 Верасня». На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**2049. ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з бутавага каменю.

Царква складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, бабінца і паўкруглай апсіды. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным, апсіда — шатровым дахамі. Уваходная частка вылучана шматслаёвым арачным парталам, завершаным трохвугольнай навіссю, якая апіраецца на прамавугольныя пілястры. Вокны высокія, паўцыркульныя, у ліштвах. На бута-



**2049.** *Царква. Выгляд з боку апсіды.*



**2049.** *Царква. Галоўны фасад.*

вай муроўцы сцен вылучаюцца белыя атынкаваныя лапаткі па вуглах, карнізы і аркатурныя паясы.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры 19 ст. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Старлыгі, Сырмежскі сельсавет**

**2050. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Старынкі, Вузлянскі сельсавет**

**2051. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2051а.** Курганны могільнік-1. Мясцовая назва Валатоўкі. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Вузла. 14 курганоў дыяметрам 4—8 м, вышынёй 0,4—1 м. Некалькі насыпаў пашкоджаны. Могільнік вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**2051б.** Курганны могільнік-2. За 0,5 км на захад ад могільніка-1, справа ад дарогі ў в. Вузла. 2 круглыя ў плане насыпы дыяметрам 7 і 8 м, вышынёй каля 1 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Старыя Габы, цэнтр сельсавета**

**2052. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны Чырвонай Арміі, што загінулі ў 1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі, і савецкія актывісты У. Я. Шаблыка (першы старшыня Старагабскага сельсавета), А. Я. Шаблыка і М. М. Гірш, якіх у 1942—44 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.




2051. *Курганныя могільнікі. План.*



2054. *Крамянёвы інвентар з раскопу паселішча.*

**2053. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стругалапы, Нарачанскі сельсавет**

**2054. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на краі першай надпоймавай тэрасы заходняга берага воз. Мядзел. Цягнецца з поўначы на поўдзень на 40—50 м, з захаду на ўсход на 10—15 м. Адкрыў і даследаваў у 1979 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскапана 144 м² плошчы. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы позняга мезаліту (скрабкі, нажападобныя пласціны, свярдзёлак, нуклеусы, адшчэпы), а таксама фрагменты посуду, палавінка глінянага біканічнага прасліца і жалезныя шлакі культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Суднікі, Дзягільскі сельсавет**

**2055. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**2055а.** Паселішча-1. За 0,7—1 км на поўдзень ад вёскі, па паўночным краі тарфяніка. Памер 50×50 м. Выявіў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены апрацаваныя крамяні (адшчэпы, пласціны, асколкі).

**2055б.** Паселішча-2. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на краі тарфяніка. Плошча 0,5 га. Выявіў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены крамяні, падобныя на знаходкі з паселішча-1.

Паселішчы адносяцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зайковский Э. М. Исследования в Подвинье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Э. М. Зайкоўскі.*

**в. Целякі, Нарачанскі сельсавет**

**2056. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,7 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,7 км злева ад дарогі ў в. Скары, ва ўрочышчы Гарадзішча. Займае ізаляваны пагорак. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 16—21 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Пляцоўка авальная, памерам 60×40 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, значная частка яе па́псавана траншэямі і бліндажамі часоў 1-й сусветнай вайны. Выявілі ў 1930-я гады А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1956 г. Л. В. Аляксееў, у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Зяруга. Знойдзены фрагменты ляпных пасудзін з шурпатай і штрыхаванай паверхняй. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Чараўкі, Нарачанскі сельсавет**

**2057. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



2056. *Гарадзішча. План.*




2057. *Помнік землякам.*

**в. Чарэмшыцы,**
**Занарачанскі сельсавет**

**2058. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гаць. Пахаваны 9 партызан асобнага атрада «Баявы», якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2059. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ САЛДАТ** (гіст.). За 5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі (на месцы былога хутара Гушчар). Пахаваны 400 салдат рускай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў час Нарачанскай аперацыі 1916 г.

**2060. ПОМНІК У ГОНАР ВІЛЕЙСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б** (гіст.). Каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну паблізу вёскі ў лесе базіраваўся Вілейскі падпольны абком КП(б)Б. У 1963 г. у памяць аб гэтым устаноўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 2061 «Помнік у гонар Вілейскіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава».

**2061. ПОМНІК У ГОНАР ВІЛЕЙСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ АБКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). За 1 км ад вёскі, у лесе. У Вялікую Айчынную вайну тут базіраваліся Вілейскія падпольныя абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.

Вілейскі падпольны абком КП(б)Б зацверджаны ЦК КП(б)Б 28.5.1943 г. Сакратары І. Ф. Клімаў (28.5.1943 г.— ліпень 1944 г.), А. А. Манахаў (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), члены абкома П. А. Жуковіч (да чэрвеня 1944 г., загінуў), А. А. Манахаў (да верасня 1943 г.), В. А. Цітавец і А. І. Шаўчэнка (28.5.1943 г.— ліпень 1944 г.). Падпольны абком партыі ўзначальваў камуністычнае і антыфашысцкае падполле, партызанскі рух у вобласці, кіраваў дзейнасцю падпольных Вілейскага гаркома і 20 райкомаў КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 76 пярвічных партыйных арганізацый, 1366 камуністаў Вілейскага падпольнага райкома ЛКСМБ. Друкаваны орган абкома — «Сяляпская газета», рэдактары А. Ц. Васілеўскі (да 29.8. 1943 г.), М. П. Петухоў (з 17.10.1943 г.).

Падпольны абком ЛКСМБ прыступіў да работы 15.4.1943 г. Сакратары: П. М. Альшанскі (да 14.9.1943 г.), П. М. Машэраў (першы сакратар; 14.9.1943 г.— 5.7.1944 г.), В. І. Шымановіч (1.10.1943 г.— 5.7.1944 г.); члены абкома П. М. Альшанскі і Я. І. Гуля (14.9.1943 г.— 5.7.1944 г.), В. Т. Бацечка, Б. П. Гусеў і С. А. Пронька (15.4.1943 г.— 5.7.1944 г.). Падпольны абком ЛКСМБ узначальваў Вілейскі падпольны гарком ЛКСМБ, 20 раённых падпольных райкомаў ЛКСМБ, 45 тэрытарыяльных, 217 пярвічных камсамольскіх арганізацый, 5,2 тыс. камсамольцаў. Выдаваў абласны камсамольскі бюлетэнь «Молодежь Белоруссии в борьбе за Родину» (рэдактар П. М. Альшанскі), газету «Молодежная правда» (рэдактар В. І. Шымановіч).

Вілейскія падпольныя абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ дыслацыраваліся пры штабе партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.

Брыгада створана ў лістападзе 1942 г. на базе асобных атрадаў імя А. В. Суворава і «Знішчальнік». 31.1.



2061. *Мемарыяльны знак на месцы базіравання Вілейскіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*



2061. *Зямлянка на месцы базіравання штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*




2061. *Помнік у гонар Вілейскіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*

1943 г. злучылася з брыгадай Ф. С. Шляхтунова. Паводле рашэння Беларускага штаба партызанскага руху 16.3.1943 г. брыгада разбуйнена, адноўлена брыгада Ф. С. Шляхтунова. Камандзіры брыгады Ф. Р. Маркаў (лістапад 1942 г.— студзень 1943 г., сакавік 1943 г.— люты 1944 г.), Ф. С. Шляхтуноў (студзень — сакавік 1943 г.), І. Н. Крысаў (люты — ліпень 1944 г.); камісары Ф. Р. Маркаў (люты — сакавік 1943 г.), І. М. Яўмененка (жнівень — снежань 1943 г.), А. І. Шаўчэнка (студзень — ліпень 1944 г.). Партызаны брыгады імя К. Я. Варашылава разбуралі чыгуначнае палатно на ўчастках Гродна — Вільнюс, Вільнюс — Даўгаўпілс, Паставы — Глыбокае, Паставы — Лынтупы, Лынтупы — Вільнюс, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Дунілавічы, Мядзел, Груздава, Кабыльнік, Шэметава і інш. У 1944 г. зрабілі рэйд у Смаргонскі і Свірскі р-ны, дзе знішчалі паліцэйскія ўчасткі, памаглі партызанам і насельніцтву Ушацкай зоны выйсці з варожага акружэння, разам з Чырвонай Арміяй удзельнічалі ў вызваленні Мядзела. Рамантавалі масты, пераправы, дарогі для наступаючай Чырвонай

Арміі. Камандзіру брыгады Ф. Р. Маркаву і намесніку камісара па камсамольскай рабоце атрада імя А. Я. Пархоменка Г. І. Маслоўскай прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 4.7. 1944 г. брыгада колькасцю 1865 партызан у складзе 12 атрадаў (імя А. В. Суворава, «Знішчальнік», імя В. І. Чапаева, імя Аляксандра Неўскага, імя А. Я. Пархоменкі, імя М. І. Кутузава, імя М. І. Калініна, «Грозны», «Перамога», імя С. Г. Лазо, імя П. І. Баграціёна, «Слава») злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1963 г. на месцы базіравання падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады адноўлены 3 зямлянкі. У 1980 г. устаноўлены 2 мемарыяльныя знакі.

*Літ.:* Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.—2 изд.— Мн., 1970; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Люди Нарочанского края.— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**в. Шкленікова, Сваткаўскі сельсавет**

**2062. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.).

**2062а.** Курганны могільнік. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі Мацкі — Калінаўка, у лесе, ва ўрочышчы Малатоўкі. Захаваліся 4 насыпы дыяметрам 6—8 м, вышынёй 0,8—1,2 м, часткова пашкоджаны. Выявілі і даследавалі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (раскапалі 3 курганы, матэрыялы не апублікаваны), абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга.

**2062б.** Каменныя магілы. За 1,5 км на поўнач ад воз. Шкленікаўскае, злева ад дарогі Сваткі — Мядзел, у лесе. 7 магіл, абкладзеных па перыметры камянямі ці перакрытых зверху каменнымі плітамі. Выявіў і абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Шыкавічы,**
**Мядзельскі пасялковы Савет**

**2063. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі Мядзел — Вілейка, за 150 м ад заходняга берага воз. Баторына, ва ўрочышчы Гарадзец. Займае частку марэннай грады, выцягнутай з поўначы на поўдзень. З паўночнага боку ўмацавана 2 дугападобнымі равамі шырынёй да 6 м. Два равы і вал былі таксама з поўдня (захаваліся часткова). Пляцоўка авальная, памерам 45×17 м, земляных умацаванняў не мае. З усходу і захаду каля асновы гарадзішча прасочваюцца канавападобныя паглыбленні (тут, відавочна, бралі зямлю для насыпкі схілаў, павышэння іх стромкасці), з паўночна-заходняга боку ёсць невялікая тэраса. Выявілі ў 1934 г. А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1979 г. і 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Я. Г. Звяруга.*




2064. *Касцёл Маці боскай. План.*




2064. *Званіца. План.*

**в. Шэметава, Сырмежскі сельсавет**

**2064. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ І ЗВАНІЦА** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі, на высокім узгорку.

Касцёл пабудаваны на рубяжы 18—19 стагоддзяў з цэглы. Аднанефавы крыжовы бязвежавы храм з прамавугольнай апсідай і развітым трансептам. Галоўны фасад уяўляе сабой порцік з 4 дарычнымі трохчвэртнымі калонамі на высокіх базах. Над прамавугольным парталам прарэзана паўкруглае акно. Паміж бакавымі парамі калон у паверхні сцяны неглыбокія конхавыя нішы. Тарцы сцен трансепта вырашаны ў выглядзе двухкалонных порцікаў. Па вуглах пабудова крапавана плоскімі лапаткамі. Бакавыя часткі апсіды маюць скосы, у тарцовай сцяне прарэзаны дзвярны праём. У інтэр'еры сцены крапаваны пілястрамі з пазалочанымі карынфскімі капітэлямі. Прамавугольныя аконныя праёмы храма ўпрыгожваюць каляровыя вітражы. Алтар дэкарыраваны пазалочанай драўлянай разьбой і скульптурай. Высокія хоры з арганам апіраюцца на 2 шматгранныя слупы. Насценная размалёўка на евангельскія сюжэты, уключае раслінны арнамент. Амбон выкананы ў стылі ракако ў выглядзе чашы (разьба, пазалота), якую падтрымлівае птушка.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

Званіца размешчана справа ад касцёла. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Квадратная ў плане, на невысокім мураваным фундаменце, мае двух'ярусную кампазіцыю. Ніжні ярус вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, верхні — адкрыты, умацаваны ўкосінамі каркас-«звон», завершаны шатровым дахам з крыжам. Апрача 4 вуглавых стоек, рашотку, да якой прымацаваны званы, падтрымліваюць яшчэ 8 дадатковых.

Званіца — помнік народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Яневічы, Сырмежскі сельсавет**

**2065. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.




# НЯСВІЖСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905-07 гг, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XXIII. НЯСВІЖ

Горад, цэнтр раёна, на р. Уша, прытоку Нёмана. За 112 км на паўднёвы захад ад Мінска, 14 км ад чыгуначнай станцыі Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Баранавічамі, Клецкам, Навагрудкам і з аўтамагістраллю Мінск — Слуцк.

У летапісе ўпершыню ўпамінаецца пад 1223 г., калі нясвіжскі князь Юрый (паводле іншых звестак Фёдар) з дружынай удзельнічаў у бітве рускіх князёў супраць мангола-татараў на р. Калка. Цэнтр удзельнага княства, якое з 1230—40 гг. знаходзілася пад уплывам Вялікага княства Літоўскага, а з 1-й чвэрці 14 ст. увайшло ў яго склад. У 12—14 стагоддзях Нясвіж — паселішча з развітым рамяством і гандлем. З 1432 г. належаў Пятру Яну Кішку, з 1513 г. больш за 400 гадоў — Радзівілам. Першым князем нясвіжскім з роду Радзівілаў быў Мікалай Чорны (1515—65 гг.), які ў 1547 г. атрымаў княжацкі тытул. З гэтага часу феадальная вотчына Радзівілаў афіцыйна называлася Нясвіжскім княствам. У яго ўваходзілі Нясвіж, Карэлічы, Свержань, так званае Мірскае графства. У 1586 г. Нясвіжскае княства аб'яўлена ардынацыяй Радзівілаў, мела свае войска і замкавы суд, якому падлягала ўсё насельніцтва. У 1555 г. Мікалай Чорны прыняў кальвінізм і зрабіў Нясвіж яго цэнтрам. Ён жа заснаваў бібліятэку. У 16 ст. М. Кавячынскім і Л. Крышкоўскім з удзелам С. Буднага заснавана друкарня, дзе у 1562 г. выдадзены на беларускай мове кнігі С. Буднага. У 1586 г. Нясвіж атрымаў магдэбургскае права, герб, тут адбываліся 2 кірмашы ў год працягласцю 2 тыдні кожны. Па прывілею магната ад 18.6. 1586 г. галоўную распараджальную ўладу ў горадзе ажыццяўляў войт, які ўзначальваў магістрат (раду) і суд. У Нясвіжы размяшчаліся адміністрацыйна-гаспадарчыя ўстановы магнатаў: замкавы (ардынацкі) суд, галоўная каса, будаўнічае ўпраўленне, наглядчык будынкаў, княжацкі архіў і інш. У 1582—83 гг. у горадзе было 50 рамеснікаў 14 прафесій, у 1-й палове 17 ст.— 34 прафесіі, пашыраны апрацоўка металаў, дрэва, збройнае рамяство, скураная вытворчасць, ткацтва, пашыўка адзення, вытворчасць прадуктаў харчавання, мулярнае, цяслярнае і іншыя рамёствы. Пры двары Мікалая Крыштофа Сіроткі (1549—1616 гг.) працаваў гравёр, картограф, друкар Тамаш Макоўскі (1562 г., па іншых звестках 1575 г.— каля 1630 г.), які кіраваў Нясвіжскай друкарняй. У 1613 г. ён награвіраваў першую дакладную карту Вялікага княства Літоўскага, дзе быў тэкст са звесткамі з гісторыі і геаграфіі Беларусі. У 17 ст. у Нясвіжы быў гасціны двор. Нясвіжскія купцы гандлявалі з Прыбалтыкай і Польшчай. Дакументы 1582—1649 гг. упамінаюць гандляроў соллю і перакупшчыкаў. У 1654 г. у горадзе 3 мядовыя і 14 піўных корчмаў. У 2-й палове 17 ст.—45 рамесных прафесій, у 2-й палове 18 ст.—67. У 1673 г. меліся 3 рынкі. Міхал Казімір (1625—80 гг.) прывілеем 1661 г. стварыў купецкі цэх, які функцыяніраваў і ў 2-й палове 18 ст. Рамеснікі Нясвіжа таксама аб'ядноўваліся ў цэхі. Кравецкі цэх вядомы з 1673 г., кушнерскі — з 1703 г. У 1712 г. налічвалася 6 цэхаў, у 1758 г.— 8 (кравецкі, кушнерскі, ткацкі, шавецкі, купецкі, палатняны, слясарны, муляраў). У 1673 г. каля 2400 жыхароў, 367 «дымоў».



**XXIII.** *Адміністрацыйны будынак раённага аграпрамысловага аб'яднання і жылыя дамы.*

У руска-польскую вайну 1654—67 гг. горад двойчы (1655 г. і 1659 г.) разбураны, але замак не быў узяты. Пажар 1693 г. прынёс Нясвіжу новыя страты. У Паўночную вайну 1700—21 гг. у маі 1706 г. шведскае войска разрабавала і спаліла горад і замак, узарвала магутныя бастыёны. У 1720-я гады Нясвіж адбудаваны. Міхал Казімір Рыбанька (1702—62 гг.) умацаваў гарнізон замка, адкрыў кадэцкі корпус, дзе рыхтавалі афіцэраў для прыватнага войска Радзівілаў. У 18 ст. каля Нясвіжа ў Альбе, летняй рэзідэнцыі Радзівілаў, працавала школа флоцкіх афіцэраў, у якой вучылі мовам, геаметрыі, геалогіі, астраноміі, інжынернай справе, гісторыі, малюнку. У 1740—91 гг. дзейнічаў тэатр. У 1753—62 гг. яму быў нададзены прафесійны характар. Прыгонная трупа папоўнена наёмнымі акцёрамі, створаны музычная, вакальная, балетная школы, аркестр народных інструментаў. У 1750—91 гг. у Нясвіжскай друкарні выдаваліся пераважна рэлігійная літаратура, падручнікі, панегірычныя вершы і прамовы, творы антычных аўтараў; вядомы 64 пазіцыі. У 1753 г. у Нясвіжы была пабудавана першая на Беларусі суконная мануфактура (да 60 рабочых, закрыта ў 1780-я гады). У 18 ст. давала прадукцыю дывановая мануфактура, дзейнічала мануфактура па вырабу шаўковых паясоў (персіярня). З 1755 г. працаваў бровар. Пад канец 18 ст. жалезаробчая мануфактура плавіла руду, вырабляліся жалезныя прылады, мелася ліцейня для гармат. У чэрвені 1764 г. войскі Вялікага княства Літоўскага сумесна з рускім атрадам захапілі Нясвіж. Войска Караля Радзівіла было разбіта, сам ён уцёк за мяжу, а яго ўладанні перайшлі пад кіраванне літоўскай генеральнай канфедэрацыі. У канцы 1765 г. і ў 1768 г. Нясвіж зноў заняты рускімі войскамі. Вернуты К. Радзівілу пасля яго пераходу на бок Радомскай канфедэрацыі, якую падтрымлівала Кацярына II.

З 1793 г. Нясвіж у складзе Расіі, цэнтр павета, з 1796 г. заштатны горад Слуцкага павета Мінскай губерні. У 18 ст. значны культурны цэнтр на Беларусі. У 18 ст. у Нясвіжы жылі і працавалі мастакі Мацей Бейтнік, Ксаверы Дамінік і Юзаф Ксаверы Гескія. Пры калегіі езуітаў з 1584 г. працавала школа. Пасля ліквідацыі ў 1773 г. ордэна езуітаў у Нясвіжы дзейнічала школа, якую адкрыла Адукацыйная камісія. У Айчынную вайну 1812 г. горад быў моцна разбураны. Зімой 1814—15 гг. тут жыў паэт-дзекабрыст К. Ф. Рылееў. У 19 ст. Нясвіж — правінцыяльны горад. У 1858 г. было 5610, у 1897 г.—8459 жыхароў. Працавала суконная фабрыка. У 1897 г. адкрыты спіртаачышчальны завод з паравой машынай. У выніку пажараў 1836 г. і 1843 г. горад заняпаў. Асаблівыя страты прычыніў пажар 1843 г., калі згарэла 150 дамоў і пабудовы манахаў па Міхалішкаўскай вуліцы. Да 1835 г. дамініканцы мелі школу, дзе вучыўся выдатны польскі і беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля. Кляштар дамініканцаў закрыты ў 1873 г. У яго будынку з 1875 г. працавала настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых народных вучылішчаў. Яе скончылі беларускі этнограф, фалькларыст і мовазнавец А. Я. Багдановіч (1882 г.), дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР А. А. Сянкевіч і народны паэт БССР Якуб Колас (абодва ў 1902 г.), пісьменнік Кузьма Чорны (1919 г.). У 1-ю сусветную вайну семінарыя пераведзена ў Вязьму, дзе іспавала да 1921 г.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у Нясвіжы адбыліся выступленні працоўных. 18.5.1905 г. забаставалі прыказчыкі, якія патрабавалі скарачэння рабочага дня, паляпшэння свайго становішча. 19.10.1905 г. жыхары горада агульнай забастоўкай падтрымалі Кастрычніцкую Усерасійскую палітычную стачку. У 1906 г. сяляне спалілі частку замка Радзівілаў. З канца 1915 г. Нясвіж прыфрантавы горад. Тут размяшчаўся штаб 2-й арміі Заходняга фронту, дыслацыраваліся рэзервовыя часці, склады. З 1916 г. у вайсковых часцях узнікаюць партыйныя арганізацыі, дзейнічала партыйная група і ў Нясвіжы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у горадзе створаны Савет

рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У канцы красавіка адбыўся 1-ы армейскі з'езд 2-й арміі, на якім выбраны армейскі камітэт. Пад кіраўніцтвам Нясвіжскай арганізацыі РСДРП(б) у кастрычніку 1917 г. баставалі рабочыя слясарных майстэрняў. 27—29.9(10—12.10).1917 г. у Нясвіжы праходзіла 1-я канферэнцыя бальшавікоў 2-й арміі Заходняга фронту. Савецкая ўлада ўстаноўлена 29.10(11.11).1917 г. На 2-м надзвычайным з'ездзе салдат 2-й арміі Заходняга фронту, які адбыўся ў Нясвіжы 1—3(14—16).11.1917 г., быў створаны ВРК арміі. У горадзе дзейнічаў атрад Чырвонай гвардыі. У лютым 1918 г. Нясвіж акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Пад кіраўніцтвам Нясвіжскай падраённай партыйнай арганізацыі, якую ўзначальваў Мінскі падпольны раённы камітэт РКП(б), вялася барацьба з акупантамі. У снежні 1918 г. Нясвіж вызвалены Чырвонай Арміяй. 6.8.1919 г. захоплены войскамі буржуазнай Польшчы, вызвалены ў ліпені 1920 г. 15.7.1920 г. створаны Нясвіжскі павятовы рэўком. Да 25.9.1920 г. пачалі працаваць лесапільны завод, паравы млын і сталярная майстэрня. Рэўком арганізаваў 10 прафсаюзаў. У павеце было 13 партыйных ячэек. Да 15 верасня ў павеце адкрыліся 274 школы і 8 дзіцячых дамоў, у т. л. 2 у Нясвіжы. У жніўні ў горадзе дзейнічалі тэатр і народны універсітэт. У кастрычніку 1920 г. Нясвіж зноў захоплены польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. у складзе буржуазнай Польшчы, павятовы горад Навагрудскага ваяводства. Працоўныя горада і павета пад кіраўніцтвам КПЗБ змагаліся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР.

З верасня 1939 г. у складзе БССР, 8,5 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Гітлераўцы ўстанавілі тут жорсткі акупацыйны рэжым. Толькі ў кастрычніку 1942 г. за адзін дзень яны расстралялі 1500 жыхароў горада. Барацьбой супраць акупантаў кіравалі падпольныя райкомы КП(б)Б (7.4.1943 г.— 5.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.11.1943 г.— 5.7.1944 г.). Вызвалены Нясвіж у ходзе жорсткіх баёў 2.7.1944 г. З 1954 г. у складзе Мінскай вобл.

Нясвіж сфарміраваўся як горад-крэпасць у канцы 16 — пачатку 17 ст., меў замкнёную планіровачную структуру. Першаасновай горада з'яўлялася ўмацаванае гарадзішча (12—13 ст.) на высокім узгорку правага берага р. Уша. У 16 ст. тут існаваў драўляны замак. На левым беразе ракі недалёка ад замка сфарміраваўся неўмацаваны пасад. У 1583 г. уладальнікам Нясвіжа М. К. Радзівілам Сіроткай быў закладзены мураваны замак. Адначасова складзены план горада-крэпасці, які быў ажыццёўлены ў 1584—1616 гг. Гравюра Нясвіжа таго часу, якая захавалася, выканапая Т. Макоўскім, дае магчымасць уявіць яго планіроўку і забудову. Рака Уша падзяляла яго на 2 часткі — замак і ўласна горад (былы пасад). Кожная з іх была добра ўмацавана. Горад быў абкружаны земляным валам і ровам. Замак атрымаў новую сістэму земляных умацаванняў: 4 бастыёны, вакол іх роў, запоўнены вадой. Абарончую ролю адыгрывала таксама сістэма штучных азёр і рака, якая была пераroджана плацінай і дамбай. Горад і замак злучаліся разборным драўляным мостам. У прадмесцях былі створаны форты (Казімір, Міхалішкі, Новае месца і інш.). У плане меў форму няправільнага шматвугольніка, блізкага да квадрата. Яго земляныя валы мелі 4 крапасныя вежы-брамы, якія адначасова служылі ўездам у горад з розных напрамкаў. З паўночнага боку гарадскога вала, каля драўлянага замкавага моста, знаходзілася Замкавая брама са шмат'яруснай абарончай вежай, з усходняга боку была пабудавана Слуцкая, з заходняга — Віленская брамы. Чацвёртая, Клецкая брама, знаходзілася на поўдні. Аснову планіровачнай структуры складалі 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Адна, больш працяглая (частка гасцінца Слуцк — Вільня), праходзіла праз увесь горад з захаду на ўсход і злучала Віленскую і Слуцкую брамы. Другая, што пралягала з поўначы на поўдзень, звязвала замак і кампазіцыйны цэнтр Нясвіжа — прамавугольную ў плане (170×110 м) гандлёвую плошчу з мураванай ратушай. Плошча была забудавана па перыметры з трох бакоў мураванымі жылымі дамамі. З чацвёртага боку, за ратушай, стаяў кляштар дамініканцаў (не захаваўся). Касцёл езуітаў і калегіум знаходзіліся ў паўночна-ўсходняй частцы горада, каля Замкавай брамы. У паўночна-заходняй частцы быў узведзены кляштар бернардзінцаў, у паўднёва-ўсходняй — кляштар бенедыкцінак. У заходняй частцы горада, каля абарончага вала, была мураваная царква (не захавалася). Сярод жылой забудовы вылучаліся мураваныя будынкі ўздоўж галоўных вуліц. Ускраіны забудоўваліся драўлянымі жылымі дамамі. На Рынечнай плошчы размяшчаліся дамы рамеснікаў. Пануючае становішча ў навакольным ландшафце займаў замак, які ўзвышаўся над усёй забудовай. Разам з гарадскімі валамі і кляштарнымі пабудовамі складаў адзіную абарончую сістэму.

У 1985 г. у цэнтры горада (у раёне былой Рынечнай пл.) археолагам І. М. Чарняўскім праводзіліся раскопкі. Археалагічны матэрыял (культурны пласт 2—3 м і розныя знаходкі) датуецца канцом 16 — пачаткам 17 ст. Больш ранніх горадабудаўнічых элементаў не выяўлена. Гэта пацвярджае час узнікнення Нясвіжа як горада-крэпасці.

Сучасны горад захаваў гістарычную архітэктурна-планіровачную структуру, р. Уша і вадаёмамі падзелены на заходнюю і ўсходнюю часткі, звязаныя паміж сабой земляной дамбай і мостам. Асноўныя кампазіцыйныя восі — вуліцы Ленінская, Савецкая, 1 Мая (з захаду на ўсход), Шымко, Заслонава, Садовая (з поўначы на поўдзень). У планіровачнай структуры вылучаюцца 3 жылыя раёны: паўночны, паўднёва-заходні і паўднёва-ўсходні. Жылая забудова пераважна аднапавярховая, сядзібнага тыпу. Па вуліцах Савецкай, Дзяржынскага, Лібкнехта ў пасляваенны час пабудаваны 5-павярховыя жылыя дамы. У раёне вул. 1 Мая фарміруецца мікрараён. Тут узводзяцца 4—9-павярховыя жылыя дамы. Паводле генпланаў 1965 г. (інстытут «Белдзяржпраект»), 1979 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра (1978 г., «Мінскграмадзянпраект») адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр склаўся на цэнтральнай плошчы (былая Рынечная). Яго фарміруюць: 4-павярховы будынак Дома Саветаў, кінатэатр «Салют», трохпавярховая гасцініца, будынкі універмага, камбіната бытавога абслугоўвання, пяціпавярховага жылога дома з гастраномам. На плошчы разбіты сквер. Гандлёвы цэнтр склаўся па вул. Савецкай.

Працуюць: біяхімічны завод, хлебазавод, швейная фабрыка, завод масла і сухога малака, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, торфапрадпрыемства, рыбгас «Альба».

У горадзе педагагічнае вучылішча, 3 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 3 бібліятэкі, бальніца, санаторый «Нясвіж», стадыён. Выдаецца газета «Чырвоны сцяг». Помнікі: У. І. Леніну; С. Буднаму; у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; ахвярам фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры 17—19 стагоддзяў: палацава-паркавы комплекс, касцёл езуітаў, гарадская абарончая вежа, ратуша і гандлёвыя рады, кляштар бернардзінцаў, кляштар бенедыкцінак, гарадская (Слуцкая) брама, капліца, плябанія, жылыя і гандлёвыя будынкі па вул. Леніна.

Зона адпачынку — парк санаторыя «Нясвіж», парк «Альба», штучныя азёры на р. Уша.

*Літ.:* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 7.— Вильна, 1870; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; Яго ж. Промышленность Белоруссии.



2066. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

1860—1900.— Мн., 1978; Грицкевич А. П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; яго ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; Деленковский Н. И. Несвиж: Историко-экономический очерк.— Мн., 1979; Мальдзіс А. І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі.— У кн.: Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; яго ж. Таямніцы старажытных сховішчаў.— Мн., 1974; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Jakubowski J. Tomasz Makowski, sztycharz i kartograf Nieświeski.— Warszawa, 1923; яго ж. Nieśwież.— Ziemia, 1925, № 10/12; Miller A. Teatr Polski i muzyka na Litwie: Jako strażnice kultury zachodu (1745—1865).— Wilno, 1936; Tauroginski B. Z dziejów Nieświeża.— Warszawa, 1937; яго ж. Nieśwież.— Warszawa, 1937; Teatr Urszuli Radziwiłłowej.— Warszawa, 1961.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*



2068. *Гарадская абарончая замкавая вежа.*

**2066. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку, на тэрыторыі санаторыя «Нясвіж». Пахаваны 135 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. ці памерлі ад ран у шпіталі ў 1944—45 гг. Сярод пахаваных — воіны 193-й стралковай дывізіі 105-га стралковага корпуса і 251-га танкавага палка 65-й арміі 1-га Беларускага фронту, што вызвалялі горад. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Абапал — стэлы з імёнамі загінуўшых, запалены Вечны агонь. *В. Б. Караткевіч.*

**2067. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**2067а.** Гарадзішча-1. Вул. Чкалава, 8. Ва ўсходняй частцы горада, каля будынка былога кляштара бенедыкцінак, ва ўрочышчы Замкавішча, на беразе Дзявочай сажалкі, за 0,2 км на поўдзень ад Слуцкай брамы. Пляцоўка цяпер разарана, памеры ўстанавіць немагчыма. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1983 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт у адкрытых месцах 0,5—0,6 м. Захаваліся рэшткі вала вышынёй 2—3,5 м, шырынёй 4—4,5 м і глыбокі роў. Раскопкі не праводзіліся.

**2067б.** Гарадзішча-2. Мясцовая назва Папова Гара. На тэрыторыі парку, за 80—100 м на ўсход ад Дзявочай сажалкі. Пляцоўка круглая, дыяметрам 12 м, абкружана валам вышынёй 0,4—0,7 м з боку пляцоўкі, шырынёй 3—3,5 м і вонкавым валам вышынёй 0,4—1,3 м. Паміж імі знаходзіцца роў глыбінёй 1—1,5 м, шырынёй 2—2,5 м. Уваход на гарадзішча з паўднёвага боку. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Магчыма, было свяцілішчам. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... Слуцкий уезд.— Мн., 1879; Побаль Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век.— Мн., 1983. *В. М. Ляўко.*

**2068. ГАРАДСКАЯ АБАРОНЧАЯ ЗАМКАВАЯ ВЕЖА** (архіт.). На вул. Міцкевіча, у паўночным баку агароджы езуіцкага калегіума. Пабудавана ў 2-й палове 16 ст. з цэглы, у сістэме абарончых сцен каля Замкавай брамы, што звязвала горад з замкам. Некаторыя даследчыкі лічаць, што будавалася як званіца езуіцкага касцёла.

Квадратны ў плане чатырох'ярусны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам. Ярусы аддзелены адзін ад аднаго вузкімі карнізнымі паяскамі. Глухі ніжні ярус з контрфорсамі вырашаны як масіўны цокаль, другі, найбольш высокі, прарэзаны 2 радамі прамавугольных і круглых праёмаў, трэці (дзе быў звон) і найбольш нізкі чацвёрты маюць арачныя праёмы. Карнізныя паяскі і ліштвы праёмаў пакрыты белай тынкоўкай, што стварае кантрасты малюнак на фоне чырвоных неатынкаваных цагляных сцен.

Вежа — помнік абарончага дойлідства з рысамі готыкі і рэнесансу.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии. Архитектура XIV—XVIII вв.— У кн.: Всеобщая история архитектуры. М., 1968, т. 6, с. 476. *Т. І. Чарняўская.*

**2069. ГАРАДСКАЯ (СЛУЦКАЯ) БРАМА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы горада, па вул. Слуцкай. Пабудавана ў 2-й палове 17 ст. з цэглы, перабудавана ці адноўлена ў 1700 г. (паводле іншых звестак у 1760 г.). У 1970-я гады рэстаўрыравана. З'яўлялася праезнай брамай у сістэме абарончых збудаванняў старажытнага горада, на дарозе-дамбе цераз р. Уша.

Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём з вялікім арачным праездам (даўжыня 10,3 м) у цэнтры, накрыты двухсхільным чарапічным дахам. Сцены ўмацаваны контрфорсамі. Двухчасткавая кампазіцыя галоўнага фасада завершана фігурным франтонам. Абапал арачнага праезду размешчаны 2 памяшканні: першае — для вартавых, у другім знаходзіцца лесвіца, што вядзе на другі ярус, дзе ёсць невялікае памяшканне — капліца. Над арачным праездам высокі лучковы праём і балкон з металічнай літой агароджай.

Слуцкая брама — помнік архітэктуры барока. *Т. І. Чарняўская.*

**2070. ДОМ РАМЕСНІКА** («Дом на рынку»; архіт.). Вул. Чапаева, 4/2. Узведзены ў 1721 г. як жылы. У 19 ст. прыбудавана памяшканне з боку двара. Спачатку ўваходзіў у ансамбль забудовы Рыначнай пл.



2069. *Гарадская (Слуцкая) брама. Тыльны фасад.*





2069. *Гарадская (Слуцкая) брама. План.*



2069. *Слуцкая брама.*



2071. *Жылы дом па вуліцы Савецкай.*

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з паўпадвалам. Сцены 1-га і 2-га паверхаў выкананы з цэглы і з дрэва. На 1-м паверсе раней знаходзіліся складскія памяшканні і крамы, 2-і адводзіўся пад жылыя пакоі. Галоўны тарцовы фасад выходзіць на лінію забудовы вуліцы і вырашаны адзіным фігурным шчытом з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр фасада вылучаны галоўным уваходам, над якім размешчаны балкон з металічнай літой агароджай. Уваход на 2-і паверх з боку дваровага фасада. Невялікі праём і нішы ў завяршэнні фасаднага шчыта апрацаваны дэкаратыўнымі ліштвамі і неглыбокімі нішамі. Фігурны абрыс шчыта падкрэслены прафіляваным карнізам.

Дом — помнік архітэктуры барока.

*Т. І. Чарняўская.*



2070. *Дом рамесніка. Галоўны фасад.*




2070. *Дом рамесніка. План 1-га паверха.*

**2071. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 2. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. У 19 ст. зроблена прыбудова з боку дваровага фасада. Цяпер прыстасаваны пад гандлёвую ўстанову.

Невялікі аднапавярховы будынак з паўпадвалам мае ў плане форму выцягнутага прамавугольніка са скошаным вуглом. Накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Плоскасныя фасады чляняны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, пазбаўлены дэкору. Першапачатковая ўнутраная планіроўка зменена.

Жылы дом — помнік архітэктуры барока.

*Т. І. Чарняўская.*

**2072. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНСКАЙ** (архіт.). Адна з старажытных ў горадзе. Планіроўка яе сфарміравалася ў 16—17 стагоддзях. Захаваліся фрагменты забудовы канца 19 — пачатку 20 ст.

Д о м № 11. Пабудаваны ў 1916 г. з цэглы як жылы. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аднапавярховага аб'ёму з боку дваровага фасада прыбудавана кароткае крыло, з боку паўночнага тарца — драўляны тамбур. Галоўны фасад выходзіць на «чырвоную» лінію забудовы вуліцы. У аздобе яго выкарыстана лякальная цэгла. Сцяна галоўнага фасада падзелена пілястрамі, паміж якімі размешчаны па 2 прамавугольныя аконныя праёмы з дэкаратыўным афармленнем. У цэнтры — галоўны ўваход, які абрамляюць 2 паўкалонкі. Над уваходам трохвугольны франтон з крывалінейнымі гранямі. Будынак пастаўлены на цокаль з бутавага каменю, сцены неатынкаваныя, завершаны карнізам і



2072. *Дом № 11 па вуліцы Ленінскай.*




2072. *Дом № 11 па вуліцы Ленінскай. План.*




2072. *Дом № 13 па вуліцы Ленінскай. План.*




2072. *Дом № 19 па вуліцы Ленінскай. План.*

невысокім парапетам з геаметрычным арнаментам. Унутраная планіроўка зменена.

Дом — прыклад эклектычнай архітэктуры.

Дом № 13. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы як карчма. Цяпер тут бар. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, з падвальным паверхам. Галоўны тарцовы фасад выходзіць на лінію забудовы вуліцы, мае 4 прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя прафіляванымі сандрыкамі. Фасад завершаны высокім шчытом складанага абрысу з невялікай чатырохграннай галоўкай, люкарнай і 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя часткі шчыта маюць прамалінейныя скосы, у кожным з іх — акно-люнета. Цэнтральная частка фасада вылучана лапаткамі. Бакавыя фасады гладкія, члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Унутраная прастора падзелена капітальнай сцяной на вестыбюль і залу.

У архітэктуры і аздобе будынка выкарыстаны формы мясцовага дойлідства.

Дом № 19. Пабудаваны ў 1898 г. з цэглы як заезны двор. З пачатку 20 ст. выкарыстоўваецца як гасцініца. У 1950-я гады зроблена прыбудова. Аднапавярховы, прамавугольны ў плане будынак з невялікім крылом з боку дваровага фасада. Галоўным фасадам выходзіць на «чырвоную» лінію забудовы вуліцы. Уваход размешчаны асіметрычна. Абрамленні лучковых аконных праёмаў выкананы муроўкай з выкарыстаннем лякальнай цэглы. Сцены завершаны прафіляваным карнізам. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу з двухбаковым размяшчэннем пакояў.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры.

Дом № 22. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы як жылы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём галоўным тарцовым фасадам выходзіць на «чырвоную» лінію забудовы. Галоўны фасад члянёны 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аб'яднанымі агульным прафіляваным пояскам, завершаны трохвугольным шчытом з чацверыковай галоўкай. Маляўнічасць фасаду надаюць 2 кансольныя вежачкі, размешчаныя на тарцах шчыта. Бакавыя фасады гладкія з прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У архітэктуры будынка выкарыстаны формы мясцовага дойлідства.

*Т. І. Чарняўская.*

**2073. КАСЦЁЛ ЕЗУІТАЎ** (архіт., маст.). Ва ўсходняй частцы горада, на вул. Міцкевіча. Пабудаваны ў 1584—93 гг. (архіт. Я. М. Бернардоні) у ансамблі езуіцкага калегіума (разбураны ў 1825 г.; часткова захаваліся 1—2-павярховыя мураваныя пабудовы). Пасля пажару ў сярэдзіне 17 ст. кас-



2073. *Касцёл езуітаў. Фрагмент галоўнага фасада.*




2073. *Касцёл езуітаў. План.*



2073. *Касцёл езуітаў. Фрэскі скляпенняў цэнтральнага нефа.*



**2073.** *Касцёл езуітаў. Скляпенні бакавога нефа.*

цёл рэстаўрыраваны О. Крыгерам. Пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі акупантамі, аднаўлены ў 1944 г.

Касцёл — трохнефавая крыжова-купальная базіліка з паўцыркульнай апсідай і 2 гранёнымі капліцамі на бакавых фасадах. Двух'ярусны галоўны фасад расчлянёны па вертыкалі пілястрамі, па гарызанталі — развітымі паясамі антаблементаў. У першым ярусе, які займае шырыню ўсіх 3 нефаў, 2 рады аконных праёмаў: ніжнія прамавугольныя, верхнія круглыя. Дзвярны праём галоўнага ўвахода завершаны франтонам складанай формы. Другі ярус займае шырыню цэнтральнага нефа. У цэнтры яго — вялікае паўцыркульнае акно, па баках — 2 атыкавыя сценкі крывалінейнага абрысу. Завершаны ярус трохвугольным франтонам з люнетам. Абодва ярусы аздоблены глыбокімі паўцыркульнымі нішамі з скульптурай. На сяродкрыжжы гранёны купал на шасці-



**2073.** *Касцёл езуітаў. Скляпенне алтарнай часткі.*

**2073.** *Касцёл езуітаў. Фрагмент дэкору цэнтральнага нефа.*



**2073.** *Касцёл езуітаў. Размалёўка купала.*

гранным светлавым барабане, завершаны ліхтаром з фігурным шлемам.

Цэнтральны неф шырэй за бакавыя, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Распор купала пагашаецца ветразямі. Падкупальная прастора раскрываецца перад алтарнай часткай. У крыпце — капліца Святога крыжа і фамільная пахавальня князёў Радзівілаў. Інтэр'ер багата дэкарыраваны. Фрэскамі пакрыты скляпенні цэнтральнага і бакавых нефаў, прэсбітэрыя, трансепта, нартэкса, бакавых капэл і падкупальнай прасторы. Размалёўка выканана ў 1750—60-я гады з удзелам мастака К. Д. Гескага, рэстаўрыравана ў 1900—02 гг. Фрэскавы цыкл складаецца з адносна невялікай колькасці буйных сцэн алегарычнага зместу, выяў фігур святых і дэкаратыўна-арнаментальных кампазіцый. На скляпенні прэсбітэрыя размешчана вялікая фрэска «Апафеоз каталіцкай царквы». Алегорыя царквы пададзена ў выглядзе маладой жанчыны ў сіне-блакітным адзенні з ціярай на галаве і келіхам у правай руцэ. Злева і справа — персаніфікаваныя выявы іншых веравызнанняў. У паўднёвай частцы трансепта сцэны з жыцця маці боскай, у паўночнай — Хрыста. На скляпеннях цэнтральнага нефа шэраг сюжэтных сцэн, прысвечаных каталіцкім таінствам. У паўночным нефе сцэна «Вяртанне блуднага сына». У прасценках светлавога барабана купала ў 2 ярусы паказаны фігуры святых на фоне архітэктурных куліс (магутных калон з капітэлямі, нішамі і праёмамі), якія шырока выкарыстаны і ў сюжэтных сцэнах. Мармуровыя алтары ў крылах трансепта ўпрыгожаны скульптурай, галоўны алтар — карцінай К. Д. Гескага «Тайная вячэра» (1753 г.) і інш. Фрэскі адметныя свабодай і манументальнасцю кампазіцыйнай будовы, упэўненым рысункам, лаканізмам сюжэтаў. Каларыт жывапісу мяккі, пераважаюць складаныя колеры — жоўта-карычневы, шэра-блакітны, сіне-зялёны, фіялетава-чырвоны. Крыху парушаюць гэту гаму больш позпія падмаўленні. Над уваходам — хоры з арганам. У 1912 г. у касцёле ўстаноўлена мемарыяльная дошка польскаму і беларускаму паэту У. Сыракомлю.



**2073.** *Касцёл езуітаў. Хоры з арганам.*

Касцёл — помнік архітэктуры ранняга барока.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*

**2074. КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК** (архіт.). Вул. Чкалава, 9. Пабудаваны ў 1590—95 гг. з цэглы на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада. Меў на той час абарончае значэнне. У 17—18 стагоддзях зроблены некаторыя перабудовы. У 1864 г. былі закончаны ўнутраныя пераробкі. Захаваліся ўваходная вежа-брама (18 ст.), жылы корпус з касцёлам, вартоўня, гаспадарчыя карпусы, размешчаныя вакол унутранага дворыка. Цяпер тут педагагічнае вучылішча.

У 1985 г. на тэрыторыі кляштара археолагам І. М. Чарняўскім праводзіліся раскопкі. Выяўленыя культурны пласт 1,0—2,5 м і знаходкі (фрагменты керамікі, кафлі, збаны і інш.) датуюцца канцом 17 — пачаткам 19 ст., што пацвярджае час заснавання кляштара.

Ж ы л ы   м а н а с т ы р с к і   к о р п у с   з   к а с ц ё л а м. Двухпавярховы Е-падобны ў плане будынак з рознавялікімі бакавымі крыламі. Цэнтральная частка на вышыню 2 паверхаў была прыстасавана пад касцёл (аднанефавы, з пяціграннай апсідай і невялікім трансептам). У бакавых крылах размяшчаліся келлі, гаспадарчыя і службовыя памяшканні, у паўднёвым крыле — зала-трапезная. Галоўны фасад корпуса арыентаваны ва ўнутраны дворык. Яго кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца рызаліт (фасад касцёла), дэкарыраваны 3 пілястрамі, лучковымі аконнымі праёмамі. Завяршэнне рызаліта (шмат'ярусная вежа) не захавалася. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна, у паўноч-



**2073.** *Касцёл езуітаў. Фрагмент дэкору бакавога нефа.*



2074. *Кляштар бенедыкцінак. Вежа-брама.*



2074. *Касцёл. Выгляд з боку апсіды.*

ным крыле. Гладкія сцены фасадаў прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка калідорная, часткова зменена, прыстасавана для сучасных патрэб.

Вежа-брама. З'яўляецца галоўным уваходам на тэрыторыю кляштара. Размешчана паміж манастырскіх сцен, па цэнтральнай восі ўнутранага дворыка. Прамавугольная ў плане. Звонку падзелена развітымі прафіляванымі цягамі на 3 ярусы, што паступова змяншаюцца. 1-ы ярус прарэзаны аркай, над якой размешчаны высокі праём, 2-і з арачным аконным праёмам у цэнтры, абрамленым ліштвай, 3-і ярус таксама з арачным праёмам, дэкарыраваны крываліне́йным карнізам. Кожны ярус па вуглах раскрапаваны пілястрамі. Вежа завершана фігурным купалкам са шпілем. Дзверы аздоблены мастацкай акоўкай.

Будынкі кляштара — помнік архітэктуры барока. *Т. І. Чарняўская.*

**2075. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). На вул. Ленінскай. Закладзены ў 1598 г. з цэглы, дабудаваны ў 17 ст. У 18—19 стагоддзях зроблены некаторыя перабудовы. Займаў тэрыторыю, прылеглую да паўночна-заходняга боку абарончага гарадскога вала. Уключаў жылы корпус і касцёл (не захаваўся).

Жылы корпус. Двухпавярховы мураваны будынак, у плане складанай формы з некалькімі асіметрычнымі крыламі, накрытымі двухсхільнымі дахамі. Уваходы размешчаны з заходняга і ўсходняга бакоў. Сцены будынка гладкія, члянёны невысокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. На паўночным фасадзе на вышыню 2 паверхаў захаваліся лапаткі. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу, часткова зменена ў 1950-я гады.

Жылы корпус кляштара — помнік архітэктуры барока. *Т. І. Чарняўская.*

**2076. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кутузава, на могілках. Пахаваны 1500 жыхароў горада, якіх у кастрычніку 1942 г. расстралялі ў замкавай частцы парку нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла і ўстаноўлена




2074. *Кляштар бенедыкцінак. План.*

надмагілле. Гл. таксама артыкул № 2081 «Месца загубы ахвяр фашызму».

**2077. МАГІЛА СЕЎРУКА** Міхаіла Канстанцінавіча (гіст.). Вул. Кутузава, на могілках.

Беларускі савецкі жывапісец і графік М. К. Сеўрук нарадзіўся 27.2. 1905 г. у Варшаве ў сям'і чыгуначніка. У 1926 г. скончыў Нясвіжскую гімназію, у 1932 г.— мастацкі факультэт Віленскага універсітэта, дзе займаўся пад кіраўніцтвам Ф. Рушчыца. Быў адным з арганізатараў Віленскага таварыства мастакоў, удзельнічаў у барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. З 1939 г. жыў у Нясвіжы. Першыя працы М. К. Сеўрука экспанаваліся на выстаўках 1937—38 гг. у Варшаве. Графічныя работы гэтага часу — вокладкі да зборнікаў вершаў М. Танка «На этапах» (1936 г.), песень Р. Шырмы «Наша песня» (1938 г.), ксілаграфіі «Вяртанне з працы», «Лета» (1938 г.). Асноўная іх тэма — сялянская праца. Большасць твораў 1950—70-х гадоў прысвечана людзям калгаснай вёскі: «Гутарка» (1965 г.), «Новы дом» (1968 г.), «У полі», «Дзяўчаты» (1969 г.) і інш. З 1953 г. удзельнічаў у рэспубліканскіх выстаўках. Яго карціны экспанаваліся ў Маскве, Беластоку. Памёр М. К. Сеўрук 14.3.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976; М. К. Сеўрук /Аўтар тэксту В. Ф. Шматаў.— Мн., 1980.

*В. Б. Караткевіч.*

**2078. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУДНАМУ** Сымону (гіст.). Вул. Міцкевіча, 5, на будынку друкарні раённай газеты «Чырвоны сцяг». Устаноўлена ў 1972 г.

Гуманіст, рэфармацыйны дзеяч, асветнік, філосаф, філолаг, паэт і гісторык С. Будны ў 1-й палове 1560-х гадоў жыў і працаваў у Нясвіжы. Тут разам з нясвіжскім намеснікам М. Кавячынскім і кальвінісцкім прапаведнікам Л. Крышкоўскім у пачатку 1560-х гадоў заспаваў друкарню, якая першая на тэрыторыі Беларусі карысталася кірылаўскімі шрыфтамі. Друкар кірылічных выданняў невядомы. У 1562 г. выдаў першую на Беларусі кнігу на беларускай мове — «Катэхізіс». Рашаючая роля С. Буднага ў напісанні і падрыхтоўцы гэтага выдання падкрэслена ў аўтарскай прадмове, напісанай у Клецку 10.6.1562 г. Кніга прызначалася для навучання дзяцей, а таксама для распаўсюджвання рэфармацыйнай ідэалогіі на Беларусі, у Літве і на Украіне. Нягледзячы на знешне традыцыйны змест, яна выходзіла далёка за рамкі багаслоўскіх дактрын, узнімала актуальныя для таго часу сацыяльныя і палітычныя праблемы: аб праве валодання зямельнай уласнасцю і прыгоннымі, аб грамадзянскіх абавязках, аб адносінах




**2078.** *Мемарыяльная дошка Сымону Буднаму.*

да дзяржаўных пасад і інш. Крытыкуючы догматы царквы, С. Будны ў характэрнай вострай манеры ставіў пытанне пра ўзаемаадносіны царквы і свецкай часткі «паспольства», падкрэсліваў, што многія царкоўныя абрады служаць для задавальнення інтарэсаў духавенства.

Другое кірылаўскае выданне «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» да нас не дайшло. З 1563 г. друкарня выдавала кнігі выключна на польскай і лацінскай мовах. Да 1571 г. друкар Д. Лянчыцкі выдаў 11 кніг пераважна палемічна-пратэстанцкага зместу. Большасць кніг аформлена проста, шырока выкарыстоўваліся наборны арнамент, разнастайныя шрыфты, ініцыялы з дэкаратыўна-раслінным арнаментам. У дзейнасці нясвіжскіх выдаўцоў, мастацкім афармленні кірылаўскіх кніг адчуваецца сувязь з друкарскімі традыцыямі Ф. Скарыны. Друкарня спыніла дзейнасць па загаду Мікалая Радзівіла Сіроткі. Апошняе выданне (Біблія ў перакладзе С. Буднага) была надрукавана ў Заслаўі або ў маёнтку Кавячынскіх — Уздзе ў 1572 г. Маёмасць друкарні купіў Я. Кішка, які заснаваў друкарню ў Лоску. Гл. таксама артыкул № 2086 «Помнік Буднаму Сымону».

*Г. Я. Галенчанка.*

**2079. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЫРАКОМЛЮ** Уладзіславу (гіст.). У будынку касцёла езуітаў. Устаноўлена ў 1912 г.

Польскі і беларускі паэт У. Сыракомля (сапраўднае К а н д р а т о в і ч Людвік) нарадзіўся 29.9.1823 г. у былым маёнтку Смольгаў (Бабруйскі р-н). Вучыўся ў даміініканскіх школах у Нясвіжы (1833—35 гг.) і Навагрудку (1836—37 гг.). У 1840—44 гг. працаваў у Нясвіжы ў канцылярыі князя Людвіка Вітгенштэйна па кіраўніцтву панскімі маёнткамі. Асноўным яго заняткам была інвентарызацыя Капыльскага замка (пазней гэта дало матэрыял для творчасці). За ўдзел у антыцарскіх маніфестацыях у 1861 г. зняволены ў віленскую турму.

Першы друкаваны твор — вершаванае апавяданне «Паштальён» (1844 г.) — у перакладзе паэта Л. Трэфалева стаў рускай народнай песняй «Калі я на пошце служыў ямшчыком...». Многія творы прысвечаны нясвіжскаму перыяду жыцця («Прыроджаны Ян Дэмбарог», «Школьныя часы», «Замак Нясвіжскі», «Ілюмінацыя»). У Нясвіжы напісаны першыя жартоўныя вершы «Пісьмо Крышталевіча з Елісейскіх палёў да Раймонда Бараноўскага», «Далей за сонцам», «Да паламанай гітары Р. Рамбовіча». Артыкул аб мінулым Нясвіжа напісаны У. Сыракомляй для «Старажытнай Польшчы» М. Балінскага.

Тэматыка пераважнай большасці твораў паэта — беларуская. Пісаў аб барацьбе сялян за вызваленне ад прыгону («Вызваленне сялян», «Вясковая школа»), выкрываў прыгнятальнікаў народа («Лялька», «Эпітафія землеўласніку», «Дзічына»). Выкарыстоўваў сюжэты і вобразы беларускага фальклору («Хадыка», «Дакументы», «Пра Заблоцкага і мыла», «Авідзій на Палессі»). Вывучаў гісторыю, этнаграфію, мову беларусаў («Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», 1853 г.; «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі», 1856 г.; «Мінск», 1857 г.; «Нёман ад вытокаў да вусця», 1861 г.). Быў першым крытыкам новай беларускай літаратуры, абараняў яе ад нападкаў рэакцыянераў. Творы У. Сыракомлі перакладалі Я. Купала, Я. Лучына, М. Лужанін, У. Дубоўка і інш. Памёр 15.9.1862 г. Яго імем названа вуліца ў Нясвіжы.

*Літ.:* М а л ь д з і с А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Ц в і р к а К. А. Слова пра Сыракомлю.— Мн., 1975.

*В. Б. Караткевіч.*




**2079.** *Мемарыяльная пліта У. Сыракомлю ў касцёле езуітаў.*

**2080. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 2-га З'ЕЗДА САЛДАТ 2-й АРМІІ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ** (гіст.). На уязной браме замка. Устаноўлена ў 1953 г.

На Заходнім фронце ў рашаючыя дні барацьбы за ўладу Саветаў найбольшай рэвалюцыйнасцю вызначаліся салдаты 2-й арміі, якая мела самую моцную бальшавіцкую арганізацыю, цесна звязаную з Мінскім камітэтам РСДРП(б) і Мінскім Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Армейскі выканаўчы камітэт размяшчаўся ў Нясвіжскім замку.

18(31).10.1917 г. у замку пачаў работу армейскі сход, дзе прысутнічала каля 200 дэлегатаў, 80 з іх уваходзілі ў фракцыю бальшавікоў. На сходзе былі выбраны 10 дэлегатаў (у т. л. 4 бальшавікі) на 2-і Усерасійскі з'езд Саветаў. 19.10(1.11). 1917 г. на выбарах армейскага камітэта бальшавікі таксама дабіліся поспеху — іх фракцыя склала трэць саставу камітэта. 20 кастрычніка (2 лістапада) у Нясвіж прыбыў прадстаўнік Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) і склікаў пасяджэнне фракцыі бальшавікоў для абмеркавання практычнай дзейнасці па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. Вырашылі выклікаць у Нясвіж рэвалюцыйны 32-і Сібірскі стралковы полк і стварылі камісію па падрыхтоўцы паўстання. У яе ўвайшлі паручнік М. У. Рагазінскі (старшыня), прапаршчыкі Р. І. Берзін і Лебедзеў, урачы М. С. Ціхменеў і М. Р. Пятроў, падпрапаршчык В. А. Пралыгін, тэхнік Папоў, салдаты Пасынкаў, Нязнамаў, Кузьмін, Клышэйка, Вараб'ёў.

Аб перамозе ўзброенага паўстання ў Петраградзе стала вядома ў Нясвіжы 26.10(8.11).1917 г. На пасяджэнні армейскага камітэта 2-й арміі фракцыя бальшавікоў выступіла з патрабаваннем неадкладна прызнаць уладу Саветаў, але 2/3 галасоў (меншавікі і эсэры) выказаліся супраць. Тады бальшавікі пакінулі армейскі камітэт. Па ініцыятыве бальшавіцкай фракцыі армейскага камітэта быў утвораны ваенна-рэвалюцыйны камітэт 2-й арміі. Старшынёй яго выбралі бальшавіка М. У. Рагазінскага. Усе члены бальшавіцкай фракцыі накіраваліся ў часці для растлумачэння падзей у Петраградзе, перавыбрання палкавых, дывізійных і карпусных камітэтаў і выбараў дэлегатаў на армейскі з'езд.

Да 31.10(13.11).1917 г. ва ўсіх карпусах 2-й арміі ўлада перайшла да ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў, якія выставілі патрабаванне аб скліканні 2-га з'езда салдат 2-й арміі.

1—3(14—16).11.1917 г. у Нясвіжы ў замку Радзівілаў адбыўся 2-і (надзвычайны) з'езд салдат 2-й арміі, у якім удзельнічалі 211 дэлегатаў, пераважна бальшавікі. На з'ездзе разглядаліся пытанні: аб перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі, бягучы момант, палітыка армейскага і франтавога камітэтаў, даклады з месцаў, выбары камітэта. З'езд падтрымаў Савецкую ўладу і ўхваліў яе першыя дэкрэты, асудзіў контррэвалюцыйную дзейнасць франтавога камітэта Заходняга фронту і «Камітэта выратавання рэвалюцыі», прыняў дэкларацыю аб рэвалюцыйным правапарадку ў арміі. З'езд выбраў ваенна-рэвалюцыйны камітэт з 12 чалавек (М. У. Рагазінскі, Р. І. Берзін, М. Р. Пятроў, М. С. Ціхменеў, В. А. Пралыгін і інш.) і новы армейскі камітэт, у якім бальшавікам належала кіруючая роля.

З'езд салдат 2-й арміі садзейнічаў перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі на Заходнім фронце і прыфрантавой тэрыторыі Беларусі.

*Літ.:* В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957; Гапоненко Л. Солдатские массы Западного фронта в борьбе за власть Советов (1917).— [М.], 1953; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*В. Б. Караткевіч.*

**2081. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У замкавай частцы парку. У кастрычніку 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі тут 1500 жыхароў Нясвіжа. У 1965 г. на месцы загубы устаноўлены мемарыяльны знак. Гл. таксама артыкул № 2076 «Магіла ахвяр фашызму».

**2082. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС** (гіст., архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада. Складаецца з палацава-замкавага ансамбля і вялікага парку, падзеленага штучнымі азёрамі на р. Уша. Сфарміраваны ў 16—19 стагоддзях. З'яўляўся рэзідэнцыяй князёў Радзівілаў. З 1945 г. тут размяшчаецца санаторый «Нясвіж».

Палацава-замкавы ансамбль. У 1583 г. М. К. Радзівіл Сіротка заклаў у Нясвіжы мураваны замак. Да 1599 г. у будаўніцтве прымаў удзел італьянскі архітэктар Я. М. Бернардоні. У першапачатковым выглядзе замак адлюстраваны на гравюры Т. Макоўскага. Будынак меў у плане форму чатырохвугольніка памерам 170×120 м, быў абкружаны высокім (да 20 м) абкладзеным камянямі земляным валам з бастыёнамі па вуглах, ровам, які запаўняўся вадой (унутранае кальцо), шырокай дарогай з невысокім земляным насыпам (гласісам) з вонкавага боку і штучнымі вадаёмамі на р. Уша (вонкавае кальцо). Унутры вала былі мураваныя стайні і 4 патаемныя ўваходы. Уверсе вал пераходзіў у бруствер з дадатковымі ўмацаваннямі. У 17 ст. пабудаваны 4 абарончыя вежы (вядомы па інвентарах). Падыход да замка з захаду быў умацаваны трохвугольным шанцам, да якога вялі 2 пад'язныя дарогі. Уздоўж галоўнай восі знаходзіліся



2082. *Палацава-паркавы комплекс. Унутраны двор.*



**2082.** *Палац. Паркавы фасад галоўнага корпуса.*



**2082.** *Фасад галоўнага корпуса палаца з боку ўнутранага двара. Чарцёж.*

мураваная брама з разборным мостам і трохпавярховы палац з васьміграннымі вуглавымі вежачкамі. Злева ад брамы стаяў двухпавярховы гаспадарчы корпус, справа — трохпавярховая казарма з вялікай дазорнай вежай. У 1706 г. замак спалены шведамі. Адноўлены і перабудаваны пасля 1726 г. архіт. К. Ждановічам (у 1740 г. пабудаваў таксама новую палацавую капліцу). У 18 ст. у будаўніцтве палаца ўдзельнічалі архіт. М. Педэці (у 1748—52 гг.), М. Фларыянавіч (1775—78 гг.), К. Спампані (1778—79 гг.), А. Лоцы (1783 г., праект галерэі). Мураваныя бастыёны заменены землянымі ўмацаваннямі. Пры перабудове галоўнага палацавага корпуса надбудаваны чацвёрты паверх цэнтральнага рызаліта, які завершаны трохвугольным франтонам з рэльефным стукавым дэкорам. Бакавыя карпусы перабудаваны і злучаны з галоўным трохпавярховымі жылымі будынкамі, а з уязной брамай (завершана вежай у 2-й палове 18 ст.) — галерэямі. У выніку палац набыў замкнёную па перыметры, блізкую да пяцівугольніка форму. У 1809 г. палацава-замкавы ансамбль рэстаўрыраваны архіт. М. Цэйзікам. Да сярэдзіны 19 ст. замкавыя ўмацаванні аказаліся ў паўразбураным стане і больш не аднаўляліся.

Уваход на тэрыторыю палацава-замкавага ансамбля афармлены двух'яруснай уязной брамай. У цэнтры яе арачны ўваход, які праз перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі тунель вядзе ва ўнутраны двор. Другі ярус брамы — глухая атыкавая сценка, завершаная трохвугольным франтонам, фланкіравана спаранымі пілястрамі і вуглавымі адкосамі. З боку ўнутранага двара, над уваходам у тунель узвышаецца двух'ярусная вежа, накрытая шлемападобным купалам з невысокай галоўкай. Ад вежы ў абодва бакі па перыметры двара адыходзяць крылы галерэі, што злучаюць уязную браму з бакавымі карпусамі палаца. Сцены галерэі крапаваны пілястрамі, члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца трохпавярховы, прамавугольны ў плане галоўны корпус, размешчаны па адной восі з уязной брамай, на процілеглым ад яе баку двара. У цэнтры галоўнага фасада, што арыентаваны ва ўнутраны двор, чатырохпавярховы рызаліт, завершаны трохвугольным франтонам. Фасад раскрапаваны плоскімі пілястрамі і багата дэкарыраваны ляпным рэльефам. Галоўны ўваход зроблены ў выглядзе вынаснога тамбура на шырыню рызаліта. Над тамбурам — тэраса з металічнай агароджай (выхад на яе з другога паверха). Аконныя праёмы квадратныя, прамавугольныя, арачныя. Унутраная планіроўка мяшаная анфіладна-калідорная. У 12 залах палаца (галоў-

ныя — Мармуровая, Каралеўская, Гетманская) зберагаліся багатыя калекцыі твораў мастацтва, зброі, фамільныя партрэты, бібліятэка, архіў. Аздоба інтэр'ераў захавалася часткова.

2 бакавыя карпусы прамавугольныя ў плане, размешчаны пад вуглом да галоўнага, з якім злучаны трохпавярховымі вуглавымі ўстаўкамі. Накрыты двухсхільнымі дахамі. Сцены левага корпуса рытмічна члянёны спаранымі лапаткамі на вышыню ўсіх трох паверхаў, паміж лапаткамі — прамавугольныя аконныя праёмы, на трэцім паверсе — яшчэ і люнеты. У тарцовай частцы правага корпуса ўзвышаецца двух'ярусная шасціграиная вежа пад шлемападобным дахам, завершаная ратондай.

Палацава-замкавы ансамбль — помнік архітэктуры з элементамі розных стылявых кірункаў.



2082. *Палац. Камін у зале 2-га паверха.*



2082. *Палац. Печ у холе 2-га паверха.*

П а р к. Закладзены ў 2-й палове 19 ст. у пойме р. Уша. Зараз займае тэрыторыю плошчай каля 100 га. Штучнымі сажалкамі Замкавай і Дзікай падзяляецца на права- і левабярэжную часткі. Складаецца з 5 аўтаномных ландшафтных участкаў, кожны з якіх мае завершаную кампазіцыю: Замкавы, Стары, Японскі (размешчаныя ў правабярэжнай частцы) і Новы з іпадромам (размешчаны ў левабярэжнай частцы). Над стварэннем Старога і Новага паркаў працаваў беларускі садавод А. Пастарэмчык. Для паркавых пасаджэнняў завозіліся дрэвы з бліжэйшых мясцовых лясоў, а саджанцы асобных экзатычных — з-за мяжы. У парку больш за 90 відаў і форм дрэў і кустоў.

Замкавы парк (парк Антонія). Уключае палацава-замкавы ансамбль з участкамі парку. Добраўпарадкаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. (тады ж быў названы паркам Антонія). Паўразбураныя абарончыя валы з бастыёнамі арганічна ўвайшлі ў паркавы ансамбль, надаючы яму рамантычны характар. Тут знаходзяцца стары калодзеж з дэталямі мастацкай коўкі і скульптура «Амур з чашай». Азеляненне замкавага ўчастка парку мае сіметрычную кампазіцыю, створаную 2 узаемна перпендыкулярнымі алеямі, паміж якімі размяшчаюцца кусты і кветнікі. Тут растуць асобныя дрэвы: хвоя веймутава, дугласія цісалістая і інш. Паміж абарончым валам і тыльным фасадам палаца знаходзіцца інтымны дворык, на якім пасаджаны ніцы ясень і блакітная елка. Другі дворык знаходзіцца паміж валам і былым будынкам казармаў, ён аформлены блакітнымі елкамі. Прагулачны маршрут праходзіць па абарончаму валу паміж бастыёнамі.



2082. *Палац. Фрагмент размалёўкі над галоўнай лесвіцай.*

Стары (Англійскі) парк. Далучаецца да замкавых ўмацаванняў, закладзены ў 1879 г. (аб чым сведчыць надпіс на памятным камені). Тут былі малыя архітэктурныя формы — Галандскі млын, Бярозавы домік, помнік тхару (не захаваліся). Цяпер кампазіцыя парку складаецца з 3 палян, абкружаных дэкаратыўнымі групамі дрэў і звязаных 2 прамавугольнымі алеямі: верхняя праходзіць па заходніх ускраінах палян, ніжняя — па беразе возера. Тут сустракаюцца экзатычныя дрэвы: піхта, блакітны клён, ліпа амерыканская. Па беразе возера растуць клён, ліпа, вольха.

Японскі парк. Далучаецца да Старога парку. Створаны ў 1913—14 гг.,



2082. *Палац. Планы 1—3-га паверхаў.*



2082. *Уязная брама.*

меў характар Японскага (або чорнага) саду. Яго кампазіцыя не захавалася. Цяпер гэта роўны газон з заліўнымі лугамі, абмежаванымі масівамі дрэў. На яго паўночна-ўсходняй ускраіне знаходзіцца Папова Гара, якая алеяй звязана са Старым паркам.

Новы (Марысін) парк. Знаходзіцца на процілеглым Старому парку беразе сажалкі Дзікай. Закладзены адначасова з ім, названы ў гонар князёўны Марысі. Тут паляны чаргуюцца з пасадкамі дрэў, асобныя курціны пераходзяць у гаі, а на ўсходняй ускраіне — у так званы рускі лес, дзе пераважаюць мясцовыя пароды з нязначнымі ўкрапінамі экзотаў: елкі звычайная і Энгельмана, лістоўніцы даурская і сібірская, хвоі веймутава і чорная, дуб звычайны, ліпа амерыканская і інш. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца Круглая сажалка з востравам у цэнтры, ёсць таксама паляна Белага арла, калодзеж-крыніца, ручай («Слёзы Марысі»).

Іпадром знаходзіцца на беразе сажалкі Замкавай і далучаецца да Новага парку. У 1891 г., каб выводзіць сюды коней з замкавых стайняў, ад абарончага вала была зроблена дарога да дамбы, што раз'ядноўвае сажалкі Дзікую і Замкавую. Яна звязвала замак з іпадромам, які ў той час меў адкрытую прастору, дэкаратыўна акаймаваную елкамі. Цяпер гэтая частка парку адкрытая толькі ў прыбярэжнай частцы, у большасці ж яна занята пасадкамі дрэў і кустоў.

Парк — пейзажна-рэгулярнага тыпу, помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *Т. І. Чарняўская.*

**2083. ПАРК «АЛЬБА»** (архіт.). На паўночнай ускраіне горада. З'яўляўся прыгарадам Нясвіжа, дзе была летняя рэзідэнцыя Радзівілаў для палявання. У 1604 г. тут былі пабудаваны павільён Эрмітаж, палац Кансаляцыя, створаны «звярынец» і фазанавае поле (для палявання). У 17 ст. узведзены новы палац, які атрымаў назву «Альба», пабудаваны мараходнае і артылерыйскае вучылішчы. Была створана складаная сістэма каналаў і штучных азёр, якая жывілася ракой Уша. У 18 ст. над планіроўкай парку працаваў архіт. Л. Лутніцкі. У сярэдзіне 19 ст. палац Кансаляцыя і іншыя пабудовы ператварыліся ў руіны, парк быў у запушчаным стане. Цяпер плошча парку больш за 200 га.

Алеяй, якая ідзе ад паўночнай ускраіны горада, і папярочным каналам парк падзяляецца на 4 часткі. Паўночна-ўсходняя абмежавана 2 штучнымі азёрамі — Дзявочым і Альбянскім і сістэмай невялікіх сажалак паміж імі, якія цяпер выкарыстоўваюцца рыбнай гаспадаркай. У 1930-я гады тут пачаў стварацца пейзажны парк. Цэнтрам з'яўляецца вялікая паляна з выхадам на воз. Альбянскае. Гэтая частка парку засаджана групамі хвойных дрэў, паміж якімі ў апошнія гады разрасліся ясень і вольха. Паўднёва-ўсходняя частка (Стары парк) прымыкае да штучнага возера. Займае плошчу каля 30 га. Спачатку меў рэгулярную сістэму планіроўкі. Захаваліся алеі, абсаджаныя елкамі. У асноўным занята лясным масівам, растуць елка, ясень і граб. Тут захаваліся рэшткі фундаментаў палацаў



2082. *Уязная вежа з боку ўнутранага двара.*



2082. *Куток парку.*

Альба і Кансаляцыя. У паўднёва-заходняй частцы парку, якая займае плошчу ў 40 га, захавалася складаная сістэма сажалак (каля 30), прызначаных для развядзення рыбы. Паўночна-заходняя частка прымыкае да горада. Тут на плошчы каля 90 га знаходзіўся «звярынец» і фазанавае поле (каля 65 га), дзе разводзілі фазанаў і курапатак для палявання. У цэнтры унікальнае збудаванне — круглы вадаём з круглым востравам, на якім паляўнічы домік. Ад вадаёма па радыусах разыходзяцца 8 каналаў шырынёй да 7—10 м, даўжынёй 200—800 м. Тут захаваліся рэшткі прагулачных дарожак, дубы-волаты. З экзотаў растуць хвоі веймутава і Банкса і інш. Лесапаркавыя насаджэнні мяжуюць з лесам. У заходняй частцы — забалочаныя тэрыторыі.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *Т. І. Чарняўская.*

**2084. ПЛЯБАНІЯ** (архіт.). Вул. Міцкевіча, 5. Пабудавана на мяжы 16—17 стагоддзяў з цэглы насупраць касцёла езуітаў. Перабудавана на працягу 18—19 стагоддзяў (далучаны вуглавая Г-падобная частка, калоны порціка на галоўным фасадзе і інш.). У будынку размешчана друкарня раённай газеты.

Кампактны двухпавярховы будынак, першапачаткова меў выцягнутую прамавугольную ў плане форму. Накрыты вальмавым дахам. Цэнтральны ўваход з боку галоўнага фасада вылучаны порцікам з драўляным трохвугольным франтонам. Спачатку на другім паверсе дваровага фасада была арачная галерэя, на якую выходзілі ўсе памяшканні (праёмы закладзены ў час перабудовы). Унутраная планіроўка зменена. У 1972 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка С. Будному.

Плябанія — помнік грамадзянскай архітэктуры. *Т. І. Чарняўская.*

**2085. ПОМНІК БУДАЎНІКАМ ДАРОГІ** (гіст.). На вул. Сноўскай.

Аўтамабільная дарога Нясвіж — Баранавічы даўжынёй 43 км пракладзена 2.11.1939 г.— 2.10.1940 г. метадам народнай будоўлі. У 1949 г. у гонар будаўнікоў дарогі пастаўлены абеліск.

**2086. ПОМНІК БУДНАМУ** Сымону (гіст., маст.). Вул. Міцкевіча, перад будынкам друкарні раённай газеты. Пастаўлены ў 1982 г.

Асветнік, філосаф, гуманіст, філолаг, паэт, гісторык, рэфармацыйны дзеяч 16 ст. С. Будны нарадзіўся ў 1530(?) г. у в. Буды ў Мазовіі (ПНР) у сям'і дробнага шляхціца. Скончыў факультэт свабодных мастацтваў Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, магчыма, і тэалагічны факультэт Базельскага універсітэта. З 1558 г. выкладаў у пратэстанцкай школе ў Вільні, з 1560 г. кальвінісцкі прапаведнік у Клецку, у 1562 г. з М. Кавячынскім і Л. Крышкоўскім заснаваў друкарню




2084. *Будынак былой плябаніі. План.*




2086. *Помнік Сымону Будному.*

ў Нясвіжы. Незадаволены памяркоўнасцю кальвінізму, перайшоў на больш радыкальныя пазіцыі ў шэрагу пытанняў, выказаў сумненне ў праўдзівасці хрысціянскага догмату тройцы. З сярэдзіны 1560-х гадоў жыў у маёнтках магнатаў Кішкаў (Хоўхлава, Заслаўе, Лоск). У 1574 г. у Лоскай друкарні выдаў свой пераклад Новага запавету з прадмовай і заўвагамі, творы «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей», «Наконт аргументаў Сімлера пра дзве сутнасці Хрыста» і інш. У лісце да англійскага гісторыка Дж. Фокса выступіў супраць царкоўнага догмату пра боскую прыроду Хрыста. У 1576 г. выдаў твор «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры», дзе абагульніў свае рэлігійна-філасофскія вывады. Як ідэолаг беларускага радыкальна-рэфармацыйнага руху ўдзельнічаў у рабоце арыянскіх сінодаў. Палемізаваў па рэлігійных і сацыяльных пытаннях з ідэолагамі левага крыла арыянскай абшчыны. У 1589 г. разам з Ф. Даманеўскім удзельнічаў у Полацку ў дыспуце з езуітамі, абвяргаў догмат пра бессмяротнасць душы. Адзін з заснавальнікаў навуковай крытыкі біблії, ідэолаг прагрэсіўна настроенай шляхты і гараджан, прадаўжальнік традыцый Ф. Скарыны. Зрабіў вялікі ўклад у развіццё беларускай мовы, сцвярджаў нацыянальную годнасць славян. Памёр 13.1.1593 г. у Вішневе (Валожынскі р-н). Яго імем у Нясвіжы названа вуліца. Гл. таксама артыкул № 2078 «Мемарыяльная дошка Буднаму Сымону».

Бронзавая фігура С. Буднага (скульпт. С. Гарбунова, архіт. Ю. Казакоў; бронза, граніт; вышыня фігуры 2,85 м, пастамента 0,65 м) велічна ўзвышаецца на пастаменце. Ва ўзнятай руцэ кніга з эмблемай сонца — сімвалам святла і ведаў. Фігура вылеплена буйнымі аб'ёмамі. Спакойная пластыка паставы, падкрэсленая рытмам складак адзення, надае статуі манументальнасць, стварае вобраз вялікай духоўнай сілы. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**2087. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Савецкай.



2087. *Помнік Вызвалення.*

У ходзе вызваленчай Беларускай аперацыі 1944 г. 128-ы танкавы полк 219-й танкавай брыгады 1-га механізаванага корпуса конна-механізаванай групы генерал-лейтэнанта І. А. Пліева 1-га Беларускага фронту 2.7.1944 г. у 4 гадзіны атакаваў ворага і пад пагрозай акружэння прымусіў яго пакінуць Нясвіж. За палком, які рушыў далей на Гарадзею, у горад увайшлі эскадроны 10-й кавалерыйскай дывізіі 4-га гвардзейскага кавалерыйскага Кубанскага корпуса. Але на досвітку 3 ліпеня пад націскам 2 батальёнаў гітлераўцаў, падмацаваных 40 танкамі, кавалерысты вымушаны былі адступіць. У жорсткіх баях мужнасць і гераізм праявілі байцы агнявога ўзвода батарэі 1318-га знішчальнага процітанкавага палка конна-механізаванай групы. На ўскраіне Нясвіжа яны з гарматы падбілі 5 варожых танкаў, 3 вымусілі адступіць. Артылерысты суткі ўтрымлівалі рубеж. Камандзіру ўзвода лейтэнанту М. П. Лешчанку за гэты подзвіг 25.9.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Камандаванне конна-механізаванай групы ўвяло ў бой 30-ы кавалерыйскі полк 9-й кавалерыйскай дывізіі, умацаваўшы яго 1815-м самаходным артылерыйскім палком, і паставіла задачу вызваліць Нясвіж. Пасля цяжкіх баёў на досвітку 4 ліпеня горад быў узяты, але неўзабаве гітлераўцы зноў захапілі яго. Да вечара 4 ліпеня часці 193-й стралковай дывізіі (генерал-маёр А. Р. Фраленкаў) 65-й арміі канчаткова выбілі ворага з Нясвіжа. У вызваленні горада ўдзельнічалі таксама партызаны 27-й брыгады імя В. І. Чапаева і асобнага атрада імя А. А. Жданава.

27-я брыгада імя В. І. Чапаева створана ў снежні 1942 г. загадам штаба партызанскага злучэння Слуцкай зоны на базе атрадаў імя В. І. Чапаева, імя М. А. Шчорса і імя Г. К. Жукава брыгады імя К. Я. Варашылава. Камандзіры М. А. Шастапалаў (снежань 1942 г.— май 1943 г., верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), М. Дз. Курыльчык (в. а., май — верасень 1943 г.); камісары І. М. Ражкоў (снежань 1942 г.— чэрвень 1943 г.), П. І. Разувакін (чэрвень — верасень 1943 г.), Н. Дз. Емяльянаў (верасень 1943 г.—ліпень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Нясвіжскага і Клецкага р-наў Баранавіцкай, Капыльскага і Грэскага р-наў Мінскай абласцей. Партызаны ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне» ў жніўні 1943 г. і чэрвені 1944 г., падарвалі 3916 рэек. У верасні 1943 г. разграмілі гарнізоны ў вёсках Сейлавічы Нясвіжскага і Кіявічы Клецкага р-наў, 29.6.1944 г.— у Капылі, удзельнічалі ў вызваленні Стоўбцаў. У лютым, сакавіку 1943 г., лютым, чэрвені 1944 г. вялі баі з карнікамі. На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй (1.7.1944 г.) брыгада яднала 4 атрады: імя М. А. Шчорса, імя В. І. Чапаева, імя П. К. Панамарэнкі, імя Дунаева (1513 партызан).

Асобны атрад імя А. А. Жданава створаны ў кастрычніку 1943 г. па ўказанню Беларускага штаба партызанскага руху з часткі асабовага складу 27-й брыгады імя Чапаева. Дзейнічаў на тэрыторыі Нясвіжскага і Стаўбцоўскага р-наў. Камандзір А. С. Самойленка, камісар Ф. А. Усошын (загінуў 3.7.1944 г.). Партызаны вялі баі з карнікамі ў красавіку 1944 г., нападалі на варожыя гарнізоны, ратавалі мірнае насельніцтва ад вывазу ў Германію. 4.7.1944 г. атрад (85 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У гонар воінаў і партызан, якія вызвалілі Нясвіж, у 1967 г. пастаўлены 2 стэлы: на адной выявы 2 воінаў з аўтаматамі, на другой надпіс-прысвячэнне.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. Б. Караткевіч.*

**2088. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома піянераў і школьнікаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**2089. РАТУША І ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ** (архіт.). Вул. Савецкая, 1а. Пабудаваны пасля 1586 г. з цэглы (перабудаваны ў 1752 г., у 1836 г. зменена завяршэнне вежы). Знаходзіліся ў цэнтры Рыначнай пл. У 17 ст. ратуша і прыбудаваныя да яе гандлёвыя рады ўтваралі ўнутраны двор з арачнымі праездамі. Цяпер у будынку ратушы Дом піянераў і школьнікаў, бібліятэка, рады выкарыстоўваюцца гандлёвымі ўстановамі.

Ратуша — двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты высокім двухсхільным дахам. Гладкія сцены фасадаў прарэзаны вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны прафіляваным карнізам. Над уваходам двухпавярховая чацверыковая ў плане вежа, накрытая невысокім шатром. Бакавыя часткі галоўнага фасада завершаны трохвугольнымі шчытамі, што далучаюцца да вежы. Унутраная планіроўка сіметрычная. На 1-м паверсе ратушы знаходзіліся службовыя памяшканні магістрата і суда, на 2-м была вялікая зала магістрата для ўрачыстасцей і тэатральных паказаў. Да залы праз вежу вяла аднамаршавая лесвіца. Невялікія памяшканні меліся на абодвух паверхах вежы.

Гандлёвыя рады П-падобныя ў плане, накрыты аднасхільным дахам. Нізкі аб'ём радоў кантрастуе з высокім масіўным корпусам ратушы. Вулічныя фасады вырашаны ў выглядзе аркады і завершаны атыкам, дэкарыраваны шырокімі прафіляванымі лапаткамі, размешчанымі сіметрычна паміж аконнымі і ўваходнымі арачнымі праёмамі.

У атыкавай частцы — неглыбокія нішы.

Ратуша і гандлёвыя рады — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі рэнесансу і барока.

*Т. І. Чарняўская.*

**2090. РЭШТКІ АБАРОНЧАГА ВАЛА** (археал.). У прыбярэжнай частцы Дзявочага воз., на паўночны ўсход ад былога кляштара бенедыкцінак. Земляныя ўмацаванні горада былі ўзведзены ў апошняй чвэрці 16 — пачатку 17 ст., існавалі да 19 ст. Захаваліся фрагмент курціны і бастыён (даўжыня каля 300 м). Земляны абарончы вал вышынёй 5—5,5 м, шырынёй каля асновы 17 м з 7 бастыёнамі меў форму няправільнага пяцігранніка, пачынаўся ад Замкавай брамы, якая размяшчалася каля званіцы езуіцкага касцёла, праходзіў па тэрыторыі сучаснай прыватнай забудовы на правым баку вул. Гейсіка (былая Фарная), агінаў былы кляштар бернардзінцаў, выходзіў да сучаснай вул. Пушкіна (былая Бальнічная). У месцы яго перасячэння з сучаснай вул. Савецкай (былая Віленская) размяшчалася Віленская брама, а пры перасячэнні з сучаснай вул. Лібкнехта (былая Міхалішская) — Клецкая брама. Ад яе вал паварочваў у паўднёвым напрамку, за кляштарам бенедыкцінак выходзіў на берагавую лінію сучаснага Дзявочага воз. і ўздоўж яго праходзіў да Слуцкай брамы. Мураваныя кляштары прыкрывалі горад з поўначы, паўночнага ўсходу і поўдня.




2089. *Ратуша і гандлёвыя рады. План.*



2091. *Помнік землякам.*



2089. *Ратуша і гандлёвыя рады.*

У 1985 г. І. М. Чарняўскі на вяршыні бастыёна і каля яго асновы заклаў 2 шурфы. Знойдзены фрагменты керамічнага посуду канца 16 — пачатку 17 ст.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.— Мн., 1975.

*Л. Л. Чарняўская.*

**в. Аношкі, Казлоўскі сельсавет**

**2091. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі

ў барацьбе з фашызмам ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — стэла і скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Астроўкі, цэнтр сельсавета**

**2092. МАГІЛА КАМАЕВА** Васіля Камаевіча **І ГАРЭЦКАГА** Сцяпана Фёдаравіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Партызаны В. К. Камаеў і С. Ф. Гарэцкі загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2093. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). На поўдзень ад вёскі. Пабудавана ў 1844 г. з драўляных брусоў на невысокім цагляным падмурку.

Храм двухзрубны падоўжна-восевай кампазіцыі: да прамавугольнага ў плане галоўнага зруба прырублена з усходу пяцігранная апсіда з квадратнымі ў плане рызніцамі. Галоўны аб'ём накрыты вальмавым дахам, цэнтр якога ўвянчаны галоўкай на двух'ярусным васьмерыку. Пакрыццё над апсідай больш нізкае, шматсхільнае, таксама аформлена галоўкай на васьмерыку. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, умацаваны лапаткамі, гарызантальна ашаляваны. Вокны аздоблены ліштвамі. Інтэр'ер зальны, з драўлянымі перакрыццямі.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Историко-статистическое описание Минской епархии.— СПб., 1864.

*Ю. А. Якімовіч.*



2093. *Царква Раства багародзіцы.*




2093. *Царква Раства багародзіцы. План.*



2094. *Помнік землякам.*

**в. Высокая Ліпа, цэнтр Ліпскага сельсавета**

**2094. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 168 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптуры салдата і дзяўчынкі. Побач — сцяна памяці з імёнамі загінуўшых, запалены Вечны агонь.

**в. Вялікая Быхаўшчына, Ланскі сельсавет**

**2095. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках, пераважна на ўсходняй ускраіне. 12 насыпаў дыяметрам 6—9 м, вышынёй 0,7—1,2 м (адзін курган дыяметрам 13 м, вышынёй 2,7 м). На некалькіх насыпах ёсць сучасныя пахаванні. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікая Ліпа, Ліпскі сельсавет**

**2096. СЯДЗІБА** (архіт.). Пры ўездзе ў вёску з боку аўтамабільнай дарогі Нясвіж — Сноў. Сфарміравана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Уключала шэраг пабудоў вакол унутранага гаспадарчага двара. Галоўны ўваход ажыццяўляўся праз уязную браму, да якой з 2 бакоў далучаны стайні. Насупраць брамы знаходзіўся палац (не захаваўся). На яго месцы цяпер аднапавярховы драўляны дом. Да палаца прымыкаў двухпавярховы мураваны флігель, насупраць — драўляны свіран.

З уцалелых будынкаў цікавыя свіран, уязная брама і стайні.

Свіран. Невялікае квадратнае ў плане драўлянае збудаванне, накрытае чатырохсхільным дахам. Галоўны фасад — мураваная сцяна з трыма арачнымі праёмамі, якія ўтвараюць галерэю. Прасценкі арак дэкарыраваны пілястрамі, завершаны прафіляваным карнізам і шырокай паласой фрыза. Будынак вылучаецца цікавым



2096. *Флігель.*



2096. *Свіран.*



2096. *Уязная брама і стайні.*



2096. *Сядзіба. Ніша з ляпным картушам.*

сумяшчэннем драўляных і мураваных канструкцый, арыгінальнай трактоўкай традыцыйнай гаспадарчай пабудовы галерэйнага тыпу.

Уязная брама і стайні. Аднапавярхсвае прамавугольнае ў плане муражанае збудаванне складаецца з трох частак. Цэнтральная, больш высокая, накрыта чатырохсхільным дахам, прарэзана стральчатай аркай з цыліндрычным скляпеннем, з'яўляецца уязной брамай на тэрыторыю сядзібы. Абапал брамы сіметрычна размешчаны бакавыя крылы стайняў, накрытыя двухсхільнымі дахамі. Сцены дэкарыраваны плоскімі нішамі, прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. З унутранага боку аркі над уваходам у стайню размешчана стральчатая ніша з ляпным картушам.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры. *Т. І. Чарняўская.*

**2097. ЦАРКВА** (архіт.). За 2 км ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане будынак, з усходняга боку завершаны паўцыркульнай апсідай з 2 рызніцамі. Галоўны фасад чляпёны 4 паўцыркульнымі нішамі, увянчаны трохвугольным франтонам плаўнага абрысу. Абапал уваходу па 2 пілястры. Над уваходам лучковы аконны праём, такі самы праём і на франтоне. Сцены бакавых фасадаў гладкія, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер храма зальны з бэлечным перакрыццем. Пры ўваходзе — 2 калонкі, якія падтрымліваюць хоры. Дэкаратыўная аздоба інтэр'ера не захавалася.



2097. *Царква.*




2097. *Царква. План.*



2097. *Званіца.*

Перад галоўным фасадам царквы размешчана прамавугольная ў плане двух'ярусная мураваная званіца, накрытая чатырохсхільным дахам. Першы ярус глухі, мае ўваход, другі — з вузкімі прамавугольнымі праёмамі.

Царква — помнік архітэктуры барока з мясцовай трактоўкай форм. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Вялікая Лысіца, Гарадзейскі сельсавет**

**2098. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 5 партызан і 5 мірных жыхароў, якіх 23.2.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

## XXIV. ГАРАДЗЕЯ

Гарадскі пасёлак, цэнтр сельскага Савета і саўгаса «Гарадзейскі». Размешчана на р. Гарадзейка. За 14 км на паўночны захад ад Нясвіжа, 9,8 км ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Баранавічы, на аўтамабільнай дарозе Нясвіж — Навагрудак.

У 19 ст. вёска, цэнтр воласці ў Навагрудскім павеце Мінскай губерні. З пабудовай Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (1871 г.) — станцыя. У 1886 г. у Гарадзеі былі школа, крама і тракцір. У 1892 г. заснаваны вінакурны завод з паравой машынай, на якім працавала 7 рабочых. У 1897 г.— 754 жыхары.

У 1-ю сусветную вайну з 1915 г. знаходзілася ў прыфрантавой палосе, называлася Замір'е. У 1917 г. тут дзейнічалі арганізацыя РСДРП(б) (у верасні 135 членаў) і Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 18.6.1917 г. у Замір'і прайшла шматлюдная дэманстрацыя, у якой прынялі ўдзел 3 тысячы салдат і сяляне суседніх вёсак. Дэманстранты неслі лозунгі «Няхай жыве рэвалюцыя!», «Няхай жыве сацыялізм!», «Уся ўлада Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў!».

Дэлегаты Замір'еўскай арганізацыі былі прадстаўлены на 1-й Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РСДРП(б), што адбылася ў Мінску ў верасні 1917 г. Рашэнні VI з'езда РСДРП(б), які ўзяў курс на падрыхтоўку і ажыццяўленне ўзброенага паўстання, былі аднадушна падтрыманы на партыйным сходзе ў Замір'і.

Савецкая ўлада ў вёсцы ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. Прадстаўнікі Замір'еўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў удзельнічалі ў рабоце з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобл. у лістападзе 1917 г.

У лютым 1918 г. Гарадзея акупіравана германскімі войскамі. Тут дзейнічала бальшавіцкае падполле. Для кіраўніцтва нізавымі падпольнымі партыйнымі арганізацыямі вясной 1918 г. быў створаны Замір'еўскі падпольны падраённы камітэт партыі (старшыня А. К. Залескі, сакратар І. І. Валодзька). Ён арганізаваў партыйныя ячэйкі ў валасцях Навагрудскага і Слуцкага паветаў. У раёне Гарадзеі ўлетку і восенню 1918 г. баі з акупантамі вялі партызаны.

У канцы снежня 1918 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі Гарадзею. Была адноўлена Савецкая ўлада. У пачатку жніўня 1919 г. занята польскімі войскамі, 6.8.1920 г. вызвалена часцямі Чырвонай Арміі. У кастрычніку 1920 г. зноў захоплена польскімі войскамі.

У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Нясвіжскага павета. З 1939 г. у складзе БССР. З 1940 г. гарадскі пасёлак у Нясвіжскім р-не. У Вялікую Айчынную вайну з канца чэрвеня 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Генеральны план планіроўкі і забудовы пасёлка распрацаваны ў 1973 г. Мінскім філіялам цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Пасёлак мае 3 планіровачныя раёны: Верхняя (горная) Гарадзея (на ўсход ад чыгункі), Ніжняя (Дольная) Гарадзея (на захад ад чыгункі) і пасёлак цукровага завода (на паўднёва-заходняй ускраіне). Галоўны ўезд у пасёлак ажыццяўляецца па вул. Шашэйнай, якая з'яўляецца часткай аўтамабільнай дарогі Мір — Нясвіж. Грамадскі цэнтр знаходзіцца ў Верхняй Гарадзеі. На

прывакзальнай плошчы і вул. Вакзальнай размешчаны чыгуначны і аўтобусны вакзалы, кінатэатр, сталовая, магазіны, універмаг, аддзяленне сувязі і інш. Будынак гарпасялковага Савета знаходзіцца па вул. Школьнай, якая звязвае грамадскі цэнтр з пасёлкам цукровага завода. Гэты пасёлак забудоўваецца з 1950-х гадоў. Тут узведзены 2—5-павярховыя жылыя дамы секцыйнага тыпу, магазіны, клуб, паліклініка, школа, сад-яслі і інш. Галоўная вуліца — Кастрычніцкая звязвае жылую забудову з цукровым заводам. Жылая забудова Верхняй і Ніжняй Гарадзеі аднапавярховая, сядзібнага тыпу. У Ніжняй Гарадзеі — забалочаная пойма р. Гарадзейкі і сад саўгаса «Гарадзейскі».

Працуюць ільнозавод, цукровы завод, хлебазавод, філіял Нясвіжскага камбіната бытавога абслугоўвання, 2 сярэднія агульнаадукацыйныя і музычная школы, васьмігадовая спецыяльная школа-інтэрнат, 3 дашкольныя ўстановы, 2 Дамы культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнік на брацкай магіле 150 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў час вызвалення пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. Т. 1.— СПб., 1886; Ярмолович В. С. Список населенных мест Минской губернии.— Мн., 1909; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Т. 1.— Мн., 1968; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968.
*А. П. Грыцкевіч, Т. І. Чарняўская.*

**2099. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Шашэйная, у цэнтры пасёлка. Пахаваны 150 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях ці памерлі ад ран у 1941—45 гг. Сярод іх — воіны, што загінулі пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Упартыя баі за гарадскі пасёлак ішлі 2.7.1944 г. 128-ы танкавы полк 219-й танкавай брыгады з дэсантам з 70 аўтаматчыкаў, які дзейнічаў у авангардзе 10-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, авалодаў Гарадзеяй. 3 ліпеня на досвітку каля 2 батальёнаў праціўніка прарваліся да Гарадзеі. Воіны 24-га палка 10-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі пры падтрымцы артылерыі адкінулі гітлераўцаў. Контратакі ворага ішлі адна за адной. Толькі вечарам 4 ліпеня кавалерысты разам з воінамі 883-га стралковага палка 193-й стралковай дывізіі 65-й арміі канчаткова выбілі ворага з Гарадзеі.

У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск, у які ўманціраваны блок з выявай галавы салдата і яго рукі, якая моцна трымае аўтамат, а таксама пліта з імёнамі пахаваных.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. Б. Караткевіч.*




2099. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



2105. *Помнік землякам.*

**в. Грыцкавічы, цэнтр сельсавета**

**2100. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены стэла і пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Грыцы, Грыцкавіцкі сельсавет**

**2101. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Еськавічы, Ліпскі сельсавет**

**2102. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахавана каля 80 жыхароў Нясвіжскага р-на, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў ноч з 4-га на 5-е жніўня 1942 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жанкавічы, Казлоўскі сельсавет**

**2103. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Аношкі. Вышыня над паваколлем 5—6 м. Пляцоўка амаль авальная, памерам 120×80 м, здзірванелая. З паўднёва-заходняга боку захаваліся рэшткі вала, які цяпер аплыў, вялікая яго частка пашкоджана. Паўночны бок гарадзішча раскапаны пры будаўніцтве дарогі. Адкрыў у 1951—52 гг. У. С. Астапаў, абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. У 2 шурфах памерамі 0,5×0,5 м і 0,6×0,1 м культурны пласт 0,5 м. Сабраны гладкасценная і штрыхаваная кераміка, шлак, камяні. У 1977 г. абследавала В. М. Ляўко. Адносіцца да жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *В. М. Ляўко.*



2100. *Помнік землякам.*

**в. Заазер'е, Нясвіжскі сельсавет**

**2104. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва, захаваўся часткова, перабудаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны. Выкарыстоўваецца як жылы.

Будынак складаецца з 2 перпендыкулярных аб'ёмаў: кароткага, арыентаванага галоўным фасадам у бок парку, і выцягнутага, прамавугольнага ў плане, арыентаванага на галоўную вуліцу вёскі. Кароткае крыло з мансардай, якая раскрываецца шырокім балконам з драўлянай разной агароджай, завершана трохвугольным шчытом на 4 драўляных калонках. У цэнтры шчыта люкарна. 4 драўляныя калонкі падтрымліваюць таксама балкон, імі вылучаны галоўны ўваход у будынак. Па фасаду выцягнутага аб'ёму размешчаны 2 неглыбокія рызаліты, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Галоўны і бакавыя фасады члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з аканіцамі. У дэкоры выкарыстана разьба па дрэве. Першапачатковая ўнутраная планіроўка зменена.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры з элементамі народнага драўлянага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Казлы, цэнтр сельсавета**

**2105. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлена стэла з



2107. *Гарадзішча. План.*




2108. *Царква. План.*




2110. *Помнік землякам.*

выявамі галавы жанчыны і рукі з аўтаматам. Справа ад стэлы — пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Качановічы, Ланскі сельсавет**

**2106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г., у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2107. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замкавішча. За 0,2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча. З паўднёвага боку абмежавана балотам (раней было возера) і моцна забалочанай поймай безназоўнага ручая. Пляцоўка памерам 35,5×64 м, з заходняга боку была ўмацавана валам (цяпер ледзь прасочваецца ў паўднёва-ўсходнім кутку пляцоўкі). Адкрыў у 1951 г. У. С. Астапаў, даследаваў у 1953 г. А. Р. Мітрафанаў на плошчы 48 м². Культурны пласт 1,4 м моцна пашкоджаны больш познімі пахаваннямі. Знойдзены шматлікія абломкі рабрыстых слоікавых гаршкоў, гліняныя прасліцы, жалезны нож для жніва, дзяржанне сярпа, рэшткі ганчарнага посуду 11—12 стагоддзяў. Гарадзішча адносіцца да позняга перыяду культуры штрыхаванай керамікі (1—4 стагоддзі н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Кунаса, Сейлавіцкі сельсавет**

**2108. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва.

У плане мае форму крыжа: 3 зрубы чатырохсценныя, апсідны — пяцісценны. Над сяродкрыжжам узвышаецца высокі васьміграннцы светлавы барабан, грані якога ўтвараюць зубчастае абрамленне. Барабан пакрыты шатром і завершаны 5 вежачкамі. Сцены царквы гарызантальна ашаляваны і аздоблены вуглавымі разнымі пілястрамі. Вокны з разнымі ліштвамі. Інтэр'ер зальны з бэлечным перакрыццем. Алтарны зруб аддзелены драўляным іканастасам. Пры ўваходзе — тамбур з 2 службовымі памяшканнямі.

Царква — помнік псеўдарускага стылю. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Лань, цэнтр сельсавета**

**2109. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні г. Клецка. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2110. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай эпізоду бою.

**2111. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Уяў-



2111. *Троіцкая царква.*




2111. *Троіцкая царква. План.*

ляе сабой квадратны ў плане зруб, да якога далучаны з усходу пяцісценная апсіда з 2 прыбудоўкамі, на захадзе — двухпавярховы тамбур. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з невысокай двух'яруснай галоўкай у цэнтры. Бакавыя фасады завершаны невялікімі трохвугольнымі франтонамі, дэкарыраваныя пілястрамі, паміж якімі спараныя аконныя праёмы. Сцены гарызантальна ашаляваны. У аздобе выкарыстаны разныя вуглавыя накладкі, карнізы і ліштвы. Інтэр'ер зальны. 4 калонкі па вуглах зруба падтрымліваюць бэлькі перакрыцця.

Насупраць галоўнага фасада царквы знаходзіцца мураваная двух'ярусная брама-званіца з 3 арачнымі праёмамі ў першым ярусе і 1 у другім.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Лявонавічы, цэнтр сельсавета**

**2112. МАГІЛА БАБЕНКАВА** Фёдара Аляксеевіча **І ГОРСКІХ** Рыгора Іванавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны Ф. А. Бабенкаў і Р. І. Горскіх, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 21.4. 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2113. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 49 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**в. Макашы, Астроўскі сельсавет**

**2114. РАДЗІМА ЖЫЛКІ** Уладзіміра Адамавіча (гіст.). Беларускі савецкі паэт У. А. Жылка нарадзіўся 27.5. 1900 г. у сялянскай сям'і. Скончыў царкоўнапрыходскую школу, у 1914 г. гарадское вучылішча ў Міры і паступіў у Багародзіцкае агранамічнае вучылішча Тульскай губерні. З 1917 г. у Мінску. З пачатку 1918 г. працаваў аграномам у дзяржаўнай гаспадарцы. З 1919 г. жыў у вёсках Клецішча, потым Падлессе Стаўбцоўскага р-на. У 1922 г. вучыўся ў апошнім класе беларускай гімназіі ў Дзвінску. У 1923—26 гг. студэнт гісторыка-філалагічнага факультэта Карлава універсітэта (Прага). Друкаваўся ў прагрэсіўных выданнях беларускага студэнцкага зямляцтва ў Чэхаславакіі («Перавясла» і «Прамень»). Як рэдактар часопіса «Прамень» запрошаны ў лістападзе 1926 г. у Мінск для ўдзелу ў навуковай канферэнцыі па рэформе правапісу. Пасля канферэнцыі астаўся ў БССР. Быў літсупрацоўнікам газеты «Звязда», выкладаў беларускую літаратуру ў музычным тэхнікуме. З 1931 г. выкладчык літаратуры ў медыцынскім тэхнікуме ў г. Уржум Кіраўскай вобл.

Друкавацца пачаў у 1920 г. у мінскіх выданнях, з 1921 г. у заходнебеларускай прагрэсіўнай прэсе: газетах «Наша думка», «Беларускія ведамасці», «Новае жыццё». Аўтар лірычнай паэмы «Уяўленне» (1923 г.), паэтычных зборнікаў «На ростані» (1924 г.), «З палёў Заходняй Беларусі» (1927 г.), «Вершы» (1970 г.). Творча пераносіў традыцыі еўрапейскага рамантызму на глебу заходнебеларускай літаратуры, паэтызаваў самаадданае служэнне Радзіме, свабодзе, асуджаў бяздушную мараль уласніцкага свету. У творах савецкага часу сцвярджаў характва новых узаемаадносін асобы і грамадства. Перакладаў на беларускую мову творы М. Лермантава, А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Вольнера, Б. Ясенскага. У. А. Жылка памёр 1.3.1933 г.

*Літ.:* Калеснік У. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі.— Мн., 1977. *В. Б. Караткевіч.*



2111. *Брама-званіца. Агульны выгляд.*

**в. Мацылёўшчына, Грыцкавіцкі сельсавет**

**2115. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля могілак і дарогі ў в. Грыцкавічы. 62 насыпы добрай захаванасці вышынёй 2—2,25 м, дыяметрам 2,5—4 м. Курганы здзірванелыя, зараслі арэшнікам, адлегласць паміж імі 0,7—1,5 м. Каля асобных насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыла і абследавала ў 1977 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся. *В. М. Ляўко.*

**2116. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночны ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана на мяжы 18—19 стагоддзяў з дрэва на бутавым фундаменце.

Складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, накрытага шатром з цыбулепадобнай галоўкай, і прамавугольных у плане бабінца і апсіды, накрытых двухсхільнымі дахамі. Над бабінцам невысокая шатровая вежа-званіца. У дэкоры выкарыстаны разныя дэталі: ліштвы прамавугольных акон, карнізныя цягі, вуглавыя лапаткі. Інтэр'ер зальны, аздабленне не захавалася.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Мікулічы, Нясвіжскі сельсавет**

**2117. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў ў чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міцькавічы, Ланскі сельсавет**

**2118. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. 9 насыпаў (8 у заходняй частцы, 1 ва ўсходняй) дыяметрам 4,5—8 м, вышынёй 0,5—1,2 м. На некаторых насыпах ёсць сучасныя пахаванні. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Новы Сноў, Сноўскі сельсавет**

**2119. КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1836 г. з цэглы.

Уяўляе сабой прамавугольны ў плане асноўны аб'ём, завершаны трохграннай апсідай на ўсходзе і невысо-



2119. *Казьмадзям'янаўская царква. Галоўны фасад.*




2119. *Казьмадзям'янаўская царква. План.*



2120. *Сядзібны дом.*

кай двух'яруснай вежай-званіцай на захадзе, якая фарміруе галоўны фасад. Галоўны ўваход вырашаны двух'ярусным тамбурам з трохпралётнай аркай-уваходам, другі ярус тамбура фланкіраваны калонкамі і завершаны трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады і апсіда падзелены цягай гарызантальна на 2 ярусы; першы (цокальны) глухі, другі прарэзаны лучковымі вокнамі з дэкаратыўнымі ліштвамі і трохвугольнымі франтонамі. Паміж вокнамі размешчаны плоскія пілястры. Па перыметры царквы праходзіць шырокі карнізны пояс з сухарыкамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Сцены дэкарыраваны плоскімі пілястрамі паміж аконных праёмаў. Над уваходам хоры. Іканастас разны, драўляны, трох'ярусны.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**2120. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Узведзены ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы, у пачатку 20 ст. дабудавана бакавое крыло з верандай. Размешчаны ў пейзажным парку (захавалася пад'язная ліпавая алея), цяпер тут бальніца. Будынак з цокальным паверхам, асіметрычнай формы ў плане: да галоўнага двухпавярховага корпуса з тамбурам далучана перпендыкулярна выцягнутае аднапавярховае бакавое крыло. Галоўны фасад вырашаны асіметрычна. Яго сярэдняя частка — тарэц галоўнага корпуса — дэкарыравана рустоўкай, 4 пілястрамі на вышыню 2 паверхаў, расчлянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершана трохвугольным шчытом з паўцыркульным акном у цэнтры. З правага боку да тарца далучаны бакавы тамбур з прамавугольным акном, з левага — бакавое крыло з шырокай верандай. Галоўны ўваход у будынак — праз веранду, вылучаны лесвіцай на вышыню цокальнага паверха. Зашклёная плоскасць веранды падзелена мураванымі слупамі. Сцены бакавых фасадаў гладкія з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка калідорна-анфіладная, часткова зменена.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры з рысамі класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Новыя Навасёлкі, цэнтр Навасёлкаўскага сельсавета**

**2121. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нялепава, Грыцкавіцкі сельсавет**

**2122. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, каля будынка школы. Захаваліся 4 насыпы вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 8—10 м. Яны моцна аплылі, у адным выкапаны пограб, у двух у верхняй частцы прасочаны ямы. Адкрыў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследавала ў 1977 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся. *В. М. Ляўко.*

**в. Раковічы, Юшавіцкі сельсавет**

**2123. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Побач з могілкамі, справа ад аўтамабільнай дарогі на Нясвіж. Пахаваны 35 мірных грамадзян, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2124. *Касцёл.*




2124. *Касцёл. План.*



2125. *Помнік землякам.*

**в. Салтанаўшчына, Лявонавіцкі сельсавет**

**2124. КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы.

Выцягнуты прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам на галоўным фасадзе. Сцены (акрамя алтарнай) прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі, паміж якімі — шырокія лапаткі. На галоўным фасадзе, над уваходам 2 невялікія паўцыркульныя нішы і паўцыркульнае акно паміж імі. Франтон завершаны квадратнай у сячэнні вежачкай на барабане. Унутраная прастора падзелена тонкімі драўлянымі калонамі на 3 нефы з бэлечным перакрыццем. Над уваходам — хоры на драўляных калонках. Алтар мураваны. Побач з касцёлам знаходзіцца двух'ярусная званіца. Першы ярус мураваны, другі — драўляны, з прамавугольнымі праёмамі.

Касцёл — помнік архітэктуры з выкарыстаннем форм позняга класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**2125. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — абеліск, на вяршыні і 2 гранях якога паплечныя бюсты воінаў. Справа ад абеліска яшчэ адзін паплечны бюст воіна і пліта з імёнамі загінуўшых, злева — стылізаваная выява крылаў самалёта і пліта са словамі Юліуса Фучыка: «Людзі, я любіў Вас! Будзьце пільнымі». Да помніка вядзе шырокая лесвіца.

**в. Саская Ліпка, Карцэвіцкі сельсавет**

**2126. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне



2126. *Помнік землякам.*

памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік: на рознавысокіх прамавугольных пастаментах — паплечныя бюсты дзяўчыны і салдата ў касцы. На адным з пастаментаў — імёны загінуўшых.

**в. Слаўкава, Нясвіжскі сельсавет**

**2127. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,7 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Іванава Гара, у ельніку. Захавалася каля 20 магіл з каменнымі абкладкамі і вертыкальна пастаўленымі камянямі. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Смалічы, Лявонавіцкі сельсавет**

**2128. РАДЗІМА НЕЗАБЫТОЎСКАГА** Аляксандра Хрыстафоравіча (гіст.). Беларускі і польскі пісьменнік, філосаф, гісторык А. Х. Незабытоўскі нарадзіўся 2.10.1819 г. у сям'і памешчыка. У 1827—35 гг. вучыўся ў прыватных пансіёнах у Варшаве. У 1835—38 гг. слухаў курс матэматычнага факультэта Дэрпцкага універсітэта. З студзеня 1839 г. служыў у канцылярыі Ігуменскага павятовага маршалка, атрымаў чын калежскага рэгістратара, пасля — губернскага сакратара. У верасні 1842 г. пакінуў службу і вярнуўся ў Смалічы, дзе пісаў успаміны, драмы, артыкулы. У жніўні 1844 г. выехаў за мяжу, наведаў Аўстрыю, Італію, Іспанію, Партугалію, Англію, Францыю, Грэцыю, Егіпет. У час падарожжа вывучаў італьянскую, іспанскую, партугальскую, англійскую і грэчаскую мовы (французскую і нямецкую ведаў дасканала). Цікавіўся гістарычнымі помнікамі, наведваў музеі, адначасова наладжваў сувязі з замежнымі выдаўцамі, каб надрукаваць свае рукапісы. Выдаў ананімна ў Вільні драмы «Розамунда» і «Барбара» (1844 г.), у Парыжы «Ядвіга» (1845 г.) і «Кацярына Вялікая» (1846 г.), аб'яднаныя ў цыкл «Чатыры драмы». У 1845 г. у Парыжы выйшлі таксама ананімна на польскай мове кнігі «Міцкевіч. Славянская літаратура», «Мае запіскі», на французскай — раман «Мары пра каханне, славу і свабоду». Выступаў у сваіх творах як перакананы дэмакрат і заўзяты вораг дэспатызму, царскай манархіі, вальнадумец і ваяўнічы атэіст.

У ліпені 1847 г. на Радзівілаўскай таможні былі канфіскаваны адпраўленыя з кантрабандыстамі яго і чужыя нелегальныя рукапісныя і друкаваныя творы, за што пры вяртанні дамоў 12.7.1847 г. А. Незабытоўскі быў арыштаваны і зняволены ў пінскую, потым у віленскую турмы.

Віленская следчая камісія сабрала па справе А. Незабытоўскага шмат матэрыялу. Яго абвінавачвалі ў няпавісці да цара і самадзяржаўя, у тым, што ён заклікаў народ ўзняцца па барацьбу супраць сацыяльнага і нацыяльнага прыгнёту, адмаўляў існаванне бога, патрабаваў скасаваць прыгон і інш. Ваенны суд прыгаварыў А. Незабытоўскага да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 15 гадоў катаржнай працы ў рудніках Сібіры. Галоўнакамандуючы дзеючай арміі генерал-фельдмаршал граф Паскевіч зацвердзіў прысуд з папраўкай: павялічыць тэрмін катаргі да 20 гадоў. 21.3.1849 г. А. Незабытоўскі памёр.

*Літ.:* Александровіч С. Х. Вольнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі.— Мн., 1975. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Сноў, цэнтр сельсавета**

**2129. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На Цэнтральнай плошчы.

У 15 магілах пахаваны 110 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 152-й стралковай дывізіі 128-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту.



2129. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

У 1960 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура салдата з прыспушчаным сцягам.

**2130. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ, МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі. Пахавана каля 500 салдат і афіцэраў рускай арміі, што загінулі ў баях супраць войск кайзераўскай Германіі ці атручаны газамі ў 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг. Сярод пахаваных — салдаты і афіцэры 44, 60-га Сібірскага, 57, 321-га Окскага і іншых палкоў 2-й арміі Заходняга фронту, часці якой трымалі абарону ў раёне Нясвіжа, Снова, Міра.

На могілках пахаваны таксама чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1918—19 гг. у барацьбе супраць германскіх і польскіх акупантаў.

У 1923 г. на магілах устаноўлены пліты.



2131. *Забудова вуліцы Леніна.*

**2131. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (архіт.). За 20 км на захад ад Нясвіжа, 132 км ад Мінска, 8 км ад чыгуначнай станцыі Пагарэльцы на лініі Мінск — Брэст, на аўтамабільнай дарозе Нясвіж — Баранавічы. З 1960 г. тут вядзецца эксперыментальнае будаўніцтва жылых дамоў і культурна-бытавых устаноў.

Забудоўваецца паводле генплана 1969 г., распрацаванага Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам па будаўніцтву ў вёсцы (скарэкціраваны ў 1978 г.). Аснову архітэктурна-планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы — Леніна і Нясвіжская (працяг дарогі Нясвіж — Сноў). На іх перакрыжаванні ўтворана невялікая плошча, дзе размешчана аўтастанцыя. На вул. Леніна сфарміраваны грамадска-культурны цэнтр — яшчэ адна плошча з пяціпавярховым Домам культуры, трохпавярховым будынкам выканкома сельскага Савета і праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Тут знаходзяцца таксама двухпавярховы будынак міжшкольнага навучальна-вытворчага камбіната, Дом быту, універмаг. Адрэзак вуліцы Леніна, які размешчаны паміж дзвюма плошчамі, забудаваны паводле індывідуальных праектаў пяціпавярховымі (20-кватэрныя), чатырохпавярховымі (16-кватэрныя) і двухпавярховымі (12- і 8-кватэрныя з кватэрамі ў 2 узроўнях) мураванымі жылымі дамамі з унутранымі азяленёнымі дворыкамі. У афарбоўцы дамоў выкарыстаны кантрастныя чырвона-тэракотавы, белы і сіні колеры. На вул. Нясвіжскай па індывідуальным праекце створаны комплекс гандлёва-бытавых устаноў: каапераваны будынак кніжнага магазіна, аптэка, гасцініца з інтэрнатам, сталовая з магазінам кулінарыі. Вул. Школьная, вырашаная ў выглядзе бульвара, звязвае грамадскі цэнтр з зонай адпачынку. У канцы яе знаходзіцца будынак сярэдняй школы. Вул. Паркавая забудавана блакіраванымі дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях, тут размешчаны дзіцячыя яслі-сад. Індывідуальная жылая забудова ў асноўным сядзібнага тыпу, у паўночна-заходняй, заходняй і паўднёва-ўсходняй частках вёскі. Прадугледжваецца развіццё вёскі на ўсход, пашырэнне грамадскага цэнтра.

Працуюць крухмальны завод, хлебапякарня, агародніна-цяплічны камбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, бальніца, амбулаторыя, бібліятэка. Захаваліся помнікі архітэктуры 18 і 19 стагоддзяў — касцёл і палацава-паркавы ансамбль. Зона адпачынку — парк з вадзёмам, закрытым плавальным басейнам. Забудова і добраўпарадкаванасць Снова адзначаны залатым медалём ВДНГ СССР (1976 г.).



2133. *Палац.*




2133. *Палац. План.*

*Літ.:* Соколовский В. Э., Алимов Р. Н. Архитектура нового белорусского села.— Мн., 1979. *Т. І. Чарняўская.*

**2132. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі, па вул. Нясвіжскай. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы.

Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з усходу далучана паўцыркульная на ўсю вышыню будынка апсіда з 2 сакрысціямі. Галоўны фасад мае трохчасткавую будову па вертыкалі: з бакоў выступаюць 2 прамавугольныя ў плане аб'ёмы — асновы чацверыковых вежаў (завяршэнні вежаў не захаваліся), цэнтр фасада з галоўным уваходам і лучковым акном над ім завершаны шчытом крывалінейнага абрысу з невысокай галоўкай. На бакавых частках фасада лучковыя аконныя праёмы і нішы (скульптура ў іх не захавалася). Цэнтральная частка фасада і грані вежаў фланкіраваны пілястрамі, крапаваны шырокім антаблементам. Бакавыя фасады касцёла гладкія, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны, скляпенне цыліндрычнае на падпружных арках, у апсідзе перакрыцце конхавае. Сцены багата дэкарыраваны пілястрамі, якія завершаны крапаваным карнізам. У алтары — пілястры з карынфскімі капітэлямі. Насценная размалёўка не захавалася.

Касцёл — помнік архітэктуры барока. *Т. І. Чарняўская.*



2132. *Касцёл. Галоўны фасад.*

**2133. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на раўнінным беразе р. Споўка. Пабудаваны ў 1827 г. (архіт. Б. Тычэцкі) з цэглы. Цяпер прыстасаваны пад медыцынскую ўстанову.

Буйнамаштабны манументальны ансамбль арганізаваны па прынцыпу сіметрычна-восевай планіроўкі. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца палац. Сваімі франтальнымі фасадамі ён шырока раскрываецца ў невялікі парк пейзажнага тыпу з сістэмай сажалак і каналаў.

Палац вырашаны як двухпавярховы цэнтральны аб'ём з бакавымі рызалітамі і аднапавярховымі бакавымі крыламі з тарцовымі павільёнамі. У цэнтры выцягнутага (140 м) галоўнага фасада — чатырохкалонны іанічны порцік, якім вылучаны галоўны ўваход. З боку тыльнага фасада размешчаны аналагічны порцік менша-

га маштабу і тэраса. Бакавыя рызаліты цэнтральнага корпуса вырашаны ў выглядзе «італьянскага акна» (арачны праём, падзелены карнізам і вузкімі прасценкамі). Бакавыя крылы дэкарыраваны каланадай іанічнага ордэра, калоны якой рытмічна размешчаны ў прасценках паміж прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У павільёнах бакавых крылаў выкарыстаны прамавугольныя нішы, сандрыкі для абрамлення прамавугольных аконных праёмаў. У архітэктурна-дэкаратыўным афармленні будынка выкарыстаны ордэрныя элементы: капітэлі, акантавы фрыз, барэльефныя плакеткі, у каларыстычнай апрацоўцы — вохрысты фон і белыя элементы дэкору.

Унутры больш за 100 памяшканняў. У цэнтры на першым паверсе размешчаны вялікія вестыбюлі, зала, анфілада гасцінах і кабінетаў. Парадная зала (плошча 100 м²) прамавугольнай формы ў плане, аздоблена нішамі, скульптурай, каланадай, кафлянымі печамі. Другі паверх, бакавыя крылы і фланкіруючыя рызаліты адводзіліся пад жылыя і службовыя памяшканні. Першапачатковая анфіладная планіроўка памяшканняў і аздабленне інтэр'ераў не зберагліся.

Ансамбль — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; его ж. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.
*А. М. Кулагін.*

**в. Студзёнкі, Гарадзейскі сельсавет**

**2134. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 ваеннапалонных, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хадатавічы, Казлоўскі сельсавет**

**2135. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Жылічы, справа ад яе. 2 насыпы (адзін з іх знаходзіцца каля лесу). Вышыня першага 1,2 м, дыяметр 3 м, другога адпаведна 0,7 і 2 м. Раней тут было 7 насыпаў. Адкрыў у 1956 г. Л. В. Аляксееў, абследавала ў 1977 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Хвоева, Сноўскі сельсавет**

**2136. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР БРАНЯПОЕЗДА** (гіст.). На будынку пункта прыпынку чыгуначнага раз'езда Хвоева. Устаноўлена ў 1946 г.

27.10(9.11).1917 г. меншавікі і эсэры стварылі ў Мінску контррэвалюцыйны «камітэт ратавання рэвалюцыі», які, апіраючыся на контррэвалюцыйныя часці, ультыматыўна патрабаваў ад Мінскага Савета перадаць яму ўсю ўладу ў горадзе і на Заходнім фронце. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту паслаў сваіх упаўнаважаных у рэвалюцыйныя часці Заходняга фронту, у т. л. у Нясвіж, за дапамогай. Бальшавіцкая фракцыя армейскага камітэта 2-й арміі вырашыла накіраваць у Мінск з раз'езда Хвоева бліндзіраваны поезд, каманда якога была ўкамплектавана з маракоў Балтыйскага флоту. Бронепаравоз меў моцную браню, развіваў высокую хуткасць, вялікую манеўранасць. Унутры кожнай бронепляцоўкі свабодна перамяшчаліся дзве 38-міліметровыя гарматы, у лабавой частцы першай і тыльнай частцы другой бронепляцовак таксама стаялі гарматы, на ўсіх бронепляцоўках было ўстаноўлена па 10 (з запаснымі) кулямётаў. Гэта была сапраўдная крэпасць на колах.

Член ВРК 2-й арміі бальшавік В. А. Пралыгін, які выконваў рашэнне бальшавіцкай фракцыі армейскага корпуса, вечарам 29.10(11.11).1917 г. прыбыў на раз'езд, арганізаваў мітынг і далажыў камандзе поезда аб патрабаванні ВРК. Былі раззброены варожа настроеныя афіцэры. В. А. Пралыгін прыняў на сябе камандаванне і раніцай 30.10(12.11).1917 г. павёў браняпоезд у Мінск. Чыгуначная адміністрацыя на ўсіх станцыях затрымлівала выдачу пуцёвак на шлях следавання. На перагон Мінск — Фаніпаль «камітэт ратавання рэвалюцыі» выслаў дапаможны поезд, які павінен быў разабраць рэйкі на шляху следавання браняпоезда. Але рабочыя-чыгуначнікі даведаліся аб гэтым і захапілі дапаможны поезд. У ноч на 2(14) лістапада браняпоезд прыбыў у Мінск. Прыбыццё яго і чырвонагвардзейскіх часцей змяніла суадносіны сіл на карысць бальшавікоў.

*Літ.:* В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Чанавічы, Ланскі сельсавет**

**2137. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на ўзвышаным месцы, памеры 80×40 м. Каля 30 курганоў, з іх 8—10 насыпаў вышынёй 0,8—1 м, дыяметрам 6—8 м, астатнія вышынёй 0,3—0,5 м, дыяметрам 10—12 м. Адзін курган у цэнтры пляцоўкі поўнасцю знішчаны траншэяй, другі мае яму, трэці размешчаны на краі пляцоўкі, таксама разбураны траншэяй. Выявіла і абследавала ў 1985 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.
*В. М. Ляўко.*

**2138. МАГІЛА ЖУКОЎ** Пятра і Маланні (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны муж і жонка П. і М. Жукі, якіх у 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юшавічы, цэнтр сельсавета**

**2139. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. У Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе загінулі 27 землякоў, 13 вяскоўцаў у 1941 г. загублены нямецка-фашысцкімі акупантамі. На ўшанаванне памяці землякоў у 1969 г. пастаўлены абеліск.




# ПУХАВІЦКІ РАЁН

Матарова
Голацк
Пярэжыр
Дукора
Зазерка
Свіслач
Ананічы
Энергія
Сітнікі
Наваполле
Вузляны
Рудзенск
Турын
Міжрэчча
Варонічы
Скобраўка
Азярычына
Дрычын
Цітва
Чырвоны Кастрычнік
Праўдзінскі
Бор
Навасёлкі
Пухавічы
МАР'ІНА ГОРКА
Блонь
Зацітава Слабада
Сяргеевічы
Пцічанская
Блужа
Гарэлец
Дубраўка
Шацк
Сінча
Арэшкавічы
Мацеевічы
Талька
Вяркалы
Омельна
Вецярэвічы 2-я
Парэчча
Суцін
Селецк

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## XXV. МАР'ІНА ГОРКА

Горад, цэнтр Пухавіцкага раёна, на р. Цітаўка (прыток Свіслачы). За 63 км на паўднёвы ўсход ад Мінска. Чыгуначная станцыя Пухавічы на лініі Мінск — Асіповічы. Аўтамабільнымі дарогамі звязана з Мінскам, Бабруйскам, Чэрвенем, Уздой. Размешчана на раўніне, якая пераходзіць ва ўзвышша.

Назва паходзіць ад горкі, на якой, паводле легенды, стаяў язычніцкі храм, дзе ў так званы «Мар'ін дзень» адбываліся святкаванні. Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. Належала Радзівілам, Бужынскім, Ратынскім, Крупскім, пасля 1863 г. міністру ўнутраных спраў Расіі Л. С. Макаву. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, вёска Ігуменскага павета Мінскай губерні. Жыхары яе ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 гг. Росту і развіццю Мар'інай Горкі садзейнічала пабудова ў 1873 г. Лібава-Роменскай чыгункі. У 1876 г. заснавана сельскагаспадарчая школа (у 1921 г. пераўтворана ў сельгастэхнікум). Паводле перапісу 1897 г. 2 тыс. жыхароў, 2 царквы, паштовая станцыя. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. акупіравана германскімі войскамі, у жніўні 1919 г.— ліпені 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. З 17.7.1924 г. цэнтр Пухавіцкага р-на, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак, 6,5 тыс. жыхароў у 1939 г.



**XXV.** *Будынак райкома КПБ.*



**XXV.** *Забудова вуліцы Савецкай.*



**XXV.** *Забудова вуліцы Акцябрскай.*



**2141.** *Помнік на магіле М. Ф. Ермакова.*

У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 3145 жыхароў. Дзейнічалі камсамольскае падполле (ліпень 1941 г.— студзень 1944 г.), падпольныя райкомы КП(б)Б (22.8.1942 г.— 2.7. 1944 г.) і ЛКСМБ (1.10.1942 г.— 2.7. 1944 г.). З 22.7.1955 г. горад; 9,3 тыс. жыхароў у 1959 г., 11,3 тыс. у 1970 г.

Генеральныя планы развіцця Мар'інай Горкі распрацаваны ў 1967 г. у інстытуце «Белдзяржпраект» і ў 1976 г. у Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва. Горад ракой і чыгункай падзелены на 3 плаціровачныя раёны: Паўночны, Цэнтральны і Заліпейны. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — Цэнтральная пл.— знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай, дзе размешчаны будынкі райвыканкома, райкома КПБ, Дома культуры, раённага аддзялення Дзяржбанка СССР. На вул. Акцябрскай — універмаг, гасцініца, кінатэатр. Забудова цэнтра 2—5-павярховая. Прамысловая зона і жылы раён з індывідуальнай 1-павярховай забудовай у Заліпейным р-не.

Працуюць: ліцейна-механічны завод, ільнозавод, маслазавод, вінзавод, хлебапякарня, элеватар, фабрыка загатовак Мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень», сельскі будаўнічы камбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас, аграметэастанцыя.

У горадзе саўгас-тэхнікум, 4 сярэднія, вячэрняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка, санаторый «Пухавічы». Выдаецца газета «Сцяг працы». Помнікі: У. І. Леніну; воінам-вызваліцелям; савецкім воінам, партызанам і падпольшчыкам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; сакратару Мінскага падпольнага райкома ЛКСМБ Л. Г. Гайдучонак; на магіле Героя Савецкага Саюза В. Ф. Токарава і інш. Захаваўся помнік архітэктуры 19 ст.— сядзібны дом.

Зона адпачынку — гарадскі парк і ўзбярэжжа р. Цітаўка.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979.

*Г. А. Каханоўскі, А. А. Міцянін.*

**2140. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 83 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2141. МАГІЛА ЕРМАКОВА** Міхаіла Філадэльфавіча (гіст.). На вул. Ак-



**2142.** *Помнік на магіле В. Ф. Токарава.*



2143. *Помнік воінам-вызваліцелям.*

цябрскай, у скверы. Намеснік камандзіра эскадрыллі 162-га авіяцыйнага знішчальнага палка старшы лейтэнант М. Ф. Ермакоў загінуў у паветраным баі 7.7.1944 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены стэла і сімвалічны прапелер самалёта.

**2142. МАГІЛА ТОКАРАВА** Васіля Фёдаравіча (гіст.). На вул. Акцябрскай, у скверы.

Герой Савецкага Саюза В. Ф. Токараў нарадзіўся 19.8.1913 г. у г. п. Дняпроўскае Днепрапятроўскай вобл. у сям'і рабочых. Член ВЛКСМ. На фронце з чэрвеня 1942 г. Вызначыўся пры ліквідацыі мінскага «катла». Наводчык гарматы 220-га знішчальнапроцітанкавага артылерыйскага палка гвардыі малодшы сяржант В. Ф. Токараў 4. 7. 1944 г. прымаў удзел у адбіцці 6 контратак праціўніка, які прарваўся з акружэння каля в. Узляны



2145. *Помнік Л. Г. Гайдучонак.*

Рудзенскага р-на. Знішчыў каля 150 гітлераўцаў, замяніў у баі камандзіра гарматы. Паранены, не пакінуў поля бою. Памёр 4.7.1944 г. ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г. Імем В. Ф. Токарава названа вуліца ў г. п. Каз Кемераўскай вобл.

У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.

**2143. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст). Каля будынка чыгуначнага вакзала.

У чэрвені 1944 г. часці і злучэнні 65-й арміі 1-га Беларускага фронту наступалі ў напрамку Мар'інай Горкі. 2.7.1944 г. танкісты 15-й гвардзейскай танкавай брыгады (камандзір гвардыі палкоўнік К. Г. Кожанаў) 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса падышлі да р. Цітаўка. У гэты ж час перадавы атрад мотастралковага батальёна пад камандаваннем гвардыі маёра І. Р. Кабякова ўварваўся ў Мар'іну Горку, захапіў пераправу цераз р. Цітаўка, што дало магчымасць танкістам пераправіцца цераз раку. Увечары гарадскі пасёлак быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1973 г. у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — самаходная артылерыйская ўстаноўка САУ-100 і дошкі з імёнамі загінуўшых.

*Г. Ф. Раманаў.*

**2144. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Каля скрыжавання дарог Мар'іна Горка — Пухавічы.

На ўшанаванне памяці воінаў 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса (камандзір генерал-маёр М. Ф. Паноў), якія ў ліпені 1944 г. удзельнічалі ў вызваленні Мар'інай Горкі і Пухавіцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — гармата-гаўбіца.

**2145. ПОМНІК ГАЙДУЧОНАК** Любові Георгіеўны (гіст.). На вул. Акцябрскай, у парку.

Удзельніца камсамольскага падполля Л. Г. Гайдучонак нарадзілася ў 1921 г. у в. Берлеж Пухавіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Скончыла Мінскі дашкольны тэхнікум, вучылася ў Мінскім педінстытуце. З 1940 г. працавала настаўніцай у Рызе. У Вялікую Айчынную вайну па рашэнню ЦК ЛКСМБ накіравана ўпаўнаважанай ЦК ЛКСМБ па г. Мінску (жнівень — снежань 1942 г.). Сакратар Мінскага падпольнага райкома ЛКСМБ, член Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ (1.9.1942 г.— май 1943 г.). Прымала актыўны ўдзел у стварэнні камсамольска-маладзёжнага падполля ў Мінску. У канцы 1942 г. наладзіла сувязь з уцалелымі пасля арыштаў арганізацыямі і групамі, што дзейнічалі ў горадзе, дапамагала наладжваць



2146. *Помнік У. І. Леніну.*

падпольную барацьбу, давала заданні, інструктавала, правярала іх выкананне. 22.5.1943 г., вяртаючыся з чарговага задання, з групай таварышаў трапіла ў варожую засаду. Параненая, прыкрывала іх адыход, адстрэльвалася да апошняга патрона, потым кінула ў гітлераўцаў 2 апошнія гранаты, а сама застрэлілася. Пахавана ў в. Плебанцы Мінскага р-на.

У 1972 г. на ўшанаванне памяці Л. Г. Гайдучонак пастаўлены помнік — стэла з барэльефам.

*Літ.:* Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978.

**2146. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**2147. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). За 150 м ад будынка чыгуначнага вакзала. На ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**2148. РАДЗІМА ВОЛЬНАГА** Анатоля Іўсцінавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1935 г.) А. І. Вольны (сапраўднае Ажгірэй) нарадзіўся 19.11.1902 г. у сям'і служачага. Вучыўся ў Ігуменскай гімназіі. У 1920 г. пайшоў добраахвотнікам ў Чырвоную Армію, прымаў удзел у баях з інтэрвентамі. Пасля дэмабіліза-



**2147.** *Помнік савецкім воінам, партызанам і падпольшчыкам.*

цыі ў 1921 г. працаваў у ЦК ЛКСМБ і вучыўся ў БДУ. З 1923 г. член літаратурнага аб'яднання «Маладняк», з 1928 г.— «Полымя». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1922 г. Выдаў зборнікі вершаў «Камсамольская нота» (1924 г., разам з А. Александровічам), «Чарнакудрая радасць» (1925 г.), «Табе» (1927 г.). У іх — услаўленне рэвалюцыйных здзяйсненняў, любоў да роднай Бацькаўшчыны, гордасць за пакаленне стваральнікаў новай савецкай явы. Грамадзянскай вайне і барацьбе супраць польскіх акупантаў прысвечаны аповесці «Два» (1925 г.), «Антон Савіцкі» (1927 г.). Адзін з аўтараў рамана «Ваўчаняты» (1925 г., разам з А. Александровічам і А. Дударом). Пісаў гумарэскі і фельетоны (пад псеўданімам Алёша, «Зборнік фельетонаў», 1927 г., зборнік «Суседзі», 1932 г.), п'есы, агітжарты, сцэнарыі фільмаў «Хвоі гамоняць» (1929 г., разам з К. Дзяржавіным), «Атэль «Савой» і «У агні народжаная» (1930 г.), «Сонечны паход» (1931 г.), «Новая Радзіма» (1935 г.) і інш.

А. І. Вольны памёр 29.10.1937 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**2149. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Акцябрская, 2. Раней вакол дома быў парк (захавалася адна алея) і альтанка з высаджанымі ў круг ліпамі (каля спуску да р. Цітаўка). Цяпер у будынку дзіцячы санаторый.

Пабудаваны ў 1876 г. з цэглы. Аднапавярховы з высокім цокальным паверхам будынак. Складаецца з трох аб'ёмаў, далучаных адзін да аднаго. У самай шырокай частцы з боку паўночнага фасада парадны ўваход. На паўднёвым (паркавым) фасадзе тэраса, на якую з заходняга тарца вядзе лесвіца. Над вуглавымі часткамі будынка ўзвышаліся на кранштэйнах квадратныя з высокімі шпілямі вежачкі (захаваліся на паўднёвым і паўночным фасадах). У дахах прарэзаны паўцыркульныя вокны. Пластыка фасадаў стрыманая. Пэўны дэкаратыўны эфект дасягаецца каляровым і фактурным вырашэннем сцен асноўнага і цокальнага паверхаў. Сцены асноўнага паверха з чырвонай цэглы, расшыўка швоў і перамычак над праёмамі выкананы ў муроўцы. Фрызавая плоскасць раўнамерна расчлянёна ўстаўкамі, якія імітуюць машыкулі. Цокальны паверх атынкаваны і абліцаваны колатым шэрым мармурам.

Памяшканні цокальнага паверха, размешчаныя пад тэрасай, перакрыты паўцыркульнымі скляпеннямі з распалубкамі. Планіроўка будынка значна зменена ў 1930-я і пачатку 1960-х гадоў.

Сядзібны дом — помнік эклектычнай архітэктуры.

У будынку з 1935 г. да 1941 г. быў Дом творчасці пісьменнікаў Беларусі. У ім працавалі і адпачывалі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, К. Чорны і інш. У 1973 г. на ўшанаванне памяці пісьменнікаў на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *А. А. Міцянін.*



**2149.** *Сядзібны дом. Фрагмент паўднёвага фасада.*




**2149.** *Сядзібны дом. План.*



**2150.** *Помнік землякам.*

**в. Азярычына, Вузлянскі сельсавет**

**2150. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 173 землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1973 г. пастаўлены помнік (скульпт. М. Якавенка; бетон, мармуровая крошка; вышыня скульптуры 2,5 м, стэлы 6 м). Складаецца з 2 частак — скульптуры маці ў жалобе і стэлы з прозвішчамі загінуўшых. Укленчаная жаночая фігура размешчана каля стэлы і павернута да яе. У руках, складзеных накрыж на грудзях, сціплая палявая кветачка. Мяккія складкі хусткі паўтараюць рух фігуры. Адзіны аб'ём пластычнай абагульненай скульптуры падпарадкаваны плаўнаму рытму. Каля помніка пляцоўка, вакол якой разбіты газоны.

*Г. М. Ярмоленка.*

**в. Арэшкавічы, Талькаўскі сельсавет**

**2151. КУРГАН** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Кіпячка. Вышыня 1,8 м, дыяметр 7—8 м. Насып здзірванелы, знаходзіцца на краі поля. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1985 г. Т. С. Бубенька.

**2152. РАДЗІМА ЖЫНОВІЧА** Іосіфа Іосіфавіча (гіст.).

Беларускі савецкі цымбаліст, дырыжор, кампазітар і педагог, народны артыст СССР (1968 г.), прафесар (1963 г.) І. І. Жыновіч (Жыдовіч) на-

радзіўся 1.5.1907 г. у сялянскай сям'і. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1931 г.), Беларускую кансерваторыю (1941 г.). З 1922 г. саліст-цымбаліст Беларускага дзяржаўнага тэатра (тэатр імя Я. Купалы). У 1930—35 гг. кіраўнік, у 1938—41 гг. саліст, канцэртмайстар і педагог, з 1946 г. мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра БССР (з 1974 г. імя І. І. Жыновіча). У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік франтавых канцэртных брыгад. З 1944 г. педагог, у 1946—63 гг. загадчык кафедры народных інструментаў Беларускай кансерваторыі. Першы прафесійны выканаўца на беларускіх цымбалах у савецкі час. Яго ігра вызначалася віртуозным размахам, артыстызмам, беражлівым стаўленнем да аўтарскага тэксту. Канцэртаваў як віртуоз-цымбаліст у ГДР, Фінляндыі, Канадзе. Лаўрэат 1-га Усесаюзнага агляду выканаўцаў на народных інструментах (1939 г.). Прымаў удзел у стварэнні рэпертуару для Дзяржаўнага народнага аркестра БССР («Беларуская мелодыя» для ансамбля цымбалістаў і 2 арфаў, «Сказ-быліна аб зямлі беларускай», канцэртныя апрацоўкі народных танцаў «Лявоніха», «Мікіта», пералажэнні твораў рускай і зарубежнай класікі і савецкай музыкі і інш.). Аўтар п'ес для цымбалаў і фартэпіяна, квартэта цымбалаў («Беларуская сюіта», «Беларускія танцы», «Беларуская працяжная і карагодная» і інш.), а таксама работ пра беларускія цымбалы («Школа для беларускіх цымбалаў», 1948 г., 2-е выданне пад назвай «Школа ігры на цымбалах», 1974 г.; «Дзяржаўны беларускі народны аркестр», 1958 г.; «Аркестр цымбалістаў», 1968 г.). Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г.

І. І. Жыновіч памёр 13.1.1974 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. На доме, дзе жыў І. І. Жыновіч, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Журавлев Д. Композиторы Советской Белоруссии.— Мн., 1966; Насценка З. Іосіф Жыновіч: (Старонкі жыцця).— Мн., 1969.

**в. Балачанка, Пухавіцкі сельсавет**

**2153. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Акопы Кацярыны. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Балачанка, за 2 км ад месца яе ўпадзення ў р. Свіслач, у лесе, ва ўрочышчы Дубы. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 8—10 м. Пляцоўка амаль прамавугольная, памерам 64×35 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. Умацавана 3 валамі і равамі. Унутраны вал з паўночнага боку вышынёй да 1 м, з паўднёвага — 0,5 м, сярэдні адпаведна — 3 і 2 м, вонкавы — 2 і 0,5 м. Глыбіня равоў 0,5—3,5 м. З паўднёвага боку прасочаны ўваход шырынёй 2 м. Пляцоўка, валы і равы пашкоджаны траншэямі і зямлянкамі часоў Вялікай Айчыннай вайны, гарадзішча і яго схілы параслі хмызняком і дрэвамі. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследавала у 1985 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт каля 0,35 м. Знойдзены шлак, ляпная гладкасценная кераміка, рэшткі штрыхаванага посуду.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. С. Бубенька, Л. Д. Побаль.*

**2154. ПОМНІК У ГОНАР ПУХАВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ПОЛЫМЯ»** (гіст.). На 74-м км шашы Мінск — Бабруйск. Каля в. Балачанка ў лесе з 1942 г. да 1944 г. базіраваліся Пухавіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанская брыгада «Полымя».

У 1941 г. камуністы раёна пачалі падпольную барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі. 22.7.1942 г. Мінскі абком КП(б)Б (у Маскве) зацвердзіў партарганізатарам па Пухавіцкаму р-ну В. Я. Шклярыка. Яму даручалася прыступіць да арганізацыі партызанскіх атрадаў і падпольных пярвічных партарганізацый, кіраўніцтва партыйна-палітычнай работай. 22.8.1942 г. В. Я. Шклярык быў зацверджаны сакратаром Пухавіцкага падпольнага райкома КП(б)Б. 21.10.1942 г. створаны райком, зацверджаны міжраённым камітэтам КП(б)Б Мінскай зоны 7.12.1942 г., дзейнічаў да 2.7.1944 г. Сакратары: В. Я. Шклярык (22.8.1942 г.— 6.5.1943 г.), І. С. Сняжко (11.6.1943 г.— 30.1.1944 г.), Д. М. Капуцкі (11.2—2.7.1944 г.). Друкаваны орган — газета «Партизан Белоруссии».

Падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 1.10.1942 г. да 2.7.1944 г. Сакратары: С. А. Пілатовіч (1.10—1.11.1942 г.), П. М. Асадчык (1.10.1942 г.— 2.7.1944 г.), П. С. Сламянец (1.7.1943 г.— 2.7:1944 г.). Падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ арганізоўвалі і ўзначальвалі камуністычнае, камсамольска-маладзёжнае падполле і партызанскі рух, вялі палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, узнімалі яго на барацьбу супраць акупантаў. Базіраваліся ў партызанскай брыгадзе «Полымя».

Партызанская брыгада «Полымя» створана ў чэрвені 1943 г. Дзейнічала на тэрыторыі Пухавіцкага р-на. Камандзір Я. Ф. Філіпскіх, камісар І. П. Шаршнёў. Гл. артыкул № 2237 «Помнік у гонар партызанскай брыгады «Полымя».

У 1969 г. у гонар Пухавіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады «Полымя» пастаўлены помнік — 4 стэлы.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *А. Г. Шчарбатаў.*




**2157.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Белькавічы, Навапольскі сельсавет**

**2155. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на могілках. 10 курганоў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў і даследаваў у канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч, абследаваў у 1930 г. А. Рынейскі. К. П. Тышкевіч раскапаў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 2 насыпах выяўлены шкілеты без рэчаў. У трэцім, апрача шкілета, знойдзены бронзавыя ланцужок і пярсцёнак, рэшткі жалезнага нажа. Абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*Л. Д. Побаль.*

**2156. МАГІЛА ПАРТЫЗАНКІ** (гіст.). На могілках. Пахавана партызанка, загубленая ў 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2159. *Помнік землякам.*

**в. Блонь, цэнтр сельсавета**

**2157. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля скрыжавання дарог Мінск — Бабруйск і Мар'іна Горка — Пухавічы. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2158. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Папова Горка. Пахаваны 1260 мірных жыхароў в. Пухавічы, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22.9.1941 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2159. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 130 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: салдат і жанчына.

**2160. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Мар'іна Горка — Пухавічы, на левым беразе р. Цітаўка. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Уключае сядзібны дом і парк.

Дом размешчаны ў невялікім пейзажным парку, разбітым абапал ракі. Аднапавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам з франтонам і люкарнай. На фоне ашаляваных фасадаў вылучаюцца вуглавыя лоджыі, аформленыя парамі калон з імправізаванымі капітэлямі, вуглавы руст, ліштвы праёмаў. Планіроўка анфіладная з цэнтральным вестыбюлем. У тарцах будынка размешчаны 2 вялікія залы. Цяпер у доме музей баявой і працоўнай славы.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Месца жыцця і дзейнасці Бонч-Асмалоўскага Анатоля Восіпавіча і Вахоўскай Варвары Іванаўны.

У маёнтку Блонь жылі рэвалюцыянеры-народнікі А. В. Бонч-Асмалоўскі (1857 г. — 23.9.1930 г.) і яго жонка В. І. Вахоўская (1855—1929 гг.). У 1879 г. А. В. Бонч-Асмалоўскі за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях быў выключаны з Пецярбургскага універсітэта і сасланы пад нагляд паліцыі ў маёнтак бацькі ў в. Блонь. Неўзабаве бацька памёр, і А. В. Бонч-Асмалоўскі стаў уладальнікам маёнтка, аднак завяшчанне бацькі пазбавіла яго права прадаваць ці закладваць сядзібу. Анатоль Восіпавіч быў членам арганізацыі «Чорны перадзел» і аказваў ёй з прыбыткаў маёнтка фінансавую дапамогу. У 1880 г. да яго прыехала жонка (пасля ссылкі знаходзілася пад наглядам паліцыі). Яны вялі рэвалюцыйную прапаганду сярод вясковага насельніцтва. Мінскі губернатар П. Р. Курлоў дакладваў міністру ўнутраных спраў, што «гняздом рэвалюцыйнай заразы з'яўляецца маёнтак Блонь памешчыка Бонч-Асмалоўскага... Прапаганда Асмалоўскага вядзецца настолькі паспяхова сярод яго служачых і навакольных сялян, што яны з'яўляюцца гатовымі агітатарамі і пасылаюцца ім у іншыя часткі не толькі павета, але і губерні, каб наладжваць аграрныя непарадкі і працiўрадавыя дэманстрацыі. Двое з гэтых агітатараў былі на сялянскім з'ездзе ў Маскве і вядуць актыўную прапаганду, падбухторваючы сялян на разгром панскіх маёнткаў». У маёнтку была падпольная бібліятэка, аснову якой складалі нелегальныя кнігі, што вывез галава сям'і з Швейцарыі. Блонь з'яўлялася месцам перадачы нелегальнай літаратуры з-за мяжы ў Пецярбург. Сюды прыязджалі дзеячы рэвалюцыйнага руху С. П. Кавалік, сёстры Ізмайловічы, І. П. Пуліхаў, Я. К. Судзілоўская, А. І. Успенская (сястра В. Засуліч). У канцы 1880-х гадоў Анатоль Восіпавіч стварыў на «сацыялістычных» пачатках сельскагаспадарчую арцель, для якой перадаў частку зямлі, інвентар і пасенне. Арцель праіснавала пядоўга. У пачатку 1901 г. па абвінавачванню ў стварэнні нелегальнага гуртка самаадукацыі «Свабода і воля» з сынам Іванам і 12 удзельнікамі гуртка арыштаваны, сасланы ў г. Усць-Каменагорск, потым у Уфу. У 1904 г. амніцсіраваны. А. В. Бонч-Асмалоўскі прымаў актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг., друкаваў і распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру, змагаўся на барыкадах Прэсні ў Маскве. У Блоні разам з жонкай і сынамі стварыў філіял Усерасійскага сялянскага саюза — «Мясцовы сялянскі саюз», за гэта ў 1908 г. уся сям'я прыцягнута да судовай адказнасці. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў ва Уладзімірскай губерні, Мінску, Маскве.



2160. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*




2160. *Сядзібны дом. План.*

Радзіма Бонч-Асмалоўскага Глеба Анатолевіча. Савецкі антраполаг і археолаг, доктар гістарычных навук Г. А. Бонч-Асмалоўскі нарадзіўся 22.10.1890 г. Скончыў Мінскае камерцыйнае вучылішча (1909 г.), Петраградскі універсітэт (1923 г.). Прымаў удзел у этнаграфічных экспедыцыях. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у Камітэце па справах музеяў, збіраў этнаграфічны матэрыял па Крыме. У 1922—23 гг. супрацоўнік этнаграфічнага аддзела Рускага музея ў Ленінградзе, у 1924—30 гг. асістэнт кафедры антрапалогіі Ленінградскага універсітэта. У 1923—24 гг. праводзіў археалагічныя раскопкі ў пячоры Кіік-Каба (Крым): знайшоў часткі шкілета выкапнёвага чалавека (неандэртальца) і шкілет дзіцяці, якія з'явіліся першымі знаходкамі ніжняга палеаліту ў нашай краіне. З 1930 г. навуковы супрацоўнік Геалагічнага інстытута АН СССР і Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Арганізатар секцыі выкапнёвага чалавека 2-й Міжнароднай канферэнцыі Асацыяцыі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду Еўропы (1932 г.) і выстаўкі па чацвярцічным перыядзе СССР. У 1926—27 гг. і 1934 г. з К. М.

Палікарповічам займаўся пошукамі палеалітычных паселішчаў па тэрыторыі Гомельскай і Смаленскай абласцей. Галоўная праца — «Палеаліт Крыма» (вып. 1—3, 1940—54 гг.). Даследаваў і апісаў спосабы вырабу і функцыі каменных прылад працы першабытнага чалавека, паказаў пераемнасць культуры і фізічнага тыпу чалавека ранняга і позняга палеаліту. Г. А. Бонч-Асмалоўскі памёр 1.11. 1943 г. у Казані.

*Літ.:* Вахоўская В. Успаміны рэвалюцыянеркі.— Полымя, 1925, № 2; Попов И., А. О. Бонч-Осмоловский.— Каторга и ссылка, 1931, № 4; Клейн Б. Дело Бонч-Осмоловских.— Неман, 1970, № 11; Савіцкая Л. Група Бонч-Асмалоўскага.— Полымя, 1967, № 5; Бунак В. В. Глеб Анатольевич Бонч-Осмоловский.— У кн.: Бонч-Осмоловский Г. А. Палеолит Крыма. М.; Л., 1954, в. 3.

*А. М. Кулагін, А. Г. Шчарбатаў.*

**2161. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1826 г. з драўляных брусоў.

Сіметрычны прамавугольны ў плане з пяціграннай апсідай-выступам будынак па пяціметровай вышыні набывае крыжападобную форму. Кампазіцыя заснавана на чаргаванні рознавысокіх аб'ёмаў: над бабінцам званіца (васьмярык па чацверыку) з высокім шпілем, над сярэдкрыжжам васьмігранны светлавы барабан са шлемападобным купалам. Галоўны і бакавыя фасады з высокай цэнтральнай часткай і фланкіруючымі нізкімі аб'ёмамі. На галоўным фасадзе трохвугольны франтон падтрымліваюць 4 мураваныя калонкі, якія ўтвараюць манументальны ўваходны порцік. Сцены гарызантальна ашаляваны, завершаны карнізам з поясам «сухарыкаў», дэнтыкуламі, разным фрызам геаметрычнага арнаменту, прарэзаны прамавугольнымі і васьміграннымі аконнымі праёмамі, у барабане праёмы паўцыркульныя.

У інтэр'еры аспоўная частка дзеліцца 2 радамі невысокіх цагляных калон на 3 нефы. Бакавыя нефы значна ніжэйшыя за астатнія часткі царквы. Над бабінцам на такіх жа калонах хоры. Столь плоская, падшыўная, у барабане пірамідальная, гранёная.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *А. А. Міцянін.*



2161. *Троіцкая царква.*



2161. *Троіцкая царква. Фрагмент інтэр'ера.*




2161. *Троіцкая царква. План.*

**в. Блужа, цэнтр сельсавета**

**2162. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 45 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса 65-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.



2162. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2163. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 223 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура старога ў жалобе і 4 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**2164. ПОМНІК ЧЭПІКУ** Мікалаю Пятровічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета.

Герой Савецкага Саюза М. П. Чэпік нарадзіўся 16.4.1960 г. у пас. Май (з 1976 г. в. Кавалёва) Пухавіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Блужскай сярэдняй школы працаваў манцёрам Мінскай дыстанцыі пуці Беларускай чыгункі. З мая 1978 г. служыў у Савецкай Арміі. Памочнік камандзіра парашутна-дэсантнага ўзвода старшы сяржант М. П. Чэпік вызначыўся 29.2.1980 г. пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Афганістан. Калі на падраздзяленне савецкіх воінаў знянацку напала вялікая група душманаў, М. П. Чэпік прыкрываў сваіх таварышаў. Цяжка паранены ў абедзве нагі, гранатай падарваў сябе і 30 бандытаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.4.1980 г. Яго імем названы электрапоезд Беларускай чыгункі, Блужская сярэдняя школа, у якой створаны музей героя, піянер-




2164. *Мемарыяльная дошка М. П. Чэпіку.*




2164. *Помнік М. П. Чэпіку.*

скія дружыны і атрады ў Пухавіцкім р-не і Мінску. Шматлікія камсамольска-маладзёжныя калектывы Беларусі залічылі М. П. Чэпіка членам сваіх брыгад і звенняў. Памяці героя-земляка прысвяціў сваю песню кампазітар І. Лучанок. На будынку Блужскай сярэдняй школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1981 г. на ўшанаванне памяці М. П. Чэпіка пастаўлены помнік — бронзавы бюст героя.

*Літ.:* Вароніна І. У імя жыцця і міру.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1985, № 3; Бочаров Г. Н. Подвиг Николая Чепика.— 2 изд.— М., 1986; Николай Чепик.— Мн., 1986.

**в. Блужскі Бор, Талькаўскі сельсавет**

**2165. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**2165а.** Гарадзішча. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач. Пляцоўка памерам 50×20 м, вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 7 м. Умацавана з боку поля 2 дугападобнымі валамі вышынёй каля 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. Пры шурфоўцы знойдзены абпаленыя камяні, рэшткі посуду са штрыхаванай паверхняй, гладкасценная кераміка, блізкая да керамікі мілаградскай, зарубінецкай культур і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2165б.** Курган. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Гарадзішча, справа ад дарогі ў в. Талька. Вышыня 1,5—1,8 м, дыяметр 8 м. Насып здзірванелы, зарос дрэвамі. Выявіў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. *Л. Д. Побаль.*

**в. Бор, Навасёлкаўскі сельсавет**

**2166. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Акопы Кацярыны, Капец. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Падкапцы, сярод асушаных балот. Вышыня над наваколлем з поўначы 4 м, з поўдня 2 м. Пляцоўка памерам 70×100 м выцягнута з поўначы на поўдзень. З паўднёва-ўсходняга, паўднёвага і паўднёва-заходняга бакоў умацавана валам вышынёй 1,3 м і ровам глыбінёй 1,2 м. Паўночна-ўсходні, паўночны і паўночна-заходні бакі пляцоўкі таксама ўмацаваны валам вышынёй 2 м. Паўднёвая частка пляцоўкі ўмацавана яшчэ 2 дадатковымі радамі валоў вышынёй 0,8 м, шырынёй 4 м і равоў глыбінёй 1,4 м. З поўначы і поўдня выяўлены ўваходы на пляцоўку. Культурны пласт 0,3—0,4 м прасочаны на ўсёй пляцоўцы, найбольш інтэнсіўны каля валоў. Выявіла і абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*

**2167. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптура дзяўчыны і стэла.

**в. Валасач, Сяргеевіцкі сельсавет**

**2168. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 104 мірныя жыхары, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў маі 1943 г. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2167. *Помнік землякам.*

**в. Варонічы, Рудзенскі пасялковы Савет**

**2169. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлена стэла.

**в. Варшаўка, Рудзенскі пасялковы Савет**

**2170. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У гады Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі тут больш за 300 ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў. У 1967 г. на месцы загубы пастаўлены абеліск.

**в. Вецярэвічы 1-я, Вецярэвіцкі сельсавет**

**2171. МАГІЛА ВАРАНЯНСКАГА** Ільі Васілевіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. В. Варанянскі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2172. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у

1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вецярэвічы 2-я, цэнтр сельсавета**

**2173. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 279 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Востраў, Рудзенскі пасялковы Савет**

**2174. РАДЗІМА ЛАБАНКА** Уладзіміра Елісеевіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, Герой Савецкага Саюза У. Е. Лабанок нарадзіўся 20.6. 1907 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1931 г.), ВПШ пры ЦК КПСС (1956 г.). З 1931 г. працаваў аграномам-намеснікам наркома земляробства БССР, з 1933 г. аграномам-эканамістам упаўнаважанага Наркамата саўгасаў СССР па БССР. З 1934 г. дырэктар Беліцкага, з 1940 г.— Смалянскага сельскагаспадарчых тэхнікумаў у Віцебскай вобл. З мая 1941 г. першы сакратар Лепельскага райкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі камуністычнага падполля і партызанскага руху. З жніўня 1941 г. да чэрвеня 1944 г. першы сакратар Лепельскага падпольнага райкома КП(б)Б, адначасова з сакавіка 1942 г. камандзір партызанскага атрада № 68, з жніўня 1942 г. камісар Чашніцкай («Дубава»), з ліпеня 1943 г. камандзір Лепельскай імя І. В. Сталіна партызанскіх брыгад. У кастрычніку 1943 г. узначаліў апаратыўную групу ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Полацка-Лепельскай партызанскай зоне, камандуючы партызанскім злучэннем Полацка-Лепельскай зоны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.9.1943 г. З чэрвеня 1944 г. намеснік загадчыка сельскагаспадарчага аддзела ЦК КП(б)Б, з кастрычніка 1944 г. старшыня Полацкага аблвыканкома. З кастрычніка 1946 г. другі, з лістапада 1948 г. першы сакратар Палескага абкома КП(б)Б, са студзеня 1954 г. старшыня Гомельскага аблвыканкома, з верасня 1956 г. першы сакратар Віцебскага абкома КПБ. З красавіка 1962 г. першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, адначасова міністр вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў БССР. З сакавіка 1965 г. першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, з красавіка 1974 г. намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС у 1961—76 гг., член ЦК КПБ з 1949 г., кандыдат у члены Бюро ЦК КПБ з чэрвеня 1962 г., член Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай з снежня 1962 г. да лістапада 1964 г., кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПБ з сакавіка 1965 г., член Прэзідыума ЦК КПБ у сакавіку — чэрвені 1966 г. Член Бюро ЦК КПБ у 1966—76 гг., кандыдат у члены Бюро ЦК КПБ з лютага 1976 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1946 г., намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1968—74 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг., з 1963 г. Аўтар кніг «Партызаны Віцебшчыны ў баях за Радзіму» (1959 г., 3 выданне пад назвай «У баях за Радзіму», 1964 г.), «Партызаны прымаюць бой» (1972 г., 2 выд., 1976 г.).

У. Е. Лабанок памёр 4.11.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названа вуліца ў Мінску, яго імя прысвоена Мар'інагорскаму саўгасу-тэхнікуму.

*Літ.:* Липило П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; Ковалёв П. Партизанский вожак.— У кн.: Люди легенд. М., 1966, в. 2; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973.



**2176.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



**2170.** *Помнік на месцы загубы савецкіх ваеннапалонных, партызан і ахвяр фашызму.*

**в. Вузляны, цэнтр сельсавета**

**2175. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. У. Куйбышава. Пахаваны 81 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**2176. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 375 мірных жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 8.10.1941 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2177. МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

4.7.1944 г. 5-я батарэя 220-га знішчальна-процітанкавага артылерыйскага палка 48-й арміі 1-га Беларускага фронту пад камандаваннем гвардыі капітана А. К. Леанцюка атрымала загад выйсці да скрыжавання дарог у раёне в. Вузляны, заняць абарону і не прапусціць праціўніка, які быў акружаны на ўсход ад Мінска. На працягу 3 гадзін 49 гвардзейцаў батарэі з узводам прыдадзеных танкаў вялі бой супраць намнога большых сіл гітлераўцаў, адбілі 6 варожых атак, знішчылі больш за 600 гітлераўцаў, 2 самаходныя гарматы, 4 мінамёты, 9 аўтамашын і бронетранспарцёраў, 6 кулямётаў. За мужнасць і адвагу ўсе воіны-артылерысты былі ўзнагароджаны ордэнамі. Гвардыі капітану А. К. Леанцюку, гвардыі сяржантам Дз. Л. Чапусаву, А. Р. Чарняку, Я. Г. Курачкіну і гвардыі малодшаму сяр-



2177. *Помнік воінам-артылерыстам.*

жанту В. Ф. Токараву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. В. Ф. Токараў пахаваны ў Мар'інай Горцы (гл. артыкул № 2142 «Магіла Токарава Васіля Фёдаравіча»).

У 1984 г. на ўшанаванне памяці воінаў-артылерыстаў на месцы бою пастаўлены абеліск, стэла з барэльефнымі выявамі і імёнамі герояў і гармата на пастаменце.

**в. Вялень, Дубраўскі сельсавет**

**2178. МАГІЛА АЖГІРЭЯ** Яўгена Віктаравіча (гіст.). На могілках. Партызан Я. В. Ажгірэй загінуў 11.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2179. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Вялікае Поле, Талькаўскі сельсавет**

**2180. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км ад пасёлка, на левым беразе р. Свіслач. Памер 1000×100 м, вышыня над поплавам ракі 6 м. Адкрыў і даследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт цьмяна-шэрай афарбоўкі. Знойдзены грубая гладкасценная і з расчосамі кераміка, у паўночна-заходняй частцы селішча — ганчарная кераміка і кальцыніраваныя косці. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.) і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Вяркалы, Вецярэвіцкі сельсавет**

**2181. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарэлец, цэнтр сельсавета**

**2182. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 55 савецкіх воінаў і 28 партызан атрада «Мсцівец», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Голацк, цэнтр сельсавета**

**2183. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 10 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса 65-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2184. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы.

**в. Грэбень, Навапольскі сельсавет**

**2185. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганы, побач з балотам. Захаваліся 3 курганы вышынёй 2,5 м, дыяметрам 10 м (раней былі 44 насыпы). Адкрыў і даследаваў у канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч, раскапана 3 курганы. У першым 2 пахаванні: адно ў насыпе, другое ў яме глыбінёй каля 2 м, дзе таксама былі рэшткі жалезных рэчаў. Паміж пахаваннямі (на глыбіні 70 см) знойдзены бронзавая шпілька ў драўляным футарале і бронзавы пярсцёнак. У другім кургане на глыбіні 1,4 м пахаванне па абраду трупапалажэння: мужчынскі шкілет без рэчаў. У трэцім насыпе на глыбіні 10 см знойдзены чэрап дзіцяці, глыбей (65 см) — вугалле і рэшткі спаленых касцей, на глыбіні 1 м — шкілет мужчыны. У 1985 г. могільнік абследавала Т. С. Бубенька. Належаў дрыгавічам.



2185. *Курганны могільнік.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*Т. С. Бубенька, Л. Д. Побаль.*

**в. Дайнава, Навасёлкаўскі сельсавет**

**2186. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Цітаўка, насупраць вёскі Крыніца. 5 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 5—10 м (раней было 15 насыпаў). Курганы пашкоджаны ямамі, адзін разбураецца дарогай. Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дрычын, цэнтр сельсавета**

**2187. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 39 ваеннапалонных і 2 партызаны, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. і 1943 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2188. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 46-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2189. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 328 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата з хлопчыкам.

**в. Дудзічы, Навапольскі сельсавет**

**2190. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Кобань, у полі. Вышыня над узроўнем ракі 3—4 м. Пляцоўка авальная, памерам 39×25 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, пашкоджана старымі могілкамі, парасла кустамі. Абкружана моцна апоўзлым ровам. Выявіў у 1963 г. Ю. І. Драгун. Па яго звестках, гарадзішча было абнесена 2 радамі валоў і ровам. Абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт больш за 0,3 м, у

цэнтры пляцоўкі знойдзены млынавы камень. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. С. Бубенька.*

**2191. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2192. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 297 жыхароў Навапольскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік (скульпт. Г. Мурамцаў; сплаў алюмінію з чыгуном, ліццё; вышыня пастамента 1,7 м, скульптуры 4,2 м).

У цэнтры квадратнай пляцоўкі на ўзгорку — скульптура воіна. Кампазіцыя фігуры дынамічная. Воін, які ішоў у атаку, смяротна паранены. Выразна перададзены драматычны момант вялікага напружання ў паядынку чалавека са смерцю: сілуэт падаючай фігуры, левай рукою воін ірве на грудзях гімнасцёрку, з правай паволі выпадае аўтамат. Формы трактаваны вялікімі масамі з энергічнай лепкай аб'ёмаў. Каля скульптуры 10-метровая сцяна з мармуровымі дошкамі, на якіх высечаны прозвішчы загінуўшых землякоў.

*Г. М. Ярмоленка.*

**в. Дукаўка, Чырвонакастрычніцкі сельсавет**

**2193. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны брыгады «Полымя», што загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дукора, цэнтр сельсавета**

**2194. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 67 воінаў 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса 65-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан, што загінуў у 1941 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2195. МАГІЛА УШАКОВА** Івана Фаміча (гіст.). На могілках. Палітрук роты 208-га партызанскага атрада І. Ф. Ушакоў загінуў у баі з карнікамі 16.1.1942 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2196. ПОМНІК ДУКОРСКІМ ПАРТЫЗАНАМ, БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Пушча.

У кастрычніку 1919 г.— красавіку 1920 г. пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага партыйнага камітэта ў Дукорскай, Пярэжырскай, Самахвалавіцкай, Сеніцкай і іншых валасцях Мінскага і Ігуменскага паветаў былі створаны партызанскія групы і атрады (каля 600 чалавек) для барацьбы супраць польскіх акупантаў. Арганізатарамі і кіраўнікамі іх былі А. А. Блажко, С. Р. Камлюк, Г. Ф. Катлянік. А. А. Крывашчокі і інш. Партызаны вялі агітработу сярод сялян, рабілі дыверсіі, парушалі варожыя камунікацыі, планавалі нанесці ў маі 1920 г. адначасовы ўдар у некалькіх месцах. 3.5.1920 г. у вёскі Дукора і Харавічы ўварваўся карны атрад акупантаў, ворагі схапілі многіх партызан. 17.5.1920 г. пасля жорсткіх катаванняў 11 партызан расстраляны ва ўрочышчы Пушча, 30 партызан зняволены ў турмы, дзе 5 з іх загінулі. Пасля вызвалення Беларусі ад польскіх акупантаў астанкі партызан перапахаваны: А. А. Блажко ў в. Харавічы, астатнія ў в. Пярэжыр, дзе ў маі 1923 г. ім пастаўлены помнік (гл. артыкул № 2260 «Магіла дукорскіх партызан»). Імем 16 партызан, што былі расстраляны і загінулі ў турмах, названы калгас у в. Дукора і паўбрыкетны завод на станцыі Седча Пухавіцкага р-на.

У 1925 г. на месцы расстрэлу партызан пастаўлены помнік (абеліск адноўлены ў 1959 г.). Тут пахаваны таксама 39 воінаў 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



**2197.** *Помнік землякам.*

**2197. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 263 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — 3 стэлы: адна з барэльефнай выявай воіна, дзве з імёнамі загінуўшых.

**2198. РАДЗІМА ЧАРВЯКОВА** Аляксандра Рыгоравіча (гіст.). Савецкі дзяржаўны дзеяч А. Р. Чарвякоў нарадзіўся 25.2.1892 г. у сям'і служачых. Член КПСС з 1917 г. У 1915 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, працаваў у Магілёве. У 1915 г. быў прызваны ў армію, накіраваны ў ваеннае вучылішча, якое скончыў у 1916 г. Прымаў удзел у рэвалюцыйных армейскіх гуртках, у беларускіх бежанскіх арганізацыях у Петраградзе. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі. У лютым — маі 1918 г.— камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР. З ліпеня 1918 г. у Чырвонай Арміі — камісар дывізіі, начальнік аддзела Усерасійскага бюро ваенных камісараў, адначасова працаваў у беларускіх секцыях РКП(б). Член Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. 1.1.1919 г. у ліку 5 членаў урада ў Смаленску падпісаў Маніфест аб абвяшчэнні БССР. У 1919 г. камісар асветы БССР, намеснік наркома асветы Літоўска-Беларускай ССР, у палітаддзеле Заходняга фронту. У 1920 г. начальнік аддзела рэўваенсавета Заходняга фронту, старшыня Мінскага губернскага ВРК БССР. Удзельнік мірных перагавораў з Польшчай у Рызе (кастрычнік 1920 г.). З 1920 г. старшыня ЦВК БССР, адначасова ў 1920—24 гг. старшыня СНК БССР, з 1922 г. адзін са старшынь ЦВК СССР. Удзельнічаў у падрыхтоўцы стварэння Саюза ССР, у распрацоўцы пяцігадовых планаў развіцця народнай гаспадаркі СССР і БССР, Канстытуцый СССР і БССР, шмат увагі аддаваў паляпшэнню работы Саветаў, народнай адукацыі, ліквідацыі непісьменнасці. Член ЦБ у 1920—24 гг. і ЦК КП(б)Б з 1924 г., член Бюро ЦК КП(б)Б з 1924 г. Член ЦВК СССР і яго Прэзідыума з 1922 г., член ЦВК БССР у 1919—37 гг. і яго Прэзідыума. Член ЦВК Літоўска-Беларускай ССР у 1919 г. Аўтар прац «Сем гадоў улады

9 Зак. 296

рабочых і сялян» (1924 г.), «За Савецкую Беларусь» (1927 г.), артыкулаў «Год без Леніна ў Беларусі» (1925 г.), «Сучаснае становішча Савецкай Беларусі» (1926 г.).

А. Р. Чарвякоў памёр 16.6.1937 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Яго імем названы вуліца ў Мінску і Свіслацкая сярэдняя школа ў Пухавіцкім р-не.

*Літ.:* Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики.— Мн., 1975; Якутов В. Д., А. Г. Червяков: Страницы биографии.— Мн., 1978; Камінскі М. Усебеларускі староста.— Маладосць, 1967, № 3; Нетылькин А. Жизнь, отданная Отчизне.— Неман, 1968, № 12. *Г. Ф. Раманаў.*

**2199. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Забудавана ў 19 ст. Захаваліся флігель, уязная брама, пейзажны парк з сажалкай і гаспадарчыя пабудовы. Палац (перабудаваны ў 1918 г. пад школу) разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Флігель — двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак пад вальмавым дахам. У дэкоры выкарыстаны руст і архітэктурныя абломы. Унутраная планіроўка анфіладная. Цяпер тут размешчаны школьны музей.

Уязная брама — цэнтрычнае квадратнае ў плане вежападобнае збудаванне, фланкіраванае 2 каравульнымі памяшканнямі і завершанае шпілем. У верхняй частцы быў гадзіннік. У малюнку праёмаў выкарыстана форма стральчатай аркі.



2199. *Сядзіба. Будынак былога флігеля.*




2199. *Сядзіба. Будынак былога флігеля. План.*



2199. *Сядзіба. Куток парку.*



2199. *Сядзіба. Уязная брама.*

Парк пейзажнага тыпу абмежаваны ручаём і папярочнай галоўнай алеяй, у яго паўночна-заходняй частцы сажалка. У стварэнні паркавых курцін выкарыстаны таполя, ліпа, піхта, лістоўніца. Гаспадарчыя і службовыя пабудовы (лядоўня, свіран, калодзеж, бровар, стайні і інш.) пазбаўлены пэўнага стылёвага архітэктурнага дэкору.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму і садова-паркавага мастацтва пейзажнай планіроўкі.

*Літ.:* Гарбацэвіч В. Світанак над Дукорай.— Маладосць, 1977, № 3; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882. *А. М. Кулагін.*

### в. Жораўка, Дукорскі сельсавет

**2200. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Акопы Кацярыны. За 250 м на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, у полі. Пляцоўка авальная, памерам 70×45 м, выцягнута з усходу на захад. Вышыня над летнім меžанным узроўнем вады ў рацэ 3—8 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 1—2 м. У сучасны момант яна разворваецца. Культурны пласт больш за 0,4 м. Вядома з 1924 г., абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Знойдзена кераміка ранняга жалезнага веку і позняга сярэдневечча. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*

### в. Задашчэнне, Шацкі сельсавет

**2201. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 300 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены 3 абеліскі.

### в. Зазер'е, Пярэжырскі сельсавет

**2202. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі Цэнтральнай эксперыментальнай базы «Зазер'е». На ўшанаванне памяці 179 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — бюст Героя Савецкага Саюза Андрэя Піліпавіча Луцэвіча і сцяна з імёнамі загінуўшых і надпісам-прысвячэннем.

А. П. Луцэвіч нарадзіўся 10.8. 1919 г. у сялянскай сям'і. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір гарматы старшы сяржант А. П. Луцэвіч вызначыўся пры фарсіраванні Заходняй Дзвіны ў Віцебскай вобл. 24.6.1944 г. пад варожым абстрэлам з адкрытай пазіцыі прыкрываў фарсіраванне ракі, знішчыў 4 кулямёты і мінамёт. На падручных сродках у ліку першых пераправіўся цераз раку і агнём з гарматы садзейнічаў захопу і расшырэнню плацдарма. Загінуў у баі 17.7.1944 г. Пахаваны каля в. Смалвос Зарасайскага р-на Літоўскай ССР. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Занесены навечна ў спісы батарэі, якой прысвоена яго імя. У г. Прэкуле Клайпедскага р-на Літоўскай ССР імем героя названа вуліца.

### в. Зазерка, Пярэжырскі сельсавет

**2203. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 264 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — 3 стэлы: адна з барэльефнай выявай воіна, дзве з імёнамі загінуўшых.



2202. *Помнік землякам.*

**в. Запярынне, Дубраўскі сельсавет**

**2204. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны 3-й Мінскай брыгады імя С. М. Будзённага, што загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зарэчча, Блонскі сельсавет**

**2205. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Капцы. За 1,5—2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на ўскраіне лесу каля балота. Насып прадаўгаваты, памерам 12×4 м, вышынёй 1,6 м, здзірванелы. Па звестках мясцовых жыхароў, раней уздоўж балота было 7 курганоў. Абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька.

**в. Зацітава Слабада, Пухавіцкі сельсавет**

**2206. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы, і 3 воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2207. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 40 мірных жыхароў былой в. Беразянка, спаленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 6.9.1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2203. *Помнік землякам.*

**2208. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. На ўшанаванне памяці 168 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — 2 стэлы.

**в. Кавалевічы, Сяргеевіцкі сельсавет**

**2209. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАНЫ** (археал.).

**2209а.** Гарадзішча. За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Маяк, або Гарадзішча, за 0,5 км ад левага берага р. Кавалёўка, на гары. Пляцоўка амаль круглая, памерам 40×50 м. З усходу, паўднёвага і паўночнага ўсходу па краі прасочаны вал вышынёй да 2,5 м, шырынёй у аснове 4—5 м. Схілы стромкія, у выглядзе тэрас (шырыня 6—8 м), размешчаных на 10—15 м ніжэй за пляцоўку. Па-за ёй знаходзяцца роў глыбінёй 2—4 м і вал вышынёй 1,5—2 м, шырынёй 4—5 м. Уваход на гарадзішча (шырыня 2—2,5 м) прасочаны з усходняга боку. Пляцоўка парасла хмызняком, моцна пашкоджана ў час вайны, а таксама ямамі. Культурны пласт больш за 0,6 м. Вядома з 1883 г., абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2209б.** Могільнік-1. Мясцовыя назвы Капцы, Даўнія магілы. За 1,3 км на поўнач ад вёскі, на ўскрайку леса, злева ад дарогі, ва ўрочышчы Маяк. 7 насыпаў вышынёй 0,9—2,0 м, дыяметрам 6—10 м. Курганы параслі лесам. Выявіў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2209в.** Могільнік-2. За 0,8 км на поўнач ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі, ва ўрочышчы Маяк, за 0,6 км ад могільніка-1. Два насыпы вышынёй 1 і 1,5 м, дыяметрам 6 і 12 м. Выявіла і абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2209г.** Курган-1. За 0,2 км ад гарадзішча, злева ад лясной дарогі, ва ўрочышчы Маяк. Насып прадаўгаваты, памерам 8×3 м, вышынёй 1,4 м, у цэнтры пашкоджаны ямамі. Выявіла ў 1985 г. Т. С. Бубенька.

**2209д.** Курган-2. За 1 км на поўнач ад вёскі, на ўскрайку леса, пры дарозе ўздоўж поля. Вышыня 1,7 м, дыяметр 10 м. Выявіла ў 1985 г. Т. С. Бубенька.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 4.— Warszawa, 1883. *Т. С. Бубенька.*

**в. Каменка, Суцінскі сельсавет**

**2210. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 10 жыхароў вёскі, спаленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 23.1.1943 г. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Капейнае, Дрычынскі сельсавет**

**2211. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 46-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Капскія, Ананіцкі сельсавет**

**2212. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны 16 партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў 1943 г. і 1944 г. у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2213. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны 494 жыхары, загубленыя ў 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Караваева, Пярэжырскі сельсавет**

**2214. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2215. РАДЗІМА ПАСЛЯДОВІЧА** Макара Трафімавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік М. Т. Паслядовіч нарадзіўся 8.8.1906 г. у сям'і рабочых. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся на падрыхтоўчых курсах у ВНУ. У 1925—31 гг. загадчык аддзела газеты «Беларуская вёска», у 1935—39 гг. адказны сакратар часопіса «Полымя рэвалюцыі». У час Вялікай Айчыннай вайны кіраўнік падпольнай групы ў Мар'інай Горцы і сувязны асобнага партызанскага атрада імя І. В. Сталіна. У 1945—48 гг. спе-

цыяльны карэспандэнт газеты «Звязда».

Друкаваўся з 1927 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Зруйнаваныя межы» і «Людзі вясны» (1930 г.), «Чатырнаццаты нумар» (1934 г.), «Снайпер» (1937 г.), аповесцей «Марсель» (1931 г.), «Хада ў заўтра» (1933 г.), «Магістральны канал» (1947 г.), «Цёплае дыханне» (1947 г.), «Па воўчых сцежках» (1957 г., дакументальная), «З табою побач» (1956—59 гг.), раманаў «Паўстанне» (1940 г.), «Свята над Ліпскам» (кнігі 1—2, 1949—52 гг.), нарысаў «Аляксандра Шаплыка» (1949 г.), «Мяцежнае сэрца» (1959 г.), «Салігорскае дзіва» (1963 г.). Грамадзянская вайна, жыццё вёскі, працоўныя будні савецкіх людзей — характэрныя для творчасці М. Т. Паслядовіча тэмы. Выдаў зборнікі гумарыстычных апавяданняў «Пад дзвюма дойнымі каровамі» (1963 г.), «Двайное дно» (1964 г.), літаратурных пародый і памфлетаў «Наравісты Пегас» (1968 г.), кніжкі для дзяцей. Пісаў п'есы «Гонар» (1934 г.), «Гарачае сэрца» (апублікавана ў 1938 г.), «Шалёная рысь» (1940 г.). На беларускую мову пераклаў апавяданні А. Пушкіна, А. Чэхава, аповесць М. Гогаля «Тарас Бульба» (з А. Бачылам), раманы М. Астроўскага «Народжаныя бурай» і Р. Джаваньолі «Спартак», аповесць П. Бажова «Зялёны конік», нарыс М. Горкага «У. І. Ленін», рускія народныя казкі, апавяданні і аповесці ўкраінскіх, азербайджанскіх, туркменскіх, польскіх, югаслаўскіх, мангольскіх пісьменнікаў.

М. Т. Паслядовіч памёр 20.12.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках. Яго імем названа вуліца ў Мар'інай Горцы.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**в. Клятное, Дубраўскі сельсавет**

**2216. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ і ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі Клятное — Быцень. Пахаваны 23 мірныя жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. і 1943 г., партызан М. І. Жук, які загінуў 27.12.1943 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2217. ПОМНІК У ГОНАР 2-й МІНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У вёсцы ў Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся штаб 2-й Мінскай партызанскай брыгады.

Брыгада створана па рашэнню Мінскага абкома КП(б)Б у верасні 1942 г. на базе асобных атрадаў імя В. І. Чапаева, «Сокал», М. Цярэніка (пазней імя А. В. Суворава), імя М. І. Кутузава. Камандзіры брыгады С. М. Іваноў (верасень 1942 г.— чэрвень 1943 г.), М. Р. Андрэеў (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.); камісары А. М. Міхайлаў (верасень 1942 г.— ліпень 1943 г.), П. П. Ванкевіч (ліпень 1943 г.— чэрвень 1944 г.); начальнікі штаба І. Н. Цішчанка (верасень 1942 г.— лістапад 1943 г.), Ф. А. Ратькевіч (лістапад 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Дзейнічала ў Пухавіцкім, Мінскім, Старадарожскім, Рудзенскім р-нах.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на чыгунках і шашэйных дарогах Мінск — Слуцк, Мінск — Асіповічы, Слуцк — Асіповічы, Узда — Пухавічы. 14.10.1942 г. на дарозе Пухавічы — Омельна знішчылі 9 аўтамашын, больш за 70 гітлераўцаў. Вывелі са строю электрастанцыі ў Седчы і Пухавічах. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Дражня Старадарожскага і Омельна Пухавіцкага р-наў. У кастрычніку 1942 г.— красавіку 1943 г. знішчылі 43 масты. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» — толькі ў 2-й палове 1943 г. падарвалі больш як 1 тыс. рэек. Вялі баі з карнікамі ў студзені — лютым 1943 г., чэрвені 1944 г. Пад аховай партызан знаходзілася больш як 1800 мірных грамадзян, якія ратаваліся ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 28.6.1944 г. партызаны захапілі пераправу цераз р. Пціч і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырвонай Арміі. 29.6.1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (1341 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. у гонар 2-й Мінскай партызанскай брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967.

**в. Лешніца, Пяржырскі сельсавет**

**2218. РАДЗІМА БАЧЫЛЫ** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, заслужаны дзеяч культуры БССР (1967 г.) Алесь (Аляксандр Мікалаевіч) Бачыла нарадзіўся 2.3.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Беларускі педтэхнікум (1934 г.), Мінскі настаўніцкі інстытут (1939 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў настаўнікам у Каралішчавіцкай і Сінілаўскай школах Мінскага р-на (1934—39 гг.), з 1946 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» — загадчык аддзела, адказны сакратар, у 1952—57 гг. намеснік галоўнага рэдактара, з 1957 г. адказны сакратар часопіса «Полымя», у 1972—78 гг. рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкавацца пачаў з 1934 г. Выпусціў кнігі паэзіі «Шляхі» (1947 г.), «Подых вясны» (1950 г.), «Зоры вясення» (1954 г.), «Юнацтва» (1959 г.), «Калючая ружа» (1962 г.), «Асенняя аповесць» (1965 г.), «Дарыце цюльпаны» (1966 г.), «Снежная балада» (1968 г.), «Тры багіні» (1973 г.), «Вершы» (1974 г.), «Белы бярэзнік» (1976 г.). Распрацоўваў патрыятычную тэматыку, звяртаўся да маральна-этычных праблем. Пісаў сатырычныя творы. Многія вершы паэта пакладзены на музыку. Шырока вядома яго песня «Радзіма мая дарагая» (музыка У. Алоўнікава). Аўтар лібрэта опер «Яснае світанне» (музыка А. Туранкова, пастаўлена і выдадзена ў 1958 г.), «Калючая ружа» (1960 г.), «Калі ападае лісце» (1968 г.), «Зорка Венера» (1970 г.), аперэты «Паўлінка» (1973 г., музыка ўсіх Ю. Семянякі).

А. Бачыла памёр 4.1.1983 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названа вуліца ў Мар'інай Горцы.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. Ф. Раманаў.*

**2219. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, уніз па цячэнню р. Свіслач, на яе правым беразе. Плошча каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. Ю. І. Драгун. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ліпнікі, Гарэлецкі сельсавет**

**2220. ПОМНІК У ГОНАР РУДЗЕНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БЕЛАРУСЬ»** (гіст.). У цэнтры вёскі. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў в. Ліпнікі базіраваўся Рудзенскі падпольны райком КП(б)Б і штаб партызанскай брыгады «Беларусь». Гл. артыкул № 2269 «Помнік у гонар Рудзенскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады «Беларусь». У 1966 у гонар партызан і падпольшчыкаў пастаўлена стэла.

**в. Лужыца (не існуе), Ананіцкі сельсавет**

**2221. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лужыца знаходзілася за 7 км на паўночны ўсход ад в. Слабада. У сакавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (8 чалавек, 10 двароў). Не адрадзілася. У 1966 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Лысаўшчына, Голацкі сельсавет**

**2222. РАДЗІМА ГУЧКА** Пятра Іосіфавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. І. Гучок нарадзіўся 18.3.1923 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Мінскі аэраклуб (1940 г.), авіяцыйнае вучылішча ў Батайску (1942 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1943 г. Ваяваў на 1, 2, 4-м Украінскіх франтах. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка старшы лейтэнант П. І. Гучок зрабіў 209 баявых вылетаў, правёў 56 паветраных баёў, асабіста збіў 20 варожых самалётаў і 3 у групавых баях. Загінуў 18.4.1945 г. каля Берліна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Пахаваны ў г. Чанстахова (ПНР).

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Мацеевічы, Суцінскі сельсавет**

**2223. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Таль, на ўскрайку леса, ва ўрочышчы Гарадок. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 4—5 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з усходу на захад, памерам 40×55 м. Па краі ўмацавана валам вышынёю каля 1 м, шырынёй у ніжняй частцы 5—8 м. Акрамя яго, з усходу, поўдня і захаду па пляцоўцы былі 2 рады валоў вышынёй 1,5—2,5 м, шырынёй 5—6 м і равоў глыбінёй да 2 м. З паўднёвага боку прасочаны ўваход на гарадзішча шырынёй 2 м. Пляцоўка пашкоджана ямамі, яе краі, схілы, валы параслі кустамі і рэдкімі дрэвамі. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Т. С. Бубенька.*

**в. Міжрэчча, Пухавіцкі сельсавет**

**2224. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 6 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 350 мірных жыхароў і партызаны брыгад 1-й Мінскай і «Полымя», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2225. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Волма, за 0,1 км ад упадзення яе ў р. Свіслач. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 5—6 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 58×54 м, некалькі выцягнута з усходу на захад. З паўднёвага і паўночна-ўсходняга бакоў умацавана 2 валамі падковападобнай формы. Вышыня вонкавага вала 5—6 м, унутранага 2,5 м, шырыня ў аснове 15 м. Адкрыў і абследаваў у 1967 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1985 г. абследавала Т. С. Бубенька. У аснове вонкавага вала прасочаны рэшткі абарончай сцяны: 7 абпаленых бярвенняў. У культурным пласце знойдзены рэшткі штрыхаванай керамікі. Датуецца 3—5 стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.



2225. *Гарадзішча.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Наваполле, цэнтр сельсавета**

**2226. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны камандзір партызанскага атрада імя В. М. Молатава 2-й Мінскай брыгады Я. І. Лізюкоў (брат Герояў Савецкага Саюза А. І. і П. І. Лізюковых) і 125 партызан, якія загінулі 7.7. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст Я. І. Лізюкова. Імем братоў Лізюковых названа вуліца ў Гомелі.

**в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета**

**2227. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У садзе, каля будынка школы. Пахаваны 63 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2228. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 286 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем і 5 стэл з імёнамі загінуўшых.

**в. Омельна, Дубраўскі сельсавет**

**2229. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 12 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны 3-й Мінскай імя С. М. Будзённага брыгады, што загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2230. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 64 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**2231. ПОМНІК У ГОНАР ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БУРАВЕСНІК»** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля будынка лясніцтва. У в. Омельна ў гады Вялікай Айчыннай вайны размяшчаўся штаб партызанскай брыгады «Буравеснік».

Брыгада створана ў снежні 1943 г. па распараджэнню Беларускага штаба партызанскага руху на базе атрада «Буравеснік». Адначасова створаны атрады імя М. М. Громава і імя М. І. Кутузава. Камандзір М. Г. Мармулёў, камісар І. М. Рабуха, начальнікі штаба П. П. Болдыраў (снежань 1943 г.— май 1944 г.), П. С. Лавецкі (май 1944 г.— ліпень 1944 г.). Дзейнічала ў



2228. *Помнік землякам.*

Пухавіцкім, Халопеніцкім, Рудзенскім і Уздзенскім р-нах.

Партызаны правялі больш за 150 баявых аперацый, знішчылі шмат тэхнікі ворага і больш за 3 тыс. нямецкіх салдат і афіцэраў. Баявыя аперацыі праводзілі на шашы Мар'іна Горка — Шацк, Шацк — Узда, Крупкі — Барысаў, Мінск — Слуцк. 10.6.1943 г. на дарозе Валяр'яны — Шацк разграмілі аўтакалону; 5.11.1943 г. на дарозе Узда — Валяр'яны знішчылі 34 аўтамашыны і шмат гітлераўцаў, сярод іх — 10 вышэйшых чыноў гітлераўскай адміністрацыі. У верасні 1942 г. разграмілі варожы гарнізон ў в. Латыголічы Халопеніцкага р-на, у маі 1944 г.— у в. Загай Пухавіцкага р-на. Вялі баі з карнікамі ў студзені, маі і чэрвені 1944 г. 28.6.1944 г. занялі в. Шацк і ўтрымлівалі яе да падыходу Савецкай Арміі. 3—12.7.1944 г. разам з Чырвонай Арміяй удзельнічалі ў ліквідацыі варожай групоўкі.

3.7.1944 г. брыгада ў складзе 3 атрадаў (537 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру брыгады М. Г. Мармулёву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1960 г. у гонар партызанскай брыгады «Буравеснік» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

**в. Падбярэжжа, Ананіцкі сельсавет**

**2232. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы



2232. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Мінск — Бабруйск. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Падбярэжжа, Пухавіцкі сельсавет**

**2233. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы Мінск — Бабруйск. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паддуб'е, Дрычынскі сельсавет**

**2234. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 2 км на ўсход ад вёскі, у полі. Вышыня над навакольнай мясцовасцю 4—5 м. Пляцоўка авальная, памерам 160×80 м, выцягнута з поўначы на поўдзень, пашкоджана ямамі, зарасла хмызняком. Умацавана ровам глыбінёй да 2 м, шырынёй 2,5—4 м і валам вышынёй 1—1,5 м. Уваходы на гарадзішча шырынёй 2—4,5 м знаходзіліся з паўднёвага і паўночна-ўсходняга бакоў. Выявіў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*Т. С. Бубенька.*

**в. Падкоссе, Чырвонакастрычніцкі сельсавет**

**2235. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 65 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых і землякоў, што аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы, пастаўлены помнік: скульптурная група — жанчына-маці і 2 воіны ў жалобе.

**2236. МАГІЛА ГОРАЦКАГА** Уладзіміра (гіст.). На могілках. Воін-разведчык У. Горацкі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2237. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ПОЛЫМЯ»** (гіст.). На могілках. У 1943—44 г. у наваколлі вёскі базіраваўся штаб партызанскай брыгады «Полымя», якая дзейнічала ў Пухавіцкім р-не.

Брыгада створана ў чэрвені 1943 г. на падставе рашэння міжраённага падпольнага камітэта КП(б)Б Мінскай зоны з атрадаў «Полымя» (арганізаваны ў ліпені 1942 г. у Пухавіцкім р-не на базе груп Я. Ф. Філіпскіх, В. Я. Шклярыка і Д. М. Капуцкага), імя В. І. Чапаева. Пазней створаны атрады «Слава» і «Перамога». Камандзір брыгады Я. Ф. Філіпскіх, камісар І. П. Шаршнёў. Партызаны правялі больш за 140 дыверсій на ўчастках Пухавічы — Талька, Рудзенск — Дрычын. У аперацыі «Рэйкавая вайна» на ўчастках Пухавічы — Талька і Седча — Міхапавічы 3 і 13.8.1943 г. узарвалі больш за 1,5 тыс. рэек і пашкодзілі 1,5 км ліній тэлеграфна-тэлефоннай сувязі. У ліпені 1943 г. двойчы ўзрывалі чыгуначны мост цераз р. Блужа, у кастрычніку 1943 г. узарвалі нафтабазу ў Мар'інай Горцы. Вялі баі па ачышчэнні тэрыторыі Пухавіцкага і сумежных з ім раёнаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, утрыманню партызанскай зоны, прарыву блакады і выхаду з акружэння (сакавік, снежань 1943 г., май 1944 г.). 2.7.1944 г. брыгада (4 атрады, 634 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру брыгады Я. Ф. Філіпскіх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1965 г. у гонар партызанскай брыгады «Полымя» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Мальцев С. Когда опасность рядом.— 2 изд.— Мн., 1977; Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Даніленвіч В. Полымя: Нарыс.— Беларусь, 1945, № 11—12.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Парэчча, Селецкі сельсавет**

**2238. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны брыгады імя М. І. Калініна, што загінулі ў 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2239. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызаны брыгады імя М. І. Калініна. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2240. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2241. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны брыгады імя М. І. Калініна, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2242. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2243. МАГІЛА ЛУК'ЯНЧЫК** Алены Кузьмінічны (гіст.). На могілках. Партызанка А. К. Лук'янчык загінула ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2244. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2245. МАГІЛА ШАШКА** Івана (гіст.). На могілках. Партызан І. Шашок загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2246. МАГІЛА ШАШКА** Мікалая Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. П. Шашок загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2247. МАГІЛА ШАШКА** Пятра Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан П. А. Шашок загінуў 28.8.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2248. МАГІЛА ШАШКА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан У. І. Шашок загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2249. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. У наваколлі в. Парэчча ў гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала партызанская брыгада імя М. І. Калініна.

У сакавіку 1943 г. на базе асабовага складу, вылучанага атрадам імя К. Я. Варашылава партызанскай брыгады 2-й Мінскай, створаны атрад імя М. І. Калініна (дзейнічаў асобна, камандзір Л. І. Сарока). У снежні 1943 г. паводле рашэння Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б на яго базе ство-

рана брыгада імя М. І. Калініна. Мела атрады: імя С. М. Кірава, імя Р. К. Арджанікідзе, імя В. М. Молатава. Дзейнічала ў Мінскім, Рудзенскім і Пухавіцкім р-нах. Камандзір брыгады Л. І. Сарока, камісар П. І. Сачок (снежань 1943 г.— сакавік 1944 г.). Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы і шашы Мінск — Асіповічы, Асіповічы — Старыя Дарогі — Слуцк, Слуцк — Валяр'яны, Мар'іна Горка — Шацк. Распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, падпольныя выданні, вялі разведвальную работу ў Мінску, ратавалі насельніцтва ад загубы і вывазу ў Германію. У сакавіку 1944 г. брыгада расфарміравана: створаны 2 асобныя атрады імя М. І. Калініна (Баранавіцкай і Мінскай абласцей) і 2 асобныя дыверсійна-разведвальныя групы. У 1967 г. у гонар партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лазабееў Р. Я. Лясныя пабрацімы.— Мн., 1972. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Пруцк, Вецярэвіцкі сельсавет**

**2250. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 партызаны 3-й Мінскай імя С. М. Будзённага брыгады, якія загінулі 28.5. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыстань, Сяргеевіцкі сельсавет**

**2251. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны мірныя жыхары (261 чалавек) вёскі, расстраляныя і спаленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў кастрычніку 1942 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пухавічы, цэнтр сельсавета**

**2252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 ваеннапалонных і 90 жыхароў в. Пухавічы, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2253. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 15-й гвардзейскай танкавай брыгады 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2254. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 воіны і 10 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 15-й гвардзейскай танкавай брыгады 1-га гвардзейскага танкавага Данскога корпуса, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2255. МАГІЛА НЯРОНСКАГА** Антона Сільвестравіча **І ЛІНСКАГА** Мікалая Іосіфавіча (гіст.). На могілках. Савецкія воіны-разведчыкі А. С. Няронскі і М. І. Лінскі загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 2.5. 1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2256. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля шашы Мінск — Бабруйск. На ўшанаванне памяці 272 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Пцічанская, Гарэлецкі сельсавет**

**2257. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пярэжыр, цэнтр сельсавета**

**2258. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 95 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2259. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2260. МАГІЛА ДУКОРСКІХ ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Перапахаваны астанкі чырвоных партызан, расстраляных польскімі акупантамі 17.5.1920 г. ва ўрочышчы Пушча каля в. Дукора. У 1923 г. на магіле пастаўлены абеліск, адноўлены ў 1959 г. Гл. артыкул № 2196 «Помнік дукорскім партызанам, брацкая магіла савецкіх воінаў».

**в. Пясчанка, Гарэлецкі сельсавет**

**2261. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны, што загінулі ў 1943—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2256. *Помнік землякам.*

**в. Распуцце, Навапольскі сельсавет**

**2262. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Раўчак, Пухавіцкі сельсавет**

**2263. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны жанчына з дзіцем, забітыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

## XXVI. РУДЗЕНСК

Гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета і саўгаса «Рудзенскі». За 22 км на паўночны захад ад Мар'інай Горкі, за 40 км на паўднёвы ўсход ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Асіповічы. Аўтамабільнай дарогай звязаны з аўтамагістраллю Мінск — Бабруйск.

У 19 ст. вядомы як вёска ў Цітвянскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні. З пабудовай Лібава-Роменскай чыгункі (1873 г.) — станцыя, каля якой вырас пасёлак. У 1888 г. было 14 двароў. У 1-ю сусветную вайну ў жніўні — верасні 1915 г. тут адбыліся хваляванні салдат Заходняга фронту. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1924—31 гг. і ў 1935—38 гг. цэнтр сельсавета ў Смілавіцкім, у 1931—35 гг.— у Пухавіцкім р-нах. У лютым — ліпені 1935 г. і з лютага 1938 г. цэнтр раёна Мінскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з канца чэрвеня 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У Рудзенску і раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень

1941 г.— сакавік 1942 г., кастрычнік 1942 г.— ліпень 1944 г.) і ЛКСМБ (9.11.1942 г.— 4.7.1944 г.), камуністычнае падполле (з ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г.), якое аб'ядноўвала больш за 70 чалавек, 12 груп. Арганізатар і першы кіраўнік — сакратар Рудзенскага райкома КП(б)Б М. П. Пакроўскі, якому 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 10.10.1941 г. карны батальён загубіў у Рудзенску 188 чалавек. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «В бой за Родину», з мая 1943 г.— «Бальшавіцкі сцяг». З 20.1.1960 г. пасёлак у Пухавіцкім р-не.

Генеральны план Рудзенска распрацаваны ў 1973 г. у Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Планіроўка пасёлка прамавугольная з дробнымі кварталамі. Асноўная кампазіцыйная вось — вул. Ленінская. На ёй склаўся адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр. Тут узведзены будынкі пасялковага Савета народных дэпутатаў, Дома культуры, аптэкі, адміністрацыі саўгаса «Рудзенскі», разбіты 2 скверы. На вул. Савецкай склаўся гандлёвы цэнтр (будынкі магазінаў, сталовай). Пераважае аднапавярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Фарміруецца ўсходняя прамысловая зона. Прадугледжваецца развіццё пасёлка на паўднёвы захад і ўсход, рэканструкцыя вул. Калгаснай ў галоўную, пашырэнне зоны спорту і адпачынку, будаўніцтва 2-, 5-павярховых і сядзібнага тыпу дамоў.

Працуюць: завод пластмасавых вырабаў, хлебапякарня, Дом быту, лясніцтва. Ёсць сярэдняя, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на магілах ахвяр фашызму.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*А. І. Валахановіч, В. А. Крайко.*

**2264. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 61 воін, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2265. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Кастрычніцкай. У жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 300 жыхароў пасёлка. У 1955 г. на ўшанаванне іх памяці на магіле пастаўлены абеліск.

**2266. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 мірных жыхароў пасёлка, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2267. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома пасялковага Савета. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**2268. РАДЗІМА ЧАРОТА** Міхася (гіст.).

Беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч М. Чарот (сапраўднае К у д з е л ь к а Міхаіл Сямёнавіч) нарадзіўся 7.11.1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1920 г. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1917 г.). Удзельнік падпольнага руху ў час акупацыі Беларусі войскамі буржуазнай Польшчы. З 1920 г. супрацоўнік, у 1925—29 гг. рэдактар газеты «Савецкая Беларусь». Ініцыятар стварэння і кіраўнік (з 1923 г.) першай у рэспубліцы літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Друкавацца пачаў з 1918 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Завіруха» (1922 г.), «Сонечны паход» (1929 г.), паэм «Босыя на вогнішчы» (1921 г.), «Чырванакрылы вяшчун» (1923 г.), «Ленін», «Беларусь лапцюжная» (абедзве 1924 г.), «Марына» (1925 г.), «Карчма» (1926 г.), зборніка апавяданняў «Веснаход» (1924 г.). У творах адлюстраваны гераічны пафас рэвалюцыйнага часу, жыццё краіны ў яго бурным развіцці. У 1933—36 гг. выдадзены збор твораў М. Чарота ў 3 тамах, у 1958 г.— збор твораў у 2 тамах. Пісаў п'есы. Пастаўлены ў 1921 г. народная драма «На Купалле» (кампазітар А. Туранкоў напісаў на тэкст п'есы оперу «Кветка шчасця»), п'еса «Слуцкая варона» (1920 г.). На аснове аповесці «Свінапас» (1923—24 гг.) разам з Ю. Тарычам напісаў сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль» (1926 г.). М. Чарот памёр 14.12.1938 г.

*Літ.:* Я р о ш М. Р. Міхась Чарот: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1963; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**в. Русаковічы,**
**Рудзенскі пасялковы Савет**

**2269. ПОМНІК У ГОНАР РУДЗЕНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БЕЛАРУСЬ»** (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля шашы Рудзенск — Шацк.

У наваколлі вёскі ў гады Вялікай Айчыннай вайны базіраваўся Рудзенскі падпольны райком КП(б)Б. Створаны ў ліпені 1941 г. Арганізаваў некалькі падпольных партыйных груп, у жніўні 1941 г. партызанскі атрад «Беларусь» (камандзір М. П. Пакроўскі, у снежні 1941 г.— красавіку 1942 г. увахадзіў у партызанскі атрад 208-ы). У сакавіку 1942 г. атрад (у ім знаходзіўся падпольны райком) перадыслацыраваўся ў Клічаўскі р-н. У кастрычніку 1942 г. падпольны райком аднавіў работу, дзейнічаў да ліпеня



2269. *Помнік у гонар Рудзенскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады «Беларусь».*

1944 г. Сакратары: М. П. Пакроўскі (ліпень 1941 г.— 18.6.1943 г.), Ф. В. Глебаў («Фурманаў», кастрычнік 1942 г.— 28.5.1943 г.), І. П. Ціхончык (2.7.1943 г.— ліпень 1944 г.). Райком кіраваў партызанскім і падпольным рухам у раёне, праводзіў патрыятычную работу сярод насельніцтва, за 6 месяцаў 1943 г. надрукаваў 57 тыс. экземпляраў газет, лістовак і вестак з фронту. Друкаваны орган — газета «В бой за Родину» (з мая 1943 г.— «Бальшавіцкі сцяг»). Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Беларусь».

Брыгада «Беларусь» створана ў сакавіку 1943 г. па рашэнню Цэнтральнага штаба партызанскага руху з асобных атрадаў «Беларусь», «Мсціўвец» і атрада імя І. В. Сталіна 2-й Мінскай брыгады. Пазней створаны атрады «За Радзіму», «Бальшавік». У чэрвені 1943 г. з брыгады вылучаны ў самастойны атрад «Мсцівец», у студзені 1944 г.— атрад імя І. В. Сталіна. Дзейнічала на тэрыторыі Рудзенскага і Пухавіцкага р-наў. Камандзіры брыгады М. П. Пакроўскі (сакавік — чэрвень 1943 г.), А. С. Юркаўцоў (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары М. З. Крамко (сакавік — ліпень 1943 г.), І. М. Блажноў (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны ўчынілі 53 дыверсіі на мастах, падарвалі 61 аўтамашыну. Толькі за красавік — май 1943 г. наладзілі 16 дыверсій на чыгунцы, зрабілі 3 засады на шашы, правялі 5 баёў супраць паліцэйскіх і гітлераўцаў, спалілі мост, склад і інш. У аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі больш за 520 рэек, разбурылі больш за 2,7 км чыгуначнага палатна. Вялі баі з карнікамі (верасень 1943 г., люты, май 1944 г.), з адступаючым ворагам. У пачатку ліпеня 1944 г. брыгада ў складзе атрадаў «Беларусь», «За Радзіму», «Баль-

шавік» (1029 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру брыгады М. П. Пакроўскаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1973 г. у памяць аб дзейнасці Рудзенскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады «Беларусь» пастаўлены помнік — асіметрычная кампазіцыя: вертыкальная стэла і гарызантальная пліта.

*Літ.:* Партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 2. Кн. 1, 2.— Мн., 1973; Непокоренная Белоруссия.— М., 1963. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Рыбцы, Пярэжырскі сельсавет**

**2270. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 284 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы.

**в. Светлы Бор, Турынскі сельсавет**

**2271. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г., і 5 воінаў 46-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2272. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Т у р ы н с к і Г а р а д о к. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе Свіслачы, у месцы ўпадзення ў яе р. Волма. Вышыня над забалочанай поймай ракі 5—6 м. Пляцоўка авальная, памерам 100×150 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. Умацаванні адсутнічаюць. У сучасны момант пляцоўка разворваецца. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1985 г. Т. С. Бубенька. Культурны пласт 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*

**в. Селецк, цэнтр сельсавета**

**2273. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 партызан, якія загінулі ў 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2272. *Гарадзішча.*

**2274. МАГІЛА ЗАЛЕСКАГА** Івана Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Партызан І. С. Залескі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2275. ПОМНІК У ГОНАР 3-й МІНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ С. М. БУДЗЁННАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. У 1943—44 гг. у вёсцы базіраваўся штаб 3-й Мінскай партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага.

Брыгада створана ў чэрвені 1943 г. у адпаведнасці з рашэннем падпольнага міжрайкома КП(б)Б на базе атрадаў імя К. Я. Варашылава, імя М. А. Шчорса, вылучаных з 2-й Мінскай партызанскай брыгады, і зноў створанага атрада імя С. Г. Лазо. Пазней створаны атрад імя 25-годдзя ВЛКСМ і ўключаны асобны атрад «Непераможны». Дзейнічала ў Пухавіцкім, Рудзенскім, Мінскім і Старадарожскім р-нах. Камандзір брыгады Р. П. Мыснік, камісар У. Е. Крайко. Партызаны асноўны ўдар наносілі на варожых камунікацыях Мінск — Пухавічы, Мінск — Койданава, Мінск — Слуцк. У «рэйкавай вайне» падарвалі 10,3 км рэек. Дыверсійная група пусціла пад адхон 28 варожых эшалонаў. Народныя мсціўцы знішчылі 27 мастоў, 72 аўтамашыны, 55 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі. 31.6.1943 г. на шашы Мінск—Слуцк спалілі 8 аўтамашын, знішчылі больш за 50 гітлераўцаў. Вялі баі з карнікамі, грамілі варожыя апорныя пункты, паліцэйскія ўчасткі. 25.6. 1944 г. разбілі калону фашыстаў. 2.7. 1944 г. брыгада ў складзе 5 атрадаў (1313 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1967 г. у гонар партызан 3-й Мінскай брыгады імя С. М. Будзённага пастаўлена стэла.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы): Сб. документов.— Мн., 1961. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Сетча, Дрычынскі сельсавет**

**2276. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2277. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН У 1907 г.** (гіст.).

Сяляне в. Сетча, незадаволеныя нізкай заработнай платай за падзённыя работы, 26.4.1907 г. прыбылі ў маёнтак Ануфрава памешчыка Янішэўскага і прымусілі сезонных рабочых спыніць працу. Супраць паўстанцаў быў накіраваны атрад коннай паліцыі з мэтай разагнаць сялян і арыштаваць іх кіраўніка І. Кудзельку. 2 мая 500 сялян узброіліся каламі, дубінамі і камянямі, пабудавалі на вуліцы барыкады, паміж паўстанцамі і паліцыяй адбылася сутычка. Паліцэйскія параnілі 6 чалавек (аднаго з іх смяротна), некаторых арыштавалі.

У 1961 г. у памяць аб выступленні сялян каля будынка школы пастаўлена стэла.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии в 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955.

**в. Сінча, Дубраўскі сельсавет**

**2278. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан, што загінуў у 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Скрыльская Слабада, Навасёлкаўскі сельсавет**

**2279. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 28 жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. і 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2280. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 116 жыхароў в. Скрыль і Слабада, спаленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў маі 1944 г., у 1977 г. пастаўлены помнік — стэла і камень з мемарыяльнай дошкай.

**2281. ЦАРКВА ІААНА ПРАДЦЕЧЫ** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Будынак — квадратны ў плане асноўны аб'ём, да якога прыбудаваны бабінец і прамавугольная апсіда. Бабінец, зроблены на ўсю шырыню храма, ніжэйшы за асноўны аб'ём і накрыты самастойным двухсхільным дахам. Апсіда і асноўны аб'ём пад агульным гонтавым дахам з вальмай над апсідай і застрэшкамі, што ўтварыліся ў месцах стыкоўкі аб'ёмаў. Вільчык даху галоўнага фасада заверша-



2281. *Царква Іаана Прадцечы.*




2281. *Царква Іаана Прадцечы. План.*

ны цыбулепадобнай галоўкай. Сцены прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі акопнымі праёмамі, ашаляваны.

Царква — прыклад народнага драўлянага дойлідства. *А. А. Міцянін.*

**в. Слабада, Ананіцкі сельсавет**

**2282. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 205 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы.

**2283. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Крыжыкі.

У красавіку 1942 г. створаны партызанскі атрад М. М. Джагарава. У жніўні 1942 г. на базе гэтага і іншых атрадаў Мінскім (легальным) абкомам КП(б)Б створана 1-я Мінская партызанская брыгада, якая дзейнічала ў Рудзенскім, Пухавіцкім і Чэрвеньскім р-нах. У лютым 1943 г. атрад М. М. Джагарава атрымаў назву «Камсамол». Камандзіры атрада М. М. Джагараў (красавік — жнівень 1942 г.), П. С. Вараб'ёў (верасень 1942 г.— ліпень 1944 г.), камісары М. Р. Кузняцоў (красавік — верасень 1942 г.), П. А. Марозаў (верасень 1942 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны ў ліпені 1943 г. падарвалі 11 фашысцкіх эшалонаў, 12 паравозаў і 87 вагонаў, знішчылі больш за 500 гітлераўцаў, спалілі 52 варожыя аўтамашыны. За 2 гады ўзарвалі 64 эшалоны, 9 мастоў, знішчылі 148 аўтамашын, 8 складоў, 40 км тэлеграфна-тэлефоннай сувязі, 4 гарнізоны, 3 валасныя ўправы, 4 прадуктовыя базы, 2700 фашыстаў, узялі ў палон 158 гітлераўцаў і 62 паліцэйскіх, захапілі 2 гарматы, мінамёт, станковы кулямёт, 26 ручных кулямётаў, 36 аўтаматаў, 283 вінтоўкі, 45 пісталетаў.

У 1974 г. у памяць аб баявой дзейнасці атрада пастаўлена стэла.

*Літ.:* Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974; Воробьев П. С. Имени комсомола.— 2 изд.— Мн., 1984. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Слабада, Вецярэвіцкі сельсавет**

**2284. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2285. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**2286. МАГІЛА ГУРЫНОВІЧА** Міхаіла Мацвеевіча (гіст.). На могілках. Партызан М. М. Гурыновіч загінуў 22.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2287. МАГІЛА САЛЫЧЫЦА** Міны Апанасавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. А. Салычыц загінуў у 1942 г. пры разгроме паліцэйскага гарнізона ў в. Омельна. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2288. ПОМНІК У ГОНАР МІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА ГАРКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, у лесе.

Мінскі падпольны гарком КП(б)Б (3-га складу) створаны Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б у верасні 1943 г., дзейнічаў да 3.7.1944 г. Сакратары С. К. Ляшчэня, Г. М. Машкоў, І. П. Паромчык, члены С. А. Ваўпшасаў, І. М. Родзін, М. М. Ізюмскі, А. Дз. Саковіч. Друкаваны орган — газета «Минский большевик». Базіраваўся ў спецатрадзе «Мясцовыя», у 3-й Мінскай партызанскай брыгадзе імя С. М. Будзённага, потым меў самастойную базу. Падпольны гарком правёў значную работу па арганізацыі і кіраванню падполлем і партызанскім рухам. З 25.10.1943 г. да студзеня 1944 г. стварыў у Мінску 79 новых падпольных груп, у якія ўваходзіла 326 чалавек. Падпольшчыкі вялі антыфашысцкую прапаганду сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, газеты, літаратуру, праводзілі дыверсіі, зрывалі планы масавай загубы і вывазу людзей у Германію. У час вызвалення горада аказвалі дапамогу Чырвонай Арміі па размініраванню прамысловых прадпрыемстваў, адміністрацыйных будынкаў і камунікацый.

У 1965 г. у памяць аб дзейнасці Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2.— Мн., 1984. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Старынкі, Шацкі сельсавет**

**2289. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 54 воіны, якія загінулі 30.6.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, стэла з надпісам-прысвячэннем і 3 дошкі з імёнамі загінуўшых.



2289. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Суцін, цэнтр сельсавета**

**2290. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім ушанавана таксама памяць землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Сяргеевічы, цэнтр сельсавета**

**2291. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 42 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Талька, цэнтр сельсавета**

**2292. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2293. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка чыгуначнага вакзала. Пахаваны 10 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызан, грамадзя-

нін Чэхаславакіі Вільям Гамула (1924—44 гг.). У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і камень з мемарыяльнай дошкай.

**2294. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2295. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовыя назвы Турэцкія магілы, Французскія магілы. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. 2 курганы вышынёй 1,5 і 2 м, дыяметрам 10 м. Раней тут было 5 курганоў. Выявіў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2296. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На захад ад вёскі, у 59-м квартале Цельскага лясніцтва. Пахаваны 280 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў верасні 1941 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2297. РАДЗІМА ШАЦІЛЫ** Івана Браніслававіча (гіст.).

Беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР (1953 г.) І. Б. Шаціла нарадзіўся 15.12.1910 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1952 г. Скончыў аднагадовыя драматычныя курсы ў Мінску (1932 г.). У 1932—71 гг. працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы. У 1961—67 гг. у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Выканаўца роляў Міколы («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Рыгора, Левановіча, Міколы Вераса («Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), Якіма Сарокі («Паўлінка» Я. Купалы), Янкі Купалы («Шчасце паэта» В. Віткі), Тыбальда («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Хельмера («Нора» Г. Ібсена), Паратава, Прыбыткова («Беспасажніца», «Апошняя ахвяра» А. Астроўскага), Якарава, Мядзведзева («Апошнія», «На дне» М. Горкага), Аляксея («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Давыдава («Узнятая цаліна» паводле М. Шолахава), Рыбакова («Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Сыраварава («У мяцеліцу» Л. Лявонава) і інш. Здымаўся ў кіно. Творчасць акцёра адметная шырокім дыяпазонам, грамадзянскім пафасам.



2295. *Курганны могільнік.*



2298. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*

І. Б. Шаціла памёр 12.2.1977 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Сабалеўскі А. Творчасць, сугучная думам народным.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960.

**в. Турын, цэнтр сельсавета**

**2298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены 2 стэлы з выявай воіна і з імёнамі 171 земляка, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**2299. КУРГАНЫ** (археал.).

**2299а.** Курган-1. За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, у лесе. Вышыня 1,1 м, дыяметр 5 м. Здзірванеў і зарос лесам, у цэнтры кургана вялікая яма. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1985 г. Т. С. Бубенька.

**2299б.** Курган-2. За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Лужыца, у лесе. Вышыня 1,6 м, дыяметр 8 м. У цэнтры насыпа вялікая яма. Выяўлены ў 1924 г., абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1985 г. Т. С. Бубенька. *Т. С. Бубенька.*

**в. Угалец, Турынскі сельсавет**

**2300. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін, які загінуў у 1941 г., і 2 воіны 46-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2301. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПУХАВІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). У цэнтры вёскі, на адным з дамоў. Устаноўлена ў 1954 г. у памяць аб дзейнасці Пухавіцкага падпольнага райкома КП(б)Б, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Полымя». Гл. таксама артыкул № 2154 «Помнік у гонар Пухавіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанскай брыгады «Полымя».

**в. Хазянінкі, Голацкі сельсавет**

**2302. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 46-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2303. МАГІЛА ГЕРАСІМОВІЧА** Міхаіла Давыдавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. Д. Герасімовіч загінуў 10.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2304. МАГІЛА ЗАМУЛО** Анатоля Паўлавіча (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі А. П. Замуло загінуў 3.7.1944 г. у баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2305. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Церабель, Сяргеевіцкі сельсавет**

**2306. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Церабуты, Талькаўскі сельсавет**

**2307. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Свіслач. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 80 м, вышыня над забалочанай поймай ракі Свіслач 7—8 м. З паўночна-заходняга, заходняга і паўднёва-заходняга бакоў умацавана валам вышынёй 1—1,5 м, ровам глыбінёй 5 м. У агаленнях прасочаны культурны пласт больш за 0,6 м. Вядома з 1924 г. Абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1985 г. Т. С. Бубенька. Знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2308. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2308а.** Курганны могільнік-1. Мясцовая назва Французскія магілы. За 1 км на захад ад вёскі, у месцы ўпадзення р. Талі ў р. Свіс-

лач, у лесе. 2 насыпы дыяметрам 6 і 10 м, вышынёй 0,8 і 2 м. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**2308б.** Курганны могільнік-2. За 2,5—3 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Кургапне, на правым беразе р. Свіслач. 13 насыпаў. Вышыня курганоў 1,1—2 м, дыяметр 6—12 м. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1985 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. С. Бубенька.*

**в. Цітва, Рудзенскі пасялковы Савет**

**2309. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 110 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**2310. МАГІЛА ПЯРФІЛЬЕВА** Івана Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. Я. Пярфільеў загінуў 5.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шацк, цэнтр сельсавета**

**2311. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Французская магіла. За 4 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Вышыня 1,8 м, дыяметр 10 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавала ў 1985 г. Т. С. Бубенька.

**2312. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка канторы саўгаса «Шацк». На ўшанаванне памяці 600 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Булыга, архіт. В. Путраў; бетон, мармуровая крошка; вышыня 4,7 м). Перад прадаўгаватай прамавугольнай сцяной з прозвішчамі загінуўшых — скульптурная група: воін і дзяўчынка. Моцная, поўная энергіі фігура байца стаіць цвёрда і ўпэўнена, сціскаючы рэмень аўтамата. Погляд яго звернуты ўдалечыню. Да воіна прыхінулася, як бы шукаючы паратунку, кволая фігурка дзяўчынкі-падлетка. Кантрастная пластычная трактоўка вобразаў надае скульптурнай групе асаблівую выразнасць. Вакол помніка разбіты газоны.

*Г. М. Ярмоленка.*



**2309.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**2312.** *Помнік землякам.*

**2313. РАДЗІМА ЛУПІНОВІЧА** Івана Сцяпанавіча (гіст.). Беларускі савецкі вучоны ў галіне глебазнаўства і аграхіміі, акадэмік АН БССР (1947 г.), Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), доктар сельскагаспадарчых навук (1944 г.), прафесар (1953 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1951 г.) І. С. Лупіновіч нарадзіўся 23.6.1900 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1925 г.). У 1938—47 гг. кіраўнік групы, начальнік экспедыцыі, вучоны сакратар Савета па вывучэнню прадукцыйных сіл АН СССР. У 1947—56 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР, з сакавіка 1951 г. да студзеня 1952 г. выконваў абавязкі прэзідэнта АН БССР, у 1957—61 гг. прэзідэнт Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. Адначасова з 1950 г. загадчык кафедры глебазнаўства БДУ. З 1963 г. старшыня Беларускага рэспубліканскага савета Таварыства аховы прыроды. Распрацаваў методыку комплекснага прыродна-гістарычнага раяніравання тэрыторыі СССР для сельскагаспадарчага выкарыстання і склаў карту. Комплекснае выкарыстанне Палескай нізіны і сельскагаспадарчае асваенне асушаных балот асвятліў у кнізе «Тарфяна-балотныя глебы БССР і іх урадлівасць» (1952 г., 2-е выданне — 1958 г., разам з Т. Ф. Голуб). Вывучаў генезіс, фізіка-хімічныя і біялагічныя ўласцівасці забалочаных і тарфяна-балотных глеб і шляхі павышэння іх урадлівасці. Член ЦК КПБ у 1952—61 гг., Рэвізійнай камісіі КПБ у 1961—66 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—63 гг.

І. С. Лупіновіч памёр 9.10.1968 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імя вучонага прысвоена Беларускай рэспубліканскай навуковай сельскагаспадарчай бібліятэцы. У Мінску па будынку Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Г. Ф. Раманаў.*

**в. Энергія, Дукорскі сельсавет**

**2314. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены стэла з барэльефнай выявай воіна і 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Яснаўка, Пярэжырскі сельсавет**

**2315. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. У баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі партызаны П. В. Калепік (8.3.1944 г.), П. Ц. Кацько і П. С. Скрыпко (30.4.1944 г.). У 1958 г. на магілах пастаўлены абеліскі.



**2314.** *Помнік землякам.*

# САЛІГОРСКІ РАЁН




Першамайск
Чапялі
Бранчыцы
Чырв. Слабада
Акцябр
Крывічы
Жабін
Пагост 1-ы
Цясова
Краснадворцы
Чыжэвічы
САЛІГОРСК
Стар. Цярушкі
Вёска
Дубеі
Зажэвічы
Вял. Рожан
Бярозаўка
Старобін
Баравая
Саковічы
Паварчыцы
Нов. Цярушкі
Новапалескі
Мелкавічы
Гаўрыльчыцы
Вялічкавічы
Мазуршчына
Махнавічы
Капацэвічы
Доўгае
Яскавічы
Морач
Гоцк
Скаўшын
Ананчыцы
Чаланец
Даманавічы
Хорастаў
Восава
Чырв. Возера

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы


Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)


Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)


Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)


Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва


Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы


Культавая архітэктура

## XXVII. САЛІГОРСК

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на заходнім беразе Салігорскага вадасховішча, за 133 км ад Мінска. Чыгуначная станцыя веткі Слуцк — Салігорск. Аўтамабільнымі дарогамі звязаны са Слуцкам, Любанню, Лунінцом. Аэрапорт. 82 тыс. жыхароў (1984 г.).

Узнікненне Салігорска звязана з выяўленнем і прамысловай распрацоўкай пакладаў калійных солей і будаўніцтвам першых на Беларусі калійных камбінатаў. У 1958 г. на месцы в. Вішнёўка Старобінскага р-на пачалося будаўніцтва пасёлка Новастаробінск, які 8.8.1959 г. перайменаваны ў рабочы пасёлак Салігорск. У снежні 1962 г.— студзені 1965 г. у Любанскім р-не. З 7.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання. З 6.1.1965 г. цэнтр Салігорскага р-на. У 1962 г. злучаны чыгункай са Слуцкам. У 1970 г. у Салігорску 38,3 тыс. жыхароў.

Паводле генпланаў 1958 г. (карэкціроўкі 1963 г. і 1971 г.) інстытута «Белдзяржпраект» у горадзе 3 жылыя раёны — паўночны, паўднёвы і паўночна-заходні. Планіровачная структура рэгулярная, сетка вуліц прамавугольная. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — плошча Леніна — на перакрыжаванні галоўных вуліц Леніна і Казлова. Тут размешчаны Дом Саветаў, Палац культуры вытворчага аб'яднання «Беларуськалій», Дом сувязі. На вул. Леніна пабудаваны кінатэатр «Зорка Венера», Дом піянераў і школьнікаў, Дом быту, гандлёвы цэнтр, на вул. Казлова — гасцініца «Новае Палессе», будынак горна-хімічнага тэхнікума і інш. Галоўны кампазіцыйны акцэнт у ансамблі забудовы цэнтра — 18-павярховы інжынерна-лабараторны корпус вытворчага аб'яднання «Беларуськалій». Горад забудоўваецца ў асноўным 9—12—15-павярховымі жылымі дамамі.

Салігорск — буйны цэнтр горназдабыўной прамысловасці БССР — 4 калійныя камбінаты ўваходзяць у вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій». Працуюць заводы горна-шахтавага абсталявання, рамонтна-механічны, зборнага жалезабетону, жалезабетонных канструкцый, доследна-эксперыментальны, клееных драўляных канструкцый, домабудаўнічы камбінат, фабрыкі футравая і бялізнавага трыкатажу, хлебазавод, малочны завод, птушкафабрыка, камбінат бытавога абслугоўвання.



XXVII. *Плошча Леніна.*



XXVII. *Забудова праспекта Міру.*



XXVII. *Забудова вуліцы Леніна.*

У горадзе горна-хімічны тэхнікум, 3 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 11 агульнаадукацыйных, 2 вячэрнія, музычная і 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 36 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Палац культуры вытворчага аб'яднання «Беларуськалій», клуб будаўнікоў, 12 кінаўстановак, 9 масавых бібліятэк, краязнаўчы музей, бальнічны комплекс, 2 стадыёны, 2 плавальныя басейны. Выдаецца газета «Шахцёр». Помнікі: У. І. Леніну, В. І. Казлову, шахцёрам-першапраходцам, у гонар заснавання горада.

Зона адпачынку — берагі Салігорскага вадасховішча.

*Літ.:* Курьян А. И., Ковтик В. С. Солигорск: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978.

*М. Б. Батвіннік, А. А. Міцянін.*

**2316. ПОМНІК КАЗЛОВУ** Васілю Івянавічу (гіст.). На вул. Заслонава, каля будынка школы № 5.

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза (1942 г.), генерал-маёр (1943 г.) В. І. Казлоў нарадзіўся 5.2.1903 г. у в. Заграддзе




2316. *Помнік В. І. Казлову.*



2317. *Помнік У. І. Леніну.*

Жлобінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі (1933 г.). З 1917 г. працаваў на чыгунцы, у 1925—27 гг. у Чырвонай Арміі. Парторг у калгасах на Старобіншчыне, дырэктар Старобінскай МТС, першы сакратар Старобінскага і Чэрвеньскага райкомаў партыі. З 1940 г. намеснік Старшыні СНК БССР. З сакавіка 1941 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну з 21.7.1941 г. першы сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б і з лістапада 1941 г. адначасова камандзір партызанскага злучэння Мінскай вобл. У 1944—48 гг. першы сакратар Мінскіх абкома і гаркома КП(б)Б. У 1947 г. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, з 1948 г. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. З 1956 г. кандыдат у члены, з 1966 г. член ЦК КПСС, з 1949 г. член ЦК КПБ, з 1945 г. член Бюро ЦК КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1946 г., Вярхоўнага Савета БССР з 1947 г. Аўтар кніг «Разам з масамі, пад кантролем мас» (1962 г.), «Верны да канца» (2 выд., 1973 г.), «Людзі асобага складу» (1973 г.).

Памёр 2.12.1967 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названы вуліца і завод у Мінску, вуліцы ў Салігорску, Жлобіне. Імя В. І. Казлова прысвоена школе і саўгасу ў Жлобінскім р-не. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны створана мемарыяльная зала.

У 1969 г. на ўшанаванне памяці В. І. Казлова пастаўлены помнік — паясны скульптурны партрэт.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**2317. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Паясны бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.

**2318. ПОМНІК У ГОНАР ЗАСНАВАННЯ ГОРАДА** (гіст.). На вул. Ленінскага камсамола, каля Дома культуры будтрэста № 3. На гэтым месцы 12.8.1958 г. адбыўся мітынг першых будаўнікоў горада.

У 1978 г. у гонар заснавання горада пастаўлены помнік: 10 бетонных стэл, якія нагадваюць разгорнутую кветку і сімвалізуюць росквіт і маладосць горада, пастаўлены на круглы стылабат з прыступкамі ў выглядзе канцэнтрычных кольцаў. У цэнтры камень з надпісам-прысвячэннем (устаноўлены ў 1968 г.). *Т. В. Габрусь.*

**2319. ПОМНІК ШАХЦЁРАМ-ПЕРШАПРАХОДЦАМ** (гіст., маст.). На вул. Казлова, каля гасцініцы «Новае Палессе».

У 1949 г. на поўнач ад г. п. Старобін беларускія геолагі выявілі адно з буйнейшых у Еўропе, 2-е па велічыні ў СССР радовішча калійных солей. Пласты, прыгодныя для прамысловай здабычы падземным спосабам (магутнасць 2,3—6,5 м), залягаюць на глыбіні 350—900 м. На базе радовішча пабудаваны 4 калійныя камбінаты, якія ўваходзяць у вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій» і даюць 45 % агульнасаюзнай вытворчасці калійных угнаенняў.

У 1978 г. у гонар салігорскіх шахцёраў — піянераў горнаруднай прамысловасці Беларусі — узведзены помнік (скульпт. Г. Буралкін; бетон, абліцаваны меддзю; вышыня — 5 м). На шырокім пастаменце перад глыбамі (імітуюць сільвініт) са слядамі разцоў горнага камбайна ўстаноўлена скульптура маладога шахцёра. У гордай паставе фігуры і ў жэсце напрацаваных рук перададзена пачуццё годнасці гаспадара зямных нетраў. Дынамічнаму руху фігуры, яе абагульненаму ўвасабленню адпавядае чаканная пластыка. Выразнасць кампазіцыйнага вырашэння, яснасць і дакладнасць мас-




XXVII. *Чыгуначны вакзал.*



2318. *Помнік у гонар заснавання горада.*

тацкай характарыстыкі надаюць вобразу манументальнасць.

*Г. М. Ярмоленка.*

**в. Абідземля, Новацярушскі сельсавет**

**2320. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага І. К. Пратасеня (загінуў 13.11.1943 г.) і атрада «Камсамолец» 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі І. І. Жураўскі (загінуў у ліпені 1944 г.). У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2321. МАГІЛА СТАШКЕВІЧА** Адама Емяльянавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Камсамолец» 25-й брыгады імя П. К. Панамарэнкі А. Е. Сташкевіч загінуў 3.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2319. *Помнік шахцёрам-першапраходцам.*

**в. Акцябр, цэнтр сельсавета**

**2322. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 158 жыхароў вёсак калгаса «Кастрычнік», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ананчыцы, Даманавіцкі сельсавет**

**2323. МАГІЛА МАЦУКЕВІЧА** Івана Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага І. С. Мацукевіч загінуў 20.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2324. МАГІЛА МІХНАЎЦА** Красана Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Жыхар вёскі К. М. Міхнавец загублены ў 1944 г. нямецка-фашысцкімі карнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2325. МАГІЛА ЯФІМОВІЧА** Фёдара Ільіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага Ф. І. Яфімовіч загінуў 11.2.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2326. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка клуба, у парку. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1984 г.

**2327. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. На ўшанаванне памяці 55 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Баравая, Рожанскі сельсавет**

**2328. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На сяліба І. М. Сушко. Пахаваны 27 аднавяскоўцаў, якіх 11.2.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бранчыцы, Чапялёўскі сельсавет**

**2329. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вейна, Гаўрыльчыцкі сельсавет**

**2330. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахава-

ны 52 жыхары, якіх спалілі нямецка-фашысцкія карнікі ў лютым 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Веска, Акцябрскі сельсавет**

**2331. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 100 жыхароў вёсак калгаса «Пуцілавец», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1971 г. пастаўлены помнік: скульптура воіна і пліта з імёнамі загінуўшых.

**2332. РАДЗІМА ЖУКА** Аляксандра Апанасавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1957 г.) А. А. Жук нарадзіўся 31.12.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Мінскае ваеннае вучылішча (1937 г.), вышэйшыя афіцэрскія курсы «Выстрал» (1942 г.), Ваенную акадэмію імя М. Ф. Фрунзе (1948 г.). У Чырвонай Арміі з 1934 г. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1942 г. на Заходнім, Калінінскім, Данскім, Бранскім, Цэнтральным, 1-м Украінскім, 1-м і 2-м Беларускіх франтах. Вызначыўся ў красавіку 1945 г. у час баёў за плацдарм на р. Одэр. Стралковы полк пад камандаваннем падпалкоўніка А. А. Жука фарсіраваў раку, імклівым ударам пераадолеў 3 лініі траншэй абароны праціўніка і ў ходзе далейшага наступлення перарэзаў шашу Шэнінген — Паргаў, па якой вораг перакідваў на плацдарм падмацаванне. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Да 1959 г. служыў у Савецкай Арміі. Жыў у Маскве. Памёр 18.7.1983 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*



2333. *Помнік М. С. і І. С. Цубам.*

**в. Вялікі Лес, Яскавіцкі сельсавет**

**2333. ПОМНІК ЦУБАМ** Міхаілу Самуілавічу і Івану Самуілавічу (гіст., маст.). Каля вёскі, паблізу развілкі дарог на Салігорск і Хорастава.

Зімой 1943 г. нямецка-фашысцкія войскі акружылі партызан ў раёне вёсак Пузічы, Хорастава, Чаланец. Народныя мсціўцы прарвалі блакаднае кальцо і вырваліся з акружэння. Разам з імі пакінулі свае дамы і многія жыхары в. Навіны Салігорскага р-на. 15.2.1943 г. карнікі ўварваліся ў вёску. Яны знайшлі тут толькі братоў Цубаў — 75-гадовага Івана Самуілавіча і 70-гадовага Міхаіла Самуілавіча. Гітлераўцы загадалі М. С. Цубе паказаць дарогу да партызан. Мужны патрыёт адмовіўся выканаць загад і быў расстраляны. Узрушаны расправай над братам, І. С. Цуба даў згоду быць правадніком. Ён паўтарыў подзвіг І. Сусаніна — завёў ворагаў на забалочаны бераг р. Лань, адкуль яны не змаглі выбрацца. Пасля катаванняў фашысты расстралялі яго. І. С. Цуба пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Вёска Навіны перайменавана ў в. Цубы.



2322. *Помнік землякам.*



2331. *Помнік землякам.*

У 1966 г. на ўшанаванне памяці братоў-патрыётаў пастаўлены помнік (скульпт. С. Селіханаў, архіт. В. Занковіч, Л. Левін; бетон, мармуровая крошка; вышыня 6 м). Скульптурная кампазіцыя складаецца з паясных партрэтаў М. С. і І. С. Цубаў. У мастацкім адлюстраванні подзвіг атрымаў жанравую апавядальнасць: жэсты рукі і галавы аднаго з братоў нібы пацвярджаюць катэгарычную адмову выканаць загад ворагаў, увесь выгляд другога — цвёрдую непахіснасць выканаць прынятае рашэнне. Мяккая, сакавітая пластыка форм разам з дэталёвай прапрацоўкай рысаў твараў надаюць вобразам рэальнасць. У нішы пастамента — надпіс-прысвячэнне.

*Літ.:* Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.
*В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Вялікі Рожан, цэнтр Рожанскага сельсавета**

**2334. МАГІЛА ВАРАШКЕВІЧА** Якава Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан 756-га атрада 12-й кавалерыйскай брыгады імя І. В. Сталіна Я. І. Варашкевіч загінуў 8.12.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2335. МАГІЛА САЛЕНІКОВІЧА** Івана Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан І. А. Саленіковіч загінуў у 1944 г. у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2336. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шылава. У 13 магілах пахаваны 13 партызан 24-га асобнага атрада імя А. Я. Пархоменкі (з 18.5. 1944 г. 32-я брыгада імя М. І. Калініна), якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у снежні 1943 г. У 1968 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**2337. ПОМНІК У ГОНАР ЧЫРВОНАСЛАБОДСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б, ШТАБОЎ ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД 12-й КАВАЛЕРЫЙСКАЙ ІМЯ І. В. СТАЛІНА і 32-й ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шылава. Тут у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Чырвонаслабодскі падпольны райком КП(б)Б і штабы партызанскіх брыгад 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна і 32-й імя М. І. Калініна.

Чырвонаслабодскі падпольны райком КП(б)Б створаны ў пачатку ліпеня 1941 г. Мінскім абкомам КП(б)Б. Сакратары М. І. Жукоўскі і М. М. Ермалаеў (загінулі ў верасні 1941 г. у барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі). Галоўная задача — арганізацыя і кіраўніцтва партызанскай барацьбой, рухам супраціўлення. М. І. Жукоўскі ўзначаліў першы ў раёне партызанскі атрад. У канцы ліпеня 1941 г. атрад знішчыў паліцэйскую камендатуру, пошту, спаліў склады з ваеннай амуніцыяй у Слуцку, разграміў варожы гарнізон у Чырвонай Слабадзе. Пасля гібелі М. І. Жукоўскага і М. М. Ермалаева райком часова спыніў сваю дзейнасць. Зноў створаны 7.4.1943 г. міжрайкомам КП(б)Б Слуцкай зоны. Дзейнічаў да 1.7.1944 г. Сакратар М. Р. Кастрыцкі. Друкаваны орган — газета «Калгаснік Чырвонаслабодчыны», пазней «Чырвоная зара». Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе 32-й імя М. І. Калініна.

Партызанская брыгада 12-я кавалерыйская імя І. В. Сталіна створана ў сакавіку 1943 г. паводле рашэння Бабруйскага падпольнага райкома КП(б)Б і загадам Клічаўскага аператыўнага цэнтра на базе створанага ў маі 1942 г. атрада імя І. В. Сталіна (з кастрычніка 1942 г. у партызанскай брыгадзе «За Радзіму» імя А. К. Флегантава). У верасні 1943 г. перададзена партызанскаму злучэнню Мінскай вобл. і перабазіравана з Бабруйскага ў Чырвонаслабодскі р-н. Камандзір брыгады У. А. Ціхаміраў, камісар І. А. Цяплінскі.

Партызаны праводзілі аперацыі на варожых камунікацыях Пухавічы — Бабруйск, Асіповічы — Баранавічы, Баранавічы — Лунінец. За час «рэйкавай вайны» падарвалі каля 2,5 тыс. рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Якшыцы Бярэзінскага, Ліпень, Лапічы Асіповіцкага (жнівень 1942 г.), Горкі Чэрвеньскага (студзень 1943 г.), Падлужжа, Згода, Бярозаўка Глускага (ліпень 1943 г.) р-наў, рабілі налёты на варожыя гарнізоны ў Пухавічах і ў в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на. У 1943—44 гг. вялі баі з нямецка-фашысцкімі карнікамі, разам з брыгадай 32-й імя М. І. Калініна абаранялі партызанскую зону. Ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырвонай Арміі 29.6—3.7.1944 г. на ўчастку Чырвоная Слабада — Пагост вялі баі з ворагам. 3.7.1944 г. брыгада (579 партызан, атрады 754-ы, 755-ы, 756-ы імя А. В. Заняпрэцава) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

Партызанская брыгада 32-я імя М. І. Калініна створана ў маі 1944 г. загадам штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. на базе асобнага атрада імя А. Я. Пархоменкі. Камандзір брыгады П. В. Качкоў, камісар А. З. Драбеня. Баявыя дзеянні партызаны праводзілі на варожых камунікацыях Баранавічы — Слуцк — Старыя Дарогі, Слуцк — Валяр'яны, Узда — Капыль і інш. За час «рэйкавай вайны» пашкодзілі каля 2 тыс. рэек. У лютым 1944 г. разам з 12-й кавалерыйскай брыгадай імя І. В. Сталіна напалі на варожы гарнізон у в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на, у 1944 г. правялі 9 баёў супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў, каб ратаваць мірнае насельніцтва Чырвонаслабодскага р-на ад загубы. У час наступлення Чырвонай Арміі будавалі пераправы цераз р. Морач.

1.7.1944 г. брыгада (477 партызан, атрады імя А. Я. Пархоменкі, імя К. Я. Варашылава, імя А. В. Суворава) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1965 г. у гонар Чырвонаслабодскага падпольнага райкома КП(б)Б, брыгад 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна і 32-й імя М. І. Калініна пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 2. Кн. 2.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**в. Вялікія Заўшыцы, Акцябрскі сельсавет**

**2338. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў у лютым 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. Абапал яго 2 дошкі з імёнамі 74 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Вялічкавічы, Капацэвіцкі сельсавет**

**2339. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 222 жыхары, якіх спалілі ці расстралялі 15.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2340. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 15.2.1943 г. карны атрад нямецка-фашысцкіх акупантаў акружыў вёску. Жыхароў сагналі ў некалькі дамоў і спалілі (загінуў 131 чалавек). У 1963 г. на ўшанаванне іх памяці насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**2341. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 3 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гаўрыльчыцы, цэнтр сельсавета**

**2342. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На гаспадарчым двары калгаса імя С. М. Кірава. Пахаваны 73 жыхары вёсак Гаўрыльчыцы і Лугі, якіх у лютым 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2343. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Горка, Доўгаўскі сельсавет**

**2344. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Дзянісава. Пахаваны 24 жыхары, якіх 11.2.1943 г. расстралялі ці спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2345. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У 3 магілах пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх 11.2.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў час карнай аперацыі. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**2346. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 65 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, расстраляны ці спалены жывымі 11.2.1943 г. гітлераўцамі ў час карнай аперацыі, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Груздава, Хорастаўскі сельсавет**

**2347. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Векерава. Пахаваны 8 партызан атрадаў партызанскіх злучэнняў Пінскай і Сумскай абласцей, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г., і экіпаж самалёта Іл-2 (камандзір лейтэнант Б. І. Паўлаў), які загінуў 30.5. 1944 г. пры выкананні палёту з Вялікай зямлі на аэрадром партызанскага злучэння Пінскай вобл. Сярод пахаваных камандзір 620-га асобнага партызанскага атрада імя В. І. Чапаева М. С. Міхалап. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла, на якой умацаваны вінт самалёта і 2 мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.



2347. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2348. ПОМНІК У ГОНАР ПІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б, ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ ПІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ.** За 2,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Векерава. Тут у 1943—44 г. базіраваліся Пінскі падпольны абком КП(б)Б, штаб партызанскага злучэння Пінскай вобл.

Пінскі падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў з ліпеня да 30.9.1941 г. і з 25.8.1942 г. да ліпеня 1944 г. Арганізоўваў і ўзначальваў камуністычнае падполле і партызанскі рух, барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Пінскай вобл. Сакратары: П. Г. Шапавалаў (да 30.9.1941 г., загінуў), М. К. Зайцаў (да верасня 1941 г.), А. Я. Кляшчоў (23.4 — кастрычнік 1943 г., першы сакратар), С. Р. Вайцаховіч (з 23.4.1943 г., другі сакратар); члены абкома І. Л. Масленікаў (загінуў), А. Я. Кляшчоў, В. З. Корж, Ф. І. Палажэнцаў, Г. П. Сцешчц. Базіраваўся ў партызанскім атрадзе Столінскім, з верасня 1942 г. у атрадзе «Камарова» (В. З. Каржа). Пад кіраўніцтвам абкома былі створаны і дзейнічалі Пінскі падпольны гарком, 11 падпольных райкомаў КП(б)Б, Пінскі падпольны абком ЛКСМБ, Пінскі падпольны гарком ЛКСМБ і інш. падпольныя групы і арганізацыі, партызанскае злучэнне Пінскай вобл. Друкаваны орган — газета «Палеская праўда» (з чэрвеня 1943 г. да ліпеня 1944 г. выдадзена 58 нумароў).

У лістападзе — снежні 1942 г. Пінскі падпольны абком КП(б)Б аб'яднаў асобныя атрады В. З. Каржа, імя М. А. Шчорса, В. А. Васільева, імя С. М. Кірава, імя А. В. Суворава, імя С. Г. Лазо, імя М. Ц. Шыша, а таксама дыверсійныя групы А. І. Дамброўскага, І. Дз. Баброва, Р. М. Ігнаценкі, А. З. Драбені (5.12.1942 г. групы аб'яднаны ў атрад пад камандаваннем А. І. Дамброўскага) у партызанскае злучэнне Пінскай вобл. (1855 партызан). У 1943 г. у складзе злучэння сфарміраваны 7 брыгад: імя С. М. Будзённага, імя У. І. Леніна, імя В. М. Молатава, імя С. М. Кірава, імя В. У. Куйбышава, Пінская, «Савецкая Беларусь» і асобны атрад імя І. І. Чуклая. Кіраўніцтва злучэння: сакратар Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Пінскай вобл. А. Я. Кляшчоў, камандзіры В. З. Корж (лістапад 1942 г.— ліпень 1944 г.), А. Я. Кляшчоў (май — верасень 1943 г., в. а.), начальнік штаба М. С. Фядотаў. Генерал-маёрам А. Я. Кляшчову і В. З. Каржу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

За час баёў у тыле ворага партызаны злучэння знішчылі 59 нямецка-паліцэйскіх гарнізонаў, 468 эшалонаў, 770 аўтамашын, 86 танкаў, збілі 3 самалёты, вывелі са строю 519 км лініі сувязі. У лютым і ліпені 1944 г. злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі (больш за 7 тыс. партызан).

*Літ.:* Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1959; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Ивушкин Н. Б. Место твое впереди.— М., 1976.

*В. М. Удальцоў.*

**в. Даманавічы, цэнтр сельсавета**

**2349. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 267 жыхароў, якіх расстралялі ці спалілі жывымі вясной 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2350. МАГІЛА ХАМІЦЭВІЧА** Данілы Мікалаевіча (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Камандзір партызанскага атрада імя М. Пятрэнкі партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага Д. М. Хаміцэвіч загінуў у сакавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Доўгае, цэнтр сельсавета**

**2351. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан-разведчыкаў 101-й партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага, якія загінулі ў чэрвені 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2352. МАГІЛА ЛЕЎЧЫКА** Лявонція Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя С. М. Будзённага Л. Ф. Леўчык загінуў 26.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2353. МАГІЛА ЭДЗІТАВЕЦКАГА** Аляксея Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан А. А. Эдзітавецкі загінуў 7.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2354. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 67 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

**2355. РАДЗІМА МУРАВІЦКАГА** Лукі Захаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Л. З. Муравіцкі нарадзіўся 18.12.1917 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Барысаглебскае авіяцыйнае вучылішча (1938 г.) Да 1937 г. працаваў слесарам на будаўніцтве метрапалітэна ў Маскве. У Чырвонай Арміі з



2354. *Помнік землякам.*

1937 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г.— пілот знішчальнага авіяпалка, старшы лейтэнант. У час блакады Ленінграда суправаджаў транспартныя самалёты ў горад, прыкрываў разгрузку эшалонаў на чыгуначных станцыях і інш. Правёў 32 паветраныя баі, знішчыў 3 самалёты праціўніка, 3.9.1941 г. тараніў варожы бамбардзіроўшчык. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.10.1941 г. Загінуў у баі 30.11.1941 г. Імем героя названы вуліца ў в. Доўгае, піянерская дружына Доўгаўскай сярэдняй школы.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Дуброўна (не існуе), Доўгаўскі сельсавет**

**2356. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Дуброўна знаходзілася за 4 км на паўднёвы захад ад в. Жоўты Брод. 16.2.1943 г. спалена нямецка-фашысцкімі карнікамі разам з жыхарамі (43 чалавекі, 9 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Жоўты Брод, Доўгаўскі сельсавет**

**2357. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 42 жыхары вёскі, расстраляныя ці спаленыя жывымі 16.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі карнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла, на якой імёны загінуўшых.

**2358. МАГІЛА ГУРЫНОВІЧА** Антона Данілавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. Д. Гурыновіч загінуў 19.2. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2359. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 36 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Заброддзе, Даманавіцкі сельсавет**

**2360. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 387 жыхароў вёскі, спаленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г. у час карнай аперацыі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2361. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана 127 жыхароў в. Восава, расстраляных або спаленых жывымі ў лютым 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Загліннае, Доўгаўскі сельсавет**

**2362. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 70 жыхароў, якіх 23.2.1943 г. расстралялі або спалілі жывымі ў час карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2363. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 34 жыхары вёскі, загубленыя нямецка-фашысцкімі карнікамі 23.2.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2364. МАГІЛА БАРАНЧЫК** Ульяны Якаўлеўны (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Жыхарку вёскі У. Я. Баранчык загубілі нямецка-фашысцкія карнікі 23.2.1943 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Загор'е, Новацярушскі сельсавет**

**2365. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Ва ўрочышчы Платонава. Пахаваны 9 партызан (у т. л. партызан І. М. Харсееў, імя якога было прысвоена аднаму з атрадаў 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2366. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 28 жыхароў былой в. Сухая Міля, якіх у ліпені 1942 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2367. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на паўднёвы захад ад вёскі. У 3 магілах пахаваны 136 жыхароў в. Хадыка, загубленых у чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкімі карнікамі. У 1950 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Камсамолец, Доўгаўскі сельсавет**

**2368. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН І БАРАШКАВА** Міхаіла Парфенавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 партызаны і рэдактар падпольных газет «Звязда» і «Чырвоная змена» М. П. Барашкаў.

Беларускі савецкі журналіст М. П. Барашкаў нарадзіўся ў 1908 г. у в. Бель 3-я Крычаўскага р-на. Член КПСС з 1929 г. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску (1930—33 гг.). Рэдагаваў раённыя газеты — чавускую «Калгасны сцяг» і дубровенскую «За сацыялістычнае будаўніцтва», з 29.1.1939 г. рэспубліканскую маладзёжную газету «Чырвоная змена». У Вялікую Айчынную вайну палітработнік на Калінінскім фронце, пазней на падпольнай рабоце на Віцебшчыне. З студзеня 1943 г. рэдактар падпольнай газеты «Звязда», член рэдкалегіі газеты «Чырвоная змена», якія выдаваліся ў зоне партызанскага злучэння Мінскай вобл. Памёр 21.2.1944 г. У 1957 г. на магіле М. П. Барашкава пастаўлены абеліск, на магілах партызан — пліты.



2368. *Магілы партызан і помнік на магіле М. П. Барашкава.*



2370. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии: (Исторический очерк).— Мн., 1967. *В. М. Удальцоў.*

**2369. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАДПОЛЬНЫХ ГАЗЕТ «ЗВЯЗДА» І «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»** (гіст.). Вул. Партызанская, на доме Г. С. Чарнюк. Устаноўлена ў 1975 г. у памяць аб размяшчэнні ў вёсцы ў час Вялікай Айчыннай вайны рэдакцый падпольных газет «Звязда» — органа ЦК і Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б і «Чырвоная змена» — органа ЦК і Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ.

**в. Капацэвічы, цэнтр сельсавета**

**2370. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 426 аднавяскоўцаў, расстраляных або спаленых 16.2.1943 г. у час карнай аперацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла.

**в. Касынічы, Краснадворскі сельсавет**

**2371. МАГІЛА ЗАГАРОЎСКАГА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя 14 слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В. П. Чкалава І. І. Загароўскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23.5. 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2372. МАГІЛА МАСКАЛЕНКІ** Леаніда Рыгоравіча (гіст.). Недалёка ад вёскі, каля развілкі дарог Чырвоная Слабада — Крывічы. Партызан-разведчык 32-й брыгады імя М. І. Калініна Л. Р. Маскаленка загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 16.5.1943 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Качава, Даманавіцкі сельсавет**

**2373. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі ў сакавіку 1943 г.

**2374. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У сакавіку 1943 г. у час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. нямецка-фашысцкія акупанты сагналі ў хлеў 73 жыхароў вёскі і спалілі іх. У 1964 г. на месцы іх гібелі пастаўлены абеліск.

**2375. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Доўгае.

У Вялікую Айчынную вайну тут дзейнічаў партызанскі аэрадром, на які з Вялікай зямлі дастаўляліся для партызан злучэння Мінскай вобл. зброя, боепрыпасы, медыкаменты, пошта і інш. У 1960 г. на месцы былога аэрадрома пастаўлена стэла.

**в. Краснадворцы, цэнтр сельсавета**

**2376. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 87 жыхароў вёсак з калгаса «Чырвоная зорка», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе, стэла і пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Крывічы, Краснадворскі сельсавет**

**2377. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, абапал яго 2 стэлы з імёнамі 90 жыхароў вёсак калгаса «Бальшавік», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць акупантаў.



2376. *Помнік землякам.*



2377. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

**2378. МАГІЛА АГІНСКАГА** Еўдакіма Піліпавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага Е. П. Агінскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў 25.1.1944 г. у час блакады Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2379. МАГІЛА ТАМАШЭЎСКАГА** Дзмітрыя Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Партызан Дз. С. Тамашэўскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 25.1.1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мазалі, Акцябрскі сельсавет**

**2380. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 121 жыхара вёсак калгаса «Чырвоная ніва», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і партызанка), а таксама 6 дошак з імёнамі загінуўшых.

**в. Мазуршчына, Доўгаўскі сельсавет**

**2381. РАДЗІМА СЦЯМПКОЎСКАЙ** Алены Канстанцінаўны (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. К. Сцямпкоўская нарадзілася ў 1921 г. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Да вайны закончыла 1-ы курс гістарычнага факультэта Ташкенцкага педінстытута. У ліпені 1941 г. добраахвотнікам пайшла ў Чырвоную Армію, скончыла курсы радыётэлеграфістак. З кастрычніка 1941 г. на Паўднёва-Заходнім фронце, сувязістка палка. Вызначылася ў чэрвені 1942 г. у баі каля в. Зімавенькі Шабекінскага р-на Белгарод-



2380. *Помнік землякам.*

скай вобл. У час прарыву батальёна з варожага акружэння малодшы сержант А. К. Сцямпкоўская забяспечыла сувязь з камандаваннем палка, у крытычны момант выклікала агонь савецкай артылерыі на сябе, потым у складзе стралковай роты прыкрывала адыход асноўных сіл. Загінула 26.6. 1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Імем А. К. Сцямпкоўскай названы вуліцы ў Ташкенце, школа ў нас. пункце Баявут Узбекскай ССР, піянерская дружына Мазуршчынскай 8-гадовай школы.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Махнавічы, Доўгаўскі сельсавет**

**2382. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР СТАРОБІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА ЛКСМБ** (гіст.). На доме Е. П. Карніевіч. Устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну паводле рашэння ЦК ЛКСМБ на акупіраванай ворагам тэрыторыі Старобінскага р-на былі пакінуты сакратар Старобінскага райкома камсамола С. Г. Малкін. Ён стварыў тут камсамольска-маладзёжнае падполле, вёў прапагандысцкую работу сярод моладзі. Разам са старшынёй райвыканкома В. Ц. Меркулем удзельнічаў у арганізацыі першага партызанскага атрада (камандзір В. Ц. Меркуль), які ў ліпені каля в. Доўгае даў бой рэгулярнай часці праціўніка. У лістападзе 1941 г. С. Г. Малкін загінуў. Да лета 1942 г. камсамольскай работай у раёне кіравалі палітработнікі атрада В. Ц. Меркуля, са жніўня 1942 г.— упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Старобінскаму р-ну У. М. Казлякевіч.

Падпольны райком ЛКСМБ узнавіў работу 19.3.1943 г. (сакратар У. М. Казлякевіч, сакратар па прапагандзе І. І. Кузін). Базіраваўся ў 101-й партызанскай брыгадзе імя Аляксандра Неўскага (некаторы час у в. Махнавічы). Райком стварыў і ўзначальваў камсамольска-маладзёжнае падполле, залучаў моладзь у партызанскія атрады. Дзейнічаў да 1.7.1944 г.

*Літ.:* Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973. *В. М. Удальцоў.*

**2383. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 35 жыхароў вёсак калгаса «Новы мір», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**2384. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 17 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны і дзяўчынкі.

**2385. ПОМНІК У ГОНАР СТАРОБІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б, ШТАБА 101-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі. У 1943—44 гг. у вёсцы базіраваліся Старобінскі падпольны райком



2383. *Помнік землякам.*



2385. *Помнік ў гонар Старобінскага падпольнага райкома КП(б)Б і штаба 101-й партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага.*

КП(б)Б і штаб партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага.

Старобінскі падпольны райком КП(б)Б зацверджаны Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б 12.3.1943 г., дзейнічаў да 1.7.1944 г. Сакратар В. Ц. Меркуль. Райком узначальваў партызанскі рух у раёне, вёў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, кіраваў органамі Савецкай улады на вызваленай ад нямецка-фашысцкіх акупантаў тэрыторыі раёна, якая ўваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партызанскую зону. Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе 101-й імя Аляксандра Неўскага. Друкаваны орган — газета «Советский патриот».

Партызанская брыгада 101-я імя Аляксандра Неўскага створана ў чэрвені 1943 г. паводле загаду штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. з асобных атрадаў В. Ц. Меркуля (пазней імя І. В. Сталіна), Дз. Ц. Гуляева (пазней імя Дз. Ц. Гуляева), 4-га (пазней імя М. І. Бандараўца), імя І. М. Харсеева. Дзейнічала на тэрыторыі Старобінскага р-на. Камандзіры брыгады Дз. Ц. Гуляеў (чэрвень — верасень 1943 г., загінуў), М. Дз. Курыльчык (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісар В. Ц. Меркуль (чэрвень 1943 г.— ліпень 1944 г.).

Партызаны брыгады дзейнічалі пераважна на варожых камунікацыях Жыткавічы — Лунінец — Баранавічы, Старобін — Мікашэвічы, Жыткавічы — Мазыр. У «рэйкавай вайне» падарвалі 3,3 тыс. рэек. Знішчылі 74 аўтамашыны, пашкодзілі 72,5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Івань Слуцкага, Пагост Старобінскага р-наў. У маі 1944 г.

удзельнічалі ў баях супраць карнікаў. 29.6.1944 г. з боем занялі г. п. Старобін, пераправу цераз р. Случ і ўтрымлівалі іх да падыходу Чырвонай Арміі.

1.7.1944 г. брыгада (1300 партызан, атрады імя Дз. Ц. Гуляева, імя І. В. Сталіна, імя П. С. Ламейкі, імя М. І. Бандараўца) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру брыгады Дз. Ц. Гуляеву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Гл. арт. № 2417 «Магіла Гуляева Дзмітрыя Цімафеевіча».

У памяць аб дзейнасці Старобінскага падпольнага райкома КП(б)Б, партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага ў 1965 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 2—3.— Мн., 1973—82; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

**в. Мелкавічы, Доўгаўскі сельсавет**

**2386. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўзлессі, на левым беразе безназоўнага левага прытока р. Случ. 19 насыпаў вышынёй 1,2 м, дыяметрам 6—12 м, выцягнуты з захаду на ўсход на 250 м. У 1929 г. 6 насыпаў раскапаў С. А. Дубінскі. Выяўлены пахаванні ў драўляных трунах. Каля ног нябожчыкаў стаялі гліняныя гаршкі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.



2386. *Курганны могільнік. План.*



2387. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970.— (Материалы и исследования по археологии СССР, № 163). *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Мяцявічы, Пагосцкі сельсавет**

**2387. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Случ. 21 насып дыяметрам 8—9 м, вышынёй 1,5 м. Вылучаюцца 2 курганы, што знаходзяцца ў паўднёвай частцы могільніка, вышынёй 3 і 4 м, дыяметрам 15 і 20 м. У адзін з іх урэзаны сучасныя магілы. Даследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, якія раскапалі 13 курганоў. Абследаваў у 1979 г. У. Ф. Ісаенка. Належаў дрыгавічам, датуецца 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *У. Ф. Ісаенка.*

**2388. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Случ. 19 насыпаў дыяметрам 10 м, вышынёй 1,5—2 м. Адзін курган вышынёй 2,5 м, дыяметрам 12 м, другі адпаведна 5 м і 30 м, трэці 3 м і 20 м. Каля асновы прасочваюцца раўкі. 3 курганы моцна пашкоджаны, 4 маюць у верхняй частцы западзіны. Даследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, раскапана 27 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, адно ў яме, трапляюцца ў трунах, у 2 курганах па 3 пахаванні, у 2 — па чатыры. Знойдзены цэлыя вялікія гаршкі, якія стаялі звычайна каля ног, рэдка каля галавы нябожчыкаў, філігранныя буйназярнёныя цыліндрычныя і бочкападобныя пацеркі, малыя скроневыя кольцы, бранзалет з канцамі ў выглядзе галоўкі змяі, пласціністыя і драцяныя пярсцёнкі. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Паварчыцы, Старобінскі пасялковы Савет**

**2389. МАГІЛА НЯБЕРАВА** Цімафея Антонавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Камарова» (В. З. Каржа) Ц. А. Нябераў загінуў 6.8.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2390. МАГІЛА СТРАШЭЎСКАГА** Івана Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Партызан І. Ф. Страшэўскі загінуў у жніўні 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2391. МАГІЛА СЦЕШЫЦА** Паўла Кірылавіча (гіст.). На могілках. Партызан П. К. Сцешыц загінуў 22.8.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2392. МАГІЛА ШЭЛЕГА** Уладзіміра Піліпавіча (гіст.). На могілках. Партызан У. П. Шэлег загінуў 15.8.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пагост 1-ы, цэнтр сельсавета**

**2393. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Зіноўева. Пахаваны 4 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Анісімавіч Зіноўеў.



2388. *Курганны могільнік. План.*



2393. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

М. А. Зіноўеў нарадзіўся ў 1922 г. у в. Астраўцы Калышлейскага р-на Пензенскай вобл. у сялянскай сям'і. З 1940 г. у Чырвонай Арміі. Вучыўся ў Саратаўскім ваенным танкавым тэхнічным вучылішчы (1940—41 гг.). З 1942 г. на Паўднёва-Заходнім, 1-м Беларускім франтах — памочнік камандзіра танкавай роты, тэхнік-лейтэнант. Вызначыўся 30.6.1944 г. у баі за пераправу цераз р. Случ, каля в. Пагост. Экіпаж танка, якім камандаваў М. А. Зіноўеў, знішчыў пяхоту праціўніка, што адступала. Калі танк быў падбіты, экіпаж пакінуў машыну, пераплыў пад агнём раку, знішчыў кулямётную кропку гітлераўцаў, ахову моста, размініраваў яго і ўтрымліваў да падыходу асноўных сіл палка. М. А. Зіноўеў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.9.1944 г. Імем героя названы вуліца і школа ў Салігорску.

У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін трымае на руках загінуўшага таварыша.

*Літ.:* Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**2394. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на мысе вялікай лагчыны р. Случ, у паўночнай частцы сучасных могілак. 7 насыпаў дыяметрам 5—6 м, вышынёй 1 м. Адзін курган вышынёй 3 м, дыяметрам 12 м. Каля асновы прасочваюцца раўкі. Даследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, раскапана 2 насыпы. Знойдзены рэшткі вогнішчаў. Абследаваў у 1979 г. У. Ф. Ісаенка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

**2395. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Набярэжная. Пахаваны 286 жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты восенню 1941 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2396. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Набярэжная, на сядзібе дома № 7. Пахаваны 180 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі восенню 1941 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2397. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Пагост — Зажэвічы. Савецкі воін загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2398. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі.

30.6.1944 г. экіпаж танка Т-34 пад камандаваннем тэхніка-лейтэнанта М. А. Зіноўева ў час наступлення 19-й механізаванай брыгады ў напрамку в. Пагост захапіў мост цераз р. Случ і ўтрымліваў пераправу да падыходу галоўных сіл, забяспечваў фарсіраванне ракі перадавым часцям коннамеханізаванай групы генерал-лейтэнанта І. А. Пліева і злучэнне іх з партызанамі злучэння Мінскай вобл., якія вялі баі з ворагам на правым беразе ракі. У 1967 г. у памяць аб гэтым пастаўлены помнік — танк Т-34, 2 мемарыяльныя дошкі з надпісам-прысвячэннем. *В. М. Удальцоў.*

**2399. РАДЗІМА НАРУЦКАГА** Дзіянісія Сільвестравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. С. Наруцкі нарадзіўся 5.10.1904 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. Скончыў Арлоўскую бранятанкавую школу (1932 г.). З дзяцінства працаваў па найму ў кулакоў, пазней — чорнарабочым. З 1921 г. старшыня Пагосцкага сельсавета. У Чырвонай Арміі з 1926 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандзір падраздзялення самаходных гармат, пазней — камандзір самаходнага артылерыйскага палка, гвардыі палкоўнік. Вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 14.1.1945 г. полк пад яго камандаваннем прарваў абарону праціўніка і да 17.1.1945 г. прайшоў з баямі 80 км, знішчыў 2 варожыя танкі, 31 гармату, 114 мінамётаў і кулямётаў, 6 аўтамашын, каля 400 гітлераўцаў. Полк вёў баі за пераправы на рэках Одэр і Шпрэ, удзельнічаў у штурме Берліна. Званне Героя Савецкага Саюза Дз. С. Наруцкаму прысвоена 24.3. 1945 г. Да 1946 г. у Савецкай Арміі. Памёр 4.10.1960 г. Імем героя названы вуліцы ў Салігорску і ў пасёлку Мірным Салігорскага р-на.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*




2394. *Курганны могільнік. План.*



2398. *Помнік савецкім танкістам.*

**в. Першамайск, цэнтр сельсавета**

**2400. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Вежападобны чатырохгранны аб'ём завершаны двухсхільным дахам. Каркасная канструкцыя вертыкальна абшыта дошкамі. Унутраная прастора двух'ярусная. На 2-м ярусе пляцоўка з зубчастымі коламі і перадачай на жорны.

Ветраны млын — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**2401. МАГІЛА ШАМЫНЫ** Іосіфа Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя А. Я. Пархоменкі 32-й брыгады імя М. І. Калініна І. М. Шамына загінуў 8.7.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2402. *Помнік землякам.*

**2402. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 120 жыхароў вёсак калгаса «Шлях Леніна», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. насыпаны курган, пастаўлены абеліск, стэла і 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Пісаравічы, Даманавіцкі сельсавет**

**2403. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 220 жыхароў вёскі, расстраляных або спаленых вясной 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час карнай аперацыі супраць партызан злучэння Мінскай вобл. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прусы, Чапялёўскі сельсавет**

**2404. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На могілках. 9 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 5—7 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пузічы, Хорастаўскі сельсавет**

**2405. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 770 жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай аперацыі ў лютым — сакавіку 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2406. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 13 жыхароў вёскі, якія загінулі ад рук гітлераўскіх карнікаў зімой 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск з надпісам-прысвячэннем.

**2407. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 5 жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў лютым 1943 г. На магіле ў 1963 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рог, Даманавіцкі сельсавет**

**2408. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх вясной 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2409. МАГІЛА ПАДДУБІЦКАГА** І. А. (гіст.). На могілках. Партызан І. А. Паддубіцкі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у сакавіку 1943 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2410. МАГІЛА ПУЗЕВІЧА** Якава Яфімавіча (гіст.). На могілках. Партызан Я. Я. Пузевіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2411. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. У 4 магілах пахаваны 15 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. у час блакады Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны. У 1958 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**в. Саковічы, Зажэвіцкі сельсавет**

**2412. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 27 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**в. Скаўшын, Даманавіцкі сельсавет**

**2413. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 96 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.



2404. *Курганны могільнік. План.*

**2414. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 37-й ІМЯ А. Я. ПАРХОМЕНКІ** (гіст.). Каля будынка клуба, у парку. Зімой 1944 г. у лесе каля вёскі базіраваўся штаб 37-й партызанскай брыгады імя А. Я. Пархоменкі.

Брыгада створана ў студзені 1943 г. загадам па партызанскаму злучэнню Мінскай і Палескай абласцей на базе атрадаў М. Б. Храпко, У. М. Шваякова, П. Я. Ігуменава, М. П. Сезіка, У. К. Якавенка. Камандзіры брыгады: П. М. Канавалаў (студзень — чэрвень 1943 г.), А. В. Львоў (чэрвень 1943 г.— чэрвень 1944 г.); камісары С. К. Ляшчэня (студзень — жнівень 1943 г.), М. Б. Храпко (жнівень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на варожых камунікацыях Асіповічы — Бабруйск, Старыя Дарогі — Асіповічы, Парычы — Бабруйск і інш. У «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 2440 рэек, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Усцярхі Глускага, Брожа, Гарбацэвічы, Орсічы Бабруйскага р-наў, удзельнічалі ў разгроме гарнізона ў в. Пратасы Акцябрскага р-на. З дапамогай падпольшчыкаў знішчылі на бабруйскім аэрадроме 15 самалётаў праціўніка. У снежні 1943 г. брыгада дзейнічала разам з 37-й гвардзейскай стралковай дывізіяй. 30.6.1944 г. брыгада (1195 партызан, атрады імя М. А. Шчорса, імя С. М. Кірава, імя В. І. Чапаева, імя Дз. А. Фурманава, імя Р. К. Арджанікідзе) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. у гонар 37-й партызанскай брыгады імя А. Я. Пархоменкі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1, 3.— Мн., 1967, 1982; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

# XXVIII. СТАРОБІН

Гарадскі пасёлак у Салігорскім р-не, на правым беразе р. Случ. За 12 км на поўдзень ад Салігорска. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Салігорскам, Слуцкам, Любанню, Мікашэвічамі.

Узнік як слабада ў 2-й палове XVI ст. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1680 г. як мястэчка Навагрудскага, потым Мінскага ваяводстваў Вялікага княства Літоўскага. Уладанне князёў Алелькавічаў, Радзівілаў. З 1793 г. у складзе Расіі, цэнтр воласці Слуцкага павета. Належаў князям Вітгенштэйнам, Гогенлоэ. У канцы 19 ст. больш за 3 тыс. жыхароў, школа, паравы і вадзяны



**XXVIII.** *Забудова вуліцы Чырванасцяжнай.*

млыны, царква, карчма з заезным дваром, лясніцтва. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Штогод 4 кірмашы, найбольшы ў лістападзе.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. мястэчка акупіравана германскімі войскамі, са жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. Арганізатарам і кіраўніком барацьбы насельніцтва з акупантамі быў удзельнік трох рэвалюцый, бальшавік І. М. Дрызгаловіч. З 1924 г. Старобін — цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. 3,4 тыс. жыхароў у 1939 г.

З чэрвеня 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (12.3. 1943 г.— 1.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.7— лістапад 1941 г.). З 1962 г. пасёлак у Любанскім, са студзеня 1965 г. у Салігорскім р-нах.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі мястэчка забудоўвалася стыхійна, мела радыяльную планіроўку. Кампазіцыйным цэнтрам была базарная плошча з царквой і крамамі. Вуліцы ад плошчы разыходзіліся ў напрамку бліжэйшых населеных пунктаў. Забудова сядзібнага тыпу. З 1924 г. планіроўка набыла рэгулярны характар. Былі ўзведзены некалькі грамадска-адміністрацыйных будынкаў, школа, гасцініца, бальнічны гарадок, 8 шматкватэрных жылых дамоў, новы мост цераз р. Случ. Сучасная забудова ажыццяўляецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1971 г. Мінскім абласным філіялам інстытута «Белдзяржпраект» і складзенага ў 1980 г. Інстытутам комплекснага праектавання грамадзянскага будаўніцтва праекта забудовы цэнтра. Асноўная кампазіцыйная вось — вул. Чырвонасцяжная. Адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр склаўся на скрыжаванні вуліц Чырванасцяжнай (будынкі пасялковага Савета народных дэпутатаў, гасцініцы, кінатэатра, універмага, магазінаў і інш.) і Савецкай (Дом быту, аддзяленне сувязі, школа). Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная забудова сканцэнтравана ў цэнтральнай і заходняй частках пасёлка.

У пасёлку торфабрыкетны завод «Старобінскі», дрэваапрацоўчы камбінат, хлебапякарня, прамысловы камбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, інкубатарная станцыя птушкафабрыкі «Салігорская», лясгас. Працуюць сярэдняя і музычная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка, аптэка, санэпідэміялагічная станцыя.

Помнікі: У. І. Леніну; на магілах І. М. Дрызгаловіча, Героя Савецкага Саюза Дз. Ц. Гуляева; савецкім воінам, партызанам і землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Зона адпачынку — берагі р. Случ.

*Літ.:* Жучкевич В. А. Топонимика Белоруссии.— Мн., 1968; яго ж. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974; Alexandrowicz St. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w.— Acta-Baltico-Slavica, Białystok, 1970, № 7. *С. Ф. Цярохін.*

**2415. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Пралетарская. Пахавана каля 400 жыхароў пасёлка, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі летам 1941 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2416. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Чырванасцяжная. Пахавана каля 400 жыхароў пасёлка і савецкіх ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі карнікамі ў жніўні 1941 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2417. МАГІЛА ГУЛЯЕВА** Дзмітрыя Цімафеевіча (гіст., маст.). Вул. Пагранічная, у парку.



2417. *Помнік на магіле Дз. Ц. Гуляева.*



2418. *Помнік на магіле І. М. Дрызгаловіча.*

Герой Савецкага Саюза Дз. Ц. Гуляеў нарадзіўся 23.10.1915 г. у в. Іванаўка Аляксандраўскага р-на Кіравацрадскай вобл. Член КПСС з 1939 г. У 1934 г. скончыў Чаркаскі дарожнабудаўнічы тэхнікум, вучыўся ў Маскоўскім ваенна-палітычным вучылішчы. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. у партызанах, з жніўня 1941 г. камісар атрада імя Я. Дз. Гарбачова. З мая 1942 г. камандзір партызанскага атрада, якому ў верасні 1943 г. нададзена яго імя. З чэрвеня 1943 г. камандзір партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага. Загінуў 5.9. 1943 г. у баі каля в. Панічы Слуцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Імем героя названы вуліца ў Салігорску, школа ў Старобіне, калгас на Любаншчыне.

У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурны партрэт на прамавугольным пастаменце (скульпт. А. Бембель; бетон; вышыня пастамента 2,2 м, бюста 1,2 м).

Валявы адкрыты твар партызанскага камандзіра дадзены энергічнай лепкай з мяккімі святлаценямі. Паварот галавы, шырокі разварот плячэй, выразнасць і дакладнасць пластычнай характарыстыкі падкрэсліваюць духоўную сілу героя.

*Літ.:* Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.
*В. М. Удальцоў, Г. М. Ярмоленка.*

**2418. МАГІЛА ДРЫЗГАЛОВІЧА** Іларыёна Мікітавіча (гіст.). Вул. Савецкая, на тэрыторыі сярэдняй школы.

Удзельнік трох рэвалюцый і Грамадзянскай вайны І. М. Дрызгаловіч нарадзіўся ў 1883 г. у в. Жабін Салігорскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Працаваў на заводах




2419. *Мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і землякам.*



2419. *Мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і землякам. Фрагмент.*

у Кіеве і Пецярбургу, дзе актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйны рух. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. змагаўся на барыкадах на Васільеўскім востраве ў Пецярбургу, у Кастрычніцкую рэвалюцыю ўдзельнік штурму Зімняга палаца. З канца 1917 г. вёў работу па стварэнню атрадаў Чырвонай Арміі на тэрыторыі Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай губерняў. У час акупацыі Старобіншчыны войскамі буржуазнай Польшчы пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі партызанскай барацьбы і падполля. 13.8.1919 г. схоплены ворагамі. Забіты пры спробе ўцячы. Імем І. М. Дрызгаловіча названа вуліца ў Старобіне.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Ванчукевіч В. К. З мандатам Падвойскага.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 2.

*В. М. Удальцоў.*

**2419. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). За 2 км на поўнач ад Старобіна, па шашы Старобін — Салігорск.

У жніўні 1941 г. Старобіншчына (цяпер Салігорскі р-н) была акупіравана нямецка-фашысцкімі войскамі. На захопленай тэрыторыі фашысты ўстанавілі жорсткі рэжым крывавага тэрору, беззаконня, гвалту, грабяжу, загубілі 7846 жыхароў, спалілі 33 вёскі (5 з іх не адрадзіліся пасля вайны), разбурылі і разграбілі 2423 гаспадаркі. Супраць акупантаў пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б у раёне разгарнулася барацьба. На тэрыторыі раёна базіраваліся Пінскія падпольныя абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Старобінскі і Чырвонаслабодскі райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, дзейнічалі партызанскія фарміраванні злучэнняў Мінскай і Пінскай абласцей, выдаваліся падпольныя газеты «Звязда», «Чырвоная змена», «Палеская праўда», «Савецкі патрыёт», «Калгаснік Чырвонаслабодчыны» (пазней «Чырвоная зара»).

2.7.1944 г. у час Беларускай аперацыі злучэнні 20-га стралковага корпуса 28-й арміі (генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) і конна-механізаванай групы генерал-лейтэнанта І. А. Пліева 1-га Беларускага фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі партызанскага злучэння Мінскай вобласці вызвалілі Старобіншчыну.

У 1975 г. з нагоды 30-годдзя перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй і на ўшанаванне памяці 210 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна, і 11 559 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну на франтах, у партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў ці загублены гітлераўскімі карнікамі, узведзены мемарыяльны комплекс (скульпт. В. Грос). Уяўляе сабой прамавугольную ў плане пляцоўку. Галоўны ўваход знаходзіцца паміж гарызантальнымі, франтальна ўстаноўленымі бетоннымі блокамі з аб'ёмнай выявай лічбаў «1941—1945» і стэлай з выявамі галавы жанчыны і воінаў. У завяршэнні цэнтральнай алеі, выкладзенай бетоннымі плітамі, на фоне гарызантальнай сцяны Памяці з імёнамі загінуўшых землякоў — скульптура жанчыны ў жалобе, якая схілілася над загінуўшым байцом. Уздоўж алей пакладзены 4 прамавугольныя пліты з надпісамі-прысвячэннямі.

*Літ.:* Кислый Г. П. На притоках Днепра.— М., 1959; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*А. М. Кулагін, В. М. Удальцоў.*

**2420. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Пагранічнай. На ўшанаванне памяці 283 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць ня-




2420. *Помнік землякам.*



2421. *Помнік У. І. Леніну.*

мецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.
**2421. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**в. Старыя Цярушкі, Зажэвіцкі сельсавет**

**2422. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 104 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Сухая Міля (не існуе), Новацярушскі сельсавет**

**2423. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сухая Міля знаходзілася за 1 км на паўднёвы захад ад в. Загор'е. У ліпені 1942 г. спалена разам з жыхарамі (28 чалавек, 24 двары) нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вёска не адрадзілася. У 1968 г. на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Хадыка (не існуе), Новацярушскі сельсавет**

**2424. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Хадыка знаходзілася за 5 км на паўднёвы захад ад в. Загор'е. У чэрвені 1943 г. спалена разам з жыхарамі (136 чалавек, 23 двары) нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вёска не адрадзілася. У 1968 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Хорастаў, цэнтр сельсавета**

**2425. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 8 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.
**2426. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 56 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**2427. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 5 жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 11.2.1943 г. у час карнай аперацыі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**2428. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫКАНКОМА ХОРАСТАЎСКАГА СЕЛЬСАВЕТА** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1975 г. у гонар выканкома сельсавета, які дзейнічаў з 1942 г. да 1944 г. на вызваленай партызанамі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў тэрыторыі.
**2429. ПОМНІК КАРЖУ** Васілю Захаравічу (гіст.). У скверы.

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, генерал-маёр (1943 г.) В. З. Корж нарадзіўся ў в. Хорастаў Салігорскага р-на 1.1.1899 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. Скончыў Ваенную акадэмію Генштаба (1946 г.). У 1921—25 гг. прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі. З 1925 г. старшыня калгаса ў Слуцкім і Старобінскім р-нах. У 1931—36 гг. у органах НКУС. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны іспанскага народа 1936—39 гг., камандзір інтэрнацыянальнага партызанскага атрада. У 1939—40 гг. дырэктар збожжасаўгаса ў Краснадарскім краі, саўгаса імя Ланге ў Добрушскім р-не на Гомельшчыне. З 1940 г. загадчык сектара Пінскага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну арганізаваў і ўзначаліў адзін з першых на Беларусі партызанскіх атрадаў, які ў ліпені 1941 г.



2429. *Помнік В. З. Каржу.*



2436. *Помнік землякам.*

каля Пінска прыняў бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, восенню 1941 г. сумесна з партызанамі Палесся і Міншчыны прайшоў рэйдам па раёнах Мінскай і Палескай абласцей. В. З. Корж быў членам Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзірам партызанскага злучэння Пінскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. У 1949—53 гг. намеснік міністра лясной гаспадаркі БССР. У 1953—63 гг. старшыня калгаса «Партызанскі край» у Старобінскім р-не. Аўтар успамінаў «Народная барацьба супраць фашысцкіх акупантаў на Піншчыне» [у кн.: «З гісторыі партызанскага руху на Беларусі (1941—1944 гады)», 1961 г.]; «У першыя дні вайны» (у кн.: «Слаўная дачка беларускага народа», 2-е выд., 1962 г.).

Памёр 5.5.1967 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імем В. З. Каржа названы вуліцы ў Мінску, Пінску, Салігорску, школа ў Пінску, калгас на радзіме.

У 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурны партрэт героя.

*Літ.*: Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Г р а х о ў с к і С. Сейбіт дабра і гневу.— Полымя, 1974, № 12; К о р ж Е. С. Вся жизнь — Отчизне.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Цясова, Пагосцкі сельсавет**

**2430. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воін, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў летам 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2431. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 134 землякоў, якія загінулі ў савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. і ў Вялікую Айчынную вайну 1941—45 гг., у 1975 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефам воіна, абапал яе дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Чаланец, Хорастаўскі сельсавет**

**2432. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На сялібе Ф. К. Данілевіча. Пахавана больш за 100 жыхароў вёсак Чаланец, Дубіца і Вейна, якіх 14.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2433. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка ветэрынарнай бальніцы. Пахаваны 50 жыхароў вёскі, якіх 14.2.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2434. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 20 аднавяскоўцаў, якіх у лютым 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2435. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на ўсход ад вёскі, на месцы былога пас. Ямнае. Пахаваны 84 жыхары пасёлка, спаленыя нямецка-фашысцкімі карнікамі 14.2.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2436. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, за 0,5 км па дарозе Чаланец — Рахавічы. На ўшанаванне памяці 149 жыхароў вёсак калгаса «Партызанскі край» імя В. З. Каржа, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1968 г. насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск. Каля падножжа абеліска 4 дошкі з імёнамі загінуўшых.



2437. *Помнік землякам.*

**в. Чапялі, цэнтр сельсавета**

**2437. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 126 землякоў, якія загінулі на



2439. *Пакроўская царква.*

франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам, побач — стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Чыжэвічы, цэнтр сельсавета**

**2438. МАГІЛА ШВАЙКО** Лявонція Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Партыйны работнік, член ЦК КП(б)Б (1932—37 гг.) Л. С. Швайко нарадзіўся ў 1898 г. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў атрадзе «Камарова» (В. З. Каржа). Закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі 28.8.1941 г. Ў 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2439. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва.

Асноўны аб'ём і званіца маюць ярусную кампазіцыю. Да асноўнага аб'ёму далучаны нізкія бакавыя прыбудовы з дадатковымі ўваходамі, да пяціграннай алтарнай часткі — рызніцы. Уваходная частка вылучана бабінцам з навіссю ў выглядзе трохвугольнага франтона на тонкіх строеных калонах. Верхнія ярусы званіцы (васьмігранныя ў плане) і зальная частка храма завершаны шатрамі і купаламі з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. Зальная частка трохсветлавая. У інтэр'еры столь плоская, акрамя цэнтральнай падкупальнай прасторы, дзе чацвярык другога яруса пераходзіць пры дапамозе ветразяў у васьмярык і перакрыты самкнёным гранёным скляпеннем. Хоры над уваходам падтрымліваюцца 2 круглымі слупамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока.

*А. А. Міцянін.*



**2443.** *Помнік землякам.*



**2444.** *Помнік У. І. Леніну.*

**г. п. Чырвоная Слабада**

**2440. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 68 воінаў 20-га стралковага корпуса 28-й арміі і конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 30.6. 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 11 партызан 32-й брыгады імя М. І. Калініна, што загінулі вясной 1944 г. у баях супраць акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і жанчына з вянком.

**2441. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 882 жыхары, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі восенню 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2442. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На будынку кінатэатра. Устаноўлена ў 1961 г. у гонар партызан атрада В. А. Васільева, якія 31.10.1942 г. разграмілі ў пасёлку варожы гарнізон.

**2443. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На пл. Леніна. На ўшанаванне памяці 225 землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**2444. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**в. Язавінь, Зажэвіцкі сельсавет**

**2445. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 29 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**пас. Ямнае (не існуе), Хорастаўскі сельсавет**

**2446. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ПАСЁЛКА** (гіст.). Пасёлак Ямнае знаходзіўся за 5 км на ўсход ад в. Чаланец. Спалены разам з жыхарамі (84 чалавекі) 14.2. 1943 г. у час карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх захопнікаў супраць партызан злучэння Мінскай вобл. Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Яскавічы, цэнтр сельсавета**

**2447. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 5 партызан атрада імя К. Я. Варашылава брыгады імя С. М. Будзённага партызанскага злучэння Пінскай вобл., што аддалі жыццё за Радзіму ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г., і савецкі воін, які загінуў у 1941 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2448. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У 2 магілах пахаваны 305 жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1943 г. У 1948 г. на магілах пастаўлены абеліскі.



**2447.** *Помнік на брацкай магіле партызан і савецкага воіна.*

# СЛУЦКІ РАЁН




Крывая Града
Гацук
Белы Бор
Шышчыцы
Замосце
Жылін Брод
Навінкі
Пакрашава
Грэск
Гольчычы
Ленькі
Маяк
Мусічы
Заполле
Бокшыцы
Амговічы
Стар. Гуткова
Прошчыцы
Вясея
Сярагі
Знамя
Лучнікі
Леніна
Мялешкі
Падлессе
Сорагі
СЛУЦК
Навадворцы
Селішча
Боркі
Лядна
Казловічы
Паўстынь
Кірава
Бялевічы
Вялікая Сліва
Акцябр
Нов. Рачкавічы
Белічы
Чаплічы
Балотчыцы
Ісерна
Танежыцы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Настрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

## XXIX. СЛУЦК

Горад, цэнтр раёна, на р. Случ і яе прытоку р. Бычок. За 105 км на поўдзень ад Мінска. Вузел чыгунак (лініі на Баранавічы, Салігорск, Асіповічы) і аўтамабільных дарог (на Мінск, Брэст, Салігорск, Бабруйск). 54 тыс. жыхароў (1986 г.). Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1116 г. (летапісны Случеск). Быў адным з гарадоў Тураўскага княства. З 1160 г.— цэнтр невялікага ўдзельнага Слуцкага княства, якое ў 1190-я гады канчаткова выдзелілася з Тураўскага княства. У 1320—30-я гады Слуцк увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага. З 1395 г.— цэнтр удзельнага княства, якое належала князю Уладзіміру Альгердавічу і яго нашчадкам князям Алелькавічам, якія валодалі горадам і княствам да 1612 г. У 15 ст. у склад Слуцкага княства ўваходзілі Капыль, Цімкавічы, Любань, Дарогі, Урэчча, Амговічы і інш. населеныя пункты; Слуцк быў буйным феадальным горадам. У 1433 г. з'яўляўся цэнтрам выступлення беларускіх феадалаў на чале з князем Алелькам Уладзіміравічам супраць вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча. У пачатку 16 ст. на Слуцк і яго ваколіцы неаднаразова нападалі крымскія татары. У жніўні 1502 г. атрад татар разрабаваў горад і яго наваколле. Татары асадзілі замак, але авалодаць ім не здолелі. У 1503 г. 6-тысячны іх атрад, што падыйшоў да Слуцка, быў адагнаны і разбіты на р. Прыпяць. У жніўні 1505 г. некалькі дзесяткаў тысяч татар беспаспяхова асаджалі горад. У 1506 г. крымскія татары, што ўварваліся на беларускія землі і зноў спрабавалі авалодаць Слуцкам, былі разбіты 7-тысячным войскам на чале з князем М. Л. Глінскім. У час адступлення ад Клецка татарам нанесены каля Капыля вялікія страты, захоплена многа палонных. У 1508 г. і 1521 г. напады крымскіх татар на Слуцкае княства былі таксама адбіты.

З 1507 г. Слуцкае княства ўвайшло ў Навагрудскі павет Навагрудскага ваяводства, у складзе якога заставалася асобнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай, захоўвала рысы феадальнага ўдзела са сваёй сістэмай кіравання, замкавым судом, феадальным апалчэннем. З 1569 г. у складзе Рэчы Паспалітай.

У 1582 г. Слуцкае княства і Слуцк падзелены паміж братамі Алелькавічамі. Кожны атрымаў адну з трох частак горада (Стары горад, Новы горад і Востраў), што гістарычна склаліся. Стары горад («Старое места») — самая старажытная частка горада — размяшчаўся на правым беразе Случы і быў абкружаны валам. Тут меліся 2 замкі, таксама абкружаныя валам. Новы горад («Новае места») — левабярэжная, паўднёвая частка горада — забудоўваўся пазней. У 16 ст. тут складвалася прамавугольная сетка вуліц з адносна буйнымі кварталамі. Жылыя кварталы забудоўваліся драўлянымі дамамі. Востраў — прадмесце Слуцка — знаходзіўся на паўночны ўсход ад горада. Уніз па цячэнню р. Случ, на правым яе беразе было другое прадмесце — Трайчаны, што ўзнікла як пасяленне вакол Троіцкага (Трайчанскага) праваслаўнага манастыра. Пасля смерці апошняга з братоў Алелькавічаў у 1592 г. усе часткі Слуцка і княства аб'ядналіся і перайшлі да апошняй князёўны з роду Алелькавічаў — Сафіі Юр'еўны, пасля яе смерці — да яе мужа Я. Радзівіла. Князі Радзівілы валодалі горадам у 1612—95 гг. і ў 1744—1832 гг. У 1593 г. у Слуцку каля 7 тыс. жыхароў, 1100 двароў.



XXIX. *Жылыя дамы па вуліцы Леніна.*



XXIX. *План Слуцка канца 18 ст.: 1 — Верхні замак; 2 — Ніжні замак; 3 — гарадскія ўмацаванні; 4 — цытадэль.*

З 1630—40-х гадоў Слуцк — горад-крэпасць замкнутай, авальнай канфігурацыі (плошча 1200×1000 м), умацаваны землянымі валамі і ровам, меў 8 бастыёнаў і 3 равеліны ў паўночнай частцы, 5 бастыёнаў і равелін — у паўднёвай. На ўсходняй ускраіне Слуцка знаходзілася цытадэль (1,1 га, Новы замак), квадратная ў плане, з 4 бастыёнамі па вуглах, абкружаная валам і ровам, які запаўняўся вадой са Случы. Цытадэль злучалася з крэпасцю. Уваход у горад ажыццяўляўся цераз мураваныя брамы з пад'ёмнымі мастамі — Віленскую, Капыльскую і Астроўскую, а таксама драўляную браму — Навамейскую. Пазней авальную канфігурацыю набыла дарога вакол горада.

У 1441 г. Слуцк упершыню атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права. Паступова ўладальнікі горада фактычна скасавалі правы гараджан. Магдэбургскае права было ў другі раз дадзена Слуцку паводле каралеўскага прывілею ад 27.8.1652 г. (зацверджаны сеймам 24.3.1653 г.). Адначасова горад атрымаў герб — на чырвоным полі коннік са шчытом і мячом (так званая «пагоня», старадаўні герб Слуцкага княства). Уладальнік горада князь Б. Радзівіл рознымі нормамі магдэбургскага і хелмінскага гарадскога права, а таксама сваімі граматамі і пастановамі ўводзіў змены ў гарадскім кіраванні. Апошні раз

магдэбургскае права Слуцк атрымаў 9.9.1700 г., хоць заставаліся і некаторыя іншыя прававыя нормы (перш за ўсё граматы і распараджэнні магната і яго эканомаў). У горадзе дзейнічаў магістрат, на чале якога стаяў войт. На дакументах 2-й паловы 17 і 18 ст. ужывалася гарадская пячатка з гербавым знакам — выявай крылатага каня.

6.11.1595 г. Слуцк быў заняты казацкім атрадам Севярына Налівайкі, які ўзняў казацка-сялянскае паўстанне на Правабярэжнай Украіне, а пасля перайшоў на тэрыторыю Беларусі. Пасля няўдалага бою каля Капыля (25 лістапада) казацкага атрада з магнацкім войскам Налівайка 27 лістапада пакінуў Слуцк, адышоў на Палессе, а потым на Магілёў. Казакі захапілі ў слуцкім замку 12 гармат, 80 пішчаляў, 700 мушкетаў, шмат амуніцыі.

У 1630—40-х гадах Слуцк ператвораны ў першакласную на той час крэпасць, вакол яго ўзведзены магутныя фартыфікацыйныя збудаванні. Тут знаходзіўся моцны гарнізон (1048 чалавек у 1659 г.), які быў залічаны ў спісы літоўскага войска, але падпарадкоўваўся толькі князю. Гарнізон складаўся з добра ўзброеных наёмнікаў, зямян і выбранцаў (салдат-пехацінцаў з сялян, «вольных» людзей і дробнай шляхты), якія атрымоўвалі за службу зямлю і былі паселены ў навакольных вёсках Лучнікі, Агароднікі, Серагі, Бранавічы, Варкавічы, Падзеры.

У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. атрады казакоў і паўстаўшых беларускіх сялян пад камандаваннем палкоўніка Я. Сакалоўскага ў жніўні 1648 г. неаднаразова спрабавалі штурмам узяць горад, але 3 верасня ў баі пад Пагостам на Случы пацярпелі паражэнне (загінула больш за 2 тыс. казакоў і сялян) і мусілі адступіць да Турава. Сялянскія хваляванні на Случчыне задушаны ў канцы 1648 г. Пасля гэтых падзей у Слуцку засталося ўсяго 930 «дымоў» (1650 г.). У руска-польскую вайну 1654—67 гг. 20-тысячнае рускае войска пад камандаваннем князя Трубяцкога з 2 да 6 верасня 1655 г. асаджала горад, аднак авалодаць ім не змагло. У другі раз войска Трубяцкога разам з казацкім пад камандаваннем наказнога атамана Залатарэнкі падышло да Слуцка 27 верасня, пасля некалькіх сутычак 30 верасня асада была знята.

Колькасць насельніцтва Слуцка расла, часткова з-за льгот, якія даў князь, каб жыхары не пакідалі горад і каб тут пасяляліся мяшчане з іншых месцаў. У 1667 г. было 1086 «дымоў». З 1617 г. у Слуцку існавала кальвінісцкая гімназія (дзейнічала да 1918 г., з 1868 г. класічная гімназія), была адкрыта і школа для дзяцей мяшчан. У 1661 г. пасля ўвядзення князем падатку з гандлёвага абароту («ліцэнты») адбыліся хваляванні гараджан, у 1684 г.— хваляванні рамеснікаў, выкліканыя злоўжываннямі пры зборы падаткаў. Яны былі задушаны ўладамі, слуцкім цэхам забаронена падаваць скаргі на магістрат.

У 2-й палове 17 ст. Слуцк заставаўся адным з буйнейшых гарадоў Беларусі. У 1683 г. у ім было 8,5—9 тыс. жыхароў, 1403 дамы, рамесных 16 цэхаў і 4 аб'яднанні без правоў цэха. З 1695 г. Слуцк і княства дасталіся ў спадчыну прынцэсе Нейбургскай. На валоданне горадам прэтэндавалі таксама Радзівілы, Сапегі, Патоцкія, Мнішкі і іншыя. Барацьба паміж магнатамі прыпынілася, калі ўспыхнула выкліканае неўраджаем 1695 г. і феадальным прыгнётам сялянскае паўстанне, якое яны разам задушылі. У 1699 г. адбылося выступленне слуцкіх мяшчан супраць багатых гарадскіх вярхоў, войта і членаў магістрата. Гарнізон крэпасці падавіў паўстанне, у 1744 г. зноў былі хваляванні гараджан.

У Паўночную вайну 1700—21 гг. у Слуцку і яго ваколіцах стаялі літоўскія, рускія і шведскія войскі. У 1705 г. адбылася ўзброеная сутычка гараджан з атрадам літоўскага войска, камандаванне якога патрабавала ад жыхароў 13 тыс. злотых на ўтрыманне салдат. Войска Карла XII 11.5. 1706 г., а таксама ў красавіку і маі 1708 г. займала Слуцк і збірала кантрыбуцыі. У 1707, 1711, 1714 гг. у горадзе стаялі рускія войскі, у 1711 г. у Слуцку 3 дні быў Пётр I.

Пры княжацкім двары ў Слуцку ў 1672—1705 гг. працавала друкарня, у якой выдаваліся на польскай мове кнігі на рэлігійныя, ваенныя, геаграфічныя тэмы, мастацкія творы, падручнікі, даведнікі па вядзенню сельскай гаспадаркі. У 1738—55 гг. існавала суконная мануфактура, з 1740-х гадоў — мануфактура шаўковых паясоў князёў Радзівілаў (выпускала паясы, пакрывалы, габелены, дываны, шаўковыя стужкі і інш.). З 1760 г. мануфактурай кіраваў Ян Маджарскі (Аванес Маджаранц, армянскі майстар з Стамбула), пры якім слуцкія шаўковыя паясы з залатымі і сярэбранымі ніткамі атрымалі шырокую вядомасць на Беларусі, у Рэчы Паспалітай і за іх межамі. У 1793 г. на мануфактуры было 28 станкоў і да 60 рабочых. Мануфактура існавала да 1846 г. У сярэдзіне 18 ст. у Слуцку працавала таксама магнацкая палатняная мануфактура.

У 1715—36 гг. існаваў тэатр пры езуіцкай калегіі (заснавана ў 1707 г.), у 1751—60 гг.— пры двары І. Ф. Радзівіла. Княжацкі тэатр меў асобнае памяшканне («камедыхаўз») каля замка.

20.3.1767 г. у Слуцку пры актыўнай падтрымцы Кацярыны II і рускага пасла М. В. Рэпніна арганізавана Слуцкая шляхецкая канфедэрацыя — саюз кальвінісцкай, лютэранскай і праваслаўнай шляхты, што змагалася за ўраўнаванне ў правах з каталіцкай шляхтай. Сейм Рэчы Паспалітай у лютым 1768 г. ураўнаваў правы. У 1767 г. у горадзе 44 вуліцы і завулкі, 929 «дымоў», каля 6 тыс. жыхароў. У сярэдзіне 18 ст. у Слуцку быў моцны вайсковы гарнізон і кадэцкі корпус, што рыхтаваў афіцэраў для радзівілаўскага войска. Да канца 18 ст. эканоміка горада паступова прыйшла ў заняпад. У лістападзе 1791 г. Слуцкае княства ліквідавана. Горад стаў цэнтрам новаўтворанага Случарэцкага павета Навагрудскага ваяводства.

3 студзеня 1793 г. Слуцк у складзе Расіі, павятовы цэнтр Мінскай губерні, па-ранейшаму быў уласнасцю князя Д. Радзівіла, з 1832 г.— князя П. Вітгенштэйна. Гараджане падпарадкоўваліся ў эканамічных адносінах уладальніку, плацілі яму падаткі, у Слуцку знаходзілася княжацкая адміністрацыя. У 1802 г. у горадзе каля 6,4 тыс. жыхароў, 981 «дым».

У Айчынную вайну 1812 г. непадалёку ад Слуцка каля в. Раманава (цяпер в. Леніна) 2 ліпеня адбыўся бой паміж ар'ергардам 2-й рускай арміі — казацкім корпусам пад камандаваннем генерала М. І. Платава і напалеонаўскім 4-м кавалерыйскім корпусам пад камандаваннем В. Н. Латур-Мабура, які панёс значныя страты. 3 ліпеня 1812 г. Слуцк акупіраваны напалеонаўскімі войскамі, насельніцтва абрабавана. Вызвалены рускімі войскамі ў лістападзе 1812 г.

10.12.1846 г. паводле палажэння Камітэта міністраў, зацверджанага царом Мікалаем I, Слуцк і яго ваколіцы з зямлёй выбранецкіх вёсак былі выкуплены ў князя Вітгенштэйна казной за 342 821 рубель серабром, у красавіку 1847 г. адбылася перадача горада дзяржаве.

У 1862—63 гг. адбываліся хваляванні вучняў Слуцкай гімназіі. Каля 30 гімназістаў старэйшых класаў прынялі ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. супраць царызму, што ахапіла Польшчу, Літву і Беларусь. У 1863 г. з гімназіі выключаны або дэманстратыўна пакінулі яе 281 вучань. У лютым 1863 г. у Слуцкім павеце дзейнічаў паўстанцкі атрад Р. Рагінскага, які прыбыў з Польшчы, з вясны 1863 г.— 4 мясцовыя паўстанцкія атрады, у якіх налічвалася да 500 чалавек. Баі з царскімі войскамі ў красавіку 1863 г. каля в. Азерычы вёў паўстанцкі атрад У. Машэўскага, у чэрвені каля в. Макраны — атрад Л. Т. Нарбута. За ўдзел у паўстанні ці падтрымку паўстанцаў улады выслалі са Слуцка 400 чалавек.

Паводле ўсерасійскага перапісу 1897 г. у Слуцку налічвалася 14,3 тыс. жыхароў.

У 1903—04 гг. у горадзе дзейнічала сацыял-дэмакратычная група, з 1905 г.— Слуцкая арганізацыя РСДРП.

Працоўныя прымалі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг., асабліва моцныя выступленні адбыліся ў кастрычніку 1905 г.

У 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг. Слуцкі павет у 1915 г. стаў прыфрантавым, у горадзе размяшчаўся штаб 2-й арміі Заходняга фронту. У 1915 г. да Слуцка даведзена чыгунка з Асіповіч.

У сакавіку 1917 г. створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З ліпеня дзейнічала бальшавіцкая фракцыя Савета. Савецкая ўлада ўстаноўлена 26.10(8.11).1917 г. Быў створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт, арганізаваны атрад Чырвонай гвардыі. У лютым 1918 г. Слуцк быў заняты польскімі легіянерамі Доўбар-Мусніцкага, а праз некалькі дзён войскамі кайзераўскай Германіі. У горадзе дзейнічаў падпольны бальшавіцкі камітэт, на тэрыторыі павета — Слуцкі партызанскі атрад. 15.12.1918 г. Слуцк вызвалены Чырвонай Арміяй. З 10.8.1919 г. да 15.7. 1920 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. У Слуцку дзейнічала камуністычнае падполле, павятовы падпольны камітэт КП(б)ЛіБ, пашырыўся партызанскі рух. У пачатку красавіка 1920 г. у горадзе была арыштавана група бальшавікоў-падпольшчыкаў і партызан, якія сабраліся нелегальна на павятовую нараду, каб абмеркаваць падрыхтоўку паўстання ў Слуцкім павеце, дапамагчы Чырвонай Арміі ў перыяд наступлення. Паводле прыгавору ваенна-палявога суда 25.4. 1920 г. на могілках акупанты расстралялі 14 партызан. 15 ліпеня Слуцк вызвалены партызанамі і часцямі Чырвонай Арміі. У той жа дзень створаны часовы павятовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт, 21 ліпеня — пастаянны рэўком, які правёў вялікую работу па аднаўленні дзейнасці савецкіх устаноў у горадзе і павеце, арганізацыі дапамогі Чырвонай Арміі, наладжванні гаспадаркі. У кастрычніку 1920 г. польскія войскі зноў акупіравалі горад (11.10—29.11.1920 г.). Інтэрвенты падтрымалі антысавецкі эсэра-нацыяналістычны мяцеж, які адбыўся ў Слуцку і павеце ў лістападзе—снежні 1920 г. Прадстаўнікі эсэраў пры падтрымцы кулацтва сабралі 14—15 лістапада ў Слуцку т. зв. «Першы беларускі з'езд Случчыны», які выбраў «Раду Случчыны» з функцыямі часовага ўрада. З эсэраў, беларускіх нацыяналістаў, шляхты, кулакоў, часткі сялян-серадпякоў (уведзеных у падман дэмагагічнымі лозунгамі) была сфарміравана «1-я Слуцкая брыгада» (4 тыс. чалавек), якой акупацыйныя ўлады перадавалі зброю і амуніцыю. 14 лістапада ў г. Рыга, дзе ў гэты час ішлі савецка-польскія перагаворы аб заключэнні міру, было падпісана пагадненне аб вывадзе польскіх войск з савецкай тэрыторыі. 29.11.1920 г. у Слуцк увайшлі часці Чырвонай Арміі. Разам з «Радай Случчыны» «1-я Слуцкая брыгада» адышла ў нейтральную зону, адкуль нападала на чырвонаармейскія часці. Мяцежнікі былі разбіты і выцеснены 28.12.1920 г. з нейтральнай зоны за р. Лань. Паводле ўмоў Рыжскага прэлімінарнага мірнага дагавора 1920 г. мяцежнікі былі раззброены.

У аднаўленчы перыяд (1920-я гады) у Слуцку працавалі невялікія прадпрыемствы харчовай, гарбарнай, лесапільнай, цагельнай, мукамольнай прамысловасці, электрастанцыя. Для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых кадраў адкрыта прафесійна-тэхнічная школа з аддзяленнямі металістаў, дрэваапрацоўшчыкаў і вытворчымі майстэрнямі. Пачалося будаўніцтва новых і рэканструкцыя існуючых прамысловых прадпрыемстваў. У канцы 1926 г. уведзены ў строй новая электрастанцыя (электрыфікаваны ўскраіны горада і навакольныя вёскі), маслабойны завод, новае абсталяванне атрымалі цагельня, мукамольныя заводы «Прагрэс» і «Эканомія». У 1930-я гады ў Слуцку створана МТС, пабудаваны рамонтна-механічны і чарапічны заводы, масласырзавод, мясакамбінат, быў пераабсталяваны мукамольны завод. У 1937 г. прамысловасць Слуцка выпусціла прадукцыі больш як на 16 млн. руб. Добраўпарадкоўвалася тэрыторыя горада: забрукаваны некаторыя вуліцы ў цэнтры, на месцы былога рынку пасаджаны сквер, пабудаваны Дом Саветаў, перад ім на плошчы пастаўлены помнік У. І. Леніну (скульпт. А. Бембель). У 1924—27 і 1935—38 гг. Слуцк цэнтр акругі, адначасова з 1924 г. раённы цэнтр. З 1938 раён увайшоў у склад Мінскай вобласці. У 1939 г. у горадзе 21 947 жыхароў.

26.6.1941 г. Слуцк акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі больш за 11 тыс. жыхароў горада і раёна. З ліпеня 1941 г. у раёне дзейнічалі партызанскія групы і атрады, з кастрычніка 1941 г. да сакавіка 1943 г.— Слуцкае камуністычнае падполле. У пачатку ліпеня 1941 г. партызанскі атрад пад камандаваннем М. І. Жукоўскага напаў на гітлераўскі гарнізон у Слуцку. У час рэйду Мінскага партызанскага злучэння ў сакавіку 1942 г. атрад пад камандаваннем І. М. Тараховіча («Дунаева») зрабіў налёт на Слуцк. На тэрыторыі раёна дзейнічалі міжраённы падпольны камітэт КП(б)Б Слуцкай зоны (жнівень 1942 г.— ліпень 1944 г.), падпольныя райкомы КП(б)Б (29.3. 1943 г.— 30.6.1944 г.) і ЛКСМБ (1.9. 1942 г.— 30.6.1944 г.). Выходзілі падпольныя газеты: з студзеня 1943 г. «Патриот Родины» — орган Слуцкага міжрайкома КП(б)Б, з красавіка 1943 г. «Народны мсцівец» — орган Слуцкага РК КП(б)Б. На тэрыторыі раёна дзейнічалі партызанскае злучэнне Слуцкай зоны, брыгады 95-я імя М. В. Фрунзе, 64-я імя В. П. Чкалава, 225-я імя А. В. Суворава, 100-я імя С. М. Кірава. Горад вызвалены 30.6. 1944 г. часцямі конна-механізаванай групы (камандуючы генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) і 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) 1-га Беларускага фронту. 13 вайсковым часцям і злучэнням, якія вызначыліся пры вызваленні Слуцка, нададзены ганаровыя найменні «Слуцкіх». У вызваленні горада прымалі ўдзел партызаны.

Пасля вайны Слуцк адбудаваны. У 1944—54 гг. раённы цэнтр у Бабруйскай вобласці. У 1959 г. было 22,7 тыс., у 1970 г.— 35,6 тыс. жыхароў.

Першы план забудовы горада распрацаваны ў 1823 г. Паводле яго горад фарміраваўся з 2 частак, падзеленых ракой — кампазіцыйнай яго воссю. План прадугледжваў упарадкаванне вулічнай сеткі, будаўніцтва новых мураваных дамоў, зліццё цэнтра з ускраінамі.

Генеральныя планы Слуцка распрацаваны ў 1937—40 гг., 1947 г., 1962 г. (усе інстытутам «Белдзяржпраект»); карэкціроўка апошняга ў 1970—71 гг. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Планіровачная структура горада, што склалася гістарычна, значна змянілася. Асноўная забудова вялася ўздоўж вуліц, якія з'ўляліся ўездамі ў горад з боку Мінска і Бабруйска, гэта вызначыла яго працягласць (каля 11 км) з захаду на ўсход. Сучасная забудова вядзецца паводле генеральнага плана 1977 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) і праекта дэталёвай планіроўкі 1978 г. (Інстытут комплекснага праектавання грамадзянскага будаўніцтва Мінскага аблвыканкома). Горад развіваецца ва ўсходнім напрамку. Асноўныя вуліцы — Леніна, К. Лібкнехта, Валадарскага, Урыцкага, 14 Партызан, Мінская шаша. У цэнтральнай частцы горада планіровачная структура радыяльна-кальцавая, у прылеглых да цэнтра — прамавугольная сетка вуліц. Галоўная кампазіцыйная вось — вул. Леніна, забудавана пераважна 5-павярховымі дамамі. Тут размешчаны будынкі кінатэатра, гасцініцы, магазінаў, рэстарана, камбіната бытавога абслугоўвання, краязнаўчага музея і інш. На скрыжаванні вул. Леніна, Валадарскага і Урыцкага — цэнтральная плошча, дзе склаўся адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр. Тут размешчаны будынак гар- і райвыканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, гаркома КПБ, помнік У. І. Леніну, універмаг, Дом сувязі, Дом культуры, 3—4-павярховыя жылыя дамы з магазінамі на першых паверхах. У 1960-я гады ў Слуцку вялося 4—5-павярховае жыллёвае будаўніцтва па вул. Леніна, Са-

цыялістычнай, Гагарына, К. Лібкнехта. З 1970-х гадоў забудоўваюцца мікрараёны па вул. Урыцкага — Жукава, Валадарскага — Чайкоўскага, Камсамольскай, паміж вул. Леніна і 14 Партызан з 5—9-павярховымі жылымі дамамі. На ўскраінах пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. Вытворчая зона размешчана ў паўднёва-ўсходняй і паўднёва-заходняй частках горада. Прадугледжана развіццё горада на ўсход і паўночны захад, фарміраванне заходняга, цэнтральнага, усходняга і паўднёва-ўсходняга планіровачных раёнаў, рэканструкцыя грамадскага цэнтра.

Развіваецца машынабудаванне і металаапрацоўка, прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, лёгкая і харчовая, дрэваапрацоўка. Працуюць заводы сантэхабсталявання, аўтарамонтны, «Эмальпасуда», ільнозавод, сельскі будаўнічы камбінат, завод жалезабетонных вырабаў, фабрыкі мэблевая, фарбавальна-прадзільная, мастацкіх вырабаў, цукрова-рафінадны і кансервавы заводы, макаронная фабрыка, мясакамбінат, хлебакамбінат, сыраробны камбінат, піўзавод і інш.

У Слуцку ёсць медыцынскае вучылішча, прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, тэхнічныя вучылішчы харчавікоў, металістаў, 11 сярэдніх, у т. л. 1 вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 21 дашкольная ўстанова, Дом піянераў і школьнікаў, 2 кінатэатры, 3 дзяржаўныя масавыя бібліятэкі, краязнаўчы музей і інш. Выходзіць газета «Шлях Ільіча» — орган Слуцкага гаркома КПБ, раённага і гарадскога Савета народных дэпутатаў. Помнікі: У. І. Леніну; у гонар 20-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй; у гонар 50-годдзя Савецкай улады; на брацкай магіле 14 партызан, расстраляных польскімі інтэрвентамі ў 1920 г.; вызваліцелям; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на магіле Героя Савецкага Саюза В. А. Леваняна. Зберагліся помнікі архітэктуры: Міхайлаўская царква (18 ст.), будынкі былых дваранскага сходу, мужчынскай гімназіі, духоўнага вучылішча (усе 19 ст.).

Зона адпачынку — парк культуры і адпачынку, берагі р. Случ.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Зельтен Н. А. Архитектура и планировка малых городов Белоруссии.— Мн., 1968; Грицкевич А. П. Слуцк: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970; яго ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; яго ж. Гісторыя куплі Слуцка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 4; яго ж. Древний город на Случи.— Мн., 1985.

*А. П. Грыцкевіч, А. А. Міцянін.*



2452. *Мемарыяльны комплекс на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан, ваеннапалонных і мірных жыхароў.*

**2449. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Камсамольская. Пахаваны 14 партызан Грамадзянскай вайны, расстраляных польскімі акупантамі ў 1920 г. і камандзір атрада імя 14 Слуцкіх партызан брыгады імя В. П. Чкалава М. Д. Бялько, які загінуў у 1944 г. у Вялікую Айчынную вайну.

У жніўні 1919 г. войскі буржуазнай Польшчы акупіравалі Слуцк. У красавіку 1920 г. акупанты арыштавалі ў горадзе групу партызан, якія сабраліся нелегальна на павятовую нараду. Адначасова праводзіліся арышты ў павеце. Усяго перад польскім ваеннапалявым судом стала 26 чалавек, у т. л. 3 польскія салдаты-камуністы, што дапамагалі слуцкім падпольшчыкам здабываць зброю для партызан і вялі камуністычную прапаганду сярод салдат. 24.4.1920 г. 14 арыштаваных прыгаворана да пакарання смерцю, 12 — да катаргі. 25 красавіка на гарадскіх могілках акупантамі расстраляна 14 чалавек: партызаны М. Бычэнка, Н. Бянько, Я. Грачук, С. Красуцкі, М. Рэутовіч, П. Саладуха, А. Сімановіч, П. Сцепановіч, Максім Тышкевіч, Мікалай Тышкевіч, Міхаіл Тышкевіч і польскія салдаты М. Емяльянчык, А. Камінскі, П. Ярмаліцкі. Іх астанкі ў 1922 г. перапахаваны ў брацкай магіле на вул. Шырокай (цяпер Камсамольская). Імем 14 партызан названа вуліца ў Слуцку.



2451. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

У Вялікую Айчынную вайну ў складзе партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава дзейнічаў атрад імя 14 Слуцкіх партызан (створаны ў жніўні 1943 г.). Камандзір атрада М. Д. Бялько, былы кіраўнік падпольнай групы, якая дзейнічала ў Слуцкім р-не з студзеня 1942 г., загінуў у красавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў каля в. Баянічы на Любаншчыне.

У 1926 г. на магіле пастаўлены абеліск (разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.). Новы помнік пастаўлены ў 1970 г.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2450. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках. Пахаваны 340 воінаў 28-й арміі і конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Слуцка. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2451. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 14 партызан, на могілках. Пахаваны 13 воінаў, у т. л. воіны 32-га гвардзейскага палка і 30-га гвардзейскага кавалерыйскага палка, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г.



2452. *Мемарыяльны комплекс на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан, ваеннапалонных і мірных жыхароў. Скульптура «Воін».*

пры вызваленні Слуцка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2452. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН, ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках. Пахаваны 14 тыс. чалавек, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у т. л. воіны Чырвонай Арміі, партызаны і мірныя жыхары, а таксама ваеннапалонныя канцэнтрацыйнага лагера, што знаходзіўся па вуліцы К. Лібкнехта. У 1984 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых створаны мемарыяльны комплекс (скульптар К. Сарока, архітэктар У. Кузьменка; бетон, мармуровая крошка; вышыня скульптуры «Воін» 7 м). Уключае 3 брацкія магілы, скульптуру воіна са звязкай гранат, манументальную браму з барэльефнымі выявамі, што адлюстроўваюць эпізоды баёў.

**2453. БУДЫНАК ДВАРАНСКАГА СХОДУ** (архіт.). Вул. Ленінская, 171. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны краязнаўчы музей.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём на высокім цокалі накрыты вальмавым дахам. Архітэктура экстэр'ера лаканічная, дэкаратыўная распрацоўка стрыманая. Архітэктурна-пластычным акцэнтам будынка з'яўляецца чатырохкалонны порцік, якім вылучаны галоўны ўваход. Папарна ўстаноўленыя калоны падтрымліваюць драўляны трохвугольны франтон і антаблемент. Галоўны фасад у бакавых частках раскрапаваны руставанымі лапаткамі.

Планіроўка будынка зменена, прыстасавана да музейнай экспазіцыі. Пад домам — скляпеністыя падвалы.

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**2454. БУДЫНАК ДУХОЎНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. К. Лібкнехта, 45. Пабудаваны ў 1767 г. з цэглы. Цяпер тут медыцынскае вучылішча.

Двухпавярховы П-падобны ў плане будынак з невялікімі бакавымі рызалітамі з боку галоўнага фасада. Сцены падзелены міжпаверхавым прафіляваным поясам і раўнамерна прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, якія на першым паверсе дэкарыраваны простымі ліштвамі, на другім — кранштэйнамі і тонкімі сандрыкамі. Над цэнтральнай часткай галоўнага фасада, упрыгожанага плоскімі пілястрамі, ступеньчаты атык. Дах двухсхільны. Рызаліты завершаны трохвугольнымі франтонамі.

Унутраная планіроўка калідорная, з аднабаковым размяшчэннем пакояў. Столь плоская. У цэнтральнай частцы двухмаршавая лесвіца, такія ж лесвіцы ў кожным крыле будынка.

Будынак — прыклад грамадскіх збудаванняў, у архітэктуры якіх адлюстраваўся ўплыў позняга класіцызму. *А. А. Міцянін.*



2453. *Будынак былога дваранскага сходу. Галоўны фасад.*




2453. *Будынак былога дваранскага сходу. План.*



2454. *Будынак былога духоўнага вучылішча.*




2454. *Будынак былога духоўнага вучылішча. План 1-га паверха.*

**2455. БУДЫНАК МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ** (гіст., архіт.). Вул. Камсамольская, 7. Цяпер у будынку сярэдняя школа № 1.

Будынак гімназіі пастаўлены ў 1852—54 гг. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём накрыты вальмавым дахам. Пластыка фасадаў стрыманая. Па перыметры будынка праходзяць прафіляваны карніз з сухарыкамі і міжпаверхавы паясок. У цэнтры галоўнага фасада ўваход вылучаны імпастам і вузкімі аконнымі праёмамі па баках, якія абрамлены пілястрамі. На другім паверсе, над уваходам вузкія строеныя прамавугольныя вокны, дэкарыраваны пілястрамі і аб'яднаныя шырокім сандрыкам у выглядзе трохвугольнага франтона.

Планіроўка будынка калідорная. У цэнтры размешчана трохмаршавая лесвіца. На другім паверсе, за лесвічным холам, вялікі вестыбюль, аддзелены ад калідора 2 парамі калон. Столь у цэнтральнай частцы калідора другога паверха расчлянёна ўзбуйненымі кесонамі, у астатніх памяшканнях — плоская.

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

Мемарыяльная дошка ў гонар 350-годдзя гімназіі.

Устаноўлена ў 1967 г. Гімназія заснавана 20.5.1617 г. князем Я. Радзівілам як кальвіністцкая (з 1788 г. публічнае евангелісцкае вучылішча, з 1809 г. паветавае вучылішча, з 1827 г. гімназія, з 1868 г. класічная гімназія), якая спачатку рыхтавала духоўных асоб — прапаведнікаў рэфармацыйнага веравучэння і настаўнікаў. Тэрмін навучання 6—8 гадоў. У гімназію прымалі дзяцей шляхты, гараджан, часам сялян. Вывучалі закон божы, лацінскую, польскую (да 1863 г.), нямецкую, грэчаскую, рускую (з 1802 г.) мовы, рыторыку, этыку, гісторыю, законазнаўства, матэматыку. Вучням давалі грунтоўныя веды, што дазволіла многім выпускнікам паступіць у еўрапейскія універсітэты. У час паўстання 1863—64 гг. у гімназіі адбыліся рэвалюцыйныя хваляванні, за што былі сасланы ў Сібір выкладчыкі геаграфіі Л. А. Дамброўскі, матэматыкі Ф. А. Міладоўскі, урач К. І. Францкевіч, арыштаваны інспектар У. Ф. Герман. У 1870-я гады ў гімназіі існаваў нелегальны гурток палітычнай самаадукацыі. У 1905 г. гімназісты прымалі ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях. Выхаванцамі гімназіі былі рэвалюцыянеры І. І. Маладзецкі, што здзейсніў замах у 1879 г. на шэфа жандараў М. Т. Лорыс-Мелікава, П. У. Карповіч, які ў 1901 г. у знак пратэсту супраць палітыкі жорсткіх рэпрэсій у дачыненні да рэвалюцыйнага студэнцтва смяротна параніў рэакцыйнага міністра асветы М. П. Багалепава. Гімназію скончылі філосаф і паэт Я. Белабоцкі, асветнік І. Капіевіч, пісьменнікі А. Пяткевіч (Адам Плуг), А. Абуховіч, Я. Дыла, прафесары: медыцыны Г. Кулакоўскі, А. Красоўскі, І. Няшкоўскі, матэматыкі М. Робуш, астраноміі В. Цэраскі, заалогіі А. Фядзюшын і інш.



2455. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. Галоўны фасад.*




2455. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. План 1-га паверха.*

*Літ.:* Глебов П. А. Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617—1630—1901 гг.— Вильна, 1903; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Грицкевич А. П. Слуцк: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970; яго ж. Древний город на Случи.— Мн., 1985; Родчанка Р. В. Старэйшая школа Беларусі.— Мн., 1985. *А. А. Міцянін, А. Г. Шчарбатаў.*

**2456. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры горада, на правым беразе р. Случ, у месцы ўпадзення ў яе р. Бычок. Уяўляе сабой рэшткі старажытнага Слуцка, складаецца з дзядзінца і вакольнага горада. Плаціроўка падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Дзядзінец займае авальны ўзгорак памерам 80×100 м, які ўзвышаецца над поймай р. Случ на 5 м. Паверхня і схілы яго здзірванелі, схіл да р. Бычок пашкоджаны ў 1969 г. пры пракладцы каналізацыі, у заходняй частцы ў 1950-я гады пабудаваны клуб. Вакольны горад памерам 40—80×150 м знаходзіцца каля паўночна-ўсходняй ускраіны дзядзінца і аддзелены ад яго ровам, тэрыторыя занята аднапавярховымі і шматпавярховымі будынкамі. Даследавалі ў 1957 г. Э. М. Загарульскі, у 1966 г. П. Ф. Лысенка. У 2 шурфах памерам 3×1 м і 6×6 м выяўлены культурны пласт 4,2 м, які добра захаваў рэчы арганічнага паходжання. Знойдзены прылады працы (каса, сашнік, долата, пажы, нажніцы, 37 прасліц, верацёны), рэчы бытавога ўжытку (замкі, ключы, падкоўкі, спражкі, брускі, вядзёрныя абручы, скобы, цвікі), прадметы рыштунку воіна і каня (цуглі, наканечнікі стрэл), упрыгожанні (адзін металічны і 146 фрагментаў шкляных бранзалетаў), рэшткі скуранай і ганчарнай вытворчасці, жалезаапрацоўчага і касцярэзнага рамяства, косці свойскіх і дзікіх жывёл, пісала 12—13 стагоддзяў. У раскопе прасочаны рэшткі 8 будаўнічых ярусаў (рэшткі будынкаў і насцілаў). Бярвенні пабудоў 6—7 ярусаў (на глыбіні 2,2—2,8 м) дэндрахраналагічным метадам датаваны 1231—34 гг. Дзядзінец быў забудаваны наземнымі аднакамернымі дамамі зрубнай канструкцыі. Прасочаны рэшткі земляных абарончых умацаванняў з драўлянымі канструкцыямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Слуцкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974. *П. Ф. Лысенка.*

**2457. ДОМ КУЛЬТУРЫ** (архіт.). У цэнтры горада, у скверы, па вул. Вялікая Горка. Пабудаваны ў 1940—47 гг. з цэглы.

Сіметрычны прамавугольны ў плане будынак, галоўным фасадам павернуты ў бок вуліцы. Двухпавярховы ў франтальнай частцы аб'ём пераходзіць у аднапавярховы з боку дваровага фасада. Накрыты аднасхільным дахам. Двухпавярховы аб'ём фланкіраваны 2 рызалітамі лесвічных клетак. Галоўны фасад вырашаны неглыбокай галерэяй з каланадай іанічнага ордэра. Цэнтральны ўваход вылучаны высокай арачнай нішай і антаблементам. Дваровы, больш выцягнуты ў плане аднапавярховы аб'ём будынка мае з кожнага вугла самастойныя ўваходы ў выглядзе лоджый. У пластыцы дваровага і бакавых фасадаў выкарыстаны нішы, атык, паўкалоны.

Планіроўка першага паверха анфіладная, другога калідорная, з аднабаковым размяшчэннем пакояў для заняткаў гурткоў. Галоўны вестыбюль падзелены па даўжыні шэрагам калон іанічнага ордэра. Столь фае расчлянёна ўзбуйненымі кесонамі.

Дом культуры — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. А. Міцянін.*




2456. *Гарадзішча. План.*

**2458. МАГІЛА АБУХОВІЧА** Альгерда Рышардавіча (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках.

Беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры А. Р. Абуховіч (літаратурны псеўданім Граф Бандынэлі) нарадзіўся 25.7.1840 г. у в. Калацічы (Глускі раён) у памешчыцкай сям'і. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі, потым у Жэневе, Парыжы. Паводле некаторых звестак, удзельнік паўстання 1863—64 гг., быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Пасля вяртання на радзіму жыў і працаваў у сваім маёнтку, які ў 1880-х гадах вырашыў перадаць сялянам. Аднак пагрозы сваякоў вымусілі яго кінуць маёнтак і пераехаць у Слуцк, дзе ён працаваў рэпетытарам.

Літаратурную дзейнасць А. Р. Абуховіч пачаў у 1850—60 гады. Быў адным з пачынальнікаў (разам з Ф. Багушэвічам) жанру байкі ў беларускай літаратуры. Валодаў замежнымі мовамі. Перакладаў на родную мову творы Дантэ, І. В. Гётэ, Ф. Шылера, В. Гюго, Дж. Байрана, А. Пушкіна, М. Лермантава, І. Крылова, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, У. Сыракомлі і інш. Абменьваўся рукапіснымі творамі з У. Сыракомлем (Кандратовічам). Пакінуў пасля сябе ў рукапісах арыгінальныя творы, большасць якіх загінула ў час пажару. Пры жыцці пісьменніка яго творы распаўсюджваліся ў рукапісах. Пазней былі надрукаваны ў «Беларускім календары на 1915 год» — байкі «Ваўкалак» і «Старшына», у «Беларускіх ведамасцях» і школьных чытанках — байкі «Суд», «Воўк і лісіца», у Віленскай газеце «Гоман» (1916 г.) — «Дума а Каралю XII» і фрагменты з мемуараў. У мемуарах каларытныя замалёўкі з жыцця беларускай шляхты канца 18—19 стагоддзяў. Аўтар спачувальна апісвае бяспраўнае становішча сялян, прыводзіць факты барацьбы беларускага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Вострым сацыяльным гучаннем напоўнены алегарычныя вобразы яго баек, у якіх услаўляецца свабода. Памёр А. Р. Абуховіч 10.8.1898 г.

У 1898 г. устаноўлена надмагілле.

*Літ.:* Кулеша Т. Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч.— Беларусь, 1958, № 3; Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя.— 2 выд.— Мн., 1959; Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў.— Мн., 1977; Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1984.

*Р. В. Родчанка.*




**2457.** *Дом культуры. План 1-га паверха.*



**2457.** *Дом культуры. Галоўны фасад.*

**2459. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад мукамольнага камбіната. Пахаваны 3 тыс. мірных жыхароў, якіх на гэтым месцы расстралялі 8.2.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2460. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках. Пахаваны 8 членаў сям'і Слухоўскіх: бацька Уладзімір Мікалаевіч (38 гадоў), маці Рэгіна Іванаўна (36 гадоў) і дзеці — Іван (17 гадоў), Міхаіл (14 гадоў), Ганна (10 гадоў), Соф'я (7 гадоў), Надзея (4 гады), Марыя (2 гады), якіх закатавалі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі 23.2. 1943 г. у в. Руднаўка. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2461. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках. Пахаваны закатаваныя нямецка-фашысцкімі акупантамі члены сям'і Нікольскіх: Аляксандр Міхайлавіч (у 1942 г.), Яніна Аляксандраўна (1943 г.), Марыя Францаўна (1944 г.). У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2462. МАГІЛА КОЗЕЛА** Васіля Паўлавіча (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы В. П. Козел нарадзіўся 31.7.1890 г. у в. Кляпчаны Слуцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У 1932—37 гг. і ў 1949—68 гг. старшыня калгаса «1 Мая». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 30.4.1966 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак лёну. Член ЦК КПБ у 1954—60 гг. Памёр В. П. Козел 7.11.1980 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — на высокім пастаменце скульптурны партрэт В. П. Козела.

*Літ.:* Твае героі, Случчына.— Мн., 1982; Кулакоўскі А. Васіль Паўлавіч, мой зямляк.— Полымя, 1961, № 8.

*А. Г. Шчарбатаў.*



**2463.** *Помнік на магіле В. А. Леваняна.*

**2463. МАГІЛА ЛЕВАНЯНА** Вайка Амаякавіча (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках.

Герой Савецкага Саюза В. А. Леванян нарадзіўся 15.6.1923 г. у с. Гнішык Ехегнадзорскага р-на Армянскай ССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Пасля сканчэння Ерэванскага педагагічнага тэхнікума (1940 г.) працаваў загадчыкам раённага Дома піянераў. У Вялікую Айчынную вайну з снежня 1941 г. на фронце. Прымаў удзел у вызваленні Беларусі. Камандзір процітанкавай гарматы старшы сяржант В. А. Леванян вызначыўся 30.4.1945 г. у баях за Берлін. Яго разлік адбіў 14 варожых контратак, знішчыў 2 танкі, 2 бронетранспарцёры і каля 130 гітлераўцаў. Калі скончыліся боепрыпасы, уступіў у рукапашны бой і выйшаў з акружэння. Загінуў В. А. Леванян 26.6.1945 г. пры выкананні задання камандавання. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Яго імем названы вуліцы ў Слуцку і ў раённым цэнтры на радзіме.

У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**2464. МАГІЛА МАГЛЫШ** Надзеі Якаўлеўны (гіст.). Вул. 14 Партызан, на могілках.

У Вялікую Айчынную вайну Н. Я. Маглыш была членам падпольнай патрыятычнай маладзёжнай групы П. Я. Маглыша (брата Н. Я. Маглыш), што дзейнічала ў складзе Слуцкага камуністычнага падполля. Працавала медсястрой у Слуцкай бальніцы, забяспечвала партызан медыкаментамі, распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро. У 1943 г. забіта пры арышце.

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2464. *Помнік на магіле Н. Я. Маглыш.*

**2465. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖУКАВУ** Георгію Канстанцінавічу (гіст.). Вул. Талстога, 26. Устаноўлена ў 1984 г. на доме, дзе ў 1936—37 гг. жыў разам з сям'ёю Г. К. Жукаў.

Савецкі ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза (1943 г.), чатыры разы Герой Савецкага Саюза (1939, 1944, 1945, 1956 гг.), Герой МНР (1969 г.) Г. К. Жукаў нарадзіўся 19.11.1896 г. у в. Стралкоўка Угодска-Заводскага р-на (цяпер Жукаўскі р-н) Калужскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. З 1915 г. у арміі, удзельнік 1-й сусветнай і Грамадзянскай войнаў. З кастрычніка 1918 г. у Чырвонай Арміі, камандзір эскадрона. Скончыў у 1920 г. Разанскія кавалерыйскія курсы, у 1925 г. курсы ўдасканалення камсаставу кавалерыі, у 1930 г. курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу. Камандаваў кавалерыйскім палком, брыгадай, дывізіяй, корпусам. У 1933—37 гг.— камандзір 4-й кавалерыйскай дывізіі, якая дыслацыравалася ў Слуцку. У 1938—39 гг. намеснік камандуючага войскамі Беларускай асобай ваеннай акругі. У 1939 г. камандуючы 1-й армейскай групай савецка-мангольскіх войск, якая разграміла японскіх агрэсараў на р. Халхін-Гол (МНР). У 1940 г. камандуючы войскамі Кіеўскай асобай ваеннай акругі. У студзені — ліпені 1941 г. начальнік Генеральнага штаба і намеснік наркома абароны СССР. У Вялікую Айчынную вайну 1941—45 гг. з 23.6.1941 г. член Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання, з жніўня 1942 г. 1-ы намеснік наркома абароны СССР і намеснік Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Удзельнічаў у распрацоўцы планаў буйнейшых аперацый па разгрому нямецка-фашысцкіх войск. Камандаваў войскамі Рэзервовага, Ленінградскага, Заходняга, 1-га Украінскага франтоў. Адзін з кіраўнікоў абароны Масквы і разгрому нямецка-фашысцкіх войск пад Масквой. Як прадстаўнік Стаўкі каардынаваў дзеянні франтоў у Сталінградскай бітве 1942—43 гг., пры прарыве блакады Ленінграда (1943 г.), у Курскай бітве 1943 г., Беларускай аперацыі 1944 г. і інш. Камандаваў войскамі 1-га Беларускага фронту, якія прымалі ўдзел у Вісла-Одэрскай аперацыі і разам з войскамі 2-га Беларускага і 1-га Украінскага франтоў ажыццявілі Берлінскую аперацыю, узялі ў маі 1945 г. Берлін. Па даручэнню Савецкага ўрада і па ўпаўнаважанню Вярхоўнага Галоўнакамандавання прыняў (разам з прадстаўнікамі Вярхоўнага Камандуючага Экспедыцыйнымі сіламі Саюзнікаў) у Карлсхорсце (Берлін) у ноч на 9.5.1945 г. безагаворачную капітуляцыю фашысцкай Германіі. Пасля вайны на камандных пасадах у Савецкай Арміі. З сакавіка 1953 г. першы намеснік міністра, у 1955—57 гг. міністр абароны СССР. Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1941—46 гг. і 1952—53 гг., член ЦК КПСС у 1952—57 гг., кандыдат у члены, член Прэзідыума ЦК КПСС у 1956—57 гг., Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1941—58 гг. Аўтар мемуараў. Памёр Г. К. Жукаў 18.6.1974 г. Пахаваны на Краснай пл. каля Крамлёўскай сцяны. У с. Жукава (былое с. Угодскі Завод) Калужскай вобл. устаноўлены бюст, Угодска-Заводскі р-н перайменаваны ў Жукаўскі. Імя Г. К. Жукава прысвоена Ваеннай каманднай акадэміі ППА, калгасу ў Калужскай вобл., яго імем названы вуліцы ў Маскве, Ленінградзе, Мінску, Гомелі, Слуцку і інш. гарадах.

*В. С. Паваліхіна.*

**2466. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРЭЙНЕСУ** Іосіфу Вульвавічу (гіст.). Вул. Леніна, 171. Устаноўлена ў 1957 г. на будынку краязнаўчага музея, дзе ў першыя гады Савецкай улады знаходзіўся Камуністычны клуб імя І. В. Крэйнеса.

Удзельнік рэвалюцыйнага руху І. В. Крэйнес нарадзіўся ў Слуцку ў 1891 г. у сям'і служачага. Член РСДРП(б) з 1917 г. Экстэрнам здаў экзамены за 8 класаў камерцыйнага вучылішча, вучыўся на медыцынскім факультэце Кёнігсбергскага універсітэта, апошнія курсы — у Маскве. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны вярнуўся ў Расію. Уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу, з'яўляўся членам ваеннай арганізацыі бальшавікоў пры Маскоўскім камітэце партыі. Накіраваны на Заходні фронт, працаваў урачом у шпіталях Баранавіч, Слуцка. У Слуцку вёў актыўную рэвалюцыйную работу, у выніку якой частка членаў Слуцкай арганізацыі РСДРП перайшла на пазіцыі бальшавікоў, займаўся антываеннай прапагандай сярод салдат. Дэлегат II Усерасійскага з'езда Саветаў [25—27.10(7—9.11).1917 г.] ад салдацкага камітэта адной з дывізій Заходняга фронту. Працаваў у Маскве. Вясной 1918 г. па дарозе на дзяжурства ў Маскоўскі Савет забіты контррэвалюцыйнымі афіцэрамі.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2467. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАГЛЫШУ** Пятру Якаўлевічу (гіст.). Вул. П. Маглыша, 15. Устаноўлена ў 1984 г. на доме, дзе ён жыў.

Камсамолец П. Я. Маглыш у пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў параненны ў баі, трапіў у палон, уцёк і вярнуўся ў Слуцк. Са снежня 1941 г. узначаліў групу савецкіх патрыётаў, якая пад канец 1942 г. налічвала 20 чалавек. У групу ўваходзілі Я. Д. Маглыш, Н. Я. Маглыш, А. Ф. Баркоўскі, П. А. Трухан, В. С. Літоўкін, Я. Рагожын, М. Б. Барысік, Ф. С. Пенязь і інш. Група дзейнічала ў складзе Слуцкага камуністычнага падполля. Падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з партызанскімі атрадамі В. З. Каржа, імя В. І. Чапаева.

У доме, дзе жыла сям'я Маглышаў, праходзілі сходы падпольшчыкаў, сустрэчы з партызанскімі сувязнымі. Тут жа слухалі звесткі Саўінфармбюро, рамантавалі зброю, рабілі міны. З дапамогай патрыётаў партызаны захапілі банк у Слуцку і вывезлі нарабаваныя фашыстамі каштоўнасці, якія былі перададзены ў фонд абароны краіны, і на іх потым пабудавана авіяэскадрылля «Партызан Слуцка». Падпольшчыкі спалілі склад мэблевай фабрыкі, 32 аўтамашыны, вывелі са строю мукамольны завод, у снежні 1942 г. і ў пачатку 1943 г. пераправілі да партызан 127 савецкіх ваеннапалонных. У канцы зімы — пачатку вясны 1943 г. члены падпольнай арганізацыі былі арыштаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі. 26.3.1943 г. па дарозе ў Мінск арыштаваныя напалі на канвой і спрабавалі ўцячы, П. Я. Маглыш быў забіты.

*Літ.:* Грыцкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн., 1985.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2468. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 187. Устаноўлена ў 1965 г. у памяць аб баявых дзеяннях партызан. У ліпені 1941 г. у акупіраваны нямецка-фашысцкімі войскамі горад уварваліся партызаны Чырвонаслабодскага атрада пад камандаваннем М. І. Жукоўскага. Яны знішчылі варожую камендатуру, склады, вывелі са строю тэлеграф, вызвалілі вялікую групу савецкіх ваеннапалонных, раздалі прадукты са складоў насельніцтву.

**2469. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 191. Устаноўлена ў 1963 г.

26.6.1941 г. 2 савецкія воіны-артылерысты прынялі няроўны бой з фашыстамі, якія ўварваліся на заходнюю ўскраіну горада. Прамой наводкай з гарматы артылерысты падбілі 3 бронетранспарцёры і знішчылі каля 50 гітлераўцаў. Калі скончыліся снарады, чырвонаармейцы працягвалі весці агонь па праціўніку з кулямёта. Загінулі ў гэтым баі.

**2470. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АНТЫФАШЫСЦКАЙ ГРУПЫ** (гіст.). Вул. Валадарскага, 136. Устаноўлена ў 1974 г.

У Вялікую Айчынную вайну з снежня 1941 г. на Слуцкім масласырзаводзе дзейнічала антыфашысцкая група. Кіраўнік Д. І. Шышкін. У яе склад уваходзілі А. І. Асвяцімскі, С. С. Сідарэнка, А. Шышкіна, М. Сідарэнка, А. Калацілкіна, Б. А. Лічман, Паддымава. Група была звязана з Амговіцкай падпольнай арганізацыяй, праз яе членаў у 1943 г. устанавіла сувязь з партызанскім атрадам імя М. А. Астроўскага 225-й брыгады імя А. В. Суворава. Выконваючы заданне камандавання партызанскай брыгады і Слуцкага падпольнага райкома КП(б)Б партызаны А. Дз. Фамін, А. А. Ходасаў, падпольшчыкі С. С. Сідарэнка, Д. І. Шышкін, А. І. Асвяцімскі падрыхтавалі аперацыю, у выніку якой у ноч на 26.5.1943 г. было ўзарвана тэхнічнае абсталяванне завода і знішчаны запасы прадукцыі. Да канца акупацыі завод не працаваў. Патрыёты, што здзейснілі дыверсію, пайшлі ў партызаны.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн., 1985.

*А. П. Грыцкевіч.*

**2471. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙСКАГА АТРАДА** (гіст.). Вул. Леніна, 151. Устаноўлена ў 1957 г. на будынку, дзе размяшчаўся штаб чырвонагвардзейскага атрада.

У першыя дні пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. у горадзе быў створаны чырвонагвардзейскі атрад (каля 100 чалавек). Чырвонагвардзейцы раззброілі контррэвалюцыйных афіцэраў, якія намерваліся расстраляць кіраўнікоў мясцовай арганізацыі бальшавікоў, прымусілі казацкі атрад, што нёс паліцэйска-ахоўную службу, пакінуць Слуцк, ахоўвалі важнейшыя аб'екты, падтрымлівалі парадак у горадзе. У студзені 1919 г. атрад вырас да 300 чалавек і працягваў папаўняцца за кошт добраахвотнікаў, змагаўся супраць легіянераў мяцежнага польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Слуцк: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970.

**2472. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Сацыялістычная, 90. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з дрэва. У канцы 19 ст. прыбудавана квадратная ў плане званіца.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя царквы складаецца з шмат'ярусных 3 зрубаў, пастаўленых па падоўжнай




2472. *Міхайлаўская царква. План.*



2472. *Міхайлаўская царква.*

восі, з павелічэннем вышынь ад алтарнай часткі да званіцы (з усходу на захад). Прамавугольныя ў плане алтарную і зальную часткі абкружае галерэя, якая раскрыта да цэнтральнага зруба і ўтварае ярус-аснову для верхніх ярусаў. Над бабінцам, які завершаны з трох бакоў франтонамі, узвышаецца званіца (васьмярык на чацверыку) з шлемападобным купалам і высокім шпілем. Асноўны зруб завершаны васьмерыком на чацверыку, накрыты двухзаломным дахам, увенчаным гранёным грушападобным купалам з галоўкай. Над алтарнай часткай — чацвярык з шлемападобным купалам з галоўкай. Фасады дэкарыраваны драўлянымі ліштвамі, карнізамі, дэнтыкуламі пад карнізам верхняга яруса званіцы. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі.



2472. *Міхайлаўская царква. Фрагмент скляпення.*



2472. *Міхайлаўская царква. Іканастас.*



2474. *Помнік вызваліцелям.*

Інтэр'ер значна павялічаны за кошт адкрытай з трох бакоў у залу галерэі. Зальная частка асвятляецца вокнамі ўсіх 4 ярусаў. Алтар аддзелены двух'ярусным іканастасам. Столь плоская, падшыўная, у алтарнай частцы — самкнёнае гранёнае скляпенне. Над бабінцам хоры з драўлянай балюстрадай.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока.




2473. *Паштовая станцыя. План.*



2473. *Паштовая станцыя. План флігеля.*

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. XVII—XIX стст.— Мн., 1978.

*А. А. Міцянін.*

**2473. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Вул. Леніна, 155. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы і дрэва.

Комплекс узведзены паводле «ўзорнага» праекта 1843 г. Складаецца з 4 аднапавярховых будынкаў, што ўтвараюць сіметрычную кампазіцыю з замкнёным унутраным дваром. Цяпер будынкі прыстасаваны пад жыллё і гаражы. Станцыйны дом прамавугольны ў плане, павернуты да вуліцы прадаўгаватым галоўным фасадам. Цэнтральны ўваход (цяпер закладзены) з ганкам афармлены пілястрамі. Па баках дома тарцом да вуліцы сіметрычна пастаўлены флігелі, злучаныя з домам мураванымі сценкамі з узнымі брамамі. За флігелямі на адной планіровачнай восі з станцыйным домам размешчаны П-падобны будынак стайні. Усе будынкі накрыты вальмавымі дахамі. Фасады атынкаваны, апрацаваны пілястрамі, завершаны развітымі драўлянымі карнізамі. Аконныя праёмы станцыйнага дома лучковыя, у астатніх будынках прамавугольныя. Інтэр'ер зменены. У некаторых памяшканнях захаваліся люстраныя скляпенні.

Станцыя — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**2474. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На вул. Валадарскага.

30.6.1944 г. часці 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лу-



2476. *Помнік У. І. Леніну.*

чынскі) і конна-механізаванай групы (камандзір генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) 1-га Беларускага фронту вызвалілі г. Слуцк. Разам з часцямі Чырвонай Арміі ў вызваленні горада ўдзельнічалі партызаны брыгад 95-й імя М. В. Фрунзе (камандзір І. В. Арастовіч, камісар А. Ц. Міновіч), 64-й імя В. П. Чкалава (камандзір М. М. Розаў, камісар І. С. Кановіч), 225-й імя А. В. Суворава (камандзір А. М. Каляда, камісар У. І. Заяц), 100-й імя С. М. Кірава (камандзір А. І. Шуба, камісар І. М. Ражкоў). За вызваленне горада ганаровыя найменні «Слуцкіх» былі нададзены 10-й гвардзейскай казацкай кавалерыйскай дывізіі, 37-й механізаванай і 1-й асобнай знішчальнай процітанкавай артылерыйскай брыгадам, 174-му, 175-му, 218-му, 431-му, 874-му штурмавым авіяцыйным палкам, 11-й гвардзейскай, 174-й гвардзейскай і 229-й штурмавым авіяцыйным дывізіям, 53-му асобнаму механізаванаму пантонна-маставому і 91-му інжынерна-сапёрнаму батальёнам.

У 1967 г. у гонар вызваліцеляў пастаўлены абеліск, абапал яго — стэлы з памятнымі надпісамі.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Грицкевич А. П. Слуцк: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2475. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Жукава, каля сярэдняй школы № 7. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1973 г.

**2476. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На цэнтральнай пл. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну помнік знішчаны нямецка-фашысцкімі акупантамі. Адноўлены ў 1952 г.

**2477. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у гарадскім парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**2478. ПОМНІК У ГОНАР 20-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІЯЙ** (гіст.). На вул. К. Лібкнехта, каля будынка медвучылішча. У 1965 г. устаноўлена скульптура.

**2479. ПОМНІК У ГОНАР 50-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Леніна і 14 партызан. У 1967 г. устаноўлена скульптура, якая ўвасабляе вобраз Маці-Радзімы. Да пастамента прымыкае стэла з барэльефнымі выявамі эпізодаў барацьбы за Савецкую ўладу.

**2480. РАДЗІМА ГАЎРУКА** Юркі (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, адзін з заснавальнікаў беларускай школы мастацкага перакладу Юрка (Юрый Паўлавіч) Гаўрук нарадзіўся 23.4.1905 г. у сям'і рабочага. У 1925 г. скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава ў Маскве. У 1925—31 гг.— дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, у 1931—35 гг. чытаў курс зарубежнай літаратуры і літаратуры народаў СССР у Магілёўскім педагагічным інстытуце. У 1935—56 гг. працаваў у Карэліі, ва Усходняй Сібіры, у Комі АССР. У 1957—67 гг.— загадчык літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы.

Літаратурную дзейнасць пачаў перакладам на беларускую мову камедыі У. Шэкспіра «Сон у летнюю ноч» (пастаўлена БДТ-2 у 1926 г.). У 1926 г. выйшаў зборнік краязнаўчых нарысаў Гаўрука «Вясковыя рыскі», у 1928 г.— зборнік перакладаў вершаў «Кветкі з чужых палёў», у 1969 г.— зборнік арыгінальных вершаў і перакладаў «Іскры з крэменя», у 1975 г.— зборнік выбраных перакладаў паэзіі «Агні ў прасторах». Пераклаў трагедыі У. Шэкспіра «Гамлет» (1935 г., 1964 г.), «Атэла» (1954 г.), «Антоній і Клеапатра» (пастаўлена ў 1960 г.), «Кароль Лір» (1974 г.), камедыю «Канец — справе вянец» (пастаўлена ў 1964 г.), верш Г. Гейнэ «Ткачы», яго паэму «Германія. Зімняя казка» (1959 г.), балады Ф. Шылера, а таксама асобныя творы Ш. Бадлера, Дж. Байрана, Б. Балашы, Д. Бержэні, Р. Бёрнса, А. Стыля, І. Гётэ, В. Гюго, Г. Лангфела, А. Маруа, А. Міцкевіча, Ф. Пятраркі, К. С. Прычард, Э. Хемінгуэя, А. Пушкіна, В. Брусава, С. Ясеніна, У. Сасюры, П. Тычыны, У. Уітмэна, Л. Украінкі і інш. У перакладзе Ю. Гаўрука на рускую мову выйшлі раманы «Люба Лук'янская» (1965 г.) і «Пошукі будучыні» (1968 г.) К. Чорнага, «Серадзібор» (1966 г.) П. Пестрака. У беларускіх тэатрах пастаўлены перакладзеныя Ю. Гаўруком п'есы «Ліса і вінаград» Г. Фігейрэду, «Забыты ўсімі» Назыма Хікмета Рана, «Тысяча франкаў узнагароды» В. Гюго, «Мешчанін у дваранах» Мальера, «Мяцеліца» Л. Лявонава, «Дзядзька Ваня» А. Чэхава, «Улада цемры» Л. Талстога і інш.



2478. *Помнік у гонар 20-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй.*

Памёр Ю. П. Гаўрук 18.2.1979 г. у Мінску. Пахаваны на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966; Нікіфаровіч В. Перакладчык «Гамлета».— Полымя, 1965, № 4. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2481. РАДЗІМА ДЫЛЫ** Язэпа (гіст.).

Беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч Язэп (Восіп Лявонавіч) Дыла (псеўданімы Назар Быўаеўскі, Тодар Кулеша, Л. Жорсткі і інш.) нарадзіўся 2.4.1880 г. у сям'і паштовага служачага. У 1898 г. скончыў Слуцкую гімназію. У 1899 г. паступіў у Юр'еўскі (Тартускі) ветэрынарны інстытут, адкуль у 1903 г. выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Працаваў у газеце «Северо-Западный край» (Мінск). Па заданні Мінскага камітэта РСДРП вёў у 1905 г. рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян Случчыны. У 1906—18 гг. працаваў у розных выдавецтвах Пецярбурга, Арэнбурга, Казані, Масквы. У студзені — лютым 1919 г. камісар працы ў Часовым рабоча-сялянскім Савецкім урадзе Беларусі, потым на іншых кіруючых пасадах. У 1923—24 гг. старшыня Дзяржплана БССР. У 1924—26 гг.

правадзейны член і вучоны сакратар Інстытута беларускай культуры. З 1926 г. дырэктар БДТ-1 (цяпер Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), дырэктар Інстытута па вывучэнню мастацтва Інбелкульта, намеснік загадчыка «Белдзяржкіно». З 1931 г. жыў у Саратаве.

Друкавацца Я. Дыла пачаў у 1909 г. у газеце «Наша ніва». Аўтар драматычных твораў «Панскі гайдук» (пастаўлена ў БДТ-1 у 1924 г., выдадзены ў 1926 г.), «Падуанскі студэнт» (пра Ф. Скарыну, не закончаны), гістарычнага рамана «На шляху з варагаў у грэкі» (не закончаны), «Юнак з Крошына» (1965 г.), аповесцей «Настасся Мякота» і «У імя дзяцей» (1968 г.). Пісаў публіцыстычныя артыкулы, апублікаваў даследаванні па гісторыі беларускага тэатра і бібліятэчнай справы, вершы, пераклады з польскай мовы (твораў М. Канапніцкай), успаміны пра Я. Купалу, Я. Коласа, Ц. Гартнага, Я. Райніса і інш.

Памёр Я. Дыла 7.4.1973 г. у Саратаве. *А. І. Мальдзіс.*

**2482. РАДЗІМА КОСБЕРГА** Сямёна Арыевіча (гіст.).

Савецкі канструктар авіяцыйных і ракетных рухавікоў, доктар тэхнічных навук (1959 г.), Герой Сацыялістычнай Працы С. А. Косберг нарадзіўся 1.10.1903 г. у сям'і каваля. Член КПСС з 1929 г. Пасля сканчэння Маскоўскага авіяцыйнага інстытута (1931 г.) накіраваны ў авіяцыйную прамысловасць. З 1941 г. галоўны канструктар Канструктарскага бюро. З яго ўдзелам распрацаваны авіяцыйныя рухавікі, якія былі ўстаноўлены на многіх самалётах перыяду Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—65 гг. пад кіраўніцтвам С. А. Косберга створана серыя вадкасных ракетных рухавікоў для апошніх ступеней ракет-носьбітаў касмічных лятальных апаратаў. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 17.6.1961 г. за заслугі ў галіне распрацоўкі новай авіяцыйнай тэхнікі. Лаўрэат Ленінскай прэміі 1960 г.

С. А. Косберг загінуў 3.1.1965 г. у аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Маскве на Новадзявочых могілках. Імем С. А. Косберга названы адзін з кратэраў адваротнага боку Месяца, вуліца ў Слуцку.

*Літ.:* Тычына М. Канструктар ракетных рухавікоў.— Беларусь, 1977, № 9. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2483. РАДЗІМА КРАСОЎСКАГА** Антона Якаўлевіча (гіст.).

Рускі акушэр-гінеколаг, адзін з заснавальнікаў аперацыйнага акушэрства і гінекалогіі ў Расіі, доктар медыцыны (1852 г.), прафесар (1858 г.) А. Я. Красоўскі нарадзіўся 6.3.1821 г. у сям'і вольнаадпушчанага селяніна. Скончыў Слуцкую гімназію, у 1848 г. Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію; працаваў пад кіраўніцтвам



2479. *Помнік у гонар 50-годдзя Савецкай улады.*

М. І. Пірагова. Быў ардынатарам Краснасельскага ваеннага шпіталя, у 2-м ваенна-сухапутным шпіталі. У 1858—76 гг. прафесар Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Упершыню ў Расіі зрабіў аварыятамію (1862 г.) і сімфізіятамію (1892 г.), адзін з першых — гістэрэктамію (1868 г.). З 1871 г. дырэктар Пецярбургскай рададапаможнай установы, дзе стварыў гінекалагічнае і ізаляцыйнае аддзяленні, ужыў новыя метады лячэння, дзякуючы чаму значна знізілася смяротнасць сярод парадзіх. Аўтар многіх арыгінальных навуковых прац. Заснавальнік (разам з К. Ф. Славянскім) Пецярбургскага акушэрска-гінекалагічнага таварыства (1885 г.) і часопіса «Журнал акушерства и женских болезней», яго першы рэдактар (1887—93 гг.). Красоўскі быў старшынёй праўлення Таварыства рускіх урачоў у памяць М. І. Пірагова, членам 35 рускіх і замежных навуковых таварыстваў, у тым ліку Парыжскага таварыства хірургаў, Берлінскага акушэрскага таварыства, Бастонскага гінекалагічнага таварыства і інш. У гонар вучонага была ўстаноўлена стыпендыя яго імя для студэнтаў ваенна-медыцынскай акадэміі.

Памёр А. Я. Красоўскі 1.4.1898 г. Пахаваны ў г. Пушкін.

*Літ.:* Песоченский Б. С. Крассовский и его роль в истории русского акушерства и гинекологии.— Акушерство и гинекология, 1949, № 2; Данилишина Е. И. Антон Яковлевич Крассовский (К 150-летию со дня рождения).— Тамсама, 1971, № 4. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2484. РАДЗІМА ЦЭРАСКАГА** Вітольда Карлавіча (гіст.).

Савецкі астраном, член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1914 г.) В. К. Цэраскі нарадзіўся 27.4.1849 г. у сям'і настаўніка. Скончыў Слуцкую гімназію (1866 г.), Маскоўскі універсітэт (1871 г.), у час вучобы ў якім за працу «Вылічэнне эліптычнай арбіты Марса» атрымаў залаты медаль. У 1878—90 гг. астраном-наглядальнік, у 1890—1916 гг. дырэктар астранамічнай абсерваторыі Маскоўскага універсітэта, з 1889 г. прафесар гэтага універсітэта. У 1911 г. у знак пратэсту супраць рэакцыйных мерапрыемстваў царскага ўрада ў дачыненні да дэмакратычнай часткі студэнтаў і прафесуры адмовіўся ад пасады прафесара. У 1885 г. адкрыў так званыя серабрыстыя воблакі і разам з акадэмікам А. А. Белапольскім вызначыў адлегласць іх ад зямлі. В. К. Цэраскі — заснавальнік маскоўскай школы фатаметрычных даследаванняў, адзін з заснавальнікаў навуковай інструментальнай фотаметрыі. У 1895 г. па яго ініцыятыве пачата сістэматычнае фатаграфаванне неба з мэтай выяўлення і даследавання пераменных зорак па атрыманых фатаграфіях. Вызначыў бляск больш за 500 зорак, ніжнюю мяжу тэмпературы сонца, яго зорную велічыню, даследаваў метэоры. Пабудаваў «астранамічны бінокль», сканструяваў спецыяльны акуляр для нагляднання сонечных плям, гіліяметр для вызначэння формы сонечнага дыска, удасканаліў фатометр Цэльнера, які атрымаў назву фатометр Цэльнера — Цэраскага.

Памёр В. К. Цэраскі 29.5.1925 г. Па-




2493. *Помнік землякам.*

хаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве.

*Літ.:* В а с і л ю к М. М. Прафесар Цэраскі.— Помнікі гісторы і культуры Беларусі, 1980, № 4. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2485. РАДЗІМА ШАНТЫРА** Фабіяна Гіляравіча (гіст.).

Беларускі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч Ф. Г. Шантыр нарадзіўся ў 1887 г. у сям'і муляра. Працаваў хатнім настаўнікам, прыватным адвакатам. Удзельнік рэвалюцыйнага руху, за што прыцягваўся да судовай адказнасці (1907 г.). З 1914 г. у арміі. Працаваў адміністратарам ваеннай бальніцы ў Бабруйску, чытаў лекцыі ў Бабруйскай мужчынскай гімназіі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. арганізоўваў сялянскія і салдацкія мітынгі ў Бабруйску, распаўсюджваў у навакольных вёсках рэвалюцыйную літаратуру, з 1918 г. у Чырвонай Арміі. У 1918 г. загадваў Смаленскім аддзелам Белнацкома. У студзені 1919 г. камісар па нацыянальных справах Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі.

З 1909 г. супрацоўнічаў у газеце «Наша ніва», дзе змясціў апавяданні і абразкі «Захар», «У вёсцы», «Смерць убогага», «Ноч», «Пад шум лесу», шэраг карэспандэнцый «З нашага жыцця». У 1918 г. выдаў у Слуцку брашуру «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народа». У 1917 г. напісаў апавяданне «Святы божа», якое перакладалася на польскую мову [разам з фрагментам «Родны край» было змешчана ў зборніку «Зажынкі» (Масква, 1918 г.)]. У 1919 г. друкаваўся ў газеце «Дзянніца». У 1920 г. разам з А. Р. Чарвяковым і В. Г. Кнорыным увайшоў у склад Беларускай рэдакцыйнай калегіі ЦК КП(б) Беларусі і Літвы, па яе заданню пераклаў (1920 г.) брашуру В. Лібкнехта «Павукі і мухі».

Памёр Ф. Г. Шантыр у 1920 г.

*А. І. Мальдзіс.*

**в. Агароднікі, Казловіцкі сельсавет**

**2486. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2487. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Адамова, Покрашаўскі сельсавет**

**2488. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2489. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 190 жыхароў вёскі, спаленых нямецка-фашысцкімі карнікамі 23.2.1943 г.

**2490. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску Адамова (190 жыхароў, 52 двары). У 1975 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлена стэла.

**в. Азярцы, Гацукоўскі сельсавет**

**2491. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2492. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у чэрвені 1941 г. На магіле ў 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Акцябр, Акцябрскі сельсавет**

**2493. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў Грамадзянскую 1918—20 гг., савецка-фінляндскую 1939—40 гг. і Вялікую Айчынную 1941—45 гг. войны, у 1969 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай твару воіна, побач сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Амговічы, цэнтр сельсавета**

**2494. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 153 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і партызаны брыгады 225-й імя А. В. Суворава. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2495. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, сярод поля, каля безназоўнага ручая. Пляцоўка роўная, здзірванелая, памерам 51×45 м, умацавана валам вышынёй 2,5 м. У заходняй і ўсходняй частках прасочваюцца 2 праходы. Адкрыў у 1928 г. У. М. Мікіцінскі, абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1973 г. Э. М. Загарульскі, у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. У культурным пласце 0,5 м знойдзены фрагменты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай і штрыхаванай керамікі культуры ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* М і к і ц і н с к і У. Слуцкі краёвы музей.— У кн.: Случчына: Першы зборнік Слуцкага таварыства краязнаўства. Слуцк, 1930; П о б о л ь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*А. А. Егарэйчанка.*

**2496. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшана-



2496. *Помнік землякам.*

ванне памяці 167 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал — стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Балотчыцы, Беліцкі сельсавет**

**2497. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Будынак прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Бабінец роўны па шырыні з асноўным аб'ёмам, накрыты двухсхільным дахам у папярочным напрамку. Над уваходам васьміграниая вежачка з высокім шатровым завяршэннем. Сцены ашаляваны гарызантальна, рытмічна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны, з плоскай бэлечнай столлю.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**2498. КУРГАН** (археал.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, каля могілак, сярод поля. Вышыня 1,5 м, дыяметр 8 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка.

**2499. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, на могілках. 29 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 8—12 м. Каля найбольш буйных курганоў прасочаны раўкі. Вядомы з 1924 г., абследавалі ў 1979 г. Г. М. Залашка, у 1985 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2500. МАГІЛА АМЯЛЬКОВІЧА** Пятра Феафілавіча (гіст.). На могілках. Партызан 12-й кавалерыйскай брыгады імя І. В. Сталіна П. Ф. Амялькові загінуў 22.5.1943 г. На магіле ў 1975 г. пастаўлены абеліск.

**2501. МАГІЛА АМЯЛЬКОВІЧАЎ** Віктара Тодаравіча і Аляксандра Тодаравіча (гіст.). На могілках. Партызаны 12-й кавалерыйскай брыгады імя І. В. Сталіна В. Т. і А. Т. Амяльковічы загінулі 22.5.1943 г. На магіле ў 1956 г. пастаўлены абеліск.

**2502. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі ў Грамадзянскую 1918—20 гг., савецка-фінляндскую 1939—40 гг. і Вялікую Айчынную 1941—45 гг. войны, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Баравая, Першамайскі сельсавет**

**2503. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены помнік — прызмападобная стэла з барэльефнай выявай маці, што праводзіць сына на фронт.

**в. Барок, Знаменскі сельсавет**

**2504. МАГІЛА СІРОЦІНА** Паўла (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі П. Сіроцін загінуў летам 1941 г. На магіле ў 1970 г. пастаўлены абеліск.

**2505. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць Дома культуры. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — на фоне стылізаванай стэлы скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.



2502. *Помнік землякам.*



2505. *Помнік землякам.*

**2506. РАДЗІМА ЛІХАДЗІЕЎСКАГА** Сцяпана Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, літаратуразнавец і перакладчык, доктар філалагічных навук (1967 г.), прафесар (1968 г.) С. І. Ліхадзіеўскі нарадзіўся 26.4.1911 г. у сялянскай сям'і. Вучыўся ў БДУ (1930—31 гг.), у Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце (1931—33 гг.), у 1939 г. скончыў Томскі педагагічны інстытут. У 1939—63 гг. выкладчык Ташкенцкага педагагічнага інстытута. З 1963 г. працаваў загадчыкам кафедры замежнай літаратуры Рэспубліканскага педагагічнага інстытута рускай мовы і літаратуры ў Ташкенце.

Друкаваўся з 1925 г. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», БелАПП. Выйшлі зборнікі вершаў, паэм і перакладаў: «Чырванеюць вішні» і «Рокаты дальняй прыстані» (1931 г.), «Мы — маладая гвардыя», «Крывавыя знічкі на снезе» (1932 г.), «Берасцянка жывых трывог» (1962 г.), «Вянкі камунарам» (1974 г.). Аўтар кніг «Анатоль Франс: Кароткі нарыс творчага шляху» (1954 г.), «Анатоль Франс: Нарыс творчасці» (1962 г.). Распрацоўваў праблемы крытычнага рэалізму ў французскай літаратуры, даследаваў сувязі беларускай і узбекскай літаратур. Пераклаў на беларускую мову шэраг твораў замежных паэтаў, у т. л. Ш. Бадлера, П. Верлена, Т. Гацье, Г. Гейнэ, І. В. Гётэ, В. Гюго, Л. Арагона, П. Элюара і інш., а таксама некаторых узбекскіх паэтаў.

Памёр С. І. Ліхадзіеўскі 14.2.1979 г.

*Літ.:* Фактаровіч Д. Грунтоўнае даследаванне.— Полымя, 1962, № 10; Калеснік У. Інтэлігентнасць без позы.— Тамсама, 1963, № 7; Шушкевіч С. Паэт і літаратуразнаўца.— Беларусь, 1971, № 5; Гардзіцкі А. На ўсё жыццё...— Маладосць, 1971, № 5; Вытокі песні: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., 1973; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2507. СЯМЁНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Будынак складаецца з асноўнага кубічнага аб'ёму, апсіды з рызніцамі па баках і бабінца, што далучаны да асноўнага пры дапамозе дадатковага аб'ёму. Усе аб'ёмы накрыты пакатымі шматсхільнымі дахамі. Над бабінцам узвышаецца вежа-званіца (завяршэнне не захавалася). На галоўным фасадзе і па баках асноўнага аб'ёму глыбокія рызаліты з увахадамі, афармленымі парталамі. У аздобе фасадаў выкарыстана фігурная цагляная мураўка ў выглядзе шматлікіх раскрапоўак, абрамленняў акон, аркатурных паясоў. Інтэр'ер зальнага тыпу.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі неаготыкі. *Т. В. Габрусь.*

**в. Белая Лужа, Гацукоўскі сельсавет**

**2508. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2509. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. На магіле ў 1963 г. пастаўлена стэла.

**2510. МАГІЛА ЕЎСЦІГНЕЕВА** А. (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі А. Еўсцігнееў загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Белічы, цэнтр сельсавета**

**2511. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2512. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў жніўні 1920 г. у барацьбе супраць польскіх інтэрвентаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2507. *Сямёнаўская царква.*

**2513. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 139 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура ўкленчанай жанчыны з пальмавай галінкай ва ўзнятых руках.

**в. Белы Бор, Гацукоўскі сельсавет**

**2514. МАГІЛА МАКЕЕВА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). На могілках. Падпалкоўнік Чырвонай Арміі М. І. Макееў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2515. МАГІЛА РУСАКОВІЧА** Івана Трафімавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя 26-годдзя Кастрычніка брыгады 225-й імя А. В. Суворава І. Т. Русаковіч загінуў 12.4.1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2516. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКІХ АТРАДАЎ ІМЯ 26-ГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА І ІМЯ А. М. МАТРОСАВА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У Вялікую Айчынную вайну паблізу вёскі з снежня 1943 г. па ліпень 1944 г. дыслацыраваліся партызанскія атрады імя 26-годдзя Кастрычніка брыгады 225-й імя А. В. Суворава і імя А. М. Матросава брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе.

Атрад імя 26-годдзя Кастрычніка створаны ў снежні 1943 г. на базе трох ініцыятыўных груп, вылучаных атрадамі імя С. М. Будзённага, імя А. В. Суворава і імя В. П. Чкалава. Камандзір П. А. Гаўрыловіч, камісар С. Я. Столер. Партызаны знішчалі жывую сілу ворага, лініі сувязі, праводзілі дыверсіі на чыгунцы. На дзень злучэння 29.6.1944 г. з часцямі Чырвонай Арміі ў атрадзе імя 26-годдзя Кастрычніка 204 партызаны.

Атрад імя А. М. Матросава створаны ў снежні 1943 г. з партызан, вылучаных атрадамі імя С. М. Кірава і імя Ф. Э. Дзяржынскага. Камандзір І. С. Локанцаў, камісары Ф. В. Лукашэвіч (снежань 1943 г.— красавік 1944 г.), Р. А. Сківіцкі (красавік — чэрвень 1944 г.). Партызаны арганізоўвалі засады, правялі 5 баёў з карнікамі, знішчылі 58 салдат і афіцэраў ворага, 67,3 км лініі сувязі, узарвалі 1 эшалон, 14 аўтамашын, 13 мастоў, захапілі шмат зброі і боепрыпасаў. На дзень злучэння 29.6.1944 г. з часцямі Чырвонай Арміі ў атрадзе імя А. М. Матросава 125 партызан.

У 1974 г. у гонар атрадаў імя 26-годдзя Кастрычніка і імя А. М. Матросава ўстаноўлена стэла. *А. Г. Шчарбатаў.*



2513. *Помнік землякам.*

**в. Беразінец (не існуе), Першамайскі сельсавет**

**2517. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Беразінец знаходзілася за 1 км на поўнач ад в. Жылін Брод. 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 22 яе жыхары, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Боркі, Вясейскі сельсавет**

**2518. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі 4.6.1943 г. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Боркі, Маяцкі сельсавет**

**2519. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя С. М. Будзённага брыгады 25-й імя М. В. Фрунзе М. К. Абрамчык, С. Я. Абушак, Каралёў, Г. А. Новікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2520. МАГІЛА СЛЮНКІНА** Міхаіла Іларыёнавіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі М. І. Слюнкін загінуў 10.7.1944 г. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Буда-Грэская, Гацукоўскі сельсавет**

**2521. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2522. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у чэрвені 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**пас. Бязверхавічы, Акцябрскі сельсавет**

**2523. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МУРАШКУ** Рыгору Данілавічу (гіст.). Каля дома, у якім нарадзіўся Р. Д. Мурашка. Устаноўлена ў 1974 г.

Беларускі савецкі пісьменнік Р. Д. Мурашка нарадзіўся 3.2.1902 г. у в. Бязверхавічы Слуцкага р-на ў сялянскай сям'і. З 1920 г. член КПСС. Вучыўся ў народнай і двухкласнай валасных школах, у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Удзельнік падпольнай і партызанскай барацьбы (1919—20 гг.) супраць польскіх акупантаў. У 1920—21 гг. і 1924—26 гг. у Чырвонай Арміі. У 1921—24 гг.— на савецкай і партыйнай рабоце на Случчыне. У 1926—29 гг. адказны сакратар часопіса «Бальшавік Беларусі», у 1930—33 гг. загадчык аддзела мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік Мінскага камуністычнага падполля, потым у партызанскім атрадзе ў Лагойскім раёне. Загінуў Р. Д. Мурашка ў красавіку 1944 г. у час прарыву партызанамі варожай блакады на Лагойшчыне.

Першыя літаратурныя творы надрукаваны ў 1924 г. Выступаў у газетах «Звязда», «Красноармейская газета» і інш. Выдадзены зборнікі апавяданняў «Стрэл начны ў лесе» (1926 г.), «Прыгранічны манастыр» (1930 г.), «Званкі» (1931 г.), «Рузікі» (1932 г.), «Мюдаўская ноч» (1934 г.), аповесць «У іхным доме» (1929 г.), раманы «Сын» (1929 г.), «Салаўі святога Палікара» (1940 г., 2-е выд. 1967 г.). У творах пісьменніка адлюстраваны падзеі Першай рускай рэвалюцыі, Грамадзянскай вайны, барацьба беларускага народа за Савецкую ўладу, жыццё беларускай вёскі 1920 — пачатку 1930-х гадоў.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Пра час і пра сябе.— Мн., 1966.
*А. Г. Шчарбатаў.*



2523. *Дом, у якім нарадзіўся Р. Д. Мурашка.*

**в. Бялевічы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2524. МАГІЛА САХНЕНКІ** А. С. (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі А. С. Сахненка загінуў у 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2525. РАДЗІМА СЕРЖПУТОЎСКАГА** Аляксандра Казіміравіча (гіст.).

Беларускі савецкі этнограф і фалькларыст, правадзейны член Інбелкульта (1925 г.) А. К. Сержпутоўскі нарадзіўся 21.6.1864 г. у сям'і селяніна-бедняка. У 1884 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у 1904 г.— Пецярбургскі археалагічны інстытут, пазней — Вышэйшыя юрыдычныя курсы. У 1884—93 гг.— настаўнік народных вучылішчаў у Мазырскім і Слуцкім паветах. З 1893 г. да 1896 г. працаваў у Мінскім аддзяленні сялянскага пазямельнага банка і Мінскім паштова-тэлеграфным ведамстве, з 1896 г.— на паштамце ў Пецярбургу, з 1906 г. да 1930 г.— у этнаграфічным аддзеле Рускага музея, адначасова ў 1918—23 гг. настаўнік Беларускай гімназіі ў Петраградзе.

Друкаваўся з 1891 г. У нарысах і апавяданнях адлюстраваў побыт, звычаі і павер'і сялян Беларускага Палесся. У 1885 г. занатаваў абрад Купалля ў в. Заполле Мазырскага павета. У этнаграфічным нарысе «Беларусы-палешукі» (1908 г., рукапіс) апісаў побыт і пабудовы, заняткі, звычаі і вераванні сялян Мазырскага і Слуцкага паветаў. Даследаваў земляробчыя прылады, бортніцтва, звычаі сябрыны, талакі і інш. («Нарысы Беларусі», 1907—09 гг., «Земляробчыя прылады Беларускага Палесся», 1910 г., «Бортніцтва на Беларусі», 1914 г.). Вывучаў таксама быт і духоўную культуру рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, татар, народаў Каўказа. Падрыхтаваў да друку зборнік беларускіх прыказак з слоўнікам (1908 г.), за які атрымаў малы залаты медаль Аддзялення этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Пазней падрыхтаваў зборнік прыказак і «хадзячых народных выслоўяў», з якога захавалася частка (знаходзіцца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР). Загінулі рукапісы зборніка «Песні Магілёўшчыны» і этнаграфічнай працы «Быт беларусаў». Выдадзены зборнікі «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (1911 г.), «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета» (1926 г.), «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930 г.).

А. К. Сержпутоўскі вывучаў дыялектныя асаблівасці беларускай мовы. Гэта тэма адлюстравана ў працы «Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзіна Слуцкага павета Мінскай губерні», часткова ва ўступным артыкуле да зборніка казак і апавяданняў (1911 г.) і часткова ў «Справаздачы аб паездцы ў Гомельскую губерню ў 1926 годзе» (1926 г.). Шмат увагі аддаваў збору этнаграфічных калекцый. Склаў спецыяльны кароткі даведнік «Беларусы», у якім тлумачылася экспедыцыя этнаграфічнага аддзела Рускага музея, прысвечаная беларусам.

Памёр А. К. Сержпутоўскі 9.3.1940 г.

Рукапісная спадчына вучонага захоўваецца ў архівах Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР (Ленінград), Рускага музея АН СССР (Ленінградскае аддзяленне), у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Літ.:* Бондарчик В. К., Федосик А. С., А. К. Сержпутовский.— Мн., 1966; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.— Мн., 1970.
*А. С. Фядосік.*

**в. Валаты, Казловіцкі сельсавет**

**2526. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны І. Т. Булгак і І. А. Мурашкевіч з атрада «Жалязняк», І. Т. Сучок з атрада імя 14 Слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В. П. Чкалава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ванькоўшчына, Знаменскі сельсавет**

**2527. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2528. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). За 0,6—1 км на ўсход ад вёскі, абапал дарогі з в. Селішча ў в. Леніна.

**2528а.** Могільнік-1. За 0,6 км на ўсход ад вёскі, справа ад дарогі. 5 насыпаў вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 5—7 м. Курганы зараслі хмызняком і дрэвамі.







2528. *Курганныя могільнікі-1, 2. План.*

**2528б.** Могільнік-2. За 0,6 км на ўсход ад вёскі, злева ад дарогі. 11 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 7—10 м. Могільнік зарос хмызняком. Каля асновы асобных курганоў прасочваюцца раўкі, частка насыпаў пашкоджана ямамі.

**2528в.** Могільнік-3. За 1 км на ўсход ад вёскі, злева ад дарогі. 20 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 7—15 м. Курганы зараслі дрэвамі, каля асновы асобных з іх маюцца раўкі.

Могільнікі-1 і 2 абследавалі ў 1979 г. Г. М. Залашка, у 1983 г. А. А. Егарэйчанка і Т. С. Скрыпчанка. Могільнік-3 выявілі і абследавалі ў 1983 г. А. А. Егарэйчанка і Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*А. А. Егарэйчанка.*

**в. Васілінкі, Бокшыцкі сельсавет**

**2529. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 3 партызаны брыгады 225-й імя А. В. Суворава і брыгады 200-й імя К. К. Ракасоўскага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ветка, Маяцкі сельсавет**

**2530. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, сярод поля. 3 насыпы вышынёй 0,7—1 м, дыяметрам 4—6 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Волашава, Сорагскі сельсавет**

**2531. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 жыхароў в. Набушава, якіх у 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2532. МАГІЛА НЯРОНСКАГА** Паўла Мацвеевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя А. В. Суворава 225-й брыгады імя А. В. Суворава П. М. Няронскі загінуў 19.2.1944 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2535. *Гарадзішча. План.*



2536. *Помнік землякам.*

**в. Вялікая Падзер, Казловіцкі сельсавет**

**2533. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі. Захавалася частка пляцоўкі памерам 48×48 м (зрыты паўночна-ўсходні і паўднёва-ўсходні край). Вал не захаваўся. Адкрыў у 1929 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1950 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1973 г. В. Б. Перхаўка, у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт каля краю пляцоўкі 1,2 м. Знойдзены фрагменты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі, рэшткі ганчарнага посуду, шлак, кавалкі глінянай абмазкі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі.— Савецкая краіна, 1932, № 5. *А. А. Егарэйчанка.*

**в. Вялікая Сліва, Казловіцкі сельсавет**

**2534. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г., і партызаны П. Вішнеў і А. Камісараў, што загінулі ў 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2535. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на прыродным узвышшы, якое потым было штучна падпраўлена. Пляцоўка авальная, памерам 140×125 м, узвышаецца над наваколлем на 1,2 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 1 м, шырынёй 6—7 м. За валам выразна прасочваецца роў глыбінёй 0,7—1,2 м, шырынёй 4—8 м. Пляцоўка здзірванелая, зарасла арэшнікам і бярозамі. Вядома з канца 19 ст. Даследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, абследаваў у 1954 г. Ю. У. Кухарэнка, невялікія раскопкі правадзіў у 1961 г. В. В. Сядоў, які зрабіў 2 шурфы. Ю. У. Кухарэнка сабраў ляпную кераміку мілаградскага тыпу, В. В. Сядоў выявіў дробныя фрагменты ляпной керамікі. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *А. А. Егарэйчанка.*

**2536. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі школы. На ўшанаванне памяці 154 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, партызан і дзяўчынка.

**2537. ПОМНІК КРАСІНУ** Леаніду Барысавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса, што носіць яго імя. Бюст дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Л. Б. Красіна ўстаноўлены ў 1974 г.

**в. Вялікі Быкоў, Ісернскі сельсавет**

**2538. МАГІЛА ЧАЙКУНА** Рыгора Арсенавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага Р. А. Чайкун загінуў 2.5. 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вясея, цэнтр сельсавета**

**2539. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі 30.6. 1944 г. пры вызваленні Слуцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2540. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2541. ПОМНІК АРДЖАНІКІДЗЕ** Рыгору Канстанцінавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса, што носіць яго імя. Бюст Р. К. Арджанікідзе ўстаноўлены ў 1967 г.

**2542. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Слуцк — Бабруйск.



2542. *Помнік землякам.*

На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне высокай стэлы, абапал яе стэлы з барэльефнымі выявамі воінаў і імёнамі загінуўшых.

**в. Гарадзішча, Бокшыцкі сельсавет**

**2543. МАГІЛА ГРАК** Марыі Іосіфаўны (гіст.). На могілках. Жыхарку вёскі М. І. Грак у 1943 г. забілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2544. МАГІЛА ЛЯВОНЧЫКА** Рыгора Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. К. Ракасоўскага партызанскай брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе Р. В. Лявончык загінуў 26.6. 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2545. МАГІЛА ЦЯЛЬНЫХ** Івана Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. М. Цяльных загінуў 2.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2548. *Гарадзішча. План.*

**в. Гацук, цэнтр сельсавета**

**2546. МАГІЛА ГРЫБА** Васіля Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя С. М. Будзённага В. В. Грыб загінуў 23.5.1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гольчычы, Першамайскі сельсавет**

**2547. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2548. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пляцоўка памерам 60×70 м зарасла дрэвамі і кустамі. Умацавана 2 валамі і ровам паміж імі. Вышыня вонкавага вала 1 м, унутранага — 4 м. Глыбіня рова 0,7 м. У заходняй частцы гарадзішча назіраецца ўваход шырынёй 2 м. Адкрыў у 1963 г. Ю. І. Драгун, абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. У шурфе знойдзена штрыхаваная кераміка. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 7—2 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. М. Залашка.*

**2549. МАГІЛА БУРАКА** Сцяпана Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. П. Чкалава брыгады 225-й імя А. В. Суворава С. Дз. Бурак памёр ад ран 23.6.1944 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2550. МАГІЛА САКАЛОЎСКАГА** Івана Карпавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. В. Фрунзе брыгады 225-й імя А. В. Суворава І. К. Сакалоўскі загінуў 27.9.1943 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2551. МАГІЛА ЮШКЕВІЧА** Сцяпана Вячаслававіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя А. В. Суворава брыгады 225-й імя А. В. Суворава С. В. Юшкевіч загінуў 29.6.1943 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гондарава (не існуе), Амговіцкі сельсавет**

**2552. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Гондарава знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Ціхань. 23.2. 1943 г. фашысцкія карнікі загубілі 60 яе жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі. Пасля вайны вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Горкі, Беліцкі сельсавет**

**2553. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі. 19 насыпаў добрай захаванасці вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам каля 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Грэск, цэнтр сельсавета**

**2554. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і мірныя грамадзяне, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск, які таксама ўшаноўвае памяць 206 землякоў, што загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць захопнікаў.

**2555. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на беразе невялікага возера. Вышыня над наваколлем 10 м. Пляцоўка пяцівугольная, памерам 104×83 м, абарончых збудаванняў не мае (вал, верагодна, зрыты пры нівеліроўцы). Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1976 г. В. Б. Перхаўка, у 1978 г. А. А. Егарэйчанка, у 1979 г. Т. С. Скрыпчанка. У шурфах выяўлены дробныя фрагменты ляпной штрыхаванай і тынкаванай керамікі і ганчарнага посуду. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



2553. *Курганны могільнік. План.*



2554. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму, помнік землякам.*

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*А. А. Егарэйчанка.*

**2556. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку бальніцы. Установлена ў 1975 г.

У бальніцы з ліпеня 1941 г. да чэрвеня 1942 г. дзейнічала падпольная антыфашысцкая група, якая ўваходзіла ў склад Грэскага камуністычнага падполля. Створана галоўным урачом бальніцы Ю. Г. Войчыкам (кіраўнік) і фельчарам Беластоцкага гарнізоннага шпіталя І. Г. Каліноўскай, якая эвакуіравала параненых савецкіх воінаў і, трапіўшы ў акружэнне, уладкавала іх у Грэскую бальніцу. У групу ўваходзілі 9 чалавек з ліку медыцынскага персаналу бальніцы і жыхароў вёскі. Падпольшчыкі лячылі параненых савецкіх воінаў, здабывалі ім зброю і перапраўлялі да партызан, перадавалі партызанам медыкаменты, дакументы, звесткі аб планах фашыстаў. У 1942 г. група была выяўлена гітлераўцамі. У лютым 1942 г. арыштаваны і расстраляны падпольшчыцы — медыцынскія сёстры Ф. Р. Тарасевіч (разам з маці і трыма дзецьмі), А. Кавалёва (з дачкой), Г. Жук. 11.6.1942 г. арыштаваны і праз 3 дні расстраляны Ю. Г. Войчык.

*Літ.:* Пляшко І. Я. Пра што расказала мемарыяльная дошка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1977, № 2.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Гуляева, Ісернскі сельсавет**

**2557. МАГІЛА БАШУРЫ** Канстанціна Захаравіча (гіст.). На могілках. Сувязны партызанскага атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага К. З. Башура загінуў 14.12.1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гутніца, Амговіцкі сельсавет**

**2558. МАГІЛА ПАРТЫЗАН МАТУСЕВІЧ П. М. І МАТУСЕВІЧ І. М.** (гіст.). На могілках. Партызаны атрада імя Ф. Э. Дзяржынскага брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе П. М. і І. М. Матусевічы загінулі ў 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2559. ПОМНІК У ГОНАР САВЕЦКІХ РАЗВЕДЧЫКАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі.

У раёне вёскі з верасня 1942 г. да ліпеня 1944 г. дыслацыравалася разведгрупа штаба Заходняга (з красавіка 1944 г.— 3-га Беларускага) фронту пад кіраўніцтвам старшага палітрука М. К. Купрыянава (псеўданімы — Коган, дзядзька Коля). Група ў складзе 5 чалавек закінута ў раён Слуцка 6.9.1942 г. Яна наладзіла сувязь з партызанамі атрада імя М. В. Фрунзе брыгады 225-й імя А. В. Суворава і хутка вырасла. Разведчыкі перадавалі каштоўную інфармацыю камандаванню Чырвонай Арміі. Апошнія месяцы акупацыі Беларусі разведчыкі змагаліся супраць ворага разам з партызанамі брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе. М. К. Купрыянаў загінуў 2.6.1944 г. у баі каля в. Шантароўшчына.

У 1974 г. у гонар разведчыкаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн.: 1985.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Дальнія Бандары, Казловіцкі сельсавет**

**2560. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі летам



2561. *Курганны могільнік. План.*



2567. *Помнік на партызанскіх могілках.*

1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Еўлічы, Акцябрскі сельсавет**

**2561. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках. 17 насыпаў вышынёй 1 м, дыяметрам каля 8 м. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**2562. МАГІЛА СТРАЛЬЧЭНІ** Лідзіі Ігнатаўны (гіст.). На могілках. Партызанская сувязная атрада імя М. М. Громава брыгады 64-й імя В. П. Чкалава Л. І. Стральчэня загінула ў маі 1942 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2563. РАДЗІМА ФІЛІПОВІЧА** Арцёма Мікітавіча (гіст.).

Беларускі савецкі інфекцыяніст, член-карэспандэнт АМН СССР (1960 г.), доктар медыцынскіх навук, прафесар (1951 г.) А. М. Філіповіч нарадзіўся 24.3.1901 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Петраградскую ваенна-фельчарскую школу (1917 г.), Ленінградскі медыцынскі інстытут (1926 г.). Працаваў з 1927 г. урачом у Барысаве, Мінску, Валагодскай вобл. У 1937—39 гг. загадваў інфекцыйным аддзяленнем 3-й Савецкай бальніцы ў Мінску, у 1939—51 гг.— кафедрай інфекцыйных хвароб Іжэўскага, у 1951—61 гг.— Мінскага медыцынскіх інстытутаў. Працы па праблемах дыягностыкі, лячэння бруцэлё-

зу, вострага сезоннага менінгіту і інш. інфекцыйных хвароб.

Памёр А. М. Філіповіч 28.12.1961 г. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Жылін Брод, Першамайскі сельсавет**

**2564. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 22 мірныя жыхары в. Беразінец, якіх 23.2.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2565. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 9 жыхароў в. Задоўба, якіх 23.2.1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2566. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. У 24 магілах пахаваны 116 жыхароў былой в. Пераходы, якіх загубілі і спалілі 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі. На магілах пастаўлены абеліскі. Гл. таксама артыкул № 2673 «Месца спаленай вёскі».

**2567. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 13 магілах пахаваны 21 партызан брыгад 95-й імя М. В. Фрунзе і 225-й імя А. В. Суворава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — славак Дзмітрый Тарабаш, які ў 1943 г. з групай славацкіх салдат перайшоў да партызан. У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура партызана, устаноўлены надмагіллі.

**2568. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак Беразінец, Жылін Брод, Задоўба, Крушнік, Палікараўка і Фадзееўка, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г., у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**2569. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ М. А. АСТРОЎСКАГА** (гіст.). За 7 км на паўночны ўсход ад вёскі. У 1943—44 гг. тут дыслацыраваўся атрад імя М. А. Астроўскага партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава.

Атрад створаны 3.8.1943 г. у Грэскім р-не, на базе ініцыятыўнай групы на чале з Б. І. Багдановічам і інш., што была вылучана брыгадай 28.5.1943 г. Камандзіры атрада Б. І. Багдановіч (жнівень — верасень 1943 г.), І. Ф. Шпакоўскі (верасень 1943 г.— студзень 1944 г.), У. Я. Шпакоўскі (студзень — чэрвень 1944 г.); камісары І. Ф. Шпакоўскі (жнівень — верасень 1943 г.; выконваючы абавязкі), А. М. Міхайлаў (верасень 1943 г.— люты 1944 г.), П. Ф. Карончык (люты — чэрвень 1944 г.). Партызаны разграмілі варожы дот каля в. Ленькі, праводзілі дыверсіі на чыгунцы, узрывалі масты, грамілі гарнізоны, знішчалі сувязь і жывую сілу ворага. На дзень злучэння 29.6.1944 г. з часцямі Чырвонай Арміі атрад налічваў 168 партызан.

У 1974 г. на месцы дыслакацыі атрада пастаўлена стэла. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Жылінка, Першамайскі сельсавет**

**2570. МАГІЛА ЗУБА** Івана Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя К. К. Ракасоўскага брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе І. М. Зуб загінуў 13.4.1944 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заграддзе, Паўстынскі сельсавет**

**2571. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2572. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, сярод поля. Пляцоўка памерам 82×80 м, вал поўнасцю знівеліраваны. Адкрыў у 1929 г. С. А. Дубінскі, абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. У культурным пласце 0,6 м знойдзены ляпная штрыхаваная кераміка, венчыкі ад посуду мілаградскага тыпу, але са штрыхоўкай, косці жывёл. Адносіцца да мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974; Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961. *А. А. Егарэйчанка.*

**2573. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на ўскрайку леса. 18 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 5—12 м. Захаванасць добрая. Выявіў у 1961 г. В. В. Сядоў, абследаваў у 1983 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2574. ПОМНІК У ГОНАР ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН У 1908 г.** (гіст.). У цэнтры вёскі.

На працягу некалькіх гадоў сяляне вёскі адмаўляліся плаціць нядоімкі мірскіх збораў. 5.2.1908 г. валасныя ўлады разам з паліцыяй спрабавалі спагнаць нядоімкі, зрабіць вопіс маёмасці жыхароў. Сяляне ўзброіліся камянямі і каламі і аказалі супраціўленне. У хваляванні прымалі ўдзел каля 150 сялян. Паліцыя забіла 5 і параніла 7 чалавек, 14 сялян былі арыштаваны і аддадзены пад суд.

У 1976 г. у памяць аб выступленні сялян устаноўлена стэла.

**в. Задоўба (не існуе), Першамайскі сельсавет**

**2575. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Задоўба знаходзілася за 3 км на поўнач ад в. Жылін Брод. 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 9 яе жыхароў, вёску (4 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Замосце, Покрашаўскі сельсавет**

**2576. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2577. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км ад вёскі, на правым беразе р. Жалязніца (прыток Случы), у лесе. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 1,5 м. З паўднёвага боку прасочваюцца яшчэ 2 валы вышынёй 1,7 і 1,8 м, якія раздзяляў роў глыбінёй 2 м. Вядома з канца 19 ст. Абследаваў у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт у шурфах 0,25 м. Знойдзены фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі, шлакі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *А. А. Егарэйчанка.*

**2578. КАСЦЁЛ ЕЗУІТАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1649 г. з цэглы з увядзеннем у муроўку буйных валуноў.

Будынак складаецца з квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды, асіметрычна ссунутай адносна падоўжнай восі храма, і больш высокага, падобнага на чацверыковую вежу бабінца. Да бакавых граней апсіды, размешчаных пад тупым вуглом да асноўнага аб'ёму, прылягаюць нізкія падоўжаныя прыбудовы сакрысціяў. Усе аб'ёмы накрыты двухсхіль-



2578. *Касцёл езуітаў. Фрагмент скляпення алтарнай часткі.*



2579. *Помнік землякам.*

ным дахам з агульным вільчыкам. Сцены па перыметры будынка апяразвае прафіляваны карніз, які на асноўным аб'ёме і апсідзе дапоўнены фрызам. Вокны высокія, з паўцыркульнымі і лучковымі завяршэннямі. Над вокнамі бабінца размешчаны скразныя праёмы званіцы. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам, уваход вырашаны ў выглядзе шырокага праёма з паўцыркульным завяршэннем, апрацаваны цаглянай муроўкай, што імітуе клінападобны руст. Над уваходам каменныя кранштэйны падтрымлівалі навес (не захаваўся). Плоскасці бакавых фасадаў расчлянёны лапаткамі.



2578. *Касцёл езуітаў.*




2578. *Касцёл езуітаў. План.*

Унутры ніжні ярус вежы-бабінца перакрыты крыжовым скляпеннем. Над уваходам размешчаны хоры. Сцены асноўнага аб'ёму расчлянёны глыбокімі нішамі-табернаклямі і пілястрамі. Столь плоская. Аддзеленая ад залы шырокім праёмам алтарная частка крывалінейнага абрысу перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Скляпенне дэкарыравана ляпнымі ромбападобнымі кесонамі з нізкім рэльефам.

У архітэктуры касцёла спалучаюцца рысы рэнесансу і ранняга барока.
*Т. В. Габрусь, А. А. Міцянін.*

**2579. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 197 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін і партызан, абапал — стэлы з імёнамі загінуўшых.

**2580. РАДЗІМА ПЛУГА** Адама (гіст.).

Польскі і беларускі пісьменнік і выдавец Адам Плуг (сапр. Антоні Антонавіч П я т к е в і ч) нарадзіўся 23.10. 1823 г. у сям'і дробнага шляхціца. У 1842 г. скончыў Слуцкую гімназію, у 1845—46 гг. вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. З 1831 г. жыў у в. Жукаў Барок каля Стоўбцаў, дзе ў 1840 г. пасябраваў з У. Сыракомлем. Працаваў настаўнікам на Украіне, у Бесарабіі, супрацоўнічаў у прагрэсіўным часопісе «Gwiazda» («Звязда»), які выдаваўся ў Кіеве на польскай мове. У 1856 г. пабываў на радзіме, сустрэўся ў Мінску з В. Дунінам-Марцінкевічам (прысвяціў яму свой верш «Да В. Марцінкевіча, аўтара твораў на беларускім дыялекце»). Пасля паездкі на Беларусь А. Плуг пасяліўся ў Жытоміры. За антыцарысцкую грамадска-палітычную дзейнасць зняволены ў 1864—66 гг. у турму. З 1874 г. жыў у Варшаве, дзе заснаваў літаратурна-асветніцкі беларускі гурток. Рэдагаваў часопіс «Kłosy» («Каласы»), дзе змясціў шмат матэрыялаў пра Беларусь, у 1891—1903 гг. галоўны рэдактар «Вялікай ўсеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі».

Творчасць А. Плуга тэматычна і праблемна звязана з Беларуссю. Першае апавяданне напісаў у 1842 г. «Пра тое, як людзі час марнуюць». У вершаваных гутарках «Жукаў Барок» (1849 г.), у паэме «Успаміны пра радзіму» («Айчынная песенька», 1856 г.), аповесцях і раманах «Споведзь» (1849 г.), «Дзетабойца» (1850 г.), «Нянька» (1857 г.), «Дух і кроў» (1859 г.), «Афіцыяліст» (1866—67 гг.) апісаў беларускія краявіды, з асветніцка-дэмакратычных пазіцый паказаў грамадскія ўзаемаадносіны, асудзіў розныя праявы прыгонніцтва, ідэалізаваў сялянства. У зборніку «Калоссе з роднай нівы» (1856 г.) шырока выкарыстаў беларускі фальклор. Пісьменнік выступаў у рэчышчы рамантычных традыцый — аповесці «Марцінхутарнік», вершаваныя гутаркі «Бязрукі» і «Кіфар», паэма «Звар'яцелы». Потым эвалюцыянаваў да крытычнага рэалізму — раман «Бакалаўры», вершаваная гутарка «Сарока» (1867 г.). З напісаных у 1849 г. на беларускай мове апавяданняў захавалася адно — «Кручаная баба». Аўтар артыкулаў пра грамадскае і літаратурнае жыццё на Беларусі — «Некалькі ўражанняў з падарожжа на Літву» (1858 г.), «Уладзіслаў Сыракомля» (1862 г.), «Манюшка ў Мінску» (1896 г.). Перакладаў на польскую мову творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Г. Гейнэ, В. Гюго, А. Мюсэ, А. Пушкіна, У. Шэкспіра. Друкаваўся ў зборніку «Голас з Літвы» (1859 г.), які выходзіў у Мінску. Падрыхтаваў з В. Каратынскім выданне «Выбранай паэзіі» У. Сыракомлі (т. 1—5, 1890).

Памёр А. Плуг у Варшаве 2.11.1903 г.

*Літ.:* М а л ь д з і с А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969. *А. І. Мальдзіс.*



2582. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*

**в. Замошша, Рачкавіцкі сельсавет**

**2581. МАГІЛА НОВІК** Ніны Антонаўны (гіст.). На могілках. Н. А. Новік загубілі ў 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Заполле,**
**цэнтр Бокшыцкага сельсавета**

**2582. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса, што носіць яго імя; скульптура Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлена ў 1974 г.

**2583. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Насупраць будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 420 жыхароў вёсак Бокшыцы, Васілінкі, Гарадзішча, Гарохаўка, Забалоць, Загор'е, Заполле, Кухты, Малая Падзер, Малоткава, Міхейкі, Новая Ніва, Прошчыцы, Улапава, Ушаловічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Ананька; вышыня стэлы 5 м, даўжыня 8 м; бетон).

На невысокім насыпным кургане пастаўлена стэла, на якой рэльефныя выявы твараў 2 воінаў і жанчыны, на адваротным баку высечаны надпіс-прысвячэнне. Да кургана пракладзена мемарыяльная дарога з газонамі ў цэнтры, абапал якой паралельна размешчаны 12 пліт у форме раскрытых кніг з імёнамі загінуўшых. Да кургана вядуць таксама выкладзеныя шэрымі бетоннымі плітамі пешаходныя дарожкі, якія агінаюць яго з боку шашы і злучаюць усе элементы ансамбля.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Знамя, цэнтр сельсавета**

**2584. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 153 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Іванаўскія Агароднікі,**
**Кіраўскі сельсавет**

**2585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2586. РАДЗІМА БРУЯ** Фёдара Піліпавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Ф. П. Бруй нарадзіўся 19.9.1907 г. у сялянскай сям'і. Скончыў вышэйшыя афіцэрскія курсы «Выстрал» (1942 г.). Член КПСС з 1937 г. З 1929 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1942 г. на Варонежскім, потым на 1-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у баях на Курскай дузе, у вызваленні Украіны. Вызначыўся ў баях на падыходзе да Кіева. 25—28.9.1943 г. батальён пад камандаваннем маёра Ф. П. Бруя вызваліў некалькі населеных пунктаў, захапіў Труханаў востраў. Фарсіраваў Дняпро на поўнач ад Кіева, на захопленым плацдарме адбіў 10 контратак праціўніка, садзейнічаў паспяховай пераправе іншых часцей. Двойчы паранены Ф. П. Бруй кіраваў боем. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.10.1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік.

Памёр Ф. П. Бруй 17.1.1982 г. у г. Вінніца.

*Літ.:* Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Твае героі, Случчына.— Мн., 1982; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.



2583. *Помнік землякам. Мемарыяльная дарога.*



2583. *Помнік землякам. Курган і стэла.*

**в. Івань, Кіраўскі сельсавет**

**2587. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,9 км на паўднёвы захад ад вёскі. Займае частку карэннага берага ручая Замэчак, які ўпадае ў р. Лакнея. Пляцоўка прамавугольная, памерам 78×73 м, з трох бакоў абмежавана валам вышынёй 3,8 м (з боку ручая вал не прасочваецца), які моцна пашкоджаны выбаркай грунту. Пляцоўка здзірванелая, зарасла хмызняком. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі, у 1950-я гады В. М. Мельнікоўская, у 1961 г. В. В. Сядоў, даследаваў у 1979, 1981—83 гг. А. А. Егарэйчанка.

Спачатку паселішча было неўмацаваным, пазней насыпаны земляны вал вышынёй 1,5, шырынёй 7,5 м. Унутры яго, бліжэй да вонкавага схілу, на глыбіні 1 м прасочана драўляная канструкцыя з 2 пар бярвёнаў — умацаванне вала. На рубяжы н. э. вал быў падсыпаны (вышыня 3,8 м, шырыня да 15 м). Прасочаны сляды 4 наземных будынкаў. Адзін з іх — чатырохвугольны шматкамерны, слупавой канструкцыі, выцягнуты ўздоўж унутранага схілу вала. Памеры памяшканняў 6×4 м, 3,6×4,8, 4×3,7 м. Сцены з тонкіх бярвёнаў, упушчаных у пазы вертыкальна ўкапаных слупоў дыяметрам 0,3—0,5 м. Адна з сцен шчыльна прымыкала да ўнутранага схілу вала, што, верагодна, садзейнічала яго ўмацаванню. Дах быў аднасхільны. У адным з памяшканняў выяўлены рэшткі агнішча ў выглядзе праслойкі зямлі, насычанай драўняным вугаллем, пад якім была падкованападобная пляма загартаванага пяску. У ім знойдзены абпаленыя камяні і вялікая колькасць фрагментаў рабрыстых пасудзін культуры штрыхаванай керамікі. Яшчэ 2 пабудовы былі аднака-



2584. *Помнік землякам.*

мерныя, прамавугольнай формы, памерамі 2,4×5,3 і 8×2,6 м. Па цэнтры кароткіх сценак размяшчаліся ямы ад слупоў, якія падтрымлівалі двухсхільныя дахі. Відаць, гэтыя пабудовы мелі гаспадарчае прызначэнне. Чацвёртая пабудова, прамавугольнай формы, прасочана часткова (частка яе засталася за межамі раскопу). Яна заглыблена ў зямлю на 0,1 м і, верагодна, была зрубнай.

Знойдзена шмат ляпнога посуду мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Мілаградскі посуд прадстаўлены гаршкамі з прамым, адагнутым вонкі венчыкам і выпуклым тулавам, якое пераходзіць у круглаватае днішча, і паўсферычнымі пасудзінамі без пазначанага венчыка. Частка керамікі арнаментавана «жамчужнымі» адбіткамі, нанесенымі палачкай з унутранага боку венчыка ці шыйкі, а таксама ямачнымі адбіткамі, размешчанымі ў адзін рад з вонкавага боку шыйкі. Выяўлены фрагменты ляпных глянцаваных гаршкоў і місак зарубінецкай керамікі. Рэшткі аднаго глянцаванага гаршка маюць у верхняй частцы геаметрычны арнамент, выявы людзей.

Да культуры штрыхаванай керамікі адносяцца слоікавыя, слабапрафіляваныя пасудзіны і рабрыстыя гаршкі з невысокім венчыкам, часткова арнаментаваныя пазногцевымі зашчыпамі і ямачнымі адбіткамі, нарэзкамі, нанесенымі на рэбры ці на венчыку. Ніжняя частка іх у большасці пакрыта штрыхоўкай. Сярод знаходак — жалезныя сярпы, кельт, праколкі, нажы, наканечнік кап'я, абломак цугляў, бранзавыя бляшкі, пласцiністыя і драцяныя кольцы, вокападобныя і трапецападобныя падвескі, ланцужкі, фібула ў «вочкі» 1 ст. н. э., пранізкі, дыскападобная падвеска з навершам у выглядзе галавы качкі, шкляныя пазалочаныя, белая пацеркі і пацерка з шэра-блакітнага шкла ў «вочкі», жалезныя посахападобныя шпількі, касцяныя дзяржанні. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку, датуецца 6 ст. да н. э.— 2—3 стагоддзямі н. э.



2587. *Гарадзішча.*



2587. *Сярпы і нажы з раскопак гарадзішча.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... Слуцкий уезд.— Мн., 1879; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Егорейченко А. А. Иваньское городище.— У кн.: Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. *А. А. Егарэйчанка.*

**2588. МАГІЛА ІВАНОВА** Яўгена Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага Я. П. Іваноў загінуў 27.7.1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ізбудзішча, Вясейскі сельсавет**

**2589. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ісерна, цэнтр сельсавета**

**2590. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя 14 Слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В. П. Чкалава А. М. Пратасевіч і А. К. Клязовіч, якія загінулі 28.6.1944 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2591. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2592. МАГІЛА КАПАЦЭВІЧ** Вольгі Цімафееўны (гіст.). На могілках.

Грамадская дзеячка БССР В. Ц. Капацэвіч нарадзілася ў 1882 г. у сялянскай сям'і. Змагалася супраць банд Булак-Балаховіча. Удзельнічала ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве (1923 г.), у рабоце 1-га Усебеларускага з'езда сялянак і батрачак і ў міжнародным кангрэсе жанчын-камуністак (1924 г.). Дэлегат VI (надзвычайнага, 1924 г.) і VII (1925 г.) Усебеларускіх з'ездаў Саветаў. Арганізатар аднаго з першых калгасаў імя І. У. Мічурына на Случчыне. У 1925 г. намеснік наркома сацыяльнага забеспячэння БССР. У Вялікую Айчынную вайну была партызанскай сувязной. Член ЦВК БССР (1924—25 гг.). Памерла В. Ц. Капацэвіч 9.2.1967 г.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2593. МАГІЛА КАРАКІ** Яфіма Савіча (гіст.). На могілках. Сувязны партызанскага атрада імя 14 Слуцкіх партызан 64-й брыгады імя В. П. Чкалава Я. С. Карака загінуў 20.12.1943 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2594. МАГІЛА САМУСЕВІЧА** Мікалая Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага М. П. Самусевіч загінуў у ліпені 1943 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2595. МАГІЛА ХРЫСТАФОРАВА** Віктара Яфімавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя І. В. Сталіна 101-й партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага В. Я. Хрыстафораў загінуў у кастрычніку 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2596. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельскага Савета, устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы з студзеня 1942 г. да жніўня 1943 г. дзейнічала падпольная група. Яе стварыў і ўзначальваў камсамолец М. Д. Бялько. У вёсках Працавічы і Гуляева дзейнічала падпольная група на чале з М. І. Луцэвічам. Патрыёты наладзілі сувязь з партызанамі, збіралі зброю, вялі разведку, рабілі дыверсіі. На базе гэтых груп у жніўні 1943 г. створаны партызанскі атрад



2587. *Гліняныя праслiцы і грузікі з раскопак гарадзішча.*



2600. *Помнік землякам.*

імя 14 Слуцкіх партызан (камандзір да красавіка 1944 г. М. Д. Бялько, загінуў; камісар Ф. Я. Змітровіч) 64-й брыгады імя В. П. Чкалава.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2597. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, каля скрыжавання дарог Слуцк — Пагост — Ісерна. На ўшанаванне памяці 137 жыхароў вёсак Гуляева, Калініна, Нячаеўка, Ісерна, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнымі выявамі партызана, воіна і партызанкі.

**в. Каверoccы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1941 г. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Казловічы, цэнтр сельсавета**

**2599. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 44 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — воіны 151-га асобнага стралковага палка і 96-й гвардзейскай стралковай дывізіі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2600. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка аддзялення сувязі. На ўшанаванне памяці 430 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлена скульптура воіна.

**2601. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Калініна, Ісернскі сельсавет**

**2602. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя Дз. Ц. Гуляева брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага І. Г. Крышталь, Р. П. Балашко, М. Ф. Казак, С. Г. Сагітаў, якія загінулі 5.9.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2603. МЕСЦА ГІБЕЛІ ГУЛЯЕВА** Дзмітрыя Цімафеевіча (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

5.9.1943 г. група партызан на чале з камандзірам 101-й брыгады імя Аляксандра Неўскага Дз. Ц. Гуляевым накіроўвалася на баявое заданне. Каля в. Калініна (былая Панічы) сустрэла буйны атрад фашысцкіх карнікаў. Камандзір вырашыў прыняць бой, у ходзе якога партызаны знішчылі 47 карнікаў. Дз. Ц. Гуляеў быў тройчы паранены, але не пакінуў поле бою. Перамогу атрымалі партызаны. Камандзір загінуў у гэтым баі. 15.8.1944 г. Дз. Ц. Гуляеву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (гл. таксама артыкул № 2417 «Магіла Гуляева Дзмітрыя Цімафеевіча»).

У 1974 г. на месцы яго гібелі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Сакевіч А. Д. Камбрыг Дзмітрый Гуляеў.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1983, № 4; Грицкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн., 1985.

**в. Кальчыцы, Першамайскі сельсавет**

**2604. МАГІЛА ЛЯХА** Пятра Ільіча (гіст.). На могілках. П. І. Лях у 1941 г. забіты нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2605. МАГІЛА СТРАХОВІЧА** Аляксандра Герасімавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. В. Фрунзе брыгады 225-й імя А. В. Суворава А. Г. Страховіч загінуў 29.2. 1944 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Квасынічы, Беліцкі сельсавет**

**2606. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1941 г. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2607. МАГІЛА СТРАПАНА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант 455-га палка М. І. Страпан загінуў 26.6.1941 г. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кірава, цэнтр сельсавета**

**2608. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і партызаны атрада імя 14 Слуцкіх партызан брыгады 64-й імя В. П. Чкалава, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2609. МАГІЛА ВАСІЛЕВІЧА** М. Д. (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Жалязняк» 64-й брыгады імя В. П. Чкалава М. Д. Васілевіч загінуў у 1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Клешава, Маяцкі сельсавет**

**2610. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Лакнея. 3 насыпы дыяметрам 5—7 м, вышынёй 0,5—1 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Краснае, Амговіцкі сельсавет**

**2611. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны партызаны атрада імя М. С. Кірава брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе А. Жукавец і Т. Жукавец, якія загінулі ў 1943 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Краснае Сяло, Вясейскі сельсавет**

**2612. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Каля аўтамабільнай дарогі Слуцк — Старыя Дарогі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы і дрэва.

Комплекс узведзены паводле узорнага праекта 1843 г. Складаецца з 3 аднапавярховых прамавугольных у плане будынкаў. Цяпер прыстасаваны пад жыллё і гаспадарчыя памяшканні. Станцыйны дом мураваны і павернуты да дарогі падоўжным фасадам. Сцены члянёны вялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, галоўны ўваход (цяпер закладзены) вылучаны плоскім рызалітам з ганкам. Па баках дома тарцом да шашы пастаўлены сіметрычна карэтная і пуня, выкананыя «закідной» тэхнікай (драўляныя брусы ў мураваныя «шулы»). Будынкі злучаны паміж сабой мура-



2612. *Паштовая станцыя.*

ванымі сценамі з брамамі і ўтвараюць падоўжную франтальную кампазіцыю. Вулічны фасад атынкаваны. Дваровыя фасады бакавых пабудоў без акон, тарцовыя — прарэзаны маленькімі квадратнымі аконнымі праёмамі.

Станцыя — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Круглае, Сорагскі сельсавет**

**2613. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Кучына — Урэчча. Пахаваны 9 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Крушнік (не існуе), Першамайскі сельсавет**

**2614. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Крушнік знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Палікараўка. 23.2.1943 г. фашысцкія карнікі загубілі жыхароў і спалілі вёску (14 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Крывая Града, Гацукоўскі сельсавет**

**2615. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА КАНСТАНЦІНАВА** Міхаіла Пятровіча (гіст.) На ўсходняй ускраіне вёскі, каля в. Крывая Града з ліпеня 1941 г. да лютага 1942 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад М. П. Канстанцінава.

Генерал-маёр М. П. Канстанцінаў, камандзір 6-й кавалерыйскай дывізіі, быў паранены ў баі 29.6.1941 г. і з групай воінаў застаўся на акупіраванай тэрыторыі. У верасні 1941 г. група злілася з партызанскім атрадам, які быў сфарміраваны ў ліпені 1941 г. на базе групы партыйна-савецкага актыву Грэскага раёна на чале з У. І. Зайцам і групы ваеннаслужачых, што не выйшлі з варожага тылу, пад кіраўніцтвам М. М. Лібянкова. Камандзіры атрада: М. М. Лібянкоў (ліпень — верасень 1941 г.), М. П. Канстанцінаў (верасень 1941 г.— сакавік 1942 г.), П. М. Канавалаў (сакавік — ліпень 1942 г.), Д. А. Скляр (з ліпеня 1942 г.); камісар У. І. Заяц (ліпень 1941 г.— май 1942 г.). На пачатак лістапада 1941 г. атрад налічваў 40 чалавек. Першыя аперацыі правёў у Грэскім і Уздзенскім раёнах. Партызаны рабілі засады на шашы Мінск — Слуцк, праводзілі рэйды па Грэскім, Мінскім раёнах, 14.2.1942 г. каля в. Гацукі Слуцкага раёна знішчылі больш за 70 фашысцкіх карнікаў, захапілі значныя трафеі: мінамёт, 2 кулямёты, аўтаматы, вінтоўкі, боепрыпасы. У сакавіку 1942 г. атрад уліўся ў партызанскае злучэнне Мінскай вобласці. М. П. Канстанцінаў з красавіка да верасня 1942 г. узначальваў ваенна-аператыўную дзейнасць партызанскіх атрадаў Палескай зоны, потым быў адкліканы на Вялікую зямлю і прыняў камандаванне 7-м гвардзейскім кавалерыйскім корпусам Чырвонай Арміі.

У 1974 г. у гонар партызанскага атрада М. П. Канстанцінава ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Денисевич А. Ю. Орлиное племя: Записки комсомольского работника.— Мн., 1972.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Кублішча, Паўстынскі сельсавет**

**2616. МЕСЦА ЗАГУБЫ МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Тут 17.6.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 33 жыхароў. У 1975 г. на месцы расстрэлу пастаўлена стэла.

**в. Кучына, Амговіцкі сельсавет**

**2617. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Слуцк — Бабруйск. Пахаваны 69 воінаў зводнага атрада 14-га механізаванага корпуса 4-й арміі пад камандаваннем палкоўніка І. В. Тутарынава, які 27.6.1941 г. вёў у гэтых мясцінах няроўны бой супраць 2 танкавых дывізій ворага. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчына.

**в. Лапацічы, Знаменскі сельсавет**

**2618. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАЧКО** Івану Іванавічу (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1974 г.

Удзельнік Грамадзянскай вайны І. І. Бачко нарадзіўся 2.2.1899 г. у в. Лапацічы. Член РСДРП(б) з 1917 г. У час акупацыі Слуцка (1919—20 гг.) войскамі буржуазнай Польшчы старшыня падпольнага камітэта партыі (псеўданім Іваноў), узначальваў барацьбу працоўных горада і павета супраць інтэрвентаў. Пасля вызвалення часцямі Чырвонай Арміі 15.7.1920 г. Слуцка І. І. Бачко — старшыня Слуцкага часовага павятовага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Памёр І. І. Бачко 4.1.1922 г. Пахаваны на Новадзявочых могілках у Маскве.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн., 1985.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**2619. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УЛАСАЎЦУ** Аляксандру Ігнатавічу (гіст.). Каля дома, дзе ён нарадзіўся. Устаноўлена ў 1970 г.

Герой Савецкага Саюза А. І. Уласавец нарадзіўся 8.8.1901 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У 1928 г. скончыў Ленінградскую школу ваенных зносін. У Грамадзянскую вайну ў партызанскім атрадзе ў Слуцкім павеце, з 1922 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на Сталінградскім, Сцяпным, 2-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся пры вызваленні Украіны. 224-ы гвардзейскі стралковы полк пад камандаваннем падпалкоўніка А. І. Уласаўца 72-й стралковай дывізіі ў верасні 1943 г. фарсіраваў Дняпро ў раёне Новы Орлік — Барадаеўка Днепрапятроўскай вобл., захапіў і ўтрымліваў плацдарм, што садзейнічала паспяховаму развіццю наступлення. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. У 1943—44 гг.— намеснік камандзіра паветрана-дэсантнай дывізіі, потым начальнік штаба 5-й чыгуначнай брыгады.

А. І. Уласавец загінуў 23.1.1945 г. пры вызваленні Польшчы. Пахаваны ў Брэсце.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— 1984; Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965.

**в. Леніна, цэнтр сельсавета**

**2620. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — воіны 162-га гвардзейскага стралковага, 363-га артылерыйскага, 881-га самаходнага артылерыйскага палкоў і 1 партызан брыгады 64-й імя В. П. Чкалава. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2621. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замак. На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Морач. Пляцоўка прамавугольная, з закругленымі вугламі, памерам 60×45 м,



2621. *Гарадзішча.*



2621. *Гарадзішча. План.*

з усіх бакоў умацавана валам вышынёй 5 м, шырынёй 15 м і неглыбокім ровам, які месцамі не прасочваецца. Амаль палова вала часткова або поўнасцю разбурана, пляцоўка значна пашкоджана ямамі. Прарэзка вала паказала, што яго дасыпалі не менш як 3 разы. З боку пляцоўкі ў ім выяўлены апаленыя драўляныя канструкцыі, а ў яме ніжэй падэшвы — драўнінны вугаль і кавалкі жалезнага шлаку. Вядома з канца 19 ст. Абследаваў у 1973 г. А. А. Егарэйчанка, даследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын на плошчы 216 м². Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены вялікая колькасць фрагментаў грубаляпной гладкасценнай, штрыхаванай і ганчарнай керамікі, крыжык, а таксама жалезныя нажы, наканечнікі стралы, посахападобная шпілька, вырабы з бронзы, гліняныя прасліцы і грузікі, у т. л. арнаментаваныя, косці дзікіх і свойскіх жывёл, вырабы з крэменю, кавалкі жалезнага шлаку. У мацерыку было расчышчана 17 ям (5 з іх гаспадарчыя) і 2 крушні камянёў, магчыма, ад агнішчаў.

Матэрыялы раскопак сведчаць, што гарадзішча было на месцы неўмацаванага паселішча і адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі старажытнарускага перыяду. Найбольш інтэнсіўна яно выкарыстоўвалася ў 1-й палове 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. Ф. Гурын.*



2621. *Фрагменты ганчарнага посуду з раскопак гарадзішча.*



2621. *Прасліцы з раскопак гарадзішча.*



2621. *Жалезныя вырабы з раскопак гарадзішча.*

**2622. МАГІЛА ГАРУНОВА** Прохара Яфімавіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант 881-га самаходнага артылерыйскага палка П. Я. Гаруноў загінуў 30.7.1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2623. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. Маркса. На ўшанаванне памяці 103 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны. На высокім пастаменце барэльефная выява эпізоду бою і дошка з імёнамі загінуўшых.

**2624. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БОЮ 1812 г.** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы.

2.7.1812 г. каля в. Раманава (цяпер в. Леніна) адбыўся бой казацкага корпуса пад камандаваннем генерала ад кавалерыі М. І. Платава 2-й рускай арміі (камандуючы генерал П. І. Баграціён) з напалеонаўскімі войскамі пад камандаваннем Жэрома Банапарта і князя Юзэфа Панятоўскага. Казакі М. І. Платава, якія ўваходзілі ў ар'ергард рускай арміі, спынілі 4-ы кавалерыйскі корпус генерала В. Н. Латур-Мабура. Неўзабаве былі атакаваны 7 палкамі варожай кавалерыі, пяхоты і артылерыі. У бой былі ўцягнуты значныя сілы французскай арміі і ўвесь рускі ар'ергард. У выніку поўнасцю разгромлены 1-ы коннаегерскі полк праціўніка, які быў вымушаны адступіць да в. Цімкавічы. Рускія войскі ўзялі ў палон 20 афіцэраў, да 300 малодшых афіцэраў і салдат праціўніка. У гэтым баі вызначыўся камандзір 1-га батальёна Ахтырскага гусарскага палка падпалкоўнік Дз. В. Давыдаў.



2621. *Крыжык з раскопак гарадзішча.*




2623. *Помнік землякам.*

У 1962 г. на месцы бою ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Древний город на Случи.— Мн., 1985.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2625. РАДЗІМА ТЭРАЎСКАГА** Уладзіміра Васілевіча (гіст.).

Беларускі савецкі харавы дырыжор, кампазітар і фалькларыст У. В. Тэраўскі нарадзіўся 11.11.1871 г. у мястэчку Раманава (цяпер в. Леніна) у сялянскай сям'і. Дырыжорскую дзейнасць пачаў у 16—17 гадоў. З 1890 г. служыў у розных дзяржаўных установах, адбываў вайсковую павіннасць. У юнацкія гады спяваў у капэле Дз. Агрэнева-Славянскага, дырыжыраваў аматарскімі хорамі Шайтанскага і Білімбаеўскага чыгуналіцейных заводаў на Урале. У 1901 г. вярнуўся на



2624. *Помнік на месцы бою 1812 г.*

Беларусь, працаваў у Мінску як хормайстар і настаўнік спеваў. У 1914 г. стварыў у Мінску адзін з першых беларускіх харавых калектываў, рэарганізаваны ў 1917 г. у Беларускі народны хор, які выступаў з канцэртамі па рэспубліцы, удзельнічаў у драматычных спектаклях. У 1917—20 гг. узначальваў музычную частку Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, з 1920 г. да 1935 г. хормайстар Беларускага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1). У. В. Тэраўскім напісана музыка да п'ес «Бязвінная кроў» У. Галубка (1918 г.), «На Купаллі» М. Чарота (1921 г.), «Машэка» і Кастусь Каліноўскі» (1923 г.), «Каваль-ваявода» і «Кар'ера Брызгаліна» (1925 г.) Е. Міровіча і інш. Аўтар песень, рамансаў на вершы Я. Купалы, З. Бядулі, М. Чарота і інш., апрацовак беларускіх народных песень, якія часткова ўвайшлі ў зборнікі «Беларускі спеўнік...» (1921 г.), «Беларускі лірнік» (1922 г.) і інш.

Памёр У. В. Тэраўскі 10.11.1938 г.

*Літ.:* Зубрыч І. Харавая творчасць беларускіх кампазітараў 20-х гадоў.— У кн.: Беларускае мастацтва. Мн., 1962, в. 3. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Ленькі, Пакрашаўскі сельсавет**

**2626. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2627. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2628. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік.

**2629. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта з імёнамі загінуўшых.

**2630. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1961 г.

**2631. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БОЮ 1943 г.** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. 10.6.1943 г. група партызан (з жніўня 1943 г.— атрад імя Мікалая Астроўскага брыгады 225-й імя А. В. Суворава; камандзір атрада Б. І. Багдановіч, камісар І. Ф. Шпакоўскі) знішчыла нямецкі дот, яго варту, захапіла зброю і боепрыпасы. У 1974 г. на месцы бою пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Лесуны, Казловіцкі сельсавет**

**2632. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лошыца, Вясейскі сельсавет**

**2633. МАГІЛА ЗАЙЦАВА** Івана Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Сяржант Чырвонай Арміі І. Ф. Зайцаў загінуў у 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лучнікі, Сяражскі сельсавет**

**2634. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БРАТАМ БАСАЛЫГАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1984 г. на ўшанаванне памяці прафесійных рэвалюцыянераў братоў Басалыгаў — Дзмітрыя Мікалаевіча і Канстанціна Мікалаевіча.

Дзмітрый Мікалаевіч (партыйныя псеўданімы — Ігнат, Уральскі, Ігнатарскі) нарадзіўся 15(27).11.1884 г. у в. Варкавічы Слуцкага р-на ў сям'і фельчара. У рэвалюцыйным руху пачаў удзельнічаць у час вучобы ў Харкаўскім тэхналагічным інстытуце. Член КПСС з 1904 г. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. арганізаваў і кіраваў баявой дружынай у Харкаве. З 1906 г. веў нелегальную партыйную работу ў Севастопалі, Пермі, Екацярынбургу. Дэлегат V (Лонданскага) з'езда РСДРП (1907 г.). Неўзабаве быў арыштаваны і зняволены ў Харкаўскую турму (1908 г). Пасля 1910 г. вучыўся на юрыдычным факультэце Маскоўскага універсітэта, у школе-студыі МХАТ, працаваў на кінафабрыцы А. Ханжанкова і веў палітычныя заняткі з рабочымі Прэсні і Мытішчаў. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі старшыня палкавога камітэта на фронце, у Грамадзянскую вайну камісар 1-й брыгады 47-й стралковай дывізіі, потым начальнік аддзела мастацтва Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі. У 1920—21 гг. працаваў загадчыкам Цэнтральнага ўпраўлення тэатраў Наркамасветы РСФСР, у 1923—26 гг. старшыня праўлення акцыянернага таварыства «Пралетарскае кіно». У 1924 г. па даручэнню ЦК РКП(б) у складзе групы кінаработнікаў здымаў на кінастужку пахаванне У. І. Леніна. Сцэнарыст і рэжысёр шэрагу кінафільмаў: «Са змроку царызму» (1917 г.), «Зняцце свабоды» (1917 г.), «Барацьба за ўльтыматум» (1923 г.), «Чырвоны тыл» (1924 г.) і інш. Фільмам «З іскры — полымя» (1924 г.) і «Мусульманка» (1925 г.) прысуджаны залатыя медалі на Парыжскай выстаўцы 1925 г. (апошні прайшоў на экранах 22 замежных краін). У 1938—41 гг. Дз. М. Басалыга кі-



2629. *Помнік землякам.*



2631. *Помнік на месцы бою 1943 г.*




2635. *Помнік землякам.*

раваў аддзелам навуковай прапаганды ў Траццякоўскай галерэі. У Вялікую Айчынную вайну ў Чырвонай Арміі, камісар маскоўскіх зборных пунктаў. У 1944—45 гг. выкладчык Вышэйшай дыпламатычнай школы пры Міністэрстве замежных спраў СССР.

Памёр Дз. М. Басалыга 15.4.1969 г. у Маскве.

Канстанцін Мікалаевіч (партыйныя псеўданімы — Дальні, Іван) нарадзіўся 18.5.1887 г. у в. Варкавічы Слуцкага р-на ў сям'і фельчара. Да рэвалюцыйнага руху далучыўся ў гады вучобы ў Харкаўскім рэальным вучылішчы. Член КПСС з 1905 г. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. член ваенна-баявога штаба ў Харкаве, Севастопальскага к-та РСДРП і рэдакцыі яго органа — газеты «Солдат». Вёў нелегальную партыйную работу ў Харкаве, Адэсе, Екацярынадары, Севастопалі. У 1906 г. адзін з арганізатараў і выканаўцаў знішчэння ў Севастопалі 40 тамоў судовых спраў па працэсу лейтэнанта Шміта. У выніку было выратавана жыццё многіх матросаў крэйсера «Ачакаў», удзельнікаў паўстання ў лістападзе 1905 г. У 1907 г. дэлегат V (Лонданскага) з'езда РСДРП, прывёз у Лондан У. І. Леніну мандат дэлегата ад бальшавікоў Усолля (Верхне-Каменскага Камітэта РСДРП). У 1915 г. арыштаваны і сасланы ў Омск. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Потым працаваў на адказнай савецкай рабоце ў Омску, Краснадары, Севастопалі. У Вялікую Айчынную вайну у народным апалчэнні Севастопаля, быў кантужаны. Пасля вайны працаваў у Стаўрапалі. Памёр К. М. Басалыга 9.9.1963 г. у Стаўрапалі.

*Літ.:* Ілюкевіч Л. А. У Слуцкім краязнаўчым.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1977, № 4; Пастрон Р. Я. Вуліца Басалыгаў.— Тамсама, 1983, № 1. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2635. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 200 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, партызан і партызанка, на пастаменце — імёны загінуўшых.

**в. Лявішча (не існуе), Амговіцкі сельсавет**

**2636. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лявішча знаходзілася за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Чырвоная Старонка. У студзені 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 50 яе жыхароў, вёску (28 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Лядна, Рачкавіцкі сельсавет**

**2637. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.) На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 44 воіны, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, 161-га і 162-га гвардзейскага стралковых палкоў, 125-га артылерыйскага палка. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам, на пастаменце — імёны загінуўшых.



2637. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



2642. *Помнік землякам.*

**2638. МАГІЛА КУРАПЕЯ** Давыда Пейсахавіча і **ХОСЫДА** Яфіма Ніснавіча (гіст.). На могілках. Савецкія воіны Д. П. Курапей і Я. Н. Хосыд загінулі ў 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Маглышы, Кіраўскі сельсавет**

**2639. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны 295-га гвардзейскага стралковага палка 96-й гвардзейскай стралковай дывізіі радавыя Г. А. Валіеў, Ш. Г. Кучаба, Я. П. Казбах, І. П. Рэўко, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малышэвічы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2640. МАГІЛА БІРЫЧА** І. І. (гіст.). На могілках, І. І. Бірыч расстраляны ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1974 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлена стэла.

**2641. МАГІЛА ГАЯКА** А. Х. (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі А. Х. Гаяк загінуў у 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2642. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст). За 1 км на захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 266 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з імёнамі загінуўшых.




2649. *Помнік землякам.*

**в. Машчыцы, Акцябрскі сельсавет**

**2643. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, сярод поля. 4 насыпы вышынёй каля 2 м, дыяметрам 7—8 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Маяк, цэнтр сельсавета**

**2644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Маяк». На ўшанаванне памяці 141 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і дзяўчынкі.

**в. Мелітонава, Сорагскі сельсавет**

**2645. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 35-й механізаванай брыгады: малодшы сяржант У. А. Кандраценка, малодшы сяржант А. Я. Ермакоў і радавы С. П. Усаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мерашыно, Паўстынскі сельсавет**

**2646. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка клуба. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Міхейкі, Бокшыцкі сельсавет**

**2647. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Мусічы, Маяцкі сельсавет**

**2648. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 109 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Мялешкі, Вясейскі сельсавет**

**2649. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 124 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — на агульным стылабаце скульптура воіна, стэла з надпісам-прысвячэннем, на пастаменце дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Набушава, Вясейскі сельсавет**

**2650. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі 26.6.1941 г., і 2 партызаны Вялікай Айчыннай вайны. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2651. КУРГАН** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 6 м. Захаванасць добрая. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка.

**2652. МАГІЛА КАВАЛЬСКАГА** Вячаслава Віктаравіча (гіст.). На могілках. В. В. Кавальскі загублены 23.9. 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлены абеліск.

**2653. МАГІЛА КАВАЛЬСКАГА** Сцяпана Пятровіча (гіст.). На могілках. С. П. Кавальскі загублены ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Навадворцы, Кіраўскі сельсавет**

**2654. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. М. Радзюка, на скрыжаванні дарог Кляпчаны — Кірава. Устаноўлена ў 1974 г.

У Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1941 г. у вёсцы дзейнічала падпольная партыйна-камсамольская група пад кіраўніцтвам камуніста М. І. Багунова, у якую ўваходзілі К. П. Станкевіч, М. Н. Станкевіч, Н. М. Марозава, усяго 18 чалавек.

У верасні 1941 г. камсамолец М. Г. Радзюк арганізаваў у вёсцы і ўзначаліў падпольную патрыятычную групу моладзі. У групу ўваходзілі камсамольцы У. Хіль, М. Сакаловіч, С. Кулік, І. Бабурэвіч, А. Радзюк, Л. Радзюк, Я. Радзюк, І. Праскаловіч і інш. Дзейнасць групы накіроўвалі камуністы А. Дз. Фамін і М. І. Багуноў. 3 снежня 1941 г. група дзейнічала ў складзе Слуцкага камуністычнага падполля. Патрыёты збіралі зброю, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вялі разведку. Падпольшчыкі М. Г. Радзюк і М. Сакаловіч уладкаваліся ў паліцыю з мэтай здабываць інфармацыю аб плануемых карных экспедыцыях супраць партызан. У сакавіку 1943 г. частка патрыётаў пайшла ў партызаны. Некаторыя, у т. л. М. і А. Радзюкі, М. Сакаловіч загінулі ў барацьбе з ворагам. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2655. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Першае мая». На ўшанаванне памяці 475 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ніва, Першамайскі сельсавет**

**2656. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 40 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 6—12 м. Частка з іх пашкоджана ямамі. Выявіў і абследаваў у 1985 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Новая Ніва, Бокшыцкі сельсавет**

**2657. МАГІЛА МЕЛЯШКЕВІЧА** Юліяна Вікенцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. В. Фрунзе 225-й партызанскай брыгады імя А. В. Суворава Ю. В. Меляшкевіч загінуў 7.3.1943 г. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новы Гуткоў,
Амговіцкі сельсавет**

**2658. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахава-



2655. *Помнік землякам.*

ны воіны Кудрашоў, Г. Р. Масакоўскі, М. Т. Пірфімовіч, Тушканаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2659. МАГІЛА ІВАШКЕВІЧА** Іосіфа Францавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. В. Фрунзе брыгады 225-й імя А. В. Суворава І. Ф. Івашкевіч загінуў 23.5.1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Рачкавічы,**
**цэнтр Рачкавіцкага сельсавета**

**2660. РАДЗІМА ЗАЛЕСКАГА** Баніслава Францавіча (гіст.).

Польскі і беларускі мастак, пісьменнік і грамадскі дзеяч, член-карэспандэнт АН у Кракаве (1873 г.) Б. Ф. Залескі (псеўданім Л і т в і н) нарадзіўся ў 1819 г. у сям'і дробнага шляхціца. Вучыўся ў Дэрптцкім (Тартускім) універсітэце, удзельнічаў у нелегальных студэнцкіх гуртках. За гэта паводле прыгавору Віленскага ваеннага суда ў 1847 г. здадзены радавым у салдаты і сасланы ў Арэнбург, потым у Хіву, Туркестан. У ссылцы пазнаёміўся з Т. Р. Шаўчэнкам, якому дапамагаў афармляць матэрыялы Аральскай экспедыцыі, з мая па верасень 1851 г., разам з ім удзельнічаў як рысавальшчык у экспедыцыі па гарах Каратау. У 1853—59 гг. перапісваўся з Т. Р. Шаўчэнкам (захавалася 26 лістоў перапіскі). Сустракаўся з ім восенню 1859 г. у Пецярбургу. Т. Р. Шаўчэнка прысвяціў Б. Ф. Залескаму аповесць «Княгіня» і верш «Як мы былі яшчэ казакамі». У 1856 г. вярнуўся у Рачкавічы, дзе стварыў шэраг пейзажаў.

У пачатку 1860-х гадоў эміграваў за мяжу. Нядоўга жыў у Дрэздэне і Рыме, пасяліўся (верагодна у 1862 г.) у Парыжы. Памагаў паўстанцам 1863—64 гг. у закупцы зброі. З 1866 г. сакратар Гісторыка-літаратурнага таварыства і рэдактар яго «Штогоднікаў», з 1868 г. дырэктар польскай бібліятэкі ў Парыжы. У 1865 г. у Парыжы выпусціў ілюстраванае 22 афортамі выданне «Жыццё кіргізскіх стэпаў», у распаўсюджанні якога згадзіўся прыняць удзел А. Герцэн. У 1866 г. апублікаваў успаміны «Польскія выгнаннікі ў Арэнбургу» аб прабыванні аўтара ў ссылцы і сувязях з рускімі і ўкраінскімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі, а таксама ўспаміны пра сучаснікаў. Стварыў афорты «Калізей у Рыме» (1864 г.), «Від Сан-Мало», малюнкі пра паўстанне 1863—64 гг.— «Серакоўскі ў турме» (1863 г.) і інш., пейзажы — «Паток у Ціролі» і інш., ілюстрацыі да кніг.

Памёр Б. Ф. Залескі 2.1.1880 г. у Ментане.

*Літ.:* А л е к с а н д р о в і ч С. Старонкі братняй дружбы.— Мн., 1960; Т. Г. Шевченко в воспоминаниях современников.— М., 1962. *А. І. Мальдзіс.*




2662. *Курганны могільнік. План.*

**в. Падлессе, Ленінскі сельсавет**

**2661. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 108 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — стэла з надпісам-прысвячэннем. На 2 плоскасцях яе барэльефныя вывы: маці праводзіць сыноў на вайну, эпізод бою. Побач — пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Падліпцы, Сяражскі сельсавет**

**2662. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, уздоўж чыгункі. 70 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 4—8 м выцягнуты ў адну лінію з захаду на ўсход. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1979 г. Г. М. Залашка, у 1985 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.



2661. *Помнік землякам.*

**в. Палікараўка,**
**Першамайскі сельсавет**

**2663. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі Асіповічы — Бабоўня. Пахаваны 16 партызан брыгад 225-й імя А. В. Суворава і 95-й імя М. В. Фрунзе, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і жанчына, што ўскладае кветкі.



2663. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

**2664. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Асіповічы — Бабоўня. Пахаваны 96 жыхароў вёскі, якіх 23.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2665. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 15 жыхароў в. Крушнік, якіх 23.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2666. ПОМНІК У ГОНАР ГРЭСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РК КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 225-Й ІМЯ А. В. СУВОРАВА** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну каля вёскі дыслацыраваліся Грэскі падпольны райком КП(б)Б і штаб партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава.

Грэскі падпольны РК КП(б)Б дзейнічаў з 12.3.1943 г. да 29.6.1944 г. Сакратары І. І. Пузевіч (да 28.5.1943 г.), У. І. Заяц (28.5.1943 г.— 29.6.1944 г.). Грэскі РК КП(б)Б стварыў падпольныя групы, арганізоўваў прыём і распаўсюджванне зводак Саўінфармбюро, вёў выхаваўчую работу ў партызанскіх атрадах, шырокую растлумачальную сярод насельніцтва, выдаваў газету «Сталинец» (рэдактар Т. М. Беразоўскі). Падпольны райком КП(б)Б базіраваўся ў партызанскай брыгадзе 225-й імя А. В. Суворава.



2666. *Помнік у гонар Грэскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава.*




2673. *Помнік на месцы спаленай вёскі.*

Партызанская брыгада 225-я імя А. В. Суворава створана ў снежні 1942 г. паводле загада штаба партызанскага злучэння Слуцкай зоны на базе атрадаў імя А. В. Суворава, імя С. М. Будзённага, імя М. В. Фрунзе брыгады імя К. Я. Варашылава. Пад час арганізацыі налічвала 700 чалавек. Партызаны дзейнічалі на тэрыторыі Слуцкага і Грэскага раёнаў Мінскай вобласці. Камандзіры: Л. П. Стафанюк (снежань 1942 г.— чэрвень 1943 г.), І. В. Арастовіч (чэрвень 1943 г.— верасень 1943 г.), А. М. Каляда (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары: П. І. Разувакін (снежань 1942 г.— чэрвень 1943 г.), І. М. Ражкоў (чэрвень 1943.— жнівень 1943 г.), У. І. Заяц (жнівень 1943 г.— ліпень 1944 г.). У брыгадзе былі арганізаваны атрады імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя С. М. Кірава, імя В. П. Чкалава, Імя М. А. Астроўскага, імя К. К. Ракасоўскага, імя 26-годдзя Кастрычніка. У верасні 1943 г. для фарміравання брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе перададзены атрады імя С. М. Будзённага, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя С. М. Кірава, імя К. К. Ракасоўскага. 154 чалавекі былі пераведзены ў Беластоцкае партызанскае злучэнне. Партызаны брыгады знішчалі жывую сілу ворага, грамілі нямецка-фашысцкія гарнізоны, вялі баі з карнікамі, рабілі засады каля шашы Мінск — Слуцк, Слуцк — Івацэвічы, арганізоўвалі дыверсіі ў Слуцку, Грэску, псавалі лініі сувязі, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, узрывалі эшалоны. У час «рэйкавай вайны» ў 1943 г. знішчылі 1,4 тыс. рэек. На дзень злучэння з часцямі Чырвонай Арміі 29.6.1944 г. брыгада 225-я імя А. В. Суворава налічвала 1040 партызан.

У 1965 г. у гонар Грэскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава устаноўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Папоўцы, Вясейскі сельсавет**

**2667. МАГІЛА САВАНОВІЧА** Аркадзя Раманавіча (гіст.) На могілках. Партызан атрада імя С. М. Кірава 95-й брыгады імя М. В. Фрунзе А. Р. Сэвановіч загінуў 4.4.1944 г.

**в. Паўлаўка, Амговіцкі сельсавет**

**2668. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны члены сям'і Пенязь: Праскоўя (43 гады) Анатоль (15 гадоў), Марыя (12 гадоў), Ліда (5 гадоў), якіх 17.2.1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1963 на магіле пастаўлены абеліск.

**2669. МАГІЛА ПЕНЯЗЬ** Кацярыны Герасімаўны (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. К. Г. Пенязь загубілі 30.12.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.




2674. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Паўлаўка, Сяражскі сельсавет**

**2670. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.) За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, сярод поля. 70 насыпаў вышынёй 0,5—1,7 м, дыяметрам 4—17 м. Каля асновы курганоў прасочваюцца раўкі. Абследавалі ў 1983 г. А. А. Егарэйчанка і Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Паўстынь, цэнтр сельсавета**

**2671. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 158 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай воіна.

**2672. ПОМНІК ТЭЛЬМАНУ** Эрнсту (гіст.). Каля дома культуры. Бюст Э. Тэльмана ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Пераходы (не існуе), Першамайскі сельсавет**

**2673. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Пераходы знаходзілася за 1,5 км на поўдзень ад в. Жылін Брод. 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 116 яе жыхароў і спалілі вёску (26 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

На месцы былой вёскі ў 1979 г. пастаўлены помнік — на насыпным невысокім кургане скульптура жанчыны ў жалобе. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама артыкул № 2566 «Могілкі ахвяр фашызму».



2677. *Курганны могільнік. План.*

**в. Покрашава, цэнтр сельсавета**

**2674. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. Пахаваны 7 воінаў 35-й механізаванай брыгады, якія загінулі 30.6.1944 г. у баях за вызваленне раёна. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Андрыян Макаравіч Губін.

А. М. Губін нарадзіўся 12.6.1913 г. у в. Аляксееўка Тапчыхінскага р-на Алтайскага краю ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Да вайны працаваў трактарыстам, камбайнерам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., камандзір узвода, потым камандзір роты. Вызначыўся пры вызваленні Украіны і фарсіраванні Дняпра ў раёне Крэменчуга. 13.9.1943 г. рота пад камандаваннем лейтэнанта А. М. Губіна ўварвалася ў траншэі праціўніка, у рукапашным баі знішчыла 25 гітлераўцаў і 2 разлікі процітанкавых гармат. У наступальных баях разграміла 2 гарнізоны праціўніка, 15.10.1943 г. фарсіравала Днянро і захапіла плацдарм, на якім адбіла 6 варожых контратак, знішчыла больш за 100 гітлераўцаў. З 5 жніўня да 13 кастрычніка быў тройчы паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.12.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Слуцку.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *А. Г. Шчарбатаў.*

**2675. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Працавічы, Кіраўскі сельсавет**

**2676. ПОМНІК ГАГАРЫНУ** Юрыю Аляксеевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст першага ў свеце касманаўта Ю. А. Гагарына ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Прошчыцы, Бокшыцкі сельсавет**

**2677. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, за калгасным садам. 8 насыпаў дыяметрам 7—10 м, вышынёй 1—3 м. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1929 г. С. А. Дубінскі, абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**2678. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пятніцы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2679. КУРГАН** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Танежыцы. Вышыня 1 м, дыяметр 5 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка.

**в. Рабак, Паўстынскі сельсавет**

**2680. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,9 км на захад ад вёскі, сярод поля. 55 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—12 м. Курганы зараслі лесам, большасць іх пашкоджана ямамі. Абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ржаўка, Першамайскі сельсавет**

**2681. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. К. РАКАСОЎСКАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі. У вёсцы з верасня 1943 г. да ліпе-




2680. *Курганны могільнік. План.*

ня 1944 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад імя К. К. Ракасоўскага брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе.

5.6.1943 г. паводле рашэння Грэскага падпольнага райкома КП(б)Б 225-я брыгада імя А. В. Суворава вылучыла ініцыятыўную групу (12 чалавек) для стварэння партызанскага атрада. За 2 месяцы група значна папоўнілася жыхарамі Грэскага р-на і ў верасні 1943 г. аформлена ў партызанскі атрад імя К. К. Ракасоўскага. Камандзір атрада А. Дз. Фамін, камісар В. Дз. Родчанка. Партызаны атрада ўдзельнічалі ў 12 баях супраць акупантаў, знішчылі 220 салдат і афіцэраў, 1 эшалон, 25 аўтамашын і 1 бронетранспарцёр ворага, 6 мастоў, 43,5 км лініі сувязі, захапілі вялікія трафеі. На дзень злучэння 29.6.1944 г. з часцямі Чырвонай Арміі атрад налічваў 160 партызан.

У 1975 г. у памяць аб баявой дзейнасці атрада ўстаноўлена стэла.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Рудня, Покрашаўскі сельсавет**

**2682. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 жыхароў вёсак Адамова, Апаліны, Бабовішчы, Рудноўка, Рудня, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1982 г. па магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рыжыца, Сорагскі сельсавет**

**2683. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,25 км на паўднёвы захад ад вёскі, на невысокім мысе. Пляцоўка амаль круглая, памерам 50×51 м, умацавана 2 валамі і равамі. Вонкавы вал вышынёй 1,5 м размешчаны ніжэй пляцоўкі і аддзелены ад унутранага кальцападобным ровам глыбінёй 1,2 м. Адкрыў у 1961 г. В. В. Сядоў, абследаваў у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт у шурфах 0,1 м. Знойдзены дробныя фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. А. Егарэйчанка.*



2683. *Гарадзішча. План.*



2685. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Селішча, Акцябрскі сельсавет**

**2684. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1941 г. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2685. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 96 воінаў 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя і стэла з барэльефнай выявай твараў воіна і партызана і імёнамі загінуўшых.

**2686. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гараваха. Пахаваны больш як 8 тыс. мірных жыхароў, якіх 28.10.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сорагі, цэнтр сельсавета**

**2687. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2687а.** Курганны могільнік-1. За 0,8 км на поўнач ад вёскі, сярод поля. 32 насыпы вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 4,5—9,5 м (2 з іх авальныя памерам 6,5×9,5 м і 6×10,5 м). Большасць курганоў пашкоджана ямамі. Абследавалі ў 1979 г. Г. М. Залашка, у 1983 г. А. А. Егарэйчанка і Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**2687б.** Курганны могільнік-2. За 0,4 км на поўнач ад вёскі, сярод поля. 72 насыпы вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—12 м. Захаванасць добрая, курганы зараслі дрэвамі, вакол асновы некаторых з іх прасочаны раўкі. Абследавалі ў 1983 г. А. А. Егарэйчанка і Т. С. Скрыпчанка. Раскопкі не праводзіліся.

*А. А. Егарэйчанка.*

**2688. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 117 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — стэла з выявай воіна.

**в. Старэва, Амговіцкі сельсавет**

**2689. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. У 7 магілах пахаваны 43 жыхары вёскі, якіх 23.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1974 г. на могілках пастаўлена стэла.

**2690. РАДЗІМА МАЙХРОВІЧА** Сцяпана Казіміравіча (гіст.).

Беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук (1959 г.) С. К. Майхровіч нарадзіўся 8.6.1908 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1928 г. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага (1941 г.). У 1930-х гадах рэдактар газет «Орка» («Ворыва») і «Штандар вальносці», што выходзілі на польскай мове. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны старшы інструктар палітаддзела 10-й арміі. З восені 1941 г. галоўны рэдактар Цэнтральна-беларускага радыёвяшчання ў Маскве. З 1943 г. у тыле ворага: член Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б, рэдактар падпольнай газ. «Белостокская правда».

У 1944—48 гг. дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, у 1951—54 гг. галоўны рэдактар Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. У 1959—70 гг. у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследаваў старажытную і савецкую беларускую літаратуру. Аўтар прац «Янка Лучына» (1952 г.), «В. І. Дунін-Марцінкевіч» (1955 г.), «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957 г., 2-е выд. 1959 г.), «Максім Багдановіч» (1958 г.), «Жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча», «Янка Брыль» (абедзве 1961 г.), «Георгій Скарына» (1966 г.), «Слова аб палку Ігаравым» (1968 г.), «Прыказкі і прымаўкі. Гістарычны нарыс» (1976 г.), «Іван Шамякін» (1978 г.), «Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст.» (1980 г.).

Памёр С. К. Майхровіч 1.7.1981 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Казлоўскі А. Дасведчанасць і прынцыповасць.— Беларусь, 1978, № 6; Цішчанка І., Галчанаў А. Плён шматгадовай працы.— Полымя, 1968, № 6.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Строхава, Першамайскі сельсавет**

**2691. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны члены



2688. *Помнік землякам.*

сям'і аднаго з арганізатараў партызанскага руху ў Грэскім р-не, члена міжрайкома КП(б)Б Слуцкай зоны, сакратара Грэскага падпольнага райкома КП(б)Б У. І. Зайца: жонка, сын (3 гады) і маці, якіх 26.1.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2692. МАГІЛА ІЛЬЫНСКАГА** Івана (гіст.). На могілках. І. Ільынскі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1976 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлены абеліск.

**2693. МАГІЛА НАРОНСКАГА** Аляксандра Львовіча (гіст.). На могілках. А. Л. Наронскі 30.9.1941 г. загублены нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1978 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлена стэла.

**2694. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2695. МАГІЛА ЦІШКЕВІЧА** Аляксея Васілевіча (гіст.). На могілках. А. В. Цішкевіч загублены ў снежні 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1976 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Сярагі, цэнтр сельсавета**

**2696. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя М. А. Астроўскага 225-й брыгады імя А. В. Суворава А. А. Клінаў, М. П. Бандарэнка і камандзір узвода разведкі 133-га кавалерыйскага палка лейтэнант А. Л. Байдак, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2697. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 86 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — гранітны маналіт з гарэльефам воіна, на пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Сярэднікі, Знаменскі сельсавет**

**2698. МАГІЛА ХАЦЕНКІ** Аляксея Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі А. Р. Хаценка загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Таліца, Вясейскі сельсавет**

**2699. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі. Савецкі лётчык загінуў 26.6.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Танежыцы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2700. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2701. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, за калгасным садам. 2 насыпы вышынёй 1 і 2 м, дыяметрам 7 і 8 м. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1979 г. Г. М. Залашка. Раскопкі не праводзіліся.

**2702. МАГІЛА ГЕРАСІМОВІЧА** М. Ф. (гіст.). На могілках. М. Ф. Герасімовіч загублены ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1973 г. на магіле ахвяры фашызму пастаўлена стэла.

**2703. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка школы. На ўшанаванне памяці 197 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — на фоне абеліска скульптуры партызана і дзяўчыны, што ўскладае кветкі.

**2704. РАДЗІМА БРАНАВІЦКАГА** Аляксандра Юльянавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне патафізіялогіі і тэарэтычнай медыцыны, член-карэспандэнт АН БССР (1950 г.), доктар медыцынскіх навук (1940 г.), прафесар (1948 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971 г.) А. Ю. Бранавіцкі нарадзіўся 16.3.1914 г. у сям'і селяніна. Член КПСС з 1944 г. Пасля заканчэння Слуцкай сярэдняй школы працаваў шахцёрам у Данбасе. У 1936 г. скончыў 2-і Ленінградскі медыцынскі інстытут. У 1941—44 гг. загадчык кафедры патафізіялогіі Іркуцкага медыцынскага інстытута, у 1944—50 гг. загадчык лабараторыі Інстытута агульнай і эксперыментальнай паталогіі, адначасова з 1948 г. загадчык кафедры патафізіялогіі Маскоўскага стаматалагічнага інстытута. У 1950 г. дырэктар Інстытута тэарэтычнай медыцыны АН БССР, у 1953—59 гг. загадчык аддзела ўзроставай фізіялогіі Інстытута аховы мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя БССР, у 1958—63 гг. загадчык кафедры патафізіялогіі, прарэктар Мінскага медыцынскага інстытута. Даследаваў праблемы рэактыўнасці арганізма, шокавыя працэсы, кампенсаторныя прыстасаванні і метадалагічныя пытанні медыцыны, ролю нервовай рэцэпцыі і следавыя рэакцыі ў паталогіі, дваістую, унутрысупярэчлівую прыроду хваробы, злаякасныя новаўтварэнні.

Памёр А. Ю. Бранавіцкі 24.7.1975 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.




2703. *Помнік землякам.*

**в. Уланава, Бокшыцкі сельсавет**

**2705. МАГІЛА БАРЭЙЧАНКІ** Андрэя Германавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя С. М. Кірава 95-й брыгады імя М. В. Фрунзе А. Г. Барэйчанка загінуў 11.3.1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2706. МАГІЛА БЛЕБУША** І. Я. (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. Я. Блебуш загінуў 28.7.1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2707. МАГІЛА ЛЮБЕЦКАГА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. І. Любецкі загінуў у 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Фадзееўка (не існуе), Першамайскі сельсавет**

**2708. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Фадзееўка знаходзілася за 1 км на ўсход ад в. Палікараўка. 23.2.1943 г. фашысцкія карнікі загу-

білі 9 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла.

**в. Ціхань, Амговіцкі сельсавет**

**2709. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі. У 11 магілах пахаваны 47 жыхароў в. Гондарава, якіх загубілі і спалілі 23.2.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі. У 1974 г. на могілках пастаўлена стэла.

**в. Цяраспаль, Ленінскі сельсавет**

**2710. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 303-га стралковага палка. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чаплічы, Рачкавіцкі сельсавет**

**2711. МАГІЛА ДОЛБІКА** Піліпа Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Сувязны партызанскага атрада імя А. Я. Пархоменкі П. Ф. Долбік загінуў 1.1. 1943 г. ад рук нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2712. РАДЗІМА ЛОБАНА** Міколы (гіст.). Беларускі савецкі пісьменнік і мовазнавец, кандыдат філалагічных навук (1953 г.), заслужаны работнік культуры БССР (1974 г.) Мікола (Мікалай Паўлавіч) Лобан нарадзіўся 4.10.1911 г. у сялянскай сям'і. Пасля заканчэння двухгадовых педагагічных курсаў (1931 г.) настаўнічаў у Любанскім і Рудзенскім р-нах. Скончыў БДУ (1945 г.). У Вялікую Айчынную вайну на Волхаўскім фронце, пасля двух раненняў у 1942 г. дэмабілізаваны. Выкладаў рускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе ў пас. Келераўка (Казахская ССР). Працаваў у Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР (1944—75 гг.; у 1967—68 гг. у БелСЭ).

Друкаваўся з 1930 г. У 1953 г. выдадзена аповесць «Іркуцянка». Аўтар трылогіі «Шэметы», у якую ўвайшлі раманы «На парозе будучыні» (1961 г.), «Шэметы» (1963 г.), «Гарадок Устронь» (1967—68 г.). У іх адлюстравана гісторыя некалькіх пакаленняў сям'і Шэметаў на фоне класавай барацьбы ў вёсцы ў перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, калектывізацыі, барацьбы савецкага народа супраць фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. выйшаў у свет зборнік эсэ і крытычных артыкулаў па праблемах пісьменніцкага майстэрства «Пяць раніц тыдня» (літаратурная прэмія імя І. Мележа 1985 г.). Пераклаў разам з Э. Агняцвет на беларускую мову аповесць М. Горкага «У людзях» (1952 г.). М. Лобан — адзін з складальнікаў «Арфаграфічнага слоўніка» (разам з М. Р. Суднікам, 1948 г., 5-е выданне, 1982 г.), «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959 г.), «Руска-беларускага слоўніка» (1953 г.), «Беларуска-рускага слоўніка» (1962 г.). Кіраваў падрыхтоўкай «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» у 5 тамах і быў рэдактарам яго першага тома (1977 г.).

Памёр 28.12.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Чыжоўка, Беліцкі сельсавет**

**2713. МАГІЛА КУЛЬБІЦКАГА** Адама Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан А. А. Кульбіцкі загінуў у 1943 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Шантароўшчына, Першамайскі сельсавет**

**2714. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА імя С. М. БУДЗЁННАГА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, у Вялікую Айчынную вайну паблізу вёскі з сакавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад імя С. М. Будзённага брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе.

Атрад створаны ў сакавіку 1942 г. групай партыйна-савецкіх работнікаў і моладзі в. Прусы Капыльскага р-на. Да мая 1942 г. дзейнічаў самастойна, потым — у складзе брыгады імя К. Я. Варашылава, з снежня 1942 г.— у 225-й брыгадзе імя А. В. Суворава, з верасня 1943 г.— у брыгадзе 95-й імя М. В. Фрунзе. Камандзіры атрада: М. М. Ізюмскі (сакавік 1942 г.— жнівень 1943 г.), Г. А. Канавалаў (жнівень 1943 г.— чэрвень 1944 г.), камісары: М. Р. Янкоўскі (сакавік — кастрычнік 1942 г.), П. І. Разувакін (кастрычнік — снежань 1942 г.), Р. А. Сківіцкі (снежань 1942 г.— красавік 1944 г.), Ф. В. Лукашэвіч (красавік — чэрвень 1944 г.). За час баявой дзейнасці партызаны атрада знішчылі 2183 гітлераўцаў, падарвалі 11 эшалонаў, 54 аўтамашыны ворага, 10 мастоў, 60 км лініі сувязі, разграмілі 11 гарнізонаў, 28 складоў і баз ворага, захапілі больш як 100 вінтовак і аўтаматаў. На дзень злучэння 29.6.1944 г. з Чырвонай Арміяй атрад налічваў 207 партызан.

У 1975 г. у памяць аб баявой дзейнасці атрада пастаўлена стэла.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**2715. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА імя Ф. Э. ДЗЯРЖЫНСКАГА** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі. У Айчынную вайну паблізу вёскі з чэрвеня 1943 г. да ліпеня 1944 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад імя Ф. Э. Дзяржынскага брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе.

Атрад створаны ў чэрвені 1943 г. з групы партызан, вылучанай 2-й ротай атрада імя М. В. Фрунзе партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава. Камандзіры: Я. І. Лізюкоў (чэрвень — снежань 1943 г.), І. І. Качаноў (снежань 1943 г.— июнь 1944 г.), А. А. Айлараў (чэрвень 1944 г.); камісары: А. Ц. Міновіч (чэрвень — верасень 1943 г.), І. С. Юдзіцкі (верасень 1943 г.— снежань 1943 г.), Г. Л. Круглікаў (снежань 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Партызаны атрада знішчылі 594 гітлераўцаў, 44 аўтамашыны, падарвалі 5 мастоў, сапсавалі 80,8 км лініі сувязі, грамілі варожыя гарнізоны, узрывалі эшалоны, вялі баі з карнікамі. На дзень злучэння 29.6. 1944 г. з часцямі Чырвонай Арміі атрад налічваў 236 партызан.

У 1975 г. у гонар партызанскага атрада ўстаноўлена стэла.

*А. Г. Шчарбатаў.*



2718. *Помнік землякам.*

**в. Швяды, Грэскі сельсавет**

**2716. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Шышчыцы, Грэскі сельсавет**

**2717. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 воіны 229-га артылерыйскага палка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2718. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя 16 партз'езда. На ўшанаванне памяці 104 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стылізаваная стэла з барэльефнай выявай жанчыны і стэла з барэльефамі воіна і партызана, а таксама імёнамі загінуўшых.

**в. Ячава, Казловіцкі сельсавет**

**2719. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# СМАЛЯВІЦКІ РАЁН




Сутокі
Юр'ева
Будагова
Мглё
Хаценава
Жажэлка
ЖОДЗІНА
Усяжа
Усяж
Барсукі
Прылепы
Куркава
Пліса
Дынараўка
СМАЛЯВІЧЫ
Зарэчча
Зялёны Бор
Слабада
Забалоцце
Студзёнка
Слабада
Шыпяны
Арэшнікі
Кляннік
Верхмень
Курганне
Пекалін
Заямнае
Пятровічы
Драчкава

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## XXX. СМАЛЯВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны па р. Пліса (прыток Бярэзіны), за 38 км на паўночны ўсход ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Орша, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква (за 2 км). Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Чэрвенем, Лагойскам, Смілавічамі, Самахвалавічамі. Рэльеф узгоркавы. Найбольш узвышаная частка — цэнтр горада з ухілам у бок ракі.

Вядомы з пачатку 16 ст. як прыватнае мястэчка; прывілеем вялікага князя Літоўскага і польскага караля Жыгімонта І Старога Смалявічы былі падараваны князю Канстанціну Астрожскаму. У 1508 г. тут пабудавана Мікалаеўская царква (не захавалася). Пасля Астрожскіх мястэчкам валодалі Радзівілы. Уваходзіла ў склад Мінскага павета і ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Жыхары мястэчка прымалі ўдзел у вызваленчай вайне ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. З 1793 г. паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Смалявічы ў складзе Расійскай імперыі. Цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні. Належалі Вітгенштэйнам, потым Гогенлоэ. У Айчынную вайну 1812 г. Смалявічы часова акупіраваны французскімі войскамі, якія стварылі тут фуражны пункт. У 2-й палове 19 ст. у Смалявічах 3 смалярныя, шкіпінарны і вінакурны заводы. У 1871 г. праз Смалявічы пракладзена Маскоўска-Брэсцкая чыгунка, што спрыяла развіццю промыслаў і гандлю. У канцы 19 ст. у мястэчку было каля 120 двароў, праваслаўная царква, 24 крамы, прыватная пачатковая школа (40 вучняў), народнае двухкласнае вучылішча (120 вучняў у 1905 г.), бальніца, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, піваварны завод, гута. З 1890 г. пачаў працаваць млын (36 рабочых у 1900 г.), з 1894 г.— завод па вырабу драўляных шавецкіх цвікоў і капылоў (68 рабочых у 1895 г.), у 1890-я гады 3 лесапільні (адпаведна 36, 40 і 63 рабочыя). Паводле перапісу 1897 г. у мястэчку 3037 жыхароў. Працоўныя Смалявіч удзельнічалі ў рэвалюцыйным руху. У маі 1905 г., у кастрычніку 1910 г., у красавіку, чэрвені і жніўні 1917 г. адбыліся забастоўкі. Рабочыя некаторых прадпрыемстваў дамагліся 8-гадзіннага рабочага дня (красавік 1917 г.).

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — пачатку снежня 1918 г. мястэчка было акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у жніўні 1919 г.— ліпені 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. З ліпеня 1924 г. цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. Паводле перапісу 1939 г.— 6,8 тыс. жыхароў. З 26.6.1941 г. да 2.7.1944 г. Смалявічы былі акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут больш за 2 тыс. мірных жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі», «Смерць фашызму», «За Савецкую Беларусь», «Чырвоны сцяг», «Разгром», асобныя атрады «Артур» і «Мясцовыя». Падпольную і партызанскую барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (13.10. 1942 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (30.11. 1942 г.— 2.7.1944 г.). У ходзе Беларускай аперацыі 1944 г. Смалявічы вызвалены часцямі 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса (камандзір генерал-маёр танкавых войск А. С. Бурдзейны) 11-й гвардзейскай арміі і часцямі 352-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр М. М. Стрыжэнка) 31-й арміі 3-га Беларускага фронту. За гады пасляваенных пяцігодак гарадскі пасёлак і яго гаспадарка былі адноўлены. У 1959 г. у Смалявічах было 7,3 тыс. жыхароў. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. пасёлак быў у складзе Мінскага р-на, з 7.3. 1968 г. горад. У 1970 г.— 9,6 тыс. жыхароў.




**XXX.** *Забудова Цэнтральнай плошчы.*

Архітэктурна-планіровачная кампазіцыя сучаснага цэнтра Смалявіч мае прамавугольную квартальную структуру. Планіроўка больш старых раёнаў горада ірэгулярная, склалася гістарычна. Чыгунка падзяляе горад на 2 часткі: паўднёвую і паўночную. Паўночная частка забудавана 2—5-павярховымі дамамі. У паўднёвай пераважае аднапавярховая драўляная забудова. Генеральны план Смалявіч распрацаваны ў 1965 г. інстытутам «Белдзяржпраект». На яго аснове ў 1976 г. Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва стварыў генеральны план перспектыўнага развіцця горада як раённага цэнтра і горада-спадарожніка, які ўваходзіць у кальцо гарадоў, размешчаных вакол Мінска. Галоўны ўезд у Смалявічы з боку магістралі Мінск — Масква. Вул. Сацыялістычная выходзіць на вул. Савецкую — галоўную транспартную артэрыю горада. Тут сфарміравана плошча, размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, Дом культуры, кінатэатр, гасцініца, універмаг. У паўднёвай частцы горада будуецца жылы мікраёраён. Тут узводзяцца трохпавярховыя 18—24-кватэрныя і 5-павярховыя 60-кватэрныя дамы. Забудоўваецца 60-кватэрнымі дамамі паўночная частка горада — вуліцы Сацыялістычная і Жодзінская. Сучаснае архітэктурнае аблічча з улікам ландшафтных і горадабудаўнічых асаблівасцей набыў цэнтр горада.

Працуюць механічны завод, завод жалезабетонных вырабаў, малочны завод, завод шасцярон імя Р. К. Арджанікідзе, лясгас, прамкамбінат, хлебакамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, камбінат камунальных прадпрыемстваў, друкарня. Ёсць прафесійна-тэхнічае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, навучальна-вытворчы камбінат, 3 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, завочная школа, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 6 дашкольных устаноў. Працуюць Дом культуры, кінатэатр, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, 2 бальніцы, паліклініка, санітарна-эпідэміялагічная станцыя, 2 аптэкі. Выдаецца газета «Ленінскі заклік». Помнікі: У. І. Леніну; І. У. Мічурыну; савецкім воінам-вызваліцелям; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і інш.

Зона адпачынку — на берагах Смалявіцкага вадасховішча.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Усе раёны БССР.— Мн., 1933; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Степаненко А. Непокоренные.— Мн., 1970.

*Г. І. Дулеба, В. М. Ладзіс.*

**2720. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Брэсцкая, каля




2724. *Помнік У. І. Леніну.*

будынка сярэдняй школы № 3. Пахаваны 76 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса 11-й гвардзейскай арміі і 352-й стралковай дывізіі 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні Смалявіч і раёна. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2721. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Сацыялістычная, на могілках. Пахаваны 157 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 2-га гвардзейскага Тацынскага корпуса 11-й гвардзейскай арміі і 352-й стралковай дывізіі 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні Смалявіч. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2722. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Сацыялістычная, на могілках. Пахаваны 141 воін і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса 11-й гвардзейскай арміі і 352-й стралковай дывізіі 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні Смалявіч. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2723. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Першамайская. Пахаваны 4 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. па магіле пастаўлены абеліск.

**2724. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры горада, перад будынкам райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1946 г.

**2725. ПОМНІК МІЧУРЫНУ** Івану Уладзіміравічу (гіст.). На вул. Падлеснай, каля будынка дырэкцыі саўгаса імя У. І. Леніна. Бюст І. У. Мічурына ўстаноўлены ў 1970 г.

**2726. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На плошчы ў цэнтры горада.

2.7.1944 г. войскі 3-га Беларускага фронту, ламаючы ўпартае супраціўленне праціўніка, пачалі наступленне на Смалявічы. Яны перарэзалі чыгунку і аўтамабільную дарогу Мінск — Масква і завязалі баі на ўскраінах. У той жа дзень Смалявічы былі вызвалены. У вызваленні прымалі ўдзел часці 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса (камандзір генерал-маёр танкавых войск А. С. Бурдзейны) 11-й гвардзейскай арміі і 352-й стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр М. М. Стрыжэнка) 31-й арміі.

У 1975 г. у гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў пастаўлена стэла на фоне сцяны з надпісам-інфармацыяй.

*Г. І. Дулеба.*

**2727. ПОМНІК СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). На вул. Сацыялістычнай. На ўшанаванне памяці 9 супрацоўнікаў раённага аддзялення міліцыі, якія загінулі ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады ў 1927—47 гг. і ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**2728. РАДЗІМА ЦІХАВА** Гаўрылы Адрыянавіча (гіст.).

Савецкі астраном, член-карэспандэнт АН СССР (1927 г.), акадэмік АН Казахскай ССР (1946 г.), ганаровы акадэмік АН БССР (1959 г.) Г. А. Ціхаў нарадзіўся 19.4.1875 г. у сям'і чыгуначніка. Скончыў Сімферопальскую гімназію (1893 г.), Маскоўскі універсітэт (1897 г.). Быў практыкантам на астрафізічнай абсерваторыі каля Парыжа, слухаў лекцыі на фізіка-матэматычным факультэце Парыжскага універсітэта (1898—1900 гг.). З 1902 г. на выкладчыцкай рабоце. У 1906—41 гг. працаваў на Пулкаўскай абсерваторыі, з 1941 г.— у Акадэміі навук Казахскай ССР (з 1947 г. загадчык сектара астрабатанікі).

Асноўныя даследаванні ў галіне астраметрыі і спектрафотаметрыі. Працы па паралельным вывучэнні спектрафотаметрычных уласцівасцей паверхні Марса і зямной расліннасці, па пытаннях атмасфернай оптыкі і аэрафотаздымцы. Г. А. Ціхаў з'яўляецца заснавальнікам савецкай астрабатанікі. Сканструяваў некалькі астранамічных прылад. Выдадзены «Асноўныя працы» (т. 1—5, 1954—60 гг.). Памёр 25.1.1960 г. у г. Алма-Ата.

*Літ.:* Суслов А. К., Г. А. Тихов.— Л., 1980; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*



2725. *Помнік І. У. Мічурыну.*



2726. *Помнік савецкім воінам-вызваліцелям.*

**в. Алесіна, Курганскі сельсавет**

**2729. БУДЫНКІ БРОВАРА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з каменю і цэглы. Цяпер выкарыстоўваюцца як складскія памяшканні. Размешчаны на тэрыторыі 1,5 га уздоўж дарогі, якая пераходзіць у галоўную вуліцу вёскі. Спалучэнне рознакаляровых камянёў і чырвонай неатынкаванай цэглы надае будынкам маляўнічы каларыт.

Вытворчы корпус. Т-падобны ў плане. Складаецца з 4 аб'ёмаў, накрытых пакатымі двухсхільнымі дахамі з шчытамі ў тарцах. У агульнай кампазіцыі будынка дамінуе высокі аб'ём, які выступае невялікім рызалітам за плоскасць галоўнага фасада. Сіметрычная вось дзеліць корпус на 2 роўныя крылы, пастаўленыя перпендыкулярна да асноўнага аб'ёму. У іх размяшчаліся кантора і дапаможныя памяшканні. У правым крыле ёсць цокальны паверх, які выкарыстоўваўся для захоўвання гатовай прадукцыі. Сцены будынка ўзведзены з каменя-валуна, вуглы і абрысы шчытоў выкананы з цэглы ў выглядзе лапатак. Дэкаратыўная апрацоўка збудавання сціплая.



2729. *Жылы корпус з гаспадарчай прыбудовай. План.*

Жылы корпус з гаспадарчай прыбудовай мае Т-падобную ў плане кампаноўку. Жылы корпус пабудаваны з цэглы, падзелены 2 капітальнымі сценамі на 3 часткі. Бакавыя двухпавярховыя, завершаны пакатымі дахамі, цэнтральная трохпавярховая, вылучана рызалітам пад двухсхільным дахам. З паўднёвага боку да корпуса прыбудаваны з цэглы і каменю нізкі аднапавярховы будынак. Сцены збудавання прарэзаны паўцыркульнымі і прамавугольнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі, люкарнамі, паўцыркульнымі варотамі. У дэкаратыўным убранстве фасадаў выкарыстаны нішы, лапаткі, прафіляваныя цягі, ліштвы з броўкамі і карнізамі.

Склад. Прамавугольны ў плане будынак, вырашаны ў выглядзе магутнага паралелепіпеда, накрытага двухсхільным дахам. Цагляныя сцены расчлянёны плоскімі лапаткамі, паміж імі на ўсходнім і заходнім фасадах зроблены паўцыркульныя нішы і аконныя праёмы. Глухія тарцовыя сцены завершаны трохвугольнымі франтонамі, у тымпанах якіх паўцыркульныя вокны. Простае дэкаратыўнае вырашэнне фасада прадыктавана утылітарным прызначэннем будынка.

Комплекс будынкаў бровара — помнік прамысловага будаўніцтва.

*В. М. Ладзіс.*

**2730. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОЛАСУ** Якубу (гіст.). На будынку Верхменскай школы (школа ў 1969 г. пераведзена з в. Верхмень у суседнюю в. Алесіна; былая назва школы захавана). Устаноўлена ў 1969 г.

Працуючы настаўнікам у в. Пінкавічы (1904—06 гг.) Пінскага павета Мінскай губерні Якуб Колас (К. М. Міцкевіч) меў дачыненне да хваляванняў мясцовых сялян, за што па распараджэнню мінскага генерал-губернатара быў пераведзены ў Верхменскае народнае вучылішча Ігуменскага павета (цяпер в. Верхмень у Смалявіцкім р-не). Нягледзячы на сур'ёзнае папярэджанне і строгі кантроль з боку ўлад, Я. Колас працягваў актыўную грамадскую дзейнасць, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян і мясцовай інтэлігенцыі (Верхмень была цэнтрам воласці), часта гутарыў з імі, цікавіўся іх патрэбамі і інтарэсамі, наладзіў перапіску з настаўнікамі — сваімі землякамі і сябрамі — былымі выхаванцамі Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, якія працавалі ў школах Мінскай губерні. У працэсе гэтай перапіскі нарадзілася ідэя склікаць у в. Мікалаеўшчына нелегальны настаўніцкі з'езд. Паэт часта бываў у суседняй в. Тумень, дзе знаходзіўся вадзяны млын, размаўляў з сялянамі, якія прывозілі зерне на па-



2729. *Будынкі бровара. Вытворчы корпус.*



2729. *Вытворчы корпус. План.*

мол, слухаў іх расказы з мясцовага жыцця, знаёміў з падзеямі ў краіне і рэвалюцыйнай барацьбой. Гэтыя размовы з сялянамі далі пісьменніку добры матэрыял. У трылогіі «На ростанях», дзе Якуб Колас апісвае гэты перыяд, в. Верхмень пададзена пад назвай Верхань.

20.5.1906 г., напярэдадні выезду на летнія канікулы, Я. Колас перадаў па акце народнае вучылішча і яго маёмасць валаснай управе. Але ў Верхмень ён больш не вярнуўся, бо быў звольнены з работы за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе (9—10. 7.1906 г.) у в. Мікалаеўшчына і прыцягнуты да следства.

*Літ.:* З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы і матэрыялы.— Мн., 1982; Мушынскі М. І. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., 1982; Пшыркоў Ю. С. Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа.— Мн., 1982; Жыццё для народа: Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа.— Мн., 1962; Родионов В. Н. Якуб Колас — педагог.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Арэшнікі, Забалоцкі сельсавет**

**2731. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахаваны 60 жыхароў вёскі, якіх у студзені 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем.



2731. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Бабін Лес, Жодзінскі сельсавет**

**2732. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 48 мірных жыхароў, якіх 13.4.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Верхмень, Курганскі сельсавет**

**2733. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Волма, Пятровіцкі сельсавет**

**2734. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**2735. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На усходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 81 воін і 2 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры разгроме акружаных войск праціўніка ў мінскім «катле». У 1969 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**2736. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

У пачатку ліпеня 1944 г. савецкія войскі вялі жорсткія баі па ліквідацыі акружанай на ўсход ад Мінска 105-тысячнай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск (з групы армій «Цэнтр»). У баях каля в. Волма вызначыўся экіпаж самалёта ІЛ-2 у складзе малодшага лейтэнанта пілота М. І. Кірэева і паветранага стралка А. І. Сафонава з 75-га гвардзейскага Сталінградскага штурмавога авіяцыйнага палка 1-й паветранай арміі 3-га Беларускага фронту. Разам з іншымі лётчыкамі авіяпалка яны наносілі бомбавыя ўдары па вялікай колькасці жывой сілы і тэхнікі ворага, які імкнуўся вырвацца з мінскага «катла». 5.7.1944 г. у час штурмавога ўдару самалёт М. І. Кірэева быў падбіты зенітным снарадам, загарэўся і стаў падаць. М. І. Кірэеў пакіраваў ахопленую полымем машыну на скопішча жывой сілы і баявой тэхнікі праціўніка, паўтарыўшы подзвіг М. Ф. Гастэлы. М. І. Кірэеў загінуў, А. І. Сафонаў, выкінуты з самалёта выбуховай хваляй, застаўся жывым.

У 1965 г. у гонар геранчнага экіпажа самалёта ІЛ-2 пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Шомоди В. Э. Маршрутами народной славы.— Мн., 1984; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**в. Востраў, Пекалінскі сельсавет**

**2737. РАДЗІМА ЗЫЛЯ** Васіля Канстанцінавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. К. Зыль нарадзіўся 20.4.1902 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. З 1923 г. у Чырвонай Арміі. У 1929 г. скончыў Маскоўскую артылерыйскую школу імя Красіна. Вучыўся (1931—33 гг.) у Ваеннай артылерыйскай акадэміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. па Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, 1-м Украінскім франтах. Камандзір 299-га гвардзейскага мінамётнага палка 10-га гвардзейскага танкавага корпуса падпалкоўнік В. К. Зыль вызначыўся 25.1.1945 г. Яго полк адным з першых фарсіраваў Одэр, захапіў плацдарм, мінамётным агнём садзейнічаў паспяховай пераправе іншых часцей і прарыву абароны праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4.1945 г. Пасля вайны В. К. Зыль — палкоўнік Савецкай Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Болхаў Арлоўскай вобл. Памёр 4.12.1973 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Высокае, Усяжскі сельсавет**

**2738. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Усяжа, каля аўтамабільнай дарогі Смалявічы — Лагойск. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. З трох бакоў да яго прымыкаюць падсобныя памяшканні. Пад адным з іх (з боку ракі) устаноўлена турбіна. У гэтым месцы будынак пастаўлены на палі. У заходняй частцы млына ёсць пандус, па якім зерне падаецца на другі, размеркавальны паверх. На першым паверсе змянці-



2738. *Вадзяны млын.*




2738. *Вадзяны млын. План.*

раваны механізм (захаваўся не поўнасцю), што перадае вярчальны момант ад турбіны да жорнаў. Уваход у млын вылучаны двухсхільнай навіссю з франтонам на падкосінах. Сцены крапаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Ступеньчатае размяшчэнне дахаў, рознавялікія аб'ёмы памяшканняў млына ствараюць своеасаблівую пластыку збудавання.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры. *В. М. Ладзіс.*



2741. *Царква.*




2741. *Царква. План.*



2741. *Царква. Выгляд з боку апсіды.*



2742. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Высокія Ляды, Жодзінскі сельсавет**

**2739. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дабраводка, Курганскі сельсавет**

**2740. РАДЗІМА АЛЯХНОВІЧА** Антона Адамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. А. Аляхновіч нарадзіўся 20.3.1914 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Пасля сканчэння школы фабрычна-заводскага навучання (1932 г.) працаваў слесарам на заводах «Бальшавік» і «Канструктар» у Ленінградзе. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. У 1938 г. скончыў ваенна-лётнае вучылішча ў г. Энгельс Саратаўскай вобл. Працаваў у Краснаярскай і Новасібірскай школах ваенных лётчыкаў. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1942 г. на фронце ў авіяцыі далёкага дзеяння, намеснік камандзіра гвардзейскага авіяпалка, маёр. Удзельнік баёў пад Сталінградам, прарыву блакады Ленінграда, Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, Венгрыі і Чэхаславакіі. Зрабіў 260 баявых вылетаў, у т. л. 50 на далёкія цэлі ў тыл праціўніка, дзе бамбіў яго ваенныя аб'екты. 25 разоў дастаўляў боепрыпасы, медыкаменты, адзенне і прадукты партызанам Беларусі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.8.1944 г. Пасля вайны служыў у авіяцыі, гвардыі палкоўнік. У 1958—71 гг. працаваў у Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. Памёр 29.12.1979 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Дамашаны, Азярыцка-Слабадскі сельсавет**

**2741. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва на мураваным фундаменце.

Будынак царквы ў плане блізкі да квадрата, з прыбудовамі бабінца і прамавугольнай апсіды. Бабінец, накрыты пакатым аднасхільным дахам, мае бакавы ўваходны праём. Цэнтральны аб'ём пад двухсхільным гонтавым дахам, які з дапамогай застрэшкаў плаўна пераходзіць над апсідай у вальмавы. З боку заходняга фасада над асноўным аб'ёмам пастаўлена квадратная ў сячэнні вежачка, завершаная шатровым пакрыццём. На вертыкальна ашаляваных сценах з нашчыльнікамі кантрастна вылучаюцца прамавугольныя аконныя праёмы, абрамленыя простымі ліштвамі. Асобныя элементы інтэр'ера аздоблены разьбой па дрэве.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *В. М. Ладзіс.*

**в. Драчкава, цэнтр сельсавета**

**2742. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 45 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2743. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На мо-



2744. *Казьмадзям'янаўская царква.*



**2743.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

гілках. Пахаваны 52 воіны і партызаны, што загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла, абапал яе 2 пліты, на якіх выбіты імёны загінуўшых.

**2744. КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва.

Царква трохзрубная. Кампазіцыя сіметрычна-восевая: да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з захаду і ўсходу прымыкаюць аднолькавыя прамавугольныя зрубы бабінца і апсіды. Аб'ём цэнтральнай часткі дамінуе ў прасторавай кампазіцыі і завершаны вальмавым дахам з васьміграннай вежачкай. Пакрыццё бабінца і апсіды двухсхільнае. Бабінец завершаны чатырохграннай вежачкай (спачатку была званіца). Над уваходам — навіс у выглядзе франтона. Цэнтральны аб'ём і бакавыя сцены апсіды прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры столь плоская, больш высокая ў цэнтральнай частцы. Алтарная частка вылучана драўляным іканастасам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. С. Шамрук.*

**в. Дынараўка,**
**Азярыцка-Слабадскі сельсавет**

**2745. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

## XXXI. ЖОДЗІНА

Горад абласнога падпарадкавання (1963 г.), адміністрацыйны цэнтр Жодзінскага гарадскога і сельскага Савета. Размешчаны на р. Пліса (прыток Бярэзіны), за 55 км на паўночны ўсход ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Орша, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Масква.

Паселішча на месцы сучаснага г. Жодзіна ўзнікла ў старажытнасці. З 17 ст. яно было вядома як вёска пад назвай Жодзіна Слабада. Належала магнатам Радзівілам. Уваходзіла ў склад Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, сяло Смалявіцкай воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні. У 1871 г. праз Жодзіна была пракладзена Маскоўска-Брэсцкая чыгунка. У 1886 г. тут было 48 двароў, 470 жыхароў, праваслаўная царква, пачатковая школа, у пачатку 20 ст.— каля 100 двароў і 800 жыхароў. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай, промысламі (дрэваапрацоўчы, гарбарны, кравецкі і шавецкі), дробным гандлем.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым 1918 г. Жодзіна акупіравана германскімі войскамі, з жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г. войскамі буржуазнай Польшчы. З 1924 г. Жодзіна ў складзе Смалявіцкага р-на, цэнтр сельсавета. У канцы чэрвеня 1941 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вызвалена 2.7.1944 г. часцямі 3-га і 29-га танкавых карпусоў 5-й гвардзейскай танкавай арміі. За час вайны Жодзіна было разбурана, у пасляваенныя гады адноўлена.

З будаўніцтвам Смалявіцкай ДРЭС (1951 г.) побач з Жодзіна узніклі 2 пасёлкі: ДРЭС і завода дарожных і меліярацыйных машын. У суседніх вёсках Зарэчча і Крушынікі размясціліся навукова-даследчыя інстытуты земляробства і жывёлагадоўлі. 21.1.1958 г. пасёлкі і вёскі аб'яднаны з Жодзінам у гарадскі пасёлак. У 1958 г. на базе завода дарожных і меліярацыйных машын пабудаваны Беларускі аўтазавод. З 7.3.1963 г. горад. 22,1 тыс. жыхароў у 1970 г.

Сучасны горад складаецца з 3 асобных раёнаў, расчлянёных чыгункай і аўтамагістраллю Мінск — Масква: раён БелАЗа (на захадзе), дзе знаходзяцца праспекты Леніна, Міру, вуліцы 40 гадоў Кастрычніка, 50 гадоў Кастрычніка, забудаваныя 5—9-павярховымі жылымі дамамі, мікрараёны Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства, забудаваныя 3—5-павярховымі жылымі дамамі; раён Зарэчча (на ўсходзе), які складаецца з мікрараёнаў Жодзінскай (Смалявіцкай) ДРЭС, Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі, конезавода «Зарэчча», забудаваных 2—4- і 5—9-павярховымі жылымі дамамі, і індывідуальнай жылой забудовы па вул. Маскоўскай; раён Судабаўка (на поўдні), дзе пераважае 1—2-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Забудова горада вядзецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1970 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Грамадскі цэнтр фарміруецца на перасячэнні праспекта Леніна і вул. 50 гадоў Кастрычніка: плошча з адміністрацыйнымі будынкамі, Палац культуры, кінатэатр, Дом быту, гандлёвы комплекс. Паводле генплана 1980 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ўздоўж аўтамагістралі, чыгункі і р. Пліса, функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, будаўніцтва 12-павярховых у цэнтры, 5—9-павярховых жылых дамоў у паўночна-заходняй частцы горада.

Прамысловая зона горада знаходзіцца паміж чыгункай і аўтамагістраллю, развіваюцца машынабудаванне і мясцовая прамысловасць. Буйнейшыя прадпрыемствы — БелАЗ і завод цяжкіх кавальскіх штамповак — размешчаны на поўдні горада. У заходняй ча-



XXXI. *Забудова праспекта Міру.*



**2749.** *Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі.*

стцы Жодзіна — швейна-трыкатажная фабрыка, вытворчая база будтрэста. Працуюць ТЭЦ, саўгас «Жодзіна» па вырошчванню кветак, аўтабаза, камбінат бытавога абслугоўвання, друкарня, вузел сувязі, гасцініца. У горадзе Беларускія навукова-даследчыя інстытуты земляробства і жывёлагадоўлі, абласная племянная станцыя, філіял Беларускага політэхнічнага інстытута, палітэхнікум, 2 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 6 сярэдніх школ, 2 школы рабочай моладзі, школа-інтэрнат, музычная і спартыўная школы, 13 дашкольных устаноў, 2 Палацы культуры, клуб, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр «Юнацтва», 2 бібліятэкі, стадыён, паліклініка, санітарна-эпідэміялагічная станцыя, 3 аптэкі. Выдаецца шматтыражная газета «Белорусский автозаводец». Помнікі: У. І. Леніну; Герою Савецкага Саюза П. І. Купрыянаву; манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; у гонар 30-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй. Зона адпачынку — лесапарк, вадасховішча, р. Бярэзіна.

*Літ.:* Панченко П. Жодинские богатыри.— Мн., 1971; его ж. Жодинская хроника: Очерки.— Мн., 1977; Садоўскі Я. Новае Жодзіна.— Беларусь, 1955, № 11. *Г. І. Дулеба, І. С. Мельнік.*

**2746. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Маскоўская, на могілках. Пахаваны 24 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2747. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Фрунзе, у скверы. Пахаваны 12 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2748. МАГІЛА КАНДРАЦЬЕВА** Барыса Аляксандравіча (гіст.). Вул. Маскоўская, на могілках. Воін Чырвонай Арміі радавы Б. А. Кандрацьеў загінуў у ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2749. МАНУМЕНТ У ГОНАР САВЕЦКАЙ МАЦІ-ПАТРЫЁТКІ** (гіст., маст.). Вул. Ціміразева, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Масква.

Прысвечаны беларускай жанчыне-маці, савецкай патрыётцы Настассі Фамінічне Купрыянавай, усе 5 сыноў якой — Мікалай, Міхаіл, Пятро, Сцяпан, Уладзімір — аддалі жыццё за Радзіму ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Н. Ф. Купрыянава нарадзілася 20.4. 1872 г. у в. Мяхеды Лагойскага р-на ў сялянскай сям'і. З дзяцінства парабкавала ў памешчыкаў і кулакоў. У гады Савецкай улады калгасніца. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, праводзіла абараняць Радзіму сыноў. Аднаму з сыноў — Пятру, які як А. М. Матросаў закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, 23.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (гл. артыкул № 2751 «Помнік Купрыянаву Пятру Іванавічу»). Пасля вайны Н. Ф. Купрыянава шмат увагі аддавала патрыятычнаму выхаванню моладзі. Ганаровая грамадзянка г. Жодзіна (1972 г.). Памерла 13.4.1979 г. У Жодзіне ў хаце, дзе яна жыла, у 1980 г. адкрыты музей Маці-патрыёткі.

Мемарыял (скульпт. А. Заспіцкі, І. Міско, М. Рыжанкоў, архіт. А. Трафімчук; граніт, бронза; вышыня 4 м) адкрыты 29.8.1975 г. Шасціфігурная скульптурная кампазіцыя выцягнута

па гарызанталі: бронзавая фігура маці нібы застыла на двухступеньчатым пастаменце — сімвалічным ганку, і 5 фігур сыноў на ніжняй пляцоўцы з чырвонага паліраванага граніту. Паміж імі — сімвалічная дарога, засаджаная кветкамі. Пяць фігур сыноў не толькі пяць індывідуальных характараў, але і пяць тыповых, абагульненых вобразаў савецкіх воінаў. Цвёрды поступ, суровыя твары, моцна сціснутыя ў руках вінтоўкі, жорсткі рытм штыкоў траіх старэйшых, якія пайшлі першымі. У гэтую маналітную групу ўключаецца чацвёрты. Апошнім ідзе малодшы — Пётр. Яго вобраз вырашаны ў лірычным ключы, авеяны паэзіяй юнацтва. Прыпыніўшыся, Пётр агляпуўся на маці, што застыла ў журботным маўчанні. Суровая і прамая, з натружанымі рукамі, у простым сялянскім адзенні, яна ўвасабляе духоўную сілу народа. У абліччы канкрэтнай жанчыны Н. Ф. Купрыянавай сінтэзуюцца пачуцці ўсіх маці, якія блаславілі сыноў на подзвіг у імя Радзімы. Манументальныя па пластыцы і суразмерныя па маштабах чалавечаму росту скульптурныя фігуры ўстаноўлены на нізкім пастаменце, што стварае адчуванне непасрэднай сувязі паміж героямі вайны і сучаснікамі, уключае мемарыял у рытм жыцця.

Глыбокая чалавечнасць зместу, патрыятычная накіраванасць, рэалістычная выразнасць выяўленчых сродкаў ставяць гэты помнік у шэраг лепшых мемарыяльных комплексаў краіны. Аўтарскі калектыў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР 1977 г.

*Літ.:* Памяць зямлі беларускай: [Фотаальбом].— Мн., 1979; Лапцэвіч Л. Г. Маці-патрыёткі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 1.
*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2750. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШЭМПЕЛЮ** Віктару Іванавічу (гіст.). Вул. Ціміразева, 1, на будынку Беларускага навукова-даследчага Інстытута земляробства. Устаноўлена ў 1977 г.

Беларускі савецкі аграхімік, акадэмік АН БССР (1950 г., член-карэспандэнт з 1940 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1968 г.) В. І. Шэмпель нарадзіўся 24.1.1908 г. у Мінску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1940 г. У 1929 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (БСГА). З 1933 г. загадчык аддзела, намеснік дырэктара Інстытута глебазнаўства і ўгнаенняў АН БССР (з 1937 г. Інстытут сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР). З 1942 г. вучоны сакратар, сакратар Прэзідыума АН БССР. У 1946—49 і 1952—73 гг. дырэктар, у 1973—75 гг. загадчык аддзела ўгнаенняў Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР (з 1956 г. Беларускі навукова-даследчы інстытут земляробства), у 1949—52 гг. рэктар БСГА. Даследаванні па пытаннях вапнавання кіслых дзярнова-падзолістых глеб, эфектыўнага выкарыстання мінеральных і арганічных угнаенняў, асновах сістэмы ўгнаенняў і севазваротах з сяўбою шматгадовых траў. Апублікаваны працы: «Асноўныя пытанні сістэмы ўгнаення дзярнова-падзолістых сугліністых глеб з павышанай кіслотнасцю» (1957 г., разам з К. Ц. Старавойтавым), «Эфектыўнае выкарыстанне угнаенняў» (1964 г., разам з В. С. Рубанавым) і інш. Памёр В. І. Шэмпель 23.8.1975 г.

*Літ.:* Акадэмія навук БССР.— Мн., 1979.




2751. *Помнік П. І. Купрыянаву.*

**2751. ПОМНІК КУПРЫЯНАВУ** Пятру Іванавічу (гіст., маст.). На праспекце Леніна.

Герой Савецкага Саюза П. І. Купрыянаў нарадзіўся ў 1926 г. у г. Жодзіна ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну сувязны, потым партызан атрада «Радзіма» брыгады «Разгром» партызанскага злучэння Мінскай вобл. З 1944 г. у Чырвонай Арміі: разведчык 3-га мотастралковага батальёна 53-й мотастралковай брыгады яфрэйтар П. І. Купрыянаў вызначыўся 2.11.1944 г. пры вызваленні Латвійскай ССР. Разам з іншымі воінамі батальёна ўдзельнічаў у жорсткіх баях за авалоданне вышынёй 107,7, гранатамі знішчыў 2 кулямёты праціўніка. Поспеху атакі савецкіх воінаў перашкаджаў шквальны агонь з варожага дзота. П. І. Купрыянаў падпоўз да яго і закідаў гранатамі. Але агонь не быў спынены. Тады патрыёт паўтарыў подзвіг А. М. Матросава — закрыў амбразуру дзота сваім целам. Вышыня была ўзята. За гэты подзвіг П. І. Купрыянаву 23.3. 1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Навечна залічаны ў спісы стралковай роты палка, дзе ён служыў. У роце створаны музей П. І. Купрыянава. Каля населенага пункта Ліездзелды (Латвійская ССР) і на радзіме пастаўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Жодзіне, саўгас у Смалявіцкім р-не. У Жодзіне ўзведзены манумент у гонар яго маці Н. Ф. Купрыянавай, якая страціла ў вайну 5 сыноў.

Помнік устаноўлены ў 1965 г. (скульпт. Б. Івонцьеў, архіт. В. Запковіч, Л. Левін; бетон; вышыня стэлы 2,5 м, блокаў 1 м). Уяўляе сабой стэлу з рэльефнай выявай. Фігура трактавана ўмоўна. Парывісты рух наперад сімвалізуе перакананасць, самаахвярнасць. Раскрыццю тэмы садзейнічае архітэктурнае абрамленне помніка, якое нагадвае сцяг. Побач са стэлай пастаўлены 2 блокі з надпісамі-прысвячэннямі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969; Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965; Побратимы Матросова.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2752. ПОМНІК КУПРЫЯНАВУ** Пятру Іванавічу (гіст.). Вул. П. Купрыянава. Каля будынка сярэдняй школы № 1.

Герой Савецкага Саюза П. І. Купрыянаў перад Вялікай Айчыннай вайной вучыўся ў Жодзінскай сярэдняй школе № 1, якой пастановай Савета Міністраў БССР ад 13.11.1957 г. прысвоена яго імя. У 1958 г. на ўшанаванне памяці героя каля школы пастаўлены яго паясны бюст. Гл. таксама артыкул № 2751 «Помнік Купрыянаву Пятру Іванавічу».

**2753. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Дзеравянкі, каля Палаца культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1968 г.

**2754. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. П. Купрыянава, перад будынкам гарвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1968 г.

**2755. ПОМНІК У ГОНАР 30-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІЯЙ** (гіст.). На вул. Камуністычнай, каля будынка школы № 2. У гонар 30-годдзя перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікую Айчынную вайну ў 1975 г. пастаўлена стэла.

**2756. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**2756а.** Селішча-1. Каля горада, у сутоку рэк Жодзінка і Пліса. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да 12—13 і 16—17 стагоддзяў.

**2756б.** Селішча-2. Каля гарадской паліклінікі, на правым беразе р. Пліса. Пасля пабудовы вадасховішча захавалася часткова. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Знойдзены

фрагменты ляпнога посуду, вугалле, попел ад вогнішчаў. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання селішчаў захоўваюцца ў Гродзенскім універсітэце.

**в. Забалоцце, цэнтр сельсавета**

**2757. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2758. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Кубічны аб'ём асноўнага зруба і прамавугольныя прыбудовы апсіды і бабінца размешчаны на падоўжнай восі. Усе аб'ёмы накрыты паўвальмавымі дахамі. Вільчык даху асноўнага зруба ўвенчаны двух'ярусным чацверыком з галоўкай. Уваход вылучаны ганкам з навіссю на круглых слупах. Высокія прамавугольныя аконныя праёмы абрамлены ліштвамі з ступеньчатымі сандрыкамі. Сцены ашаляваны. Асобныя элементы інтэр'ера дэкарыраваны разьбой па дрэве.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі псеўдарускага стылю.

**2759. МАГІЛА ГОЛУБЕВА** Барыса Маркавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Б. М. Голубеў нарадзіўся 15.5.1928 г. у в. Матылёва Расонскага р-на ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1959 г. З 1945 г. да 1950 г. слесар, трактарыст на торфапрадпрыемстве імя Арджанікідзе Смалявіцкага р-на. У 1950—53 гг. служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на тым жа торфапрадпрыемстве, з 1964 г.— машыністам па ўборцы фрэзернага торфу. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 20.4.1971 г. за поспехі ў выкананні плана па ўборцы фрэзернага торфу. Памёр 17.8.1978 г. Імем Б. М. Голубева названа вуліца ў г. Смалявічы.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Задомля, Азярыцка-Слабадскі сельсавет**

**2760. МАГІЛА МРОЧАКА** Аляксандра Іванавіча і **ВАШКЕВІЧ** Софіі Аляксандраўны (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны ўдзельнікі камуністычнага падполля, якое дзейнічала ў Вялікую Айчынную вайну, А. І. Мрочак і С. А. Вашкевіч.

А. І. Мрочак нарадзіўся ў 1902 г. у в. Мрочкі Уздзенскага р-на ў сялянскай сям'і. Скончыў настаўніцкія курсы, працаваў у Лагойскім р-не. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны загадчык Задомленскай пачатковай школы. Быў пакінуты Смалявіцкім райкомам партыі ў тыле ворага для падпольнай работы. Уваходзіў у партыйна-камсамольскую групу, якую ўзначаліў былы загадчык ветпункта П. І. Санковіч. А. І. Мрочак і яго жонка С. А. Вашкевіч размнажалі ад рукі зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва, збіралі зброю для партызан, дапамагалі савецкім воінам выходзіць з акружэння. Акупанты напалі на след падпольшчыкаў. У жніўні 1941 г. яны схапілі А. І. Мрочака і адвезлі яго ў в. Прылепы, дзе пасля катаванняў расстралялі. Яго таварышы па падпольнай рабоце стварылі падпольную камсамольскую арганізацыю ў Прылепах і працягвалі дзейнічаць.

С. А. Вашкевіч нарадзілася ў 1904 г. у г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на ў сям'і чыгуначніка. Скончыла ў 1922 г. педагагічныя курсы ў Мінску. Працавала выхавацельніцай у дзіцячым садзе, настаўніцай у Лагойскім р-не, з 1929 г.— у Задомленскай пачатковай школе. У час нямецка-фашысцкай акупацыі ўдзельніца падполля. Загінула ад рук акупантаў у чэрвені 1944 г.

У 1967 г. на магіле падпольшчыкаў, перапахаваных пасля вайны ў в. Задомля, пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**рабочы пас. Зялёны Бор, цэнтр пасялковага Савета**

**2761. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Камсамольская, на могілках. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў 1941 г. у час паветранага бою з нямецка-фашысцкімі сцярвятнікамі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2762. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Камсамольская, на могілках. Пахавана сям'я партызана Баляслава Карлавіча Кавецкага (бацька, маці, жонка, сястра, 4 малалетнія сыны), якую 8.11.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каліта, Пятровіцкі сельсавет**

**2763. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Газанфар Келбалай-Гулам аглы Акпераў і Таццяна Мікалаеўна Барамзіна.

Г. К. Акпераў нарадзіўся 22.3. 1917 г. у с. Джагры Нахічаванскай АССР у сялянскай сям'і. У 1941 г. скончыў Нахічаванскі настаўніцкі інстытут. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Удзельнік абароны Каўказа. Камандзір гарматы 1959-га знішчальна-процітанкавага артылерыйскага палка 41-й асобнай знішчальна-процітанкавай артылерыйскай брыгады старшы сяржант Г. К. Акпераў вызначыўся ў час вызвалення Беларусі пры разгроме войск праціўніка ў мінскім «катле». 5.7.1944 г. разлік гарматы пад камандаваннем старшага сяржанта Г. К. Акперава знішчыў каля в. Волма Смалявіцкага раёна 4 танкі «тыгр» і 60 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г.

Т. М. Барамзіна нарадзілася 19.12.1919 г. у г. Глазаў Удмурцкай АССР у сям'і рабочага. Камсамолка. Скончыла педвучылішча, настаўнічала, потым студэнтка геаграфічнага факультэта Пермскага педінстытута. У чэрвені 1943 г. добраахвотна ўступіла ў Чырвоную Армію. Скончыла Цэнтральную жаночую снайперскую школу пад Масквой. На фронце з



2758. *Георгіеўская царква.*




2758. *Георгіеўская царква. План.*




2756а. *Селішча-1. План.*



**2763.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

1943 г.: спайпер, пасля тэлефаністка 3-га батальёна 252-га палка 70-й стралковай Верхнедняпроўскай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту. Асабіста знішчыла 20 фашысцкіх салдат і афіцэраў. Т. М. Барамзіна праявіла гераізм 5.7.1944 г. пры вызваленні Мінскай вобл. Разам з іншымі воінамі стралковага батальёна выйшла ў тыл ворага каля в. Пекалін Смалявіцкага р-на і ўступіла ў няроўны бой з гітлераўцамі. Пад шквальным агнём праціўніка выносіла з поля бою параненых, аказвала ім дапамогу. Бліндаж, у якім яфрэйтар Т. М. Барамзіна перавязвала параненых воінаў, акружылі і адрэзалі ад батальёна гітлераўцы. Параненая, яна трапіла ў палон, дзе 5.7.1944 г. загінула ад катаванняў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Крюков И. До последнего патрона.— У кн.: Героини: Очерки о женщинах — Героях Советского Союза. М., 1969, в. 1. *Г. І. Дулеба.*

**в. Кальнікі, Жодзінскі сельсавет**

**2764. РАДЗІМА КУПРЭВІЧА** Васіля Феафілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі батанік, дзяржаўны дзеяч БССР, член-карэспандэнт АН СССР (1953 г.), акадэмік АН БССР (1952 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1969 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1967 г.) В. Ф. Купрэвіч нарадзіўся 12.1.1897 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1913 г. скончыў Смалянскае сельскагаспадарчае вучылішча, у 1931 г.— Інстытут павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы. У 1913—17 гг. служыў у ваенна-марскім флоце. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, штурму Зімняга палаца, барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады ў Петраградзе. Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў у Кальніках і Смалявічах. У 1934—38 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялагічных навук АН БССР, потым загадчык лабараторыі, дырэктар Батанічнага інстытута АН СССР, вёў педагагічную работу. З 1952 г. В. Ф. Купрэвіч прэзідэнт АН БССР. Адначасова з 1953 г. загадчык аддзела Інстытута біялогіі, з 1958 г.— Аддзела фізіялогіі і сістэматызацыі ніжэйшых раслін АН БССР. Быў галоўным рэдактарам «Ботанического журнала» (1959—66 гг.), часопісаў «Микология и фитопатология» (1967—69 гг.) і «Доклады АН БССР» (1952—69 гг.).

Асноўны кірунак навуковай дзейнасці — мікалогія (сістэматыка ржаўных грыбоў, эвалюцыя паразітызму, праблема віду, узбуджальнікі хвароб сельскагаспадарчых раслін), фізіялогія хворых раслін. З'яўляецца заснавальнікам глебавай энзімалогіі. Упершыню даказаў, што расліны могуць засвойваць для фотасінтэзу вуглекіслату, якая трапляе ў каранёвую сістэму, адкрыў пазаклетачныя ферменты, што выдзяляюцца кончыкамі каранёў вышэйшых раслін, даказаў магчымасць гетэратрофнага жыўлення вышэйшых раслін у прыродных умовах. Абгрунтаваў магчымасць выкарыстання глебавых ферментаў як паказчык біялагічнай актыўнасці глебы. Выдадзены «Навуковыя працы» (т. 1—4, 1971—75 гг.). Шмат увагі аддаваў прапагандзе савецкай біялагічнай навукі, падрыхтоўцы навуковых кадраў.



**2765.** *Гарадзішча. План.*

Член ЦК КПБ у 1952—69 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1954—69 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг.

Памёр В. Ф. Купрэвіч 17.3.1969 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Ганчарык М. М. Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны: Жыццё і дзейнасць В. Ф. Купрэвіча (1897—1969 гг.).— Мн., 1981.

**в. Каменка, Усяжскі сельсавет**

**2765. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км па паўднёвы захад ад калгаснай фермы, на левым беразе р. Каменка. Займае выступ марэннага берагавога плато вышынёй каля 40 м над наваколлем. Памеры 85×80 м, густа зарасло маладым мяшаным лесам. Адкрыў у 1925 г. А. М. Ляўдапскі, абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт не выяўлены. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце...— Мн., 1925.

**в. Карамша (не існуе), Юр'еўскі сельсавет**

**2766. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Карамша знаходзілася за 7 км на поўнач ад в. Бабін Лес Жодзінскага сельсавета. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты знішчылі вёску разам з жыхарамі (36 чалавек, 12 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1965 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Кляннік, Курганскі сельсавет**

**2767. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны брыгады «Разгром» партызанскага злучэння Мінскай вобл.— Грэхавацкі, В. С. Завістоўскі і А. І. Савіцкі, якія загінулі ў чэрвені 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2768. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 33 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2769. МАГІЛА КАЛЕКІ** Віктара Васілевіча (гіст.). На могілках.

В. В. Калека нарадзіўся ў 1900 г. у в. Заброддзе Смалявіцкага р-на. З сялян. Член КПСС. Скончыў Магілёўскі палітэхнікум. Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў начальнікам дарожна-будаўнічага ўпраўлення ў Смалявічах. З чэрвеня 1941 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік абарончых баёў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі летам 1941 г. Папаў у акружэнне варожых войск. Застаўся на акупіраванай тэрыторыі. Быў камісарам партызанскіх атрадаў «Іскра» (снежань 1942 г.— люты 1943 г.) і «Радзіма» (з

сакавіка 1943 г.) партызанскай брыгады «Разгром». Загінуў у баі з акупантамі 23.4.1944 г.

У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979; Зеленский В. В боях испытанные.— Мн., 1973.

*Г. І. Дулеба.*

**2770. МАГІЛА КАСАТКІНА** Дзмітрыя Ягоравіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Разгром» партызанскага злучэння Мінскай вобл. Дз. Я. Касаткін загінуў 17.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2771. МАГІЛА ТАШНІЯЗАВА** Гантая (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Разгром» партызанскага злучэння Мінскай вобл. Г. Ташніязаў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крыніца, Смалявіцкі гарадскі Савет**

**2772. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 46 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ліпкі, Смалявіцкі гарадскі Савет**

**2773. МАГІЛА САРОКІНА** Уладзіміра (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Воін Чырвонай Арміі У. Сарокін памёр у ліпені 1944 г. ад ран, атрыманых у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ляды, Драчкаўскі сельсавет**

**2774. БЛАГАВЕШЧАНСКІ МАНАСТЫР** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 18 — 1-й палове 19 ст. Уключае царкву Благавешчання і жылы корпус.

Царква пабудавана ў 1794 г. з цэглы. Трохнефавы чатырохстоўпны храм, накрыты двухсхільным дахам. Да ўсходняй яго часткі прыбудаваны 2 прамавугольныя аб'ёмы, якія выходзяць за агульныя габарыты будынка. Галоўны фасад — масіўны прамавугольны шчыт з барочным завяршэннем. Па гарызанталі падзелены прафіляванымі карнізамі, па вертыкалі — пілястрамі. Плоскасці паміж пілястрамі прарэзаны вузкімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Цэнтральная частка вылучана парталам галоўнага ўвахода і размешчаным над ім здвоеным акном. Вертыкальнае чляненне, высокія вокны і нішы ўзмацняюць вертыкальныя прапорцыі храма. Бакавыя фасады дэкарыраваны плоскімі пілястрамі, франтонамі і нішамі.

Унутраная прастора падзелена на нефы квадратнымі ў плане слупамі. Па ўсёй даўжыні будынка над цэнтральным нефам раскрываецца цыліндрычнае скляпенне з распалубкамі, якое апіраецца на слупы і падпружныя аркі. Вузкія бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Сцены крапаваны пілястрамі і паўкалонамі карынфскага ордэра ў барочнай інтэрпрэтацыі. Над уваходам зроблены хоры на круглых слупах. Тарцовыя сцены бакавых нефаў і алтарнай часткі дэкарыраваны размалёўкай, выкананай у тэхніцы «грызайль», што ствapae ілюзію маштабнасці інтэр'ера.

Царква — помнік архітэктуры барока.

Жылы корпус. Пабудаваны ў 1811—50 гг. Аднапавярховы будынак Г-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны ўваход вырашаны высокім мураваным ганкам. Цокальны паверх вылучаны гарызантальнай цягай, якая ідзе па ўсім перыметры будынка. Тоўстыя цагляныя сцены члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Плоскія фасады дэкарыраваны лапаткамі, нішамі, рустам і карнізам. Унутраная прастора падзелена капітальнымі сценамі на гаспадарчыя памяшканні. У цокальным паверсе — келлі, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі.

Жылы корпус — помнік архітэктуры, у якім сінтэзаваны стылявыя асаблівасці барока і класіцызму.

*В. М. Ладзіс.*



2774. *Царква. Агульны выгляд.*




2774. *Царква. План.*



2774. *Жылы корпус. Фрагмент галоўнага фасада.*




2774. *Жылы корпус. План.*



2774. *Царква. Галоўны фасад.*

**в. Ляды, Прылепскі сельсавет**

**2775. РАДЗІМА ЕЛЬСКАГА** Канстанціна Міхайлавіча (гіст.).

Заолаг і падарожнік К. М. Ельскі парадзіўся 17.2.1837 г. у сям'і збяднелага дваранiна. Яго бацька ўдзельнічаў у падрыхтоўцы нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. пад кі-



2777. *Помнік падпольшчыкам.*

раўніцтвам Т. Касцюшкі. У 1853 г. скончыў Мінскую гімназію, у 1853—56 гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта, у 1860 г. скончыў матэматычна-прыродазнаўчы факультэт Кіеўскага універсітэта. Працаваў выкладчыкам у Кіеўскай гімназіі і Кіеўскім універсітэце. Вывучаў насякомых і малюскаў. За даследаванне анатоміі малюска атрымаў вучоную ступень магістра (1862 г.). Адным з першых у Расіі падтрымаў эвалюцыйную тэорыю Ч. Дарвіна. Прымаў удзел у падрыхтоўцы паўстання 1863 г. на Украіне. Пасля паражэння паўстання выехаў за мяжу, жыў і працаваў у Турцыі, Францыі, Германіі, Гвіяне, Перу, вывучаў фауну гэтых краін. З 1878 г. жыў у Кракаве. Памёр 26.11.1896 г.

Многія еўрапейскія вучоныя давалі апісанне звяроў і птушак па калекцыі Ельскага, некаторыя іх віды назвалі яго імем.

*Літ.:* Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968; Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969.

**в. Масцішча, Забалоцкі сельсавет**

**2776. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахавана 115 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры разгроме акружанай пад Мінскам групоўкі нямецка-фашысцкіх войск. У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Мікалаевічы, Забалоцкі сельсавет**

**2777. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну з 28.6. 1941 г. да 13.6.1942 г. у вёсцы дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя. У яе склад уваходзіла 14 чалавек. Кіраўнік Я. Я. Васіленка. Патрыёты вялі палітычную агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, арганізоўвалі сабатаж мерапрыемстваў акупантаў, ратавалі ваеннапалонных ад загубы, рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, асабліва на чыгуначным участку Слабада — Смалявічы, здабывалі зброю і боепрыпасы, прадукты і адзенне для партызан, збіралі звесткі аб руху паяздоў. Калі фашысты напалі на след арганізацыі, падпольшчыкі 13.6.1942 г. пайшлі ў партызаны. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінулі Ф. А. Васіленка, Г. Х. Халапенкава, А. Папковіч, Дз. Ф. Пашукевіч, М. П. Яўменчык. У 1976 г. у памяць аб баявой дзейнасці падпольшчыкаў пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**в. Пекалін, цэнтр сельсавета**

**2778. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 107 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры разгроме акружаных войск праціўніка ў мінскім «катле». У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і дзяўчынкі.

**в. Пеліка, Пліскі сельсавет**

**2779. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Трубянок. 3 насыпы: 2 вышынёй 1,6 і 1,8 м, дыяметрам 9 і 10 м маюць каля асновы раўкі, 3-і курган прадаўгаваты, шырынёй 7 м, вышынёй 1,8, даўжынёй 16 м. Могільнік зарос хваёвым лесам. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пліса, цэнтр сельсавета**

**2780. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны члены падпольнай антыфашысцкай групы (дзейнічала ў 1941—44 гг. у пас. Чарніцкі на торфапрадпрыемстве «Чырвоны Сцяг») А. П. Карэўка, А. Я. Коўрык і Г. Цярэшка, якіх 8.1. 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 2805 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам».

**2781. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2778. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля чыгуначнай станцыі Чырвоны Сцяг. Пахаваны 87 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны зенітнага артылерыйскага дывізіёна, што загінулі ў 1941 г. (гл. артыкул № 2784 «Мемарыяльная дошка савецкім воінам»). У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2783. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку выканкома сельскага Савета. Устаноўлена ў 1975 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў в. Пліса дзейнічала (1941—44 гг.) падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя, стваральнікам і кіраўніком якой быў камсамолец Аляксандр Сямёнавіч Савіцкі. Актыўнымі яе членамі з'яўляліся А. А. і Л. А. Кашалі, П. Ф. Ціхановіч, С. Я. Чарапок, А. П. Шымановіч і інш. Патрыёты слухалі па радыё Маскву, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вялі антыфашысцкую прапаганду сярод насельніцтва, устанавілі і падтрымлівалі сувязь з партызанамі атрада «Разгром», потым брыгады «Разгром». Здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, медыкаменты, бланкі пашпартоў і про-

пускаў, разведданыя аб праціўніку, падбіралі надзейных людзей і перапраўлялі іх у партызанскія атрады. Так, толькі ў 1942 г. члены Плiскай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі перадалі партызанам 4 кулямёты, 28 вінтовак, 4 пісталеты, значную колькасць гранат, снарадаў. Патрыёты вялі работу па распрапагандаванні варожага гарнізона, зрывалі вываз мясцовых жыхароў у Германію.

Летам 1942 г. падпольшчык Л. Жыткевіч склаў падрабязны план умацаванняў ворага на чыгуначным участку Смалявічы — Жодзіна, які быў перададзены камандаванню партызанскага атрада «Разгром». Патрыёты дапамагалі народным мсціўцам рабіць дыверсіі на чыгунцы. Калі акупантам стала вядома аб дзейнасці падпольшчыкаў, А. С. Савіцкі, А. А. Кашэль, П. Ф. Ціхановіч, А. П. Шымановіч, А. Шапко і некаторыя іншыя патрыёты ўліліся ў партызанскую брыгаду «Разгром», астатнія працягвалі падпольную дзейнасць. Арганізацыю ўзначаліў Мікалай Ляшкевіч. У барацьбе з ворагам загінулі С. Граковіч, А. Даўнаровіч, А. С. Савіцкі і А. Шапко.

Амаль усе члены арганізацыі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

*Літ.:* Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979; Зеленский В. В боях испытанные.— Мн., 1973.
*Г. І. Дулеба.*

**2784. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На будынку чыгуначнай станцыі Чырвоны Сцяг. Устаноўлена ў 1975 г.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў раёне в. Пліса байцы зенітнага артылерыйскага дывізіёна на чале з лейтэнантам С. П. Копцевым (1918 г. нараджэння) вялі 27.6.1941 г. жорсткі бой з паветраным дэсантам праціўніка. Загінулі лейтэнант С. П. Копцеў і некалькі байцоў дывізіёна. Пахаваны ў брацкай магіле каля чыгуначнай станцыі Чырвоны Сцяг.

*Літ.:* Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978.

**2785. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1904 г. з дрэва.

Невялікі трохзрубны храм, аб'ёмы якога накрыты двухсхільнымі дахамі, апсідай арыентаваны на ўсход. Дамінуючым элементам з'яўляецца цэнтральны зруб, які шырэй і вышэй за астатнія. На вільчыку яго даху ўстаноўлены чацвярык, увенчаны невысокім шатром. Мастацкая выразнасць будынка дасягаецца рытмічнай ступеньчатай кампаноўкай аб'ёмаў, суадносінамі іх высокіх пластычных дахаў і ступеньчатым размяшчэннем франтонаў. Ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, упрыгожанымі геаметрычным арнаментам. Уваход выраашаны ў выглядзе зашклёнай веранды, у якую вядзе высокі цагляны ганак. У аздобе інтэр'ера выкарыстана разьба па дрэве.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.
*В. М. Ладзіс.*

**в. Прылепы, Прылепскі сельсавет**

**2786. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг.



2785. *Царква Раства багародзіцы.*




2785. *Царква Раства багародзіцы. План.*



2785. *Царква Раства багародзіцы. Выгляд з боку апсіды.*

у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**2787. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы. Займае доўгі марэнны выступ вышынёй над наваколлем больш за 40 м. Пляцоўка роўная, з невялікім ухілам на поўнач, памерам 60×25 м, зарасла лесам. З паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй каля 3,5 м, на схіле яшчэ адзін кальцавы тэрасападобны вал, які моцна аплыў. Схілы гарадзішча густа зараслі арэшнікам. Ад плато гарадзішча аддзелена ровам шырынёй каля 20 м. Адкрыў і абследаваў у 1925 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. М. А. Ткачоў. У шурфе культурны пласт 0,4—0,8 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, косці жывёл. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце...— Мн., 1925.
*М. А. Ткачоў.*

**2788. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, каля былой вёскі Карпілаўка, на правым высокім беразе р. Усяжа, у лесе. 40 насыпаў вышынёй 0,3—0,8 м, дыяметрам 5—8 м. Могільнік зарос хваёвым лесам. Асобныя курганы пашкоджаны самавольнымі раскопкамі. Абследаваў у 1964 г. Ю. І. Драгун, які выявіў у пашкоджаных курганах фрагменты гаршкоў, рэшткі касцей. У 1979 г. абследаваў М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**2789. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне па-



2787. *Гарадзішча. План.*

мяці 60 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 245 жыхароў вёсак калгаса імя У. І. Леніна, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—44 г., у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем на руках і 2 пліты з імёнамі загінуўшых землякоў.

**в. Прысынак, Смалявіцкі сельсавет**

**2790. МАГІЛА КУРУНІНА** Пятра Кірэевіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля будынка школы. Воін Чырвонай Арміі П. К. Курунін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2791. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пятровічы, цэнтр сельсавета**

**2792. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2793. РАДЗІМА ПЯКАРСКАГА** Эдуарда Карлавіча (гіст.).

Савецкі мовазнавец, фалькларыст, этнограф і географ, ганаровы акадэмік (1931 г.), член-карэспандэнт (з 1927 г.) АН СССР Э. К. Пякарскі нарадзіўся 13.10.1858 г. З сям'і двараніна. Вучыўся ў Мінскай, Мазырскай і Чарнігаўскай гімназіях, у 1877—78 гг. у Харкаўскім ветэрынарным інстытуце. За ўдзел у народніцкім руху выключаны з інстытута, у 1881 г. сасланы ў Якуцію. У 1894—96 гг. удзельнік экспедыцыі Усходне-Сібірскага аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства, у 1903 г. Аяна-Нельканскай экспедыцыі. З 1905 г. жыў у Пецярбургу, працаваў у музеях. У 1914—17 гг. сакратар аддзялення этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства, рэдагаваў часопіс «Живая старина». У апошнія гады жыцця ў Інстытуце ўсходазнаўства АН СССР.

Асноўная праца вучонага — «Слоўнік якуцкай мовы» (в. 1—13, 1907—30 гг., з удзелам Д. Д. Папова і У. М. Іонава). Выдадзены працы па этнаграфіі якутаў і эвенкаў (на рускай і польскай мовах). Рэдагаваў «Узоры народнай літаратуры якутаў» (т. 1—3, 1907—18 гг.), удакладніў класіфікацыю эпічных жанраў якуцкага фальклору. Памёр 29.6.1934 г. у Ленінградзе.

*Літ.:* Э. К. Пекарский: (К 100-летию со дня рождения).— Якутск, 1958; Оконешников Е. И., Э. К. Пекарский как лексикограф.— Новосибирск, 1982; Азадовский М., Э. К. Пекарский.— Советская этнография, 1934, № 5. *Г. І. Дулеба.*

**в. Рудня, Прылепскі сельсавет**

**2794. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на адхоне правага берага р. Усяж. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Адносіцца да тыпу турбінных млыноў.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты высокім двухсхільным дахам. Вялікія плоскасці сцен прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, пазбаўлены дэкору. Ва ўсходняй частцы будынка ўстаноўлена турбіна. Над ёю памяшканне для рэгулявання падачы вады на лопасці. Тут жа змантаваны механізм, які перадае момант вярчэння ад турбіны да жорнаў. Памяшканні другога паверха прызначаны для сартавання, ачысткі і захавання збожжа. Паверхі злучаны аднамаршавай драўлянай лесвіцай.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры. *В. М. Ладзіс.*

**в. Слабада, цэнтр Азярыцка-Слабадскога сельсавета**

**2795. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2796. КУРГАН СЛАВЫ САВЕЦКАЙ АРМІІ — ВЫЗВАЛІЦЕЛЬНІЦЫ БЕЛАРУСІ** (гіст., маст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на 21-м км шашы Мінск — Масква.

У Вялікую Айчынную вайну бai за вызваленне Беларусі пачаліся ў верасні 1943 г. У выніку асенне-зімовага наступлення 1943—44 гг. былі вызвалены (поўнасцю ці часткова) 36 раёнаў Беларусі, 2 абласныя цэнтры — Гомель і Мазыр. 23.6.1944 г. пачалася Беларуская аперацыя (кодавая назва «Баграціён») — адна з буйнейшых наступальных аперацый Чырвонай Арміі ў Вялікую Айчынную вайну.

Нямецка-фашысцкія акупанты стварылі на тэрыторыі Беларусі глыбока эшаланіраваную (да 270 км) сістэму абароны. Мінск, Віцебск і іншыя гарады былі аб'яўлены крэпасцямі. Гітлераўцы сканцэнтравалі ў Беларусі 63 дывізіі і 3 брыгады, у складзе якіх налічвалася 1,2 млн. чалавек. Тут было размешчана каля 10 тыс. гармат і мінамётаў, 900 танкаў і штурмавых гармат, каля 1350 самалётаў і шмат іншай ваеннай тэхнікі.

Войскі 1-га Прыбалтыйскага (генерал арміі І. Х. Баграмян), 3-га Беларускага (генерал-палкоўнік, з 26.6. 1944 г. генерал арміі І. Д. Чарняхоўскі), 2-га Беларускага (генерал-палкоўнік, з 28.7.1944 г. генерал арміі Г. Ф. Захараў) франтоў 23.6.1944 г. пасля моцнай артылерыйскай і авіяцыйнай падрыхтоўкі пачалі наступленне на Віцебскім, Аршанскім і Магілёўскім напрамках. 24 чэрвеня ў наступленне перайшлі войскі 1-га Беларускага фронту (генерал арміі, з 29.6.1944 г. Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі) на Бабруйскім на-



2794. *Вадзяны млын.*




2794. *Вадзяны млын. План 1-га паверха.*




2788. *Курганны могільнік.*



**2796.** *Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі.*

прамку. Войскі 1-га Прыбалтыйскага і 3-га Беларускага франтоў, зламаўшы ўпартае супраціўленне ворага, разграмілі віцебскую групоўку гітлераўцаў і 26 чэрвеня вызвалілі Віцебск. Сілы 3-га Беларускага фронту да 1 ліпеня 1944 г. ліквідавалі аршанскі і барысаўскі вузлы абароны праціўніка. Войскі 2-га Беларускага фронту на Магілёўскім напрамку фарсіравалі рэкі Проня, Бася, Дняпро і 28 чэрвеня авалодалі Магілёвам. Часці 1-га Беларускага фронту да 29 чэрвеня разбілі бабруйскую групоўку войск праціўніка і вызвалілі Бабруйск. 3 ліпеня вызвалены Мінск. На ўсход ад горада савецкія войскі акружылі 105-тысячную групоўку ворага і да 11 ліпеня ліквідавалі яе. Стварыліся спрыяльныя ўмовы для далейшага наступлення Чырвонай Арміі. Да канца ліпеня 1944 г. тэрыторыя Беларусі была поўнасцю вызвалена ад акупантаў. У выніку паспяховага ажыццяўлення Беларускай аперацыі (закончана 29.8.1944 г.), апрача Беларусі, вызвалена таксама большая частка Літвы, частка Латвіі і значная частка Польшчы. Была разгромлена нямецка-фашысцкая група «Цэнтр», поўнасцю знішчаны 17 дывізій, 3 брыгады, 50 дывізій праціўніка страцілі больш палову свайго складу.

У ажыццяўленні Беларускай аперацыі Чырвонай Арміі дапамагалі партызаны, падпольшчыкі, насельніцтва Беларусі. Тут на пачатак лета 1944 г. дзейнічалі 144 партызанскія брыгады і 80 асобных атрадаў. За 3 дні да пачатку аперацыі яны пачалі масавае разбурэнне чыгуначных камунікацый ворага метадам «рэйкавай вайны». У выніку нанесеных удараў аказаліся поўнасцю разбуранымі найважнейшыя чыгуначныя лініі. Праціўнік не змог іх выкарыстаць для падвозу рэзерваў, эвакуацыі тылоў і вывазу нарабаванай маёмасці. Партызаны і ўдзельнікі падполля вялі разведку, перадавалі камандаванню Чырвонай Арміі важныя звесткі аб ворагу, захоплівалі масты і пераправы, пераразалі шляхі адступлення праціўніка, зрывалі яго арганізаваны адыход, знішчалі жывую сілу і тэхніку, вызвалілі ад захопнікаў некаторыя населеныя пункты, ратавалі насельніцтва ад знішчэння і вывазу на катаргу ў фашысцкую Германію. Беларускія партызаны дапамагалі Чырвонай Арміі ліквідаваць акружаныя групоўкі праціўніка. Яны знішчылі больш за 15 тыс. і ўзялі ў палон больш як 17 тыс. гітлераўцаў.

У час вызвалення Беларусі праявіўся масавы гераізм воінаў і партызан. Больш як 1500 воінаў удастоены звання Героя Савецкага Саюза, больш за 402 тыс. воінаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Больш як 600 злучэнням і часцям Чырвонай Арміі, што асабліва вызначыліся ў час Беларускай аперацыі, прысвоены ганаровыя найменні «Віцебскіх», «Магілёўскіх», «Мінскіх», «Нёманскіх», «Брэсцкіх» і інш.

У гонар подзвігу воінаў 1-га, 2-га, 3-га Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага франтоў у Беларускай аперацыі 1944 г. 30.9.1966 г. прадстаўнікамі гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Севастопаля, Адэсы, Кіева, Брэсцкай крэпасці-героя, вайсковых часцей, працоўных і навучэнцаў Мінска і Мінскай вобл. закладзены Курган Славы. Адкрыты 5.7.1969 г. (скульпт. А. Бембель, архіт. Л. Стаховіч, інж. В. Лапцэвіч).

Помнік — складанае інжынерна-архітэктурнае збудаванне, якое мае форму кургана (вышыня 35 м). Яго вяршыню ўвенчваюць 4 бетонныя штыкі-абеліскі (вышыня кожнага 35,6 м), абліцаваныя тытанам. Яны сімвалізуюць 4 франты, войскі якіх вызвалілі Беларусь. Асновы абеліскаў-штыкоў аб'ядноўвае шырокае бетоннае кальцо, на вонкавай паверхні якога — абліцаваныя цёмна-залацістай смальтай барэльефныя выявы твараў воінаў, партызан, рук, што сціскаюць зброю,

галінак лаўра. Унутры кальцо абліцавана аранжава-чырвонай смальтай з пераходам у жоўтыя і карычнева-чорныя таны, якія кантрастуюць з серабрыстым колерам штыкоў. Каля асновы іх — мазаічная выява ордэна Айчыннай вайны. Унутры кола набраны смальтай надпіс: «Арміі Савецкай, Арміі — вызваліцельніцы — слава!».

Гіганцкі конус Кургана з абодвух бакоў ахопліваюць накіраваныя ўверх лініі кансольна заціснутых жалезабетонных ступеней, якія вядуць на вяршыню. Тут, на аглядпай пляцоўцы, выкладзенай плітамі шэрага бетону, яскрава раскрываецца мастацкая ідэя манумента: з-пад навісаючага кола ва ўсе бакі бачна велічная панарама беларускай зямлі, якую абаранялі і вызвалілі з няволі.

Каля асновы Кургана ў цэнтры шырокіх лесвічных сходаў уманціраваны блок з інфармацыйным тэкстам. Вышэй, на схіле Кургана, знаходзіцца мемарыяльная пліта з надпісам: «У Кургане Славы жменя да жмені лягла зямля з гарадоў-герояў і іншых месц жорсткіх баёў, з гарадоў і сёл, якія навек праславілі сябе ратнымі і працоўнымі подзвігамі дзеля свабоды і незалежнасці Савецкай Радзімы».

Вакол Кургана разбіты мемарыяльны парк з штучным басейнам.

Курган Славы бачны з вялікай адлегласці. Яго строгі і выразны сілуэт арганізуе прастору, з'яўляецца ідэйна-мастацкай і вышыннай дамінантай наваколля.

Веліч, глыбіня ідэі і яе мастацкае вырашэнне атрымалі высокую ацэнку. Аўтарскаму калектыву прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР 1970 г.

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза, 1941—1945. Т. 4.— М., 1962; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Курган Славы: [Фотоальбом].— 5 изд.— Мн., 1981.
*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**2797. МАГІЛЫ БОЙКІ** Уладзіміра Міхайлавіча **І НЕВЯДОМАГА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках.

Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі У. М. Бойка загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле невядомага воіна пастаўлены абеліск.

### в. Слабодка, Драчкаўскі сельсавет

**2798. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

### в. Студзёнка, Курганскі сельсавет

**2799. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 11 воінаў 873-га знішчальнага процітанкавага артылерыйскага палка 33-й арміі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ліквідацыі групоўкі войск праціўніка ў мінскім «катле», і 2 партызаны, што загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1944 г. Сярод пахаваных Героі Савецкага Саюза Фёдар Андрэевіч Смірноў і Міхаіл Фядотавіч Цяплоў.



**2799.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Ф. А. Смірноў нарадзіўся 6.2. 1914 г. у с. Ліпін Бор Вашкінскага р-на Валагодскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў сакратаром райкома камсамола на радзіме. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір узвода 873-га процітанкавага артылерыйскага палка 33-й арміі старшы лейтэнант Ф. А. Смірноў вызначыўся пры вызваленні Смалявіцкага р-на і разгроме нямецка-фашысцкай групоўкі ворага ў мінскім «катле». 5.7. 1944 г. каля былой вёскі Раткоўшчына ўзвод Ф. А. Смірнова на працягу 5 гадзін адбіваў контратакі праціўніка. Байцы загінулі ў баі, але ворага не прапусцілі. Яны знішчылі 5 гармат, 4 кулямётныя кропкі, 2 мінамёты, 30 павозак і каля 300 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза Ф. А. Смірнову прысвоена 24.3.1945 г. На радзіме ўстаноўлены бюст героя, яго імем названа вуліца.

М. Ф. Цяплоў нарадзіўся 21.11. 1918 г. у с. Юрас Пінежскага р-на Архангельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір гарматы 873-га процітанкавага палка старшы сяржант М. Ф. Цяплоў вызначыўся пры разгроме варожай групоўкі ў мінскім «катле». 5.7.1944 г. каля былой в. Раткоўшчына разлік гарматы пад яго камандаваннем удзельнічаў у адбіцці 6 контратак праціўніка, знішчыў 2 самаходныя гарматы, 4 кулямёты, 2 аўтамашыны з пяхотай, каля 150 гітлераўцаў. М. Ф. Цяплоў быў паранены, але поле боя не пакінуў. Застаўшыся жывым адзін, падарваў сябе гранатай разам з гітлераўцамі, якія яго акружылі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. На радзіме яго імем названы саўгас, Дом піянераў, вуліца. У в. Карпагоры Пінежскага р-на пастаўлены помнік.

У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Андрющенко Н. Дорогами подвигов.— 2 изд.— Мн., 1978; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Ляшковіч В. А. Найдаражэйшы скарб.— Мн., 1985.
*Г. І. Дулеба.*

### в. Сутокі, Юр'еўскі сельсавет

**2800. ПОМНІК У ГОНАР СМАЛЯВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у двары школы. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Юр'еўскага сельсавета дыслацыравалася партызанская брыгада «Смерць фашызму» (камандзір В. Ф. Таруноў, камісар І. П. Дзядзюля), у якой базіраваліся Смалявіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Падпольны райком партыі створаны 13.10.1942 г. Дзейнічаў да ліпеня 1944 г. Сакратар Р. Дз. Даўгалёнак. Райком КП(б)Б кіраваў партызанскім рухам, узначальваў падпольную барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна, вёў антыфашысцкую прапаганду сярод насельніцтва, выдаваў газету «Смерть фашизму», антыфашысцкія лістоўкі.

Падпольны райком ЛКСМБ працаваў з 30.11.1942 г. да 2.7.1944 г. Сакратары Дз. В. Леля (30.11.1942 г.— 2.7. 1944 г.), У. Я. Сухоцкі (4.8.1943 г.— 2.7.1944), В. П. Усціновіч (30.11. 1942 г.— 1.6.1943 г.; сакратар па прапагандзе), К. К. Осіпава (з 1.6.1943 г.; сакратар па прапагандзе). Райком ЛКСМБ праводзіў арганізатарскую работу па стварэнню і ўмацаванню камсамольска-маладзёжнага падполля, камсамольскіх арганізацый у партызанскіх фарміраваннях. Дзейнічаў пад непасрэдным кіраўніцтвам Смалявіцкага падпольнага райкома КП(б)Б.

У 1965 г. у гонар дзейнасці падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой

Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партийное подполье в Белоруссии. 1941—1944: Страницы воспоминаний. Минская область и Минск.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Тадуліна, Прылепскі сельсавет**

**2801. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны захад ад вёскі, у невялікім хмызняку, сярод поля. 38 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 5—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1925 г. А. М. Ляўданскі, абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце...— Мн., 1925.

**2802. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 53 жыхары вёскі, якіх 23.3.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Усяж, цэнтр сельсавета**

**2803. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Прамысловая. Пахаваны 29 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Хаценава, Юр'еўскі сельсавет**

**2804. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахавана 177 жыхароў вёскі, якіх у красавіку 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Чарніцкі, Пліскі сельсавет**

**2805. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1975 г.

У 1941—44 гг. на торфапрадпрыемстве «Чырвоны Сцяг» дзейнічала падпольная антыфашысцкая група. У склад яе ўваходзіла больш за 10 чалавек. Кіраўнік — былы настаўнік мясцовай школы Антон Пятровіч Карэўка. Патрыёты ўстанавілі сувязь з партызанскай брыгадай «Разгром». Здабывалі для партызан зброю, медыкаменты, прадукты, разведданыя аб мясцовым гарнізоне ворага, рабілі дыверсіі, псавалі абсталяванне і прадукцыю на торфапрадпрыемстве, вялі прапаганду сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. Гітлераўцы напалі на след падпольнай групы, арыштавалі А. П. Карэўку, А. Я. Коўрыка і Г. Цярэшку і 8.1.1943 г. пасля катаванняў расстралялі. Пахаваны ў в. Пліса. Гл. артыкул № 2780 «Брацкая магіла падпольшчыкаў».

*Літ.:* Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*



2801. *Курганны могільнік. План.*



2806. *Помнік В. А. Тумару.*

**2806. ПОМНІК ТУМАРУ** Віктару Андрэевічу (гіст.). У цэнтры пасёлка.

Герой Савецкага Саюза В. А. Тумар нарадзіўся ў 1919 г. у в. Пеліка Смалявіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Пасля сканчэння сямігадовай школы працаваў на торфапрадпрыемстве «Чырвоны Сцяг» Смалявіцкага р-на. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Стралок 929-га стралковага палка 254-й стралковай дывізіі радавы В. А. Тумар вызначыўся ў баях за г. Ясы. Адступаючы пад ударамі савецкіх войск, гітлераўцы спрабавалі тут перайсці ў контрнаступленне. Яны кінулі на гэты ўчастак вялікую колькасць войск і ваеннай тэхнікі. Савецкія воіны адбілі 7 варожых контратак. 30.5.1944 г. у крытычны момант бою В. А. Тумар і яшчэ некалькі воінаў кінуліся са звязкамі гранат пад фашысцкія танкі і цаной свайго жыцця сарвалі контрнаступленне ворага. Пахаваны ў брацкай магіле ў г. Ясы. Званне Героя Савецкага Саюза В. А. Тумару прысвоена 13.9.1944 г.

У 1961 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлены паплечны бюст.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969.

**в. Чырвоны Лужок, Пятровіцкі сельсавет**

**2807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 71 воін, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Чэрнікаўшчына, Забалоцкі сельсавет**

**2808. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 250 м на ўсход ад вёскі, на правым забалочаным беразе р. Чарніца, на краі пагорка вышынёй 16,5—17 м над поплавам. Пляцоўка авальная, памерам 52×34 м. Яе ўсходні край умацаваны грэбенепадобным валам, які цяпер моцна аплыў. Па схіле вышынёй каля 1 м умацавана 2 падковападобнымі валамі вышынёй 3,5—4 м. З паўднёвага боку каля асновы прасочаны яшчэ адзін вал. Ад асноўнай часткі пагорка гарадзішча аддзелена ровам. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. У ямах і траншэі культурны пласт каля 1 м. Знойдзены дробнае вугалле, косці жывёл, перапаленае каменне, кавалкі глінянай абмазкі, фрагменты ляпной гладкасцен-



2808. *Гарадзішча. План.*

най керамікі з дамешкамі жарствы ў гліне пасудзін, а таксама адзін венчык ад посуду слоікападобнага тыпу. Адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Шыпяны, Курганскі сельсавет**

**2809. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2810. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 мірных жыхароў вёскі, якіх 5.6.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2811. ПАРК** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Закладзены на мяжы 19—20 ст. як прысядзібны. У цэнтры парку знаходзіўся сядзібны дом (не захаваўся). На паўночнай ускраіне захавалася мураваная гаспадарчая пабудова.

Парк займае прамавугольную ў плане тэрыторыю. З поўначы да яго прымыкае альховы гай. Ад галоўнай вуліцы вёскі да цэнтральнага ўвахода ў парк вядзе алея, абсаджаная дубамі. Тэрыторыя парку падзелена на 2 часткі: заходнюю і ўсходнюю. Заходняя мае рэгулярную планіроўку, тут растуць дуб, ясень, вярба, ліпа. Усходняя частка парку пейзажнай планіроўкі; на адкрытых палянах высаджаны групы дрэў (бяроза, елка, каштан, клён і інш.).

Помнік садова-паркавага мастацтва.

**в. Юзафова, Юр'еўскі сельсавет**

**2812. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Займае выступ берагавога плато памерам 85×20 м, якое ўзвышаецца над балотам на 8—9 м. З паўночнага боку гарадзішча моцна пашкоджана. Пляцоўка мае нахіл на поўдзень, схілы зараслі лесам. Вал не прасочаны. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Юр'ева, цэнтр сельсавета**

**2813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У заходняй частцы вёскі, у парку. Пахаваны 200 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — партызаны брыгады «Смерць фашызму» злучэння Мінскай вобл. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з выявай кулямёта.

**2814. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «СМЕРЦЬ ФАШЫЗМУ»** (гіст.). У заходняй частцы вёскі, у парку. У Вялікую Айчынную вайну ў лясах паблізу вёскі базіравалася партызанская брыгада «Смерць фашызму» партызанскага злучэння Мінскай вобл.

Брыгада створана ў ліпені 1943 г. на базе партызанскага атрада з той жа назвай, арганізаванага ў 1942 г. Камандзір В. Ф. Тарунаў, камісар І. П. Дзядзюля. Вяла баявыя дзеянні супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Барысаўскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага р-наў. Партызаны нанеслі ўдары па варожых камунікацыях на чыгуначнай лініі Мінск — Барысаў, на шашэйных і грунтавых дарогах. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». Зрабілі больш за 100 буйных дыверсій, падарвалі каля 780 аўтамашын, 470 рэек, разбурылі 1,5 км чыгункі, збілі 2 і пашкодзілі 5 самалётаў, узарвалі і спалілі 55 мастоў, 4 склады і інш.

2.7.1944 г. брыгада ў складзе атрадаў імя М. І. Кутузава, імя В. П. Чкалава, імя С. М. Будзённага, імя К. Я. Варашылава (706 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, у ліпені 1944 г. партызаны ўдзельнічалі ў ліквідацыі групоўкі нямецка-фашысцкіх войск у мінскім «катле».

У 1967 г. у гонар брыгады «Смерць фашызму» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Дедюля И. П. Лесная гвардия.— Мн., 1968; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

**2815. РАДЗІМА ЛЯЎДАНСКАГА** Аляксандра Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі археолаг А. М. Ляўданскі нарадзіўся 29.8.1893 г. у сялянскай сям'і. У 1922 г. скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Вучыўся на славесна-гістарычным аддзяленні Смаленскага універсітэта (1922—25 гг.). Выкладаў у гэтым універсітэце і адначасова працаваў у Смаленскім дзяржаўным музеі (1925 г.). З 1927 г. у Мінску, член гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта. З 1931 г. вучоны сакратар, загадчык секцыі археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР, адначасова дацэнт БДУ. Арганізатар першых экспедыцый па шырокім планамерным археалагічным вывучэнні Беларусі. Даследаваў помнікі ад эпохі каменнага веку да сярэдневяковага перыяду ўключна. Зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку, вызначыў іх культурна-археалагічную прыналежнасць, акрэсліў арэалы археалагічных культур, асноўныя рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальна-радавага ладу плямён, якія жылі ў жалезным веку на тэрыторыі Беларусі. У паўднёвай Беларусі вучоным вылучаны шэраг помнікаў «эпохі латэна», у цэнтральнай — выяўлены гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі і ўпершыню выказана меркаванне аб прыналежнасці жыхароў гэтых гарадзішчаў да балцкіх плямён. На Полацка-Віцебскім Падзвінні і Смаленскім Падняпроўі адкрыў культуру з гладкасценнай керамікай, якая потым атрымала назву Днепрадзвінскай. Даследаваў старажытныя Полацк, Заслаўе, Барысаў, тэрыторыю Смаленшчыны, раскопваў курганы ў Мінскай, Полацкай і Аршанскай акругах. Асноўныя працы: «Беларускія гарадзішчы» (1926 г.), «Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі» (1928 г.), «Археалагічныя доследы ў Аршанскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Барысаве», «Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе» (усе 1930 г.) і інш.



2812. *Гарадзішча. План.*



2814. *Помнік у гонар партызанскай брыгады «Смерць фашызму».*

Памёр А. М. Ляўданскі ў 1942 г. у Архангельску.

*Літ.:* Памяти А. Н. Левданского.— Советская археология, 1964, № 1.

**2816. РАДЗІМА СЛОНСКАГА** Яўстафія Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. Р. Слонскі нарадзіўся 23.4.1886 г. у сялянскай сям'і. З 1918 г. служыў у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Намеснік камандзіра 835-га стралковага палка 237-й стралковай дывізіі гвардыі маёр Я. Р. Слонскі вызначыўся ў ноч на 24.9.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Вялікі Букрын Кіеўскай вобл. З першымі падраздзяленнямі пераправіўся пад агнём праціўніка цераз раку. Байцы падраздзяленняў у жорсткім баі авалодалі плацдармам і замацаваліся на ім, што садзейнічала пераправе ўсяго палка. Загінуў 28.9.1943 г. у баі пры вызваленні в. Юшкі Кіеўскай вобл. Пахаваны ў гэтай вёсцы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1. 1944 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**2817. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, каля Малога возера, на востраве сярод балота. Плошча каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1925 г. А. М. Ляўданскі, абследаваў у 1979 г. М. А. Ткачоў. Сабрана вялікая колькасць ганчарнай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А. М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце...— Мн., 1925.

**в. Ялоўка, Жодзінскі сельсавет**

**2818. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага прыпынку Барсукі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2819. РАДЗІМА МАСЛОЎСКАГА** Мікалая Паўлавіча (гіст.).

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі М. П. Маслоўскі (партыйныя псеўданімы А л е с ь, М а р т ы н, С а к а л о ў с к і, Е ў д а к і м а ў) нарадзіўся ў 1905 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. З 1922 г. працаваў слесарам на чыгунцы. З 1926 г. сакратар Смалявіцкага, Капыльскага райкомаў камсамола, Мінскага акруговага камітэта ЛКСМБ. З ліпеня 1930 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі — першы сакратар ЦК КСМЗБ. Дэлегат IV з'езда Кампартыі Польшчы (1932 г.), I з'езда КСМЗБ (1933 г.), II з'езда КПЗБ (1935 г.) і VII кангрэса Камінтэрна (1935 г.). На II з'ездзе КПЗБ выбраны членам ЦК КПЗБ, на VI кангрэсе Камуністычнага Інтэрнацыянала Моладзі (КІМ, 1935 г.) — кандыдатам у члены Выканаўчага камітэта КІМа. Памёр М. П. Маслоўскі ў красавіку 1938 г.

*Літ.:* Годы испытаний и мужества.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

# СТАРАДАРОЖСКІ РАЁН






Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XXXII. СТАРЫЯ ДАРОГІ

Горад, цэнтр раёна. За 148 км на паўднёвы ўсход ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Асіповічы, на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Слуцк.

Упершыню ўпамінаецца ў 1582 г. як мястэчка Дарогі ў дакуменце падзелу Слуцкага княства паміж князямі Алелькавічамі. З 1612 г. уладанне Радзівілаў. З сярэдзіны 17 ст. цэнтр Дарожскай воласці Слуцкага княства. Мястэчкам кіраваў намеснік князя. У 1647 г. 95 жылых пляцаў, 31,5 валокі зямлі (670 га). За зямлю, палеткі і сенажаць жыхары плацілі чынш. Пасля руска-польскай вайны 1654—67 гг. засталося 36 «дымоў». З 1791 г. пад назвай Старыя Дарогі ўваходзілі ў склад Глускай парафіі Случарэцкага павета Навагрудскага ваяводства. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расіі — вёска Новадарожскай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. У 1896 г. закончана будаўніцтва вузкакалейнай чыгункі Асіповічы — Старыя Дарогі, у 1915 г. лінія працягнута да Слуцка (вывозілі больш за 5 млн. пудоў лесаматэрыялаў у год). У 1897 г. у Старых Дарогах 500 жыхароў. У 1904 г. лесапільны (45 рабочых) і фанерны (160 рабочых) заводы. У маі 1905 г. рабочыя абодвух прадпрыемстваў правялі забастоўку. Яны патрабавалі павелічэння зарплаты і бясплатнага лячэння. Забастоўка была падаўлена, кіраўнікі арыштаваны.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. З 20.8.1919 г. да ліпеня 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы, у раёне Старых Дарог дзейнічалі партызанскія атрады А. К. Палапейчыка, І. Тышкевіча, А. Таміловіча, Я. Якаўлева (200 чалавек). З 1921 г. цэнтр Новадарожскай воласці Бабруйскага павета, з ліпеня 1924 г. мястэчка, цэнтр раёна ў Слуцкай (да чэрвеня 1927 г.) і Бабруйскай (да ліпеня 1930 г.) акруг. 1,8 тыс. жыхароў у 1926 г., пільня, электрастанцыя, млын. З 27.9.1938 г. горад, цэнтр раёна Мінскай вобл. 4,2 тыс. жыхароў у 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 27.6.1941 г. да 28.6.1944 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 24.7.1941 г. у час наступлення войск Заходняга фронту на бабруйскім напрамку кавалерыйская група генерал-палкоўніка А. І. Гарадавікова вызваліла Глуск і Старыя Дарогі, але праз некалькі дзён пад націскам намнога большых сіл праціўніка вымушана была адысці. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (21.3.1943 г.— 28.6.1944 г.), ЛКСМБ (снежань 1942 г.— 28.6.1944 г.). Старыя Дарогі вызвалены войскамі



XXXII. *Забудова вуліцы Камсамольскай.*



XXXII. *Забудова вуліцы Камсамольскай.*



XXXII. *Фрагмент забудовы вуліцы Пралетарскай.*



**2820.** *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан.*

конна-механізаванай групы (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) 1-га Беларускага фронту. З 20.9.1944 г. цэнтр раёна Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Мінскай абласцей. У 1959 г.— 4,9 тыс. жыхароў. З снежня 1962 г. да ліпеня 1966 г. у Слуцкім р-не. 6 тыс. жыхароў у 1970 г.

Горад развіваўся з прыстанцыйнага пасёлка, яго планіроўка — арыентаваная на чыгунку сетка вуліц з малапавярховай забудовай. Праекты планіроўкі Старых Дарог распрацаваны ў 1955 г., 1968 г. (карэкціроўка 1976 г.), у 1982 г. распрацаваны план дэталёвай планіроўкі цэнтра (Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва). Чыгунка дзеліць горад на заходні і ўсходні планіровачныя раёны. У заходнім раёне пераважае капітальная 2—5-павярховая забудова ўздоўж вуліц Камсамольскай, К. Маркса, Горкага і інш. Адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр склаўся на вул. Камсамольскай (размешчаны будынкі універмага, сталовай-рэстарана, аддзялення сувязі) і пл. Леніна, утворанай на скрыжаванні вул. Пралетарскай з вул. Камсамольскай і К. Маркса. Яе фарміруюць будынкі Дома Саветаў, паліклінікі, жылыя дамы. Сярод забудовы вул. Камуністычнай вылучаюцца будынкі гасцініцы і аўтавакзала. Ва ўсходнім планіровачным раёне (вул. Савецкая, Садовая, Чапаева) пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Вытворча-складская зона ў паўночнай частцы горада. Працуюць: філіял Слуцкага масласырзавода, хлебазавод, вытворчы ўчастак Слуцкага кансервавага завода, харчовы камбінат, швейная фабрыка, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас. У Старых Дарогах 2 сярэднія, васьмігадовая, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўныя школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, народны тэатр раённага Дома культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Поступ Кастрычніка». Помнікі: У. І. Леніну; воінам-вызваліцелям; Вызвалення; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — сквер на вул. Кірава, парк у пойме р. Саляпка, лесапаркавы пояс вакол горада. На р. Салянка ствараюцца штучныя вадаёмы.

*Літ.:* Минская старина. В. 4. (Тройчанский архив).— Мн., 1913; Мікіцінскі У. Дванаццаць дзён краязнаўчага вандравання.— Наш край, 1929, № 3; Яблонский Б. К. Старые Дороги: Историко-экономический очерк.— Мн., 1982.
*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**2820. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, каля шашы Слуцк — Бабруйск. У 8 магілах пахаваны 23 савецкія воіны і 10 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні горада. У 1968 г. пастаўлены 8 надмагілляў і скульптура воіна.

**2821. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, каля шашы Слуцк — Бабруйск. На ўшанаванне памяці воінаў 4-га гвардзейскага кавалерыйскага Кубанскага корпуса (9-я і 10-я гвардзейскія, 30-я кавалерыйскія дывізіі) і 219-й танкавай брыгады 1-га механізаванага корпуса конна-механізаванай групы (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) 1-га Беларускага фронту, якія 28.6. 1944 г. вызвалілі Старыя Дарогі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — танк Т-34 на пастаменце.



**2821.** *Помнік воінам-вызваліцелям.*

**2822. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). У парку.

28.6.1944 г. пасля жорсткіх баёў войскі 9-й, 10-й гвардзейскіх і 30-й кавалерыйскіх дывізій, 219-й танкавай брыгады конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту вызвалілі Старыя Дарогі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




**2822.** *Помнік Вызвалення.*



**2823.** *Помнік Г. Каралёвай і С. Бабаковай.*



2824. *Помнік У. І. Леніну.*

У 1969 г. у гонар вызвалення горада пастаўлена стэла.

**2823. ПОМНІК КАРАЛЁВАЙ** Ганне **І БАБАКОВАЙ** Соф'і (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, каля аўтамабільнай дарогі Слуцк — Бабруйск. На ўшанаванне памяці партызанак-падпольшчыц Г. Каралёвай і С. Бабаковай, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1982 г. пастаўлены помнік — скульптурныя партрэты партызанак на высокім прамавугольным пастаменце.

**2824. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Пралетарскай, каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**в. Аляксандраўка, Старадарожскі сельсавет**

**2825. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Марак, абапал дарогі ў в. Кавалічы. 42 насыпы (29 справа ад дарогі, 13 злева) вышынёй 0,6—1,3 м, дыяметрам 7—11 м. Курганы здзірванелі, зараслі кустамі. 7 насыпаў пашкоджаны ямамі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.




2825. *Курганны могільнік. План.*

**в. Асавец, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2826. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,4 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, на пясчанай дзюне былога балота. Пляцоўка трохвугольная, памерам 50×46 м, узвышаецца над балотам на 4—6 м, здзірванела і зарасла лесам. З боку поля ўмацавана 2 валамі вышынёй 0,5—0,7 м і 2 равамі глыбінёй 0,5—0,6 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. У шурфе памерам 1×0,5 м культурны пласт 0,82 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. М. Каробушкіна.*

**в. Аточка, Языльскі сельсавет**

**2827. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Будзенічы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2828. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў жніўні 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2829. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2826. *Гарадзішча. План.*



2831. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**2830. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы, у лесе. 12 насыпаў вышынёй 0,8—1,3 м, дыяметрам 9—12 м, пашкоджаны невялікімі ямамі. Выявіла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вярхуціна, Языльскі сельсавет**

**2831. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1 партызан, што загінуў у 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2832. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на правым баку дарогі на в. Сінягова, ва ўрочышчы Кляшчова. 2 насыпы вышынёй 0,7 і 1,4 м, дыяметрам 10 і 12 м. Курганы добра захаваліся, здзірванелі, зараслі лесам. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гасціно, Пасецкі сельсавет**

**2833. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 партызан і мір-

ных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск і надмагільная пліта.

**2834. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глядавічы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2835. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада «Народныя мсціўцы» Ф. П. Аўчыннік і П. А. Сойка, якія загінулі ў 1942 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2836. МАГІЛА АНЦІХОВІЧА** Адама Сідаравіча (гіст.). На могілках. Партызан 100-й брыгады імя С. М. Кірава А. С. Анціховіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2837. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2838. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гнезднае, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2839. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 3 насыпы вышынёй 1,2—1,4 м, дыяметрам 8—13 м. Курганы пашкоджаны, адзін часткова паспаваны дарогай. У цэнтры выбраны вузкія ямы, дзе прасочаны сляды попелу і вугалле. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.



2833. *Помнік на брацкай магіле партызан і ахвяр фашызму.*



2842. *Помнік землякам.*

**в. Горкі, Паськова-Горацкі сельсавет**

**2840. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 93 ваеннапалонныя, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2841. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 219-й танкавай брыгады конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2842. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Старыя Дарогі — Слуцк. На ўшанаванне памяці 260 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні яго пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны і жанчына, вакол кургана 4 стэлы з імёнамі загінуўшых і надпісамі-прысвячэннямі.

**в. Дражна, цэнтр сельсавета**

**2843. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 7 воінаў 1-га механізаванага корпуса конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 20 партызан 2-й Мінскай брыгады, што загінулі 13—14.7.1943 г. пры разгроме варожага гарнізона ў в. Дражна. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2844. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі, на могілках. 12 насыпаў вышынёй 0,7—1,6 м, дыяметрам 6—12 м. Частка курганоў пашкоджана ямамі глыбінёй 0,4—1 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2845. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля



2834. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



2843. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

будынка аддзялення сувязі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.

**в. Дуброўскія Хутары, Новадарожскі сельсавет**

**2846. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 11 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1 партызан. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Залужжа, Дражнаўскі сельсавет**

**2847. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 30-й кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.




2844. *Курганны могільнік. План.*

**2848. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 лётчыкі, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2849. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 180 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з хлопчыкам і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**2850. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 100-й імя С. М. КІРАВА** (гіст.). За 6 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Млынок. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны базіраваўся штаб партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава.

У сакавіку 1943 г. паводле загада штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. атрад «Народныя мсціўцы» (створаны ў чэрвені 1942 г.) разгорнуты ў 100-ю партызанскую брыгаду «Смерць фашызму». У снежні 1943 г. перайменавана ў 100-ю імя С. М. Кірава. Дзейнічала ў Старадарожскім р-не. Камандзір А. І. Шуба, камісары Г. М. Машкоў (сакавік — верасень 1943 г.), І. С. Савелаў (верасень 1943 г.— красавік 1944 г.), І. М. Ражкоў (красавік 1944 г.— чэрвень 1944 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначным участку Асіповічы — Клецк. 20.6.1943 г. з партызанамі брыгады 64-й імя В. П. Чкалава разграмілі чыгуначную станцыю Фалічы, знішчылі чыгуначны мост, 0,5 км чыгуначнага палатна. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», падарвалі каля 7 тыс. рэек. У жніўні, снежні 1943 г., лютым, красавіку 1944 г. вялі баі з карнікамі. 27—28.6.1944 г. сумесна з партызанамі іншых брыгад захапілі пераправу цераз р. Пціч і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырвонай Арміі. 28.6.1944 г. брыгада (1031 партызан; атрады 1-ы імя В. І. Чапаева, 2-і імя М. І. Кутузава, 3-і імя М. В. Фрунзе, 4-ы імя В. П. Чкалава, 5-ы імя С. М. Будзённага, 6-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1974 г. у гонар партызан брыгады пастаўлена стэла.

**2851. ЦАРКВА** (архіт.). У паўночна-ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з драўлянага бруса. Цяпер тут сельскі клуб.

Манументальны буйна-маштабны будынак крыжовага тыпу. У яго сіметрычна-восевай аб'ёмнай кампазіцыі дамінуюць высокі папярочны трансепт і двух'ярусная званіца. Галоўны ўваход вылучаны шырокім чатырохслуповым порцікам з трохвугольным франтонам і вялікім ганкам. Да прамавугольнай у плане апсіды, арыентаванай на ўсход, прымыкаюць невялікія прыбудовы. Такія ж прыбудовы размешчаны па тарцах шыро-



2845. *Помнік У. І. Леніну.*



2847. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

кага трансепта. Вялікія згрупаваныя аконныя праёмы ў разных ліштвах з франтонамі. У дэкоры фасадаў выкарыстана разнастайная шалёўка — гарызантальная на сценах і вертыкальная з разным арнаментам пад карнізам і на цокалі. Унутраная прастора царквы аб'ядпана агульнай плоскай столлю і ўяўляе сабой доўгую залу, у якую адкрываюцца бабінец і апсіда. Пры ўваходзе ў бабінец зроблены хоры з бакавой лесвіцай. Аздабленне інтэр'ера не захавалася.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**в. Застарычы, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2852. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 2,5 км ад вёскі, каля шашы Шышыцы — Шчыткавічы. Пахаваны 14 партызан брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. пастаўлены 14 надмагілляў і стэла.

**2853. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ 95-й імя М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). За 2,5 км на захад ад вёскі, каля шашы Шчыткавічы — Мінск. Недалёка ад вёскі, у лесе ў гады Вялікай Айчыннай вайны базіраваўся штаб партызанскай брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе.

Брыгада створана ў верасні 1943 г. загадам штаба партызанскага злучэння Мінскай вобл. на базе атрадаў імя С. М. Будзённага, С. М. Кірава, Ф. Э. Дзяржынскага, К. К. Ракасоўскага (вылучаны 225-й брыгадай імя А. В. Суворава). Пазней арганізаваны атрад імя А. Матросава. Камандзір брыгады І. В. Арастовіч, камісар А. Ц. Міновіч (верасень 1943 г.— чэрвень 1944 г.). Партызаны праводзілі аперацыі пераважна на чыгунцы Асіповічы — Баранавічы, шашы Мінск — Слуцк, Слуцк — Івацэвічы, Бабруйск — Капыль. Вялі баі з карнікамі ў лістападзе 1943 г., у лютым — красавіку 1944 г. У чэрвені 1944 г. у Грэскім і Слуцкім р-нах правялі за 9 дзён 10 баёў з праціўнікам, нанеслі яму значныя страты. 29.6 і 2.7.1944 г. брыгада (1032 партызаны, атрады імя С. М. Будзённага, імя С. М. Кірава, імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя К. К. Ракасоўскага, імя А. М. Матросава) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1966 г. у гонар партызан брыгады пастаўлена стэла.




2851. *Царква. План.*



2849. *Помнік землякам.*

**в. Зялёная Дуброва, Дражнаўскі сельсавет**

**2854. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 30-й кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кармазы, Старадарожскі сельсавет**

**2855. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Клятное, Языльскі сельсавет**

**2856. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка амаль круглая, памерам 70×65 м, умацавана 2 валамі і ровам. Вышыня вонкавага вала 0,4—0,8 м, унутранага — 0,5—0,6 м. Шырыня рова 1,5—2 м, глыбіня 0,7 м. З паўночна-ўсходняга боку гарадзішча знаходзіцца яшчэ адна пляцоўка плошчай каля 25 м², якая заканчваецца схілам. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. У шурфе памерам 1×0,5 м культурны пласт 0,73 м. У ім знойдзены тонкая ляпная кераміка з «жамчужным» арнаментам і рэшткі ляпнога штрыхаванага посуду. Адносіцца да мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур, датуецца 8 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. М. Каробушкіна.*

**2857. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, 2 курганы вышынёй 0,9 і 1 м, дыяметрам 8—10 м. Захаванасць добрая. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Крываносы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2858. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2859. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2860. МАГІЛА ЖЭЛДАКА** Якава Данілавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава Я. Д. Жэлдак загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2861. МАГІЛА МЛЫНАРЧЫКА** Рыгора Акімавіча (гіст.). На могілках. Разведчык партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава Р. А. Млынарчык загінуў 20.1.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2862. МАГІЛА ПАРХІМОВІЧА** Дзям'яна Фёдаравіча (гіст.). На могілках.

Д. Ф. Пархімовіч нарадзіўся ў в. Крываносы ў 1883 г. Член КПСС з 1916 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1920 г. працаваў старшынёй валрэўкома, потым — старшынёй валвыканкома. 21.5.1921 г. забіты бандай Булак-Балаховіча.

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2856. *Гарадзішча. План.*

**в. Лавы, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2863. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на поўдзень ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 1,2—1,4 м, дыяметрам 1,1—1,3 м. Адзін курган пашкоджаны ямай. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лагі, Старадарожскі сельсавет**

**2864. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2864а.** Могільнік-1. За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. 7 курганоў вышынёй 0,3—0,8 м, дыяметрам 5—9 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2864б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ровіншчына, у лесе. 7 насыпаў вышынёй 0,4—0,9 м, дыяметрам 9—11 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2864в.** Могільнік-3. За 0,4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы, у лесе. 20 насыпаў вышынёй 0,7—1,2 м, дыяметрам 8—10 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ляўкі, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2865. КУРГАН** (археал.). За 4,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Брод, у лесе. Вышыня 0,5 м, дыяметр 12 м. Выявіла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна.

**2866. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На могілках. 39 насыпаў вышынёй 0,5—1,7 м, дыяметрам 6—14 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Макарычы, Старадарожскі сельсавет**

**2867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 30-й кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.




2866. *Курганны могільнік. План.*




2867. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**в. Навасёлкі, Паськова-Горацкі сельсавет**

**2868. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 219-й танкавай брыгады конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Новыя Дарогі, цэнтр сельсавета**

**2869. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1975 г.— стэла.

**в. Новыя Ісаевічы, Старадарожскі сельсавет**

**2870. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадніца, на правым беразе р. Арыжні. Пляцоўка авальная, умацавана 3 валамі вышынёй 0,6—0,8 м і 3 равамі глыбінёй 1,2—1,6 м. Выявіла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. З заходняга боку была праведзена зачыстка сцен ямы, выкапанай у адным з валоў. У цэнтры яе адзначаны рэшткі вугалля і попелу. У паўночнай частцы пляцоўкі закладзены шурф памерам 0,5×0,5 м, у якім знойдзены невялікі фрагмент ляпной керамікі. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. М. Каробушкіна.*

**в. Новыя Фалічы, Новадарожскі сельсавет**

**2871. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1 партызан, што загінуў у 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2872. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 95 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Падарэссе, Дражнаўскі сельсавет**

**2873. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў чэрвені 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы, і 7 партызан, што загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.




2870. *Гарадзішча. План.*

**2874. МАГІЛА МАЙЛЫЧКІ** Адама Максімавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава А. М. Майлычка загінуў 4.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2875. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 161 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**2876. РАДЗІМА ШУБЫ** Аляксея Іванавіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, Герой Сацыялістычнай Працы (1969 г.), заслужаны ўрач БССР (1948 г.) А. І. Шуба нарадзіўся 12.2.1912 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Вучыўся на рабфаку (1931—34 гг.), скончыў Мінскі медыцынскі інстытут (1939 г.). Прымаў удзел у стварэнні першых камсамольскіх ячэек. У 1939 г. працаваў галоўным урачом Старадарожскай бальніцы. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. З снежня 1941 г. арганізатар і кіраўнік партызанскай групы ў Старых Дарогах. З чэрвеня 1942 г. камандзір атрада «Народныя мсціўцы», з сакавіка 1943 г. камандзір партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава. У 1944—50 гг. загадчык аддзела аховы здароўя Мінскага гарвыканкома. У 1950—52 гг. асістэнт кафедры Мінскага медыцынскага інстытута, у 1952—71 гг. галоўны ўрач 1-й клінічнай бальніцы г. Мінска. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена за поспехі ў арганізацыі лячэбна-прафілактычнай дапамогі.

А. І. Шуба памёр 26.12.1971 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Г. Ф. Раманаў.*



2875. *Помнік землякам.*




2873. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў і партызан.*

### в. Палажэвічы, цэнтр сельсавета

**2877. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля бальніцы, у скверы. Пахаваны 5 воінаў конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 29.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Пасека, цэнтр сельсавета

**2878. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 89 воінаў 121-й стралковай дывізіі, што загінулі ў жніўні 1941 г., і 5 партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава, якія загінулі ў 1942—1943 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2879. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, у лесе. 38 насыпаў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 10—12 м. Курганы здзірванелі, зараслі дрэвамі, 8 насыпаў пашкоджаны. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2880. МАГІЛА НІКІЦІНА-ЛАПІЦКАГА** Івана Дзям'янавіча (гіст.). На могілках. Член валрэўкома І. Дз. Нікіцін-Лапіцкі загінуў у барацьбе з польскімі акупантамі ў 1919 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2881. МАГІЛА УКРАІНСКАГА** І. К. (гіст.). На могілках. Камандзір кавалерыйскага палка 1-й Кубанскай дывізіі І. К. Украінскі загінуў 25.11.1920 г. у баі з бандамі Булак-Балаховіча. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

### в. Паставічы, Новадарожскі сельсавет

**2882. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахава-



2878. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

2880. *Помнік на магіле І. Дз. Нікіціна-Лапіцкага.*

ны 32 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2883. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2884. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Арыжня, ва ўрочышчы Баракі, за 150 м ад дарогі Старыя Дарогі — Бабруйск. 65 насыпаў вышынёй 0,5—1,6 м, дыяметрам 8—12 м. Захаванасць добрая, адзін насып пашкоджаны. Курганы здзірванелыя, зараслі хвойнікам. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

2879. *Курганны могільнік. План.*

**2885. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Паськовы Горкі, цэнтр сельсавета**

**2886. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля шашы Бабруйск — Слуцк. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Ансамбль паштовай станцыі ўключаў станцыйны дом, службовы флігель, стайні, свіран. Прамавугольны ўнутраны двор абгароджаны высокім плотам і цаглянай сцяной. Перад станцыяй — невялікі сквер.

Станцыйны дом — аднапавярховы аб'ём, накрыты вальмавым дахам. У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы неаготыкі. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны стральчатым уваходным парталам, аформленым ступеньчатым атыкам і вуглавымі трохступеньчатымі контрфорсамі. Контрфорсы ўмацоўваюць і вуглы галоўнага фасада, сіметрыю якога падкрэслівае размяшчэнне прамавугольных праёмаў з стральчатымі ліштвамі. Сіметрычнасцю вызначаюцца і астатнія фасады. Сцены завершаны высокім карнізам у форме выкружкі. Планіроўка дома анфіладная. Па баках цэнтральнага скразнога калідора, што вядзе ад галоўнага ўвахода да выхаду ў двор, размешчаны па 4 пакоі. У планіроўцы назіраецца адыход ад традыцыйнай для такога тыпу будынкаў сіметрыі. У інтэр'еры захаваліся буйныя дзвярныя парталы. Цяпер будынак выкарыстоўваецца як жылы.

У апрацоўцы фасадаў бакавога службовага флігеля і агароджы станцыі тасама ёсць элементы неагатычнага стылю. Стайні — утылітарныя слупавыя будынкі з драўлянымі прасценкамі і навісямі.

Паштовая станцыя — помнік дарожнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Прусы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2887. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны брыгады 100-й імя С. М. Кірава П. М. Мемус і І. В. Бода, якія загінулі 6.4.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

2881. *Помнік на магіле І. К. Украінскага.*

**2888. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы, у лесе. 28 насыпаў вышынёй 0,4—1,5 м, дыяметрам 5—13 м. Захаванасць добрая, курганы здзірванелі, зараслі хвоямі. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2889. МАГІЛА КАЧАРГІНА** Васіля Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін В. Дз. Качаргін загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Пятровічы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2890. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны брыгады 100-й імя С. М. Кіра-

2884. *Курганны могільнік. План.*

ва, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2891. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рабак, Языльскі сельсавет**

**2892. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2892а.** Могільнік-1. За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, у полі, каля лесу. 75 насыпаў вышынёй 0,6—1,9 м, дыяметрам 6—13 м. Курганы добра захаваліся, здзірванелі і зараслі лесам (7 насыпаў пашкоджаны ямамі і траншэямі). Вядомы з 1924 г., абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2892б.** Могільнік-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Старына, на полі. 10 насыпаў вышынёй 0,7—1,4 м, дыяметрам 6—13 м. Курганы здзірванелі, зараслі кустамі. У цэнтры на 2 насыпах — ямы. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Равань, Старадарожскі сельсавет**

**2893. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.



**2886.** *Станцыйны дом.*




**2886.** *Станцыйны дом. План.*

**в. Рубежы, Пасецкі сельсавет**

**2894. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Рухава, Пасецкі сельсавет**

**2895. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 29 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г., і 10 партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава, што загінулі ў 1942—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2896. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА 5-га ІМЯ С. М. БУДЗЁННАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. У вёсцы ў 1943—44 гг. размяшчаўся партызанскі атрад 5-ы імя С. М. Будзённага брыгады 100-й імя С. М. Кірава.

Атрад створаны ў чэрвені 1943 г. на базе групы, вылучанай з брыгады ў маі 1943 г., і з жыхароў вёсак Рухава, Глядавічы, Крываносы. Камандзіры Ф. В. Дзераўнін, П. І. Лявонцьеў, І. А. Здаравец; камісары М. К. Ільінчык, А. І. Цімошка. Партызаны атрада ў жніўні, снежні 1943 г., лютым, красавіку 1944 г. вялі баі з карнікамі. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыгунцы Клецк — Слуцк — Асіповічы, у мініраванні шашэйных дарог Бабруйск — Слуцк і Бабруйск — Любань. 28.6.1944 г. атрад злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1975 г. у гонар партызан атрада пастаўлена стэла.

**2897. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Адным з пашыраных відаў народнага мастацтва ў Старадарожскім і суседніх раёнах з'яўляецца аплікацыя саломай на дрэве і тканіне. Разгладжаныя саломінкі наразалі кавалачкамі ў выглядзе квадрацікаў, прамавугольнічкаў, ромбікаў, з якіх выклейвалі геаметрычныя ўзоры і стылізаваныя раслінныя кампазіцыі на драўляных рамках, сальніцах, шкатулках, таніраваных у карычневы ці чорны колер. У падобнай тэхніцы выраблялі і насценныя дываны: разгладжаныя саломінкі ўпрытык наклейвалі на паперу і выразалі сілуэты птушак, жывёл, раслін, якія кампанавалі на чорным палатне, нацягнутым на раму памерам прыкладна 1×1,5 м. Асаблівага развіцця гэты від мастацтва дасягнуў у пасляваенныя гады. Промысел па вырабу насценных дываноў існуе ў в. Рухава ў наш час. Цяпер ён у асноўным задавальняе патрэбы музеяў і аматараў народнага мастацтва. Кампазіцыя дываноў аналагічная тканым і вышываным вырабам: у цэнтры букет кветак, вавёркі ці галубы, па краях акаймаваны гірляндай з раслінных парасткаў, кветак, гронак вінаграду. Залацістыя ці паліхромныя саламяныя ўзор вельмі выразны на чорным фоне палатна. Вырабы мясцовых майстроў экспанаваліся на многіх выстаўках народнага мастацтва, захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі Беларускай ССР, Дзяржаўным мастацкім музеі БССР і інш.

*Я. М. Сахута.*




**2888.** *Курганны могільнік. План.*




**2892а.** *Курганны могільнік-1. План.*



**2892б.** *Курганны могільнік-2. План.*

15 Зак. 296



2899. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



2900. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Сінягова, Пасецкі сельсавет**

**2898. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны брыгады 100-й імя С. М. Кірава П. П. Петрушэня і М. М. Санкевіч, якія загінулі 12.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2899. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі 6—12.8.1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў жніўні 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2901. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. У 2 магілах пахаваны 45 партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны атрада «Народныя мсціўцы», што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1964 г. на магілах пастаўлены абеліск і надмагільныя пліты з імёнамі загінуўшых.

**2902. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ляхава, справа ад дарогі ў в. Вярхуціна. 2 насыпы вышынёй 0,5 і 1 м, дыяметрам 8 і 10 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**2903. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР ВОІНАЎ 121-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст., маст.). За 7 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Брод.

У ліпені 1941 г. у час жорсткіх баёў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў войскі 121-й стралковай дывізіі трапілі ў акружэнне, 6 жніўня дывізія з боем прарвалася цераз шашу Слуцк — Бабруйск і выйшла ў раён станцыі Вярхуціна, але сустрэлася тут з намнога большымі сіламі праціўніка. На працягу 6 дзён савецкія воіны адбівалі атакі ворага, наносячы яму значныя страты. 14 жніўня выйшлі з акружэння.

У 1978 г. на месцы базіравання штаба 121-й стралковай дывізіі створаны мемарыяльны комплекс. У яго кампазіцыю ўключаны сапраўдныя рэаліі, якія аднаўляюць гістарычную абстаноўку: штабная зямлянка са станковым кулямётам «Максім», лясны калодзеж і гармата. Ідэйна-мастацкім акцэнтам комплексу з'яўляецца скульптурная кампазіцыя: жанчына з падлеткам і воін (скульпт. Б. Дрозд; медзь, выкалатка; вышыня 4 м і 2,6 м), якая сімвалізуе яднанне арміі і народа. Адкрывае мемарыял устаноўленая побач з дарогай скульптурная група: жанчына асцярожна нясе збан з малаком, падлетак прыціскае да грудзей бохан хлеба. Воін з аўтаматам у руках стаіць у баявой ахове каля зямлянкі. На абеліску і 2 мемарыяльных знаках дошкі з надпісам пра падзеі, што адбыліся ў жніўні 1941 г.

*Г. Ф. Раманаў, Г. М. Ярмоленка.*



2901. *Помнік на брацкіх магілах партызан і ахвяр фашызму.*



2903. *Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 121-й стралковай дывізіі. Абеліск.*

**2904. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На заходняй ускраіне вёскі. У 1967 г. на ўшанаванне памяці 152 воінаў 121-й стралковай дывізіі і 141 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе, і мірных грамадзян, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, пастаўлены помнік (скульпт. П. Белавусаў, архіт. Я. Печкін; бетон).

У цэнтры кампазіцыі на земляным кургане на высокім чатырохгранным пастаменце ўстаноўлены скульптуры воіна, партызана і жанчыны (вышыня скульптурнай кампазіцыі 3,5 м, пастамента 2 м). Фігуры павернуты спінамі адна да адной і як бы вырастаюць з адзінага маналіту. Рашучыя жэсты злучаных рук і суровыя выразы твараў адпавядаюць дынаміцы кампазіцыі. Вакол кургана пляцоўка, на якой 3 выцягнутыя па гарызанталі блокі з прозвішчамі загінуўшых і надпісамі-прысвячэннямі. Да помніка вядуць выкладзеныя плітамі дарожкі.

*Г. М. Ярмоленка.*



2904. *Помнік савецкім воінам і землякам.*



2903. *Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 121-й стралковай дывізіі. Штабная зямлянка, кулямёт «Максім», гармата, скульптура воіна.*



2903. *Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 121-й стралковай дывізіі. Скульптура жанчыны з падлеткам.*

**в. Солан, Паськова-Горацкі сельсавет**

**2905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 219-й танкавай брыгады конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Старыя Дарогі, цэнтр сельсавета**

**2906. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2907. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля шашы Бабруйск — Слуцк. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. З ансамбля станцыі захаваліся станцыйны дом і службовы флігель. Перад домам невялікі сквер.

Кампактны аднапавярховы дом накрыты вальмавым дахам. Галоўны ўваход вылучаны шырокім рызалітам і ганкам. Аконныя праёмы прамавугольныя. Сцены ўнутранага двара, у якіх зроблены праезды, прадаўжаюць лінію галоўнага фасада. Архітэктура будынка утылітарнага характару і не мае элементаў дэкору. Планіроўка сіметрычна-восевая. У цэнтры — скразны калідор з выхадам у двор, па баках яго размешчаны па 4 пакоі з анфіладнай сувяззю. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы.

Паштовая станцыя — характэрны прыклад дарожнага будаўніцтва 2-й паловы 19 ст.

*А. М. Кулагін.*

**в. Старыя Фалічы, Новадарожскі сельсавет**

**2908. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 15 воінаў 121-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Стражы, Палажэвіцкі сельсавет**

**2909. МАГІЛА ПАРХІМОВІЧА** Пракопа Гаўрылавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава П. Г. Пархімовіч загінуў у сакавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Фалічы, Старадарожскі сельсавет**

**2910. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Паха-



2907. *Станцыйны дом.*




2907. *Станцыйны дом. План.*



2912. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

ваны 2 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Церабуты, Шчыткавіцкі сельсавет**

**2911. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 218 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызана.

**в. Шапчыцы, Старадарожскі сельсавет**

**2912. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 7 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Шчыткавічы, цэнтр сельсавета**

**2913. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў конна-механізаванай групы 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны 225-й брыгады імя А. В. Суворава, што загінулі 18.4.1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2914. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 198 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан.

**в. Языль, цэнтр сельсавета**

**2915. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 37 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1 партызан, што загінуў у 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2916. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Чырвонаармейцы-разведчыкі Скварцоў і Маёраў загінулі 11.7.1920 г. пры вызваленні вёскі ад войск буржуазнай Польшчы. У 1933 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2917. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на поўнач ад вёскі, на асушаным балоце. 2 насыпы вышынёй 0,6 і 0,9 м, дыяметрам 9 і 10 м (раней было некалькі дзесяткаў курганоў). Вядомы з канца 19 ст. У 1893 г. М. А. Янчук раскапаў 2 насыпы. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. У 1970 г. адзін курган даследаваў настаўнік гісторыі мясцовай школы. Знойдзены чэрап чалавека і чэрап каня. У 1979 г. абследавала



2926. *Помнік землякам.*



2927. *Помнік чырвонаармейцам.*

Т. М. Каробушкіна. Належаў дрыгавічам, датуецца 11 ст.

*Т. М. Каробушкіна.*

**2918. МАГІЛА АМЯЛЬЧЭНІ** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан Вялікай Айчыннай вайны, былы старшыня калгаса імя Скварцова і Маёрава І. І. Амяльчэня загінуў 20.7.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2919. МАГІЛА АМЯЛЬЧЭНІ** Іосіфа Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады 100-й імя С. М. Кірава І. А. Амяльчэня загінуў вясной 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2920. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі С. і В. Кулькіны, расстраляныя ў 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2921. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі К. І. Амяльчэня і М. Д. Дарошка, расстраляныя 6.8.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2922. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі П. І. Правілаў і У. І. Лазук, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 6.8.1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2923. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі І. Дз. Чаратун і Д. А. Чаратун, расстраляныя нямецка-фашысцкі-

мі захопнікамі 6.8.1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2924. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі П. І. Чаратун і В. У. Чаратун, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 6.8.1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2925. МАГІЛА ШАЦІЛЕНІ** Уладзіміра Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Жыхар вёскі У. Р. Шаціленя расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 6.8.1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2926. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 435 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: салдат і жанчына і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**2927. ПОМНІК ЧЫРВОНААРМЕЙЦАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці чырвонаармейцаў-разведчыкаў Скварцова і Маёрава, якія загінулі 11.7.1920 г. пры вызваленні вёскі ад войск буржуазнай Польшчы, у 1961 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў смутку.



2928. *Царква.*

**2928. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні вуліц Леніна і Палаўчэні. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Цяпер у будынку праўленне калгаса імя Скварцова і Маёрава і клуб.

Храм крыжовы ў плане (апсіда раскідана), накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай і бакавымі крыламі. Галоўны фасад завершаны трохвугольным ашаляваным шчытом і вылучаны галерэяй на 4 мураваных калонах. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, упрыгожаны гарызантальнай шалёўкай з фігурнай фрызавай часткай. Першапачатковы інтэр'ер зменены: 2 паверхі адміністрацыйных памяшканняў звязвае бакавая міжпаверхавая лесвіца. У цэнтры — глядзельная зала клуба.

Царква — помнік архітэктуры, выкананы ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

# СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН




Рудня—Налібоцкая

Кляцішча

Пруды

Цеснавая 1-я

Куль

Рочавічы

Налібакі

Хатава

Літва

Ніўнае

Дзераўная

Вял. Навікі

Рубяжэвічы

Вял. Гуменаўшчына

Старына

Шашкі

Зуберава

Засулле

Аталезь

Апечкі

Яблынаўка

Заямнае

Слабада

Скамарошкі

СТОЎБЦЫ

Залужжа

Новы Свержань

Сверынава

Савані

Кнотаўшчына

Мікалаеўшчына

Горкі

Нов. Вёска

Варацішча

Вішнявец

Любкаўшчына

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905-07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

## XXXIII. СТОЎБЦЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Нёман, за 78 км на паўднёвы захад ад Мінска. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Баранавічы, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Баранавічы.

Вядомы з 1-й паловы 16 ст. як населены пункт Вялікага княства Літоўскага. Належаў Слушкам, Радзівілам, Чартарыйскім. У 1621—40 гг. тут пабудаваны касцёл дамініканцаў. У 1729 г. Стоўбцы атрымалі магдэбургскае права. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Мінскага павета. У 19 ст. адна з галоўных рачных прыстаней на Нёмане. Вывозілі збожжа, пяньку, лесаматэрыялы, смалу. Тут будавалі рачныя судны, здабывалі мел і вапну. Былі развіты рамёствы і гандаль. З 1871 г. Стоўбцы — станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Былі пачатковае вучылішча, запалкавая фабрыка, лесапільны завод, млын, смалакурня, паромная пераправа, паштовая станцыя. Паводле перапісу 1897 г. у мястэчку 3,8 тыс. жыхароў.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. у Стоўбцах адбыліся хваляванні працоўных. У 1913 г. створаны праўдзісцкі гурток. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1921—39 гг. горад у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства, пагранічная чыгуначная станцыя. Дзейнічалі падпольныя арганізацыі КПЗБ і КСМЗБ. У ноч на 4.8.1924 г. партызанскі атрад разграміў у Стоўбцах паліцэйскі гарнізон і вызваліў з гарадской турмы зняволеных, сярод іх членаў ЦК КПЗБ І. К. Лагіновіча і С. А. Мертэнса. Летам 1929 г. адбылася забастоўка рабочых лесапільнага завода.

З канца 1939 г. горад у складзе БССР, 7,5 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна ў Баранавіцкай вобласці. У Вялікую Айчынную вайну з 27.6.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут каля 3,5 тыс. чалавек. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (15.10.1943 г.— 6.7.1944 г.) і ЛКСМБ (20.10.1943 г.— 5.7.1944 г.), якія ўзначальвалі падпольную барацьбу з ворагам, партызанскі рух. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Голас селяніна». Стоўбцы вызвалены войскамі 1-га Беларускага фронту ў ходзе Беларускай наступальнай аперацыі 1944 г. З студзеня 1954 г.— цэнтр раёна Мінскай вобласці. У 1959 г.— 5,7 тыс., у 1970 г.— 7,5 тыс. жыхароў.

Горад развіваўся ад Нёмана ў паўночным напрамку, паміж аўтамабільнай дарогай і чыгункай Мінск — Баранавічы, што абумовіла складаную нерэгулярную квартальную планіроўку. Гістарычны цэнтр знаходзіцца ў паўднёвай частцы горада, у раёне цэнтральнага сквера і плошчы Леніна, пры перасячэнні восевай магістралі — вуліцы Ленінскай з перпендыкулярнымі ёй вуліцамі Гагарына і Першамайскай. Цяпер тут пабудаваны магазіны і кінатэатр. Недалёка ад гістарычнага цэнтра, на вуліцы Савецкай, помнік архітэктуры 1-й паловы 19 ст.— царква Ганны. Пры перасячэнні вуліц Ленінскай і Сацыялістычнай сфарміраваўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр з будынкамі райкома КПБ і райвыканкома. Гандлёвы цэнтр у паўночнай частцы, вакол прывакзальнай плошчы. Тут размешчана некалькі магазінаў, рэстаран, гасцініца. Новае жыллёвае будаўніцтва вядзецца ў двух мікрараёнах у паўночна-заходняй частцы Стоўбцаў. Мікрараёны абмежаваны вуліцай Ленінскай, па другі бок якой знаходзіцца гарадскі парк.

Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны ў розных частках горада. Працуюць пладова-агароднінны завод, хлебазавод, мясакамбінат, прамысловы камбінат з кафля-шыферным і мэблевым цэхамі, камбінат бытавога абслугоўвання, спецыялізаванае аддзяленне і раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас і інш. Паводле генеральнага плана 1983 г. Беларускага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва прадугледжваецца развіццё горада на паўночны ўсход і паўднёвы захад, расшырэнне адміністрацыйна-грамадскага цэнтра па вуліцы Ленінскай, уключэнне вёскі Новы Свержань у межы горада і забудова яе тэрыторыі. Прадпрыемствы харчовай прамысловасці мяркуецца перамясціць у прамысловы раён, які будзе створаны за чыгуначнай лініяй. У горадзе 3 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 2 вячэрнія школы рабочай моладзі, Дом піянераў і школьнікаў, 6 дашкольных устаноў, Дом культуры, кінатэатр, 2 масавыя бібліятэкі, бальніца, аптэка. Выдаецца раённая газета «Прамень». Помнікі: У. І. Леніну; Ф. Э. Дзяржынскаму; у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан і інш. У ваколіцах Стоўбцаў — зона адпачынку рэспубліканскага значэння, у якую ўвайшлі Коласаўскі дзяржаўны заказнік, турбаза «Высокі бераг».

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.— Мн., 1975; Деленковский Н. И., Турко А. М. Столбцы: Историко-экономический очерк.— Мн., 1981; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Киселев В. Н. На истоках неманских.— Мн., 1985.

*У. В. Алісейчык, А. І. Валахановіч.*



2929. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**2929. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). На плошчы Бессмяротнасці. Пахаваны 419 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні горада і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 9-й гвардзейскай і 30-й кавалерыйскай дывізій 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса конна-механізаванай групы генерал-лейтэнанта І. А. Пліева, партызаны брыгады імя Г. К. Жукава.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. І. Глебаў; бетон, мармуровая крошка; вышыня пастамента — 2,1 м, скульптур — 3 м). Уяўляе сабой скульптурную кампазіцыю — воін, які трымае сцяг, і партызанка з аўтаматам. Мадэліроўка форм згладжаная і абагульненая. Узняты сцяг, пастава фігур ствараюць уражанне руху. За скульптурнай кампазіцыяй 2 мемарыяльныя сцяны. На іх мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых воінаў і партызан. Перад помнікам кветкавыя газоны, высаджаны дрэвы.

*У. У. Бянько, Г. М. Ярмоленка.*

**2930. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках па вул. Калгаснай. Пахаваны жыхары горада Г. С. і А. С. Гавакі, расстраляныя 29.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2931. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,2 км на захад ад горада, каля дарогі Стоўбцы — Заямнае. Пахавана каля 3 тыс. мірных жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**2932. МАГІЛА БАГІНСКАГА** Валерыя **І ВЕЧАРКЕВІЧА** Антонія (гіст.). На могілках па вул. Гайдука.

У 1923 г. улады буржуазна-памешчыцкай Польшчы арыштавалі польскіх камуністаў: ваеннага тэарэтыка, выкладчыка Варшаўскай ваеннай шко-



2932. *Помнік на магіле В. Багінскага і А. Вечаркевіча.*

лы паручніка В. Багінскага і яго таварыша падпаручніка А. Вечаркевіча. Іх беспадстаўна абвінавацілі ў падрыве парахавога складу ў Варшаве. Камуністам пагражаў расстрэл. Працоўныя Польшчы і іншых краін гнеўна пратэставалі супраць расправы над сумленнымі афіцэрамі. Савецкі ўрад прапанаваў польскім уладам абмяняць зняволеных. Аднак міністэрства замежных спраў Польшчы адхіліла гэтую прапанову. У красавіку 1924 г. В. Багінскі і А. Вечаркевіч былі прыгавораны да расстрэлу. Гэта выклікала новую хвалю пратэсту народных мас. Баючыся міжнароднага скандалу, прэзідэнт Польшчы замяніў смяротнае пакаранне В. Багінскаму пажыццёвым, а А. Вечаркевічу — 15-гадовым турэмным зняволеннем.

Каб выратаваць жыццё польскіх камуністаў, Савецкі ўрад у сакавіку 1925 г. у другі раз звярнуўся з прапановай абмену. На гэты раз была атрымана згода. Пад моцнай аховай В. Багінскага і А. Вечаркевіча поездам даставілі ў Стоўбцы. Адсюль вагон адправілі на станцыю Коласава. 29.3.1925 г. па дарозе да месца прызначэння В. Багінскі і А. Вечаркевіч на вачах аховы былі расстраляны мясцовым паліцэйскім, які ўварваўся ў вагон. Імёнамі В. Багінскага і А. Вечаркевіча названы вуліцы ў Стоўбцах.

У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*У. У. Бянько.*

**2933. МАГІЛА КАСЦЕНЧЫКА** Авяніра Маркавіча (гіст.). На могілках па вул. Калгаснай.

Рускі ваенны лётчык А. М. Касценчык нарадзіўся ў 1889 г. у г. Гродна. Скончыў Віленскае ваеннае вучылішча. Як лепшы курсант накіраваны ў 1914 г. у Гатчынскую авіяцыйную школу. У 1-ю сусветную вайну ў 1915 г. прызначаны камандзірам экіпажа аднаго з першых рускіх самалётаў «Ілья Мурамец». Гэты самалёт узнімаўся на значную для таго часу вышыню, браў важкі груз, пралятаў далёкія адлегласці. Нават яго назва наводзіла жах на ворага.

У 1916 г. у час аднаго з паветраных налётаў на чыгуначную станцыю ў тыле ворага самалёт А. М. Касценчыка быў падбіты. Цяжка паранены і кантужаны лётчык знайшоў сілы, каб зрабіць яшчэ адзін круг над станцыяй і скінуць апошнія бомбы. У гэты час новы варожы снарад пашкодзіў матор бамбардзіроўшчыка. Памочнік камандзіра экіпажа з вялікай цяжкасцю дацягнуў самалёт да свайго аэрадрома. Пасля шпіталю па стану здароўя А. М. Касценчык не мог служыць у авіяцыі. Жыў у Стоўбцах у брата. Памёр 29.12.1935 г.

У 1936 г. на магіле пастаўлены мармуровы крыж на пастаменце.

*Літ.:* Цяцерын І. Капітан паветранага гіганта.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 3. *У. У. Бянько.*



2933. *Помнік на магіле А. М. Касценчыка.*

**2934. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ СЯДЗІБА АКІНЧЫЦЫ** (гіст.). На перакрыжаванні вуліц Сянкевіча і Коласаўскай.

Акінчыцы — месца нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа; у мінулым засценак, потым вёска, з 1977 г. увайшла ў г. Стоўбцы. Тут у 1881—83 гг. жыла сям'я Міцкевічаў (родных Я. Коласа). Сядзіба адноўлена. 30.10.1982 г. адкрыта для наведвання мемарыяльная экспазіцыя. На хаце ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Сярод экспанатаў аналагі рэчаў,



2934. *Хата, у якой нарадзіўся Я. Колас.*

якімі карысталася сям'я Міцкевічаў, прылады працы канца 19 ст. Мемарыяльная сядзіба ўключана ў філіял Літаратурнага музея Я. Коласа.

Класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы, народны паэт БССР (1926 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) Я. Колас (Тарас Гушча, Агарак, Адзінокі, К. Альбуцкі, Андрэй «сацыяліст», Тамаш Булава, Ганна Груд, Дзям'янаў Гуз, Пятрусь Дзягель, Дзядзька Карусь, Ганна Крум, Лапаць Карусь, Лесавік, Марцін, Мікалаевец, К. Наднёманскі, Свой чалавек, Стары шут і інш.; сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч) нарадзіўся 22.10.1882 г. у Акінчыцах у сям'і лесніка. Член КПСС з 1945 г. У 1902 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, да канца мая 1906 г. настаўнічаў у вёсках Люсіна Ганцавіцкага і Пінкавічы Пінскага раёнаў, Верхменскім народным вучылішчы (Смалявіцкі раён). За ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, які праходзіў у в. Мікалаеўшчына 9—10.7.1906 г., быў звольнены з работы. Пакуль цягнулася следства, зімой 1906—07 гг. жыў на Стаўбцоўшчыне, вёў прыватную школу, з 1907 г. працаваў у рэдакцыі газеты «Наша ніва» ў Вільні, у 1908 г.— у прыватнай школе ў в. Сані (Талачынскі раён). 15.9.1908 г. асуджаны на 3 гады зняволення, адбываў пакаранне ў Мінскім астрозе. У 1912—14 гг. настаўнік Пінскага прыходскага вучылішча. У 1-ю сусветную вайну з сям'ёй эвакуіраваўся ў Маскоўскую губерню. У верасні 1915 г. мабілізаваны ў армію. У 1916 г. скончыў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча, служыў у Пярмі, з ліпеня 1917 г. на Румынскім фронце. У верасні 1917 г. прыехаў да сям'і ў г. Абаянь (Курская вобл.). Натхнёна вітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю. З 1918 г. працаваў настаўнікам у школах, інструктарам павятовага аддзела народнай асветы. З мая 1921 г. у Мінску. Працаваў у навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, выкладаў у Беларускім педагагічным тэхнікуме, БДУ. З 1922 г. член Інбелкульта, з 1929 г. віцэ-прэзідэнт АН БССР. У Вялікую Айчынную вайну жыў у Клязьме, Ташкенце, Маскве, займаўся творчай і навукова-грамадскай дзейнасцю. Са снежня 1944 г. у Мінску.

Большасць ранніх вершаў (1898—1906 гг.) напісаны на рускай мове. Першы вопыт у прозе — бытавыя замалёўкі «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле». Уздым рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, ідэйныя і мастацкія традыцыі перадавой рускай і беларускай літаратуры абумовілі творчае самавызначэнне



2934. *Радзіма Я. Коласа. Падворак лесніка.*

пісьменніка. Дэбютаваў 1.9.1906 г. у газеце «Наша доля» вершам «Наш родны край». У 1910 г. у Вільні выдаў першы паэтычны зборнік «Песні жальбы», пазней кнігі прозы «Апавяданні» (1912 г.), «Родныя з'явы» (1914 г.). Асобнымі выданнямі ў 1913 г. у Пецярбургу выйшлі апавяданні «Тоўстае палена» і «Нёманаў дар». Цяжкае бяспраўнае жыццё беларускага мужыка, яго мары аб лепшай будучыні, класавае размежаванне ў вёсцы, барацьба народа за свае правы — асноўныя матывы дакастрычніцкай творчасці Я. Коласа. Чалавек працы ў яго творах — магутная сіла гістарычнага прагрэсу, стваральнік матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. Заклікаў да актыўнай барацьбы з самаўладдзем, паэтызаваў сілу духу, нескаронасць («Не дамся», «Мужык», «Горкая доля»). У вершах 1914—16 гг. («Думкі салдата», «Ворагам») выкрываецца антынародны характар імперыялістычнай вайны. Тэму мастака і мастацтва вырашаў у перадавых традыцыях самаадданага служэння народу, вернасці радзіме («Не пытайце, не прасеце...», «Пясняр», «Родныя песні», «Песняру»). Разам з узорамі грамадзянскай лірыкі даў узоры інтымнага верша, пейзажнай лірыкі, у многіх творах паказаў сябе майстрам гумару, што моцнымі каранямі ўрастае ў народную глебу. Разам з Я. Купалам узняў беларускае слова на ўзровень сталага мастацтва і заклаў трывалыя асновы для яго развіцця.

Новую старонку ў творчасці Я. Коласа адкрыла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. У вершах адлюстроўваў стваральную сутнасць рэвалюцыі, веліч сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, што адбываліся ў рэспубліцы (зборнік паэзіі «Водгулле», 1922 г., вершы «Пасля навальніцы», «Покліч», «У палях Беларусі», «Змаганнікам за Кастрычнік», «Краіне Саветаў»). Вядучыя тэмы творчасці 1920-х гг.— падзеі Грамадзянскай вайны («Крывавы вір», «Сяргей Карага»), драматызм барацьбы новага са старым («У двары пана Тарбецкага»), ломка псіхалогіі заможнага сялянства, прадстаўнікоў буржуазнай інтэлігенцыі («Дачакаўся», «Курская анамалія», «Пракурор»), станаўленне новай маралі («Адукацыя»), фарміраванне новага чалавека (аповесць «На прасторах жыцця», 1925—26 гг.). Вяршыня творчасці Я. Коласа — класічны твор беларускай літаратуры паэма «Новая зямля» (першыя раздзелы напісаны ў 1911 г., закончана і апублікавана ў 1923 г.). У ёй з вялікай мастацкай сілай адлюстраваны карэнныя сацыяльныя супярэчнасці канца 19 ст., пошукі селянінам-працаўніком лепшай долі, паказана духоўнае багацце, маральная прыгажосць чалавека працы, сцвярджаецца думка пра неабходнасць агульнанароднай барацьбы супраць эксплуатацыі. У рамантычнай паэме «Сымон-музыка» (1925 г.) паказаны трагічны лёс таленту з народа ў дарэвалюцыйны час, роздум над шляхамі развіцця мастацтва. Паэма сцвярджае думку пра неўміручасць мастацтва, кроўна звязанага з народам. Яскравы ўзор твору сацыялістычнага рэалізму — трылогія «На ростанях» («У палескай глушы», 1923 г., «У глыбі Палесся», 1927 г., «На ростанях», 1949—54 гг.), створаная на аўтабіяграфічным матэрыяле. Яна выявіла сталасць светапогляду аўтара, глыбокае разуменне ім месца працоўных мас і інтэлігенцыі ў рэвалюцыі, ролі пралетарскай партыі. У 1930-я гг. Я. Колас вяртаецца да тэмы імперыялістычнай і Грамадзянскай войнаў. У 1932—33 гг. напісаў аповесць «Дрыгва», прысвечаную мужнай барацьбе беларускага народа супраць інтэрвентаў. У шэрагу твораў працягвае тэму станаўлення сацыялістычных адносін (аповесць «Адшчапенец», 1930—31 гг.). Асноўная тэма лірыкі паэта гэтага ча-

су — сацыялістычнае будаўніцтва, праслаўленне стваральнай працы («XVIII з'езду партыі», зборнік «Нашы дні», 1937 г.). Звяртаўся да тэмы рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі (паэма «Рыбакова хата», 1941—47 гг., Дзяржаўная прэмія СССР 1949 г.). Творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны прасякнута пафасам савецкага патрыятызму, верай у немінучую перамогу. Яна натхняла на бязлітасную барацьбу з ворагам [зборнікі «Адпомсцім» (1942 г.), «Голас зямлі» (1943 г.), паэма «Суд у лесе» (1943 г.)]. За цыкл вершаў ваенных гадоў паэту прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г. Аўтар п'ес «Антось Лата» (1917 г.), «Забастоўшчыкі» (1925 г.), «Вайна вайне» (1927—31 гг., апошняя рэдакцыя 1938 г.), «У пушчах Палесся», паводле аповесці «Дрыгва» (1938 г.) і інш. Напісаў шэраг твораў для дзяцей: паэмы «Рак-вусач» (1926 г.), «Міхасёвы прыгоды» (1934 г.), зборнік вершаў «На рэчцы зімой» (1941 г.) і інш. У літаратурнай крытыцы і публіцыстычных артыкулах («Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы», 1957 г.) выступаў па актуальных праблемах літаратуры, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Аўтар падручнікаў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909 г.), «Методыка роднае мовы» (1926 г.). Перакладаў на беларускую мову творы А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча і інш. Творы Я. Коласа перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою, экранізаваны і інсцэніраваны. Многія вершы пакладзены на музыку. Па аповесці «Дрыгва» створана опера «У пушчах Палесся» (кампазітар А. Багатыроў, пастаўлена ў 1939 г.). Выдадзены зборы твораў у 7-мі (1952 г.), 12-ці (1961—64 гг.) і 14-ці (1972—78 гг.) тамах. Кандыдат у члены (1927—29 гг.), член ЦВК БССР (1929—31 гг., 1935—38 гг.). Член ЦК КПБ у 1952—56 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—56 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1938—56 гг.

Памёр Я. Колас 13.8.1956 г. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. У. Апанька, М. Якавенка, архіт. М. Мызнікаў). Імем паэта названы тэатр у Віцебску, Інстытут мовазнаўства і Цэнтральная навуковая бібліятэка АН БССР, Мінскі паліграфічны камбінат, школы, бібліятэкі, калгасы, вуліцы і плошчы. У Мінску літаратурны музей Я. Коласа (філіял музея ў Стаўбцоўскім р-не), на плошчы Я. Коласа створаны мемарыяльны комплекс. Працуюць літаратурна-этнаграфічныя музеі ў Люсіна (Ганцавіцкі р-н) і Пінкавічах (Пінскі р-н). У мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю паэта, на будынках устаноў, дзе ён працаваў,— мемарыяльныя дошкі; у АН БССР створаны мемарыяльны пакой. У 1959—65 гг. прысуджалася Літаратурная прэмія імя Я. Коласа, з 1966 г.— Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа (за творы прозы і літаратуразнаўства). Гл. таксама артыкул № 2966 «Коласаўскі дзяржаўны заказнік».



2936. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*



2935. *Помнік Вызвалення.*

*Літ.:* Пшыркоў Ю. С. Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа.— Мн., 1982; Мушынскі М. І. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., 1982; Навуменка І. Якуб Колас: Духоўны воблік героя.— [2 выд.].— Мн., 1981.

**2935. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). Вул. Сацыялістычная.

У ходзе Беларускай аперацыі 1944 г. конна-механізаваная група (камандзір генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) 1-га Беларускага фронту ў канцы чэрвеня прарвала ў паласе наступлення 28-й і 65-й армій абарону праціўніка і выйшла ў яго аператыўны тыл. 4-ы гвардзейскі кавалерыйскі Кубанскі корпус праследаваў адступаючага ворага ў напрамку Капыль, Бабоўня, Гарадзея, Мір. Перад 30-й кавалерыйскай дывізіяй (камандзір генерал-маёр В. С. Галаўской) корпуса была пастаўлена задача авалодаць г. Стоўбцы, захапіць чыгуначную станцыю і тым самым перарэзаць важную камунікацыю Мінск — Баранавічы. 2.7.1944 г. у 10 гадзін воіны дывізіі сумесна з 151-м танкавым палком атакавалі ворага. Танкісты нанеслі ўдар з паўднёвага захаду, а кавалерысты — з паўднёвага ўсходу. Гітлераўцы апамяталіся, калі танкі былі ўжо на вуліцах горада. Бязладна адстрэльваючыся, праціўнік адступаў. У першай палавіне дня Стоўбцы былі вызвалены. У баі знішчана каля батальёна варожай пяхоты, захоплены бранепоезд, 2 чыгуначныя эшалоны, 36 зенітных гармат і 5 складоў з ваеннай маёмасцю. Больш за 300 салдат і афіцэраў трапіла ў палон. 3 ліпеня, падцягнуў-

шы падмацаванне, гітлераўцы неаднаразова спрабавалі захапіць горад. Раніцай 4 ліпеня варожая пяхота, узмоцненая танкамі і самаходнымі артылерыйскімі ўстаноўкамі, узнавіла атакі. Воіны 30-й кавалерыйскай дывізіі стрымлівалі націск, аднак у 2-й палавіне дня аказаліся ў акружэнні. На дапамогу ім былі накіраваны 34-ы кавалерыйскі полк 9-й гвардзейскай дывізіі, 2 гвардзейскія мінамётныя дывізіёны і знішчальна-супрацьтанкавы артылерыйскі полк з рэзерву корпуса. Пад канец дня 4.7.1944 г. праціўнік быў канчаткова адкінуты ад горада. У баях за Стоўбцы актыўную дапамогу воінам Чырвонай Арміі аказалі партызаны брыгады імя Г. К. Жукава, якія блакіравалі шляхі адступлення ворага праз Рудзьмянскую пушчу.

Партызанская брыгада імя Г. К. Жукава створана ў сакавіку 1943 г. на базе атрадаў «Камсамолец», імя М. А. Сарокіна, «Франтавікоў» і групы Д. П. Шаркевіча («Данілы»). Камандзіры С. С. Ключко (сакавік — жнівень 1943 г.), М. Ц. Маскалёў (жнівень — снежань 1943 г.), Р. Л. Васілевіч (студзень — ліпень 1944 г.); камісары В. С. Самусевіч (сакавік — ліпень 1943 г.), У. З. Царук (жнівень — верасень 1943 г.), А. З. Гайсараў (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.). Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Стаўбцоўскага і Мірскага раёнаў. Вясной і летам 1943 г. партызаны правялі 10 баёў, разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Ярэмічы Мірскага і Дудкі Стаўбцоўскага раёнаў, восенню падарвалі 3 эшалоны, 180 рэек на чыгуначных участках Мінск — Баранавічы, Ліда — Маладзечна, у лютым 1944 г.— 9 эшалонаў праціўніка, мост, пашкодзілі механічныя майстэрні ў дэпо станцыі Мінск, у сакавіку разам з брыгадай «Камсамолец» разграмілі варожы гарнізон у г. п. Мір. У чэрвені — ліпені 1944 г. разбурылі пераправу цераз р. Сула, у баях захапілі 5 аўтамашын, кулямёт, 100 вінтовак, абоз. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыгуначным участку Негарэлае — Коласава. 10.7.1944 г. брыгада (732 партызаны; атрады імя А. В. Суворава, імя М. М. Воранава, імя К. К. Ракасоўскага, «Мсцівец», «25 гадоў ВЛКСМ») злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.



2937. *Помнік У. І. Леніну.*

У 1975 г. у гонар вызвалення г. Стоўбцы пастаўлена стэла.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *У. У. Бянько.*

**2936. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (маст.). Пры ўездзе ў горад, на высокім адхоне аўтамабільнай дарогі Брэст — Мінск. Пастаўлены ў 1966 г. (скульпт. А. Анікейчык; бетон; вышыня 5,5 м). Арыгінальнасць кампазіцыйнага вырашэння помніка — у яго прасторавай трактоўцы. Гарызантальны, урэзаны ў адхон блок з'яўляецца арганічным працягам вертыкальнай кубічнай асновы бюста. Скульптурны партрэт Ф. Э. Дзяржынскага быццам высечаны з маналітнай глыбы. Уважлівы, скандэнтраваны позірк з-пад вострых дуг броваў, характэрныя лініі носа, барады і авала твару перададзены лаканічна. Строгая стрыманасць пластычных форм падкрэслівае валявую сабранасць, энергічнасць і цэласнасць натуры рыцара рэвалюцыі. Гл. таксама артыкул № 2975 «Мемарыяльны комплекс Дзяржынава». *Г. М. Ярмоленка.*

**2937. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, у сквеpы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1946 г.

**2938. ЦАРКВА ГАННЫ** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 1825 г. з цэглы. Абнесена бутавай агароджай з двух'ярусная брамай-званіцай.

Цэласны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Сцены расчлянёны пілястрамі дарычнага ордэра і прарэзаны паўцыркульнымі арачнымі вокнамі. Будынак апаясаны спрошчаным антаблементам. Галоўны фасад завершаны складаным двух'ярусным франтонам. Поле франтона ўпрыгожвае арачная ніша, якая дэкарыравана папарна згрупаванымі пілястрамі. Яркім дэкаратыўным элементам з'яўляецца кампазіцыя над



2938. *Царква Ганны. Фрагмент галоўнага фасада.*




2938. *Царква Ганны. План.*

цэнтральным уваходам, якая складаецца з паслядоўна ўпісаных геаметрычных фігур. Бакавыя вокны фасада абрамляюць простыя ліштвы з імітаванымі замковымі камянямі і імпастамі.

Інтэр'ер зальнага тыпу. Столь драўляная падшыўная з падугамі (у выглядзе люстранога скляпення). Сцены афармлены пілястрамі і завершаны паласой антаблемента. Над галоўным уваходам зроблены хоры, якія падтрымліваюцца чатырма драўлянымі калонкамі. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — іканастас сямічасткавай чатырох'яруснай кампазіцыі, расчлянёны канеліраванымі пілястрамі. Завяршаюць кампазіцыю 5 франтонаў з выгнутымі ў форме валют схіламі. Царскія вароты багата ўпрыгожаны разьбой.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму з рысамі барока.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Апечкі, Аталезскі сельсавет**

**2939. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, на ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Аталезь, цэнтр сельсавета**

**2940. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць Дома культуры. На ўшанаванне памяці 57 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**2941. ПОМНІК МАМАНТАВУ** Авакуму Уладзіміравічу (гіст.). У цэнтры вёскі, перад Домам культуры.

Упаўнаважаны Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ па Стаўбцоўскай зоне А. У. Мамантаў нарадзіўся ў 1920 г. у с. Жукава Мязенскага р-на Архангельскай вобл. Кандыдат у члены КПСС. У 1939 г. прызваны ў Чырвоную Армію, служыў у Мінску. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце. У жніўні 1943 г. Беларускім штабам партызанскага руху накіраваны ў тыл ворага. Кіраўнік Стаўбцоўскага міжрайцэнтра ЛКСМБ (2.10—19.12.1943 г.), сакратар Стаўбцоўскага падпольнага райкома ЛКСМБ (20.10.1943 г.—20.5.1944 г.), памочнік камісара партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава па камсамолу. У час варожай блакады смяротна параненны 19.5.1944 г. у баі каля в. Аталезь. Памёр 20.5.1944 г. Пахаваны ў брацкай магіле на хутары Рудзьма Карэліцкага р-на.

У 1975 г. пастаўлены помнік — пагрудны бюст А. У. Мамантава (скульпт. П. Белавусаў; бетон; вышыня бюста 1,3 м, пастамента 2,6 м).

*У. У. Бянько.*



2943. *Помнік на магіле А. М. Хромава і А. Ф. Мазурава і землякам.*

**хутар Васілеўшчына, Літвенскі сельсавет**

**2942. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, ва урочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная, памерам 55×35 м, вышыня над падножжам узгорка 4 м. Раней пляцоўка была абкружана валам, які ў нядаўні час быў знесены. Цяпер пляцоўка і схілы гарадзішча разворваюцца. Вядома з пачатку 20 ст., абследаваў у 1979 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце выяўлены фрагменты штрыхаванай керамікі, перапаленыя камяні, шлак. Датуецца першымі стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Вішнявец, цэнтр сельсавета**

**2943. МАГІЛА ХРОМАВА** Аляксея Мітрафанавіча **І МАЗУРАВА** Афанасія Фролавіча, **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Вул. Школьная. Пахаваны лейтэнант Чырвонай Арміі А. М. Хромаў, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г., а таксама старшыня сельскага Савета А. Ф. Мазураў, забіты ворагамі Савецкай улады 11.7.1948 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. А. Бачкароў; бетон, сілумін). На чатырох'ярусным стылабаце з газонамі і кветнікамі пастаўлены 2 бетонныя блокі, над якімі ўзнімаецца пілон (вышыня 13 м) з выявай жураўлінага кліну ў завершы. Побач з пілонам скульптурная група — юнак і дзяўчына, якія нібы праводзяць птушак у палёт. На франтальнай і бакавых плоскасцях блокаў — дошкі з імёнамі 57 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (ліцдё). На 2-х установленых справа ад пілона стылізаваных стэлах — прозвішчы А. М. Хромава і А. Ф. Мазурава.

*У. У. Бянько, А. М. Кулагін.*

**2944. ЦАРКВА ІААНА ПРАДЦЕЧЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 17 ст. з цэглы як уніяцкая. Перабудавана пад праваслаўную царкву ў 1850 г. Галоўны фасад значна зменены.

Будынак базілікальнага тыпу, амаль квадратны ў плане, з закругленай апсідай, арыентаванай па ўсход. Сцены звонку і ўнутры расчлянёны пілястрамі. Аконныя праёмы з раструбамі ўнутр. Галоўны фасад сіметрычнай



2944. *Царква Іаана Прадцечы.*




2944. *Царква Іаана Прадцечы. План.*

двух'яруснай кампазіцыі. Ярусы падзелены прафіляваным поясам, які з'яўляецца працягам карнізаў бакавых нефаў. Пластычнае ўбранне фасада сканцэнтравана ў верхнім ярусе: плоскія арачныя нішы і паўцыркульныя аконныя праёмы з прафіляванымі ліштвамі. Цэнтральная кампазіцыйная вось вылучана какошнікам. Па баках будынак увенчаны цыбулепадобнымі галоўкамі на высокіх цыліндрычных барабанах.

Унутраная прастора падзелена чатырма масіўнымі пілонамі на 3 нефы. Па баках алтарнай часткі ў аб'ёме бакавых нефаў вылучаны рызніцы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з распалубкамі, бакавыя нефы і рызніцы — сістэмай крыжовых скляпенняў. У процілеглай ад алтара частцы будынка вылучаны бабінец, дзе размешчаны хоры, звязаныя з асноўным памяшканнем вітымі лесвіцамі. Пластыка інтэр'ера захавалася ў першапачатковым выглядзе. Пілоны з боку цэнтральнага нефа апрацаваны пілястрамі і стылізаванымі іанічнымі капітэлямі. Глухая агароджа хораў увязана ў агульную кампазіцыю з цыліндрычнымі аб'ёмамі лесвіц. Лесвічныя шахты ўзвышаюцца да ўзроўню парапета хораў і абмежаваны агульным прафіляваным карнізам. Парапет у цэнтральнай частцы мае выгнутую паверхню.

Царква — помнік архітэктуры барока.
*У. В. Алісейчык.*

**в. Вялікі Двор, Варацішчанскі сельсавет**

**2945. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



2944. *Царква Іаана Прадцечы. Фрагмент інтэр'ера.*

**в. Вялікія Навікі, Рубяжэвіцкі сельсавет**

**2946. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 воінаў — жыхароў вёсак калгаса імя М. Ф. Гастэлы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Горкі, Варацішчанскі сельсавет**

**2947. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 11 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзераўная, Хатаўскі сельсавет**

**2948. КАЛЬВІНСКІ ЗБОР** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1590 г. з цэглы. У пачатку 17 ст. перабудаваны на Прачысценскі касцёл.




2948. *Кальвінскі збор. План.*

Храм аднавежавы, прамавугольны ў плане з пяціграннай алтарнай часткай і прыбудаванымі да яе з бакоў прамавугольнымі двухкамернымі сакрысціямі. Трох'ярусная вежа размешчана з паўночнага боку асноўнага аб'ёму. Ніжні ярус чатырохгранны, абмежаваны на ўзроўні карніза сцен асноўнага аб'ёму. Вуглы вежы ў ніжняй частцы ўмацаваны контрфорсамі. Верхнія ярусы — чатырохгранны і васьмігранны — стыкоўваюцца з шчытом высокага даху асноўнага аб'ёму. Грані апрацаваны плоскімі арачнымі



2948. *Кальвінскі збор. Інтэр'ер.*



2948. *Кальвінскі збор.*

нішамі. Вянчае вежу шацёр. Сцены асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі. Вокны паўцыркульныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен.

Будынак аднанефавы, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з распалубкамі над аконнымі праёмамі. Алтарная частка адкрываецца ў асноўнае памяшканне вялікім арачным праёмам. Бабінец і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У асноўным памяшканні над уваходам хоры, якія падтрымліваюцца чатырма калонкамі. На хоры вядуць дзве бакавыя лесвіцы, размешчаныя ў тоўшчы сцен. Пад вокнамі — плоскія арачныя нішы.

Кальвінскі збор — помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу.

*У. В. Алісейчык.*

**2949. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над трохсценнай апсідай. Галоўны фасад вылучаны драўляным чатырохкалонным порцікам, трохвугольны франтон якога завершаны невялікай васьміграннай шатровай вежай. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны ў верхняй частцы паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Столь плоская.

Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства.



2950. *Помнік землякам.*

**2950. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — 3 стэлы з барэльефнымі выявамі воіна, партызана і імёнамі загінуўшых.



2948. *Кальвінскі збор. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Дзяўгі, Літвенскі сельсавет**

**2951. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 15 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Жукаў Барок, Аталезскі сельсавет**

**2952. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2—0,7 км на захад і паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе Нёмана. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. Культурны пласт каля 0,4 м. Сабраны крамянёвыя наканечнік стралы, скрабок, 7 пласцінак (3 з рэтушшу), 2 нуклеусы, адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Залужжа, цэнтр сельсавета**

**2953. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 75 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Засулле, цэнтр сельсавета**

**2954. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 80 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заямнае, цэнтр сельсавета**

**2955. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 57 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**2956. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на поймавай дзюне правабярэжнай старыцы Нёмана, выцягнутай з паўднёвага ўсходу на паўночны захад на 350 м. Выявіў у 1977 г. А. М. Гутоўскі, абследаваў у 1981 г. М. М. Чарняўскі. На выдувах і ў агаленні культурнага пласта да 0,6 м сабраны крамянёвыя лапцэтападобныя вастрыі, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажы, праколкі, сякеры, нуклеусы, мікраліты, кераміка бронзавага веку. Стаянка функцыяніравала ад мезаліту да позняга бронзавага веку (8—1-е тысячагоддзі да н. э.).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).
*М. М. Чарняўскі.*

**в. Зуберава, Шашкоўскі сельсавет**

**2957. ПОМНІК У ГОНАР СТАЎБЦОЎСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ** (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля лесу. У Рудзьмянскай пушчы, паблізу вёсак Антанёва, Рудзьма, Чорная ў Вялікую Айчынную вайну размяшчаліся Стаўбцоўскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Стаўбцоўскі падпольны райком КП(б)Б створаны 15.10.1943 г. Баранавіцкім падпольным абкомам КП(б)Б. Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе «Камсамолец». Сакратары райкома: У. З. Царук (15.10.1943 г.— 6.7.1944 г.; з 29.12.1943 г. першы сакратар) і А. З. Гайсараў (29.12.1943 г.— 6.7.1944 г.; другі сакратар). Узначальваў падпольную і партызанскую барацьбу насельніцтва супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ва ўсіх партызанскіх атрадах, якія дзейнічалі на тэрыторыі раёна, былі створаны пярвічныя партыйныя арганізацыі. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Голас селяніна». Першаму сакратару Стаўбцоўскага падпольнага райкома КП(б)Б, камандзіру партызанскага злучэння Стаўбцоўскай зоны У. З. Царуку 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Стаўбцоўскі падпольны райком ЛКСМБ прыступіў да работы 20.10. 1943 г. Базіраваўся ў партызанскай брыгадзе імя Г. К. Жукава. Сакратары А. У. Мамантаў (20.10.1943 г.— 20.5.1944 г.), Ф. Ф. Шамшын (1.6—5.7. 1944 г.); сакратары па прапагандзе Л. В. Новікаў (да 15.1.1944 г.), П. В. Кірылаў (з 15.1.1944 г.).

У 1974 г. у гонар падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ устаноўлена стэла.



2957. *Помнік у гонар Стаўбцоўскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ.*

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.
*У. У. Бянько.*

**в. Канкаловічы, Заямненскі сельсавет**

**2958. СТАЯНКА** (археал.). За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, на заходнім краі пясчанага берага, каля правабярэжнай поймы Нёмана. Памер 140×30 м. Даследаваў у 1981 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 44 м² плошчы. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзены лістападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажы, мікраліты, фрагменты позненеалітычнай керамікі. Большасць крамянёвага інвентару адносіцца да эпохі мезаліту і датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).
*М. М. Чарняўскі.*

**в. Кляцішча, Налібоцкі сельсавет**

**2959. ПОМНІК У ГОНАР БАРАНАВІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну ў Налібоцкай пушчы, паблізу вёскі, базіраваўся Баранавіцкі падпольны абком КП(б)Б.

Створаны паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 19.3.1943 г. з мэтай узмацнення партыйнага кіраўніцтва партызанскай і падпольнай барацьбой на акупіраванай тэрыторыі Баранавіцкай вобл. Пачаў дзейнічаць у канцы сакавіка 1943 г. Сакратары В. Я. Чарнышоў (19.3.1943 г.— ліпень 1944 г.), Ф. А. Баранаў (10.8.1943 г.— ліпень 1944 г.). Члены абкома Дз. М. Армянінаў і У. З. Царук (з 8.7.1943 г.), Я. Д. Гапееў, Р. А. Сідарок і С. П. Шупеня (з 19.3.1943 г.). Падпольны абком КП(б)Б узначальваў падпольныя Іўеўскі, Лідскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі і Шчучынскі міжрайпартцэнтры, Быценскі міжрайком, Баранавіцкі гарком, Лідскі гарком-райком, а таксама 23 райкомы КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 145 пярвічных партыйных арганізацый, 2232 камуністаў у партызанскіх фарміраваннях. Накіроўваў і каардынаваў дзейнасць Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, Баранавіцкай акруговай антыфашысцкай арганізацыі, партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл., выпускаў лістоўкі, адозвы, распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, вёў шырокую арганізатарскую і палітыка-масавую работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган — газета «Чырвоная звязда» (рэдактары Р. А. Старавойценка, з 14.2. 1944 г. Г. В. Будай). Дзейнічаў да вызвалення вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (ліпень 1944 г.). Сакратару падпольнага абкома КП(б)Б, камандзіру партызанскага злучэння Баранавіцкай вобл. В. Я. Чарнышову 1.1.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1981 г. у гонар Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975.
*У. У. Бянько.*

**в. Кнотаўшчына, Мікалаеўшчынскі сельсавет**

**2960. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 76 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Коласава, Слабадскі сельсавет**

**2961. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля стадыёна. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кругліца, Аталезскі сельсавет**

**2962. СТАЯНКА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАНЫ** (археал.).
**2962а.** Стаянка. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе Нёмана, у лесе, ва ўрочышчы Лысая Гара. Даследаваў у 1962, 1964, 1965 гг. М. М. Чарняўскі. Знойдзены

камепныя сякеры, крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, праколкі, нажы, абломкі ляпных вастрадонных пасудзін, упрыгожаных пераважна накольчатым і грабеньчатым арнаментам. Большасць матэрыялаў адносіцца да нёманскай неалітычнай культуры і датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э. Выяўлены нешматлікія матэрыялы культуры шнуравой керамікі (пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.) і пахаванне сярэднебронзавага часу з пласкадонным гаршком, аздобленым ружанцавым арнаментам (сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

**2962б.** Курганны могільнік-1. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Заямнае, каля правага берага Нёмана. 2 насыпы вышынёй 1 і 0,6 м, дыяметрам 7 і 6 м. Раскопкі не праводзіліся.

**2962в.** Курганны могільнік-2. За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Жукаў Барок, у лесе. 9 насыпаў: найбольшыя вышынёй да 1,4 м, дыяметрам да 9 м, найменшыя вышынёй 0,4 м, дыяметрам 6 м. Каля самай дарогі пашкоджаны прыдарожнымі равамі. Раскопкі не праводзіліся.

**2962г.** Курган-1. За 0,2 км на захад ад курганнага могільніка-2, непадалёку ад краю лесу. Вышыня каля 1,8 м, дыяметр 12 м.

**2962д.** Курган-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Заямнае, у лесе. Вышыня насыпу 1,5 м, дыяметр 10 м.

Могільнікі і курганы выявіў у 1951 г. У. С. Астапаў, абследаваў у 1981 г. М. М. Чарняўскі.

*Літ.:* Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979.

*М. М. Чарняўскі.*




**2962а.** *Крамянёвыя нажы і гліняны гаршчок з раскопак стаянкі.*




**2962а.** *Крамянёвыя прылады працы з раскопак стаянкі.*



**2966.** *Леснічоўка Альбуць.*

**в. Куль, Цясноўскі сельсавет**

**2963. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 22 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Любкаўшчына, Мікалаеўшчынскі сельсавет**

**2964. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мархачоўшчына, Навасвержанскі сельсавет**

**2965. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса «Краіна Саветаў». На ўшанаванне памяці 67 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мікалаеўшчына, цэнтр сельсавета**

**2966. КОЛАСАЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЗАКАЗНІК** (гіст.). Заснаваны паводле пастановы СМ БССР ад 22.9.1972 г., каб захаваць прыродны комплекс мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю народнага паэта БССР Я. Коласа. Агульная пл. 269 га. Уключае тэрыторыю, прылеглую да мемарыяльных сядзіб Ласток (Сухошчына, 47 га), Альбуць (89 га), Смольня (каля в. Мікалаеўшчына, 113 га), урочышча Бервянец (Дубы; 20 га).



**2966.** *Будынак філіяла Літаратурнага музея Я. Коласа.*



2966. *Помнік Я. Коласу.*

Ласток. Тут прайшлі дзіцячыя гады Я. Коласа. На доме, дзе ў 1885—90 гг. жыла сям'я Міцкевічаў, у 1961 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

Альбуць. Будучы пісьменнік жыў тут у 1890—1902 гг., вучыўся ў так званых «дарэктараў» А. Фурсевіча і Я. Міцкевіча. Апаэтызаваў у паэме «Новая зямля» пад назвай Парэчча. Будынкі сядзібы адноўлены. У 1961 г. на жылым доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Смольня. Ускраіна вёскі Мікалаеўшчына. Сям'я Міцкевічаў жыла тут з верасня 1910 г. У 1911—14 гг. Я. Колас не раз прыязджаў сюды з Вільні і Пінска, бываў у 1940 г., 1947—56 гг. Летам 1912 г. у Смольні Я. Колас упершыню сустрэўся з Я. Купалам. На сядзібе растуць ліпы, пасаджаныя Я. Коласам у 1911 г. Тут створаны мемарыяльны комплекс (уключаны ў філіял Літаратурнага музея Я. Коласа). Недалёка ад сядзібы на могілках Церабяжы пахаваны бацькі Я. Коласа, яго дзядзька Антось.



2966. *Леснічоўка Смольня.*

Бервянец. Маляўнічая мясціна, апісаная Я. Коласам у шматлікіх творах. Тут праводзяцца коласаўскія святы.

Помнік Коласу Якубу. Каля будынка выканкома сельсавета. Пастаўлены ў 1972 г. (скульпт. А. Глебаў; пастамент — бетон, абліцаваны лабрадарытам, вышыня 3,6 м; бюст — бронза, вышыня 1,1 м). Бюст пастаўлены на прамавугольны пастамент. У рысах твару падкрэслены ўласцівыя паэту дабрыня, дасціпнасць, задушэўнасць. Прасторавая кампазіцыя помніка вельмі кампактная, вакол яго разбіты невялікі сквер.

**2967. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Нёман. Большая частка паселішча размыта ракой. Выявіў і абследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены расшчэпленыя крамяні і кераміка, характэрныя для ранняга этапа нёманскай культуры. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2968. РАДЗІМА СЯНКЕВІЧА** Аляксандра Антонавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР А. А. Сянкевіч нарадзіўся 20.1.1884 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. У 1902 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, працаваў у сельскіх школах. Удзельнічаў у рэвалюцыйным руху па Беларусі ў 1905—06 гг. Адзін з арганізатараў у 1906 г. нелегальнага настаўніцкага з'езда Мінскай губерні. З 1907 г. у эміграцыі ў ЗША, член (1907—12 гг.) Сацыялістычнай партыі ЗША. Вёў рэвалюцыйную работу сярод эмігрантаў. У 1913 г. скончыў медыцынскі факультэт Мэрылендскага універсітэта (ЗША), займаўся медыцынскай практыкай. З 1917 г. на Далёкім Усходзе; удзельнік партызанскага руху (загадчык цэнтральнага партызанскага шпіталя). Потым намеснік міністра народнай асветы Далёкаўсходняй Рэспублікі. З 1921 г.— нарком аховы здароўя БССР, з 1923 г.— на партыйнай рабоце ў Мінску, Барысаве і Віцебску. У 1924—26 гг.— загадчык беларускага сектара Камуністычнага універсітэта нацыянальных меншасцей Захаду імя Ю. Мархлеўскага (Масква). З 1926 г.— дацэнт БДУ, з 1928 г.— рэктар Камуністычнага універсітэта Беларусі імя У. І. Леніна. З 1932 г. у Маскве. Член ЦК КП(б)Б у 1927—32 гг., кандыдат у члены Бюро з 1928 г. і член Бюро ЦК КП(б)Б у 1930—31 гг. Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1922—24 гг., член ЦВК БССР у 1921—22 гг., 1927—31 гг. Прататып Сташынскага ў рамане А. А. Фадзеева «Разгром», Садовіча ў рамане Я. Коласа «На ростанях», Баса-Грэнкі ў п'есе Я. Коласа «Забастоўшчыкі». Памёр А. А. Сянкевіч 11.4.1939 г. Імем яго названы вуліцы ў Стоўбцах і ў в. Мікалаеўшчына.

*У. У. Бянько.*

**в. Налібакі, цэнтр сельсавета**

**2969. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 16 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ніўнае, Хатаўскі сельсавет**

**2970. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 4 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Новы Свержань, цэнтр сельсавета**

**2971. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Замак, Замак Чартарыйскага. Насупраць вёскі, на правым беразе Нёмана, на ўзвышшы. Побач знаходзіцца насып даўняй дарогі (так званы «екацярынінскі тракт»). Вядома з 2-й паловы 19 ст., абследаваў у 1983 г. В. У. Шаблюк. У насыпе дарогі знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі, тэракотавай і паліванай кафлі, цэгла-пальчатка. Датуецца 16 ст. Відаць, тут знаходзілася сядзіба феадала. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... [Минский уезд].— Мн., 1878.

*В. У. Шаблюк.*

**2972. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны

ў сярэдзіне 16 ст. з цэглы як кальвінскі збор (з 1588 г. касцёл).

Будынак аднавежавы, прамавугольны ў плане, з невялікім трансептам і паўкруглай апсідай. Галоўным, паўночным фасадам павернуты на плошчу. Вежа прыбудавана з паўночнага боку асноўнага аб'ёму і мае трох'ярусную кампазіцыю. Вуглы ніжняга яруса ўмацаваны контрфорсамі. Грані верхніх ярусаў апрацаваны плоскімі арачнымі нішамі. У другім ярусе нішы фланкіраваны пілястрамі. У цэнтральных нішах кожнай грані прарэзаны паўцыркульныя праёмы. Вокны паўцыркульныя. Вежа накрыта чатырохгранным шатром з кароткім шпілем. Інтэр'ер зальнага тыпу. У ніжнім ярусе вежы вылучаны бабінец з размешчанымі над ім хорамі, якія адкрываюцца ў асноўнае памяшканне невялікім арачным праёмам. Лесвіца на хоры размешчана ў тоўшчы заходняй сцяны. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. У бабінцы скляпенне апрацавана дэкаратыўнымі нервюрамі.

Касцёл — помнік архітэктуры рэнесансу. *У. В. Алісейчык.*

**2973. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Заснавана ў 1950 г. Спачатку была драўлянай. Сучасны мураваны будынак узведзены ў пачатку 17 ст.

Храм аднавежавы, складаецца з прамавугольных у плане асноўнага і алтарнага аб'ёмаў. Па баках апошняга прыбудаваны рызніцы. Над бабінцам надбудавана квадратная ў плане вежа. Грані яе апрацаваны плоскімі арачнымі нішамі, якія імітуюць вокны. Вянчае вежу фігурная барочная галоўка. Сцены царквы ў верхняй частцы члянёны паўцыркульнымі вокнамі з раструбамі ў абодва бакі. Адзіным дэкаратыўным элементам фасаду з'яўляецца партал бакавога заходняга ўваходу. Інтэр'ер зальнага тыпу. У паўночнай частцы асноўнага аб'ёму вылучаны бабінец з двума бакавымі ўваходамі. Хоры падтрымліваюцца дзвюма драўлянымі калонкамі. Перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі барока. *У. В. Алісейчык.*




2973. *Царква Ушэсця. План.*

**в.Ператокі,**
**Навасвержанскі сельсавет**

**2974. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 65 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пятрылавічы,**
**Цяснoўскі сельсавет**

**2975. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ДЗЯРЖЫНАВА** (гіст., маст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на месцы былога маёнтка Дзяржынава, адкрыты ў 1972.

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з кіраўнікоў польскага і расійскага рэвалюцыйнага руху Ф. Э. Дзяржынскі (партыйныя псеўданімы Яцак, Франак, Пераплётчык, Астраном, Юзаф, Эдмунд) нарадзіўся 30.8.1877 г. у былым маёнтку Дзяржынава ў сям'і дробнапамеснага шляхціца. Член КПСС з 1895 г. У 1887 г. паступіў у Віленскую гімназію, дзе пачаў вывучаць марксісцкую літаратуру, у тым ліку працу



2972. *Петрапаўлаўскі касцёл. Выгляд з боку апсіды.*




2972. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*



2973. *Царква Ушэсця.*

У. І. Леніна «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваюоць супраць сацыял-дэмакратаў?». У 1895 г. уступіў у літоўскую сацыял-дэмакратычную партыю, прымкнуў да яе левага крыла, кіраваў палітычнымі гурткамі рамесных і фабрычных вучняў. У 1896 г. пакінуў гімназію і стаў прафесійным рэвалюцыянерам. У 1897 г. у Каўнасе (Коўна) вёў рэвалюцыйную прапаганду, кіраваў стачкамі, выдаваў і распаўсюджваў нелегальную газету «Ковенскі рабочы» (на польскай мове). У ліпені 1897 г. арыштаваны і ў жніўні 1898 г. сасланы на 3 гады ў Вяцкую губерню. У жніўні 1899 г. уцёк з ссылкі. У Варшаве ўдзельнічаў у аднаўленні разгромленай паліцыяй сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. У студзені 1900 г. зноў арыштаваны, праз 2 гады сасланы ў Сібір, але хутка ўцёк, вёў рэвалюцыйную работу ў Варшаве. У ліпені 1903 г. у Берліне на 4-м з'ездзе сацыял-дэмакратыі Каралеўства польскага і Літвы быў выбраны членам Галоўнага праўлення.



**2975.** *Мемарыяльны комплекс Дзяржынава. Агульны выгляд.*

Ф. Э. Дзяржынскі актыўна ўдзельнічаў у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Узначальваў грандыёзную першамайскую дэманстрацыю ў Варшаве ў 1905 г., працаваў у Варшаўскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП. У ліпені 1905 г. на Варшаўскай партыйнай канферэнцыі арыштаваны, у кастрычніку вызвалены па амністыі. У 1906 г. дэлегат IV (Аб'яднаўчага) з'езда РСДРП, на якім упершыню сустрэўся з У. І. Леніным. Вёў партыйную работу ў Пецярбургу, Варшаве. У снежні 1906 г. арыштаваны. У Варшаўскай турме напісаў «Дзённік зняволенага. Пісьмы» (упершыню надрукаваны ў 1909—10 гг.). На V з'ездзе РСДРП (1907 г.) выбраны завочна ў ЦК партыі. У маі 1907 г. вызвалены з турмы пад грашовы залог, у красавіку 1908 г. зноў арыштаваны і высланы на вечнае пасяленне ў Сібір. У канцы 1909 г. Ф. Э. Дзяржынскі ўцёк за мяжу (Берлін). Адсюль у 1910 г. пасланы партыяй на лячэнне па востраў Капры. У 1910—12 гг. працаваў у партыйных арганізацыях Варшавы, Чэнстахова, Дамброўскага раёна. У 1911 г. удзельнічаў у скліканай Леніным у Парыжы нарадзе членаў ЦК РСДРП, якія жылі за мяжой. У 1912 г. арыштаваны ў Варшаве і ў 1914 г. асуджаны на 3 гады катаргі; у 1916 г. зноў асуджаны на 6 год катаргі. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. вызваліла Ф. Э. Дзяржынскага з Бутырскай турмы ў Маскве.

Ф. Э. Дзяржынскі быў дэлегатам VI з'езда РСДРП(б) (1917 г.), на якім выбраны членам ЦК. Актыўны ўдзельнік падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З'яўляўся членам Петраградскага ВРК і Ваенна-рэвалюцыйнага партыйнага цэнтра па кіраўніцтву ўзброеным паўстаннем. Дэлегат II Усерасійскага з'езда Саветаў, на якім выбраны членам ВЦВК і яго Прэзідыума. Па прапанове У. І. Леніна Саўнарком 7(20).12.1917 г. зацвер-



**2973.** *Царква Ушэсця. Выгляд з боку апсіды.*



**2975.** *Мемарыяльны комплекс Дзяржынава. Калодзежны зруб.*



2975. *Мемарыяльны комплекс Дзяржынава. Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*

дзіў Ф. Э. Дзяржынскага першым старшынёй Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі (ВЧК).

Пасля нападу буржуазнай Польшчы на Савецкую Расію ў маі 1920 г. Дзяржынскі прызначаны начальнікам тылу Паўднёва-Заходняга фронту. З 27.1. 1921 г. старшыня Камісіі па паляпшэнню жыцця дзяцей пры ВЦВК. З 14.4. 1921 г. нарком шляхоў зносін, адначасова старшыня ВЧК і нарком унутраных спраў. З 2.2.1924 г. старшыня ВСНГ СССР і адначасова старшыня Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення пры СНК СССР. У савецкі час член ЦК з 1918 г., кандыдат у члены Аргбюро з 1920 г., кандыдат у члены Палітбюро ЦК ВКП(б) з 1924 г., член ЦВК СССР у 1922—26 гг. і ВЦВК у 1917—26 гг. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

20.7.1926 г. на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) Ф. Э. Дзяржынскі сказаў сваю апошнюю прамову, у гэты ж дзень памёр. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы. Яго імем названы гарады і пасёлкі, калгасы і саўгасы, вуліцы і плошчы, яму пастаўлены помнікі ў многіх гарадах.

У цэнтры мемарыяла на высокім прамавугольным пастаменце з чырвонага граніту — бронзавы бюст Ф. Э. Дзяржынскага (скульпт. С. Вакар, арх. Ю. Казакоў). Да яго вядзе выкладзеная цэментнымі плітамі дарожка, з левага боку якой размешчаны 49 камянёў. Яны сімвалізуюць 49 гадоў, пражытых палымяным рэвалюцыянерам. Ад самага вялікага каменя сцяжынка вядзе да месца, дзе некалі стаяў дом Дзяржынскіх (спалены ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі). Тут устаноўлены мемарыяльны знак. Пасярод двара калодзежны зруб, рэшткі склепа.

З 1977 г. тут працуе філіял Івянецкага музея Ф. Э. Дзяржынскага.

*Літ.:* Софинов П. Г. Страницы из жизни Ф. Э. Дзержинского.— М., 1956; Зубов Н., Ф. Э. Дзержинский: Биография.— 3 изд.—М., 1971; Рыцарь революции: Воспоминания современников о Ф. Э. Дзержинском.— М., 1967; Хацкевич А. Ф. Солдат великих боёв: Жизнь и деятельность Ф. Э. Дзержинского.— 4 изд.— Мн., 1982; Усадьба Дзержиново: Беседа у фотоэкспозиции.— Мн., 1983.

*Г. М. Новікава.*

**в. Рочавічы, Літвенскі сельсавет**

**2976. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рубяжэвічы, цэнтр сельсавета**

**2977. ІОСІФАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 1911 г. з каменю.

Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, накрытага высокім двухсхільным дахам, з усходняга боку прылягаюць больш нізкія васьмігранная апсіда і сіметрычныя сакрысціі пад вальмавымі дахамі. Па баках галоўнага фасада ўзвышаюцца магутныя вежы, умацаваныя на вуглах ступеньчатымі контрфорсамі і завершаныя востраканечнымі шатрамі. Тарэц нефа паміж вежамі аздоблены ступеньчатым шчытом і круглым акном-ружай з каляровым вітражом. Астатнія праёмы стральчатага абрысу.



2977. *Іосіфаўскі касцёл. Бакавы фасад.*

Унутраная прастора асноўнага аб'ёму падзелена васьміграннымі слупамі на 3 нефы, сярэдні вышэй і шырэй за бакавыя. Скляпенні крыжовыя з нервюрамі.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

*Т. В. Габрусь.*

**2978. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 39 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Русаковічы, Мікалаеўшчынскі сельсавет**

**2979. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**2979а.** Паселішча-1. За 1 км на захад ад вёскі, у левабярэжнай пойме Нёмана, на пясчаным узгорку вышынёй над поймай каля 4 м. З поўначы на поўдзень выцягнуты на 90 м, з захаду на ўсход — на 80 м. Раней ён разворваўся, цяпер задзірванелы. Адкрыў і даследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі на плошчы 204 м². У культурным пласце каля 0,4 м знойдзены прылады працы і фрагменты керамікі, якія характарызуюць дубічайскі этап нёманскай культуры. Сярод крамянёвых вырабаў — скрабкі на адшчэпах і пласцінах, трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, вастрыё, сякера, камбінаваныя прылады, аднапляцовачныя ядрышчы. Фрагменты рыхлых вастрадонных гаршкоў арнаментаваны пераважна грабеньчатымі ўзорамі. На паселішчы трапляюцца знаходкі сярэднебронзавага часу. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**2979б.** Паселішча-4. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, за кар'ерам і далей на 200 м уздоўж краю 7—8-метровай надпоймавай тэрасы р. Нёман. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце 0,3—0,4 м і на паверхні на плошчы памерам 40×200 м знойдзены крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, правільныя аграненыя пласцінкі, адшчэпы, скрабкі, абломкі рэтушаваных вырабаў. Адносіцца да эпохі мезаліту.

**2979в.** Паселішча-7. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, у левабярэжнай пойме Нёмана, на пясчаным узгорку вышынёй 2 м, ва ўрочышчы «У дубах».



2979в. *Паселішча-7.*

Адкрыў у 1975 г. і даследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 120 м² плошчы. Культурны пласт да 0,6 м. Крамянёвыя прылады — скрабкі і скоблі, разцы, адшчэпы і пласцінкі з рэтушшу, праколкі, загатоўкі для сякер вырабляліся з цёмна-шэрага матэрыялу, характэрнага для вярхоўяў Нёмана. Неалітычная кераміка падзяляецца на 3 тыпы: абломкі гаршкоў дубічайскага тыпу, па характару і арнаментацыі падобныя да ранненеалітычных знаходак з паселішча-1; кераміка лысагорскага тыпу, арнаментаваная наколамі канцом палачкі, прагладжанымі лініямі, насечкамі, адбіткамі грэбеня; гаршкі познанеалітычнага (дабраборскага) тыпу з гарызантальнай заштрыхоўкай, арнаментаваныя «семечкавымі» ўзорамі і адбіткамі кароткага грэбеня. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**2979г.** Паселішча-8. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на плоскай дзюне левабярэжжа Нёмана. Памер 80×90 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,4 м. Сабраны фрагменты керамікі з раслліннымі дамешкамі ў гліне і крамянёвыя рэтушаваныя пласцінкі і адшчэпы, скрабкі, праколкі, нуклеусы. Адносіцца да ранняга этапу нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**2979д.** Паселішча-9. Мясцовая назва Высокі Груд. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на дзюне правабярэжнай поймы Нёмана. Выцягнута з поўначы на поўдзень больш як на 0,2 км. Адкрыў і даследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. У паўднёва-ўсходняй частцы закладзены раскоп плошчай 160 м². Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлена шмат ям, большасць з якіх адносіцца да бронзавага веку. Сярод крамянёвых прылад працы скрабкі, пласцінкі з крутой рэтушшу, разцы, трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дроцікаў, вастрыё яніслаўіцкага тыпу, рэжучыя і рубячыя прылады, невялікія і кароткія ядрышчы. Неалітычная кераміка нёманскай культуры дубічайскага тыпу падобная да знаходак з паселішча-1. Сярод яе арнаментаў ёсць узоры з грабеньчатых адбіткаў, наколаў канцом нахіленай палачкі, адбіткаў размачаленай палачкі, сеткаватыя з тонкіх пракрэсленых рысак. Для керамікі лысагорскага тыпу характэрны арнаменты з ямкавых паглыбленняў, наколаў, слядоў тарцоў лапаткі. Кераміка дабраборскага тыпу была арнаментавана насечкамі, вузкім лінейным штампам, пракрэсленымі і тэкстыльнымі ўзорамі. Кераміка бронзавага веку арнаментавана пераважна адбіткамі шнура, тарца лапаткі, баразёнкамі. Датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979.
*М. М. Чарняўскі.*




2979д. *Фрагменты глінянага гаршка і крамянёвы наканечнік з раскопу паселішча-9.*




2979д. *Фрагменты глінянага гаршка і крамянёвы скрабок з раскопу паселішча-9.*

**в. Сверынава, Мікалаеўшчынскі сельсавет**

**2980. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).
**2980а.** Паселішча-1. За 0,4 км на поўдзень ад вёскі, на дзюне дыяметрам каля 60 м, пасярод правабярэжнай поймы Нёмана. Вышыня над поймай да 1,5 м. Выявіў у 1965 г. і даследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 176 м² плошчы. Культурны пласт 0,3—0,6 м. Знойдзены агнішча, выкладзенае невялікімі камянямі, крамянёвыя скрабкі, скоблі, скрэблы, разцы, наканечнікі стрэл, нажы. Фрагменты гаршкоў упрыгожаны грабеньчатымі адбіткамі, прагладжанымі і пракрэсленымі лініямі, «капыткамі», трохвугольнымі і ямкавымі наколамі, насечкамі, адбіткамі канцом лапаткі, «семечкамі» і інш. Некаторыя фрагменты маюць раслінныя дамешкі ў гліне. Адносіцца да нёманскай культуры. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**2980б.** Паселішча-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сосны, на паўночна-заходнім краі дзюнападобнага ўзвышэння правага берага Нёмана. Выявіў у 1975 г. і даследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 48 м² плошчы. Знойдзены пераважна кераміка і крамянёвыя вырабы ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**2980в.** Паселішча-3. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. На валападобным пясчаным узвышэнні надпоймавай тэрасы, часткова пашкоджана кар'ерам. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,6 м у ніжняй частцы знойдзены матэрыялы нёманскай культуры: фрагменты ляпных гаршкоў, арнаментаваных наколамі і насечкамі, крамянёвыя разцы, скрабкі, рэтушаваныя пласцінкі і адшчэпы і інш. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979.
*М. М. Чарняўскі.*

**в. Слабодка, Цясноўскі сельсавет**

**2981. КУРГАНЫ** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі на хутар Барок. Курган вышынёй 0,6 м, дыяметрам 4 м. За 60 м на паўднёвы захад ад яго каля развілкі дарог яшчэ адзін насып дыяметрам 7, вышынёй 0,6 м. Выявіў і абследаваў у 1951 г. У. С. Астапаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Стары Свержань, Навасвержанскі сельсавет**

**2982. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў апошняй трэці 18 ст. з дрэва.

Будынак прамавугольны ў плане, з пяцігранный алтарнай прыбудовай з усходняга боку і двух'ярусная званіцай з заходняга. Завяршэнне званіцы не захавалася. Да алтарнага аб'ёму прымыкаюць 2 прыбудовы. Асноўны і алтарны зрубы падведзены пад агульны высокі дах, які плаўна агінае ўступы аб'ёмаў, навісае над бакавымі прыбудовамі. Сцены царквы гарызантальна ашаляваны і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен. Інтэр'ер зальнага тыпу. Столь плоская. У аб'ёме ніжняга яруса званіцы вылучаны бабінец з хорамі над уваходам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*




2982. *Царква Раства багародзіцы. План.*

**в. Старына, Шашкоўскі сельсавет**

**2983. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Селішча. Захаваліся 2 насыпы дыяметрам 6 і 8 м, вы-

шынёй 0,8 і 1,2 м. Кругавыя раўкі прасочваюцца слаба. Абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**2984. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 9 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сула, Літвенскі сельсавет**

**2985. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на левым беразе р. Сула. Пляцоўка дыяметрам да 80 м абкружана ровам глыбінёй 1—1,5 м і з усходняга боку слаба прыкметным валам. З паўднёва-ўсходняга боку праз роў зроблена насыпка — уваход. Вядома з 19 ст. Абследаваў у 1979 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены фрагменты штрыхаванай керамікі. Датуецца першымі стагоддзямі н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.

**в. Тонава, Рубяжэвіцкі сельсавет**

**2986. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 13 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шахноўшчына, Мікалаеўшчынскі сельсавет**

**2987. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 0,2 км на паўночны ўсход ад ускраіны вёскі, на левым беразе р. Нёман. Захаваліся 2 апоўзлыя насыпы вышынёй 0,8 і 1,2 м, дыяметрам 17 і 20 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шашкі, цэнтр сельсавета**

**2988. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 53 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Яблынаўка, цэнтр Слабадскога сельсавета**

**2989. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 42 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

# УЗДЗЕНСКІ РАЁН







Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## XXXIV. УЗДА

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Уздзянка (прыток Усы). За 22 км на поўдзень ад чыгуначнай станцыі Негарэлае па лініі Мінск — Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Негарэлым, Нясвіжам, Капылём і з аўтамабільнай дарогай Мінск — Слуцк.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1494 г. як вёска ў Мінскім павеце Вялікага княства Літоўскага. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні. Належала Кавячынскім, Завішам. Ёсць звесткі, што ў Уздзе ў 1572 г. быў С. Будны ў сувязі з выданнем Біблії. У 1829—30 гг. тут працавала друкарня І. Прэса. У Айчынную вайну 1812 г. у Уздзенскай воласці адбыліся антыпрыгонніцкія выступленні сялян, накіраваныя адначасова і супраць захопнікаў. У 1-й палове 19 ст. генерал рускіх войск К. Завіша паставіў у Уздзе драўляны касцёл, які захаваўся да нашага часу. У сярэдзіне 19 ст. пабудавана мураваная царква. У канцы 19 ст. Узда належала Красінскім. Паводле перапісу 1897 г., у мястэчку 2,8 тыс. жыхароў. Былі піваварны завод, млын, гарбарні, пачатковае вучылішча, школа, аптэка, пошта. Жыхары займаліся дробным гандлем, нарыхтоўкай лесу.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. Узда акупіравана германскімі, у жніўні 1919 г.— ліпені 1920 г.— польскімі войскамі. З ліпеня 1924 г. цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 3,5 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну з 28.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (7.4. 1943 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (19.4. 1943 г.— 2.7.1944 г.). З ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. у раёне дзейнічала камуністычнае падполле. Да снежня 1942 г. яго ўзначальваў падпольны партком: сакратар С. П. Шыбко, члены Л. Р. Бальшоў, А. Ф. Рабы, М. Дз. Тоўсты, П. Х. Шыбко. Падпольныя групы былі створаны ў г. п. Узда, вёсках Бярвішчы, Возера, Магільна (цяпер Нёман), Цялякава і інш. Дзейнасць падполля пашыралася таксама на Дабрынёўскі сельсавет Дзяржынскага раёна. У жніўні 1941 г. партком праз Л. Р. Бальшова наладзіў сувязь з Мінскім камуністычным падполлем. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і савецкія газеты, дапамагалі наладзіць работу партызанскіх друкарняў, зрывалі мерапрыемствы ворага па вывазу насельніцтва на прымусовыя работы ў Германію. Выраблялі халодную зброю для перадачы ваеннапалонным, якія рыхтаваліся ўцячы з канцэнтрацыйных лагераў Мінска, паладзілі лячэнне параненых савецкіх воінаў у уздзенскай бальніцы і падпольным шпіталі ў вёсцы Данілавічы Дзяржынскага раёна. Разам з мінскімі падпольшчыкамі стварылі партызанскі атрад, які ў 1942 г. правёў Александроўскі бой супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў (у ліпені 1942 г. перафарміраваны ў партызанскую брыгаду М. М. Нікіціна). Здабывалі для партызан зброю, медыкаменты, вялі разведку ў варожых гарнізонах, на чыгуначных станцыях, узарвалі будынак жандармерыі ў Уздзе. Выдавалася газета «За Савецкую Радзіму» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. Узда ў складзе Дзяржынскага рёна.

Генеральны план забудовы пасёлка складзены ў 1970 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. У аснову архітэктурна-планіровачнага вырашэння пакладзена прамавугольная сетка вуліц. Асноўная забудова пасёлка, у тым ліку цэнтр, знаходзіцца на левым беразе ракі. Грамадска-гандлёвы цэнтр фарміруюць вул. Ленінская з плошчамі Свабоды і Чырвонай, вуліцы К. Маркса і Школьная. У цэнтральнай частцы знаходзяцца Дом культуры, школа, універмаг, камбінат бытавога абслу-




**XXXIV.** *Забудова плошчы Свабоды.*



**XXXIV.** *Жылыя дамы па вуліцы Савецкай.*

гоўваппя, паліклініка. На поўначы пасёлка ў раёне вул. Савецкай будуецца новы цэнтр. Тут узведзены Дом Саветаў, сталовая-рэстаран, некалькі шматпавярховых жылых дамоў. Жылая зона развіваецца ў паўночным напрамку і складаецца з трох раёнаў: на левым беразе р. Уздзянка — індывідуальныя аднапавярховыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі і паўночны раён, які забудоўваецца 3—5-павярховымі дамамі, на правым — Малая Узда з пасёлкам раённага аграпрамысловага аб'яднання. Прадугледжана стварыць 2 асноўныя прамысловыя зоны — паўночна-заходнюю і паўднёва-ўсходнюю.

Працуюць філіял Мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень», швейная фабрыка Нясвіжскага вытворчага швейнага аб'яднання, хлебазавод, малочны завод, лясгас, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. Ёсць 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, вочна-завочная школа рабочай моладзі, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. У цэнтры гарадскога пасёлка, у скверы — помнік У. І. Леніну, па вул. Школьнай — помнік у гонар вызвалення Узды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часцямі Чырвонай Арміі і партызанамі. Выдаецца раённая газета «Чырвоная зорка».

У зону адпачынку ўваходзяць 2 скверы і парк, маляўнічае наваколле Узды.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Киселёв В. Н. На истоках неманских.— Мн., 1985; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 12.— Warszawa, 1892.

*А. І. Валахановіч, А. Ю. Пятросава.*

**2990. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках. Пахаваны 3 партызанкі — сувязныя брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава М. І. Ваўчэцкая, А. І. Шакаль, А. Л. Ліпай, закатаваныя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2991. КАСЦЁЛ** (архіт.). На Чырвонай плошчы. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з дрэва. У пачатку 20 ст. прыбудавана мураваная трохгранная апсіда ў неагатычным стылі. Цяпер тут Дом культуры.

Будынак мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, накрыты пакатым двухсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад вылучаны развітым чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам. На адной восі з калонамі порціка на паверхні сцяны 4 чвэрцькалоны на высокіх цагляных базах. Уваход у будынак аформлены шырокім прамавугольным парталам. У цэнтры бакавых фасадаў — рызаліты, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Прамавугольныя аконныя праёмы размешчаны ў 2 рады. У інтэр'еры слупы раздзяляюць прастору храма на 3 нефы.

Помнік драўлянай архітэктуры з элементамі класіцызму і неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**2992. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Акцябрская, на могілках. Пахаваны 410 жыхароў пасёлка і навакольных вёсак, расстраляных у 1941—43 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2993. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Вул. Першамайская, на могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2994. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Завул. К. Маркса, 2. На будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1950 г. у гонар партызан 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія 29.6. 1944 г. вызвалілі г. п. Узда ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ўтрымлівалі яго да падыходу 4.7.1944 г. часцей Чырвонай Арміі.

**2995. ПАХАВАЛЬНЯ** (архіт.). На вул. Першамайскай, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

На невысокім цокалі з лучковым уваходам і акном над ім устаноўлена чатырохгранная піраміда. У ёй — невялікая, прамавугольная ў плане жалобная зала, якая перакрыта стральчатым скляпеннем. Сцены залы прарэзаны глыбокімі лучковымі нішамі для пахаванняў. Насупраць увахода, у двухграннай нішы з дзвюма люкарнамі, устаноўлены трохгранны алтарны пастамент. Сцены ў інтэр'еры атынкаваны і расшыты пад руст.

Пахавальня — прыклад эклектычнай архітэктуры з элементамі архаікі і неаготыкі.

*А. М. Кулагін.*

**2996. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На Чырвонай пл. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.




**2991.** *Касцёл. План.*



**2996.** *Петрапаўлаўская царква.*

Аднанефавы аднаапсідны храм мае кампактны аб'ём, пакрыты чатырохсхільным шатром, у цэнтры якога невялікі шлемападобны купал на васьміграпным барабане. План царквы сіметрычны адносна падоўжнай восі; цэнтральная частка блізкая да квадрата. Вуглы асноўнага аб'ёму фланкіраваны масіўнымі лапаткамі, якія завершаны пакладнымі кілепадобнымі арачкамі. У дэкоры выкарыстаны руст, паясы сухарыкаў, ляпныя пакладкі геаметрычнага малюнку. Бабінец царквы — асобны двух'ярусны аб'ём. Галоўны ўваход паўцыркульнага абрысу абрамлены шматслойнай накладной арачкай. Пад карнізам па перыметры бабінца праходзіць аркатурны пояс. Другі ярус — званіца — накрыты двухсхільным дахам. Вузкія паўцыркульныя аконныя праёмы аб'яднаны ў асноўным аб'ёме па 2, у бабінцы і апсідзе па 3. Ва ўнутранай прасторы храма — высока размешчаныя хоры, якія падтрымліваюцца драўлянымі кансолямі. Цэнтральны і бакавыя іканастасы аздоблены разьбой па дрэве і пазалотай.



2996. *Петрапаўлаўская царква. Галоўны фасад.*




2996. *Петрапаўлаўская царква. План.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**2997. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Школьнай.

У ноч з 28 на 29 чэрвеня 1944 г. партызаны атрадаў імя Р. І. Катоўскага і Багдана Хмяльніцкага партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава (камандзір В. Р. Яроменка) падышлі да пасёлка Узда і акружылі яго. Пасля кароткага бою 29.6.1944 г. партызаны вызвалілі Узду ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ўтрымлівалі да падыходу 4.7.1944 г. часцей 37-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір — палкоўнік В. Л. Марозаў) 65-й арміі 1-га Беларускага фронту.

У 1968 г. у гонар вызваліцеляў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Денисевич А. Ю. Орлиное племя: Записки комсомольского работника.— Мн., 1972. *М. М. Казлоўская.*

**2998. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**в. Алёхаўка, Цялякаўскі сельсавет**

**2999. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, у пойме р. Алёхаўка. Вышыня над наваколлем 5—7 м, пляцоўка памерам 50×60 м. Захаваліся рэшткі вала і рова. Адкрыў у 1868 г., даследаваў у 1869 г. Я. Завіша. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, гліняныя праслiцы, вялікі каменны молат. Абследавалі ў 1971 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1976, 1977, 1979 гг. Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт 0,6—0,7 м. Выяўлены рэшткі глінянай абмазкі, ляпной штрыхаванай і гладкасценнай керамікі. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання А. Р. Мітрафанава і Л. У. Калядзінскага захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 4.— Warszawa, 1883. *Л. У. Калядзінскі.*

**в. Астравок, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3000. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 68 жыхароў, закатаваных 2.3.1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3001. МАГІЛА ЧАХОЎСКАГА** Канстанціна Андрэевіча (гіст.). На могілках. Партызан К. А. Чахоўскі загінуў 27.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




2997. *Помнік Вызвалення.*

**в. Боркі, Уздзенскі сельсавет**

**3002. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Савецкі воін загінуў у чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3003. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Броды 1-я, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3004. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бярвішчы, Уздзенскі сельсавет**

**3005. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Уздзянка, у лесе. 3 насыпы вышынёй 1,7—2 м, дыяметрам 9—10 м. Зараслі лесам, моцна здзірванелі. Каля курганоў прасочваюцца раўкі. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3006. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі,

на могілках. Пахавана сям'я Труханавых (8 чалавек), расстраляная ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3007. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Партызан загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3008. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 35 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1956 г. пастаўлены абеліск.

**в. Валодзькі, Возерскі сельсавет**

**3009. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 47 жыхароў в. Старына, якіх 2.1.1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Валок, Любяцкі сельсавет**

**3010. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны партызанка і 3 партызанскія сям'і (усяго 8 чалавек), расстраляныя ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Валяр'яны, Любяцкі сельсавет**

**3011. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі і пры ліквідацыі акружаных груповак нямецка-фашысцкіх войск. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3012. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, уздоўж аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк. 31 насып вышынёй 1—2 м, дыяметрам 7—10 м. Адкрыў і абследаваў у 1931 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.



2999. *Гарадзішча.*



2998. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Віркова, Камянкоўскі сельсавет**

**3013. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3014. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ БАГДАНА ХМЯЛЬНІЦКАГА** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г. У ваколіцах вёскі ў 1943—44 гг. размяшчаўся штаб партызанскага атрада імя Багдана Хмяльніцкага 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава.



3012. *Курганны могільнік. План.*

Атрад створаны ў лістападзе 1943 г. з 3-й роты атрада імя Р. І. Катоўскага. Камандзір І. А. Абрамчык, камісар А. С. Зюба. Партызаны вялі адкрытыя і засадныя баі з карнікамі, 28.6.1944 г. сумесна з атрадам імя Р. І. Катоўскага занялі г. п. Узда і ўтрымлівалі яго да падыходу часцей Чырвонай Арміі. 2.7.1944 г. атрад у складзе брыгады злучыўся з Чырвонай Арміяй, удзельнічаў у ліквідацыі акружаных варожых груповак.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Денисевич А. Ю. Орлиное племя: Записки комсомольского работника.— Мн., 1972. *М. М. Казлоўская.*

**3015. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 10 партызан брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1958 г. на могілках устаноўлена пліта.

**3016. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1958 г. пастаўлены абеліск.

**в. Возера, цэнтр сельсавета**

**3017. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 80 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3018. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы і дрэва.

Аднанефавы безапсідны храм мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, накрыты двухсхільным дахам, над якім узвышаецца драўляны купал-шацёр на васьмігранным светлавым барабане. Фасады крапаваны плоскімі пілястрамі, цэнтральныя часткі бакавых фасадаў — пілястрамі і завершаны трохвугольнымі франтонамі. У тымпане франтона тыльнага фасада прарэзаны люнет. Галоўны фасад увенчаны атыкавым франтонам складанай ступеньчатай формы. Прамавугольныя вокны з дэкаратыўнымі сандрыкамі. Драўляны прытвор уяўляе сабой глухі (праёмы паміж калонамі ашаляваны порцік, верхняя частка якога апіраецца на 2 калоны круглага сячэння са стылізаванымі капітэлямі дарычнага ордэра. Масіўная купальная канструкцыя з'яўляецца дэкаратыўным элементам і не нясе функцыянальную нагрузку. Унутры плоская падшыўная столь.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі неакласіцызму і псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**3019. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка бальніцы. На ўшанаванне памяці 102 жыхароў вёсак саўгаса імя Р. І. Катоўскага, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск, на пастаменце якога імёны загінуўшых.

**в. Войкава,**
**цэнтр Камянкоўскага сельсавета**

**3020. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Гарадок». На ўшанаванне памяці 31 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну па франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікая Уса,**
**Ліцвянскі сельсавет**

**3021. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3022. МАГІЛА ШЫБКО** Сцяпана Паўлавіча (гіст.). На могілках. Сакратар Уздзенскага падпольнага парткома (створаны ў ліпені 1941 г.) С. П. Шыбко загінуў у маі 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**3018.** *Петрапаўлаўская царква.*




**3018.** *Петрапаўлаўская царква. План.*



**3019.** *Помнік землякам.*

**3023. РАДЗІМА ГЛЕБКІ** Пятра (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, акадэмік АН БССР (1957 г., член-карэспандэнт з 1950 г.) Пятро (Пётр Фёдаравіч) Глебка нарадзіўся 23.6.1905 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1923 г. працаваў сакратаром сельсавета. З 1924 г.— студэнт Мінскага педагагічнага тэхнікума. З 1927 г. на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ, якое скончыў у 1930 г. Працаваў сакратаром рэдакцыі часопіса «Узвышша» (1928—30 гг.), пазней у рэдакцыі газеты «Калгаснік Беларусі», у часопісе «Полымя рэвалюцыі», літаратурным кансультантам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны — у рэдакцыях франтавых газет «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь». У 1943—45 гг. рэдактар выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. З 1945 г. працаваў у АН БССР: у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва, у 1952—56 гг. загадчык сектара лексікаграфіі, у 1956—57 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства, у 1957—69 дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адначасова ў 1968—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук.

Друкавацца пачаў у 1925 г. Першы зборнік вершаў — «Шыпшына» (1927 г.), у якім выявілася схільнасць аўтара да рамантычнага кірунку ў паказе савецкай рэчаіснасці, прызнанне ім літаратурных і фальклорных традыцый. Узмацненне грамадзянскіх матываў, жанравая разнастайнасць характэрны для кніг «Урачыстыя дні» (1930 г.), «Хада падзей» (1932 г.), «Чатыры вятры» (1935 г.). Тэме рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны прысвечаны паэмы «Трывожны сігнал» (1929 г.), «Арляніка» (1931 г.), драматычная паэма «Над Бярозай-ракой» (паст. у 1940 г.). У паэмах «Мужнасць» (1934 г.), «У тыя дні» (1937 г.) адлюстравана барацьба за ўладу Саветаў, даюцца штрыхі да партрэта У. І. Леніна, сцвярджаецца неўміручасць яго ідэй. Творы, напісаныя ў Вялікую Айчынную вайну, услаўляюць мужнасць савецкіх воінаў, гераічныя справы беларускіх партызан («Калгасны вартаўнік», «Пасылка», «Родны хлеб», «Партызаны», «Пасланец», «Беларусі», «Смерць салдата» і інш.). Пад псеўданімам Язэп Касіла друкаваў сатырычныя вершы і куплеты ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», сатырычным лістку «Партызанская дубінка». Тэмы пасляваеннай творчасці паэта — аднаўленне гарадоў і вёсак, барацьба за мір («Размова аб шчасці», «Рака», «Мінск», «Слова міру», «Будаўнікі» і інш.). Аўтар лібрэта оперы «Андрэй Касценя» (напісана ў 1947 г., пастаўлена ў 1970 г.), вершаванай п'есы «Святло з Усходу» (паст. у 1957 г.), літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў. Вёў даследчую работу ў галіне фалькларыстыкі, лексікаграфіі, мастацтвазнаўства. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Горкага, У. Маякоўскага, А. Пракоф'ева, А. Суркова, М. Галоднага, Т. Шаўчэнкі, М. Рыльскага, М. Бажана. Творы П. Глебкі перакладзены на многія мовы народаў СССР і за мяжою. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—67 гг.

Памёр П. Глебка 18.12.1969 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імя паэта прысвоена Ліцвянскай школе Уздзенскага раёна, яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Перкін Н. С. Пятро Глебка.— Мн., 1955; Песняр мужнасці: Кніга пра Пятра Глебку.— Мн., 1976.

**в. Гарадзішча, Азерскі сельсавет**

**3024. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Каля вёскі, злева ад дарогі ў в. Карма на невялікім узгорку, у забалочанай пойме р. Зялёная (прыток р. Цепленька). Захавалася часткова. Вышыня над летнім меžанным узроўнем вады ў рацэ 2 м. Пляцоўка памерам 65×65 м. Адкрыў у 1931 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. У агаленнях культурны пласт 0,6 м. У ім знойдзены фрагменты ляпнога посуду, шлак, гліняныя праслiцы, абгарэлае зерне. Адносіцца

да культур штрыхаванай керамікі і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Датуецца 7 ст. да н. э.— 8 ст. н. э.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*Л. У. Калядзінскі.*

**в. Глінкі, Камянкоўскі сельсавет**

**3025. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. пры выхадзе з варожага акружэння, і 5 партызан, што загінулі ў 1942 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У 1958 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**3026. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 20 жыхароў з вёсак саўгаса «Гарадок», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**3027. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Даўгінава, Лашанскі сельсавет**

**3028. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**3029. РАДЗІМА ШАБУНІ** Канстанціна Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар гістарычных навук (1964 г.), прафесар (1966 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1975 г.) К. І. Шабуня нарадзіўся 15.10.1912 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута ў 1937 г., аспірантуру пры БДУ імя У. І. Леніна. У 1940—41 гг. выкладчык кафедры гісторыі СССР у БДУ. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР. У 1948—56 гг. загадчык сектара, намеснік загадчыка аддзела навукі і вышэйшых навучальных устаноў ЦК КПБ. З 1956 г. загадчык сектара публікацый, гісторыі Беларусі дасавецкага грамадства Інстытута гісторыі АН БССР. Адначасова ў 1946—72 гг. выкладаў у ВНУ Мінска. Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі Беларусі канца 19 — пачатку 20 ст., сялянскі рух у Рэвалюцыю 1905—07 гг., дзейнасць арганізацый РСДРП, барацьбу бальшавікоў Беларусі за саюз рабочага класа і сялянства. Аўтар манаграфіі «Аграрнае пытанне і сялянскі рух на Беларусі ў рэвалюцыі 1905—1907 гг.» (1962 г.). Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Беларускай ССР» у 2 тамах (1955—58 гг.), «Гісторыі Беларускай ССР» у 5 тамах (1972—75 гг.), аднатомнай «Гісторыі Беларускай ССР» (1977 г.). Памёр К. І. Шабуня 16.10.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.



3024. *Гарадзішча.*

**в. Дзешчанка, Возерскі сельсавет**

**3030. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса імя А. В. Суворава. На ўшанаванне памяці 134 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дуброўка, Любяцкі сельсавет**

**3031. РАДЗІМА БЯЛЕВІЧА** Антона Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. П. Бялевіч нарадзіўся 14.5.1914 г. у сялянскай сям'і. У 1933—35 гг. вучыўся ў Магілёўскім палітасветным інстытуце. Працаваў у пухавіцкай раённай газеце «За калгасы», у 1937—41 гг.— у рэспубліканскіх газетах «Чырвоная змена» і «Звязда». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у партызанскім руху на Беларусі. У 1945—47 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у 1947—50 гг.— у газеце «Савецкі селянін».

Друкавацца пачаў з 1937 г. У 1943 г. напісаў сваю першую паэму «Мой майстра» (апублікавана ў 1946 г.), прысвечаную подзвігу савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. У 1945 г. выйшаў паэтычны зборнік «Чалавек з дубровы» (на рускай мове). Выдаў вершаваную казку «Мароз-партызан» (1945 г.). Зборнікі паэзіі «На бацькоўскіх сцежках» (1946 г.), «Паэмы» (1948 г.), «Дарогай шчасця» (1952 г.), «Жывая рака» (1955 г.) прысвечаны аднаўленню пасляваеннай беларускай вёскі, працоўнаму гераізму народа. Вобраз У. І. Леніна створаны ў паэме «Чалавек-сонца» (1947 г.). Зборнікам «За салаўінымі гаямі» (1959 г.) «Вясёлка над полем» (1961 г.), «Залатыя ключы» (1963 г.), «Рэха навальніц» (1965 г.), «Партрэт бацькаўшчыны» (1967 г.), «А ў бары, бары» (1974 г.), «Сонцам заручоныя» (1975 г.) уласцівы народна-песенны лад. У 1969 г. выйшлі «Выбраныя творы» (т. 1—2). Паэзія А. Бялевіча прасякнута любоўю да роднай зямлі, тонкім лірызмам, ёй характэрна фальклорная вобразнасць, выразнасць мастацкіх сродкаў. Выступаў як празаік і публіцыст (дакументальныя нарысы «Мінай Шмыроў», 1970 г., «Хатынь: боль і гнеў», 1971 г., зборнік «Споведзь сэрца», 1978 г.). Пісаў для дзяцей: паэма «Ідзі, мой сын» (1953 г.) і зборнік «Тарасікава дарожка» (1962 г.), аповесць «Малюнкі маленства» (1977 г.). Выдадзены зборнік фельетонаў «Маштабны Міканор» (1963 г.). Аўтар кнігі літаратурных партрэтаў «Чарадзеі» (1970 г.). Пераклаў на беларускую мову асобныя вершы А. Пракоф'ева, М. Бажана, паэму «За даллю даль» (1962 г.) А. Твардоўскага.

А. П. Бялевіч памёр 11.4.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імем паэта названа вуліца ў г. п. Узда.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Жачкава, Камянкоўскі сельсавет**

**3032. МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на могілках. Пахаваны партызаны Ф. Нікановіч і Ф. Ліхадзіеўскі, а таксама іх сем'і (усяго 14 чалавек), якіх закатавалі ў лютым 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3033. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Забалацце, Уздзенскі сельсавет**

**3034. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3035. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 48 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**3036. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Аднazрубная, з невысокай званіцай над бабінцам і квадратнай апсідай. Цэнтральны аб'ём накрыты высокім двухсхільным дахам, які над апсідай мае плаўныя заломы, а ў месцах стыкаў апсіды з нефам утварае застрэшкі. Сцены ўпрыгожаны дэкаратыўнымі паяскамі, карнізам. Званіца завершана

чатырохсхільным пакатым шатром. Высокія прамавугольныя вокны без ліштваў. Над апсідай невялікая цыбулепадобная галоўка, увенчаная крыжам (чыгуннае ліццё). Такі ж крыж упрыгожвае званіцу.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Загоршчына, Лашанскі сельсавет**

**3037. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Панскія могілкі. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. 18 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—12 м. Некалькі курганоў пашкоджаны познімі пахаваннямі, на вяршынях трох — ямы. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Замосце, Нёманскі сельсавет**

**3038. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 25 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3039. РАДЗІМА ГУРСКАГА** Ільі Данілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР (1969 г.) І. Д. Гурскі нарадзіўся 14.4. 1899 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. З маленства парабкаваў, працаваў качагарам на Абухаўскім заводзе ў Петраградзе. У Грамадзянскую вайну на Паўднёвым і Заходнім франтах. У 1924—32 гг. працаваў у Галоўрэперткоме, потым у Галоўмастацтве БССР. У 1932 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ, потым аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. У 1935—41 гг. рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». У Вялікую Айчынную вайну быў адказным сакратаром франтавой газеты «За Савецкую Беларусь», рэдактарам газеты «За свабодную Беларусь», сатырычнага лістка «Партызанская дубінка». У 1944—60 гг. рэдактар часопіса «Беларусь».

Друкавацца пачаў у 1928 г. Аўтар п'ес «Новым шляхам» і «Дрыгва» (1928 г.), «Качагары» (1930 г.), «Новы горад» (1932 г.), «Маці» (1934 г.), «Хлеб» (1948 г.), «Свае людзі» (1950 г.), выдаў аповесць «Лясныя салдаты», зборнікі апавяданняў «Над Нёманам» (1945 г.), «У вялікай дарозе» (1958 г.); раманы «У агні» (1952 г.), «Вецер веку» (1966 г.), «Чужы хлеб» (1969 г.). У сваёй творчасці І. Гурскі адлюстроўваў падзеі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, сацыялістычнае будаўніцтва, барацьбу савецкіх людзей супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Памёр І. Д. Гурскі 11.8.1972 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У Мінску яго імем названа вуліца, на доме, дзе жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. Імя пісьменніка прысвоена Нёманскай сярэдняй школе Уздзенскага р-на. *М. М. Казлоўская.*

**3040. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай і паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Нёман, ва ўрочышчы Дварэц. Плошча каля 1,5 га. Выявіў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт да 0,4—0,5 м. Знойдзена позпасярэдневяковая кераміка, кавалкі кафлі, абломкі цэглы, перапаленыя камяні. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Зенькавічы, Уздзенскі сельсавет**

**3041. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3042. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 5 км на поўнач ад вёскі, у лесе, побач з урочышчам Падручча. 3 насыпы вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 5—12 м. Адкрыў у 1977 г., абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Адзін насып пашкоджаны ямай. Раскопкі не праводзіліся.

**3043. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 96 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Каладзіно, Цепленскі сельсавет**

**3044. ДОМ, ДЗЕ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БУРАВЕСНІК»** (гіст.). У вёсцы, дом С. В. Быкоўскай. Тут з сакавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. знаходзілася явачная кватэра партызанскай брыгады «Буравеснік» (з снежня 1941 г. да снежня 1943 г. асобны атрад «Буравеснік»). У 1975 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



3043. *Помнік землякам.*



3046. *Помнік на партызанскіх могілках.*

**3045. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «БУРАВЕСНІК»** (гіст.). У вёсцы, дом А. Ф. Раманава. Тут у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся штаб партызанскай брыгады «Буравеснік».

Брыгада створана ў снежні 1943 г. на базе атрада «Буравеснік». Камандзір М. Г. Мармулёў, камісар І. М. Рабуха. Дзейнічала на тэрыторыі Пухавіцкага, Рудзенскага р-наў. Партызаны брыгады праводзілі баявыя аперацыі на камунікацыях ворага. У чэрвені 1943 г. на дарогах Шацк — Валяр'яны разграмілі варожую аўтакалону, у лістападзе 1943 г. на дарозе Валяр'яны — Узда знішчылі 34 аўтамашыны. У 1944 г. правялі некалькі баёў з карнікамі, разбілі 2 варожыя гарнізоны — у вёсках Латыголічы Халопеніцкага і Загай Пухавіцкага р-наў. 3.7.1944 г. брыгада (3 атрады, 537 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, удзельнічала ў ліквідацыі на тэрыторыі Уздзенскага р-на варожых груповак, якія трапілі ў акружэнне.

У 1975 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб брыгады, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974.

*М. М. Казлоўская.*

**3046. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі. У 13 магілах пахаваны 24 партызаны брыгады «Буравеснік», якія загінулі ў 1943—44 гг. у час баявых аперацый

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Уздзенскага р-на. У 1955 г. на могілках пастаўлена стэла.

**3047. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1954 г. пастаўлены абеліск.

**в. Калінінск, Лашанскі сельсавет**

**3048. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 26 землякоў з вёсак калгаса імя Ільіча, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каменка, Ліцвянскі сельсавет**

**3049. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3050. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 266 жыхароў вёсак Ліцвянскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск, на гранях якога імёны загінуўшых.

**в. Канапелькі, Камянкоўскі сельсавет**

**3051. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карпілаўка, Цялякаўскі сельсавет**

**3052. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,3 км ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Слуцк, у лесе. Вышыня — 2 м, дыяметр — 7—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі.

**в. Касцюкі, Лашанскі сельсавет**

**3053. РАДЗІМА ГАРБУЗА** Сцяпана Кузьміча (гіст.).

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі С. К. Гарбуз (партыйны псеўданім Паддубны) нарадзіўся 16.12.1894 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. Скончыў у 1916 г. Панявежскую настаўніцкую семінарыю, у 1925 г. БДУ. З 1916 г. у арміі, потым настаўнічаў на Бабруйшчыне. З студзеня 1919 г. у Чырвонай Арміі на Заходнім фронце. З 1921 г. працаваў ва ўстановах Наркамасветы БССР, кіраўніком спраў ЦК КП(б)Б, у 1924—25 гг. загадчык аргаддзела Полацкага, сакратар Калінінскага акруговых камітэтаў КП(б)Б, потым у апараце ЦК КП(б)Б. З сакавіка 1928 г. да снежня 1929 г. на падпольнай партыйнай рабоце ў Заходняй Беларусі, член ЦК КПЗБ, член Сакратарыята ЦК Кампартыі Польшчы. З 1930 г. у Маскве ў Камуністычным інстытуце журналістыкі, потым на партыйнай і гаспадарчай рабоце. У 1926 г. кандыдат, у 1927—28 — член ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР.

С. К. Гарбуз памёр 27.8.1944 г.



3050. *Помнік землякам.*

**в. Касцяны, Нёманскі сельсавет**

**3054. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Партызаны Дз. М. Цітко і П. І. Лыч загінулі 3.12.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**3055. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Нёман, у хвойніку. 2 курганы вышынёй 3 і 3,5 м, дыяметрам 25 і 30 м. Насыпы моцна аплылі, знаходзяцца побач адзін каля аднаго, нібы зліліся. Адкрыў і абследаваў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3056. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 72 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кухцічы, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3057. МАГІЛА БАРЭЙШЫ** Уладзіміра Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан У. А. Барэйша загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3058. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Савецкі воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3059. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Усход». На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ліцвяны, цэнтр сельсавета**

**3060. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3061. РАДЗІМА ЗАВІТНЕВІЧА** Уладзіміра Зянонавіча (гіст.).

Гісторык, археолаг, прафесар (1904 г.) У. З. Завітневіч нарадзіўся 2.4.1853 г. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію ў 1878 г. З 1884 г. працаваў у Кіеўскай духоўнай акадэміі.

У асноўных працах — «Значэнне першых славянафілаў у справе ўсведамлення ідэй народнасці і самабытнасці» (1891 г.), «А. С. Хамякоў» (т. 1—2, 1902—13 гг.), «Пытанне аб народнасці ў яго навуковай пастаноўцы» (1912 г.), і інш.— развіваў лепшыя традыцыі рускіх славянафілаў. Вывучаў археалагічныя помнікі ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі. У 1885—92 гг. даследаваў каля 700 пахаванняў у 82 курганных могільніках дрыгавічоў (у басейнах рэк Прыпяць, Дняпро, Бярэзіна, вярхоўі Нёмана). У працах «Вобласць дрыгавічоў як прадмет археалагічнага даследавання» (1886 г.), «З археалагічнай экскурсіі ў Прыпяцкае Палессе» (1890 г.), «Другая археалагічная экскурсія ў Прыпяцкае Палессе» (1891 г.), «Формы пахавальнага абраду ў магільных курганах Мінскай губерні» (1895 г.) вызначыў межы расселення дрыгавічоў і іх этнавызначальныя прадметы.

Памёр У. З. Завітневіч у сакавіку 1927 г. у Кіеве. *У. Дз. Будзько.*

**в. Лоша, цэнтр сельсавета**

**3062. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і ў

ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім выбіты імёны 69 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**3063. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, на беразе штучнага вадасховішча, ва ўрочышчы Гарадзішча. Вышыня над узроўнем вады ў вадасховішчы 3—4 м, пляцоўка памерам 40×50 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3064. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, на беразе штучнага вадасховішча, ва ўрочышчы Гарадзішча. Займае прыродную пясчаную выспу вышынёй 3—4 метры над узроўнем вадасховішча. Памеры 40×50 м. Абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Сабраны апрацаваныя крамяні. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Любяча, цэнтр сельсавета**

**3065. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 2 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1919 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. На ўшанаванне іх памяці і 77 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Макавішчы, Ліцвянскі сельсавет**

**3066. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малая Вуса,**
**Ліцвянскі сельсавет**

**3067. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Капцы. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Падручча. 3 насыпы вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 5—12 м. Захаванасць добрая. Абследаваў у 1977 г. і 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Мрочкі, Камянкоўскі сельсавет**

**3068. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3069. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.




3073. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Навасады, Камянкоўскі сельсавет**

**3070. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Наднёман, Нёманскі сельсавет**

**3071. МАГІЛА НАРКЕВІЧА-ІОДКІ** Якава Антонавіча (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе, на былых могілках.

Беларускі прыродазнавец, медык, прафесар Я. А. Наркевіч-Іодка нарадзіўся 9.1.1848 г. Скончыў Мінскую гімназію, па некаторых звестках, вучыўся таксама ў Маскве і Парыжы. У 1886 г. у сваім маёнтку стварыў метэаралагічную станцыю, распрацаваў спосабы вымярэння патэнцыялу атмасфернай электрычнасці, хуткасці руху воблакаў, барацьбы з градам, вынайшаў лізіметр — прыладу для вызначэння вільготнасці глебы, бясправаднай перадачы электрамагнітных сігналаў. За заслугі ў галіне метэаралогіі ў 1890 г. узнагароджаны сярэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства. Распрацаваў спосаб лячэння першавахворых электрычным токам і электрычным масажам, прапанаваў метад электраграфіі для дыягностыкі захворванняў, выкарыстоўваў у лячэнні кумыс і мясцовыя мінеральныя воды, у маёнтку адкрыў санаторый. У 1890 г. зацверджаны членам-супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу. Быў ганаровым доктарам Венскага медыцынскага таварыства, ганаровым членам Італьянскага фізіка-матэматычнага таварыства Галілея і Таварыства італьянскай медыцыны і псіхалогіі, членам электратэрапеўтычнага таварыства пры Парыжскай акадэміі навук, ганаровым членам Французскага астранамічнага таварыства. Памёр 19.2.1905 г.

На магіле ўстаноўлена надмагілле.

*Літ.:* Киселёв В. Опередивший время.— Техника — молодежи, 1983, № 11.

*М. М. Казлоўская.*

**3072. СЯДЗІБА** (архіт.). У вёсцы, на беразе р. Нёман. Сфарміравана ў 19 ст. Належала Наркевічам — Іодкам. Уключае палац, гаспадарчыя пабудовы, пейзажны парк, браму.

Палац мураваны (захаваўся часткова). У дэкаратыўнай апрацоўцы фасадаў выкарыстаны аркатурныя паясы, чатырохпялёсткавыя люнеты. Аконныя праёмы стральчатага абрысу. Асталіся рэшткі высокай вежы, якая з'яўлялася дамінантай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Высокія эркеры размешчаны асіметрычна з розных бакоў палаца.

Гаспадарчыя пабудовы захаваліся часткова. Простыя па кампазіцыі, аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане. У будаўніцтве іх выкарыстана бутавая мурóўка.

Брама размешчана пры ўездзе на тэрыторыю сядзібы. Два невялікія збудаванні пад высокімі двухсхільнымі дахамі злучаны невысокай аркай.

Сядзіба — помнік архітэктуры неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Нёман, цэнтр сельсавета**

**3073. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і партызан,




3074. *Гарадзішча. План.*

якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — камісар атрада М. М. Нікіцін П. І. Знак, які загінуў у баі супраць акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3074. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2—0,3 км ад моста цераз р. Нёман, насупраць вёскі, на правым беразе ракі, на выспе. Пляцоўка памерам 55×30 м. З боку поля было ўмацавана 2 дугападобнымі валамі вышынёй 1—1,5 м. Захавалася толькі аснова замчышча. Абследавалі ў 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1977—79 гг. Л. У. Калядзінскі. Знойдзена ганчарная кераміка 13—15 стагоддзяў, кафля з зялёнай палівай, жалезныя прылады працы, цвікі, падкова. З'яўляецца рэшткамі былога феадальнага замка. Згодна хронікі Быхаўца, тут у 1273 г. адбылася бітва паміж войскамі татара-манголаў і літоўскіх князёў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Хроника Быховца.— М., 1966.
*Л. У. Калядзінскі.*

**3075. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Лэнгі. 10 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—10 м. Курганы выцягнуты ланцужком па лініі захад — усход, захаванасць добрая. Выявіў у 1979 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3076. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 36 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ніва, Нёманскі сельсавет**

**3077. МАГІЛА КУЛІКОЎСКАГА** Івана Ігнатавіча (гіст.). На могілках. Дырэктар мясцовай школы І. І. Кулікоўскі расстраляны ў верасні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Нізок, Уздзенскі сельсавет**

**3078. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 64 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**3079. РАДЗІМА ТРУСА** Паўлюка (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Паўлюк (Павел Адамавіч) Трус нарадзіўся 23.4. 1904 г. у сялянскай сям'і. У 1927 г. скончыў Мінскі белпедтэхнікум. Працаваў у газеце «Палеская праўда» (Гомель). У 1928—29 гг. вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. Друкаваўся з 1923 г. У 1925 г. выдаў зборнік «Вершы», у 1927 — «Ветры буйныя». Напісаў шэраг паэм. Гераічнай барацьбе беларускага народа за савецкую ўладу прысвяціў паэмы «Астрожнік» і «Юны змагалец» (1925 г.). Аўтар няскончаных фальклорна-рамантычных паэм «Цыганка» (1926 г.), «Чырвоныя ружы» (1929 г.), «Сірата Алеся» (1925—29 гг.), 10-й гадавіне Кастрычніка прысвечана паэма «Дзесяты падмурак» (1928 г.).

Паэзія П. Труса вызначаецца тонкім лірызмам, рамантычнай прыўзнятасцю. У сваіх вершах апяваў перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі, услаўляў новае жыццё, працоўны і рэвалюцыйны энтузіязм камсамольцаў 20-х гадоў. Творы паэта перакладзены на рускую, украінскую, польскую і іншыя мовы. У 1979 г. выдадзена кніга «Выбранае: Вершы і паэмы».

Памёр 30.8.1929 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Яго імем названа Уздзенская раённая бібліятэка.

*Літ.:* Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.— Мн., 1968.
*М. М. Казлоўская.*

**в. Падсадскія, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3080. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 66 жыхароў вёсак калгаса «Новае жыццё», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



3081. *Касцёл.*



3081. *Касцёл. Выгляд з боку апсіды.*




3082. *Помнік на магіле чырвонаармейца, помнік землякам.*

**пас. Першамайск, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3081. КАСЦЁЛ** (архіт.). На тэрыторыі прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Пабудаваны ў сярэдзіне 16 ст. з цэглы як кальвінскі збор.

Аднаапсідны храм мае круглы ў плане асноўны аб'ём. Звонку акружнасць абмежавана шматграннікам. Асноўны аб'ём накрыты пакатым шатром, грані прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Прытвор, які выступае ад адной з граняў, накрыты двухсхільным дахам і фланкіраваны круглымі ў сячэнні вежачкамі, накрытымі пакатымі шатрамі. Сцены абапал прамавугольнага партала члянёны плоскімі пілястрамі. Завяршае кампазіцыю галоўнага фасада трохвугольны атыкавы франтон. Над уваходам размешчаны ляпныя геральдычныя ўпрыгожанні. Прамавугольная апсіда з трох бакоў мае круглыя вокны, якія добра асвятляюць унутраную прастору храма. У інтэр'еры сцены крапаваны капеліраванымі пілястрамі і завершаны лёгкім поясам карніза з сухарыкамі. Захавалася цыліндрычнае з распалубкамі скляпенне ў апсідзе і крыжовае — у прытворы. Па баках лучковага дзвярнога праёма дзве невялікія нішы, перакрытыя конхамі. Памяшканні прытвора і апсіды злучаны з асноўным аб'ёмам арачнымі праёмамі.



3083. *Флігель.*




3083. *Флігель. План.*

Касцёл — помнік архітэктуры рэнесансу з рысамі абарончага дойлідства.
*А. Ю. Пятросава.*

**3082. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у парку. Чырвонаармеец загінуў у 1919 г. у барацьбе за Савецкую ўладу. У 1983 г. на магіле пастаўлены 3 стэлы. На бакавых — лічбы адпаведна 1918—1920 і 1941—1945, на сярэдняй — дошка з барэльефнымі выявамі 2 воінаў. Помнік ушаноўвае таксама памяць землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**3083. СЯДЗІБА** (архіт.). У пасёлку, у маляўнічым парку. Сфарміравана ў 1-й палове 19 ст. Сядзібны дом (не захаваўся) быў размешчаны на шырокім лузе, акаймаваным ліпавымі алеямі. Асталіся 2 аднолькавыя па кампазіцыі і велічныя бакавыя флігелі. Цяпер тут прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі.

Ф л і г е л і з'ўляліся элементамі адзінай сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, размешчаны ўздоўж яе папярочнай восі. Лаканічныя па архітэктуры аднапавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі накрыты пакатымі вальмавымі дахамі. Вуглы крапаваны руставанымі цаглянымі лапаткамі, пад карнізамі дахаў праходзяць паясы сухарыкаў. Ядром сіметрычнай кампазіцыі галоўных фасадаў з'яўляюцца масіўныя чатырохкалонныя порцікі дарычнага ордэра. Порцікі ўвенчаны трохвугольнымі франтонамі, у тымпанах якіх прарэзаны люнеты. Галоўныя фасады дэкарыраваны фрызамі з трыгліфамі. Паверхні сцен члянёны прамымі плоскімі пілястрамі, паміж якімі знаходзяцца прамавугольныя аконныя праёмы з руставанымі ліштвамі. Уваходы ў будынкі — цэнтральны і 2 бакавыя — вылучаны высокімі ганкамі. Унутраная прастора распланавана строга сіметрычна адносна падоўжнай восі, мае анфіладнае размяшчэнне пакояў.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.
*А. Ю. Пятросава.*

**в. Прусінава, Нёманскі сельсавет**

**3084. ДОМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ПАЛЬЧЭЎСКІ** Алесь (гіст.). Тут у 1905 г. нарадзіўся беларускі савецкі пісьменнік А. Пальчэўскі. У 1980 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. артыкул № 3086 «Магіла Пальчэўскага Алеся».

**3085. МАГІЛА КАРАЛЕЦКАГА** Аляксандра Адамавіча (гіст.). На могілках. Селькор А. А. Каралецкі забіты 20.11. 1924 г. ворагамі Савецкай улады. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3086. МАГІЛА ПАЛЬЧЭЎСКАГА** Алеся (гіст.). На могілках.

Беларускі савецкі пісьменнік Алесь (Аляксандр Восіпавіч) Пальчэўскі нарадзіўся 3.1.1905 г. у в. Прусінава ў сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў педагагічны факультэт БДУ. Працаваў у рэдакцыі часопіса «Іскры Ільіча». У 1936—46 гг. на розных работах у Горкаўскай вобласці. У 1946—48 гг. выкладаў мову і літаратуру ў Пухавіцкай і Рудзенскай сярэдніх школах. У 1948—55 гг.— у Краснаярскім краі. З 1955 г. супрацоўнік газеты «Зорька», рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. З 1957 г. літаратурны супрацоўнік, у 1961—71 гг. адказны сакратар часопіса «Вясёлка».

Друкавацца пачаў у 1926 г. Аўтар зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Родныя берагі» (1958 г.), «Жнівеньская раніца» (1963 г.), «Разбітае люстэрка» (1965 г.), «Запозн̆ены пасаг» (1973 г.), «Ноч на вахце» (1979 г.), аповесці «Сцежкі» (1976 г.). Для дзяцей выдаў зборнікі апавяданняў «Беражанкі» (1958 г.), «Аля і Галя» (1961 г.), «Дым над лесам» (1964 г.), «Таемная крушня» (1969 г.), аповесці «Ты не адзін» (1959 г.), «Данеўцы — нашы знаёмыя» (1965 г.), «Тайна аднаго звяна» (1970 г.). Працаваў у галіне драматургіі. Выдадзены выбраныя творы: аднатомнік «Мора на камені» (1966 г.) і ў 2 тамах (1975 г.). У творах А. Пальчэўскага выявілася добрае веданне побыту беларускай вёскі, псіхалогіі селяніна, дзяцей і падлеткаў, любоў да роднага краю. Перакладаў паасобныя творы рускіх, украінскіх і грузінскіх пісьменнікаў. А. В. Пальчэўскі памёр 26.4.1979 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Пра час і пра сябе.— Мн., 1966.

**3087. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 16 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



3083. *Сядзіба. Куток парку.*

**в. Прысынак, Уздзенскі сельсавет**

**3088. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 жыхароў вёсак калгаса «Чырвоны Кастрычнік», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пырашава, Лашанскі сельсавет**

**3089. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ракашычы, Сямёнавіцкі сельсавет**

**3090. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3091. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.



3106. *Помнік на месцы спаленай вёскі.*

**в. Рудкова (не існуе), Цепленскі сельсавет**

**3092. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рудкова знаходзілася за 6 км на ўсход ад в. Цеплень. 23.1. 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, усіх жыхароў (27 чалавек) сагналі ў хлеў і расстралялі, спалілі 11 двароў. Пасля вайны вёска не адрадзілася. У 1970 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск з барэльефамі партызана і партызанкі. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. *М. М. Казлоўская.*

**3093. РАДЗІМА БАРАНАВЫХ** Сымона Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік С. Я. Баранавых (сапраўднае Баранаў) нарадзіўся 1.9.1900 г. у сялянскай сям'і. У юнацтве парабкаваў. У 1920—23 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на радзіме ў сельсавеце, загадваў хатай-чытальняй. З 1925 г. вучыўся ў Мінску на рабфаку. У 1931 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Друкавацца пачаў з 1927 г. У апавяданнях (зборнік «Злосць», 1930 г.), аповесці «Чужая зямля» (1930 г.) адлюстраваў жыццё дарэвалюцыйнай беларускай вёскі, барацьбу супраць польскіх інтэрвентаў, класавую барацьбу ў вёсцы ў першыя гады Савецкай улады і ў час калектывізацыі. Аповесць «Межы» (1929—30 гг.) — адзін з першых у беларускай літаратуры буйных твораў пра сацыялістычную перабудову вёскі. Гэтай тэме прысвечана таксама аповесць «Новая дарога» (1936 г.). На вострых сацыяльных канфліктах пабудавана прыгодніцкая аповесць «Пастка» (1934 г., 3 выд. 1958 г.), напісаная для дзяцей. У рамане «Калі ўзыходзіла сонца» (нап. 1935—36 гг., выдадзены ў 1957 г.) паказаў падпольную дзейнасць маладых патрыётаў беларускага гарадка ў час яго акупацыі войскамі буржуазнай Польшчы. Памёр С. Я. Баранавых 10.11.1942 г.

**в. Русакова, Цепленскі сельсавет**

**3094. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 26 землякоў з вёсак Русакова, Сянное і Ладыга, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1954 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сакольшчына, Ліцвянскі сельсавет**

**3095. МАГІЛА БАРАНАВА** Трафіма Цімафеевіча (гіст.). За 0,5 км ад вёскі, на могілках. Капітан Чырвонай Арміі Т. Ц. Баранаў загінуў у ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Світалаўка 1-я, Уздзенскі сельсавет**

**3096. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3097. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Партызан загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3098. МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны партызан В. І. Герасімовіч і яго сям'я з 6 чалавек, закатаваныя ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3099. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 28 жыхароў вёсак калгаса «Інтэрнацыянал», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сенажаткі, Лашанскі сельсавет**

**3100. МАГІЛА ДЗЕНІСЕВІЧА** Рамана Мікітавіча (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Начальнік штаба партызанскага атрада М. П. Пакроўскага (з ліпеня 1942 г. «Беларусь») Р. М. Дзенісевіч загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабада, Лашанскі сельсавет**

**3101. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3102. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 1 км на поўдзень ад вёс-

кі, злева ад дарогі ў в. Глінкі, ва ўрочышчы Смалярня. Захаваліся 2 насыпы вышынёй 1,2 і 1,3 м, дыяметрам 7 і 8 м. Адзін з іх пашкоджаны. Выявіў і абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**3103. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 125 жыхароў вёсак калгаса «Звязда», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Смалінец, Лашанскі сельсавет**

**3104. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,2 км злева ад дарогі ў в. Пырашава, у лесе, ва ўрочышчы Капліцы. 15 насыпаў вышынёй 0,8—1,6 м, дыяметрам 6—10 м (пераважна 7—9 м). Вакол асновы курганоў захаваліся круглыя раўкі. Абследаваў у 1895 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Стальбоўшчына, Нёманскі сельсавет**

**3105. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 74 жыхароў вёсак калгаса «Зарэчча», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Старына (не існуе), Возерскі сельсавет**

**3106. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Старына знаходзілася за 1,5 км на захад ад в. Валодзькі. 2.1. 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты закатавалі 47 жыхароў і знішчылі 9 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1975 г. на месцы былой вёскі пастаўлена стэла.

**в. Старыя Маргі, Камянкоўскі сельсавет**

**3107. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены 2 абеліскі.

**в. Сыманчыцы, Уздзенскі сельсавет**

**3108. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3109. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 19 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сямёнавічы, цэнтр сельсавета**

**3110. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3111. КУРГАН** (археал.). На правым беразе р. Уса, за 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Вішнякі. Вышыня 1,7—1,8 м, дыяметр — 10 м. Вакол кургана прасочаны равок, уверсе — западзіна. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі.

**3112. МАГІЛА КАРАЛЯ** Аляксандра Канстанцінавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. К. Кароль загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3113. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІСНІК** Веры Аляксандраўне (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1975 г.

Настаўніца В. А. Міснік, якая працавала ў гэтай школе ў 1937—41 гг., у Вялікую Айчынную вайну была сувязной партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава. Закатавана нямецка-фашысцкімі акупантамі ў чэрвені 1944 г. Яе імя прысвоена Сямёнавіцкай сярэдняй школе.

**3114. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**3115. РАДЗІМА ПАШКЕВІЧА** Васіля Васілевіча (гіст.). Савецкі вучоны ў галіне пладаводства, адзін з заснавальнікаў навуковага садоўніцтва на Беларусі, доктар біялагічных навук (1934 г.), акадэмік УАСГНІЛ (1935 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1935 г.) В. В. Пашкевіч нарадзіўся 29.12.1856 г. у сям'і свяшчэннаслужыцеля. Скончыў у 1882 г. Пецярбургскі універсітэт. З 1894 г. працаваў у дэпартаменце земляробства Міністэрства земляробства і дзяржаўных маёмасцей, з 1922 г.— у Сельскагаспадарчым камітэце, у аддзеле прыкладной батанікі і селекцыі (з 1924 г. Усесаюзны інстытут прыкладной батанікі і новых культур), з 1930 г.— ва Усесаюзным інстытуце раслінаводства. З 1922 прафесар Ленінградскага сельскагаспадарчага інстытута. Абследаваў і апісаў стан садоўніцтва Цэнтральнай Расіі, Беларусі, сярэдняга і ніжняга Паволжа, Азербайджана і інш. Асноўныя працы: «Агульная памалогія, або Вучэнне аб сартах пладовых дрэў» (1930 г.), «Бясплоднасць і ступень ураджайнасці ў пладаводстве ў залежнасці ад сорта апыляльніка» (1931 г.), «Сортавывучэнне і сартаводства пладовых дрэў» (1933 г.), «Выбраныя творы па пладаводству» (1959 г.). Пры абследаванні садоў на Беларусі ў 1926—31 гг. пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле В. В. Пашкевіча сабрана і сістэматызавана вялікая колькасць мясцовых сартоў пладовых культур. Даў пачатак пародна-сартавому раянаванню пладова-ягадных культур і сартоў, развіццю культуры лекавых раслін на Беларусі. Памёр В. В. Пашкевіч 14.7.1939 г.

**в. Таўкачэвічы 1-я, Любяцкі сельсавет**

**3116. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3—3,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі Шацк — Рудзенск, у лесе. 180 насыпаў вышынёй 1,5—4 м, дыяметрам 6—12 м. Вакол насыпаў прасочаны раўкі, на вяршынях — западзіны. Захаванасць добрая. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. Л. У. Калядзінскі, даследаваў у 1979 г. А. М. Плавінскі. Раскапана 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пахаванні парныя на гарызонце і на попельнай падсыпцы. Сярод знаходак — бронзавы ланцужок, сердалікавая і 3 шкляныя пацеркі, паясное кальцо, бронзавая ліратападобная спражка, фрагмент нажа, ганчарная кераміка. Належаў дрыгавічам, аднасіцца да 11 ст. Знаходкі захоўваюцца ў Археалагічным музеі БДУ імя У. І. Леніна. *Л. У. Калядзінскі.*

**3117. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 110 жыхароў вёсак калгаса «XVI партз'езд», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.




3116. *Курганны могільнік. План.*




3120. *Помнік на месцы гібелі Марата Казея.*

**в. Тычынкі, Уздзенскі сельсавет**

**3118. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Уздзенка, ва ўрочышчы Пасякі. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 2 м, дыяметрам 10 м. Абапал курганоў прасочваюцца раўкі, захаванасць добрая. Адкрыў у 1979 г. і абследаваў у 1984 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3119. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 13 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Харомідкія, Лашанскі сельсавет**

**3120. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ГІБЕЛІ КАЗЕЯ** Марата Іванавіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка клуба. Герой Савецкага Саюза (1965 г.), юны партызан-разведчык 200-й брыгады імя К. К. Ракасоўскага М. І. Казей загінуў 11.5.1944 г. ў няроўным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, падарваўшы сябе і ворагаў гранатай. Пахаваны на радзіме ў в. Станькава Дзяржынскага р-на. У 1965 г. на месцы гібелі пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 837 «Магіла Казея Марата».



3121. *Курганны могільнік. План.*

**в. Хатляны, Любяцкі сельсавет**

**3121. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У цэнтры вёскі. Захаваліся 7 насыпаў вышынёй 1,5 м, дыяметрам 3—4 м. Вядомы з 1905 г. Абследаваў у 1977—79 гг. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**3122. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 119 землякоў з вёсак саўгаса «Дружба», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**3123. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з драўляных брусоў.

Пяцізрубны крыжова-купальны храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Вялікі купал над цэнтральным зрубам мае чатырох'ярусную складаную канструкцыю: на чацверыку размешчаны васьмігранны светлавы барабан, на якім устаноўлены меншы ў сячэнні высокі васьмярык. Завяршае кампазіцыю шлемападобная галоўка на васьміграннай шыйцы. Па вуглах зруба ўзвышаюцца больш спрошчаныя канструкцыі яшчэ чатырох купалаў. Іх галоўкі размешчаны на васьмігранных барабанах, пастаўленых на чацверыках. Апсіда,



3122. *Помнік землякам.*



3123. *Царква.*

бабінец, бакавыя прыбудовы — пяціграннныя, аднолькавыя па форме і памерах, багата дэкарыраваны разьбой, накладнымі арнаментам і крыжамі. Разьба ўпрыгожвае ліштвы і сандрыкі прамавугольных аконных праёмаў. Уваход у храм вылучаны невялікім порцікам-навесам на двух слупах. Тарцы пакрыцця навеса закрыты разнымі прычэлінамі — тыповым элементам старажытнарускага драўлянага дойлідства. Столь у інтэр'еры падшыўная, акрамя падкупальнай прасторы. У цэнтры купал на ветразях. Дэкаратыўныя элементы адсутнічаюць. Памяшканні апсіды, бабінца, бакавых прыбудоў і цэнтральнага нефа злучаны паміж сабой арачнымі праёмамі.

Царква — помнік псеўдарускай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Цеплень, цэнтр сельсавета**

**3124. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Цепленька, на ўзгорку. Вышыня над поймай ракі 11 м. Пляцоўка памерам 60×80 м, з боку поля ўмацавана 2 валамі і ровам. Адкрыў у 1931 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1964 г. Ю. І. Драгун, у 1977 г. і 1979 г. Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт больш як 0,5 м. У ім знойдзены ляпная штрыхаваная кераміка, рэшткі гладкасценнага посуду, фрагменты ганчарных гаршкоў. Датуецца 7 ст. да н. э.— 10 ст. н. э. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і ранняга феадалізму.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі.— Савецкая краіна, 1932, № 5. *Л. У. Калядзінскі.*




3123. *Царква. План.*

**3125. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Цялякава, цэнтр сельсавета**

**3126. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 35 воінаў і партызан, сярод іх — партызаны 200-й брыгады імя К. К. Ракасоўскага, 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на шашы Мінск — Слуцк каля в. Цялякава. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3127. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 93 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1963 г. пастаўлены абеліск, абапал яго — 2 сцяны з імёнамі загінуўшых.

**в. Чарамічнае, Камянкоўскі сельсавет**

**3128. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 11 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чурылава, Уздзенскі сельсавет**

**3129. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3130. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і 2 сцяны з імёнамі загінуўшых.

**3131. РАДЗІМА ЯКІМОВІЧА** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) Алесь (Аляксандр Іванавіч)



3124. *Гарадзішча.*




3126. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Якімовіч нарадзіўся 4.1.1904 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. У 1926 г. скончыў Белпедтэхнікум, у 1930 г.— літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. З 1924 г. працаваў у рэдакцыях дзіцячых часопісаў «Беларускі піянер», «Іскры Ільіча», з'яўляўся членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны выкладаў у адной з сярэдніх школ Татарыі, потым быў адказным сакратаром раённай газеты ў Казахстане. З кастрычніка 1942 г. у Чырвонай Арміі, камандзір стралковага ўзвода, роты. У 1945—48 гг. працаваў у часопісе «Бярозка», у 1948—54 гг.— у Дзяржаўным выдавецтве БССР. У 1955—60 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

Друкаваўся з 1923 г. Першая кніга — «Вершы» (1925 г.). Пачынаючы са зборніка апавяданняў «Гул бубна» (1925 г.), пісаў пераважна для дзяцей. У прыгодніцкіх аповесцях «Перамога» (1932 г.), «Незвычайны мядзведзь» (1934 г.) адлюстравана класавая барацьба ў вёсцы, удзел у ёй піянераў і школьнікаў. Жыццю савецкай краіны 1930-х гг. прысвяціў зборнік «Залаты дуб» (1937 г.), гераічным справам юных патрыётаў у Вялікую Айчынную вайну — «Помста» (1946 г.), пасляваенным будням, выхаванню юнага пакалення — «Сябры» (1948 г.), «Я — юны піянер» (1952 г.), аповесці

«Гаворыць Масква» (1951 г.), «Смелыя людзі» (1960 г.). У аповесці «Базылёў курган» (1954 г.) расказаў пра змрочныя часы прыгону. Тэме гістарычнага мінулага роднага краю, барацьбы беларускага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне прысвечаны аповесці «Адкуль ліха на свеце» (1963 г.), «Канец сервітуту» (1966 г.), «Кастусь Каліноўскі» (1971 г.), за якія аўтару прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР 1974 г. На аснове фальклору пісаў літаратурныя казкі («Каваль Вярнідуб», «Казка пра смелага вожыка» і інш.), апрацоўваў беларускія народныя казкі «Каток — залаты лабок» (1955 г.), «Бацькаў дар», «Мужык і жонка» (1957 г.). Перакладаў творы А. Пушкіна, І. Крылова, П. Яршова, М. Някрасава, І. Тургенева, У. Маякоўскага, К. Чукоўскага, С. Маршака, С. Міхалкова. Выдадзены Выбраныя творы ў 2 тамах (1967 г.), Збор твораў у 3 тамах (1978—80 гг.).



**3130.** *Помнік землякам.*

А. Якімовіч памёр 15.1.1979 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названа Зенькавіцкая сярэдняя школа ў Уздзенскім раёне.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Яршы, Нёманскі сельсавет**

**3132. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**3133. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, па левым беразе р. Нёман. Цягнецца палосай уздоўж берага ракі па 170—180 м, шырынёй да 40—50 м. Выявіў і абследаваў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1985 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена кераміка 14 ст. і больш позняга часу, кавалкі шлаку, перапаленыя камяні, косці жывёл. Раскопкі не праводзіліся.




# ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН




Цэнтр раена

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XXXV. ЧЭРВЕНЬ



XXXV. *Плошча Свабоды.*

Горад (да 18.9.1923 г. Ігумен), цэнтр раёна. Размешчаны на р. Чэрвенка (Ігуменка), прытоку р. Волма, за 62 км на паўднёвы ўсход ад Мінска, 30 км ад чыгуначнай станцыі Пухавічы на лініі Мінск — Асіповічы, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Магілёў.

Ігумен вядомы з 1387 г. З 1-й паловы 15 ст. прыватны маёнтак князёў Кежгайлаў, з 1447 г. мястэчка, належаў віленскім епіскапам. Уваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага, потым Рэчы Паспалітай. З сярэдзіны 16 ст. у Мінскім ваяводстве.

У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. у наваколлі Ігумена казакі разам з сялянамі ў студзені 1649 г. разграмілі атрад шляхты і наёмнікаў літоўскага харунжага Я. Паца.

З 1793 г. Ігумен у складзе Расіі. 3 мая 1795 г. горад, цэнтр павета Мінскай губерні. З 1796 г. меў герб: на блакітным полі сярэбраны букет, над якім 5 залатых пчол. У 1825 г. у Ігумене каля 900 жыхароў, 130 дамоў, 2 царквы, 10 крам, лазня, карчма; у 1837 г.— 14 вуліц і завулкаў, 2 плошчы. Паводле перапісу 1897 г. у горадзе 4573 жыхары (60,1 % пепісьменных), 922 двары. У выніку войнаў і пажараў горад неаднаразова разбураны, прыходзіў у заняпад. У час пажару 1899 г. згарэла 137 дамоў і 125 надворных пабудоў. На 1904 г. налічвалася больш за 5,1 тыс. жыхароў, 664 дамы (з іх 28 мураваных), 2 гарбарныя заводы, 491 рамеснік, 6 корчмаў, 2 бальніцы на 15 і 9 ложкаў, чатырохкласнае гарадское вучылішча, чытальня, друкарня, аптэка, аптэчны магазін, фатаграфія; 17 вуліц і завулкаў, якія асвятлялі 96 газавых ліхтароў. У 1905 г. у Ігумене дзейнічала сацыял-дэмакратычная арганізацыя, у кастрычніку адбылася стачка.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. Дзейнічаў чырвонагвардзейскі атрад на чале з бальшавіком Б. С. Гарбачовым. У лютым — снежні 1918 г. Ігумен быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У жніўні 1919 г. заняты войскамі буржуазнай Польшчы. Горад вызвалены 9.7.1920 г. часцямі 16-й арміі (камандуючы М. У. Салагуб). У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі быў створаны і дзейнічаў Ігуменскі павятовы рэўком. З 1924 г. цэнтр раёна Мінскай акругі (да 1930 г.), з 1938 г.— Мінскай вобл. У 1926 г.— 4,9 тыс., у 1939 г.— 6,4 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну з канца чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (кастрычнік 1942 г.—3.7.1944 г.) і ЛКСМБ (2.7.1941 г.— 3.7.1944 г.), камуністычнае падполле, партызанскія брыгады «Чырвоны сцяг», імя газеты «Правда», імя М. А. Шчорса, імя С. М. Кірава, 1-я Мінская, «За Савецкую Беларусь», «Разгром», «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, Асіповіцкая ваенна-аператыўная група і інш. партызанскія фарміраванні. Вызвалены 2.7.1944 г. воінамі 348-й і 110-й стралковых дывізій і партызанамі. 8,2 тыс. жыхароў у 1959 г., 10,2 тыс. жыхароў у 1970 г.

Горад мае рэгулярную квартальную планіроўку, якая склалася на аснове структуры старажытнага пасялення. Забудоўваецца паводле генеральных планаў 1958 г. (распрацаваны Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам па будаўніцтву ў вёсцы), 1968 г. (інстытут «Белдзяржпраект»), 1985 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва), а таксама праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1982 г.

Сетка вуліц падпарадкавана напрамкам асноўных гарадскіх транспартных ліній — вуліцам Мінскай, К. Лібкнехта і перпендыкулярным ім вуліцам Ленінскай і Зяневіча. У месцы іх злучэння ўтворана пл. Свабоды. Тут размешчаны будынак райкома КПБ і райвыканкома, аддзялення сувязі і раённай цэнтральнай бібліятэкі; у цэнтры плошчы разбіты сквер. На плошчы і вул. К. Маркса, паралельнай вул. К. Лібкнехта, склаўся грамадскі цэнтр Чэрвеня. Сучасная двух-пяціпавярховая жылая забудова сканцэнтравана на вул. Мінскай і ў паўднёвай частцы горада — мікрараёне па вул. Барыкіна.

Працуюць хлебазавод, міжкалгасбуд, агароднінасушыльны, малочны заводы, леспрамгас, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, лягсас, камбінат бытавога абслугоўвання, аб'яднанне камунальных прадпрыемстваў, раённае аграпрамысловае аб'яднанне (за 3 км ад Чэрвеня ў в. Астравы), Мінская абласная дзяржаўная сельскагаспадарчая доследная станцыя і яе эксперыментальная база «Натальеўск» (за 1 км ад горада, у в. Натальеўск).

У горадзе сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 4 дзённыя сярэднія, завочная, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дзіцячых дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, народны музей баявой славы пры сярэдняй школе № 2, 2 бальніцы, паліклініка, аптэка, санэпідэміялагічная станцыя. Выдаецца раённая газета «Уперад». Помнікі: У. І. Леніну; Г. П. Барыкіну;



XXXV. *Будынак раённай цэнтральнай бібліятэкі.*



XXXV. *Плошча Свабоды. Дом Саветаў.*



XXXV. *Забудова плошчы Свабоды.*

А. К. Флегантаву; моладзі і камсамольцам, што загінулі ў барацьбе за Савецкую ўладу і супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў; Вызвалення; землякам.

Зона адпачынку — лесапарк.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2—3.— Мн., 1960—61; Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. XXII. Минская губерния.— СПб., 1904; Города России в 1904 году.— СПб., 1906; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71: Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Пянкрат М. М. Чэрвень: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1977.

*Г. І. Дулеба, У. В. Алісейчык.*

**3134. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. А. Кашавога, на могілках. Пахаваны 46 воінаў, што аддалі жыццё за Радзіму ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 348-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту і 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Чэрвеня. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3135. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. А. Кашавога, на могілках. Пахаваны 43 воіны, якія аддалі жыццё за Радзіму ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 348-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту і 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Чэрвеня. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



XXXV. *Забудова вуліцы Мінскай.*

**3136. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. А. Кашавога, на могілках. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3137. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. А. Кашавога, на могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. А. Кашавога, на могілках. Пахаваны намеснік камандзіра дывізіі палкоўнік Міньяр Баталавіч Рахматулін і камандзір артпалка падпалкоўнік Ягор Станіслававіч Шутаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г., а таксама Герой Савецкага Саюза Георгій Пііліпавіч Барыкін і адзін з арганізатараў партызанскага руху ў РСФСР і на Беларусі Аляксей Канідзіевіч Флегантаў.

Г. П. Барыкін нарадзіўся 17.2. 1916 г. у в. Ячмянёва Шадрынскага р-на Курганскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў артылерыйскую школу ў Полацку. На фронце з чэрвеня 1942 г. Камандзір батарэі 144-га знішчальна-супрацьтанкавага артылерыйскага палка 4-й знішчальна-супрацьтанкавай артылерыйскай брыгады капітан Г. П. Барыкін вызначыўся ў верасні 1943 г. у баях за Духаўшчыну і Рудню Смаленскай вобл. Батарэя пад камандаваннем Г. П. Барыкіна адбіла атакі гітлераўцаў і прымусіла іх адступіць, знішчыла 6 танкаў, некалькі агнявых кропак праціўніка і дзесяткі гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза Г. П. Барыкіну прысвоена 4.6.1944 г. У чэрвені — ліпені 1944 г. удзельнічаў у вызваленні Беларусі. 4.7.1944 г. у баі каля Чэрвеня ворагу ўдалося акружыць батарэю Г. П. Барыкіна; усе байцы загінулі. Г. П. Барыкін адстрэльваўся да апошняга патрона. У Чэрвені імем Г. П. Барыкіна названа вуліца, пастаўлены помнік.

А. К. Флегантаў нарадзіўся 4.3. 1888 г. у с. Алочы Нерчынска-Заводскага р-на Чыцінскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1919 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны, барацьбы за Савецкую ўладу на Далёкім Усходзе. У 1920—22 гг. камандзір 1-й Амурскай дывізіі, камандзір партызанскіх атрадаў Прымор'я. Пазней на савецкай і гаспадарчай рабоце ў Хабараўску, Кіеве, Маскве. У Чырвонай Арміі з лета 1941 г., потым накіраваны ў распараджэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Удзельнічаў у арганізацыі партызанскага руху ў Смаленскай і Маскоўскай абласцях. У 1942 г. пад Масквой аргані-



3142. *Помнік Г. П. Барыкіну.*

заваў і ўзначаліў кавалерыйскі атрад, які ў жніўні 1942 г. накіраваны ў тыл ворага, на акупіраваную тэрыторыю Беларусі. З кастрычніка 1942 г. камандзір партызанскай брыгады «За Радзіму», якая да сакавіка 1943 г. дыслацыравалася на тэрыторыі Чэрвеньскага р-на. 11.3.1943 г. загінуў у баі з карнікамі ў Асіповіцкім р-не Магілёўскай вобл. 29.4.1943 г. партызанскай брыгадзе «За Радзіму» прысвоена яго імя. У Чэрвені імя А. К. Флегантава прысвоена вуліцы і сярэдняй школе № 2, на ўшанаванне яго памяці пастаўлены помнік.

У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969; Козлов В. И. Люди особого склада.— Мн., 1973; Осипов Б. В. Биография пишется смолоду: (О А. К. Флегонтове).— М., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**3139. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Замятоўская. Пахавана больш за 2 тыс. мірных жыхароў, якіх 2.2.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3140. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АБВЯШЧЭННЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). Плошча Свабоды, 8. Устаноўлена ў 1979 г. на доме, у якім у 1917 г. была абвешчана Савецкая ўлада ў горадзе.

У сакавіку 1917 г. у Чэрвень (на той час Ігумен) прыйшла вестка аб перамозе Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Працоўныя горада падтрымалі петраградскі і маскоўскі рэвалюцыйны пралетарыят стачкамі, дэманстрацыямі і мітынгамі. Быў створаны Ігуменскі павятовы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ў лістападзе 1917 г. абвясціў аб пераходзе ўсёй улады да Савета. Вялікую работу па ўсталяванню ў павеце Савецкай улады праводзіў бальшавік Б. С. Гарбачоў. Ён арганізаваў і ўзначаліў чырвонагвардзейскі атрад, які вёў рашучую барацьбу з контррэвалюцыйнымі элементамі за ўсталяванне рэвалюцыйнага парадку ў горадзе і павеце. Былі праведзены першыя мерапрыемствы, накіраваныя на ўстанаўленне рабочага кантролю над грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадукцыі, паляпшэнне ўмоў працы і быту працоўных, на барацьбу з разрухай і спекуляцыяй.

*Літ.:* Пянкрат М. М. Чэрвень: Гісторыка-эканамічны нарыс.— Мн., 1977. *Г. І. Дулеба.*

**3141. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЧЭРВЕНЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Пл. Свабоды, 8, на будынку раённай цэнтральнай бібліятэкі. Устаноўлена ў 1984 г. у гонар Чэрвеньскага падпольнага райкома КП(б)Б, які дзейнічаў у Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1942 г. да 3.7.1944 г. Гл. артыкул № 3248 «Мемарыяльны комплекс «Разгром».

**3142. ПОМНІК БАРЫКІНУ** Георгію Піліпавічу (гіст.). На вул. Барыкіна. На ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза, удзельніка вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Г. П. Барыкіна ў 1974 г. устаноўлены скульптурны партрэт героя. Гл. таксама артыкул № 3138 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».



3143. *Помнік Вызвалення.*

**3143. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Мінскай.

Чэрвень быў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў канцы чэрвеня 1941 г. Гітлераўцы ператварылі яго ў моцны пункт абароны, сканцэнтравалі тут значную колькасць жывой сілы і баявой тэхнікі. Баі за вызваленне горада і раёна пачаліся 1.7. 1944 г. Вораг аказваў савецкім войскам упартае супраціўленне. Аднак часці 348-й стралковай дывізіі (генерал-маёр М. А. Нікіцін) 3-й арміі 1-га Беларускага фронту і 110-й стралковай дывізіі (палкоўнік С. М. Тарасаў) 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якіх падтрымлівалі партызаны брыгад імя С. М. Кірава (камандзір М. І. Карашкоў, камісар Г. М. Папшаў) і імя газеты «Правда» (камандзір С. Т. Кузняцоў, камісар П. І. Багамолаў), «Чырвоны сцяг» (камандзір І. З.



3144. *Помнік землякам.*



3145. *Помнік землякам.*

Кузняцоў, камісар В. П. Каралёў), зламалі ўпартае супраціўленне і ліквідавалі Чэрвеньскі вузел абароны праціўніка. 2.7.1944 г. вызвалены г. Чэрвень і значная частка раёна, поўнасцю раён вызвалены 11.7.1944 г.

У гонар вызвалення Чэрвеня і раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1967 г. пастаўлены помнік — гармата на насыпным кургане.

*Літ.:* Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974; Иваненко П. В родных местах: Воспоминания подпольщика и партизана.— Мн., 1971.

*Г. І. Дулеба.*

**3144. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На пл. Свабоды, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1959 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам, у 1984 г.— мемарыяльная сцяна з выявамі 3 воінаў і памятным надпісам.

**3145. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На вул. Мінскай. На ўшанаванне памяці 117 жыхароў вёсак калгаса «Бальшавік», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік (скульпт. А. Анікейчык, Б. Івонцьеў, архіт. В. Занковіч, Л. Левін; бетон, мармуровая крошка; вышыня 3,5 м).

Кампазіцыя помніка складаецца з 2 частак, размешчаных асіметрычна. На п'едэстале ўстаноўлены 3 скульптурныя фігуры — 2 воінаў і партызана. Выразныя жэсты рук, што сціскаюць зброю, мужныя валявыя твары адлюстроўваюць унутраную сабранасць, рашучасць змагароў. Мадэліроўка форм абагульненая. Фонам скульптурнай кампазіцыі з'яўляецца выцягнутая па гарызанталі мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.

*Г. М. Ярмоленка.*

**3146. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Свабоды, перад будынкам райкома КПБ і выканкома раённага Савета народных дэпутатаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**3147. ПОМНІК МАТУСЕВІЧ** Марыі Мікалаеўне **І ШАМЕЦЬКА** Любе (гіст.). На вул. Мінскай. На ўшанаванне памяці ўдзельніц Чэрвеньскага камуністычнага падполля М. М. Матусевіч і партызанкі Л. Шамецька, якіх ў сакавіку 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты, у 1984 г. пастаўлена стэла.

**3148. ПОМНІК МОЛАДЗІ І КАМСАМОЛЬЦАМ** (гіст., маст.). На плошчы Свабоды, у скверы.

Камсамольцы і моладзь Чэрвеньшчыны ўпісалі слаўную старонку ў летапіс змагання за Савецкую ўладу. Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый яны вялі ўпартую барацьбу з контррэвалюцыйнымі сіламі ў перыяд Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі. У Вялікую Айчынную вайну юнакі і дзяўчаты раёна самааддана змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах, у партызанскіх атрадах і ў падполлі. На тэрыторыі часова акупіраванага гітлераўцамі раёна барацьбой маладых патрыётаў кіраваў падпольны райком ЛКСМБ. Ён дзейнічаў з ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. Сакратары: К. К. Краўчанка (да кастр. 1942 г.), К. М. Рагожына (кастр. 1942 г.— 20.2.1943 г.; сакратар па прапагандзе 20.2—26.10. 1943 г.), С. А. Пілатовіч (зацверджаны Мінскім міжрайкомам ЛКСМБ у кастрычніку 1942 г., прыступіў да абавязкаў у лютым 1943 г.), М. А. Шыпуля (26.10.1943 г.— 3.7.1944 г., сакратар па прапагандзе). Юнакі і дзяўчаты актыўна ўдзельнічалі ў дыверсіях на камунікацыях ворага, вялі палітычную работу сярод насельніцтва, збіралі разведданыя аб ворагу. У барацьбе з акупантамі загінулі М. М. Зяневіч, П. Куніцкі, М. М. Матусевіч, Л. Шамецька і інш. За баявыя заслугі перад Радзімай многія ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

На ўшанаванне памяці юнакоў і дзяўчат раёна, якія загінулі ў барацьбе з ворагамі Савецкай Радзімы, у 1972 г. пастаўлены помнік (скульпт. А. Дзям'янаў; бетон, беламармуровая крошка; вышыня 5,1 м) — двухфігурная скульптурная кампазіцыя: дзяўчына і юнак са сцягам. Фігуры як бы выступаюць з каменнага маналіту. Кампазіцыя вылучаецца кампактнасцю аб'ёмаў, стрыманасцю руху, плаўнасцю ліній і сілуэтаў. Святлоценявая мадэліроўка твараў мяккая, рысы старанна прапрацаваны. Маляўнічы эфект дасягнуты рознай фактурай апрацоўкі. На пастаменце — выявы 6 ордэнаў, якімі ўзнагароджаны ВЛКСМ.

*Літ.:* Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979.

*Г. І. Дулеба, Г. М. Ярмоленка.*

**3149. ПОМНІК ФЛЕГАНТАВУ** Аляксею Капідзіевічу (гіст.). На вул. К. Маркса. На ўшанаванне памяці актыўнага ўдзельніка Грамадзянскай вайны, партызанскага руху ў РСФСР і на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, камандзіра партызанскай брыгады «За Радзіму» А. К. Флегантава ў 1974 г. устаноўлены яго скульптурны партрэт. Гл. таксама артыкул № 3138 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызана».

**3150. РАДЗІМА БЛІАДУХО** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі геолаг, акадэмік АН БССР (1928 г.), прафесар (1926 г.) М. Ф. Бліадухо нарадзіўся 28.11.1878 г. у сям'і настаўніка. Скончыў Пецярбургскі горны інстытут у 1903 г. З 1903 г. працаваў у геалагічных экспедыцыях на Далёкім Усходзе і ў Сібіры. У 1922 г. начальнік Горнага аддзела Упраўлення СНГ Беларусі. З 1923 г. выкладчык, загадчык кафедры геалогіі БДУ. З 1926 г. старшыня Камісіі па вывучэнню прадукцыйных сіл БССР. З 1929 г. дырэктар Інстытута геалогіі і гідрагеалогіі Акадэміі навук БССР, адначасова старшыня прадстаўніцтва геалагічнага камітэта на Беларусі. М. Ф. Бліадухо адкрыў месцазнаходжанні золата, даламіту, мармуру і іншых каштоўных карысных выкапняў па Далёкім Усходзе і ў Сібіры. Арганізатар работ па геалагічнай здымцы і разведцы карысных выкапняў па Беларусі. Узначальваў экспедыцыі па даследаванню Аршанскай, Магілёўскай і Калінінскай акруг. Вывучаў мелавыя адклады і фасфарыты на р. Сож. На аснове гэтых даследаванняў пабудаваны Крычаўскі цэментны завод. Абгрунтаваў пастаноўку геафізічных даследаванняў і глыбокага бурэння ў Мінску, Полац-



**3148.** *Помнік моладзі і камсамольцам.*

ку, Бабруйску, Дамапавічах і інш. Паводле вынікаў геамагнітнай здымкі даў прагноз на выяўленне жалезарудных канцэнтрацый у нетрах БССР. Склаў першыя геалагічныя карты дачацвярцічных і чацвярцічных адкладаў, карысных выкапняў Беларусі. Асноўныя працы па геалогіі і карысных выкапнях БССР.

Памёр 13.1.1935 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**3151. РАДЗІМА ГУРЭВІЧА** Сямёна Шоламавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. Ш. Гурэвіч нарадзіўся 7.12.1915 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Тамбоўскае кавалерыйскае вучылішча ў 1942 г. З 1932 г. працаваў на заводзе ў Мінску. У Чырвонай Арміі з 1935 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Бранскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскіх франтах. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Днепрадзяржынска. 25.9.1943 г. камандзір узвода сувязі гвардыі лейтэнант С. Ш. Гурэвіч з групай сувязістаў пераправіўся цераз раку, наладзіў тэлефонную сувязь з палком, што садзейнічала наступленню дывізіі, ліквідаваў групу гітлераўцаў, якая прарвалася ў тыл савецкіх войск і пагражала пераправе. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена С. Ш. Гурэвічу 26.10.1943 г. Пасля вайны жыў у Мінску, працаваў на заводзе імя У. І. Леніна, на мэблевай фабрыцы. Памёр 23.4.1982 г. Пахаваны на Усходніх могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**3152. РАДЗІМА КАРАЛЯ** Уладзіміра Адамавіча (гіст.).

Беларускі савецкі дзяржаўны дзеяч і архітэктар, народны архітэктар СССР (1970 г.), Правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР (1979 г.), заслужаны будаўнік БССР (1962 г.) У. А. Кароль нарадзіўся 14.12.1912 г. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум у 1931 г., Усерасійскую акадэмію мастацтваў у Ленінградзе ў 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну ў складзе атрада народнага апалчэння ўдзельнічаў у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Ленінградскім фронце. З 1945 г. намеснік начальніка, з 1951 г. начальнік Упраўлення па справах архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР. У 1955—79 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па справах будаўніцтва, адначасова з 1959 г. загадчык кафедры горадабудаўніцтва Беларускага політэхнічнага інстытута.

У. А. Кароль зрабіў значны ўклад у развіццё і ўдасканаленне горадабудаўніцтва і архітэктуры, у стварэнне яркіх архітэктурна-мастацкіх ансамбляў і твораў манументальнага мастацтва. Сааўтар праектаў планіроўкі і забудовы Ленінскага праспекта і Кастрычніцкай плошчы, будынкаў паштамта і тэлеграфа ў Мінску. Удзельнічаў у распрацоўцы генплана і плана рэканструкцыі сталіцы Беларусі. Стварыў праекты шэрагу архітэктурных ансамбляў і асобных будынкаў у іншых гарадах БССР. Адзін з аўтараў манумента Перамогі (Мінск, 1954 г.) і мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» (1971 г.). Апублікаваў шэраг прац па пытаннях горадабудаўніцтва і архітэктуры, у т. л. «Архітэктурнае аблічча будучага Мінска» (1953 г.), «З вопыту сельскага будаўніцтва ў Беларускай ССР» (1973 г.). Рэдактар бюлетэня «Строительство и архитектура Белоруссии». Член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1952—54 гг., кандыдат у члены ЦК КПБ у 1956—80 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—80 гг. Дзяржаўная прэмія БССР 1968 г.

Памёр 28.5.1980 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У Мінску яго імем названа вуліца, на доме, дзе жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка; у Чэрвені яго імя прысвоена школе. *Г. І. Дулеба.*

**3153. РАДЗІМА СТАНЮТЫ** Міхаіла Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец М. П. Станюта нарадзіўся 19.9.1881 г. у сям'і служачага. Скончыў Мінскае гарадское чатырохкласнае вучылішча. У 1918—20 гг. вучыўся ў Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях у Маскве. У 1920—23 гг. загадчык аддзела выяўленчага мастацтва Галоўпалітасветы БССР, у 1927—30 гг. сакратар Усебеларускага аб'яднання мастакоў, пазней выкладчык малявання і чарчэння на рабфаку, у школах Мінска. Стварыў шэраг партрэтаў сучаснікаў і сюжэтна-тэматычных карцін. Сярод партрэтаў «Аўтапартрэт» (1921 г.), «Партрэт дачкі» (1923 г.), «Партрэт старога» (1925 г.), «Партрэт М. Філіповіча», «Студэнт» (абодва ў 1927 г.). Карціны «Бетоншчыкі» (1927 г.), «Будаўніцтва універсітэцкага гарадка» (1928 г.), «На будоўлі» (1929 г.), «Ліцейны цэх» (1931 г.) і інш. вызначаюцца актуальнасцю тэмы, выразнасцю кампазіцыі і малюнка. М. П. Станюта — адзін з ініцыятараў і арганізатараў 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі (1925 г.), удзельнік 2-й (1927 г.), 3-й (1929 г.), 4-й (1931 г.), 5-й (1932 г.) усебеларускіх і інш. мастацкіх выставак. У сувязі з 90-годдзем мастака была арганізавана выстаўка яго твораў у Мінску (1971 г.).

М. П. Станюта памёр 2.1.1974 г. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976; Дробов Л. Н. Живопись Советской Белоруссии (1917—1975 гг.).— Мн., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**3154. РАДЗІМА ШЧЭРБЫ** Льва Уладзіміравіча (гіст.).



**3149.** *Помнік А. К. Флегантаву.*

Рускі савецкі мовазнавец, акадэмік АН СССР (1943 г.), акадэмік АПН РСФСР (1944 г.) Л. У. Шчэрба нарадзіўся 20.2.1880 г. у сям'і інжынера. У 1903 г. скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З 1916 г. прафесар гэтага універсітэта. З 1943 г. працаваў у сістэме АН СССР і Акадэміі педагагічных навук РСФСР.

Даследаваў праблемы агульнага мовазнаўства, фанетыкі і фаналогіі, граматыкі, лексікаграфіі, графікі і арфаграфіі, методыкі выкладання моў. Адзін з стваральнікаў тэорыі фанемы. Заснавальнік ленінградскай фаналагічнай школы. Стварыў тэарэтычныя асновы сучаснай лексікаграфіі. Аўтар прац: «Усходнелужыцкія гаворкі» (т. 1—2, 1915 г.), «Фанетыка французскай мовы» (1937 г., 7-е выд., 1963 г.), «Руска-французскі слоўнік» (1936 г., 11-е выд., М., 1983 г., разам з М. І. Матусевіч), «Выкладанне замежных моў у сярэдняй школе. Агульныя пытанні методыкі» (М.; Л., 1947 г.), «Выбраныя працы па рускай мове» (М., 1957 г.), «Выбраныя працы па мовазнаўству і фанетыцы» (т. 1, Л., 1958 г.), «Моўная сістэма і моўная дзейнасць» (Л., 1974 г.) і інш.

Л. У. Шчэрба памёр 26.12.1944 г. у Маскве.

*Літ.:* Памяти академика Л. В. Щербы (1880—1944): Сб. статей.— Л., 1951.

*Г. І. Дулеба.*

**пас. Азёрны, Кліноцкі сельсавет**

**3155. ПОМНІК МАНЮШКУ** Станіславу (гіст.). На тэрыторыі санаторыя-прафілакторыя «Волма».

Польскі кампазітар, дырыжор і педагог, стваральнік нацыянальнай класічнай оперы, класік польскай вакальнай лірыкі С. Манюшка нарадзіўся 5.5.1819 г. у былым фальварку Убель (знаходзіўся непадалёку ад сучаснага пас. Азёрны) у сям'і дробнага шляхціца. З 1830 г. сям'я Манюшкаў жыла ў Мінску. Тут Станіслаў вучыўся ў гарадской гімназіі, браў урокі музыкі ў Д. Стафановіча. Потым вучыўся ў Берліне. З 1840 г. жыў у Вільні, служыў царкоўным арганістам, даваў урокі. З 1850 г. дырыжыраваў у оперным тэатры. З 1858 г. у Варшаве, дырыжор і дырэктар опернага тэатра, адначасова з 1864 г. прафесар Музычнага інстытута. Стварэнне першых вадэвіляў, музычных камедый, камічных опер С. Манюшкі звязана з Беларуссю. У Мінску дэбютаваў аперэтай «Канторскія служачыя» (1834 г.), тут у 1843 г. была пастаўлена «Латарэя», выдадзены 2 сшыткі эцюдаў для фартэпіяна. Сябраваў з беларускім пісьменнікам В. Дуніным-Марцінкевічам, на лібрэта якога напісаў аперэты «Рэкруцкі набор» і «Ідылія» (з К. Кжыжаноўскім, пастаўлены ў Мінску адпаведна ў 1841 г. і 1852 г.), «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада» (не захаваліся). С. Манюшка стварыў першыя нацыянальныя класічныя оперы. Найбольш папулярнай была опера «Галька» (пастаўлена ў 1854 г., у 1856 г. у Мінску, у 1975 г. на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР; пераклад лібрэта Я. Купалы). Вострасацыяльны характар, яркі нацыянальны каларыт, меладычнае багацце забяспечылі ёй поспех. Напісаў таксама оперы «Графіня» (1859 г.), «Вербум нобіле» («Слова гонару», 1860 г.), «Страшны двор» (1865 г., у 1952 г. упершыню ў СССР пастаўлены Дзяржаўным тэатрам оперы і балета БССР, пераклад лібрэта на беларускую мову М. Танка), «Парыя» (1869 г.). Аўтар кантат (у т. л. «Крымскія санеты» на словы А. Міцкевіча, 1869 г.), вакальна-сімфанічных балад, сімфанічных твораў (фантастычная уверцюра «Байка», прысвечаная А. Даргамыжскаму), струнных квартэтаў, фартэпіянных п'ес, больш за 300 песень, што ўвайшлі ў 12 «Хатніх спеўнікаў» (у т. л. 12 песень на словы беларускага і польскага паэта Я. Чачота). С. Манюшка ўнёс нацыянальныя рысы ва ўсе распрацаваныя ім жанры.

Памёр 4.6.1872 г. у Варшаве. У Азёрнаўскай школе створаны музей кампазітара.

У 1966 г. на месцы былой сядзібы Убель пад старой таполяй пастаўлена стэла з памятным надпісам на беларускай і польскай мовах і выявай некалькіх тактаў з оперы «Галька».

*Літ.:* Станислав Монюшко: Сб. статей.— М.; Л., 1952; Мальдзіс А. І. Станіслаў Манюшка.— У яго кн.: Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Рудзинский В. Монюшко: Пер. с польск.— М., 1960; Фукс М. Манюшка на Беларусі: Пер. з польск.— Полымя, 1967, № 6.

*А. І. Мальдзіс.*

**в. Арэхаўка, Грабянецкі сельсавет**

**3156. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 270 жыхароў Чэрвеньскага р-на, якіх вясной 1944 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Астравы, Вайнілаўскі сельсавет**

**3157. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3158. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ачыжа, Грабянецкі сельсавет**

**3159. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 180 жыхароў вёскі, якіх у маі 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Барсукі, Руднянскі сельсавет**

**3160. КУРГАН** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на ўзлессі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 5 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева.

**3161. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 2 курганы добрай захаванасці вышынёй 1,6—1,8 м, дыяметрам 8—9 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Буда (не існуе), Калодзежскі сельсавет**

**3162. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Буда знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Падсоснае. 10.11.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 83 яе жыхароў, знішчылі 25 двароў. Пасля вайны не адрадзілася. У 1984 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Бярозаўка, Лядскі сельсавет**

**3163. МАГІЛА КАЗАЧЭНКІ** Мікалая Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза М. М. Казачэнка нарадзіўся 19.12.1915 г. у в. Бярозаўка Чэрвеньскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б у 1949 г. З 1933 г. працаваў рахунказодам на радзіме. У 1937—40 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Прымаў удзел у вызваленні Заходняй Беларусі ў 1939 г., у савецка-фінляндскай вайне 1939—40 гг. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны быў трактарыстам у Лядскай МТС. З чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўночна-Каўказскім, 3-м Украінскім і інш. франтах. Удзельнік абарончых баёў на Беларусі, абароны Масквы. Камандзір аддзялення 112-га армейскага інжынернага батальёна 37-й арміі гвардыі старшы сяржант М. М. Казачэнка вызначыўся 3.10.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра каля Ніжнедняпроўска. Байцы аддзялення М. М. Казачэнкі пад моцным агнём ворага пабудавалі прыстань і пераправілі цераз раку на пароме 1700 воінаў, 60 павозак з боепрыпасамі, 120 коней, шмат амуніцыі, зброі. Званне Героя Савецкага Саюза М. М. Казачэнку прысвоена 20.12.1943 г. Пасля вайны працаваў бухгалтарам, у 1949—76 гг. на партыйнай і гаспадарчай рабоце ў Мінску. Памёр 21.3.1977 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Вайнілава, цэнтр сельсавета**

**3164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 171 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Ваўкавыск, Валявацкі сельсавет**

**3165. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, каля могілак, на невялікім узвышшы. Пляцоўка круглаватая, дыяметрам 96 м, умацавана валам вышынёй 1,5—2 м, шырынёй 2—3 м. Адкрыў і абследаваў у 1968 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Культурны пласт 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ведрыца, Хутарскі сельсавет**

**3166. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3167. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 218 землякоў з Хутарскага сельсавета, якія загінулі за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — стэла з выявамі твараў мужчыны і жанчыны і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Вялікаполле, Калодзежскі сельсавет**

**3168. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.



3167. *Помнік землякам.*

**в. Вялікая Ганута, Хутарскі сельсавет**

**3169. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Гарадзішча, Смілавіцкі сельсавет**

**3170. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Горад, на высокім прыродным узвышшы. Пляцоўка памерам 30×42 м умацавана 2 валамі вышынёй каля 2,5 м і равамі глыбінёй 2 м. У паўднёвай частцы валы і равы заараны. Вядома з 1886 г., абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1979 г. С. М. Васільева. Культурны пласт 0,5—0,8 м. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадзішча, Хутарскі сельсавет**

**3171. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на высокім правым беразе р. Уса. Пляцоўка круглаватая, дыяметрам 74 м, з трох бакоў умацавана валам вышынёй 1—2 м, шырынёй 4,5 м. Вядома з 1887 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**3172. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Уса. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 1,2 м, дыяметрам 5 і 9 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадок, Лядскі сельсавет**

**3173. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Дабрыца, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка амаль чатырохвугольная, памерам 115×100 м, з паўночнага боку абмываецца ракой. З захаду, усходу і поўдня ўмацавана 2 валамі вышынёй каля 2,5 м і равамі глыбінёй каля 3 м. Яшчэ адзін вал і роў прасочаны з заходняга і ўсходняга бакоў. Гарадзішча зарасло лесам і здзірванела. Абследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. У шурфе памерам 4×2 м культурны пласт 0,4 м. Выяўлены круглыя і авальныя ямы ад слупоў, знойдзены камяні, шлак, косці жывёл, крэмень, рэшткі ляпной керамікі, частка якой пакрыта штрыхамі. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.). — Мн., 1974.

*С. М. Васільева.*



3165. *Гарадзішча. План.*



3170. *Гарадзішча. План.*




3171. *Гарадзішча. План.*

**в. Горкаўская Слабада, Лядскі сельсавет**

**3174. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ЧЫРВОНЫ СЦЯГ»** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну ў лесе паблізу вёскі базіравалася партызанская брыгада «Чырвоны Сцяг». Створана ў жніўні 1943 г. паводле рашэння міжраённага падпольнага камітэта КП(б)Б Мінскай зоны з атрадаў «Чырвоны сцяг» і імя К. Я. Варашылава, якія раней уваходзілі ў склад брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава. Камандзір І. З. Кузняцоў, камісар В. П. Каралёў. Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Чэрвеньскага, Барысаўскага, Пухавіцкага, Смалявіцкага р-наў Мінскай вобл. і Асіповіцкага, Бярэзінскага р-наў Магілёўскай вобл. Народныя мсціўцы праводзілі баявыя аперацыі на камунікацыях ворага, на чыгуначных, шашэйных і грунтавых дарогах, грамілі варожыя гарнізоны ў вёсках Якшыцы, Чырвоны Вугал, Хутар Бярэзінскага р-на. У жніўні — верасні 1943 г. на чыгуначных участках Жодзіна — Смалявічы, Талька — Пухавічы падарвалі больш за 560 рэек. У жніўні — лістападзе 1943 г. правялі 84 дыверсіі па падрыву варожых эшалонаў, спалілі 27 аўтамашын, разбурылі 22 масты. Восенню 1943 г. і вясной 1944 г. ва ўзаемадзеянні з брыгадамі імя газеты «Правда», 1-й Мінскай, імя С. М. Кірава, «Полымя» вялі жорсткія баі з карнікамі. У канцы чэрвеня 1944 г. нанеслі ўдары па адступаўшаму праціўніку ў раёне шашы Магілёў—Мінск, паралізавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь. Удзельнічалі ў вызваленні ад акупантаў Чэрвеня, вёсак Карпілаўка, Хутар, Стары Пруд Чэрвеньскага р-на. 30.6.1944 г. брыгада ў складзе атрадаў «Чырвоны сцяг», імя К. Я. Варашылава, імя М. В. Фрунзе, імя М. Ф. Гастэлы (усяго 818 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Партызаны прымалі ўдзел у вызваленні Чэрвеня і Чэрвеньскага р-на.



3177. *Гарадзішча. План.*



3180. *Помнік землякам.*

У 1965 г. у гонар брыгады «Чырвоны Сцяг» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**в. Грабёнка, Валявацкі сельсавет**

**3175. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 партызан, якія загінулі ў 1942 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3176. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3177. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Акопы. Пляцоўка круглаватая, дыяметрам 69 м. З заходняга, паўднёва-заходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў захаваўся вал вышынёй каля 2 м, шырынёй 3,5 м. Вядома з 1879 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. У агаленнях паўднёва-заходняй часткі пляцоўкі культурны пласт 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**3178. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Грабянец, цэнтр сельсавета**

**3179. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дамавіцк, Раваніцкі сельсавет**

**3180. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 159 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Дубаўручча, Раваніцкі сельсавет**

**3181. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 14 воінаў і партызан, што загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 240 жыхароў вёскі, у т. л. старыя, жанчыны, дзеці, якіх 17.11. 1942 г. расстралялі ці спалілі жывымі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам і 2 стэлы, на якіх выбіты імёны загінуўшых.

*Літ.:* Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Дубнікі, Калодзежскі сельсавет**

**3182. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3183. МАГІЛА ДЗЕНІСЕВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «Чырвоны сцяг» (пазней у складзе брыгады «Чырвоны сцяг») І. І. Дзенісевіч загінуў 15.11.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена пліта.

**3184. МАГІЛА КАЎКО** Мікалая Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан М. М. Каўко загінуў у 1944 г. у баі



3181. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў.*

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3185. МАГІЛА ЛАДУЦЬКІ** Аляксандра Васільевіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Чырвоны Сцяг» А. В. Ладуцька загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3186. МАГІЛА ПРЫМАКІ** Пятра Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады імя С. М. Кірава П. І. Прымака загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3187. МАГІЛА ПРЫШЫВАЛКІ** Аляксандра Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. В. Фрунзе (пазней у складзе брыгады «Чырвоны сцяг») А. П. Прышывалка загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3188. МАГІЛА РУНЦО** Пятра Іванавіча **І СКАЛБАНА** Мікалая Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Партызаны П. І. Рунцо і М. С. Скалбан загінулі ў 1942 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3189. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Дубовы Лог, Рудняиcкі сельсавет**

**3190. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі (каля ўезда ў вёску), побач з жывёлагадоўчай фермай. 6 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 3,5—7,5 м. Выявіла і абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**3191. РАДЗІМА ДУЛЕБЫ** Антона Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Дулеба нарадзіўся 14.1.1920 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Мінскі індустрыяльна-тарфяны тэхнікум (1937 г.), курсы малодшых камандзіраў (1941 г.), Вышэйшую афіцэрскую бранятанкавую школу (1948 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1954 г.). Пасля заканчэння тэхнікума працаваў тэхнікам-землеўпарадчыкам. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1942 г. на Паўднёва-Заходнім, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся ў баі 29—30.1.1945 г. Кавалерыйскі эскадрон пад камандаваннем старшага лейтэнанта А. М. Дулебы фарсіраваў р. Одэр, выбіў праціўніка з населенага пункта Прытаг, замацаваўся на плацдарме і 2 дні адбіваў атакі праціўніка. Калі 30.1.1945 г. кавалерыйскі эскадрон трапіў у акружэнне, А. М. Дулеба арганізаваў прарыў варожага кальца, выратаваў людзей і зброю. Званне Героя Савецкага Саюза А. М. Дулебе прысвоена 27.2.1945 г. Да 1969 г. у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 13.12.1983 г. Пахаваны ў г. Хмяльніцкі Украінскай ССР.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Дыя, Вайнілаўскі сельсавет**

**3192. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, уздоўж дарогі ў в. Зялёнкі. 9 насыпаў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 3—8 м. Вядомы з 1930 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Залессе, Валявацкі сельсавет**

**3193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Замасточча, Руднянскі сельсавет**

**3194. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3196. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3197. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**3197а.** Могільнік-1. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Слабада. 17 насыпаў вышынёй 0,6—1,5 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**3197б.** Могільнік-2. За 3,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі ў в. Слабада. 3 насыпы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—10 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся. *С. М. Васільева.*

**в. Запасенне, Валявацкі сельсавет**

**3198. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 37 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заполле, Смілавіцкі сельсавет**

**3199. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зенанполле, Лядскі сельсавет**

**3200. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 12 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1919 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы, а таксама 57 воінаў і 63 партызаны, што загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-



**3190.** *Курганны могільнік. План.*



**3192.** *Курганны могільнік. План.*



**3197а.** *Курганны могільнік-1. План*

фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — партызаны брыгады «Чырвоны Сцяг». У 1957 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура партызана і 4 абеліскі. *Г. І. Дулеба.*

**в. Іванічы, Кліноцкі сельсавет**

**3201. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3202. КУРГАН** (археал.). За 0,9 км на паўночны ўсход ад вёскі. Вышыня 2,5 м, дыяметр 8 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева.

**3203. КУРГАН** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе, каля дарогі, на левым беразе р. Волма. Вышыня 1,5 м, дыяметр 4,5 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева.

**3204. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 33 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**3205. ПОМНІК У ГОНАР 1-й МІНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля будынка фельчарска-акушэрскага пункта. У Вялікую Айчынную вайну за 3 км на поўдзень ад вёскі, у лясным урочышчы Кляновіца базіравалася 1-я Мінская партызанская брыгада.

Брыгада створана 31.8.1942 г. Мінскім (легальным) абкомам КП(б)Б у Суражскім р-не з асобных атрадаў М. М. Джагарава, А. І. Драптусава, У. А. Чармянёва, М. Ф. Калуцкага, якія дзейнічалі да жніўня 1942 г. на тэрыторыі Барысаўска-Бягомльскай зоны. Камандзіры брыгады М. Х. Балан (верасень 1942 г.—чэрвень 1943 г.), Е. А. Іваноў (з чэрвеня 1943 г.); камісары: І. В. Чэпелеў (да кастрычніка 1942 г., загінуў), Г. Н. Раманаў (лістапад 1942 г.— сакавік 1943 г.), Е. А. Іваноў (красавік — чэрвень 1943 г.), В. П. Сушкевіч (з кастрычніка 1943 г.). У верасні 1942 г. брыгада прыбыла ў Чэрвеньскі р-н. Яна вяла таксама баявыя дзеянні на тэрыторыі Пухавіцкага, Рудзенскага, Мінскага і інш. р-наў. Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Мінск — Барысаў, Мінск — Асіповічы, на шашэйных і грунтавых дарогах. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Ляды Смалявіцкага, в. Дукора Рудзенскага р-наў, пусцілі пад адхон больш за 400 эшалонаў, узарвалі і пашкодзілі каля 20 км рэек, 70 мастоў, знішчылі шмат баявой тэхнікі праціўніка. Удзельнічалі ў вызваленні Смілавіч, Рудзенска і інш. 29.6—3.7.1944 г. трымалі абарону на 18-кіламетровым участку. 3.7.1944 г. брыгада ў складзе атрадаў «Камсамол», імя Ф. П. Юрчанкі, імя А. В. Суворава, імя В. П. Чкалава (усяго 1222 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.



3213. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*

У 1975 г. у гонар 1-й Мінскай партызанскай брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Джагаров М. Костры партизанские.— 2 изд.— Мн., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**в. Калодзежы, цэнтр сельсавета**

**3206. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 67 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3207. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 139 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў барацьбе за Савецкую ўладу ў гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3208. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 савецкіх грамадзян, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3209. МАГІЛА ДЗЕРБАНА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Чырвоны сцяг» М. І. Дзербан загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3210. МАГІЛА МОТУСА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. І. Мотус загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3211. МАГІЛА ШУТА** Рыгора Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Партызан брыгады «Чырвоны Сцяг» Р. Ф. Шут загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каляіна, Лядскі сельсавет**

**3212. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карпілаўка, Валявацкі сельсавет**

**3213. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, у парку. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на брацкай магіле пастаўлены пілон і мемарыяльная сцяна, на якой высечаны імёны 133 землякоў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**3214. МАГІЛА САЛДАТАВА** Васіля Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін В. Дз. Салдатаў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Клінок, цэнтр сельсавета**

**3215. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 воіны і 76 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызаны брыгад імя газеты «Правда» і імя С. М. Кірава злучэння Мінскай вобл. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. *Г. І. Дулеба.*

**3216. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 0,4—1 м, дыяметрам 3,5—6,5 м. Абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**3217. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 78 жыхароў вёскі, якіх у ліпені 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупан-




3216. *Курганны могільнік. План.*

ты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3218. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ ГАЗЕТЫ «ПРАВДА»** (гіст.). У цэнтры вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ў лясах вакол вёскі базіравалася партызанская брыгада імя газеты «Правда».

Брыгада створана ў кастрычніку 1943 г. паводле рашэння Чэрвеньскага падпольнага райкома КП(б)Б з атрадаў імя газеты «Правда», «Перамога», імя М. І. Калініна, вылучаных 1-й Мінскай партызанскай брыгадай. Камандзір брыгады С. Т. Кузняцоў, камісары С. Е. Данільчык (да сакавіка 1944 г.), П. І. Багамолаў (з сакавіка 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Чэрвеньскага р-на. Праводзіла баявыя аперацыі пераважна на камунікацыях Мінск — Беразіно, Мінск — Асіповічы. Партызаны рабілі дыверсіі на дарогах, зрывалі перавозкі ваенных грузаў праціўніка, знішчалі тэлефонна-тэлеграфныя лініі, псавалі абсталяванне на прадпрыемствах ворага, пусцілі пад адхон больш за 160 чыгуначных эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, разбурылі больш за 100 мастоў, падарвалі больш як 2800 рэек, разграмілі варожыя гарнізоны ў Смілавічах, вёсках Дукарка, Блонь і інш. 3.7.1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў: імя газеты «Правда», «Перамога», імя М. І. Калініна, імя П. К. Панамарэнкі (усяго 983 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1975 г. у гонар партызанскай брыгады імя газеты «Правда» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**в. Красны Дар, Раваніцкі сельсавет**

**3219. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла з рэльефнай выявай галавы воіна і імёнамі загінуўшых.

**в. Крываполле, Валявацкі сельсавет**

**3220. МАГІЛА ЗАБАЎСКАГА** Аляксея Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан А. П. Забаўскі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кулікі, Смілавіцкі сельсавет**

**3221. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У паўднёвай частцы вёскі. На ўшанаванне памяці 17 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.




3219. *Помнік землякам.*

**3222. РАДЗІМА ПАДАЛЯКІ** Аляксандра Іванавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай працы А. І. Падаляка нарадзіўся 23.4.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. З 1936 г. працаваў слесарам у Мінску і Оршы. У Чырвонай Арміі з верасня 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну камандзір мінамётнага разліку, ваяваў на Волхаўскім, Паўднёва-Заходнім, 2-м Беларускім франтах. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. З 1957 г. працаваў слесарам-шліфоўшчыкам на Мінскім механічным заводзе. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена А. І. Падаляку ў 1971 г. за поспехі ў выкананні заданняў 8-й пяцігодкі, за ўдзел у арганізацыі вытворчасці новай тэхнікі.

Памёр 3.6.1978 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. *Г. І. Дулеба.*

**в. Кутузаўка, Руднянскі сельсавет**

**3223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лежні, Вайнілаўскі сельсавет**

**3224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Луч, Лядскі сельсавет**

**3225. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 220 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ляды, цэнтр сельсавета**

**3226. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 45 жыхароў вёскі, якіх 9.1.1943 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Майзарова, Грабянецкі сельсавет**

**3227. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3228. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Навадвор'е, Раваніцкі сельсавет**

**3229. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 26 партызан брыгады «Разгром», якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на могілках пастаўлены 7 абелiскаў.

**3230. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Градно, на левым беразе р. Уша, у хваёвым лесе. 3 насыпы вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 3—5,5 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Натальеўск, Калодзежскі сельсавет**

**3231. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС НА БРАЦКАЙ МАГІЛЕ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст., маст.). Непадалёку ад будынка Натальеўскага лясніцтва, каля дарогі Чэрвень — Смалявічы. Узведзены ў 1976 г. на магіле каля 50 савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў, якіх у верасні 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты.

Ідэйна-мастацкі акцэнт мемарыяла — скульптура смяротна параненага воіна (скульпт. А. Веліксонаў, архіт. Ю. Казакоў; бетон; вышыня скульптуры 7 м), устаноўлена на прадаўгаватым брусе каля ўзгорка-магілы. Воін быццам падае, узнятая рука ў паклічным жэсце. Ва ўсёй постаці — нязломнасць, упэўненасць у перамозе. З другога боку ўзгорка скульптуру ўраўнаважваюць бетонныя блокі няправільнай формы. Экспрэсія форм, прасторавая актыўнасць сілуэта скульптуры надаюць помніку эмацыянальную выразнасць. Ад дарогі да помніка вядуць



3231. *Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле ваеннапалонных і мірных жыхароў.*

5 пакрытых гравіем дарожак, паміж якімі газоны.
*Г. І. Дулеба, Г. М. Ярмоленка.*

**3232. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Магілёў. На ўшанаванне памяці 168 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — на шырокім ступеньчатым стылабаце скульптура воіна са схіленым сцягам і мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых.

**3233. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1957 г.

**в. Нежаўка, Валявацкі сельсавет**

**3234. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 78 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3235. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, у полі. Пахаваны 35 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у барацьбе супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1925 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новая Ачыжа, Грабянецкі сельсавет**

**3236. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Грабянецкі». На ўшанаванне памяці 117 землякоў, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлена стэла і 6 пліт з імёнамі загінуўшых.

**в. Новыя Зеляньні, Руднянскі сельсавет**

**3237. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3238. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 129 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Папова Града (не існуе), Грабянецкі сельсавет**

**3239. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Папова Града знаходзілася за 2 км на ўсход ад в. Дуброва. У маі 1944 г. знішчана нямецка-фашысцкімі акупантамі разам з жыхарамі (55 чалавек, 22 двары). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

У 1982 г. на месцы былой вёскі пабудаваны мемарыяльны комплекс. У пачатку мемарыяла пастаўлена стэла з памятным надпісам. На месцы кожнай спаленай хаты мемарыяльны знак — ніжні абпалены вянок зруба і сімвалічны чорны комін, на якім прымацавана таблічка з прозвішчамі загінуўшых жыхароў. Адноўлены 3 студні, зроблены макет рэшткаў згарэлага хлява, дзе былі загублены жыхары вёскі. Усе элементы мемарыяльнага комплексу звязаны сцежкамі, выкладзенымі камянямі. *Г. І. Дулеба.*

**в. Петравінка, Кліноцкі сельсавет**

**3240. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**3241. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Праўда, Руднянскі сельсавет**

**3242. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3243. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**3244. МАГІЛА КАНАПЕЛЬКІ** Паўла Кліменцьевіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну П. К. Канапелька нарадзіўся 10.9. 1912 г. у в. Праўда Чэрвеньскага р-на ў сялянскай сям'і. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў курсы малодшых камандзіраў. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны П. К. Канапелька — малодшы лейтэнант, камандзір узвода 125-га стралковага палка, які базіраваўся ў Брэсцкай крэпасці. У вайну з 22.6.1941 г. удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці. З жніўня 1943 г. партызан, камандзір аддзялення партызанскага атрада «Сцяг» брыгады «Разгром» Мінскай вобл. Загінуў 26.6. 1944 г. у час баявой аперацыі. Пасмя-



3232. *Помнік землякам.*



3245. *Помнік на брацкіх могілках партызан.*

ротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Героическая оборона: Сб. воспоминаний об обороне Брестской крепости в июне — июле 1941 г.— 4 изд.— Мн., 1971.
*Г. І. Дулеба.*

**в. Раваніцкая Слабада, Раваніцкі сельсавет**

**3245. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 239 партызан брыгады «Разгром», якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура параненага воіна з аўтаматам, 10 пліт з імёнамі загінуўшых, стэла з надпісам-прысвячэннем.

**3246. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа і злева ад дарогі ў в. Бышанка, у хвойніку, на правым беразе р. Уша. 6 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**3247. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 40 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.




3246. *Курганны могільнік. План.*

**3248. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «РАЗГРОМ»** (гіст.). За 3,5 км на паўночны захад ад в. Раваніцкая Слабада, у лесе. Тут у 1942—44 гг. базіраваліся міжраённы падпольны камітэт КП(б)Б Мінскай зоны, Чэрвеньскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб партызанскай брыгады «Разгром».

Міжраённы падпольны камітэт КП(б)Б Мінскай зоны дзейнічаў з 3.10.1942 г. Сакратары І. Л. Сацункевіч (да 15.3.1943 г.), І. П. Паромчык (з 15.3.1943 г.). Работу камітэта накіроўваў Мінскі падпольны абком КП(б)Б. Міжрайком КП(б)Б узначальваў партыйныя і падпольныя органы і арганізацыі, кіраваў партызанскім рухам і падпольнай барацьбой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праводзіў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва на тэрыторыі Дзяржынскага, Мінскага, Пухавіцкага, Рудзенскага і Чэрвеньскага р-наў. У кастрычніку 1942 г. стварыў у гэтых раёнах адпаведныя райкомы КП(б)Б (зацверджаны 7.12. 1942 г.), у снежні 1942 г.— Заслаўскі райком КП(б)Б (зацверджаны 3.1. 1943 г.). Выканаўшы задачы, спыніў 18.9.1943 г. сваё існаванне.

Чэрвеньскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з кастрычніка 1942 г. да 3.7.1944 г. Сакратары К. К. Краўчанка (першы), С. Е. Данільчык (другі, з 22.3.1944 г.). Райком кіраваў партызанскім рухам і падпольнай барацьбой супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, вёў палітычную работу сярод насельніцтва на тэрыторыі Чэрвеньскага р-на. Выдаваў падпольную газету «Червеньский партизан» (рэдактар У. А. Шыдлоўскі), антыфашысцкія лістоўкі.

Чэрвеньскі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 2.7.1941 г. да 3.7. 1944 г. Сакратары К. К. Краўчанка (да кастрычніка 1942 г.), К. М. Рагожына (кастрычнік 1942 г.— 20.2.1943 г., сакратар па прапагандзе 20.2—26.10. 1943 г.), С. А. Пілатовіч (з 20.2.1943 г.), М. А. Шыпуля (сакратар па прапагандзе з 26.10.1943 г.). Работу райкома камсамола накіроўваў Чэрвеньскі падпольны райком КП(б)Б. Райком ствараў пярвічныя камсамольскія арганізацыі ў партызанскіх фарміраваннях, вёў работу па арганізацыі камсамольска-маладзёжнага падполля, праводзіў палітыка-выхаваўчую работу сярод моладзі на тэрыторыі Чэрвеньскага р-на.

Партызанская брыгада «Разгром» створана ў кастрычніку 1942 г. паводле рашэння міжраённага падпольнага камітэта КП(б)Б Мінскай зоны з асобных атрадаў «Разгром», «Камуніст», «Сцяг», «Іскра». Камандзіры брыгады П. Ц. Клявакін (да кастрычніка 1943 г.), М. Х. Балан (з кастрычніка 1943 г.), камісары С. І. Лашук (да чэрвеня 1943 г.), С. А. Собалеў (чэрвень — кастрычнік 1943 г.), А. В. Зямскоў (лістапад 1943 г.— студзень 1944 г.), І. В. Лакцыёнаў (студзень — ліпень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Чэрвеньскага, Барысаўскага, Смалявіцкага р-наў. Партызаны брыгады наносілі асноўныя ўдары па варожых камунікацыях, асабліва на ўчастках чыгункі і шашы Мінск — Барысаў, на шашы Беразіно — Мінск. На чыгуначных участках



3248. *Мемарыяльны комплекс «Разгром». Галоўны манумент.*



3248. *Мемарыяльны комплекс «Разгром». Блокі з надпісамі і зямлянка.*



3249. *Помнік у гонар падпольнага міжрайкома КП(б)Б Мінскай зоны і партызанскай брыгады «Разгром».*

Жодзіна — Пліса (19.9.1943 г.) і Смалявічы — Калодзішчы (20.6.1944 г.) узарвалі больш за 2 тыс. рэек. 21.10.1943 г. па чыгуначным участку Смалявічы — Пліса пусцілі пад адхон эшалон і пашкодзілі паравоз, 18 вагонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, спынілі рух паяздоў на 12 гадзін. 15.2.1943 г. партызаны вывелі са строю торфапрадпрыемства ў Смалявіцкім р-не. Разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Зарэчча, Пятровічы, Шыпяны (Смалявіцкі р-н), Грабёнка, Рудня (Чэрвеньскі р-н), Цешкаўка (Барысаўскі р-н) і інш. Народныя мсціўцы зрабілі больш за 280 крушэнняў на чыгунцы, разбурылі 115 мастоў, каля 4,2 тыс. метраў чыгуначнага палатна, падарвалі 88 аўтамашын, 29 танкаў, 7 бронемашын, 17 гармат, вялі баі з карнікамі, знішчылі некалькі тысяч гітлераўцаў.

2.7.1944 г. брыгада «Разгром» у складзе атрадаў «Разгром», «Іскра», «Сцяг», «Радзіма», імя А. В. Суворава, «Мсцівец» (усяго 1721 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

На месцы базіравання міжраённага падпольнага камітэта КП(б)Б Мінскай зоны, Чэрвеньскіх падпольных райкома КП(б)Б і райкома ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады «Разгром» у 1959 г. устаноўлены 2 блокі няправільнай формы з надпісамі-прысвячэннямі, адноўлена зямлянка. У 1982—84 гг. тут створаны мемарыяльны комплекс «Разгром». Галоўны манумент і дамінанта мемарыяла — піраміда з 6 бетонных сяміметровых аўтаматаў, якія сімвалізуюць 6 атрадаў, што ўваходзілі ў партызанскую брыгаду «Разгром». Адноўлены яшчэ 3 зямлянкі, зроблены сімвалічныя калодзеж, канавязь.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Зеленский В. В боях испытанные.— Мн., 1973; Сацункевич И. Л. Суровая быль.— 2 изд.— Мн., 1979; Дьяконов Г. Два года в тылу врага.— Мн., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*Г. І. Дулеба.*

**3249. ПОМНІК У ГОНАР ПАДПОЛЬНАГА МІЖРАЙКОМА КП(б)Б МІНСКАЙ ЗОНЫ І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «РАЗГРОМ»** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. У гонар падпольнага міжрайкома КП(б)Б Мінскай зоны і партызанскай брыгады «Разгром», якія ў Вялікую Айчынную вайну базіраваліся ў лесе каля в. Раваніцкая Слабада, у 1955 г. пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 3248 «Мемарыяльны комплекс «Разгром».



3251. *Касцёл Антонія. Галоўны фасад.*




3251. *Касцёл Антонія. План.*

**в. Раванічы, цэнтр сельсавета**

**3250. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 58 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай галавы воіна.

**3251. КАСЦЁЛ АНТОНІЯ** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі, каля дарогі. Пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы.

Невялікі прамавугольны ў плане будынак з прамавугольнай апсідай, да якой прымыкаюць з бакоў 2 сакрысціі. Галоўны фасад — чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам і спрошчанымі іанічнымі капітэлямі з разеткамі ў выглядзе кветак. Галоўны ўваход дэкарыраваны сандрыкам з франтончыкам і паўцыркульным акном, фланкіраваны арачнымі нішамі. Бакавыя і тыльны фасады члянёны пілястрамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. Інтэр'ер зальны. Падшыўная столь у выглядзе корабавага скляпення, на ёй захавалася паліхромная размалёўка на біблейскія тэмы. На сцяне — ілюзорная выява алтара. Над уваходам зроблены хоры з парапетам у выглядзе антаблемента.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*У. В. Алісейчык.*

**3252. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Сфарміраваны па працягу 2-й паловы 19 ст. Плошча 10 га. Складаецца з палаца, жылых і гаспадарчых пабудоў, размешчаных у парку. Цяпер тут лячэбная ўстанова, у паўднёвым флігелі дзіцячыя яслі.

Палац. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане сіметрычны будынак з развітым цокальным паверхам і двухпавярховай цэнтральнай часткай, якая на падоўжаных фасадах вылучана чатырох-



3252. *Палацава-паркавы комплекс. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — паўднёвы флігель; 3 — паўночны флігель; 4 і 5 — гаспадарчыя пабудовы; 6 — сажалкі.*

